





*Людзі Беларусі*
КНІГА III

**Рыгор Барадулін**

# Дзённікі і запісы

*Выпуск 8*

*1996–1997*

Смаленск
«Інбелкульт»
2020

## Ад укладальніка

*Чым адметныя былі для народнага паэта Беларусі гады 1996–1997, якія знайшлі свой адбітак у ягоных дзённіках? Не зменшылася напружанасць ягонай грамадскай дзейнасці. Ён удзельнічаў у соймах і з'ездзе БНФ, у працы ПЭН-цэнтра: у канферэнцыі «Улада і свабода слова» і канферэнцыі, прысвечанай 70-годдзю А. Адамовіча, Міжнародных форумах. З'яўляючыся чальцом Назіральнай рады Фонду Сораса ў Беларусі, двойчы пабываў у Будапешце па справах фонду. У маі 1996 г. паэт ездзіў у Германію, дзякуючы таварыству «Калі ласка — Willkommen». Пабачыў Музей Гутэнберга ў Франкфурце-на-Майне, Марбургскі і Гісенскі універсітэты, знакаміты Дом Лоты ў Вецлары, где нарадзілася задума будучага твора Гётэ «Пакуты маладога Вертэра», а таксама нямецкія вёсачкі і замкі.*

*Шмат паездак было і па роднай Беларусі. Некалькі разоў ездзіў у Віцебск на Пушкінскія святы і сустрэчы з чытачамі, у Полацк і Наваполацк, у Бачэйкава на свята «Ганчарны круг». Са здымачнай групай, з рэжысёрамі С. Пятроўскім і С. Паляковым выязджаў на здымкі па Вушаччыне, рыхтуючы матэрыял да дакументальнага фільма «Апошні човен», у Сычын, радзіму М. Стральцова. Быў зняты фільм і пра Рыгора Іванавіча «Евангелле ад Мамы». Часта наведваючы Ушачы, заўважыў: «Дзіўнае, нават дзівоснае гэта адчуванне радзімы. Колькі ні жыву ў Менску, а душа басанож ходзіць там, каля Вечалля, каля Ваўчэнскага возера. І думкі там жа».*

*Шмат часу і сіл паэта займала перакладчыцкая праца. Паэт перастварыў п'есы «Карлік Нос» В. Хауфа, «Кошчын дом» С. Маршака, «Шчаслівыя жабракі» К. Гоцы для ТЮГа і «Тайбеле і яе дэман» І. Зінгера для віцебскага тэатра імя Я. Коласа. Ён пераклаў балады і санеты Я. Баршчэўскага, вершы Э. Гільвіка, Э. Дзікінсан, Ван Вэя, Г. Чарказяна, Н. Вылчэва. Часам з вялікай насалодай, часам жалячыся самому сабе: «Мазалі на мазгах... ад працы на галерах перакладу. Праца ледзь не рэзідэнцкая — мала хто будзе ведаць. І няўдзячная ў нашых умовах. Гэта болей для сябе, для душы, для гімнастыкі радка». З вялікай цікавасцю ён рэдагаваў том «Выбраных твораў» В. Ластоўскага па запрашэнню «Беларускага кнігазбору». Шчыльна працаваў з кампазітарам Э. Зарыцкім, які пісаў музыку на ягоныя вершы.*

*У лістападзе 1996 г. Рыгора Іванавіча звольнілі з працы. Нарасталі праблемы ў кнігавыдавецкай справе, падалі тыражы, шалелі цэны. І з'явіўся са-*

*мадакор, ці так шчыра рупіліся яны, беларусы, у савецкія часы, баронячы родную культуру? «Можна апраўдвацца, што трымалі беларускасць хоць у такіх умовах, але гэта слабое апраўданне». Але ягоны душэўны настрой горшае больш ад таго, што адбываецца ў грамадстве, здаецца, што краіна яшчэ не стала дастаткова самастойнай і таму родная мова пад пагрозай знікнення. «Вуха не чуе роднай мовы, душа не чуе беларускае душы. Чужы сярод чужых ці сярод ачужэлых».*

*Роспачы яму дадае сыход Марыі Рыгораўны Трафімавай, не толькі амаль апошняй родзічкі, але і шчодрай крыніцы роднага вушацкага слова, сакавітай народнай песні. Навальваюцца неадчэпныя думкі пра надыход старасці і смерці. «Адчуванне нейкае пустэчы й дарэмнасці пражытага і зробленага», трывога за будучыню ўнучкі, хаця саграе душу радасць яе існавання. «Адно што грэе, што цешыць, што змушае жыць і рабіць нешта, — гэта анёлак мой, мая часцінка Дамінічка. Як гэта мудра й недаступна задумаў Усявышні: прывязаць нас да жыцця... Дамінічка — гэта й ёсць той залаты калочак, якім навязаны я, конь стары, на жыццёвым папары». Глыбее цёплае шчырае сяброўства з Васілём Быкавым, да якога ставіцца з вялікай пашанай, пра каго трывожыцца і па меры сіл клапоціцца.*

*І кожную хвіліну паэт застаецца паэтам. Час вымагае ствараць не толькі едкія сатырычныя радкі на злабадзённыя тэмы, якія сам, не баючыся, назваў «дурнотамі», але і лірычныя, роздумныя «ясачкі». І самае важкае, чалавек веруючы, паэт адважваецца перастварыць паэтычнай мовай малітвы, якія склалі цыкл «Ружанец», а следам распачынае незвычайнай паэтычнай моцы цыкл вершаў «Псальмы Давідавы». Да працы на біблейскія тэмы ён ставіцца гранічна сур’ёзна і чуйна прыслухоўваецца да парад і заўваг частага суразмоўцы, знанага перакладчыка, у тым ліку Бібліі на беларускую мову, Васіля Сёмухі. І не выпадкова, заглыбляючыся ў гэтую духапад’ёмную тэму, разважае: «Хітра даецца жыццё. Не сваё яно, і не ты над ім гаспадар. Дае Усявышні, і распараджаецца Ён».*

*Творчы набытак паэта гэтых гадоў — зборнік выбраных вершаў «Слаўлю чысты абрус» (выдавецтва «Беларусь», 1996), 1-шы том Збора твораў («Мастацкая літаратура», 1996), неардынарны зборнік вясёлых ушацкіх прыпамінаў, прасмішак, прыбабунек і папевак пад трапнай назвай «Здубавецьця» (ТАА «Паліфакт», 1996), а таксама кніга для дзетак «Ішоў коця па канапе» («Полымя», 1997). Але сабраны і падрыхтаваны ім для выдавецтва «Полымя» зборнік вершаў беларускіх паэтаў, прысвечаных Радзіме, «О Беларусь, мая шыпшына», з плана быў зняты.*

*У маі 1997 года Рыгор Барадулін быў узнагароджаны ордэнам Трох зорак Латвійскай Рэспублікі. Але сам Паэт дакараў і вінаваціў сябе: «... чым бліжэй да таго, пра што не хочацца казаць, тым большае адчуванне, што так і не напісаў свайго галоўнага, што круцілася ў галаве, тоўхала пад сэрца. Усё збіраўся, падсту-*

*паўся. Зірк — а часу няма. Ён чакаў, чакаў цябе, падказваў, напамінаў — і пайшоў ад цябе».*

*У восьмы том (выпуск), часткова ўвайшлі вершы і прысвячэнні, якія не друкаваліся ў зборніках (не менш 120-ці), а тыя, што засталіся па-за томам, пазначаны назвай, першым радком і пазнакай «у дзённіку». Несупадзенне назваў вершаў у тэксце дзённіка і ў зносках — не памылкі, а «перайменаванні» самога аўтара.*

*Наступны том чакае свайго часу.*

Наталля ДАВЫДЗЕНКА

## 1996

*1 студзеня, панядзелак*

Меней і меней званкоў з чаканымі галасамі. Пад вечар выйшаў пахадзіць. Цені ад голых дрэваў на халодным снезе халодныя. Ці гэта цені адтуль, куды пайшлі ўсе самыя блізкія. Можа, просяцца сагрэць іх. Хоць памяццю пра іх.

*Не мне*

Не патухнеш, колькі ні старэй,
Жаль і жар
Згадаць пажар гатовы.
І яны згасаць не хочуць,
Словы:
Буду слухаць кожны крык дзвярэй…
Веры я даю сваёй мане,
Што прыняць гатовы долю мніха.
Гэта я крычу,
А дзверы ціха,
Ціха адчыняюцца не мне…

«Крык дзвярэй» [другі варыянт верша з выдзеленымі літарамі імя Тэрэза[1]; у дзённіку].

*2 студзеня, аўторак*

Хадзіў да свайго ведзьмара Пётры[2]. Ён едзе на колькі гадоў на працу па сваёй спецыяльнасці ў Палангу. Там яму спрыяе адзін з сыноў нашага адраджэнца Станкевіча. Калі прыязджаў у Менск, дзівіўся, як мала чуў беларускага слова. Пётра ў сярэдзіне лютага будзе. Мне дужа палепшала пасля ягонага лекавання.

*Гульня ў пальцы*

Уцёкшы з лёгкай рукавічкі,
У ноч калядную ўцякае

---

[1] Голуб Тэрэза (Тэрэса) Станіславаўна (н. 1951), беларускі літаратуразнавец. У 1993–1997 гг. нам. дырэктара па навуцы Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Кандыдат філалагічных навук (2001). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя М. Гарэцкага (1992).

[2] Кухарскі Пётр Станіслававіч (1958–2013), былы вайсковец; урач-тэрапеўт і фітатэрапеўт. У 1995–1999 гг. жыў і працаваў у Літве.

Твая рука.
Ці не з капліčкі
Пяць свечак цягнуцца да гаю,
Каб там згубіцца беластвола.
А я, трымаючы ў палоне
Пяць пальчыкаў,
Студжу вясёла
Ў хаўрусе з сіверам сутонне.

У завірухі цьмеюць крыллі.
У белых пчолаў зябнуць джальцы.
Яшчэ ў антычнасці любілі
Упоцемку гуляць у пальцы.

* Дамініка[1] [6 год]: «Зайчыку трэба пашыць ухутку (ухутвацъ)».

*3 студзеня, серада*

Па дарозе на працу пісаў: «З пуцёўкаю: Каб дзеці бацьку выбіралі самі...» [у дзённіку]. Бегаў яшчэ з кніжкай «Здубавецьця»[2]. У метро сустрэў Шушкевіча[3]. Аптыміст. Званю пасля Васілю[4]. Ён і кажа: «Аблегчаны аптымізм робіць яго фальшывай фігурай. Я ж некалі, калі быў ён пры ўладзе, папярэджваў наконт камуністаў, дык ён быў упэўнены, што яны ўжо не ўскрэснуць. І вынік».

На працу заходзіўся N. [...]. Хваліўся новымі цёплымі на футры чаравікамі. Выходзіць з рэдакцыі, а я вазьмі дый ляпні: «У такіх не будзе зябка на пастаменце стаяць». Адразу ж пакрыўдзіўся. Я папраўіўся, што я меў на ўвазе яго жывога, бо класік. [...]. Наогул, адыходзяць маманты савецкай класікі. Фігуры камічныя, трагічныя, кручаныя й упартыя. Адны нічога не хацелі й не зрабілі, іншым нешта свярбела ў ср.цы, але баяліся, бо страх быў канкрэтны. Так і адбылі сваю рату ў жыцці, якое любілі пышна, бо пустое, называць літаратурным. Гэта ж цікава, наколькі я стары й старым сябе адчуваю, што на даўнім шаржы Васіля яшчэ з Гародні дасланым, не мог зразумець, чаму лічбы 26. Гэта мне тады было 26. Тады...

[1] Кліміна Дамініка Канстанцінаўна (н. 1989), унучка.

[2] Барадулін Р. Здубавецьця. Мінск: ТАА «Паліфакт», 1996.

[3] Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч (н. 1934), беларускі фізік; дзяржаўны дзеяч. Доктар фізіка-матэматычных навук (1970). Член-карэспандэнт НАНБ (1991). Прафесар (1972). У 1991–1994 гг. старшыня ВС РБ. Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[4] Быкаў Васіль Уладзіміравіч (1924–2003), беларускі пісьменнік, палітычны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1978), Ленінскай прэміі (1986).

*4 студзеня, чацвер*

З раніцы на пошту па пенсію. Хоць яе рэгулярна яшчэ даюць. Бо пра слёзы, якія завуцца зарплатай, і казаць не даводзіцца. Хадзіў у ашчадкасу. На тэлефонную картку налічана. Як з рака наедку. Драньку[1] аддаў адказ на ягонае па-маладому хамскае пытанне (хоць хлопчыку, як у нас казалі, пад ср.ку — за 40). Ён ад маладых яшчэ атрымае сваё. Бо маладзейшыя болей самаўпэўненыя за яго. Самазакаханцы маладыя старэйшых самазакаханцаў на дух не пераносяць.

*Марац*

Яшчэ сцяжынка не страсе —
Ад лап вароніных арнамент,
А кот марцовы на страсе
Юрліва муркае: «Парр-ла-мент...»

Па дарозе дамоў у трамваі калыхаў гэтую «дурноту». Між іншым, падумаў, што не замянілі [...] савецкую назву *Вярхоўны савет* на еўрапейскую — *Парламент*. Чытаю па тэлефоне Васілю, і ён мне тое самае кажа. Крыўджуся Васілю, што не магу бычыць [...] бальшавіцкага сцяга й герба [...]. Васіль суцяшае. «Горай было б, каб пры ўладзе чырвона-[...] ганьбаваліся нашыя святыя сымбалі. Якая ўлада, такія й сцяг і герб». Загаварылі пра БНФ[2]. Васіль напомніў, што хрысціянская ідэя якраз трымаецца на паразе, а не на трыумфе. «Хрыста ўкрыжавалі, і гэта ягоная перамога. Ідэя Адраджэння яшчэ ажыве. І тое, што зрабіў БНФ, прыдасца нашчадкам». Васіль: «Бог водзіць рукой лёсу. Але ўсё не ў нашую карысць. А можа, так і трэба...» Васіль сам — вялікапакутнік за Беларусь, за беларускую нацыю, якую вякамі нішчылі суседзі мацнейшыя то з усходу, то з захаду, а сатанінская сіла ў канкрэцізне бальшавікоў дабіла.

*5 студзеня, пятніца*

З дзяўчатамі мы з Сёмухам[3] трохі адзначылі Каляды. У «ЛіМе» Ніл[4] крыўдзіцца, што яго не ўзялі ў ААН, беспартыйных дэмакратаў Адамові-

---

[1] Дранько-Майсюк Леанід Васільевіч (н. 1957), беларускі паэт, празаік. 1982–2002 гг. ст. рэдактар, заг. рэдакцыі паэзіі, паэзіі і прозы, актуальнай літаратуры выд-ва «Мастацкая літаратура».

[2] Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» (БНФ) — грамадскі рух (з 1988).

[3] Сёмуха Васіль Сяргеевіч (1936–2019), беларускі перакладчык. У 1972–1996 гг. ст. рэдактар рэдакцыі перакладаў выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1992).

[4] Гілевіч Ніл Сымонавіч (1931–2016), беларускі паэт, фальклрарыст, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1963). Прафесар (1978). У 1989–1997 гг. старшыня ТБМ. Народны паэт БССР (1991). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980), Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева (1986).

ча[1] й Барадуліна паслалі. І ў партыю ён ўступаў, выходзіць, каб рухаць беларускую літаратуру. Гэта быццам адказы на пытанні маладых. А хутчэй за ўсё сам напісаў пытанні й сам — адказы. Як заўсягды самалюбіма. Дый той, хто падрыхтаваў як быццам, падпісаны псеўданімам Чэмер. Просіцца Нілок, каб узялі бальшавікі прэзідэнта. Баіцца, што забудуць. Генадзь[2] — Меншыкаў у Бярозаўцы[3] — таксама мітынгуе, што 10 гадоў не выдаваў кніжак, а цяпер яго не заўважаюць. [Лукашэнка[4]] да сябе не бярэ. Праўда, сказаў, што мае за што жыць. Гэтулькі гадоў у Штатах дарма не прайшлі.

Сёння памёр Чыгрынаў[5]. Пухам зямелька. Каларытная фігура была. Розных Пташнікавых[6] і Сіпачкоў[7] на фунт сушоных трэба шмат, каб нешта было падобнае на Чыгрынава. Камуніст, дужа шмат працаваў, шмат урваў, хапаў. Адчуваў сваю канчыну. Любы чалавек падсвядома адчувае свой кон і скон.

Званю Васілю, распавядаю пра сваю першую сустрэчу з Іванам Каляснікам[8], калі прыехаў здаваць экзамены ў універсітэт. Васіль прыгадвае… У шостым класе недзе перачытаў усю бібліятэку — і Салтыкава-Шчадрына[9], і Горкага[10]. А ў Чамярычыне ў сябрука быў куфар з дарэвалюцыйнымі

---

1 Адамовіч Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; (1927–1994), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык, выкладчык, грамадскі дзеяч. Доктар філалагічных навук (1963). Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Лаўрэат прэміі Міністэрства абароны СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1976).

2 Бураўкін Генадзь Мікалаевіч (1936–2014), беларускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст. У 1995–2001 гг. супрацоўнік час. «Вожык». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980).

3 Назва вядомай карціны В. Сурыкава «Меншыкаў ў Бярозаве» (1883), якая сталася іранічнай хадзячай назвай. *Меншыкаў* Аляксандр Данілавіч (1673–1729), паплечнік расійскага імператара Пятра І, святлейшы князь (1707), генералісімус (1727). Трапіў у апалу ў час праўлення Пятра ІІ і быў сасланы ў Бярозаў (каля Цюмені).

4 Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч (н. 1954), беларускі дзяржаўны дзеяч. Прэзідэнт РБ (з 1994).

5 Чыгрынаў Іван Гаўрылавіч (1934–1996), беларускі празаік. Народны пісьменнік РБ (1994). У 1987–1996 гг. старшыня Беларускага фонду культуры, адначасова ў 1989–1996 гг. гал. рэдактар час. «Спадчына». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1974), Літаратурнай прэміі імя А. Фадзеева (1979).

6 Пташнікаў Іван Мікалаевіч (1932–2016), беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1978).

7 Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч; 1936–2011), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1993–1997 гг. заг. рэдакцыі выд-ва «Беларуская Энцыклапедыя». Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

8 Калеснік Іван Іванавіч (1932–1979), беларускі паэт, перакладчык.

9 Салтыкоў-Шчадрын Міхаіл Яўграфавіч (1826–1889), рускі пісьменнік.

10 Горкі Максім (сапр. Пешкаў Аляксей Максімавіч; 1868–1936), рускі пісьменнік, крытык, грамадскі дзеяч.

кнігамі. Васіль дужа любіў чытаць Жуль Верна[1]. Узяў старую кніжку «Из пушки на Луну» і зрабіў пераклад на беларускую мову (гэта недзе ў 36–37 гадах) дый паслаў у «Піянер Беларусі»[2]. Атрымаў адказ ад Міколы Лупсякова[3]: «Навошта перакладаць на беларускую, калі ёсць на расійскай мове». Тады Васілю здавалася, што Мікола Лупсякоў, калі дае адказы, недзе ў рангу Коласа[4], Броўкі[5], Глебкі[6]. І як быў расчараваны пасля вайны, калі прачытаў ягоныя нейкія апавяданні й дачуўся, што Лупсякоў шмат п'е. Такое ж было і маё расчараванне, калі Іван Калеснік праваліў першы ж экзамен. Дарэчы, Навумчык[7] распавядаў, што пры вырашэнні вострых пытанняў ў Вярхсавеце Ніл адразу нёс сябе ў туалет, каб не галасаваць. «Бывала...: Як Вярхсавет няўтульнае пытанне...» [у дзённіку].

Наогул, бальшавікі ведалі, што нішчаць, каго нішчыць, каб не было моцна акрэсленай нацыі, трэба вынішчыць інтэлігенцыю і сялянства як апору зямлі, крыніцу жывой вады мовы нацыі. На гэтае мейсца паставіць (ад слова *пастаўкі рабіць*) нейкі сурагат цёмных, сляпых крыкуноў, якім рэкамендаваць звацца інтэлігенцыяй. Абавязкова запоўніць гэтую масу инородцами. І тады на свет белы, як пацукі з цемры, лезуць яроменкі[8], савіцкія[9], скобелевы[10]. А сялянаў замяніць савецкімі прыгоннымі — калгаснікамі. Ім толькі пайку ды да пайкі яшчэ «чарніла». Не пісаць. А піць. І ўсё ў парадку.

---

[1] Верн Жуль (1828–1905), французскі пісьменнік.

[2] «Піянер Беларусі» — газ. для дзяцей школьнага ўзросту (1929–1993; з 1994 г. «Раніца»).

[3] Лупсякоў Мікола (Мікалай Радзівонавіч; 1919–1972), беларускі пісьменнік, перакладчык.

[4] Колас (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882–1956), беларускі пісьменнік. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1944).

[5] Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905–1980), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Народны паэт БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1966). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947, 1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Ленінскай прэміі (1962), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[6] Глебка Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1905–1969), беларускі паэт, нарысіст, крытык, публіцыст. Акадэмік АН БССР (1957).

[7] Навумчык Сяргей Іосіфавіч (н. 1961), беларускі журналіст і палітычны дзеяч. З 1996 г. жыве ў Празе. Лаўрэат Літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2006).

[8] Яроменка Мікалай Мікалаевіч (1926–2000), беларускі акцёр. Народны артыст БССР (1964). Народны артыст СССР (1989). З 1959 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[9] Савіцкі Міхаіл Андрэевіч (1922–2010), беларускі мастак. Народны мастак БССР (1972). Народны мастак СССР (1978). Акадэмік НАНБ (1995). Герой Беларусі (2006). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1973), Дзяржаўнай прэміі СССР і Расійскай Федэрацыі (1970, 1980, 1996).

[10] Скобелеў Эдуард Марцінавіч (1935–2017), беларускі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры РБ (1996). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

*6 студзеня, субота*

[Малюнкі.] Дамініка мне малявала й подпісы рабіла. З раніцы хадзіў купляць бульбу на маленькі базарчык у канцы трамвая. Дагэтуль нязвычна мне, што трэба купляць бульбу. Бо вырас на сваёй, са свайго гароду. Рабілі Каляды. Дамініцы дужа падабаліся свечкі. Проста ўглядалася ў іхнія вочы вачаняткамі сваімі. А яшчэ бенгальскія агні. Ілона[1] недзе загуляла. Не прыйшла. Прыходзіў Косця[2]. Хоць чужы ён мне, але пакуль ён гуляў з Дамінічкай, і яна гоніцца за ім, неяк пацяплеў да яго душой. Дамінічцы ж трэба бацька. Абавязкова.

*7 студзеня, нядзеля*

Святыя Каляды! На вуліцы ўпершыню за гэтулькі гадоў сапраўдны мароз і натуральны снег. Сустрэча дома традыцыйная — […], Ілона не прыйшла. Быў Косця. Пайшоў да Палякова[3]. Прыехаў з пахавання маці з Вільні. Ларына ягоная [жонка] дзівам вырвалася з Масквы 31-га. Баялася, што адзін будзе Самсон у кватэры, а маці ягоная ў халадзільніку. У людзей захаваліся чулыя адносіны, клопат пра настрой. […]. «Калядны верш»[4]. Ратуюся вершамі. Толькі круцячы жорны слова, забываюся на ўсе крыўды, на ўсе мітрэнгі. Кручу, а раптам будзе мука, з якой каравай удачы спячэцца…

* Дамініка: «Ты ж мяне хацела звадзіць у кінатэатр «Пенсіянер», — (пераблытала з «Партызанам»). [Хутчэй, з «Піянерам».]

*8 студзеня, панядзелак*

Хадзіў на працу. Ціха. Як перад канчынай усёй беларускай справы, беларускай кнігі. З раніцы перапалох. У Дамінічкі забалеў жываток. Валя[5] […] выклікала «хуткую». Вэрхал. Прыйшоў дамой. […]. Дамінічкі няма. Мне аж цёмна уваччу стала. Выходзіць, Косця з ёй пайшоў.

* * *

Хто кожнаму наслаў ягоны лёс,
На мітусню звысоку пазірае.
Бо ведае, калі зямля сырая
Суцешыць беспрытульніка нябёс.

---

[1] Барадуліна Ілона Рыгораўна (1962–2019, Тэль-Авіў), дачка; мастачка.

[2] Клімін Канстанцін Васільевіч (н. 1960), муж Ілоны Барадулінай.

[3] Палякоў Самсон Германавіч (1938–2012, Ізраіль), беларускі журналіст, кінасцэнарыст. Гал. рэдактар студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм». Лаўрэат Літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (1995). З 2002 г. жыў у Ізраілі.

[4] Гл.: Калядны верш (7.01.96) // Ксты. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены. 2005. С. 252.

[5] Барадуліна Валянціна Міхайлаўна (н. 1939), жонка.

Касец часовы рупіцца пра ўкос,
Хаця самога ўжо каса чакае.
І галава бяседніка цяжкая
На стол кладзецца, як на дрогкі воз.

За ўсімі ўслед бясследна цень ступае.
Датуль жывеш, пакуль твой цень жыве.
На дрэве крык смалою замаўкае,
Галосіць боль расою на траве.
Змяя з сваёй кашулі выпаўзае,
Як рух рукі, што спала ў рукаве[1].

Ратуюся вершамі. Адчуваю, што самаспальваюся. Усіх адно чакае.

*9 студзеня, аўторак*

З раніцы пайшоў у саюз. Гэтулькі снегаачышчальнікаў і не бачыў ніколі. Чысцяць вакол, снег беляць. Павінен [Лукашэнка] прыехаць на паніхіду па Чыгрынаву. Развітаўся да пачатку й пайшоў. Народ валіць валам. Не да нябожчыка, а каб на вачах у [Лукашэнкі] быць. […]. Іду ў выдавецтва, бяжыць Дранько. Туды ж. Учора вечарам казаў, што дома рамонт, не пойдзе. Сёння даведаўся, што [Лукашэнка] будзе, і ён пабег. Ствараецца рынак быццам інтэлігенцыі. Купляй, [Лукашэнка], не дорага!

Потым да Васіля. Занёс яму свайго «Аратая…»[2]. Васіль: «Інтэлігенцыя цяпер, як у лагеры. Будзем старацца, да пайкі яшчэ сто грамаў дабавяць». Пра кінарэжысёраў: «Аўтар, як дзяўчына, не ён выбірае рэжысёра, а яго рэжысёр выбірае». Кажа, што даношвае сваё адзенне, Ірына [жонка] таксама. Усё йдзе на ежу. З Ірынай ён пазнаёміўся яшчэ ў 48-м годзе, калі яна прыехала на практыку ў газету. Потым Васіль быў на Сахаліне. А Ірына, як ведала, прыехала па ўніверсітэце ў Гародню працаваць. Так лёс зводзіў іх. Яна як кнігаўка над Васілём.

«Сябры ў прыцішаным чаўне…»[3]

Учора Хлебавец[4] распавяла, што недзе ў пятніцу ўвечары зніклі з вестыбюля (у самым версе пры ўваходзе) […] сцягі і герб. Шукалі. Я выходжу, гляджу, ці ёсць яны. І ў шкляной вартоўні заварушыліся. Адзін адстаўнічок выскачыў, але я ўслых паслаў яго канкрэтна па расійскім адрасе, адскочыў.

У паветры разліта стукачоўства. Нюхаюць. Слухаюць. […].

---

[1] Першы варыянт; гл.: «Глядзі, каб цень цябе не перарос…» (13.01.96) Ксты. С. 262.

[2] Барадулін Р. Аратай, які пасвіць аблокі. Мінск, 1995.

[3] Гл.: Сцюдзёна (9.01.96) // Босая зорка. Мінск, 2001. С. 83.

[4] Хлебавец Валянціна Мікалаеўна (н. 1951), у 1973–2002 гг. карэктар, мал. рэдактар, рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

*10 студзеня, серада*

Лятучка. Выдавецтва ў яме [...]. У пастанове калегіі мінкультуры дагаўкаліся да таго, што выдавецтва мусіць выпускаць кнігі за кошт сваіх рэзерваў. Якіх? У нас на зарплату няма.

Васіль мне ўчора даў чытаць новую аповесць. Званю, што пачаў чытаць, Васіль і кажа: «Франтавая аповесць без прэтэнзій на эпахалку». А снег сёння, як з маленства. Белы. Пульхны. Светлы. Ні праехаць, ні прайсці. Каб ачысцілі вуліцы, трэба, каб [Лукашэнка] прыехаў на пахаванне камуніста, заступніка сербаў. Жвыу, як у бяздарнай камэдыі. [...].

Дранько даў мне пытанне для дыялогу. Чаму не перакладаў Апалінэра[1]. Люблю гэтага паэта, ведаю са студэнцтва. Ды ён мне халаднаваташарнірны. Не хапае яму вар’яцінкі, якая мяне зачароўвае ў іншых паэтах. Апалінэр болей пасуе Лявону. Шматавата холаду, рамяства, як акторы кажуць — ігры з халодным носам.

*Вакх*

Ад беласнежжа ў белым свеце
Бела.
Раіцца снег,
Бруіцца снег на волі.
І дрэваў перазяблая капэла
Трымае лёгка цішыню ў прыполе.

Узважваць снег
Хапае працы бровам.
На момант знерухомей
Ад пашаны —
І станеш Вакхам
Беламармуровым,
Які з антычнасці ўцякае п’яны...

*11 студзеня, чацвер*

Званіла Алена Стральцова[2]. Пра Міхася[3] брудненька ў местачковай газетцы пад рэдактарствам Палзотыча[4] напісаў Аўруцін[5] «К Мише в ЛТП».

---

[1] Апалінер Гіём (сапр. Кастравіцкі Вільгельм Апалінарый; 1880–1918), французскі паэт.

[2] Стральцова Алена Дзмітрыеўна (н. 1945), жонка М. Стральцова. У 1996–2012 гг. жыла і працавала ў ЗША.

[3] Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч; 1937–1987), беларускі паэт, празаік, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1988, пасмяротна).

[4] Якубовіч Павел Ізотавіч (н. 1946), беларускі журналіст. У 1995–2018 гг. гал. рэдактар газ. «Советская Белоруссия».

[5] Аўруцін Анатолій Юр’евіч (н. 1948), рускі паэт, перакладчык, крытык. У 1990-х гг. супрацоўнік і рэдактар літаратурных часопісаў і газет. Лаўрэат усерасійскай прэміі імя

Леся[1], дачушка Міхасёва, адшукала адрас местачкоўца, прыйшла да яго з запытаннем: «Я вам нікога не нагадваю? Бо кажуць, я дужа падобная». Аўруцін адказаў, што нікога. Тады яна сказала, як ён здзекваўся над Міхасём, просячы ўладзіць ягоныя вершыкі некуды. Аўруцінава рэпліка наконт бацькі вывела Лесю з сябе, і яна дала яму поўху й пайшла. Мая б дачушка й пальцам не павяла ў падобнай сітуацыі. Яшчэ болей стаў я паважаць Лесю — бацькава дачушка.

Вечарам адным глыкам прачытаў новую дзівосную аповесць Васіля «Права кахаць». Невераемна, як перададзена маладое пачуццё, маладое адчуванне свету. Як быццам юнаком выдыхнута. А гэта ж напісана Майстрам, якога не стаміла сусветнае прызнанне. Пра ўсіх смершаўцаў[2], палітработнікаў, камандзіраў сказана па-быкаўску ашчадна, але забойча прысудна. Без пафаснай злосці, але з такой высокай гідлівасцю, што таўром кладзецца на ўвесь гэты прасавецкі зброд, гэтую гайню, якая пастаралася. І яшчэ цяпер стараецца. Пра цнатлівасць і чысціню пачуццяў аж казаць страшна, каб няўрокам словам не збянтэжыць. Наогул, Васілёвы рэчы чытаю, як быццам п'ю святую ваду з нашых святых крыніцаў. Сёння ў метро напісаў «дурноту». Васілю падабаўся выраз *нэрвовая інтэлігенцыя*.

*Усё паўтараецца*

Каго фігурысткі чаруюць
Сцягенцамі,
Каму свярбіць зноў
Вышукваць ворага.
І прадаецца
Нэрвовая інтэлігенцыя.
Пакуль што ў розніцу.
І не дорага!

*12 студзеня, пятніца*

Сумная вестка. Не стала выдатнага беларускага актора Авяр'янава[3]. Кажуць, забілі. Пачынаюць патроху прыбіраць нацыянальныя кадры. [...]. Званіў Васілю. Казаў, што сам перакладае аповесць. А гісторыя яго-

---

Б. Карнілава (2012), Нацыянальнай літаратурнай прэміі Беларусі (2016), Міжнароднай літаратурнай прэміі імя І. Анненскага (2017) і інш.

[1] Стральцова Алеся Міхайлаўна (н. 1975), студэнтка прадзюсерскага факультэта Інстытута сучасных ведаў імя А. Шырокава.

[2] СМЕРШ — асобыя аддзелы ў войсках Галоўнага ўпраўлення контразведкі (ГУКР), больш вядомыя пад назвай «Смерть шпионам» (1943–1945).

[3] Авяр'янаў Юрый Іванавіч (1952–1996), беларускі акцёр, рэжысёр радыётэлеспектаклей. Працаваў у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы.

ных самаперакладаў такая. Вінаградаў[1] у «Новом мире» катэгарычна заявіў: «Чтобы этого проходимца больше не было, этого Горбачева[2]». Наш зямлячок, таксама Міхаіл. Па пасадзе ў СП СССР займаўся перакладамі. Трэба друкаваць «Праклятую вышыню». Вырашылі так. Аўтар зробіць парадкоўнік, а перакладчыкам будзе Дудзінцаў[3]. Тут Твардоўскі[4] засумняваўся: аўтар апальны, перакладчык апальны дый рэдактар часопіса не ў фаворы ў цыкуноў. Хай лепей аўтар папрацуе над парадкоўнікам. І справа пайшла. Прэтэнзій да аўтара не было, дапамагалі, дый аўтар, ён жа й перакладчык, быў пад рукой. Напісаў «Абеліск». Курынёў[5] папрасіў даць нешта перакласці ягонай Галі. Давялося перапісваць. З перакладам Вал. Тараса[6] пераканаўся, што немагчыма. Перакладчык прывязаны да аўтарскага тэксту. Трымаецца як сляпы за плот. Ні сказа, ні паўсказа змяніць не можа. Аўтару лягчэй і смялей усё мяняць. Часта задаюць бязглуздыя пытанні: «Почему Вы не пишете по-русски?» Замежнікі пытаюцца: «Вы рускі ці беларускі пісьменнік?» Васіль: «Мне беларуская мова родная. Як бы ні тужаліся перабежчыкі, калі іх родная мова беларуская ці іншая, яны асуджаны на гібенне». Гаварылі з Васілём наконт так званай адэскай мовы. Калі было гэтакае засілле яўрэеў, што пісалі на адэскай мове, нявечачы расійскую, дык міжволі ўзнікала рэакцыя на гэта з боку кандовых русакоў. Бо бурылася мова. Камуністы ў справу разбурэння нацый, у справу знішчэння нацыянальных моваў унеслі вялізны ўклад.

Інтуітыўна пісаўся верш, перш чым я пачуў навіну ад Сёмухі, што Авяр’янава адпяваюць, але нешта зблыталі ў часе. [...]. «Кожны носіць ў сабе труну» [у дзённіку].

Вечарам пайшоў да Палякова. Пасядзець, пагаварыць у забытай у маёй хаце менскай атмасферы спакою й зычлівасці. Самсон перадаў лекі ад астмы Васілю. Сабака звычайна збягае з дому й шукае траву, якая яго ўратуе. Мне некуды ўцякаць, недзе шукаць траву, якая дасць мне душэўны спакой, уратуе мяне цішынёю й лагодай. Здаецца, мяне гоніць нейкая гайня, а мне няма рады. Ні беларускага дома ў сэнсе Вялікай Беларусі, ні звычайнай ціхай дамоўкі. Хіба ў перспектыве — ціхая дамавіна.

---

[1] Вінаградаў Ігар Іванавіч (1930–2015), рускі крытык, літаратуразнавец, журналіст. Член рэдкалегіі час. «Новый мир» (1965–1970).

[2] Гарбачоў Міхаіл Васільевіч (1921–1981), рускі празаік, перакладчык.

[3] Дудзінцаў Уладзімір Дзмітрыевіч (1918–1998), рускі пісьменнік.

[4] Твардоўскі Аляксандр Трыфанавіч (1910–1971), рускі паэт, празаік, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1946, 1947, 1971), Ленінскай прэміі (1961).

[5] Куранёў Грыгорый Самойлавіч (1921–1985), рускі паэт, перакладчык.

[6] Тарас Валянцін Яфімавіч (1930–2009), беларускі і рускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст.

*13 студзеня, субота*

Сойм БНФ. Добра выступілі Зянон[1], Баршчэўскі[2]. Перад пачаткам Васілю ўручылі ордэн украінскага «Руху» з нагоды паўвекавога заканчэння Сусветнай вайны 39–45 гг. Годны й густоўны Крыж. Васіль пасля выступіў. Праблема нацыяналізму, праблема нацыі. Беларусы як заўсягды праспалі свой зорны час. Без мовы няма дзяржавы, без дзяржавы няма мовы. Тэрмін *нацыяналізм* быў апаганены гітлераўцамі. Цікава слухаць прамоўцаў, вельмі слушныя выкладкі былі эканамічныя. Але ўсё ўпіраецца ў грошы. Камуністы ведалі, як нарабаваць грошы, як іх пасля пусціць у ход і прырост, калі часова перад канчатковай пагібеллю пайшлі на дно. Зноў яны выязджаюць на белым кані, якога падкулі грашыма.

Прыйшла вечарам Ілона. Прынесла мне брэлок з ягуарам. Бацька й шчаслівы. Пачаў шукаць аддарункі.

Мне цікава, што слава ўчэпіста трымае сваіх улюбёнцаў. Вайну Васіль пачынаў на Украіне. З Украіны [...] прыйшла добрая вясціна. Слава й гісторыя — суперніцы, якія ў душы не любяць адна адну, але церпяць для прыліку.

* Іду на сойм БНФ. [Дамініка:] «А што гэта значыць?» — «Буду там Быкава бачыць». — «Сапраўднага?»

*14 студзеня, нядзеля*

Стары Новы год! Дзень добры. Будзь да ўсіх добрых людзей добры. Не мог устаць. Дужа блага ўсяму. Ці не фініта ля бела віта. Прыходзіла Ілона з Косцем. Вадзілі Дамінічку гуляць. Адсядзеў дома. Лашчыў Мірона — адзіную ласкавую душу, якая мне зла не робіць. Званіў Васілю. Рэжысёру «Чорных лядаў»[3] у «Свободных новостях»[4] задаюць пытанне пра ягоную службу ў КГБ. Спакойна задаюць, спакойна адказвае. Гэта не выпадковае пытанне [...]. Заахвочваць нэрвованяўстойлівых: хадзіце, не будзеце каяцца, не забудзем. Адначасова ўскосна падкрэсліваюць, што й ля крыштальна чыстага Васіля КГБ свае кадры размясціла. Усё пад кантролем. Не саромеюцца.

---

[1] Пазьняк Зянон Станіслававіч (н. 1944), беларускі археолаг, мастацтвазнавец, публіцыст, паэт, грамадска-палітычны дзеяч. Кандыдат мастацтвазнаўства (1981). У 1976–1996 гг. навук. супрацоўнік Інстытута гісторыі НАНБ. Заснавальнік і старшыня БНФ «Адраджэньне» (1988–1999). З 1996 г. у эміграцыі (Польшча, ЗША).

[2] Баршчэўскі Лявон (Леанід Пятровіч; н. 1958), беларускі перакладчык, літаратуразнавец, выкладчык. Кандыдат філалагічных навук (1989). З 1991 г. нам. дырэктара Беларускага гуманітарнага ліцэя. У 1996–1999 гг. старшыня БНФ.

[3] Панамароў Валерый Дзмітрыевіч (н. 1943), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст.

[4] «Свободные новости» — незалежная інфармацыйна-аналітычная газ. (з 1991). У 1994–1997 гг. — пад назвай «Свободные новости плюс».

*15 студзеня, панядзелак*

Званю Васілю. Чытаю яму «дурноту», што ўчора ўночы напісаў. Усміхаецца, чую па тэлефоне, і кажа: «Назаві “Лісты і пісьмы”».

*Лісты і пісьмы*

У вокнах дрыжаць
Не ад страху шыбіны.
Не можа рохкаць
Парсюк абсмалены.
Пісаў Каліноўскі[1]
Лісты з-пад шыбельні,
Нашчадкі —
Пісьмы вялікаму Сталіну[2].

Васіль сказаў, што чытаў маё эсэ пра Караткевіча[3] й пашкадаваў, што я мала раблю ў прозе. А трэба — паэзія, проза, драматургія, а пасля — у оперу падавацца. У Васіля быў добры настрой. Васіль заўважыў, што камуна-губісты працуюць і на ўзроўні наборшчыка. Часцінку *не* выкінуць, і ўжо сэнс не той. Чытаў мне з газеты Аскоцкага[4], ягоны артыкул. *Не* няма, і сэнс іншы. Ледзь не лёгкае ўшчуванне Гітлера[5] атрымалася, замест абурэння.

Распавёў Васілю сучасную навэлу, як абразок Бядулеў[6] пра пяць лыжак заціркі. Галя[7] наша казала. У нас не плоцяць. Галін Вова на заводзе «Ударнік» паўмесяца на працу не хадзіў. У панядзелак ранічкай Галя праводзіла мужа ў сподзеве, што нарэшце будзе працаваць. А сама збіраецца ў выдавецтва да без 15 дзевяць, а Воўку свайго а шостай праводзіла. Толькі яна адыходзіць, нехта ў дзверы ключом шкрабецца. Аж спалохалася, хто. Аж гэта Воўка. Завод зноў не працуе. Ён з парога крычыць: «Віталік, ідзі атрымлівай стыпендыю, бо няма грошай!»

[1] Каліноўскі Кастусь (Вікенцій Канстанцін Сямёнавіч; 1838–1864), лідар беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, публіцыст, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі і Літве. Пакараны царскімі ўладамі.

[2] Сталін Іосіф Вісарыёнавіч (сапр. Джугашвілі; 1879–1953), адзін з кіраўнікоў Камуністычнай партыі СССР і Савецкай дзяржавы.

[3] Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930–1984), беларускі паэт, празаік, драматург, нарысіст, публіцыст, крытык, кінасцэнарыст. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1983), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1984, пасмяротна).

[4] Аскоцкі Валянцін Дзмітрыевіч (1931–2010), рускі крытык, літаратуразнавец, публіцыст. Кандыдат філалагічных навук (1968).

[5] Гітлер Адольф (сапр. Шыкльгрубер; 1899–1945), фашысцкі дыктатар Германіі (1933–1945), нацысцкі ваенны злачынец.

[6] Бядуля Змітрок (сапр. Паўнік Самуіл Яфімавіч; 1886–1941), беларускі пісьменнік.

[7] Роліч Галіна Васільеўна (н. 1948), мал. рэдактар, рэдактар, ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура» (1972–2002).

Наркевіч[1] са «Звязды» пазваніў, каб напісаў колькі радкоў Сіпачку [Сіпакову]. Яны праспалі. А Бораньказу[2] сябручку сёння 60.

*16 студзеня, аўторак*

Паседжанне ФС[3]. А перад гэтым прыходзілі хлопцы, каб дапамог ім захаваць відэатэхніку. Шмат гвалту. А камсамола-[...] Лябедзька[4] яшчэ з такім жа ўзялі 36 тыс. даляраў для арганізацыі Клуба маладых палітыкаў. Частку грошы пусцілі на кузню кадраў [...] камсамола. А рэшту, відаць, на выбарчую кампанію. Бо прайшлі. [...].

Учора вечарам заходзіў Мацievіч[5], геніяльна-п'яны. Глыбінна беларускі мастак. Бяссрэбранік, мройнік. Практычныя калегі, вядома, скапыцяць яго на жыццёвых дарогах. І пылу не пакінуць. Гэта рэліктавыя адзінкі, асобіны, як рэштка ад тога натуральна беларускага пласта, вынішчанага бальшавікамі й з'саветазаванага. Без такіх сумна.

*17 студзеня, серада*

На лятучцы яшчэ раз пераканаліся, што мы на самым дне глыбознай ямы, якую выкапалі ўсе антыбеларускія цемрашалы [...]. Няма заказаў. Няма грошай. Нацыянальную кніжную справу мусіць падтрымліваць дзяржава. А ў нас калі й ёсць назоў дзяржава, дык сутнасць прарасійскасавецкая, з камуна[...] накірункам.

* Кажу: «Мірон бандзюга». Дамініка: «Які ж бандзюга? У яго ж пісталета няма».

*18 студзеня, чацвер*

Камуна[...] так і не далі нашай мове развіцца. Пад указку Масквы. Вынішчылі ахавальнікаў нашае мовы — сялянства, знішчылі філалагічна-гістарычную інтэлігенцыю, якая з нябыту вяртала мову й гісторыю. Цэлыя пласты мовы прафесій зніклі, тым самым абсекліся карані. Па нашых слоўніках прайшліся алоўкі русіфікатарскіх цэнзараў, каб зрабіць іх як на пасмешышча калькаванымі. Гісторыю апаганілі, архівы вынішчылі ці вывезлі ў лагво вялікадзяржаўнасці. [...]. У арміі замест ранейшага: «Служу Савецкаму Саюзу!» ў нас па-гашакаўскаму гучыць: «Служу

---

1 Наркевіч Уладзімір Браніслававіч, беларускі журналіст. У 1989–2011 гг. рэдактар газ. «Звязда».

2 Сачанка Барыс Іванавіч (1936–1995), беларускі празаік, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1982), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1991).

3 Фонд Сораса — міжнародная дабрачынная арганізацыя, заснаваная фінансістам і філантропам Джорджам Сорасам (н. 1930; ЗША, Вялікабрытанія).

4 Лябедзька Анатоль Уладзіміравіч (н. 1961), беларускі гісторык, юрыст, партыйны дзеяч. У 1995–2000 гг. нам. старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

5 Мацievіч Алег Мікалаевіч (1949–2016), беларускі мастак.

Беларусі і прэзідэнту!» […]. Званіў Васілю. Бураўкін крыўдзіўся яму, што яго забываюць, доўга выдавалі зборнік. Усё жыве як член ЦК. Каб за яго яшчэ й вершы хто пісаў. Васіль аддаў у «Полымя» сваю аповесць. Памяняў назву: «Пакахай мяне, салдацік». У яго ў памяці гэты першы радок песні жыве, а далей не памятае. Рэканструяваў яму так: «Пакахай мяне, салдацік, Буду вернай жонкаю. А забудзеш — толькі разам З роднаю старонкаю». Здаецца, прыняў як варыянт.

Успомнілася. У школе ў нас вучыўся Жогаль. Ці не другі гэта назоў Жыжаля. У нас на сухія трэскі, маленькія аскялёпкі дроваў кажуць не падпал, а паджога.

*19 студзеня, пятніца*

Званю Васілю, кажу, што загаловак, як цяпер любяць называць, кантактны дый час перадае. Васіль: «Цяпер бы трэба было: «Пакахай мяне, амонавец».

Адзначалі 60 Сёмуху ў іхняй рэдакцыі. Адны дзяўчаты. Сумная весялосць. Пад канец хоць Баршчэўскі Лявон быў. Васіль Сёмуха з ягонай казлінасцю аж пачужэў мне. Але ў мяне сваіх мух поўна. Толькі ў маладыя гады сябры ўсе беззаганныя, светлыя, неўміручыя. На схіле ўсё чарней, сумней, імгненней. Сам да сябе не можаш прывыкнуць, а сам якраз — гэта той апошні сябра, з якім дажываць трэба. «Ідуць праклёны не на лес сухі…»[1]

*Васілю Сёмуху*

Ясная Паляна Льву Талстому[2].
Ясенец рупліўцу Васілю
Надалі вагу любому тому,
Вышыню лаўроваму галлю.
Колькі ясных беларускіх раніц
Прывіталі мовай крывічоў
Гётэ[3], Рыльке[4], Шылер[5],
Ніцшэ[6], Райніс[7]
З гжэчнасцю палескіх панічоў.

---

[1] Гл.: Глухія пастухі (19.01.96) // Босая зорка. С. 68.
[2] Талстой Леў Мікалаевіч (1828–1910), рускі празаік, драматург, публіцыст, крытык.
[3] Гётэ Іаган Вольфганг (1749–1832), нямецкі пісьменнік, мысліцель, прыродазнавец.
[4] Рыльке Райнер Марыя (1875–1926), аўстрыйскі пісьменнік, перакладчык.
[5] Шылер Іаган Крыстоф Фрыдрых (1759–1805), нямецкі паэт, драматург, тэарэтык мастацтва.
[6] Ніцшэ Фрыдрых (1844–1900), нямецкі філосаф.
[7] Райніс Ян (сапр. Пліекшанс Яніс; 1865–1929), латышскі паэт, грамадскі дзеяч. Народны паэт ЛатвССР (1940).

Мовай маці Біблію святую
Нам спадар Васіль перачытаў.
Сто гадоў хай творчы дух віруе,
Хай мітрэнгі меней,
Болей спраў!

*17 студзеня*

*20 студзеня, субота*

Хадзіў хлеба. Купіў Дамінічцы кашульку хлапечую й чырвоныя калготкі. Будзе як буслянятка. Увесь дзень перакладаў «Кошчын дом»[1]. Характар дурны. Не магу адмовіцца, калі просяць. Часу няма, здароўя таксама, а рабіць адной левай не магу, пакуль магу. Дый правая ўжо такі прытамілася. І пераклады Маршака, і дзіцячыя рэчы — настылае шкло, запацелае ад старання. Няродная яна ўсё-ткі яму — расійская мова. Да кніжнасці правільная, а таму сумная да аскомы.

* Дамініка: «Нахінулася да Мірона, а ён укусіў за губу — прабіў білет».

*21 студзеня, нядзеля*

Закончыў нарэшце «Кошчын дом». Узяўся за пераклад «Карліка Носа»[2]. Выпускніца нешта напісала. Фраза правальваецца, як нага на топкай балацявіне. Думаў-думаў і пачаў там-сям райком рабіць. Пасвяжэла. Аж самому захацелася перакладаць далей.

«Босая сцежка да храма…»[3] І думкі мае, і душа апошнім часам да Бога й да мамы горнецца. Адзінею.

*22 студзеня, панядзелак*

На працу. Па дарозе ў ФС. Па дарозе (толькі тут мяне не дастаюць тэлефоннымі званкамі, якія па мне звоняць) пісаў песні ката, кацянят, застольную для «Кошчынага дома». Прыходзіў хлопец з тэле. У Беларусі 5 працэнтаў беларусаў на адказных пасадах розных узроўняў, у Мінску 7. Дый гэтыя, можа, у большыне пашпартныя беларусы. А рэшта — варагі. Чаго мы тады хочам? «Скажы: У качкі качаняты…» [у дзённіку].

---

[1] П'еса С. Маршака. *Маршак* Самуіл Якаўлевіч (1887–1964), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1942, 1946, 1949, 1951), Ленінскай прэміі (1963).

[2] Казка В. Хауфа. Хауф (Гауф) Вільгельм (1802–1827), нямецкі пісьменнік.

[3] Гл.: Толькі (21.01.96) // Ксты. С. 279. Па першаму радку гл.: // Anima. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2011. С. 123.

*23 студзеня, аўторак*

У «Бацькаўшчыне» спадарыня Сурмач[1] давала інструктаж разам з Шаблоўскай наконт паездкі ў Прагу. Здаецца, мы з Васілём уліплі. Як бедныя сваякі там будзем. Васіль быў патрэбны для прынады. Савецкія людзі, як гадзіннікі з доўгай спружынай, заведзенай надоўга. Гэта ж трэба дзве гадзіны мак таўчы. І на гэта трэба было выклікаць Васіля. Хоць Пятро Ісаевіч[2] вечарам падняў настрой анекдотам пра хлеб, Сару й курку.

*24 студзеня, серада*

Займаўся рознай лухтой — пісаў куплеты й арыі парасятам, кошцы, кату для «Кошчынага дома». Дзякуй Ларысе[3], хоць перадрук на ёй. Пісаў адказ Лявону ў нашым дыялогу, ці дыягутарцы.

*25 студзеня, чацвер*

Зборы перад паездкай. У ФС. Думаў наконт розных верлібраў. Гэта для тых, каму родная мова чужая або стаміліся. Мова чужая завучаная, у душы не гучаць сугуччы. Не думаю, што афрыканцы рыфмуюць на ангельскай ці французскай мовах. Наогул, усе развагі пра кастрыраваную паэзію йдуць, вядома, ад ratio, але не халоднага, а сцюдзёнага. Падчас бліжэйшага да сцюдзеню. Людзі маюць веды, і ім прыемна пагуляць у крыжаванкі. Абстрактны жывапіс знаходзіць прымяненне ў вытворчасці, у дызайне. А вось так званая абстрактная паэзія пакуль не мае рыначнага попыту.

* Кажу Дамініцы: «Абуй валёнкі, яны на гуме». — «Дзедзя, не на гуме, а ў ГУМе». Пытаюся: «Чаму неба ружовае?» — «Гэта не малюнак, а песня такая».

*26 студзеня, пятніца*

*Budapest*. Ледзь устаў. Прастуджаны. Але мусіў збірацца ў дарогу. Званю Васілю. Перадай, кажа прывітанне Дунаю. Двойчы прыходзілася яго пераходзіць. Бо немцы пагналі назад, і Васіль па крышталёвым лёдзе параненны йшоў. Гэта недзе ў раёне Бая. У Менску мытня амаль як пры чырвонай імперыі. [Лукашэнка] закручвае спружыну. Доўга кружлялі над Венай. Аэрапорт шыкоўны, але ноч і нічога акрамя таго, што ў будынку, не відаць.

---

[1] Сурмач Ганна Іванаўна (н. 1947), беларускі гісторык, грамадскі дзеяч. У 1993–1999 гг. старшыня рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». З 1999 г. у Празе, пазней у ЗША.

[2] Ліфшыц П. І., урач-стаматолаг.

[3] Горцава Ларыса Мікалаеўна (н. 1942), беларуская актрыса. З 1963 г. у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача (ТЮГе). Заслужаная артыстка РБ (1997). Жонка А. Вольскага.

З Вены ўжо не «Боінгам», а венгерскай лініяй. Самалёт як у імперыі на ВПК[1] зроблены. Доўга не мог ўзляцець, жартаваў спадару Алесю[2], што нага слабая, можа адваліцца. І нарэшце Budapest! Доўга нас вёз minibus па заснежаных вулачках, амаль як у Полацку. І мы ў гатэлі The Central European. Па-венгерску ўжо самая поўнач. У самалёце гутарыў з Алесем. Не зусім магу пагадзіцца, што паганства й хрысціянства як арыфметыка й геаметрыя, што не створанаму Тварцом, а Тварцу трэба пакланяцца. Хрысціянства нейкім чынам як урбанізацыя, як прагрэс усё-ткі адрывае ад зямлі, зноў жа тварэнне Тварца. Галоўнае, каб Бога з душы не прагнаць сваімі ўчынкамі й нават подумкамі. Бог жыве ў кожным тварэнні сваім, у тварыне кожнае. Але такая звышінтэлектуальная фронда, як Алесь, Беларусі трэба. Каб сцвердзіцца і ў свеце інтэлекту.

*27 студзеня, субота*

Budapest. Схадзілі з Алесем трошкі па крамах. Усё дарага, нават даражэй, чымся ў нас. Гэта тычыцца рознага ноства, а харч не глядзелі. Алесь купіў віно. Тут яно таннае. Ну, я не купляў. Потым экскурсія па горадзе. Пазаўчора выпаў паўметровы снег. Машыны-дварняжкі, як мядзведзі ў заснежаных бярлогах. Дунай у снежным мроіве. Ці блакітны, ці не, можна дазнацца, як ускрыецца. Але да гэтага чакаць не магу. Перадаў прывітанне ад Васіля зімоваму Дунаю. Як у казачным сне будынак парламента. Псэўдаготыка, як востраколыя крыжыны. А потым каля нацыянальнага музея стоды каралёў. Кажу Алесю, што ў нас мала можна паставіць. Алесь усміхаецца: спазніліся беларусы на прыватызацыю каралёў і помнікаў. Літоўцы не спалі. З цытадэлі відзён увесь горад. Засыпаны снегам, як Пампеі. Нерэальная рэальнасць. Кавярня «Новы Ёрк». Старажытныя скляпенні. На сценах шаржы на артыстаў, паэтаў. У Куксо[3] таленавіцейшыя. Новы ўзровень міжсуседскіх зносінаў. Маладыя літоўцы й латышы між сабою на сваіх мовах, а адзін да іншага па-ангельску. Добра, што не па-расійску. Уваходзяць у Эўропу, у свет на роўных. Бо маладыя. А ў нас Алесяў раз-два — і няма.

*28 студзеня, нядзеля*

Budapest. Гнілое, адліжнае эўранадвор'е. Нейкая шэрасць, якая перадаецца й душы. На такія мерапрыемствы трэба ездзіць маладому, ведаючы мовы. А ўвогуле, усе канферэнцыі, кангрэсы, форумы толькі рознай-

---

[1] ВПК — Ваенна-прамысловы комплекс.

[2] Анціпенка Аляксандр Ільіч (н. 1953), беларускі філосаф. Кандыдат філасофскіх навук (1986). Каардынатар праграм Фонду Сораса.

[3] Куксо Канстанцін Мікітавіч (н. 1954), беларускі мастак-карыкатурыст, кніжны графік. Жыве ў Маскве.

менныя, а па сутнасці халодныя гаварыльні, балбаторыі. Гэта не стара-даўнія й яшчэ зусім недаўнія беларускія бяседы. Budapest — горад нейкі азадкавы, бургерскі. Адпачывае пасля грунтоўнага абеду.

*29 студзеня, панядзелак*

Budapest. Канферэнцыя па пытаннях падтрымкі выдавецкай дзейнасці. Усе адносна малыя дзяржавы ў кепскай сітуацыі. Наступ вялікадзяржаўных моваў не меншае. Правільна сказала з Англіі лэдзі, што не справа выдаўцоў займацца распаўсюджваннем сваіх кніг. Кнігагандляры — прафесія тонкая. Мусіць быць прыроджаны дар. Усе на добры лад лёгка мовяць на ангельскай мове. Як падумаў — а ў нас? Самі мы сябе ў балота гонім. Без ангельскай мовы няма ходу ў свеце. А нас, як коней, прывязалі да аднаго слупа расійскай азіятчыны. У кроў загналі вірус русіфікацыі. Перахварэем. Але доўга ж хварэць давядзецца! Можа, ідэя новай літаратуры й зазелянее. А бадай што эўрапейскую ў глыбінным сэнсе дагнаць не ўдасца. А будзе мадэрн, абуты хай не ў лапці (у Алеся й дубаўцоў[1] пагарда да вёскі, якая, як тая крынічанька, бачце, засурылася), дык у барлёчах, пашытых на капыл эўрапейскага sale, лягчэй за ўсё нашываць ярлык савецкі, а мы не такія. У прыклад Алесь ставіць Уладзю Арлова[2]. Здольны, але ў жаданні паўсюль паспець ухапіць раскідаўся. Можа, сучасным літаратарам гэта норма — гнацца за капейчынай. Жывы, вядома, павінен дбаць, каб жыць. Дый гэтыя так званыя маладыя ва ўзросе, калі класікі даўно ў трунах сны вечнасці снілі. Проста трэба сцвердзіцца, звярнуць на сябе ўвагу. Што натуральна. Бо паэты й дзяўчаты аднае натуры — хочуць падабацца.

Засядалі. Лубянка паўсюдна працуе. Каардынатарша з Масквы, з ёй на морду й паставу партайгеносэ й абавазковы яўрэй пры антысеміце. Робяць так і агітуюць, каб выдаваць кнігі, якія ў іх будуць браць, плаціце, Кыргыстан, Казахстан. Падлабуньваліся да Украіны.Тыя малайцы. Наш Алесь — граніт. Дарэчы, украінцы «Санту-Барабару»[3] пераклалі па-ўкраінску й даюць 5 разоў на тыдзень. І іншыя такога ж плану фільмы. Там жа не Кісялі[4], якія […] на вусах не абсохлі. Сядзім на паседжанні. Лёгкавік з прычэпам вязе новыя сабачыя будкі. Здалёку, як вуллі, толькі з вялікімі лёткамі.

---

[1] Дубавец Сяргей Іванавіч (н. 1959), беларускі журналіст, пісьменнік, крытык. У 1991–2000 гг. гал. рэдактар газ. «Наша ніва» (выдавалася ў Літве ў 1991–1996 гг.).

[2] Арлоў Уладзімір Аляксеевіч (н. 1953), беларускі паэт, празаік, перакладчык, гісторык. У 1988–1997 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), прэміі Е. Гедройца (2018).

[3] У Расіі папулярны амерыканскі серыял (2137 серый) ішоў у 1984–1993 гг.

[4] Кісель Рыгор Леанідавіч (н. 1955), беларускі журналіст. У 1994–2000 гг. кіраўнік Нацыянальнай радыётэлекампаніі РБ. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (2004).

Хадзіў па вуліцы. За вітрынай ордэны й медалі саўімперыі. Вось табе «а на груди яго светилась медаль за город Будапешт»[1]. Вечарам фуршэт у доме тутэйшай куратаршы, ці каардынатаршы, Фрэнсіс Пінтэр. У пакоі мяне расчуліла [швейная] машынка Zinger. З нажным прыводам. У мамы была ручная. Цяпер яна тут стаіць у пані Фрэнсіс як цёплы антыкварыят. Падышла да мяне, запыталася, чым займаюся. Алесь растлумчыў, што выдавецтва хутка ляснецца. Пытаецца ў мяне, што рабіцьму, адказаў — буду глядзець у неба. Усміхнулася сумна. Адно парадавала сёння. Падышлі двое беларусаў, якія вучацца ў CEU па стыпендыях Сораса. Маладыя, прыгожыя, адукаваныя. Дыхнулі паветра Эўропы. Хочуць і далей вучыцца за мяжой. Адзін юрыст, другі па Сярэднявеччу. Трэба ў Вену ў архівы. Пра Беларусь. Абодва выдатна гавораць па-беларуску. Нам бы такіх з тысячу. Усё б хутчэй сунуліся ў Эўропу не геаграфічную (бо мы й так эўрапейцы), а ў духоўную Эўропу.

*30 студзеня, аўторак*

Budapest — *Viena*. Похапкам з Алесем у краму. Алесь нешта купляў. Я нічога. Тое самае другаснае інтэрбарахло, толькі даражэйшае, чымся ў нас. Потым доўга сядзелі ў Вене. Самалёт затрымаўся. Вядома, што ад «Белавіі» нічога талковага чакаць няма чаго. Глядзеў на абслугу ў аэрапорце. Аўстрыякі вонкава нейкія мякчэйшыя, чымся немцы. Уплыў суседзяў. Глядзіш, і крыўда бярэ. Нармальныя людзі едуць, ідуць. Натуральныя ўсмешкі, адкрытыя твары. Адчуваюць смак жыцця з усімі пры′смакамі. Зайшлі нашыя пілоты. Абтаптаныя, абцопканыя, нямытыя. Здаецца, вадаправодчыкі вылезлі з падзем’я, дзе прарвала каналізацыю. Глядзець сорамна. І гэта яны Беларусь паказваюць на канкрэтных тварах. На вакзале паветраным у Вене пісаў «дурноту»: «Імпарт»[2]. Пераробляў у Вене ў памяці й «Накід: Урэшце рэшт адыходзіць…» [у дзённіку]. І яшчэ правіў верш: «У небе над Венай: Збіраючыся ў дарогу…» [у дзённіку]. Званіў Радзіку[3]. Ён чалавек тонкага густу. Умее слухаць паэзію й разумее. Рэдкі, забыты ў наш час дар.

*31 студзеня, серада*

Апошні дзень студзеня. Студзень, дзякуй яму, вытрымаў лепшыя традыцыі — было й снегу, і марозу. Гэта, можа, пасля дзесяці гадоў па

---

[1] Радок з песні «Враги сожгли родную хату» на сл. М. Ісакоўскага, муз. М. Блантэра. *Ісакоўскі* Міхаіл Васільевіч (1900–1973), рускі паэт. Герой Сацыялістычнай Працы (1970). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1943, 1949). *Блантэр* Матвей Ісаакавіч (1903–1990), расійскі кампазітар. Народны артыст СССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946).

[2] Гл.: Імпарт (30.01.96) // Ксты. С. 293.

[3] Лапушын Радзіслаў Яфімавіч (н. 1960), рускі паэт, літаратуразнавец. У 1990–1998 гг. выкладчык філфака БДУ. Доктар філалогіі (2006). З 1998 г. жыве ў ЗША.

Чарнобылю нашая родная прырода трохі ачуняла. Людзі дык не. Чарнобыль косіць і так выкашаных беларусаў, расійскімі вялікадзяржаўнікамі выкашаных і камунад'яблямі. Радыё й тэлебачанне разлягаецца, што [Лукашэнка] прыняў [...] пісьменніка Шамякіна[1]. [...]. Што цяпер будуць казаць нармальныя людзі й думаць пра белпісьменнікаў. [...]. Васіль з гэтай прычыны: «Усе званні народны, заслужаны — гэта мала, во званне — прэзідэнцкі пісьменнік». А па тэле паказалі, як Законнікаў[2] цалаваў Шамякіна [...]. Бураўкін [...] і той палез у абдымкі — засвяціцца на тэлеэкране, нагадаць пра сябе: купіце, не прагадаеце, нядорага.

* Дамініка: «Вароны на галінках, як на арэлях».

*1 лютага, чацвер*

Дзень добры, мой месяц. Я люблю цябе. Не будзь са мною суровы. Хай у цябе адляжа ад сэрца, бывай і з адлегаю! Тут яшчэ падзея. Ніл, як сказаў Васіль, заняўся шоў-бізнесам. Вечар за вечарам, каб не забыліся. Адзін такі з нагоды 50-годдзя творчай дзейнасці, ці, дакладней, імітацыі рыфмавання.

*Рычаг і апора*

Самаўслава для творцы —
Рычаг і апора.
Каб узняцца
Ў сваіх жа вачах на вяршок,
Адзначаецца свята
Дня першага твора,
Тая дата,
Калі сеў паэт на гаршчок.

[...] Геначку Пашкова[3] [...] [Лукашэнка] указам назначыў галоўным Энцыклапедыі. Нацыянал[...] Барыса [Сачанку] давялі да труны. Гэты пра беларускасць і не заўгаўкнецца.

---

[1] Шамякін Іван Пятровіч (1921–2004), беларускі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1972). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

[2] Законнікаў Сяргей Іванавіч (н. 1946), беларускі паэт. У 1986–2002 гг. гал. рэдактар час. «Полымя». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

[3] Пашкоў Генадзь Пятровіч (н. 1948), беларускі паэт, публіцыст, журналіст. У 1996–2008 гг. гал. рэдактар, дырэктар выд-ва «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі». Заслужаны дзеяч культуры РБ (2013). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

*2 лютага, пятніца*

Занёс у «ЛіМ» ліст Алены Стральцовай супроць Аўруціна й іншых, што дужа ўпіраюць на п'янку Міхася. Па-свойму Алена мае рацыю. Можа, Гіль[1] і дасць. Званіў Зянон, дзякаваў за прадмову, хоць яшчэ й не чытаў яе, прасіў закінуць слова за Маркевіча, каб у Гародні ён узначаліў аддзяленне ФС. [...].Ілонка можа зрабіць выставу ў Музеі літаратуры [...]. Па дарозе на працу й у цырульні седзячы, пісаў «дурноты». Лявон Дранько мне яшчэ адно пытанне даў у нашу гамонку. Дужа хацеў арыгінальна, аж туманна стала.

«У трох: Міністрам быць...», «Непадкупны: Сораму не купіш ягамосцю...», «Не зварыць: Паэт у адчаі на ўсё гатоў...» [у дзённіку].

Званіў Васілю, відаць, паездка ў Прагу Васіля дужа не ў нос [...] наменклатуры, якая кіруе ўсім, у тым ліку й «Бацькаўшчынай», а Сурмач — фіранка. «Ніколі: У кватэрах, ў якіх я калісьці жыў...» [у дзённіку].

*3 лютага, субота*

З раніцы з Ілонай снедалі салам і гарбатай. Ездзіў да Пятра Ісаевіча. Перакладаў «Карлік Нос». Шкада Дамінічку. Як мяч футбольны, пачынаюць яе ганяць ад адных дзядоў да другіх. [...]. Загналі мяне ў казіны рог сямейнічкі.

*4 лютага, нядзеля*

Да Палякова. Глядзелі касэту. Гэта ў Вушачы здымалі Рублеўскі[2], Шмерлінг[3]. Добрыя кадры з Марыяй Рыгораўнай[4] і Дамінічкай. І галоўны герой актор — Мірон. З раніцы, слухаючы новую песню на словы Ніла, пісаў «дурноту» «Яшчэ: Хапае сваіх...» [у дзённіку]. Усё-ткі грубавата. Лепей так: «Хапае: Хапае сваіх...» [у дзённіку].

*5 лютага, панядзелак*

Паседжанне ФС. Камуна[...] ўхапілі самыя вялікія кавалкі. Такія як Міхайлаў[5] з ягоным ЕГУ, дзе, да прыкладу, багаслоўе выкладае дужа зга-

---

[1] Гіль Мікола (сапр. Гілевіч Мікалай Сымонавіч; н. 1936), беларускі празаік, перакладчык. У 1990–1996 гг. гал. рэдактар газ. «Літаратура і мастацтва». Брат Н. Гілевіча.

[2] Рублеўскі Сяргей Васільевіч (н. 1954), беларускі празаік, паэт. У 1990–2008 гг. гал. рэдактар віцебскай абласной газеты «Народнае слова».

[3] Шмерлінг Міхаіл Маркавіч (н. 1946), беларускі фотамастак.

[4] Трафімава Марыя Рыгораўна (1902–1997), стрыечная сястра па бацьку.

[5] Міхайлаў Анатоль Арсеньевіч (н. 1939), беларускі філосаф. Доктар філасофскіх навук (1986), акадэмік НАНБ (1991). Прафесар (1988). З 1992 г. рэктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта.

ворлівая паэтка Турбіна[1]. Яшчэ наступ вядзе Масква праз асаднікаў сваіх. Беларускі ФС як філіял расійскага. Усё па-расійску. Каб хоць які лісток па-беларуску. Не! Адказваў на 13-е пытанне Лявону для «Крыніцы»[2]. Яшчэ як паглядзіць Разанаў[3], [...]. Учора Генадзь адзначаў выхад кнігі. Я зрабіў усё, каб мяне не застаў. І па стану здароўя, і па душэўнаму стану не хачу гэтых седжанняў.

*Сам сябе*

Сабака лечыць сам сябе —
Шукае травы, а найболей
Ён лечыцца — нарэшце! — воляй.
Прыемна вецер поўсць скубе.

А белы свет сышоўся клінам,
Журлівым клінам жураўліным,
У смелай волі п'яны дух.
Адно ашыйнік напамінам
Пра костку, будку ды ланцуг...

*6 лютага, аўторак*

Хавалі Алеся Звонака[4]. Не дажыў год да 90. Ён аднаго дня з Міхасём Стральцовым — 14 лютага. Адпяваў праваслаўны святар са світы [...] Філарэта[5]. Казаў па-расійску, цытуючы Цвятаеву[6]. Звонак нарадзіўся ў межах Расійскай імперыі й памёр фактычна ў абцугах гэных межаў. Не маглі ўжо святара беларускага знайсці. Хай бы для Чыгрынавых яны, расійцы, былі. А пасля пачаў выступаць [...] Грахоўскі[7]. Болей вытрымаць не мог — пайшоў. Толькі грэху набярэшся, бо камедыя па савецкім сцэнары яшчэ будзе доўга ставіцца з жывымі і з мёртвымі.

---

[1] Турбіна Любоў Мікалаеўна (н. 1942), руская паэтэса, перакладчыца. У 1984–2000 гг. навук. супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ. Кандыдат біялагічных навук (1971). З 2001 гг. жыве ў Маскве.

[2] «Крыніца» — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны час. (1988–2003).

[3] Разанаў Алесь (Аляксандр Сцяпанавіч; н. 1947), беларускі паэт, перакладчык. У 1994–1999 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Крыніца». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы (1990).

[4] Звонак Алесь (сапр. Пётр Барысавіч; 1907–1996), беларускі паэт, крытык, драматург, перакладчык. Быў рэпрэсаваны.

[5] Філарэт (свец. Вахрамееў Кірыл Варфаламеевіч; н. 1935), праваслаўны царкоўны дзеяч РБ. У 1992–2013 гг. мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, свяшчэннаархімандрыт Успенскай Жыровіцкай абіцелі. Герой Беларусі (2006).

[6] Цвятаева Марына Іванаўна (1892–1941), руская паэтэса.

[7] Грахоўскі Сяргей Іванавіч (1913–2002), беларускі паэт, празаік. Быў рэпрэсаваны. Заслужаны работнік культуры БССР (1983). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ імя Я. Коласа (1992).

*7 лютага, серада*

Хварэю. П'ю жменямі лекі, а вынікі слабыя. Ці ўзрост, ці надвор'е, асабліва палітычнае, настройваюць на мінор. Адчуванне немінучасці й безвыходнасці. Спакайней пачынаеш глядзець на труну. Вось у ёй яшчэ чалавек дакладна спакойны. Ні мітусні, ні клопату — вонкавых адзнакаў жыцця. Калі існуе гадзіннік вечнасці ў нашым людскім уяўленні пра яго, дык, відаць, няма такога самага дробнага дзялення, якім бы на цыферблаце існасці можна было пазначыць чалавечае жыццё. Імгненне й тое не вызначыць. Занадта маленькае, пылінковае ў часе зямное чалавечае жыццё.

*8 лютага, чацвер*

Лявон казаў, а яму нехта з двух загадкавых журналістаў паведаміў. Толькі двое й былі на сустрэчы [Лукашэнкі] з паслом Чэхіі. Калі пасол Чэхіі сказаў, што на Дні беларускай культуры паедуць Быкаў і Барадулін [...]. Накінуўся на міністра замсправаў спадара Сянько[1]: «Як дапусціў, чаму не ўзгадніў? Гэтыя двое такога нагавораць!» Да гонару Сянько, ён не пачаў ліць на нас памыі, а, наадварот, сказаў добрыя словы. [...]. А ў гэты час [...] Лукша[2] хваліўся Андраюку[3], што пілі з [Лукашэнкам] на нейкім прыёме. Лукша, Ханок[4], Ярмоленка[5]. [...]. «Вера і злосць: Свет ратуе не прыгажосць...» [у дзённіку].

*9 лютага, пятніца*

Хадзіў на радыё. Чакаў у чарзе нейкія грошы. Са мной стаяў добры хлопец з Лепельшчыны. Міхно[6]. Піша прозу. Жыве ў вёсцы ў матчынай хаце. Карэспандэнт па Віцебшчыне ад «Настаўніцкай [газеты]»[7] і «Чырвонай змены»[8]. Чарнявы, чысты. Крыўдзіўся, што віцебскую гаворку ча-

---

[1] Сянько Уладзімір Ляонавіч (н. 1946), дзяржаўны дзеяч, дыпламат. У 1994–1997 гг. міністр замежных спраў, у 1997–2004 гг. Надзвычайны і Паўнамоцны пасол РБ у Францыі, па сумяшчальніцтву ў Іспаніі і Партугаліі.

[2] Лукша Валянцін Антонавіч (1937–2012), беларускі паэт, драматург. У 1980–1998 гг. дырэктар выд-ва «Юнацтва». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя П. Броўкі (1994), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[3] Андраюк Серафім Антонавіч (н. 1933), беларускі крытык і літаратуразнавец. Дырэктар (1993–1996), гал. рэдактар (1996–1998) выд-ва «Мастацкая літаратура». Кандыдат філалагічных навук (1966).

[4] Ханок Эдуард Сямёнавіч (н. 1940), беларускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1982). Народны артыст РБ (1996). Заслужаны дзеяч культуры Аўтаномнай Рэспублікі Крым (Украіна; 2001).

[5] Ярмоленка Анатоль Іванавіч (н. 1947), беларускі эстрадны спявак. Народны атрыст РБ (1993). Заслужаны дзеяч культуры Аўтаномнай Рэспублікі Крым (Украіна; 2000). Саліст і кіраўнік ансамбля «Сябры (з 1981).

[6] Міхно Уладзімір Фёдаравіч (н. 1964), беларускі журналіст, празаік, публіцыст.

[7] «Настаўніцкая газета» (з 1945).

[8] «Чырвоная змена» — маладзёжная газета (з 1921).

ста называюць трасянкай. Кажа, што ў сваёй хаце й дзіркі грэюць. Праўда, баіцца, што хата быццам заклятая. Але жыве, бо матчына. Цяжка друкавацца, нічога не плоцяць. Але піша. На тым і трымаемся!

*10 лютага, субота*

[Малюнак.] Гэта Дамінічка намалявала беларускага хлопчыка [падпісала: Пеця]. А Пеця — у іхнім садку. Сёння мусіў бы засядаць у двух мясцох. БНФ і ФС. Не змог нідзе. Баліць жывот. Блага мне. Няўжо Усявышні пажадаў, каб я мала пабыў яшчэ ў гэтай зале чакання, якая завецца жыццём? Цягнікі ў выглядзе трунаў ідуць і йдуць штоімгненна. Можа, мой затрымліваецца. Цэлы дзень з хворым настроем перакладаў «Карузельчыка Носа». Проста час марную. Згаджуся спачатку, а пасля каюся. Званіў Васілю, ад'язджае заўтра ў Прагу. Учора вечарам ехаў трамваем са Славамірам Адамовічам[1]. Сцюжа. А ён у халоднай скуранцы і ў скураной шапцы. Увесь чорны. Як служка д'яблаў. А можа, яно й так. Казаў, што будзе працаваць у «Нашай ніве»[2]. Пераехалі сюды. Быццам мяняе накірунак на першапачатковы нашаніўскі. У сувязі з актывізацыяй стукачоў і ўстаноўкі тэлефона даверу пісаў «дурноціну»:

*Традыцыя*

Спрадвеку на-вуха-даносары
Шэптам рабілі кар'еру —
Ад аўтадафэ
І да
Тэлефона даверу.

*12 лютага, панядзелак*

Як дурань зноў на радыё. Занёс не мае грошы, бо касірка пераблытала мяне з Глебавым[3], кампазітарам, прыслужнікам ЦК. [...]. Марыі[4] перадаў для Заборава[5] кніжкі. Адпаведна з'экспромтнічаў — на «Эвангеллі ад Мамы»: «Туга жыве ў паглядзе...», на «Аратаі...»: «Барыс! Тут словы ёсць...»[6]. Хай будуць у яго кніжкі. Хоць яму гэта ўсё

---

[1] Адамовіч Славамір Генрыхавіч (н. 1962), беларускі паэт, эсэіст, публіцыст.

[2] «Наша ніва» (узноўлена ў 1991 г., спачатку выдавалася ў Літве).

[3] Глебаў Яўген Аляксандравіч (1929–2000), беларускі кампазітар, педагог. Прафесар (1983). Народны артыст БССР (1973). Народны артыст СССР (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1970).

[4] Андруковіч Марыя Канстанцінаўна (н. 1948), беларускі журналіст і кінарэжысёр. У 1995–2008 гг. супрацоўніца Беларускага Дзяржтэлерадыё.

[5] Забораў Барыс Абрамавіч (н. 1935), беларускі мастак і скульптар. Ганаровы акадэмік Расійскай акадэміі мастацтваў і ганаровы акадэмік Фларэнтыйскай акадэміі выяўленчых мастацтваў. З 1980 г. жыве ў Францыі.

[6] Гл.: Толькі б яўрэі былі!.. Мінск: «Кнігазбор», 2011. С. 228–229.

чужое ўжо. Дый раней было. Цапом-лапом збіраўся ў дарогу, у самую кароткую, бо яна дадому.

* Даменіка: «Ехала неба ў блакітным аўтамабіле».

*13 лютага, аўторак*

*Вушача!* Палякоў, Пятроўскі[1], Валя й я на кінастудыйнай машыне хутка даехалі. Да Марыі Рыгораўны. Ключа няма, бо Пятрок[2] пайшоў да Клавы, панёс ёй газету. Відаць, новую прытулянку завёў. Малайчына, 72 гады, а яшчэ да маладзіц хінецца й адпаведна яны да яго. Я званіць — тэлефон адключаны. Пятрок кажа, што пенсію не плацілі, няма чым заплаціць. Я на пошту. У мяне наперад плочана 400 тысяч. Проста сікушкам, ці, як у нас казалі, сікшам, рабіць няма чаго. Паехалі да жанчыны, якая быццам здорава тчэ й вышывае. Выявілася, што толькі вышывае й дужа прымітыўна, з гатовых узораў. Кажа, што вышыла Івана-царэвіча на шэрым ваўку. [...]. Зайшліся да мастакоў у майстэрню. Убогасць, беднага. Няма працы. Прымітыўна ўсё. Загублены былыя маленькія гарады — беларускія мястэчкі. «Дурноту» на рэкламу прыдумаў: «Ідзіце!»[3]. З позным у Менск. Марыя Рыгораўна старэе, цішэе; не ўсведамляючы гэтага, збіраецца ў дарогу.

* Даменіка: «Дарагім пціняткам я ў цябе... Запісвай хутчэй, каб памяць з галавы не выскачыла...».

*14 лютага, серада*

Лятучка. Ужо ідуць цыркуляры, што нельга даваць у прэсе. Як у ранейшыя часіны. [...]. «Дагуляліся: Па дарожцы слізкай шэрыя куркі...» [у дзённіку]. Яшчэ «дурноціна» ў галаву лезла: «Да вяртання наменклатуры ва ўладу: Двойчы ў адну і тую раку...» [у дзённіку]. Новым міністрам па друку будзе заяц Віктара Каваленкі[4] Алесь Бельскі[5]. Сам піша. Але школа камсамола. [...]. Паглядзім.

---

[1] Пятроўскі Сяргей Уладзіміравіч (1937–1999), беларускі кінааператар і рэжысёр. З 1965 г. на кінастудыі «Беларусьфільм». Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1981). Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (1996).

[2] Трафімаў Пётр Аляксандравіч (1924–1998), стрыечны пляменнік, сын М. Р. Трафімавай.

[3] Гл.: Ідзіце! (13.02.96) //Лепей: Рукапісы 1952–2013. Менск: Выдавец Ігар Віркоўскі, 2013. С. 33 адваротная.

[4] Каваленка Віктар Антонавіч (1929–2001), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік. Доктар філалагічных навук (1978). Член-карэспандэнт АН БССР (1984). Акадэмік АН БССР (1989). У 1982–1997 гг. дырэктар Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ. Заслужаны дзеяч навукі БССР (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СП СССР (1976), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1980).

[5] Памылкова; Рыгор Іванавіч падумаў, што на пасаду прызначаны навуковец і пісьменнік Аляксандр Іванавіч Бельскі. На самой справе — Бельскі Уладзімір Пятровіч, беларускі

*15 лютага, чацвер*

Адкрыццё мемарыяльнай дошкі Пімену Панчанку[1]. Перад пачаткам казаў прадстаўнік гарвыканкама. А маленькі праўнучак Алесік: «У мяне ў роце дым». Мы з Генадзем адкрывалі дошку, сцягвалі ахінала. Колькі словаў казалі Генадзь, Вярцінскі[2], Зоя Кірылаўна [жонка]. Пачынаў я. Ды, як казала мая бабуля Маланння[3]: «Ёсь што гаварыць, ды няма каму слухаць». Потым зайшоў на стадыён. Чуў пра яго шмат. Пастсавецкая барахолаўка. Мяне ледзь не ўцягнулі ў гульню-крутню кідання кубікаў. Прайграў 5 тысяч і пайшоў. На выхадзе пасінелая ад маразоў упускальніца сказала добра па-беларуску: «Прыйдзе вясна, *паляпее*». На адкрыцці ўсе ў асноўным старыя. Маладым ўсё да суцэльнай электрыфікацыі. Пракажоныя культам, бальшавізмам старыя ўсё-ткі былі натуральнымі беларусамі. Моладзь сінтэтычная.

* Дамініка: «Купі мне дыню й kinder, калі не купіш, я не ведаю, што з табой зраблю. Я пакрыўджуся!»

*16 лютага, пятніца*

На працу. Абзвоньваў людзей, каб прыйшлі на выставу Ілоны. Учора ў метро лезла ў галаву «дурноціна»: «Яшчэ: Глядач!..» [у дзённіку]. Кісель […], які абслугоўваў [Лукашэнку] пад час так званых выбараў. Раённага журналісціка [Лукашэнка] паставіў узначаліць Камітэт тэлерадыё.

* Дамініка: «Калі мы йдзём у «Цюбік» (у Музеі мастацтва), там такая вялікая галава Леніна[4], аж я вочы заплюшчваю са страху й прашу тату, каб ён нёс мяне».

*17 лютага, субота*

Выстава Ілоны ў Музеі літаратуры. Прыйшлі добрыя людзі, знаныя майстры свае справы. А дачушка мая да гэтага часу паспела адзначыць поспех. Я завёўся. Усё бязмоўна было скамечана. І шкада мне яе. Худая, загнаная, знэрваваная. […]. А працы сапраўды стыхійна таленавітыя. Вольнасць і палёт. […]. Прыгадваю сябе ў такім узросце. Тое ж самае амаль. К ночы схапіла галаву — думаў, звар’яцею. Гэта жахлівае адчуванне, што ты з’язджаеш з глузду. Відаць, блізкае да адчування смерці. Як ні круці-

---

журналіст. У 1996–1997 гг. старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку і інфармацыі, у 1997–2002 гг. Надзвычайны і Паўнамоцны пасол РБ у Чэшскай Рэспубліцы.

[1] Панчанка Пімен Емяльянавіч (1917–1995), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Народны паэт БССР (1973). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1967), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

[2] Вярцінскі Анатоль Ільіч (н. 1931), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Заслужаны работнік культуры БССР (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[3] Гайко Маланння Несцераўна (1887–1947), бабуля па маці.

[4] Ленін Уладзімір Ільіч (сапр. Ульянаў; 1870–1924), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, стваральнік Савецкай дзяржавы.

ся, а нагадвае пра сябе смерць. Каб не забыўся, што яна чакае. Характар уладна-капрызнай дамы.

*18 лютага, нядзеля*

Прыехаў Васіль з Прагі. Званіў. Намучаўся. Апоўначы дамоў, а ліфт не робіць. А паверх 10-ты. Крычаў Ірыне Міхаўлаўне. Дзе ж яна пачуе. Хацеў ісці чорным ходам, а там бамжы й савецкія алкашы, як некалі камуністы ў падполлі. Выйшаў, распакаваў чамадан. Дастаў тэлефонную картку, пазваніў дамоў. Ірына неяк ліфт прыгнала зверху. Пра радыёстанцыю «Свабода» абяцаў распавесці пасля. Мы з Валяй хадзілі на стадыён.

*19 лютага, панядзелак*

Аддаў Матукоўскаму[1] пераклад «Карліка Носа». Як за што вазьмуся, цягну, бо мітусні стае, а яно цісне на мяне й робіць нічога не дае. Яшчэ не магу адысці ад Ілонінай выставы. Шкада яе, а рады даць не магу. Самае страшнае — гэта немач. Можа, кароткія вершы японскага складу назваць «Ясачкі»: «Вароны зябнуць на снезе...», «Іга ego — яго й Яга...»[2], «Была...»[3].

*20 лютага, аўторак*

Ехаў дамоў. Сустрэлася Ілона. Шкада яе. А пагаварыць з ёй сур’ёзна немагчыма. Нейкія амаль дзіцячыя, амаль з прыбабахам аргументы ў сваё апраўданне. Час ідзе, гады ейныя ўжо не гэткія й маладыя. Дамінічку на каго пакінем, калі мы з Валяй адыдзем да прапрапра?.. Адчуваю сваю поўную бездапаможнасць. А яна яшчэ болей бездапаможная перад жыццём. Сталы эпітэт *суровае жыццё* мае пад сабой рэальны грунт. Суровае жыццё з самага пачатку свайго, са дня стварэння свету. Злітуйся, Тварэц!

Ганаду[4] будзем выдаваць зборнік. Каб апраўдаць назву (яна павінна гучаць на дзвюх мовах аднолькава), напісаў верш. Гэта як бы пераклад.

«Караваны гор» [у дзённіку].

*21 лютага, серада*

Выдавецкая рада. Цэлы клопат. Шамякіну да 75-годдзя кожнае выдавецтва клала ў канверт па мільёну. Наш галоўбух пытаецца, як спісаць грошы. Параіў — купіце некалькі камплектаў партрэтаў [Лукашэнкі].

---

[1] Матукоўскі Мікалай Ягоравіч (1929–2001), беларускі драматург, публіцыст.

[2] Ясачкі: Босыя на снезе вароны... (12.03.96); Іга ego — яго й Яга... (19.02.96) // Збор твораў. Мінск, 1999. Т. 3. С. 328.

[3] Гл.: Была... (19.02.96) [ Ксты. С. 210.

[4] Чарказян Ганад Бадрыевіч (н. 1946), курдскі паэт, празаік. У 1993–2004 гг. заг. аддзела маркетынгу выд-ва «Мастацкая літаратура».

Ніводзін інспектар не памкнецца. Некалі на выездзе з Менска ў Слуцак нейкі шустры райвыканкамавец паставіў гіпсавы ці цэментовы помнік Юзіку [Сталіну], а пад гэты помнік адгрохаў сабе кватэру й лецішча. Нехта быў заікнуўся, што шмат грошай. Той энергічны саветчык толькі здзівіўся, як гэта можна Сталіна вымяраць грашыма, і замоўклі ўсе. Сёння сяджу ў Сёмухі, слухаю народныя палескія песні. Званок Васілю з ТБМ[1], запрашаюць на зборню, прапануюць выступіць, але да першага трэба падаць тэзісы выступу. У Ніла ўсё па-бальшавіцку. [...]. Наогул, Васіль казаў з усмешкай, што ў Ніла тры крыўды: не стаў членам ЦК, акадэмікам, без яго ўдзелу ПЭН-цэнтр[2]. Ды яшчэ шмат крыўдаў. І ў ААН не ўзялі. Але ён узяў усё, што можна было ўзяць, з пасады ў Вярхсавеце. Нават пасаду такім ланцугом словаў аздобіў, каб пад прозвішчам некалькі стволак пасадаў было. Практычна вывеў з падручнікаў «Новую зямлю» [Я. Коласа], а замяніў сваім беларускім тапорным варыянтам [...].

Я сёння распавёў Васілю, як Сёмуха ехаў у ліфце са сваёй сучачкай Бубай. Націснуў не на тую кнопку. Нейкая фіфачка прапанавала ехаць назад, а ён сказаў: «Не трэба, адзін паверх пешкі прайду. Дзякуй». Фіфачка тады: «Да, да, я слышала, что на третьем этаже в нашем доме белорусы живут». Дажыліся! Дарэчы, цэны пасля так званай перабудовы ў нас у Беларусі выраслі ў 28 тысяч разоў. [...]. А мне ўсё яшчэ гучыць цудоўнай паэтычнай сілы палеская песня:

Ой, ляцелі гусі
З далёкага краю,
Ваду замуцілі
На ціхім Дунаю.
Як мы любіліся,
Як ластаўкі ў стрэсе.
Цяпер разыйшліся,
Як туман па лесе.
Як мы любіліся,
То маці ня знала,
Цяпер разыйшліся,
Як чорная хмара.
З тае чорнай хмары
Дробны дожджык будзе.
З нашага кахання
Нічога ня будзе.

---

[1] ТБМ — Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (з 1989).

[2] Аддзяленне Міжнароднага аб'яднання пісьменнікаў ПЭН-клуба Беларускі ПЭН-цэнтр (з 1989).

Гэта мог напісаць толькі вялікі паэт: «разыйшліся, як туман па лесе». А на мяне пісун напаў. «Дазволіў»[1], «Не ма′е»[2], «Друкуе…: Як пеўня славы…» [у дзённіку].

* Дамініка: «Не люблю, калі дзедзя на мяне сварыцца, ён дужа злосна сварыцца, так нават на п’яніц не сварацца». Малюючы чорта, запытала: «У чорта рогі прамыя ці як у казы?»

*22 лютага, чацвер*

Трамваі не ходзяць. Тэлефоны-аўтаматы не працуюць. Надвор’е — толькі сучынае вяселле ладзіць. На адным тэлефоне цвіком: «Устаўце спачатку х..». Без ніводнай памылкі па-беларуску. Стала мне да смешнага ўсцешна — пайшоў працэс беларусізацыі. […].

*23 лютага, пятніца*

У Нацыянальнай бібліятэцы прэзентацыя «Итогов века» боса Будзінаса[3]. Уся […], пачынаючы ад Каратчэні[4] да Фядуты[5] й Антановіча[6]. […].

*24 лютага, субота*

Ну, во і дажыў да аднаго года. Сёння мне 61. Каб жа гэта ды наадварот. Званіў Васіль. Віншаваў, каб галава мне не балела й сёння, і надоўга ўперад. Казаў, што купіў мне ў падарунак гальштук. Не гэтак мне дарагі гальштук, як тое, што ён быкаўскі. На шасцідзесяцігоддзе мне, дарэчы, і Зянон гальштук падараваў. А тут якраз Бог паслаў мне майго любага ведзьмара Пётру. Хадзіў да яго. Як нанова на свет нарадзіўся. Казаў, што быў вялікі стрэс. […]. Цікава, што апошні раз, калі хадзіў да Пётры, здаецца, у першы дзень новага года, быў гэткі ж самы, як павальны грэх, снег. Ці гэта Пётра снег выклікае. Адно думаю, што ўсё невыпадкова. Быў і Рыгор Сітніца[7].

---

[1] Гл.: Дазволіў (21.02.9) // Ксты. С. 316.

[2] Гл.: Не мае (21.02.96) // Босая зорка. С. 136.

[3] Гл.: Фантастика века: Антология. Серия «Итоги века». Минск — Москва: ТАА «Паліфакт», 1996. Т. 3. *Будзінас* Яўген Дамінікавіч (1944–2007), рускі пісьменнік, публіцыст. У 1990–1998 гг. старшыня праўлення ТАА «Паліфакт».

[4] Каратчэня Іван Міхайлавіч (н. 1948), беларускі палітычны дзеяч; вучоны-эканаміст. Доктар эканамічных навук (1996). У 1993–1998 гг. выканаўчы сакратар СНД.

[5] Фядута Аляксандр Іосіфавіч (Н. 1964), беларускі літаратуразнавец, журналіст, палітолаг. Доктар габілітаваны гуманітарных навук (2017).

[6] Антановіч Іван Іванавіч (н. 1937), беларускі дзяржаўны дзеяч, філосаф, сацыёлаг. Доктар філасофскіх навук (1973). Прафесар (1977). Акадэмік сацыялагічных навук РФ (1997). У 1995–1997 гг. нам. міністра замежных спраў і старшыня Нацыянальнай камісіі РБ па справах ЮНЕСКО, у 1996–2000 гг. член Камітэта ААН па эканамічных і сацыяльных правах.

[7] Сітніца Рыгор Сымонавіч (н. 1958), беларускі графік, паэт; выкладчык Беларускага каледжа мастацтваў (з 1983). Гл.: Рыгор Сітніца (2004) // Дуліна ад Барадуліна. Мінск: [ Радыё Свабодная Эўропа]Радыё Свабода. 2004. С. 32.

[Малюнкі.] Гэта мне Дамінічка намалявала цуда, я не малюнкі. Ёй мой дзень нараджэння болей грэе душу, чым мне самому. Любіць сьвяты, каб быў торт, каб гарэлі свечкі. Званочак мой залаты, званочак мой сьветальны. Хай шчасліва звініць! Прачнуўся з вершам: «Прачынаюся ў клопат»[1].

Пётра перадаў мне ад Вацлава Станкевіча гарэлку й блакнот. Гэта з тых Станкевічаў, якія вялікія нашыя адраджэнцы. Вячка[2] з «Свабоды» — гэта дзядзька Вацлава. Вацлаў зацяты беларус. Нам бы такія і ў Беларусі не зашкодзілі. Пад уражаннем лекавання й размоў пра Вацлава піснуў: «Нашчадкамі продкі жывыя: Нашчадкі крывіцкае славы…» [прысвечаны Вацлаву Станкевічу; у дзённіку]. Валя пякла нейкі торт. Палілі свечкі. Мы з Дамінічкай задзімалі іх. Ілона не прыйшла, хоць і абяцала. Яна й на хаўтуры не прыйдзе […]. На сон яшчэ «дурноціна» напісалася: «Не падае: Усё ападае — і лісце, і тое…» [у дзённіку].

*25 лютага, нядзеля*

З раніцы хапіла галаву. Хутчэй да Пётры, пакуль ён не паехаў у Летуву. Заадно на «Аратаі…» напісаў верш Вацлаву Станкевічу й перадаў. Рабілі дыягностыку па пальцу. Гэта ў мяне стрэсы, якія паўтараюцца ледзь не штогод, пачынаючы з данараджэння. Часта падаў. Дый сам, як памятаю сябе, магу злічыць, колькі разоў падаў і падаў. Ад Пётры пайшоў з лёгкай галавой.

*26 лютага, панядзелак*

Сабраўся на працу. Па дарозе занёс у рамонт акуляры. Стала блага. Застуда. Дацягнуўся дадому. З Міронам ляжалі. Я пасля пігулак, ён пасля нейкага мяса. Нават цяжка ўявіць, каб не было ў нас Мірона. Вырас з катамі. І гэта да скону. Малому хацелася сабаку. У метро еду. Заходзяць двое чарнявікаў. Узросту Дамінікі й крыху старэй. І завучана гучна й надрыўна пачалі, што хата згарэла, што бабуля на вакзале. Нешта, вядома, даў. А ў галаву прыйшла фраза — «згарэла хата ў сабакі». «Цыбата ў забытай хаце…»[3]

Ідзе на сход люты. Вясна ўжо нагадвае пра сябе. Сінічкі ценькаюць. Здаецца, блакіт уліваецца ў душу. Ад холаду сінія самі, а цяпло сваім голасам нясуць. Нясуць шчодра. Голас маладой надзеі. «Няпэўнасць»[4].

---

[1] Гл.: Ясачкі: Прачынаюся ў клопат (24.02.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 328.

[2] Станкевіч Вячка (н. 1932), беларускі грамадскі дзеяч замежжа. З 1949 г. у ЗША. У 1990–1998 гг. дырэктар Беларускай службы Радыё «Свабода».

[3] Гл.: Ясачка: Цыбата ў забытай хаце… (26.02.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 329.

[4] Гл.: Няпэўнасць (26.02.96) // Халодная памяць вады. Мінск: Рымска-Каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2010. С. 227.

*27 лютага, аўторак*

На працы. Сазвоньваўся з Вушачай. Наконт героя будучага нашага фільма. Пакуль ёсць нейкая магчымасць, стараюся ўсяляк пакінуць у кінапамяці Вушаччыну. Вечарам ФС. Праблема Чарнобыля. Як і ў вайну, так і на Чарнобылі шмат кан'юнктуры. Прахадзімцы [...] толькі грэюць рукі на гэтым горы сусветным.

*28 лютага, серада*

На працы крыху адзначалі мой 61-шы год. Дзяўчаты былі радыя крыху забыцца на клопаты хатаў сваіх і хатніх сваіх. У Нацыянальнай бібліятэцы прэзентацыя першага тома Янкі Купалы[1]. Казаў колькі слоў, чытаў верш. Калі ў заключэнне кінуў Купалаў жа вокліч «Жыве Беларусь!», у невялікай зале вялікае маўчанне. Народ ужо апуджаны. Па генетычным кодзе йдзе трыццаць сёмы год. У трамваі ехаў з, здаецца, п'яным. Хваліў Васіля [...]. Калі я на ягонае пытанне, дзе жыву, назваў вуліцу Мележа, сказаў, што ведае: Бураўкін жыве на 10-м паверсе, там, кажа, і Барадулін жыве. Пытаецца ў мяне: часам не звязаны з літаратарамі ці з інтэлігентамі? Кажу, што не. А хто вы, пытаецца, адказваю: сам па сабе. Дае тэлефон 65–00–96, Вілен.

* Дамініка: «Мы з Ленай блізняшкі, у нас на аднолькавых нагах сінякі аднолькавага памеру».

*29 лютага, чацвер*

Да Генадзя. Аддаў мне рукапіс свайго аднатомніка. Аддаў яму «дурноты». Адразу ж пазваніў і выкінуў тры, дзе рэзка. Не кватэра, а гатовы музей. Хай жыве лепей у ёй. Учарашні дзівак апынуўся Юліным [Бураўкінай] братам ад першага шлюбу бацькі. У саюзе сустракаўся з Папковічам[2] і Урсулай [Хайнеке]. Наконт паездкі ў Нямеччыну. Па дарозе сустрэў Гардзіцкага[3]. Трэба ў Кіеў на юбілей Тараса[4]. Прасілі мяне. Паеду, пакуль яшчэ сам рухаюся. У кабінеце Зуёнка[5] холадна й няўтульна. Як у нейкай трупярні. Анахранічная ўстанова ў такім савецкім варыянце наш Саюз пісьменнікаў. Прымаюць усіх. Эшалонамі, як некалі везлі на працу ў Ня-

---

[1] Купала Я. Поўны збор твораў: У 9 т. Мінск, 1995–2002. *Купала* Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882–1942), беларускі паэт, драматург, публіцыст. Народны паэт БССР (1925). Акадэмік АН БССР (1928) і АН УССР (1929). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941).

[2] Папковіч Уладзімір Антонавіч (н. 1935), беларускі пісьменнік, перакладчык.

[3] Гардзіцкі Аляксей Кузьміч (1934–1999), беларускі пісьменнік. З 1972 г. працаваў літкансультантам СП БССР.

[4] Шаўчэнка Тарас Грыгор'евіч (1814–1861), украінскі паэт, празаік, мастак.

[5] Зуёнак Васіль Васільевіч (н. 1935), беларускі паэт, крытык. У 1990–1998 гг. старшыня СПБ. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1982).

меччыну. Нейкая цэхавая згуртоўня трэба, вядома. Але не такая. Цэлая гайня штату. Усе п'юць.

*1 сакавіка, пятніца*

Акрайчык з бохана года — сакавік. Смялеюць птушыныя галасы. Хоць сёлета снегу, як некалі ў маленстве. Мяне круціць, ломіць. Як на якое ліха перад вясной павінен захварэць, застудзіцца.

*2 сакавіка, субота*

Уночы снілася нешта літаратурнае. У прэзідыуме сядзяць Быкаў і Сталін. Сталін усміхаецца. Вясёлы. Васіль яму нешта чэрціць, як бы абрысы Беларусі, потым падзяляе гэта напал, тлумачачы, што тут тысячы кіламетраў. Званю раніцай Васілю. Распавядаю. Адказвае, што ўноч сапраўды сталіншчына была, хапіла сэрца. Кажа мне ўголас і тлумачыць, што няма Ірыны Міхайлаўны (яе часта за ўпірлівасць называе дзікай кошкаю), бо пры ёй ніколі пра хваробы не кажа. Сапраўдны мужчына. Мне раіць пахадзіць па паветры, цёпла апрануўшыся, толькі каб не ўпацеў. Некалі айчым Ірынін, урач, да каго часта забягалася Купаліха[1], бо жылі суседзямі, дзяцей з застудай апранаў і на вуліцу выводзіў. Праўда, Ірыніна маці сварылася, упікаючы, бач, не свае дзеці, таму й хворых на мароз пускае. Удзень званіў Някляеў[2] і Дранько. Яны ў Някляева, казалі, п'юць з 6-ці раніцы. Дай ім Бог здароўя. Гэта мне ўсё ў мінулым. «Толькі ў хаценні»[3]. Пісаў між тлумам, трызненнем і галаўным болем.

*3 сакавіка, нядзеля*

Хвароба насядае. Заклала бакі. Галава — толькі ў бальшавіцкіх прэзыдыумах сядзець. Выйшаў на вуліцу — не дапамагло. Атрымліваецца, як у песеньцы: «Хай калоціць, хай трасе, а козачку не спасе». Смех слабы. Ледзь добра кольне — увесь аптымізм, назапашаны за гады савецкае ўлады, знікае. Пішуцца далёкія ад аптымізму радкі. «Рызыкую»[4].

---

[1] Станкевіч (Луцэвіч) Уладзіслава Францаўна (1891–1960), беларускі педагог. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1959). Жонка Я. Купалы.

[2] Някляеў Уладзімір Пракопавіч (н. 1946), беларускі паэт, празаік, эсэіст, грамадскі дзеяч. У 1987–1999 гг. гал. рэдактар час. «Крыніца». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979), Дзяржаўнай прэміі РБ імя Я. Купалы (1998), прэміі Е. Гедройца (2013), Літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2014), прэміі імя Н. Арсенневай (2017). Намінант на Нобелеўскую прэмію (2011).

[3] Гл.: Толькі ў хаценні (2.03.96) // Ксты. С. 340.

[4] Гл.: Рызыкую (3.03.96) // Босая зорка. С. 73.

*4 сакавіка, панядзелак*

Хадзіў на працу. Вечарам пісаў куплеты пеўнікаў і парсючкоў, усё для «Кошчынага дома» ў Тэатры юнага гледача. Хутка сам здзяцінею.

*5 сакавіка, аўторак*

Сазваньваўся з Додзікам[1]. Наконт паездкі з фільмамі ў Вушачу. Фільмы пра Вушаччыну. Званіў Роўбу[2]. Столь у хаце даканчылі. Потым сядзеў і пісаў адказы на пытанні Аліны Астравух[3]. Добрая, на рэдкасць чыстая дзяўчына. Напісала ўступ да «Слаўлю чысты абрус»[4]. Гэта па «Школьнай серыі». Вечарам званіў Васіль. Між іншым спытаў наконт сваёй кніжкі. Што магу сказаць. Трымаюць. І ўсе робяць выгляд, што віны іхняй нікольні няма. Потым будзе сорамна. Але ў савецкіх сорам не відаць — чырвоныя. «Кірмашовыя зубы з'еліся: З кутнікамі кірмаш не той» [у дзённіку].

*6 сакавіка, серада*

Планёрка на працы. Якраз шостага назначыў Андраюк […] Мятліцкага[5] загадчыкам аддзела. Гэта нешта нагадвае ўрад у эміграцыі, які сам сябе абірае й цешыцца. Усё рушыцца. Учора было нялоўка перад Васілём. Званіў Васілю. Яму званіў Мушкетык[6] (з Кіева прыехаў на стагоддзе Крапівы[7]), чаму Васіля не было ў Купалаўскім тэатры. Яму ж цяжка растлумачыць абсурд краіны […]. Васіль жартам пытае, ці мне прысылалі запрашэнне. На пытанне адказаў я гэтым жа пытаннем да Васіля. Толькі пасмяяліся. […] Пашкоў у Энцыклапедыі наводзіць парадак мацнейшы, чым пры вусатым бацьку […]. Ідзе артыкул. Башкіры ваявалі з рускімі. […] схапіўся за галаву (мейсца, на якім шапка). Хіба можна казаць пра вайну з рускімі? Толькі пра любоў да маскалёў. Паклоны біць да мазалёў

---

[1] Сімановіч Давід Рыгоравіч (1932–2014), рускі паэт, празаік, перакладчык, нарысіст, сцэнарыст.

[2] Роўба Іван Сцяпанавіч (1936–2006), інжынер-будаўнік; Рыгор Іванавіч лічыў яго сваяком па мамінай радні.

[3] Астравух (Сабуць) Аліна Эдмундаўна, беларускі літаратуразнавец, крытык. Кандыдат філалагічных навук.

[4] Барадулін Р. Слаўлю чысты абрус. Мінск: «Беларусь», 1996. Серыя «Школьная бібліятэка».

[5] Мятліцкі Мікола (Мікалай Міхайлавіч; н. 1954), беларускі паэт. У 1983–2002 гг. ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

[6] Мушкецік Юрый Міхайлавіч (1929–2019), укранскі пісьменнік. Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя М. Астроўскага (1965), Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1980), Дзяржаўнай прэміі СССР (1987).

[7] Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896–1991), беларускі паэт, драматург, лексікограф. Акадэмік АН БССР (1950). Доктар філалагічных навук (1953). Народны пісьменнік БССР (1956). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1951, 1971).

на лобе. Цікавая рэч, Валя купіла Мірону славуты «Kitekat» (30 тыс.), а ён не есць, а Дамініка сказала, што смачна.

*7 сакавіка, чацвер*

На працы трохі адзначылі свята вясны. Не звязвалі гэта свята з партай]...] кшталту Клары Цэткін[1] ды іншых. Дзяўчаты трохі выпілі. І так хораша паспявалі. Распавядалі, што Валодзя Паўлаў[2] крыўдзіўся — далі 20 білетаў на Крапіву ў Купалаўскі. Быццам не хапіла [...] Вярцінскаму. Перажываў. Ніл быў са сваёй [...] Нінай Іванаўнай [жонкай]. [...]. А дзяўчаты нашыя выпілі, як у нас казалі, у красу. І такія лірычныя зрабіліся. І гэтулькі ў іх суму па нармальным жаноцкім шчасці — мець мужа, мець дзяцей, мець унукаў. Ім ужо ўсім за 40. І ў пітве, і ў марозе, і ў спёцы гэта лічба важная. Як што не склалася, дык ужо не складзецца. Гэта дзеці казармавага сацыялізму, які ўсё паграждаў перанесці ў камунізм. Некалі мама[3] мая пяяла, як бы азіраючы сваё жыццё: «Ні я ўпіла, ні я ўела, Ні добра ўхадзіла. А я ж свае малады леты Дарма патраці′ла». І дзяўчаты нашыя могуць гэта ж пяяць.

*8 сакавіка, пятніца*

Хвароба засела ў мяне трывала. Ракам-бокам ўстаў. Тым і займаўся, што перакладаў Ганада. Прыдумаў яму як бы жанр: тры пялёсткі. І сам паралельна пісаў свае «ясачкі»[4]. Чытаю Радзіку, а ён мне падказвае: «У кожнай кабеты свае кюветы».

*9 сакавіка, субота*

Меўся ісці на сойм БНФ. Не змог. Дужа кепска. Глыбока сядзіць застуда, як ідэі камунізму ў галаве ахламэна. З рання пазваніў Васіль. Яму кепска. І з сэрцам таксама. Ён таксама не пайшоў на сойм. Сяджу перакладаю Ганада й сваё нешта крамзолю. «Ясачкі»[5]. Раптам лёгкі тэлефонны зва-

---

[1] Цэткін Клара (1857–1933), дзеяч германскага і міжнароднага камуністычнага руху, адна з заснавальнікаў КП Германіі. Міжнародны кангрэс жанчын (1910, Капенгаген) прыняў яе прапанову аб святкаванні Міжнароднага жаночага дня 8 сакавіка.

[2] Паўлаў Уладзімір Андрэевіч (н. 1935), беларускі паэт, празаік, перакладчык. У 1990–1998 гг. нам. старшыні СПБ. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя І. Мележа (1997).

[3] Барадуліна Акуліна Андрэеўна (1909–1971). Гл.: Старэе дзень... (3.02.97, Нарач) // Босая зорка. С. 46.

[4] Гл.: Ясачкі: У свята радні багата; Мароз цвікі забівае без малатка; Хутка бяздомныя разумнеюць; У кожнай каметы свае прыкметы (8.03.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 327.

[5] Гл.: Ясачкі: Гэты гром і ночы прысніцца; Змяя без джала не джаліцца (9.03.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 327.

нок. Голас Рэма[1] з Чыкага. Чуваць выключна. Юзіку Пучынскаму[2] ў мэрыі робяць выставу, прысвечаную 25 Сакавіка. У вольным свеце ўсё магчыма. А вось нам ці дазволяць у нашай хаце пад лавай пераначаваць. А мне ўзгадаліся бур'яны, дзе цяпер кінатэатр «Кастрычнік»[3]. І дзень закончыў перакладамі Ганада. А галава гудзе. А настрой такі, як перад развітаннем. Шкада ўсіх — ад Дамінікі да Мірона.

*10 сакавіка, нядзеля*

Выбраўся да Палякова. Яны робяць рамонт. Цвяткоў[4] — гендырэктар студыі і намеснік міністра культуры па кіно. І дзейнасць новага міністра культуры[5]. Паглядзеў кінастужку пра Геніюш[6] і сказаў, што вырашыць палкоўнік Замяталін[7]. Як пры Сталіне. Нездарма Васіль сказаў: «У нас які прагрэс — ад кепскага к горшаму. Раней была чырвоная культура, чырвоныя дзеячы культуры, цяпер карычневыя».

*11 сакавіка, панядзелак*

Засядаў у ФС. Засілле старшебратьев. Віцебскае аддзяленне дадумалася, каб Беларускі Фонд Сораса плаціў МДУ, бо яны сумесную кафедру з перапалоханымі беларусамі з Віцебска ўтварылі. Віцебск, як гэта ні горка мне, фарпост русіфікацыі [...]. Нават дурны Магілёў пераплюнуў. [...].«Ясачкі»[8].

*12 сакавіка, аўторак*

Невераемна што робіцца з галавой. Ледзь даваloкся да працы. Пасля мусіў быць на выставе мастачкі Раісы Сіплевіч[9], а потым на аргкамітэце па святкаванні 25 Сакавіка. Нікуды не пайшоў, бо не мог. Адключыўся. Прыехала Ілона. У яе ўсё добра, едзе ў Аўстрыю. Выстава. Як шалёна лю-

---

[1] Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр'янавіч (1934–2011, ЗША), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, кінасцэнарыст, публіцыст. З 1995 г. жыў у ЗША.

[2] Пучынскі Юзеф Вульфавіч (1922–2007, ЗША), беларускі графік, мастак. З 1994 г. жыў у ЗША.

[3] Гл.: Раслі... (9.03.96) // Слаўлю чысты абрус. С. 182.

[4] Цвяткоў Юрый Мікалаевіч (1941–2011), беларускі аператар, кінарэжысёр, сцэнарыст. У 1996–2001 гг. нам. міністра культуры. Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[5] Сасноўскі Аляксандр Уладзіміравіч (н. 1949), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1994–2000 гг. міністр культуры РБ.

[6] Геніюш Ларыса Антонаўна (1910–1983), беларуская паэтэса. Была рэпрэсавана (1948–1956).

[7] Замяталін Уладзімір Пятровіч (1948–2019), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1995–1997 гг. нам. кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку і інфармацыі (студзень — ліпень 1997), у 1997–2000 гг. нам. прэм'ер-міністра.

[8] Гл.: Ясачкі: Яшчэ шкадуе сон зярнят сяўніца (11.03.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 328.

[9] Сіплевіч Раіса Паўлаўна (н. 1949), беларуская мастачка.

блю яе. Пра Дамініку й казаць не след. Кроў сваю люблю па-крывіцку — зацята, шалёна, галавазгубна. А душы маёй спакою няма, целу майму прытулку няма, галаве маёй спакою няма. [...]. Адзін Мірон разумны!

*13 сакавіка, серада*

Нешта робіцца з галавой. Выходзіць, зноў чхае Чарнобыль, а яму «будзь здароў» кажа д'ябал. У кінатэатр «Змена» з Васілём. Чакаў яго на трамвайным прыпынку, а ён мяне ў метро. Але паспелі дакладна. Цікава было назіраць, як Васіль інтэлігентна-рашуча прабіваўся ў напханым трамваі. Алімпійскі вонкавы спакой і разам з ім хлапчуковая амаль задзірыстасць, якую на ланцугу трымае ён. Прыйшоў і Васілёў сын, таксама Васіль[1]. Глядзім «Акафіст Уладзіміру». Там я на дрызіне еду, тлумачыць: «Наперад у мінулае». Васіль у кадры ў Літаратурным музеі, усміхаецца, сам пра сябе: «Вартаўнік музея». Адказваў Васіль на пытанні. «Кожны, зазірнуўшы ў сваю душу, можа вызначыць свой пасіў і актыў. Нашая інтэлігенцыя не прачнулася, яна спіць, як і дагэтуль спала». Лук'янчыкаў[2] жудасныя рэчы распавядаў. У зоне адчужэння жывуць самасёлы. І шчаслівыя, што [Лукашэнка] падарыў ім камбайн з трактарам. Арыце, сейце, жніце й ешце на здароўе радыеактыўны хлеб. А наогул, ці варта было цягнуць Васіля на гэтую сустрэчу, дзе было да двух дзясяткаў настаўнікаў, а рэшта вучні, што як тыя вераб'і, адразу ж шугнулі як не ўсе з залы. Гэта, здаецца, ці не Севяранін[3] зазначыў, калі Блока[4] бралі ў армію: «Гэта ўсё роўна што салаўёў смажыць». «Рыцар збройны на кані»[5].

Зайшоўся з сустрэчы да Навума[6]. З братам Валянцінам, дужа лірычным яўрэем, п'юць. І галодна-шчаслівыя. На стале кавалак хлеба, колькі лустачак сала, у рандэлку бульбіны дробныя, пачышчаныя на амаль квадрацікі. І дзве трэціх сасіскі. Я ўзяў хлеба, скрылёк сала (жартавалі, што яно кашэрнае) і бульбінку. Да сасіскі ніхто не дакрануўся. Амаль сучасны нацюрморт Фалька[7]. У таго з бульбінай. А тут з сасіскай.

*14 сакавіка, чацвер*

Перазвоньваліся з Вушачай наконт паказу фільмаў. Пасля пазваніў Васілю й прачытаў яму слова Шамякіна ў часопісе «Роднае слова»[8]. Хва-

---

[1] Быкаў Васіль Васільевіч (н. 1957), малодшы сын В. Быкава; урач.

[2] Лук'янчыкаў Сяргей Пятровіч (н. 1945), беларускі рэжысёр, сцэнарыс. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980).

[3] Севяранін Ігар Васільевіч (сапр. Лотараў; 1887–1941, Эстонія), рускі паэт.

[4] Блок Аляксандр Аляксандравіч (1880–1921), рускі паэт.

[5] Гл.: Рыцар збройны на кані (13.03.96) // Слаўлю чысты абрус. С. 183.

[6] Кіслік Навум Зіноўевіч (1925–1998), рускі паэт, перакладчык.

[7] Фальк Роберт Рафаілавіч (1886–1958), рускі мастак.

[8] «Роднае слова» — навукова-метадычны ілюстраваны часопіс (з 1988).

ліць сам сябе, хваліць Галоўліт[1]. Наогул, як некалі Пушкін[2]: «Ай ды Пушкін…» Васіль сказаў, што гэта правільны метад у Шамякіна. Начальства нічога не чытае. Яно верыць на слова, верыць у міф, які ствараецца й такімі аўтарамі кшталту Шамякіна. Калі яму напомніў я пра салаўёў, якіх смажаць, дык адказаў: «І тады гэтак літаратары самі сябе суцяшалі. Гэта ж не скажуць ні рабочы, ні пастух, ні цёмнае начальства. Самае важнае — сказаць і выказаць, што пісьменнік хоча. А хто возьме як боскае слова, альбо АМОН патопча, АМОН часцей топча. На Захадзе час літаратуры й паэзіі мінуўся. У нас затрымаўся, дзякуючы савецкай ўладзе. Бо нацыя была малапісьменнай. Захаваліся яшчэ былі перажыткі літаратурных забабонаў. Свята глядзелася, што Янка Купала напісаў, надрукаваў. А калі пачалі ламаць хрыбет і Купалу, пачалі не маліцца на паэзію й паэтаў, а баяцца за сябе ў першую чаргу. Некалі вядомасць атоесамлялася з неабмежаванымі магчымасцямі. Звярталіся, бывала — каму кватэру, каму машыну, каму сына ўладкаваць. І дужа здзіўляліся, што казаў: не магу. Не маю такіх магчымасцяў. Калі самому давялося будаваць гараж, колькі трэба было хадзіць, званіць, тлумачыць, хто ты й што ты. У самы росквіт улады камуністаў, якія фармальна лічыліся з літаратарамі. Фармальна».

Ідэльсон[3] — сын Фані Алер[4], некалі дырэктара Беллітфонда, папрасіў напісаць яму верш на 70-годдзе. «Няпроста»[5]. Чытаў Радзіку, яму спадабалася. Аддам у «ЛіМ». «Ясачкі»[6].

*15 сакавіка, пятніца*

Ужо аж смешна робіцца — штодня баліць галава. Кепска. Пагана. Блага. Выбіраў вершы для «Слаўлю чысты абрус». Усё не падабаецца. Усё, здаецца, перапісаў. Але як? Тварба — калі ўжываць крыху высокааблочнае слова — гэта мазахізм. Лепей за ўсё чытачу, калі такі яшчэ застаецца недзе ў прыродзе, хоча чытае, хоча не чытае. А век паэзіі мінае. Яшчэ перакладаў Ганада. Пераклад з даслоўнікаў — гэта таксама мазахізм, савецкі мазахізм.

*16 сакавіка, субота*

Трохі звязваў кніжкі, каб адвезці ў Вушачу. Трохі перакладаў Ганада. Нешта мне роіцца, што бачу ваду Леты. Ці гэта з фільма якога. Ці гэта знак.

«І больш нікога: Вада беспрасветная ў тагасвецці…» [у дзённіку].

---

[1] Галоўліт — Галоўнае упраўленне па справах літаратуры і выдавецтваў.

[2] Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799–1837), рускі паэт.

[3] Ідэльсон Уладзімір Барысавіч, ст. рэдактар выд-ва «Юнацтва» (з 1981).

[4] Алер Фаня Яфімаўна (1904–1985).

[5] Гл.: Няпроста (14.03.96) // Толькі б яўрэі былі!.. С. 235.

[6] Гл.: Ясачкі: Лілея на лісту, як на плыту // Збор твораў. Т. 3. С. 328.

Забягалася Ілона. Едзе з [Косцем] у Аўстрыю. Там выстава. Учора таго-сяго з сувеніраў сабраў, трохі сёння. Свэдар прыгожы даў — ёй ён пасуе. Хай свінка мая родненькая не зябне. Трапяткая душа, як са шкла танюткага крохкая. Ёй бы нармальныя ўмовы, […]. Добра, што мэту мае. А як дойдзе да яе й ці дойдзе наогул — Бог бацька. Яна дужа мая, таму й адчуваю яе дужа. Таму дужа баюся за яе. Вонкава часам крычу, сваруся, а ў душы дыхнуць баюся на яе. Рабіў верш для Уладзімера Ягоўдзіка «Год-карагод»[1].

17 сакавіка, нядзеля

Званю Васілю. Ірына Міхайлаўна адказвае, што пайшоў паглядзець на камуністаў. Потым Васіль пазваніў. Хадзіў і здалёку глядзеў (добра, што гэтыя апантаннікі яго не згледзелі!), колькі чырвоных сцягоў. […] за саюз з Расіяй, за саўімперыю. Потым з Дамінічкай і Валяй хадзілі ў філармонію на фестываль яўрэйскае культуры. З дзвюх гадзін да васьмі. Мы вытрымалі да сямі. Не дацягнулі да сем сорак. Усё па-расійску, каб слова на мове зямлі, якая прытуліла, на якой жывуць. З Гародні малады й сімпатычны лёгка на беларускай мове выступаў, пяяў на чыстым ідышы. […] Левін[2], афіцыйны саўяўрэй, з памылкамі вымаўляў прозвішчы яўрэйскіх пісьменнікаў. З Лапушынымі зайшлі ў буфет. Падыходзіць Левін і запрашае ў традыцыйную савецкую бакоўку. Тут жа галава сына каваля Шаранговіча[3] й партыйнай нявінніцы Галі[4] . Вядома, я не пайшоў. Наогул, пры ўсім вясёлым рытме канцэрта гэта, так бы мовіць, хаўтуры яўрэйскай культуры. Казалі, што пры крэмацыі, калі пускаюць ток, труп на імгненне як бы ажывае й тут жа ў попел асыпаецца… Упарта яўрэі не хочуць прызнаваць беларускай мовы. Мовы таго бота, які мацней выспятка даваў, куды раднейшая. Даўняя яўрэйская логіка: нас цяпер, а вас у чацвер. Татары адны беларусейшыя за беларусаў. «Ясачкі»[5].

* Дамініцы: «Прыбяры ўсё ў хаце». — «Я ўсё прыбярла′».

---

[1] Ягоўдзік (Ягаўдзік) Уладзімір Іванавіч (н. 1956), беларускі пісьменнік, перакладчык. У 1993–1996 гг. заг. аддзела час. «Нёман», у 1997–2003 гг. гал. рэдактар час. «Бярозка». Гл.: Год-карагод (16.03.96) // Ішоў коця па канапе. Мінск: «Полымя», 1997. С. 111.

[2] Левін Леанід Мендзелевіч (1936–2014), беларускі архітэктар. Старшыня Саюза беларускіх яўрэйскіх грамадскіх аб’яднанняў і абшчын (2003–2014). Заслужаны архітэктар Беларусі (1988). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Ленінскай прэміі (1967, 1970), Дзяржаўнай прэміі РБ (2000, 2011).

[3] Шаранговіч Васіль Пятровіч (н. 1939), беларускі мастак, графік, педагог. У 1989–1997 гг. рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтва (БДАМ). Прафесар (1981). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1978). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1986). Народны мастак Беларусі (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[4] Шаранговіч Галіна Андрэеўна (н. 1939). У 1984–1996 гг. заг. рэдакцыі літаратуры народаў СССР выд-ва «Мастацкая літаратура».

[5] Гл.: Ясачкі: У кожнага грахі свае… (17.03.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 328.

*18 сакавіка, панядзелак*

Заходзіўся да Андраюка. Намякаў адкрытым тэкстам, што трыманне навэлаў Васіля некалі будзе ганебнай плямай у кожнага, хто быў датычны да гэтага. Абяцаў пагаварыць з новым міністрам [Замяталіным]. Гэта [...] паступілі сыгналы «тащить и не пущать». Такія-сякія зборы ў дарогу.

* Дамініка: «Бракаваную памылку знайшла».

*19 сакавіка, аўторак*

*Вушача!* На сораўскім легкавіку, як яечка велікоднае, прыкаціліся ў Вушачу. У клубе тры фільмы: «Ой, лятала шэра перапёлка», «Край перакуленых нябёс», «Забораўна» [«Забароўна»]. Забораўцаў прывезлі й адвезлі. Змаглі толькі 14 чалавек узяць. А хацела ўся вёска. У залі такі даволі было людзей. Выходзілі мала. У асноўным маладыя ахламэны й ахламэнкі. Старыя й старэйшыя сядзелі да канца. У асноўным спадабалі фільмы. Наш Аляксандр, які вёз нас, наогул усю атмасферу ўпадабаў. Калі пасля было застолле ў нас у хаце, сказаў: «Я сябе адчуў маленькім». Так яго ўсё расчуліла.

Такога чыстага й такога зорнага неба не бачыў, здаецца, ніколі. Зоры й ноч гэтулькі халодныя, аж горача робіцца. Над нашай хатай як заступнік Валапас. «Ясачкі»[1]. Дарога, мітрэнга, сустрэча. А выйшаў у ноч. Снег. Яблыні зябнуць. Цішыня ніяк не можа сагрэцца. І спакоем агарнула ўсяго. Да самае душы.

*20 сакавіка, серада*

Паехалі ў *Пліна* шукаць героя. Знайшлі. Карэнны тутэйшы. У вайну на зімовым лёдавым аэрадроме паліў сігнальныя вогнішчы. Добра грае на гармоніках. Яшчэ піша скамарошныя вершы. Жонка даяркай была. Ордэны. Нават Кастрычніцкай рэвалюцыі ордэн мае. Паказвае як цацку непатрэбную, з нейкай паблажлівай усмешкай. Пытаюся, ці дасць мужу панасіць? Не дам, кажа. Чацвёра дачок. Усе ў нашай старане. Ніна Пятроўна, як жонка Хрушчова[2], кажу; не хоча такой паралелі. Сам Віктар Васілевіч Красноў толькі пасміхаецца. Брат ягоны працаваў у рэдакцыі газеты пры партызанах. Успамінае, як насіў самагонку, дзе быў і Лабанок[3]. Як сыдзе снег, пойдзе шукаць какорыны, каб ладзіць човен.

Потым заехаліся да Івана Сцяпанавіча [Роўбы] на працу. Прапанаваў мне зайсціся да новага кіраўніка раёна. З чырвоных памешчыкаў. Пачэ-

---

[1] Гл.: Ясачкі: Сакавік хварсіць белакутаса (19.03.96, Ушачы) // Збор твораў. Т. 3. С. 328.

[2] Хрушчоў Мікіта Сяргеевіч (1894–1971), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. З 1953 г. 1-шы сакратар ЦК КПСС і адначасова ў 1958–1964 гг. старшыня Савета Міністраў СССР.

[3] Лабанок Уладзімір Елісеевіч (1907–1984), беларускі дзяржаўны дзеяч. Камандзір беларускага партызанскага злучэння (1941–1944). Герой Савецкага Саюза (1943).

пка[1]. Ахвоты ў мяне не было з маладых гадоў хадзіць да кручкоў (як вушацкія казалі). Іван Сцяпанавіч прыйшоў разгублены: у новага кручка нарада. І доўга будзе. Навошта яму на сваю галаву прымаць мяне. Хоць як бы там ні было — я ганаровы грамадзянін Вушаччыны[2]. Пасля абеду выяснілася, што раённыя бугры й бугарынкі нездаволеныя, што фільмы змрочна паказваюць раён. Нічога светлага. А тут яшчэ Васіль Быкаў з экрана такія рэчы кажа, што заікацца будзеш. Марыя Рыгораўна й тая кажа з экрана, распальваючы печку, што Ленін, відаць, вялікі грэшнік, раз яго зямля не бярэ. І дзіўна, што ніхто не прыйшоў на прагляд. А праз на-вуха-даносараў усё йшло.

*21 сакавіка, чацвер*

Трэба было йсці на дзве фотавыставы. Нікуды не пайшоў. Нейкая немач зваліла. Дома праваляўся. Васіль званіў, а яму Матукоўскі казаў: Гасцюхін[3] [...] ездзіў да Багамолава[4] атрымаць дазвол на здымкі фільма па раману Багамолава. Каб паказаць, што з нацыяналістамі змагаліся і ў вайну. Багамолаў адмовіўся. Знойдуць іншых. [...]. Затое ідуць з мяне нейкія радкі пасля Вушачы: «Ясачкі»[5].

*22 сакавіка, пятніца*

На працы з Наташай[6] рабілі змест «Слаўлю чысты абрус». Выходзіць, сёння трэба было здаваць. Я ўсё не веру. Адвучылі, што кнігі выходзяць. Званіў Васілю. Халіп[7] прасіў, каб згадзіўся Васіль даць інтэрв'ю ў «Имя»[8]

---

[1] Пачэпка Канстанцін Анатольевіч (н. 1954), старшыня Ушацкага раённага выканаўчага камітэта.

[2] Званне ганаровага гармадзяніна Ушаччыны было нададзена Р. Барадуліну ў 1992 г.

[3] Гасцюхін Уладзімір Васільевіч (н. 1946), беларускі акцёр. Народны артыст РБ (1996). З 1991 г. акцёр Тэатра-студыі кінаакцёра. Заслужаны артыст РСФСР (1982). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), Дзяржаўнай прэміі РФ (1993), прэміі Прэзідэнта «За духоўнае адраджэнне» (2002).

[4] Багамолаў Уладзімір Осіпавіч (1926–2003), рускі пісьменнік.

[5] Гл.: Ясачкі: Зямля бацькоў радасцю прывячае; Апошні страх заікнецца смехам (21.03.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 329.

[6] Давыдзенка Наталля Аляксееўна (псеўд. Марына Наталіч; н. 1950), руская і беларуская паэтэса, празаік, перакладчык. У 1984–1997 гг. рэдактар рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура», у 1997–1998 гг. вядучы рэдактар ТАА «Паліфакт».

[7] Халіп Уладзімір Трафімавіч (н. 1939), беларускі журналіст, мастацтвазнавец, драматург. У 1987–1998 гг. кіраўнік студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм».

[8] «Имя: газета для тех, кто умеет читать» — грамадская газ., заснаваная ЗАО «Белорусская деловая газета» (1995–1999).

ягонай Ирыне[1] (яна там намеснікам рэдактара), у нумары тры паласы за ёй. Аклад 400 даляраў. Кожны нумар стратны на 15 тысяч даляраў. [...]. Васіль адмовіўся наадрэз. Усё на яго. І з Украіны, і з Польшчы, і з Францыі. А дзе ж астатнія паўтысячы так званых членаў СП? Шышкі на Васіля, а яны, акадэмікі, дбаюць пра чысціню гучання свайго імя. Васілю не плоцяць ні капейкі за інтэрв'ю, а інтэрв'юрысты як крумкачы на жывым целе.

* Дамініка: «Які мільён дарожшы — тры, пяць, сем?»

*23 сакавіка, субота*

Кепска мне. У роспачы. Нешта немач не праходзіць.

Чытаў афганскую класічную паэзію. Савецкія [...] з аднаго боку знішчалі народ, а з другога — выдавалі ўзоры паэзіі. Адчуваецца, што паэзія цікавая. Але перакладзена яўрэямі, для якіх расійская мова таксама замежная. Нешта, калі спускацца з Алімпа, як каханне з гумовым плашчом на канцы. У асноўным толькі рух. Для сябе пераклаў Абдулкадырхана Хаттака[2]:

* * *

Па чым ты плачаш, белы вадаспад,
Ты пасівеў з чаго, па смутку брат?
Аб камень марна б'ешся галавою,
Вада пайшла — не вернецца назад.

А ўчора напісаў яшчэ адну «ясачку»[3]. Радзік мне параіў абыграць радок «Каму належаць аблокі»[4].

Да вечара калупаўся ў рукапісах. Звяраў даты. Усё для «Школьнай бібліятэкі» «Слаўлю чысты абрус». Цяжкая гэта праца — падбіраць вершы для школьнікаў.

* Дамініка: «У жар-птушкі хвост, як быццам дама трымае веер».

*24 сакавіка, нядзеля*

Сёння трэба было йсці на мітынг. Не змог. Яшчэ б сядзець сядзеў, а стаяць і хадзіць мне нешта цяжка. Потым распавялі, што тысяч каля 30-ці было. Не ўсе ж спяць. [...]. «Супадаюць»[5].

---

[1] Халіп Ірына Уладзіміраўна (н. 1967), беларускі журналіст. У 1995–1999 гг. нам. галоўнага рэдактар газ. «Имя».

[2] Хаттак Абдулкадырхан (1650/52 — каля 1702), афганскі паэт. Сын паэта Х. Хаттака.

[3] Гл.: Ясачкі: Ляцелі сычы з сычовін... (22.03.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 329.

[4] Гл.: Каму належаць аблокі? (23.03.96) // Ксты. С. 204.

[5] Гл.: Супадаюць (24.03.96) // Босая зорка. С. 132.

[Малюнак.] А гэта мне Дамінічка малявала горы й драпежную птушку, якая есць горы. У гарах растуць грыбы.

* Дамініка: «Спявай пяшчотна, як птушка… Варона, верабей і ластаўка першыя птушкі лета. А хто апошнія?.. У цябе ад сну сварба ўзбуджаецца».

*25 сакавіка, панядзелак*

Сёння Дзень Волі. Волі, якой у беларусаў даўно няма. Выбілі, узялі ў палон, зваўкалачылі недабітых у асноўным расійскія захопнікі. Палякі таксама не спалі — што лепшае сабе цягнулі. А мы затое рахманыя. […]. Сёння прэзентацыя ў ПЭН-цэнтры «Здубавецьця». Карлас[1] зрабіў. Я не пайшоў. Кепска мне. […]. Уладзя Арлоў выбіў сабе прэмію Багушэвіча. Ён ужо робіцца не арлом адраджэння, а груганом. Такая жарсць да грошай, відаць, у новай змены натуральная. Гэта яшчэ камуністычнасць генная.

*26 сакавіка, аўторак*

Цэлы дзень займаўся з Наташай зборнікам па «Школьнай серыі» [«Ішоў коця па канапе»]. Цяжкая гэта праца. І раптам званок з Палангі. Гэта мой любы вядзьмар Пётра, адчуў, што мне блага. Распытаў пра падзеі нядзелі. Сказаў, што здыме стрэс — і сапраўды адразу мне палепела, апрытомнеў. Вялікая гэта сіла — вядзьмарства. Добра, што ёсць свой беларускі вядзьмар. Дзякуй яму!

*27 сакавіка, серада*

Сёння з Васілём у тэатры Дзягілевай[2]. Гэта хутчэй за ўсё класічны савецкі літмантаж ці ранішнік піянерскі. Сама Галіна сімпатычная беларуска. Калі выходзіў, Васіль сказаў: «Галя мілая дзяўчына, але болей я ў такіх шоу не ўдзельнічаю». Сабралі старэйшакласнікаў ці першакурснікаў навучэльняў. Ім бы розныя рокі-дрокі. А тут Васіль касмічныя тэмы [закранае]. Гэта беларуская мужыкаватасць не цэніць скарбы свае. Ці ж на такое трэба цягнуць Васіля.

Цікава разважаў Васіль пра вайну: «Я ненавіджу вайну болей ад усяго на свеце, вайну ненавідзяць усе, але палітыкі, кіраўнікі піхаюць на шлях вайны ўсе народы. Бо не салдаты вінаватыя. Быў задумаў напісаць рэч, але рукі не дайшлі, рук не хапіла ці сілы. У адной хаце сабраліся. Бацька, які партызаніў, харобра біў фашыстоўцаў, сын, які знішчаў духаў, душма-

---

[1] Шэрман Карлас Рыгоравіч (1934–2005, Нарвегія, пахаваны ў Беларусі), беларускі перакладчык, іспанамоўны паэт. У 1956 г. пераехаў у Беларусь з Аргенціны. У 1989–2001 гг. віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра.

[2] Дзягілева Галіна Аляксееўна (н. 1947), беларуская актрыса. Заснавальнік, дырэктар і мастацкі кіраўнік беларускага паэтычнага тэатра «Зніч» (з 1989).

наў, і ўнук, які вярнуўся з Чачні. Ці ведаюць, за што ваявалі, за каго ваявалі?»

Было пытанне, як ставіцца Васіль да Зянона. Адказаў: «Беларусы па натуры сваёй служкі, і калі з'ўляецца лідар, толькі вітаць трэба. А Зянон сапраўдны лідар. У яго барацьба за святую ідэю Беларусі на першым мейсцы, а клопат пра сям'ю, якую любіць, пра здароўе, пра кар'еру, пра выгоду на апошнім мейсцы». Тут колькі паняў усхадзіліся — бачце, не трэба беларусам казаць, што мы рахманыя, бо гэта зніжае іхнюю актыўнасць, трэба падвышаць, дадатны герой патрэбны. Васіль адказаў, што рэалістычнае мастацтва не можа пераўзысці жыццё. Хоць сто раманаў напішы — ничога, а прэзідэнт [...] скажа — на ўвесь свет тэле-радыё-газеты разнясуць. Былі ўжо дадатныя героі — камуністы.

Выдатна чытала ўрывак з аповесці Васіля студэнтка тэатральнага Яўгенія Жуковіч[1]. Хораша. Па-беларуску. Васіль, калі йшлі на выступ, казаў, што не разумее Зянона. Без узгаднення з Васілём улёткі на плошчу клікалі, потым на штурм тэле. Васіля як траянскага каня маюць. Цяпер, калі Зянон і Навумчык атрымалі позвы ў суд, трэба было з'явіцца, а не хавацца недзе. Бо гэта наіўна. Перад пачаткам вечарыны адміністратар Галін прапанаваў запоўніць нейкую паперу на атрыманне грошай. Васіль мякка, але рашуча перапыніў гэта. Я, сказаў, нідзе за грошы не выступаў. А мяне па-сяброўску пад'ялдыкнуў, што партфель, як у Ніла. Вядома, я пярэчыў, што ў такім разе не буду яго насіць. Дзе, кажа, ты купляў; адказваю — у Менску. Ну й Ніл у Менску мог купіць. Як контраргумент даю — гэта замяняльнік, а ў Ніла, вядома, з натуральнай скуры, як камісарскія скуранкі. Пасля дома прыйшло да мяне разуменне розніцы паміж Зянонам і Нілам. Зянон — лідар ад Бога, ад хрысціянства, ад вялікай любові да Беларусі й волі, а Ніл хоча ў лідары (дзярэцца, як у нас казалі, як жаба на крэў) як сын сельсаветчыка, савецкага актывіста, толькі б даказаць сваё я (пустое і вартае жалю), пакрасавацца.

* Дамініка: «Я ведаю, адкуль вясна йдзе, паглядзі, як снег насцярожыўся».

*28 сакавіка, чацвер*

Ехаў раніцай у трамваі. Нейкае мурло, ці лепей сказаць — цэбар (гэткая морда), [...] хаміць усім, тыкаецца, крычыць, што ў яго пасведчанне ветэрана [...]. Суцяшаюць, гатукаюць, тукаюць — усё марна. Тады я спакойна сказаў: «Не чапайце яго, шануйце, бо гэта ж будучы прэзідэнт. У яго ўсе дадзеныя на прэзідэнта». Усе засмяяліся, а цэбар знянацку сціх і прыпынкаў шэсць, пакуль ехаў я, ён маўчаў, зніякавеўшы. Потым рас-

[1] Жуковіч Яўгенія Васільеўна (н. 1975), беларуская актрыса тэатра і кіно. Дачка В. Жуковіча.

павёў гэтую гісторыйку Васілю. Ён мне патлумачыў — баяўся ўступіць у спрэчку, каб [Лукашэнку] незнарок не зачапіць. Гэта, кажа, добры метад цяпер, каб суцішыць.

Вечарам па радыё […] драматург Алёша[1] распінаўся, што ён і беларускі, і рускі драматург, Масква, бачце, з яго зрабіла драматурга […]. Да Масквы білет паўмільёна. Таму ён за інтэграцыю. Як быццам калі аб'яднаемся […] з жабрачкай, дык Ельцын[2] ці Зюганаў[3] будзе беларуска-расійскаму драматургу купляць білеты. Ён супроць межаў, мытняў, супроць таго, каб слухаць урады Масквы, Варшавы, Вільні, а слухаць свой урад. Ён, бачце, за суверэнітэт, за дзяржаўнасць. І з хлопцам пераспаць і нявінніцай застацца. […].

* Дамініка: «Чаму мы калі-небудзь не ездзім у Эдэм?»

*29 сакавіка, пятніца*

Званю апоўдні Васілю. Ірына Міхайлаўна і ён дзівяцца, што сёння няма званкоў. Гэтак Васіля пазванілі, што часовая цішыня дзіўнаватая яму. Ніхто не лічыць патрэбным пашкадаваць неацэнны час апостала нацыі. Ён не раўнуючы як загнаны воўк, абкладзены сцяжкамі званкоў, інтэрв'ю, просьбаў напісаць, выступіць, адгукнуцца, падтрымаць, ад званкоў з абразамі й пагрозамі ад […] ахламэнаў.

*30 сакавіка, субота*

Праседзіў дома. Перакладаў вершы Ганада. Няма дзе ні хварэць, ні працаваць. […]. Абрыдла ўсё. Усё няміла. Хапіла так галаву, што думаў, скончуся.

*31 сакавіка, нядзеля*

Сышоў з хаты з раніцы […]. Схадзіў на Камароўку. Гандаль. Хоць цяжка, але жыццё робіцца натуральным жыццём.

[1] Дудараў Аляксей Ануфрыевіч (н. 1950), беларускі актор, пісьменнік, драматург і кінадраматург. У 1991–2002 гг. рэдактар, гал. рэдактар час. «Мастацтва». Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1982, 1984), прэміі Прэзідэнта РБ «За духоўнае адраджэнне» (2000). З 1987 г. старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў.

[2] Ельцын Барыс Мікалаевіч (1931–2007), расійскі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1991–1999 гг. прэзідэнт РФ.

[3] Зюганаў Генадзій Андрэевіч (н. 1944), расійскі палітычны дзеяч. Доктар філасофскіх навук (1995). З 1995 г. старшыня ЦК Кампартыі РФ.

*Пачуе самоту*

*Міхасю Скоблу*[1]

Маладым ад былых маладых
Пераходзіць законнае права
І на пышкі, й на шышкі, й на ўздых,
Што не ўсё ў гэтым свеце цікава.

Ад былых маладых маладым
Нельга адгарадзіцца лясамі.
Дроў наломяць на полымя й дым,
Смалякі на распал знойдуць самі.

Маладых,
Будучых ды былых,
Сталакуе клопат дакосін.
І пачуе самоту слых.
І вясною прыкінецца восень…

*1 красавіка, панядзелак*

Ніхто нікога не спадманвае. Усе зацюканыя, галаднаватыя, халаднаватыя. А тут яшчэ снег, як на Каляды. Прыходзіў на працу Сітніца. Хоць ёсць яшчэ такія светлыя беларусы! Званілі мы з ім ведзьмару. Між іншым, сказаў мне прыслаўку: гэта не пры немцах — сраць у сенцах. Якая рыфма! Усярэшся, а не прыдумаеш.

Вечарам Дамінічка, каб адцягнуць маю ўвагу […], выдумляла розныя ашуканствы. […].

Прыходзіў Ан. Белы[2]. Распавядаў, як Ніл загнаў ледзь не аўтапарк, які быў за бесцань куплены ў вайскоўцаў (дарэчы, і агітаўтобус, і «Волга» ды інш. Стаялі ў гаражы БелОКСа[3], ведамства […] Ваніцкага[4]). […].

---

[1] Скобла Міхась (Міхаіл Уладзіміравіч; н. 1966), беларускі паэт, літаратуразнавец. У 1995–1998 гг. супрацоўнік Міністэрства культуры і друку. Лаўрэат Літаратурнай прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (2000), Міжнароднай літаратурнай прэміі «Воін святла» (Украіна, 2017).

[2] Белы Анатоль Яфімавіч (1939–2011), беларускі грамадскі і культурны дзеяч, навуковец, калекцыянер. У г. Старыя Дарогі Мінскай вобл. заснаваў прыватны Мастацкі музей (1990).

[3] БелОКС — Белорусское общество дружбы и культурной связи с заграницей = Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.

[4] Ваніцкі Арсеній Мікалаевіч (1933–2001), старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі (1984–2001).

*2 красавіка, аўторак*

Дзень ганьбы[1]. [Лукашэнка] павёз 300 [чалавек] у Маскву. Але правільна сказаў Васіль: «Раней партрэты тых, хто ехаў, нарысы пра іх, а цяпер употайкі, бо ганебная справа, як злодзеі хаваюцца». Толькі на інструктаж збіралі, але таксама ўпотай. Хто ж з так званых пісьменнікаў паехаў? Скобелеў, Пашкоў, Дудараў. Затое пікет тысяч на сорак ў Менску быў. І ў асноўным моладзь. Нездарма ж некалі Ульманіс[2] лазунгаваў: «У цялятах нашая будучыня».

*3 красавіка, серада*

Раніцай Дамінічка збіраецца ў садок і мне кажа навіну (бачыла па тэле): «Беларусь прадалася Расіі». […]. Учора былі цікавыя лозунгі ў пікетах […]. Сёння хадзіў да Алеся [Анціпенкі] ў ФС. Культуралагічная палітыка — дужа зыбкая кладачка, з якой лёгка бухнуць у вір падтрымкі маўклівай чорных сілаў […]. Вонкава ўсё культурна.

*4 красавіка, чацвер*

Паўдня Ганад цікава распавядаў пра звычаі й норавы курдаў. Цікава, як рэлігія дзеліць і варожыць родных. Спаконна курды, што прынялі мусульманства, ужо ворагі сваіх жа братоў. Ці так Богу трэба, каб праверыць. Званіў Васілю. Між іншым, зайшла размова пра святароў праваслаўных. Алексій[3] ужо асвячае атамныя ўстаноўкі. Сілу д'ябла, якая заклікана знішчыць душы людскія. Сапраўды, святароў, якія Бога ў душы мелі, камуністы вынішчалі й замянялі прыслужнікамі партыі й Лубянкі. Нядзіва, што такія прымусы й такая ганежа на баптыстаў ды іншых вернікаў, бо не пайшлі на службу да Лубянкі. У нас у Вушачы баптысты прасілі ім аддаць мейсца пад храм на гары, дзе ганебная руіна так званага пасялковага савета. Не далі. І вернікі мусілі будаваць царкву на балотцы, за Латышыстымі[4] хлявамі. «Кветкаю цвіце…»[5]

*5 красавіка, пятніца*

З Наташай крыху рабілі для «Школьнай серыі» зборнік. Усім баляць галовы. Буры ды буры [магнітныя]. Ашалець можна. Мусіў быць на вечарыне Геніюш, не змог. Здаюць нэрвы. Не магу [пераносіць] вялікіх зборышчаў. Шалею й знемагаю. Дахутарэў канчаткова, конча, як любіў

[1] Падпісана Дамова аб стварэнні Супольнасці Беларусі і Расіі.

[2] Ульманіс (Улманіс) Карл (1877–1942), у 1936–1940 гг. прэм'ер і прэзідэнт Латвіі.

[3] Аляксій II (сапр. Рыдыгер Аляксей Міхайлавіч; 1929–2008), Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі (1990–2008). Доктар багаслов'я (1984). Акадэмік Расійскай акадэміі адукацыі (1993). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (2005).

[4] Латышонкі — ушацкія суседзі Барадуліных.

[5] Гл.: Кветкаю цвіце… (4.04.96) // Руны Перуновы. Мінск: «Радыёла-плюс», 2006. С. 344.

казаць Вялікі Уладзімер [Караткевіч]. «Цёплае вясло»[1]. Днямі бачыў цыкуна Петрашкевіча[2].

«Таксама: Апурх драматург…» [у дзённіку. 2-гі вар.: «Таксама: Драматург у цэкоўскай саецы…; у блакноце].

*6 красавіка, субота*

Званіў Васілю. Яму званіў Хадыка[3], каб Васіль узначаліў «Чарнобыльскі шлях». Калі я сказаў Васілю, што гэта ўжо не арыгінальна, ён удзячна рассмяяўся. Сапраўды — усё на аднаго. Чаму б не ўзначаліць таму ж Хадыку ці іншаму вучонаму. Васілю ўжо быццам ад землякоў прыйшло пісьмовае прakляцце, што ён супроць камуністаў. Я патлумачыў, што вушацкія наогул не любяць пісаць і чытаць, а слаць лісты наогул ніколі ахвоты не мелі. Гэта тут у Менску […] арганізоўваюць, можа, нават землякі кшталту Якутава[4] — летапісца [Лукашэнкі].

*7 красавіка, нядзеля*

Вялічка! [Каталіцкае.] Яно ўсё-ткі маё. Як ні круці, вуніят я. І сонейка сёння, і лагода на душы. Каб толькі гэты святы дзень ды ў родных мясцінах, а не ў гэтым запляваным расійскай мовай Менску. Хочацца чуць толькі сваю мову, бачыць толькі сваіх людзей. А ўсё не так. І ў хаце не заўсягды родная мова. Толькі ў душы.

«Двайніца»[5].

*8 красавіка, панядзелак*

Пластом праляжаў. Галава зусім мяне не слухаецца. Хутка стопрацэнтым ахламэнам стану […]. Званіў Васілю. Так званае пісьмо ад землякоў з пагрозамі й папрокамі з менскім штэмпелем. Што й казаў я Васілю. Гэта свае [… летапісцы]. Некалькі дзён круціліся радкі. Хоць з хворай галавой, але нешта напісаў. «Шляхам зерня»[6]. І яшчэ ў сцэнар пра вушацкага чаўнара Віктара Вас. Краснова:

---

[1] Гл.: Цёплае вясло (5.04.96) // Босая зорка. С. 133.

[2] Петрашкевіч Алесь (Аляксандр Лявонцьевіч; 1930–2012), беларускі пісьменнік, драматург. Кандыдат гістарычных навук (1967). Заслужаны работнік культуры (1975). У 1991–1998 гг. кіраўнік Арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданню гістарычна-дакументальных хронік «Памяць».

[3] Хадыка Юрый Віктаравіч (1938–2016, ЗША), беларускі вучоны-фізік; мастацтвазнавец, грамадскі дзеяч. Доктар фізіка-матэматычных навук (1978). Прафесар (1984). Прарэктар Народнага ўніверсітэта (1997–2000). Нам. старшыні БНФ (1988–2007). З 2013 г. жыў у ЗША.

[4] Якутаў Уладзімір Дзмітрыевіч (н. 1926), беларускі і рускі пісьменнік, публіцыст. Кандыдат гістарычных навук (1967). З 1991 г. кіраўнік творчай фірмы «Белая Русь».

[5] Гл.: Двайніца (7.04.96) // Босая зорка. С. 131.

[6] Гл.: Шляхам зерня (8.04.96) // Босая зорка. С. 9.

*Паклоны б'е сякера...*

Чаўнар — вядзьмар
Да патаемных змовін
Вады з зямлёй далучаны адзін.
Таму й рака ягоны лашчыць човен,
Халодная ад крыгаломных ксцін.
І рэбры гне —
Каб выпінацца рэбрам —
З сасны, як у Адама з рабрыны.
Каб човен мог луской —
Дарэмным срэбрам
Сплаціць даўгі паганскай даўніны.

Як валачомец з цёмных валачомін,
Вяртаецца са стомаю ў касцях
Прасмалены смалой сутоння човен
Дамоў,
За дзень наплыўшыся ў гасцях.

У чоўна з берагам не дрэмле спрэчка,
Чыя рака, каго яна вязе.
Як куфар човен.
Не хапае вечка.
Быць вечкам аблачыне балазе.

Паклоны чаўнароўская сякера
Б'е дрэву за штодзённыя грахі.
Яшчэ паганская спрыяе вера,
Каб човен выплываў з вады сухі.

Рака спіною неба падпірае.
Пілнуюць хітры бераг чараты.
Украсці хоча вёслы ноч старая.
І страхі шчэраць сонныя раты.

* Валя корміць Дамініку, лыжку на момант паклала ў талерку, глядзіць тэлевізар. Дамініка: «Я без супа сяджу, толькі з мясам і хлебам у роце. Гэта непарадак».

*9 красавіка, аўторак*

Прыехаў Вальдко Калінін[1] з Лондана. Канікулы. Ён там працуе ў школе. Хаўрусіць з айцом Надсанам[2]. Гэта айцец Надсан пачаў богаслужбу па-беларуску. Дагэтуль йшло па-царкоўнаславянску. З Вальдком і ягоная дачушка Хрысцінка. Удзельнічала таксама ў мітынгу пратэсту [...]. Па дарозе на працу ў метро сустрэў Васіля. Ён ехаў у наш бок. Па дарозе Кармілкін[3] яму сказаў, што Лявона Баршчэўскага ў суд паклікалі за 2 красавіка. Далі 300 тыс. штрафу. Цікава Вальдко распавядаў, што там у ангельскай школе трымаюцца разам і кітаяначка, і албаначка, і афрыканачка. Англачкі асобна. Нават справакавалі, нібыта Хрысцінка ўкрала свае ж нажнічкі. Бо нейкая цыганачка з Беларусі вучыцца лепей ад ангелак.

Вечарам ФС. Ідзе скрытна наступ расійшчыны. Алесь [Анціпенка] крыху разгублены.

«Пацеркі табе: Я пацеркі са слоў ніжу табе» [у дзённіку].

*10 красавіка, серада*

Занёс на студыю сцэнар. Ухвалілі. Палякоў, Халіп, Пятроўскі, Мароз[4]. Гэта, відаць, апошняя замалёвачка пра Вушаччыну будзе. Але хай. Званіў Роўбу. У нас дома вясна ўсім ходам ідзе. Трэба будзе з кіношнікамі пасля Вялічка ехаць. Прыйшоў сакавіцкі нумар «Полымя». Вершы Ніла напісаныя на ўзроўні нашаніўскай пары. Як бы ён шмат аддаў, каб яго сустрэла маці. І зноў плач, што ён беларус. Цягамоціна, як любебля посікам, які звулканіўся й толькі рух па інерцыі, Навуменкі[5]. Некалі Караткевіч называў яго Неуменко. І шамякінскі так бы мовіць дзённік — якія добрыя былі камуністы, які цаца Машэраў[6], які добры сам Шамякін. У час, калі ка-

---

[1] Калінін Вальдэмар Ільіч (н. 1946), цыганскі паэт, перакладчык. Лаўрэат Міжнароднай прэміі Хірасімы (Швецыя), Літаратурнай прэміі «Цыгаская прэмія» (Венгрыя). Ураджэнец Беларусі. З 1993 г. жыве ў Англіі.

[2] Надсан Аляксандр (сапр. Бочка; 1926–2015), уніяцкі святар, рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч беларускага замежжа. Магістр тэалогіі. Дырэктар Беларускай бібліятэкі і Музея імя Ф. Скарыны ў Лондане. Ураджэнец Беларусі.

[3] Кармілкін Уладзімір Паўлавіч (1934–2002), беларускі фатограф.

[4] Мароз Уладзімір Вікенцьевіч (н. 1953), беларускі паэт, кінадраматург. У 1988–1998 гг. у студыі дакументальных фільмаў «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1994).

[5] Навуменка Іван Якаўлевіч (1925–2006), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік РБ (1995). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Доктар філалагічных навук (1969). Член-карэспандэнтАН БССР (1972). Акадэмік АН БССР (1980). Прафесар (1971). З 1992 г. саветнік пры прызідыуме НАНБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1972).

[6] Машэраў Пётр Міронавіч (1918–1980), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). У 1965–1980 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

нае з пятлёй на шыі беларуская культура, каму трэба гэта ўсё? Можа, трэба, каб бачылі, што такое саўковыя пісьменнікі ў чыстым выглядзе. Але ж няма сродкаў зараз і часу на раскошу гэткую. А рэдактар [Законнікаў] сам з цыкуноў маленькіх. Яму гэта калі не баліць, дык свярбіць. Правільна сказаў Васіль, што лакеяў заўсёды цікавілі начальнікі. Што ядуць, як спяць.

*11 красавіка, чацвер*

У СП сустрэча з сораўскімі з цэнтра. Добра, як і заўсягды, казаў Васіль пра сытуацыю ў Беларусі, пра ВПК, які доіць ФС пад выглядам развіцця фундаментальнай навукі. Пра камуністаў як выдатных імітатараў. Карлас — грунтоўна й цікава. Павінны былі быць з Васілём на прэзентацыі акадэміі мастацкай. Не пайшлі. Фелікс Янушкевіч[1] — прэзідэнт, чалавек […] Краўчанкі[2], Краўчанкі, які кіраваў разбоем над дзецьмі, што гукалі вясну[3], камуніст […]. Яшчэ там сын каваля, які заваліў […] праект помніка, дакладней, сам помнік у Курапатах[4]. Гэта так званы прафесар Вася Шаранговіч. Ну, там, вядома ж, будзе лагойскі […] Нілок. Лепей не хадзіць і не псаваць сабе нэрваў. У нас з’явіліся абавязковыя ўдзельнікі ўсіх мерапрыемстваў, дазволеных рэжымам. Гэта Ніл, […], крумкач адраджэння Арлоў Вова.

*12 красавіка, пятніца*

Званіў Васіль. У «Свабодзе» паведамленне, што ён старшыня камітэта «Чарнобыльскага шляху», што мае адбыцца дваццаць шостага. Гэта ўжо блізка да правакацыі. Васіля яўна штурхаюць пад крымінал. Штурхаюць людзі [Лукашэнкі], але локцямі дэмакратаў з БНФ. Тым болей што дзеянняў з ім не ўзгадняюць, а ставяць яго перад фактам, як 24 сакавіка. Калі Васілю даць пратэст, дык розныя крошкі Цораса кшталту Айзенштад[5] загалосяць пра раскол у БНФ. Васілю лепей не йсці. Хай ідуць маладзейшыя.

---

[1] Янушкевіч Фелікс Язэпавіч (н. 1954), беларускі мастак. Брат Я. Янушкевіча.

[2] Краўчанка Пётр Кузьміч (н. 1950), беларускі дзяржаўны дзеяч, гісторык, дыпламат. Кандыдат гістарычных навук (1976). У 1995–1996 гг. дэпутат ВС РБ. З 1995 г. нам. старшыні, член Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» (1995–1998).

[3] 20 красавіка 1986 г. у Траецкім прадмесці гараджане адзначалі свята «Гуканне вясны». Падгавораныя былыя воіны-«афганцы» — нібыта тут сабраліся ледзь не маладыя неафашысты — збілі навучэнцаў Мастацкай школы імя І. Ахрэмчыка, якія вадзілі карагоды. Падазрэнне, што правакацыю зладзілі не без «падначкі» гаркама, падала на П. Краўчанку, сакратара Мінскага гаркама КПБ (1985–1990).

[4] Курапаты — месца масавых расстрэлаў савецкіх грамадзян у часы рэпрэсій 30 —40-х гг. XX ст. на паўночнай ускраіне Мінска.

[5] Айзенштад Галіна Іосіфаўна, беларуская журналістка.

Быў з Карласам у Інстытуце Гётэ[1] ў Веры Багальянц[2]. Каб дапамагла з візай у Нямеччыну. Абяцала. Традыцыйная нямецкая стрыманасць і дакладнасць ва ўсім. Заходзіўся да Зуёнка, каб прыспешылі ў саюз прыняць Варатынскую[3]. Васіль у мяне (Зуёнак Васіль) пытаецца, хто з так званых пісьменнікаў ездзіў з [Лукашэнкам] прадаваць Беларусь. Калі Чаргінца[4] лічыць пісьменнікам, дык ён, відаць, ездзіў, бо цяпер левай ці правай нагой [...] Ціцянкова[5] робіць. Казаў Зуёнак, што Рылатка[6] званіў, шукалі Шамякіна. Хацелі старога [...]. Нават да яго дайшло нешта. З мастакоў былі Стальмашонак[7], [...] Паплаўскі[8] Жора й быццам бы Май Данцыг[9]. [...].

*13 красавіка, субота*

Сустрэў Генадзя. Ён чакаў унука. Яго павінны прывезці на «доджы». Зяць таксама бядняк. Грошы да грошы. Казаў, што [Замяталін] даў загад, каб «Вожык» серыю фельетонаў зрабіў супроць нацыянал-радыкалаў. Генадзь казаў, што заказалі Слуку й іншым. Два цэкоўцы хай хлеб аддзячваюць. «Усё, апроч...»[10]

* Дамініка звоніць званочкам: «Мяне тут няма, гэта мой дух ходзіць».

*14 красавіка, нядзеля*

Вялічка! [Праваслаўнае.] Хрыстос васкрос! Яны рыфмуюцца: Вялічка й Дамінічка. Вялікоднічалі ўсёй раднёй. Дамінічка пасля малявала мне

---

[1] Інстытут імя І.-В. Гётэ у Мінску — культурны цэнтр германскай грамадскай арганізацыі па вывучэнні нямецкай мовы (з 1994).

[2] Багальянц Вера (пам. 2017), дырэктар Інстытута імя І.-В. Гётэ.

[3] Варатынская Галіна Аляксандраўна (н. 1953), беларуская журналістка, паэтэса. У 1974–2013 гг. супрацоўніца, заг. аддзела (1981–1991) ушацкай раённай газ. «Патрыёт».

[4] Чаргінец Мікалай Іванавіч (н. 1937), беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Генерал-лейтэнант унутранай службы (1993). Кандыдат юрыдычных навук (1977). Прафесар (2002). У1996 г. памочнік кіраўніка справамі прэзідэнта, у 1997 г. член Савета Рэспублікі. Заслужаны работнік МУС СССР (1977), заслужаны дзеяч культуры РБ (2014).

[5] Ціцянкоў Іван Іванавіч (н. 1953), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1994–1999 гг. кіраўнік Упраўлення справамі прэзідэнта.

[6] Рылатка Уладзімір Пятровіч (н. 1948), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1996–2010 гг. 1-шы нам. міністра культуры.

[7] Стальмашонак (Сцельмашонак) Уладзімір Іванавіч (1928–2013), беларускі мастак, педагог. У 1957–2000 гг. выкладчык БДАМ. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1981). Народны мастак БССР (1988).

[8] Паплаўскі Георгій Георгіевіч (1931–2017), беларускі мастак. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1977). Акадэмік Расійскай акадэміі мастацтва (1991). Акадэмік Нацыянальнай акадэміі НАНБ (1995). Народны мастак РБ (1997).

[9] Данцыг Май Вольфавіч (1930–2017), беларускі мастак. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны мастак РБ (1995). З 1958 г. выкладчык БДАМ. Прафесар (1980). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968).

[10] Гл.: Усё, апроч... (13.04.96) // Босая зорка. С. 97.

пакой, нас за сталом. Самае светлае свята Вялічка. Але ў Менску яно халаднаватае. Мне Вялічка заўсягды ў Вушачы. Там і сонейка йграе, там і яечка коціцца па зямлі. Там мама. Там матка хросная. У Менску як успамін пра жывое свята. Хрыстосаваўся з Васілём па тэлефоне. Вечарам ён мне пажадаў, каб палітыка не снілася. Дарэчы, сказаў, што Дудараў напісаў п’есу для [...] Яроменкі. [...]. Яшчэ быў у нас культмасавік-пацешнік Макаёнак[1]. Дый рак крыві нацыі Крапіва. Яшчэ той камуніст. Усе яны, як Машэраў, пасрэдныя акторы прыгоннага тэатра КПСС. Перарабіў канцоўку верша:

*У тым нідзе...*

Ці шмат чакаць,
Ці мала засталося.
Хай той, хто зводзіў,
Нас і развядзе.
І, можа, ў тым
Нябачным нам нідзе,
Як недзе тут
Нахіляцца калоссі,
І вечны цень
Два цені павядзе...

[У 1-м варыянце:]

...Нахіляцца калоссі,
З якіх слязьмі
Апошнія зярняты
Аплачуць незваротнасць
Нашай страты...

*12–14 красавіка*

А гэты верш сёння дапісаў. «Ля прыёмнай»[2]. Як няма здароўя, як наўкол гэтакі змрок, дык усе самыя вясёлыя й сакавітыя святы крыху сумнаватыя й посныя, прэсныя. Уся радасць свята, як і жыцця наогул, дадзена адчуць толькі маладым. Але яны часта гэтага не заўважаюць. Бо вясёлыя. Бо здаровыя. Дай Божа здароўя й запалу беларускім маладым!

---

[1] Макаёнак Андрэй Ягоравіч (1920–1982), беларускі драматург. Народны пісьменнік БССР (1977). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1974).
[2] Гл.: Ля прыёмнай (14.04.96) // Ксты. С. 294.

*15 красавіка, панядзелак*

Хворы, але перакладаў Ганада. Нешта накшталт прозы, цікавая сваім этнаграфізмам. Проста й уражліва. Анатоль Белы хваліўся, што меў размову з [Лукашэнкам] наконт помнікаў, наконт ягонага музэю. Нават [Лукашэнка] здзівіўся, што Беламу не трэба грошы. За свой кошт. Адкуль? [...]. «Пачалося»[1].

*16 красавіка, аўторак*

На працы трохі адзначылі Вялічка. Учора адзін этналінгвіст дагнаў слова *валачобнікі* да балцкіх і кельцкіх каранёў. А можа, зусім проста: вялічобнікі, якія адзначалі Вялічка, вялічылі яго. Ну, гэта народная этымалогія. [...]. А тут яшчэ прачытаў [...] прадмову Конана[2] да Збора [твораў][3] Ніла.

* Дамініка: «Добра было б, каб ты, баба, ела, а я чытала табе казкі».

*17 красавіка, серада*

Перад ад’ездам заходзіўся ў выдавецтва Вальдко Калінін. Едзе зноў працаваць у Лёндан. Жыве там у беларускім асяродку. Дачушка Хрысцінка вучыцца. Толькі дзве мовы ва ўжытку — беларуская й ангельская. За рускае слова — ці посуд мыць, ці пяцьдзесят цэнтаў. І вясёла, і патрыятычна.

Заходзіла першакурсніца журфака, яна нешта піша па нэалагізмах. Прыклады з мяне. Даўно не бачыў маладых дзяўчатаў гэтакае шалёнай прыгажосці. Маці беларуска, бацька балгарын з цыганскім дамешкам. Вальдэмар аж млеў. Мне таксама кроў у галаву ўдарыла. Старэю, значыцца. Завуць Карына. Прозвішчам Дзмітрава. Пасля шалёнай прыгажосці слухаў шалёнае выступленне па радыё камуніста Алеся Савіцкага[4]. Праўду сказаў Васіль, што адчуў зорны час. Са звярынай злосцю да Быкава, Пазьняка, да святарнага нашага Бел-Чырвона-Белага сцяга. [...].

Васілю пазванілі з запросінамі на сустрэчу інтэлігенцыі з Шарэцкім[5]. Адразу адрэзаў: «Мне няма пра што з ім гаварыць. Услед за прэзідэнтам

---

[1] Гл.: Пачалося (15.04.96) // Ксты. С. 296.

[2] Конан Уладзімір Міхайлавіч (1934–2011), беларускі філосаф, гісторык, літаратуразнавец. У 1991–2011 гг. заг. аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Доктар філасофскіх навук (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).

[3] Гілевіч Н. Збор твораў: У 4 т. Мінск, 1996–2003.

[4] Савіцкі Алесь (Аляксандр Ануфрыевіч; 1924–2015), беларускі пісьменнік. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1970).

[5] Шарэцкі Сямён Георгіевіч (н. 1936), беларускі дзяржаўны дзеяч; вучоны-эканаміст. Доктар эканамічных навук (1984). Член-карэспандэнт Расійскай акадэміі сельскагаспадарчых навук (1991). Замежны член Украінскай акадэміі аграрных навук (1993). Акадэмік аграрных навук РБ (1996). У 1996–1999 гг. старшыня ВС РБ. З 2001 г. у ЗША.

паўтарае. Ёсць у нас камісары ад культуры кшталту Яроменкі». А мне пасля вызначыў чырвонага памешчыка: мяшок [...]. А Васіль амаль ніколі не ўжывае рэзкіх словаў. Давялі, значыцца.

*18 красавіка, чацвер*

Сазвоньваўся з Вушачай наконт чаўнара. У нас ужо вясна поўным ходам ідзе. Сёння Васілю званілі з нейкае турыстычнай фірмы, каб замежным турыстам лекцыю прачытаў. Ужо ашалелі. Сустрэў Яўгена Куліка[1]. Ён знайшоў мне лацінскі арыгінал паэмы Вісліцкага[2]. Трэба перакласці. Сёння ж пазванілі з філфака. Усё-ткі ганаровага доктара мне ўручаць 29-га. Трэба будзе й слова трымаць. «Апошняя радня»[3].

* Дамініка: «Не глядзі на жар-птушку, яна яшчэ красой не гатова».

*19 красавіка, пятніца*

Прыехала Ілона! Яе там добра прымалі. Цікава, што аўстрыякі, якія памятаюць савецкіх вызвольнікаў, пытаюцца, чаму людзі з саюза не чорныя. Яны распавядалі, як гэныя называлі ўнітаз пражэрлівай машынай. Мылі ў іх шкарпэткі, а потым спускалі ваду, і шкарпэткі, і анучы глынаў унітаз. Яшчэ са скураных вокладак старадрукаў рабілі сабе пашлапні. Гэта, вядома, былі азіяты дый чыста расійцы. Сёмуха прынёс улётку, дзе заклікаюць у дзень нараджэння Вовіка Ульянава прыйсці ды ўступіць у новую рабоча-сялянскую партыю. Мала тых камуна[...], што ўжо кішаць [...]. Званю Васілю. Кажа: «Самы вялікі фантазёр у бальшавікоў быў Сталін. Ён прыдумляў, яны паўтараюць. Самі нічога новага не выдумаюць».

Прыходзіў Яўген Кулік. Прынёс лацінскі арыгінал паэмы Вісліцкага. Трэба засесці за пераклад. Бедны, галодны. Кажа: «Мой аддзел у гастраноме малочны, і то не ўсё магу. Пра дарагі хлеб і думаць не даводзіцца. Гляджу, калі танней». Трэба лекі. Лекаў няма. Няма й грошай. А гэта рэдкі беларус. Шчыры. Зацяты. Летуценны. Неўзабаве зробіцца лятучым ценем.

*20 красавіка, субота*

З раніцы на працу прыцёгся дырэктар[4] будучага музея Уладзіміра Караткевіча ў Воршы. Былы рэдактар раёнкі. Якраз такіх Уладзімір і не любіў. Кажа, што ўлады горада абяцаюць двухпавярховік-асабняк у самым цэнтры. Хай бы слова стрымалі. Казаў, што хочуць падаваць хадайніцтва пра пасмертнае наданне годнасці народнага пісьменніка Уладзіміру Ка-

[1] Кулік Яўген Сяргеевіч (1937–2002), беларускі графік.

[2] Вісліцкі Ян (каля 1485–1520-я), паэт-лацініст ВКЛ і Польшчы.

[3] Гл.: Апошняя радня (18.04.96) // Босая зорка. С. 40.

[4] Памылка; Пярвушын не стаў дырэктарам музея У. Караткевіча.

раткевічу. Гэта нябожчыку нічога не дадасць. Ён і так народны й любімы народам. Але як хочуць, хай хадайнічаюць. Але перад кім? Перад [Лукашэнкам]? Пісаў вітанне Веры Рыч[1] з нагоды 60-годдзя. Званю Васілю. Кажу, што неўзабаве 70 год Сняжковай[2] — дзяржаўнага дзеяча БССР (так у численніку напісана). Васіль: «Дзяржаўных дзеячаў шмат, а дзяржавы няма». Карласу перадаў тэкст прывітання па тэлефоне. Ён распавёў, што ў «Беларускай ніве» (вялікадзяржаўніцкай, русіфікатарскай) нейкі недапечаны […] распінаецца супроць Сораса. Нас з Васілём называе масонамі. Даліся гэтыя масоны й праваслаўнай, і камуністычна-кэдэбісцкай вярхушцы. Васіль смяяўся, калі прапанаваў падаць у суд: чаму ад ярлыка адарвалі слова *жыд*? У камуніста-гэбістых заўсягды: *жыдамасоны.* Апошнім часам, калі званю Васілю, пачынаю жартам прасіць інтэрв’ю, бо яго зусім загналі ўсе гэтыя інтэрв’юэры. Сёння кажу: «Гэта Вам з радыё Эфіопіі». Васіль адказвае лагодна: «Калі ласка. Кожны эфіоп — неарэлізаваны Пушкін».

*Напамінанне*

З Дземянца прыплылі бабры,
Крумкачы прыляцелі ў Завыдрына,
Села-пала сарока
З Востраў-Сарочына.
Прашапталі вятры,
Што згалелі бары,
Што ім, бабрам, знадакучыла
Доля сірочая.

Гэта рупяцца ўсе
Развітацца са мной,
Адчуваючы мае ды свае адыходзіны.
Хочуць суцешыць мяне,
Самі сумуючы.
Каб ад здрады я засланіўся віной,
Каб хоць там нам усім лагодзіла,
Дзе ўжо не сагрэешся,
Вечна зімуючы…

*21 красавіка, нядзеля*

Дамінічка раніцай з вясёлым крыкам паклікала мяне ў пакой да сябе: «Дзедзя! Ты будзеш шчаслівы. Гэта наш бел-чырвона-белы сцяг!» І паказвае мне колькі кубікаў, што Ілона прывезла з Аўстрыі. Якраз бел-

[1] Рыч Вера (1936–2009), англійская перакладчыца, журналістка, гісторык.
[2] Сняжкова Ніна Лявонаўна (1926–2008), дзяржаўны дзеяч БССР. У 1970-х гг. нам. старшыні СМ БССР.

чырвона-белыя. Цэлы дзень перакладаў прозу Ганада. Вечарам пайшоў пахадзіць. Брудна й няўтульна. Нідзе няма прытулку. То парсючыстыя новыя [бізне]смены, то прапахлая маркаціннем падмоладзь, ці подмаладзь. Ішоў дамоў з цёмным. На некалькіх дрэўцах не выцерпелі лісцінкі й раскруціліся. Праз гэтую яшчэ не зусім зеляніну па-маладому глядзіцца здзіўленае брыво маладзічка. Ілонка распавядала, як жыла ў фермера ў Аўстрыі. Як яе кармілі, вазілі па замках. Добра, што яшчэ болей пачула ў сабе беларуску. Мая кроў. Нашая парода. А яшчэ ёй на вакзале пакістанец навaражыў, што ў 35 гадоў будзе з грашыма, забагацее. Чакаць мала засталося. Сапраўды, мае надзею прадаць сучку ў нядзелю. У галаву лезе, як раней крычалі буслу: «Буцян, буцян, круці кола, Дам куры′цу на Міколу!» Цяпер, відаць, трэба: «Бусел, бусел, круці кола, Дам бутэльку Coca-Cola!»

З мінорным настроем пісаў верш. Лаўлю сябе, што атрымліваецца, як у анекдоце: усе пра яе й крышку пра надвор'е. Так некалі казалі пра тэлеперадачы пры Брэжневе[1]. [...]. Заўтра дзень уродзін [Леніна], а 20-га быў Адзік [Гітлер]. Два фюрэры амаль дзень у дзень нарадзіліся. Юзік [Сталін] толькі ў самую даўгую ноч. Гэтая даўгая ноч у нас дасюль доўжыцца.

«Хаваюць...: Пылінку вечнасці сваёй жыццё...» [у дзённіку].

*22 красавіка, панядзелак*

Нарэшце скончыў перакладаць прозу Ганада! Званіў Карлас: сапселы стукач-правакатар Бажко[2] па радыё палівaў ПЭН-цэнтр. Заварушыліся камуністыя вужы. Учора камуністычны дэпутат Шчукін[3] у «Сельскай газеце»[4] супроць Сораса. Выходзіць, я — масон. Дзякуй камуняку за гэтакі гонар. Абы не камуніст. Чырвоны ад чужой нявіннай крыві. Сёння ўключыў на момант радыё (уключаць яго ўжо непрыстойна), нейкі кволенькі журналістык кажа пра Рубцова[5] як пра вялікага паэта XX стагоддзя, як пра чыста расійскага ў піку Сяльвінскаму[6], Пастарнаку[7], Мандэльштаму[8] дый іншым, хто нарадзіўся на асфальце, а таму не мае расійскае, рускае

[1] Брэжнеў Леанід Ільіч (1906–1982), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1964–1982 гг. 1-шы сакратар, Генеральны сакратар ЦК КПСС, адначасова з 1977 г. старшыня Прэзідыума ВС СССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1961), Герой Савецкага Саюза (1966, 1976, 1978).

[2] Бажко Алесь (Аляксандр Цімафеевіч; 1918–2013), беларускі паэт, празаік. Заслужаны работнік культуры БССР (1977).

[3] Шчукін Валерый Аляксеевіч (н. 1942), беларускі журналіст, праваабаронца.

[4] «Сельская газета» — грамадска-палітычная газ. (1962–1991), з 1991 г. — «Белорусская нива».

[5] Рубцоў Мікалай Міхайлавіч (1936–1971), рускі паэт.

[6] Сяльвінскі Ілья (Карл) Львовіч (1899–1968), рускі паэт.

[7] Пастарнак Барыс Леанідавіч (1890–1960), рускі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1958, ад якой быў вымушаны адмовіцца).

[8] Мандэльштам Осіп Эмільевіч (1891–1938), рускі паэт, перакладчык. Рэпрэсаваны.

душы, бо толькі той, хто нарадзіўся на траве, чыста рускі душой. Ну, панове жыддзі! Пачынаецца. Нашае нацыянальнае адраджэнне бальшыні з вас не ў нюх. А вось расійска-імперскі бот выспятка даваў добра. Баяліся, што зад астыне. Не бойцеся. Расійскія вялікадзяржаўнікі за чысціню крыві. Якой у іх ніколі не было. І нацыя, і мова — мяшанцы. Як толькі з Пушкіным, з Лермантавым[1] [быць]? Гэта як белкамунякі клянуць Пазьняка, бачце, у эміграцыю падаўся, калі радзіме цяжка (ад іх жа, камуна[...]) [...]. Рубцоў неблагі паэт, але калі называць яго вялікім рускім паэтам XX стагоддзя, дык якая ж, выходзіць, жабрачка тады расійская паэзія. Дрэннаму танцору й яйцы замінаюць. А [...] вялікадзяржаўнікам усе нацыяналы. Яўрэі найперш. Бо хоць усярыся, а нацыя таленавітая. Не кім небудзь, а Бібліяй названа абранай Богам нацыяй.

Пісаў «дурноціну»: «Каб бачылі!»[2] Цемра наўкола гусцее. Цемра хоча і ў нутро запаўзці. Так ніколі, відаць, і не будзем Дзяржавай, не возьмем таго свайго, што нам паслана Усявышнім. Што мы за грэшнікі, што нас гэтулькі часу толькі нішчаць, прадаюць, а слабых на нэрвы купляюць, робяць ваўкалакамі. І русіфікацыя на нас, і паланізацыя на нас, і бальшавізм на нас, і атэізм на нас. Ці магчыма гэта ўсё вытрымаць, вытрываць, выцерпець, выстаяць, выжыць? Ды, відаць, так магуту Нябеснаму трэба. Толькі Ён трымае нас, крывічоў, альбо беларусаў. А паэт у Беларусі — гэты нешта паміж мудрацом і блазнам, крэзам і жабраком. Як казала мая бабуля Малання Несцераўна Гайко (маміна дзявоцкае прозвішча таксама Гайко): ёсць, што гаварыць, ды няма каго слухаць. Бо не адно пакаленне яшчэ й наперад падпала пад камуна[...] селекцыю, а гэтыя селекцыянеры магутнейшыя за вялікадзяржаўнікаў царскіх. Як у папеўцы: без нас нас жанілі з Расіяй і колькі ўжо гадоў прымушаюць любіць тое, што не міла. Лепей нармальны развод, чымся нялюбы шлюб.

* Дамініка запіхве нож у драўляную стойку пад нажы. Самы доўгі й дзюбкай тырчыць. Яна: «Мне здаецца, што гэты нож не павінен удзельнічаць у гэтым калектыве... Калі я была анёлачкам, лётала па небе, глядзела ўніз і думала: «Хоць бы мне папалася такая добранькая бабуля, як Валя... Рак, мак і друшляк — тут аднолькавыя літары ёсць... Чаго ты, дзедзя, шаптаеш?»

*23 красавіка, аўторак*

Свята Радаўніца. Мамачка і ўсе крэўнікі мае, са святымі спачывайце! Душа мая на Бутаўскім, і на ільназаводскім, і на лясным Кавалеўскім магільніках. І там, дзе бацька мой косці склаў неаплаканы, неабмыты, не ўшачаны ў апошнюю дарогу. Ніхто не сцяслярыў труну цеслю. Каб не па-

[1] Лермантаў Міхаіл Юр’евіч (1814–1841), рускі паэт і празаік.
[2] Гл.: Каб бачылі! (22.04.96) // Ксты. С. 312.

ганіць ціхі дзень, [...] пайшоў да Самсона. У яго на балконе расце палын. Прынеслі з зямлёй. Зазелянеў першы. Пахне п’яна й журботна. Па дарозе дамоў і дома пісаў верш, у думках стоячы на Бутаўшчыне: «Радаўніца»[1]. Заводзіў новы нататчнічак, у старым знайшоў незакончаны верш, дапісаў:

«Бела: Як дружная рунь...» [23.10.95, Ушачы — 23.04.96; у дзённіку]. А яшчэ адна «дурноціна» зрання ў галаву ўлезла. На размінку:

*Ведалі!*

Ласаваліся свежынай і дзяды.
Ведалі, што не навязне:
Мяса з нажа,
Рыба з вады
І маладзіца з лазні...

* Дамініка: «Я ляльцы валасы ўхарашу».

*24 крсавіка, серада*

На працы адзначалі ад’езд Ганада з тургрупай у Італію. З Андраюком зноў пра кнігу Васіля. Толькі галавой махае, як вол перад абухом. Дадзена ўказанне [...], ён і выконвае. Васіль заўтра ляціць у Нямеччыну.

Уразіла аблічча, асабліва вочы Хрыста[2]. Партрэт зроблены сучаснейшай тэхнікай, зняты з плашчаніцы. Незямныя вочы. Праз вякі глядзяць, праз нас. Такія вочы нельга ні намаляваць, ні прыдумаць, ні знайсці ў жыцці. Глыбіня прадонная. Як два абразы, у якіх увесь.

*25 красавіка, чацвер*

На працы ўзяўся перагледзець рукапіс Генадзя, бо трэба колькі старонак напісаць у «Маладосць». Уключыў і хельсінскі фестывальны дзённік, і Нафтабуд, і нават песні пра [...] Чэ Гевару[3] [...].Хадзіў да Алеся ў ФС. Трэба будзе праводзіць конкурсы. Заявак дужа багата. Усім хочацца, каб хоць акрайчык ад пірага Сораса. А з галавой ў мяне жах. Ні хадзіць, ні ляжаць. Толькі ціха вар’яцець. Ды нельга. Дамінічка маленькая. Хто яе глядзець будзе? Ілона мне зноў распавяла, што ёй наваражыў нейкі пакістанец праславіць сваю краіну. Таленавітая. Шмат у галаве. А ў выніку мае шанц звар’яцець. Мне як бацьку слухаць такое, вядома, страшна. Сам ледзь не вар’ят.

---

[1] Гл.: Радаўніца (23.04.96) // Босая зорка. С. 41.

[2] Гл.: Вочы (24–25.04.96) // Босая зорка. С. 8.

[3] Гевара дэ ла Серна (Чэ; 1928–1967), лацінаамерыканскі рэвалюцыянер, урач, дзяржаўны і палітычны дзеяч Кубы. У 1966–1967 гг. кіраваў партызанскім атрадам у Балівіі; забіты, трапіўшы ў палон.

*26 красавіка, пятніца*

Сёння дзесяць гадоў, як дыхнуў на грэшную Беларусь д’ябал. Гэта не на адно пакаленне. Гэта кара Гасподняя. А людзі ўсё роўна не задумваюцца. [Лукашэнка] па радыё паабяцаў, што яшчэ за ягоным прэзідэнцтвам будзе падымацца цаліна Чарнобыльшчыны. Мышленне [...] усё яшчэ савецкае. Пра цаліну ўжо не ўспамінаюць сур’ёзна. Мікіта [Хрушчоў] і ў Манголіі заклікаў узняць цаліну. [...]. Сёння Чарнобыльскі шлях, а я не магу. З галавой нешта страшнае робіцца.

«Хочацца»[1].

*27 красавіка, субота*

З раніцы да паўдня з хвосцікам засядаў у ФС. Яшчэ сядзець магу, а хадзіць доўга і ў натоўпе не магу. Не пераношу вялікія зборні люду. Генетычна на правадыра камуністычнага крою не запраграмаваны.

*28 красавіка, нядзеля*

Качаўся цэлы дзень з галавой. Зусім канчаюся. Мала, відаць, ужо засталося. Мусіў быць на дэманстрацыі, але не змог. А каму даказваць, што хворы? Сабе хіба не трэба. Збоку выглядае, што спалохаўся, прыкінуўся.

*29 красавіка, панядзелак*

Папёрся да 9.30 у ўніверсітэт на пасяджэнне рады. Выявілася, што пераблытаў. На гадзіну пазней. Рада па пытаннях хіміі ў змрочнай зале ўніверсітэта. Уручылі мне дыплом ганаровага доктара, як даярцы на калгасным сходзе. Усё на калгасны манер [...]. Я, дурань, думаў, што ўрачыста. Ну, вядома, гэта звязана з Адміністрацыяй [...]. Праз болей чым паўгода пасля згоды той жа рады ўганараваць. Гэта дзякуй Лойку[2] й Капуцкаму[3], былому рэктару. Ішлі з Лазоўскім[4]. Хваліўся, што як намеснік дэкана перажыў 8 рэктараў і 4 дэканаў. Мусіць жа чалавек мець радасць. Вечарам ФС. [...].

---

[1] Гл.: Хочацца (26.04.96) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 36.

[2] Лойка Алег Антонавіч (1931–2008), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык і літаратуразнавец. У 1956–2004 гг. выкладчык філфака БДУ. Доктар філалагічных навук (1969). Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1989). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1990), прэміі імя У. Пічэты (2003).

[3] Капуцкі Фёдар Мікалаевіч (1930–2017), беларускі хімік. Доктар хімічных навук (1984). Член-карэспандэнт АН БССР (1989). Акадэмік НАНБ (1994). У 1990–1996 гг. рэктар БДУ, з 1996 г. у НДІ фізіка-хімічных праблем пры БДУ. Заслужаны работнік вышэйшай школы (1976).

[4] Лазоўскі Уладзімір Міхайлавіч (н. 1934), беларускі мовазнавец. Кандыдат філалагічных навук (1966). Прафесар (1997). У 1966–1996 гг. нам. дэкана філфака БДУ.

*30 красавіка, аўторак*

Званю Ірыне Міхайлаўне, адказвае, і тут жа чую голас Васіля. Прыехаў з Нямеччыны. Болей, казаў, не паедзе. Добра ездзіць, калі душа спакойная, а калі душа пакінута тут, а творыцца невядома што. Немцы спачуваюць. Прыгадаў, як Генiюш казала, што не трэба ні хаваць нічога, ні старацца, бо гэбісты ўсё, што хочуць знайсці, прынясуць з сабой. Наконт заўтрашняй маючай адбыцца маніфестацыі: не па нашай спецыяльнасці барыкадныя баі… Засядаў у ФС. Няма ніводнай праграмы, дзе не было б заяўкі лабазніка ад культуры дарматурга. Яшчэ адзін груган адраджэння.

*1 травеня, серада*

Два дні самыя агідныя ў мяне з часоў чырвонай імперыі. Першамай і кастрычніцкая сырапеня. Зяўсягды выганялі дэманстраваць адданасць партыі рыцэдывістаў. Пачынаючы са школы. Ухіляўся як мог. Але раз на раз не выпадала. БНФ хоча зноў браць удзел. Ні пад якім соусам не пайду. Так як і ні на якіх умовах, ні за якую ідэю разам з гайнаўскім […]. Галава разломваецца. Чытаю цыганскі фальклор. Любы народ багаты сваёй культурай. А яе хочуць украсці, падмяніць. Раблю нізку на аснове цыганскага.

*Цыганскі лёс*

Каб воз ягоны перакуліўся
І галава пайшла пехатой! —
Праклён цыганскі.
А мне ўявіўся
Цыган бясхаты, пракляты той,
Што спанталычыўся недзе ў полі
Ці ў таўстарэбрай пушчы глухой.
Разбіла лоб валачобніца воля,
Як яйка, што ўпала на дол пухой.
А галава пехатой пачасала,
Бо з’ехала з глузду,
Як з гаці воз.
У кублах плача ад солі сала.
З сябе смяецца цыганскі лёс.

І адзін за адным пайшлі вершы-перапевы. Лёгка. [Цыкл «Блуканец лёс»].

*2 мая, чацвер*

На працу прыходзіў Белы з праектам ордэна «Гонар Айчыны». Энэргіі ягонай хопіць на сотню. Скардзіўся, што Кулік, Шатэрнік[1] ды іншыя крытыкавалі яго за помнік Кірылу Тураўскаму[2], які Белы падараваў Філарэту. А потым у Белага новая просьба — хоча ў Саюз пісьменнікаў. Параіў, каб праз сэкцыю публіцыстыкі афармляўся й рэкамендацыі браў у публіцыстаў [...], тым самым адразаючы просьбу ад мяне й Васіля. Калі потым званіў Васілю й сказаў жаданне Белага, Васіль сумна заўважыў: «Навошта гэта яму? Я, напрыклад, хачу выйсці ў гэтага нашага саюза. Людзі сядзяць у турме, няхай бы голас падымаў у абарону, а не мітаўся».

Яшчэ перакладаў я цыганскія песні. Нізку так і назаву — «Цыганскі лёс».

*3 мая, пятніца*

Пазваніў Васіль [на працу], каб я выйшаў. Сустрэліся. Меў клопат. Дапамог другі Васіль [Сёмуха], мой любімы казёл. Крыху праводзілі Васіля Вялікага. Развітваемся. Кажа: «Гэта як перад смерцю, шкадуеш, што зрабіў мала й не так». Божухна, падтрымай нашага апостала! Ён у нас адзін. Усявышні пасылае беларусам самых лепшых прарокаў і апосталаў рэдка, але ў самы час, калі ўсё рушыцца. Каб уберагчы народ.

Вечарам ФС. Сасноў[3], выходзіць, назваў Шчукіна акупантам. Той запярэчыў, што ён — вызваляльнік. Тады Сасноў дадаў: «Адны акупанты сышлі, другія іх змянілі». Быў праект арганізацыі імя лагойскага [...]. Канферэнцыя. Адзін з раздзелаў: «Абарона інтарэсаў беларускамоўнага пакупніка». Выданне нечага. [...].

*4 мая, субота*

Дамінічка будзіла мяне раніцай салаўём, які прывёз Васіль з Нямеччыны. Кажа: «Свішча, як салавей, а падобны да вераб'я». Васіль перадаў мне ўчора два гальштукі, гарбату й белы капялюш ад спёкі. Гэткі каланіяльны варыянт. Я ў ім стопрацэнтовы азіят. Радыё перадало, што Алесь Савіцкі растлумачыў, дзе канюшына, дзе бавоўна ў [...] гербе, і за гэта — 50 мінімальных. Хай яны яму прыдадуцца на крука. А прыз «Залатое пяро» далі наогул чалавеку, які толькі й распісвацца ўмее, Яроменку. Тэатр абсурду.

---

[1] Шатэрнік Аляксандр Сяргеевіч (н. 1940), беларускі скульптар. Гл.: Алесь Шатэрнік // Дуліна ад Барадуліна. С.14.

[2] Кірыла Тураўскі (каля 1113 — пасля 1190), беларускі і ўсходнеславянскі царкоўны дзеяч, пісьменнік, багаслоў.

[3] Сасноў Аляксандр Віктаравіч (н. 1947), беларускі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Кандыдат эканамічных навук. У 1994–1996 гг. міністр працы.

Учора Васіль сустракаўся з Сагалаевым[1]. Зводнікам быў утомлёное солнце Някляеў. Вялікадзяржаўнікі — паняцце медыцынскае, псіхіятрам праца. Пазваніла [Валянціна Кірылаўна] жонка Хадыкі, каб напісаў на ймя пракурора, паручальніцтва даў[2]. Напісаў. Васіль таксама напісаў. Прыязджаў на прыпынак трамвая сынок Хадыкаў[3]. Чысты, мілы, разумны, цвёрды беларус. Васіль нагадаў, як таксама і жонкі пасаджаных рабілі пісьмы гэткія. І нічога не дапамагала.

Андраюк круціць галавой, як вол перад абухом, а Васіля не падпісвае. Трымае ўказанне ад […] розных савіцка-пташнікаў. Распаведаў, што ў […] Зуёнка толькі й клопату, каб заплацілі, каб перапісалі дату здачы ў набор, у друк, каб заплацілі па новых стаўках. Раіў сказаць, што справа падсудная. Дык ведае, што не. […] Лукша яму такія хітрыкі робіць. Пра якую літаратуру, пра якую лінію Саюза пісьменнікаў можна казаць. Некалі нехта з цэкоўскіх дварнякоў зваў: *піц*ьменнікі.

*5 мая, нядзеля*

Зірнуў на балкон. Варона аднекуль прыляцела й скубе Дамінiччына трусячае футрачка сабе на гнездо. Нездарма пра варон цэлыя легенды. Хітрыя, як камуністы. У «ЛіМе» аж уцялячыла Галубовічава[4] слова, дзе ён ставіць трох побач, адпаведна цытуючы: Багдановіч[5], Дубоўка[6], Дранько. Потым пра сябе, пра Сыса[7] й […] Разанава. […].

* Дамініка: «Калі мне было тры гады й 18 сантыметраў… Я з’ела палову палавіны чвэрці супу… Мірон агрэсіўна-філасофскі кот, мог стаць дырэктарам чаго-небудзь».

*6 мая, панядзелак*

Аддаў пераклад з Блока «Ранне сівое» заказчыцы. Хадзіў да Палякова. […]. Цвяткоў пачаў казаць Палякову, што рэйтынг [Лукашэнкі] расце, на што Палякоў дадаў: «Расце й свярбіць». Цвяткоў замоўк. Наогул, па ўсёй краіне на май ідзе разгул рэакцыі. […].

---

[1] Сагалаеў Эдуард Міхайлавіч (н. 1946), рускі журналіст і тэлевядучы.

[2] Ю. Хадыка быў арыштаваны і зняволены на некалькі тыдняў за ўдзел у шэсці «Чарнобыльскі шлях-96».

[3] Хадыка Аляксей Юр’евіч, беларускі журналіст.

[4] Галубовіч Леанід Міхайлавіч (н. 1950), беларускі паэт, крытык. У 1994–2002 гг. супрацоўнік час. «Крыніца».

[5] Багдановіч Максім Адамавіч (1891–1917), беларускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец.

[6] Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч (1900–1976), беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962). Быў рэпрэсаваны.

[7] Сыс Анатоль Ціханавіч (1959–2005), беларускі паэт.

*7 мая, аўторак*

Званіў Цвяткоў, крыўдзіўся, што кабінет малы, што пахудаў на 3 кг, што едзе ў Ізраіль зарабіць грошы на кінастудыю. Званю Самсону, а той смяецца: «А як жа, ужо зрабіць кінастудыі заказ разам з замяталінымі — зрабіць фільм пра Яроменку, да 70-годдзя [...]. Дарэчы, Яроменку паставіў [Лукашэнка] старшынёю па дзяржаўных прэміях [...]. У бяздарным тэатры абсурду Яроменка, вядома, хвігура. І хвігура, і хвіга пачынаюцца аднолькава.

Васіль нешта хоча сказаць не па тэлефоне. Заўтра сустракаемся ў ПЭНе. Сёння ў Саюзе пісьменнікаў рада з удзелам выдавецтва. Андраюк прасіў быць, не пайшоў, як падумаў, што ўбачу [...] морды [...]. Варацакі.

Хоць з хворай галавой, але пісаў верш. Ратаваўся.

*Твой пярсцёнак*

Ты грэеш на маіх губах
Свае халодныя пярсцёнкі.

*З А. Блока*

І срэбра мае пах.
І крыўда любіць чутку.
Пярсцёнак на губах
Майму спрыяе смутку.

Ён, быццам на рацэ
Усхліп самотнай рыбкі,
Пярсцёнак на руцэ
Халодзіць водбліск зыбкі.

І шэпчаш ты з журбой,
Спагадваючы знічцы:
«Каб мы былі з табой,
Як пальцы ў рукавічцы...»

«Як пальцы ў рукавічцы» — пачуў. З запісу нейкае застольнай бяседы, запісанай Сяргеем Панізнікам[1]. Даў мне касэту, дзе й голас мамы маёй.

*8 мая, серада*

Андраюка не прымае новы міністр. Атрымаў указанні [...], якую лінію весці з нашым выдавецтвам. Васілёва карэктура ляжыць без руху.

[1] Панізнік Сяргей Сцяпанавіч (н. 1942), беларускі паэт, перакладчык. У 1982–1996 гг. супрацоўнік выд-ва «Юнацтва».

Хадзіў у саюз. НТВ [Масква] бралі інтэр'ю ў Васіля й Алексіевіч[1]. Я Святлане яшчэ раз патлумачыў, што ёй не можа забыць «Цынкавых хлопчыкаў» [...] Чаргінец. Потым нямецкія журналісты працавалі з Васілём і Святланай. На развітанне ў холе Васіль паведаміў сумную навіну — няма Зянона. Недзе знік. Каб не дай Бог зусім. Званіў Сяргей [Навумчык] з Варшавы. [...]. Працька[2], якая ўзначаліла Хельсінскі камітэт [...], несла на БНФ, што шмат няправільнага, што шмат, аж задужа, там супрацоўнікаў органаў. Да ўсяго й Карлас нясе на Сяргея. На Зянона ў маёй прысутнасці не мае смеласці. Ці мазгоў хапае.

*9 мая, чацвер*

Пазваніў Васіль і раіў на сойм не ісці. Рыхтуецца правакацыя. Сказаў перадаць Артуру[3], каб ягоныя ветэраны не ўскладалі кветкі, бо там запланавана правакацыя. Кажу Васілю, што перачытваў «Пакахай мяне, салдацік» у «Полымі», што ахінае аповесць журботнай ранішнясцю. Віншую з Перамогай і дзякую Усявышняму, што ўратаваў Васіля Беларусі. Васіль сумна: «Памылку Гітлера выправяць камуністы». Цікава распавядаў Карлас. Дударава (не радня [... Дударава]) як адвакат колькі разоў была ў Хадыкі. Крымінальнікам сказала, калі пакрыўдзяць прафесара, не будзе іх бараніць. Далі слова, што й волас з прафесарскае галавы не зляцяць. Калі што, скажыце, хто, і таго не стане. А сусед Хадыкі па цэлі рэцыдывіст штодня амаль піша вершы ў гонар Хадыкі. Лірыка і ў турме жыве. «Ясачка»[4].

*10 мая, пятніца*

Хадзіў у нямецкае консульства па пашпарт. Усё мне пераблыталі. Напісалі прыйсці пасля трох гадзінаў, а трэба было да трох. У консульстве мятуць двор, стаяць на дзвярах дужыя [...]хлопчыкі.

Добрую навіну пачуў ад Карласа — Зянон жывы! Ён быў у Кіеве. Беражы яго Бог! Званіў Васілю. Параіў, каб ён нараіў Алексіевіч перачытаць афіцыйныя, за іх напісаныя, успаміны — таміны цэлыя. Там яны самі распранаюцца. Да прыкладу, мой любімы Лабанок апісвае, як яны забівалі ў Літве, у так званым тыле ў ворага. [...]. Лабанок неаднойчы распавядаў,

---

[1] Алексіевіч Святлана Аляксандраўна (н. 1948), беларуская пісьменніца. Лаўрэат літаратурных прэмій СП СССР імя М. Астроўскага (1984), імя К. Федзіна (1985), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Нобелеўскай прэміі (2015).

[2] Працька Таццяна Сяргееўна (н. 1951), беларускі гісторык, грамадскі дзеяч, праваабаронца. Кандыдат філасофскіх навук (1983). У 1995–2008 гг. старшыня РГА «Беларускі Хельсінскі камітэт».

[3] Вольскі Артур Вітальевіч (1924–2002), беларускі паэт, драматург, перакладчык.

[4] Гл.: Ясачкі: Хлусня раскашуецца як гаспадыня... (9.05.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 329.

як кепскія партызаны атачылі касцёл пад час набажэнства ў Глыбокім. Калі вернікі выходзілі, з іх здымалі кажухі ды ўсё цёплае, валёнкі, боты. Як у рай рыхтаваліся, каб голыя йшлі. А чаго варты партызанскі атрад, казаў зноў жа Лабанок, які зваўся «Разгонись ды ё…сь». Сказаў неяк Васілю, як яго афармлялі ў дакументах. Васіль адказаў: «Запісалі атрадам імя Сталіна». «Ясачка»[1].

*Крадком*

Пасвяцца ў парку бадзёрыя казляняткі.
Смачна ласавацца першым лістком.
Зручна кару пагрызці крадком,
Збегшы далей ад рагатае маткі.

Маладуха вясна лічыць ціхія спадкі.
Клычыць неслухаў каза-дэраза.
Бабуля-казка хаваецца за
Дрэвы, дзе з ценьмі
Бадуцца лабатыя казляняткі.

Не дае мне спакою няпэўнасць Ілоны. Яна не працуе. […]. Светлая душа Дамінічка на каго пасля нас з Валяй застаецца? […]. Аж падумаць жахліва.

*11 мая, субота*

Закончыў нарэшце! — перакладаць вершы Ганада. Сёння й перадрукаваў сам на машынцы. Як гара з плячэй звалілася. Званіў Васіль. Прыехаў з лецішча. Хоць ён трошкі дыхнуў. Дзякуй Богу. Цікава, у «С[вободных] н[овостях]» паведамленне, што Някляеву другую прэмію пасля першай Яроменку — уручылі[2]. Баявы штык [Лукашэнкі], атрымліваецца. Васіль заўважыў, што раней усё выпучвалі, а цяпер у ценю трымаюць. Калі прыязджаў Сагалаеў, Васіль сядзеў з ім у Саюзе журналістаў. Някляйчык прачыніў дзверы й знік. […]. Як-ніяк сябра Палзотыча з прэзідэнцкай газеты. Сказаў Васілю, што Някляйчыку сёлета 50. Васіль: «Гэтыя юбіляры, што недабралі ўзнагарод, самыя небяспечныя. На ўсё гатовыя, каб дабраць, атрымаць, каб урваць».

Вечарам выйшаў на праходку. Чакаю зялёнага святла. Паношаная дама з гегемонскага кантынгенту паказвае пальцам і кажа: «Сто тысяч». Думаю, задужа цэніць сябе. А гэта яна прапаноўвала пярсцёнак. Яўна з некага зняты ці ўкрадзены. «Ясачкі»[3].

---

[1] Гл.: Ясачкі: Ноч у скрыню сырую кладзе сваю хусту (10.05.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 329.
[2] Памылкова, ні М. Яроменка, ні У. Някляеў у 1996 г. прэміраваныя не былі.
[3] Гл.: Ясачкі: Туман вечарніцу кволць у рукаве (11.05.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 329.

Гэта ўжо да другога тыдня падыходзіць галадоўка Хадыкі й Сіўчыка[1]. Калі б гэта ў цывілізаваным хоць вонкава свеце. А гэта ж краіна пячорнага камуністычнага ладу. […]. «Яшчэ раз…»[2].

*12 мая, нядзеля*

Галава як кацёл, у якім выкіпела варыва. Баліць. Не даткнуцца. Выйшаў на вуліцу. […]. Званю Ірыне Міхайлаўне. Васіль пайшоў на сустрэчу з немцамі. Жартую, што ён з немцамі з 41-га сустракаецца. Вярнуўся Васіль задаволены. У «Беларусі» сустракаўся з прафесурай нямецкай. Дзве гадзіны йшла гутарка. Быў адзін. Нікога накшталт Кудраўца[3] ці Вярцінскага не падаслалі. Адзін прафесар заўважыў, што Беларусь у Эўропу не пусцяць хутка, трэба шмат вымогаў. Васіль адказаў, што нам важна рухацца ў гэтым кірунку. Пагадзіліся. Напісаў колькі старонак пра Ганада ў «Маладосць». «Тост: Спадналуску мядзведзь…» [у дзённіку]. І, праходжваючыся вечарам, адпаведна настрою свайму пісаў: «Відаць»[4].

*13 мая, панядзелак*

Хадзіў па пашпарт. Там цэлая Камароўка саўкоў. Аж вырашыў не ехаць. Дапамог Карлас. Памочніца Багальянц абяцала атрымаць — паслаць шафёра. Усё вырашаецца лягчэй. Прыехаў Ганад. Аддаў яму пераклады. Васілю звaніла маці Сіўчыка й сказала, што Ніл напісаў у падтрымку. Васіль запытаўся, ці бачыла яна. Бедная даверлівая маці паверыла, што Ніл перадасць генпракурору. На горы маці павыпінацца — гэта ў натуры лагойскага […]. Нікуды не панясе нічога, абы чутка пайшла пра ягонае заступніцтва. Яшчэ, можа, браток у «ЛіМе» дасць інфармацыю ці, можа, зноў напісаныя самім Нілам пытанні й адказы. […].

*14 мая, аўторак*

Званю Васілю. Як заўсёды пра КДБ размова зайшла. Я некалі раіў, калі Васіль быў у Вярхсавеце імперыі, якраз у камісіі па пытанні КДБ, каб папрасіў дасье на сябе. Цяпер паўтарыў зноў прапанову. Адказвае, што ўсё роўна не далі б, а каб далі ўсё, сэрца б лопнула, бо гэтулькі так званых сяброў апынуліся б голыя. Трохі з Алесем [Анціпенка] засядалі, разглядалі помач прэсе.

---

[1] Сіўчык Вячаслаў Вадзімавіч (н. 1962), беларускі географ, грамадскі дзеяч. У 1988–1997 гг. супрацоўнік Вытворчага аб’яднання «Беларусьгеалогія», а таксама (з 1991) Інстытута геалогіі і геаграфіі НАНБ. У 1995–1998 гг. адказны сакратар управы БНФ. Быў зняволены на некалькі тыдняў за ўдел у «Чарнобыльскім шляху-96».

[2] Гл.: Яшчэ раз… (2 —11.05.96) // Босая зорка. С. 64.

[3] Кудравец Анатоль Паўлавіч (1936–2014), беларускі празаік, перакладчык. У 1978–1997 гг. гал. рэдактар час. «Нёман».

[4] Гл.: Відаць (12.05.96) // Босая зорка. С. 74.

*15 мая, серада*

Відаць, і Андраюк руку прыкладвае, каб Васілёва «Сцяна» не выйшла. Пытаўся, ці рабіў я захады. Сказаў, што прасіў зрушыцца. Сіўчыка забіваюць. У яго ныркі адключаюцца, а ў бальніцу не кладуць. І яшчэ жахлівая лічба ўзросту — 33. Хрыстоў узрост. Узрост ахвярнасці. [...].

*16 мая, чацвер*

Беганіна, мітусніна перад дарогаю. Усё-ткі лячу ў Нямеччыну. Хочацца й боязна. Змалку не такая ўжо чужая гэтая суседка, амаль свая нямецкая fachren, fuchr, gefachren. Так уяўляўся мне нямецкі цягнік, які выстуквае гэтыя словы, спрагаючы дзеяслоў *ехаць.*

*17 мая, пятніца*

*Braunfels.* Lufthanze прыпёрла нас у *Франкфурт-на-Майне*. Па дарозе Уладзімір [Папковіч] жартаваў, што немцы ўсё могуць, а вось паветраныя ямы не змаглі выраўнаваць. Сустрэла Урсула [Хайнеке]. Прыехалі ў мястэчка, як у філіял раю. Салаўі. Шалее бэз. Цвітуць сады. Па дарозе яблыні на ўзбочыне, як напамінак пра былыя сядзібы. Ці іх знесла вайна, сядзібы гэтыя, ці дарозе шкодзілі. Мне нагадвалі наш хутар Верасовачку. Яшчэ ж доўга трымалася йгрушына. Перад ядой малітва. Потым брацца за рукі. Цікава, што нямецкая мова гучыць мне, як з дому, як забытая, але не чужая. Пачынаюць усплываць у памяці словы.

*18 мая, субота*

У замак Friedewald. Так бы мовіць, грамадская акадэмія. Пытанні іслама. Як аб'яднаць рэлігіі. Як зрабіць, каб муслімы купаліся разам з хрысціянамі. Хацелася ўзрадаваць, што ў пекле ў смале будзема разам усе купацца. Усім цёпленька будзе. Праблемы, што Бога кожны разумее па-свойму. Таго ж Абрама. Цяжка працаваць з моладдзю. У зале ўсе людзі ўзросту, які бліжэй да таго свету, чым да гэтага. Выступоўцам не пляскаюць. Грукаюць па сталах. Як вязні ў турмах у знак пратэсту лыжкамі. Людзі жывуць натуральна. У згодзе з жыццём. Гэта й адпачынак, і магчымасць не замшэць.

Кава. Абед. Кава. На колькі гадзінаў кожнаму ключ. У замку па пакою адпачыць. У парку замка дзівосныя дрэвы. Уразіла мамантавае дрэва. Вялізнае, гонкае й з нейкай бурай карой. На дрэвах каб надпіс нажом, каб што паламана. Пайшлі з Уладзімірам паркам. Выйшлі ў вёску. Чысцей й шыкоўней, як у якіх расійскіх дый нашых з дапамогай расійскіх дабрадзеяў нашых гарадах. Вечарам развучванне песняў. Нават амерыканскіх старамодных танцаў, бо паважных. Чытанне навэлаў. Гэта разгрузка псіхалагічная. Гэта жыццё, якое вякамі пасялілася на гэтых зем-

лях. І яго захоўваюць. З ім у згодзе быць стараюцца. Потым камін. У зале зброя на сценах. Рыцар стадовы. Піва. Віно. Усё мерна. Усё ціхамірна. Хораша. Некалі ў нас дома нешта падобнае заспеў яшчэ.

Потым дарога па веснавым тумане, па дагледжаных, здаецца, з мылам вымытых гарах Westerwald. Дамкі выплываюць, як з утуманелай казкі. Нідзе два аднолькавых. Усе са сваім аблiччам. Дый гаспадары ўсёй вечарыны ўсе непадобныя і ў апратцы, і ў вонкавасці. І разам з тым нагадваюць мне нашых вушацкіх ці полацкіх. Як бы ні хацелі, блізкія мы, крывічы й немцы. Прыехалі. Урсула з Клаўсам [Хайнеке] уносілі рэчы такія-сякія. Урсула прынесла пачатую пляшку з віном. Гэта не ад скупасці, ад ашчаднай павагі да дабра, якое дарма не плыве нікому. Нямецкая мова ўсплывае ў мяне ці з мяне. Аснову разумею.

«Захацеў бы…: Каб лёс надумаў…» [у дзённіку]. «Меней і меней»[1]. Цікава, што хор хрысціянскі, якім кіруе, здаецца, Урсула, спявае па-беларуску «Магутны Божа»[2].

* Перад ядой малітва, потым узяцца за рукі. Паколькі не было нацыянальнай царквы, дык нам нават на магільных плітах нельга пісаць па-беларуску. Усе магільнікі ці па-польску, ці па-расійску. Жартуюць немцы: раней памрэш, даўжэй пабудзеш нябожчыкам.

У энцыклапедыі белагвардзейцы й беларусы аднолькава [пішуцца] — Weissrusse.

*19 мая, нядзеля*

*Meinz.* Музей Гутэнберга[3]. У асобным рэжыме святла й тэмпературы першыя кнігі Гутэнберга. Іх з Штатаў прывёз сваяк Klausa, нашага гаспадара. Шмат бюстаў Гутэнберга. У адпаведнасці з гадамі стварэння Гутэнберг то вікінг, то не ледзь Іван Жахлівы[4], то як не бітнік[5]. Уражвае праца з Сенегала. Негр дый ўсё тут. Толькі адшліфаваны.

Учора, дарэчы, раніцай сказалі: едзем у горы. Я адпаведна джынсы й пуловер цёплы. А там вечарам у смокінгах, з матылькамі як не ўсе. Што з мяне ўзяць — савецкі ахламон. Па дарозе у Майнцы бачылі двух нямецкіх бамжоў. Апрануты адзін не горш за нашых моднікаў. У слове *бомж* мне чуецца *бонжур*. У саборы сапраўднае вар'яцтва блакіту. Васемнац-

[1] Гл.: Маладзее… (18.05.96, замак Friedewald) // Ксты. С. 320.

[2] «Магутны Божа» (1943). Сл. Н. Арсенневай, муз. М. Равенскага. *Арсеннева* Наталля Аляксееўна (1903–1997), беларуская паэтэса, перакладчык. Пасля вызвалення з ссылцы ў Казахстан (1940–1941) вярнулася ў Мінск. У 1944 г. выехала ў Германію, з 1950 г. у ЗША. *Равенскі* Мікалай Якаўлевіч (1886–1953, Бельгія), беларускі кампазітар, дырыжор, музыкальны крытык. З 1944 г. у Германіі, з 1950 г. у Бельгіі.

[3] Гутэнберг Іаган (1399–1468), нямецкі вынаходца кнігадрукавання.

[4] Іван IV Васільевіч Грозны (1530–1584), вялікі князь усяе Русі (з 1533), рускі цар (з 1547).

[5] Доўгавалосыя пераймальнікі знакамітых музыкаў групы «Бітлз».

цаць адценняў, як васемнаццаць галасоў пяюць алілуя Усявышняму. Па Шагалу[1], што Бог спачатку блакіт стварыў, а пасля ўжо ваду й сушу. Назад ехалі — разводдзе жоўтае, гэта рапс цвіце. Мураванкі белыя пад чырвонымі дахамі, як баравіковыя нерушы. Машына плыве як бы ў казцы і як бы ў музеі. Адначасова немагчымае і як бы зніклівае, да чаго дакрануцца вачыма боязна. Гэтулькі ўсё акуратна. Гэтулькі дагледжана. А людзей, якія б рабілі гэта, не відаць. Як само робіцца ці чарадзей у сне. Хатняя, сямейная любоў у немцаў да зямлі. Зайздросна да крыўды.

Вечарам у настаўніцы вячэра. У пакоях кветкі, свечкі гараць. Здаецца, што пыл існуе толькі як паняцце ў слоўніках ды даведніках па чысціні. І сама настаўніца ўжо гэтулькі акуратная да холаду, што міжволі грэшна падумаць, як з такой нехта можа працягваць род чалавечы. Парадак і чысціня даведзены, баюся, да абсурду. Мне гэта не зразумець. Адчуваеш сябе той мухай ці камаром, які застыў у бурштыне. І жывы, як мёртвы. А немцы гэтым жывуць. Можа, гэта таксама мацуе нацыю. Як ведаць. А нам паўсюль усё трэба даказваць, што мы не рускія, што мы самастойны народ, што ў нас таксама некалі была дзяржава. Стойлавае ўтрыманне ў савецкай імпэрыі дало вынікі. Ды, як у нас дома казалі, у кожнай хаце па лапаце. Нямецкая прэса, нямецкая думка пытаецца: ці нямецкая мова дыялект у Эўропе? Вялізны наступ англійскае мовы, амерыканізацыя. Але на баку нямецкае мовы дзяржава, а на баку нашае мовы хто? [...].

*20 мая, панядзелак*

*Marburg.* Schlossen — замак, Schlosser — той, хто робіць за́мкі. Да нас прыйшло, яшчэ помню, як слёсар, пасля ўжо стала слесарам. Наш слесар ужо справу з за́мкамі не мае, яму клопату стае з замка́мі. Бібліі Гутэнберга з Штатаў вёз швагер Клаўса (швагер, які ў нас стаў і шваграм, і швагрэцкім, таксама адсюль). З Віцебска, Уладзімір дамовіўся з немцамі, мусіма прыехаць чацвёра дзетак. Класічны савок дырэктар [музшколы] Прыгун прыехаў толькі сам ды настаўніца са сваімі дачушкамі дзвюма. Пачаў хітрыць, каб застацца даўжэй. У дурацкае становішча паставіў Уладзіміра. У Майнцы ідзём, шуфлік і кажа з сумам, што дужа дарага каштуюць трусы. Дзеля гэтага варта было ехаць у Нямеччыну. Інтэлект савецкага лабуха далей башляць не йдзе. Не трэба ваенных дзеяў, каб пасеіць паніку сярод немцаў, трэба як мага болей пусціць шуфлікаў. Запрасіць іх у госці. Яны хутка растлумачаць сэнс жыцця. Савецкая селекцыя самая выніковая. Перад ёй, даруй Госпадзе, і хрысціянства адступіцца. І сам чорт адступіцца. А дакладныя немцы ламаюць галовы, ці правільна закон пастанавіў вяртаць павяртанцам іхнюю на́быць. Пакінута ўсё, як было. Назовы вёсак і мястэчкаў то Ваўчынае поле, то Вольны лес.

[1] Шагал Марк (1887–1985, Францыя), беларускі і французскі мастак і графік.

Нас з паўдня павёз у Марбург пан Клаўс. Ён вучыўся ў Марбургскім універсітэце пасля вайны, калі ўцёк з ГДР. Паказваў, дзе грэліся людзі зімой. Цяпер тут кавярня. Марбург, сказаў ён, увесь універсітэт, а не ўніверсітэт у Марбургу. Пасля вайны рэдка ў каго быў веласіпед. У Клаўса быў. Яму зайздросцілі. Цяпер ад машын не прайсці. Захаваныя ўсе будынкі ўніверсітэцкія. Ідзем, рамантуюць дах. Нейкая ўжо сучасная чарапіца, бо на выгляд лёгкая й блішчыць ненатуральна для натуральнай. Мерны стук. Ніхто не спяшаецца. Без сацспаборніцтва. Як і вякамі няспешна ўсё рабілася, але вечна. У кірхах усё аскетычна да холаду. Не толькі галаву, але й душу, відаць, трымаць трэба ў холадзе. Акамянелы лес гатычных калонаў. Галіны акамянелыя скляпенняў. Готыка й Got. Самая старая кірха ў Нямеччыне класічнае готыкі недзе з XII ст. святой Элізабеты. Падзвіжніца. Рана аўдавела. Пайшла служыць Госпаду. Недзе падобная ва ўчынках да нашае Еўфрасінні Полацкай[1]. Раней сувязь у нас з Эўропай была лепшая, чымся цяпер. Конна й санна лягчэй ездзілася, чымся электронна ды [пропуск]. У кірсе кніга вялікая пад шклом, на кожнага, хто загінуў у апошнюю вайну, старонка. Калі нарадзіўся. Дзе загінуў і калі. А ў нас кнігі памяці пад кіраўніцтвам цыкуна Петрашкевіча мусоляць, сулоцяць. І як подзвіг выдаюць. А тут на сцяне верш з Бібліі. Ніякой палітыкі. Не турбуюць душы мярцоў. Бог разбярэцца. У Марбургу вучыўся Пастарнак. Шыльда на дзвюх мовах пра Ламаносава[2], які вучыўся тут. Цытата: «Везде наследуйте всечасно, Что есть велико и прекрасно, Чего ещё не видел свет».

На вітражах у саборы святой Элізабеты святыя, як і скрозь, дужа зямныя, грунтоўныя, разважлівыя. Адзін падобны нечым на Івана Бурсава[3]. У кавярні на вуліцы студэнт са студэнткай. Сынок маленькі як на галаве не ходзіць. Каб якая ўвага. Японскае выхаванне. Калі елі піцу, перарабіў украінскі жарт: «Я яму піхаю піцу…» [у дзённіку].

Уладзіміру хапае клопату з дружбай. Возіць студэнтаў і так іншых. Першыя студэнты былі ўбачылі ланцужкі недзе 17 марак. Не ведалі, што за залай назіраюць. Укралі. Да Урсулы прыехала паліцыя. Ледзь выратавалі. Сораму набраліся. Адзін пачатковы гешефтовец прапанаваў Урсуле купіць у яго змяіны яд. Калі спыталася навошта, адказаў, што можа прыдацца. А потым прапанаваў даставаць матory з загрузлых у балотах нямецкіх танкаў і прадаваць немцам. Чалавек у адчаі гатовы на ўсё. Абы купілі. Мышленне саўковае. І смешна, і шкада.

[1] Еўфрасіння Полацкая (свец. Прадслава; каля 1101–1167), полацкая князёўна, асветніца, беларуская святая.

[2] Ламаносаў Міхаіл Васільевіч (1711–1765), рускі вучоны-прыродазнавец, гісторык, асветнік, паэт, мастак.

[3] Бурсаў Іван Цярэнцьевіч (1927–2019), рускі паэт, перакладчык. Ураджэнец Беларусі. З 1965 г. жыў у Маскве.

*21 мая, аўторак*

*Wetzlar.* Учора сніў, што некуды ў Сібір як не на паўгода з'язджае Васіль. Мне дужа плакалася. Як там здароўе Васілёва? Ці ўсё ў яго добра? Божа, не дай яго ў крыўду. З раніцы занямог. Аж спалохаўся, што злягу. Галава мне не праходзіць і тут. Кепская справа. Лінуў дождж. Потым пайшлі ў замак. Зачынены. Пахадзілі вакол. Вялізная студня колам металічным круціцца, і інструкцыя, як круціць, як паліваць. Дарослыя адказваюць за дзяцей, працаўнікі за жывёлу. Прытым, калі чысціцца будзе студня, ваду ў жолаб, а не проста так. Гэта даўняя інструкцыя, як і студня. І раптам — Züber — цэбар. Вось адкуль прыйшоў, каб стаць і цабэркам, і паўцабэркам. Зайшлі ў кнігарню. Уладзімір каля кожнае кнігарні праходзіць, як алкаголік каля карчмы. Жываплот з падстрыжаных ялін. Яны цвітуць. Усё спачывае. Моладзь шалее, як і бэз. Каля кожнага дома стаяць кантэйнеры розных колераў — адпаведна пад altpapier, пад прадуктовыя адыходы, пад пластмасу й бляшанкі. У горадзе вялікія бункерчыкі, куды кідаюць ці светлую пасуду, ці цёмную, пад кожную асобны бункерок, так бы мовіць. У Клаўса мала таго што прадзед Ульман (стаў Ульманісам) збіраў фальклор Курляндыі, дык яшчэ нехта ў прыроддзі быў Даль[1]. Карані.

Пазваніў дамоў. Валя пытаецца, чаму так добра чуваць; адказаў, што КДБ не слухае. Званіў некалькі разоў Васіль, пытаўся, ці мае весткі ад мяне. Дамініку зноў падрапаў Мірон. І Даміміку шкада, і Мірона — давяла, значыць. А ў Уладзіміра кот Сцяпан. Ніколі не есць куплёнай кілбасы, бо адчувае, чым яна дыхае, чым напхана. Як і Мірон. Сцяпан любіць легчы на пісьмовы стол і глядзець у вочы. Мірон па мне, як па дрэве, лазіць.

Вечарам у Wetzlar'ы выступалі з Уладзімірам. За сто чалавек было. Гэта ў асноўным сябры таварыства «Калі ласка — Willkommen». Пачытаў колькі вершаў. Ім для гучання. Тут ужо традыцыйнае пытанне, у чым розніцца беларуская мова з расійскай. Аўдыторыя спакойная, роўная. На мяне дыхнула любімай Балтыяй. Асабліва Латвіяй. У асноўным на пытанні адказваў Уладзімір. Яго таксама заносіць, як і мяне. Блізкія характары. Толькі ён болей адкрыты. Аж часам здаецца, што іграе. Веданне мовы дае магчымасць трымацца вольна й натуральна. Гэта паўсюль так. Дужа кепска было сябе пачуваць, як савок, шуфлік Прыгун, выцягваў з пажмаканага цалафанавага мяшка гліняныя вычварныя вырабы. Першае, што хацелася, на галаве ягонай разбіць. Немцы прымалі вонкава ветліва. Як ад папуаса ці блазна. Гаршкі на гліну. Прыгадаўся, праз колькі гадоў, Галенка з Беласточчыны, які ў Швецыю пастаўляў вычварныя чайнікі. Пад кіч. Калі жабракі дораць нешта багатым. Болей за ўсё шкада багатых.

---

[1] Даль Уладзімір Іванавіч (1801–1872), рускі пісьменнік, лексікограф, этнограф. Член-карэспандэнт (1838) і ганаровы акадэмік Пецярбургскай АН (1863).

*22 мая, серада*

*Giesen.* У Вецляры ў царкву. Раней была разгароджана. Цяпер каталікі й евангелісты па дамове карыстаюцца. Асобныя разеткі, калі ўключаецца энэргія, ацяпленне. Арган. Нямецкая дакладнасць. Так не атрымліваецца, як у анекдоце яўрэі віно залівалі ў адну бочку. І ў выніку — вада. Храм недабудаваны. Эклектыка. Надворныя каменныя стоды перанеслі ў нутро, каб захаваць. А на іх мейсца — копіі. Цяпер уваход у храм з дзвярэй, куды йшлі раней нехрысці ксціцца.

Дом Лоты. Гераіня Гётэ «Пакуты юнага Вертэра». Гётэ прыехаў на практыку як юрыст у Вярхоўны суд, калі па-цяперашняму. Тут жыла цётка. Пасяліла яго ў доме насупроць. Каб быў пляменнік пад прыглядам. Наладзілі баль у хаціне паляўнічага. Гэта вёрст за 15. Гётэ зайшоўся па Шарлоту Буф. І ўбачыў яе, бо затрымалася, у атачэнні братоў і сястрычак маленькіх. Толькі каб яна нарэзала ім хлеба, хацелі яны. Быў май 1772 г. Гётэ гэта ўразіла. Наогул, у доме Буфаў было 16 дзяцей. Маці ў Шарлоты памерла. Паехалі на баль. Пачалася навальніца. Усе дзяўчаты баяліся. Іх забаўляла Лота. Гулялі ў фанцікі, каб адцягнуць увагу ад грому. Хто прайграваў, у таго забіралі фанцік і давалі поўху. Па тым паўшку, які ўляпіла Лота, Гётэ зразумеў, што ставіцца да яго асабліва. Калі яна глядзела на навальніцу, Гётэ пачуў, як яна чытала верш паэта на гэтую тэму. Не Гётаў верш. Гётэ здзівіла, як гэта простая бургерка ведае паэзію. У сэрцы затлеў жар. Пачаў прыходзіць і гуляць з дзецьмі. Але Лота была нарачонкай ў Кетнера, які працаваў у судзе. Нарадзіўся ён у адзін год з Гётэ. Разам адзначалі дні народзінаў. Аднойчы Гётэ нават пацалаваў. Лоце гэта не спадабалася. Потым Гётэ паехаў. А пасля пакончыў з сабой сябра Гётэ, які працаваў у Вярхоўным судзе, — Ерусалем. Чалавек ён быў неўраўнаважаны, ды яшчэ няшчаснае каханне. Гётэ прыехаў, каб падрабязнасці самагубства высніць, ці што. А яшчэ наклалася мілосць, ці захапленне, Лотаю. Так і ўзніклі «Пакуты юнага Вертэра». Трэба будзе перачытаць. Калі ў універсітэце чытаў, дужа перажываў, пераносячы на Лоту Ганну Дуброўскую, а сябе за Вертэра лічыў.

Калі мы хадзілі па залах, вятка школьнікаў ўвалілася. Адна чарнявая, шырокатварая, пацьмякаватая дзяўчынка падышла да нас. Папрасіла прачытаць расійскі тытул «Пакут...». Уладзімір пытаецца, ці ведае расійскую. Адказвае, што ведае, але чытаць цяжка. Яна з Кіргізіі. Бацька развёўся. У маці яшчэ сястра. А ці робіць маці? Не. А ці добра жывяце? Добра. Цікава, што на кіргізску падобна. Учора ў Wetzlar'ы таксама сустрэлі немачку з Казахстана. Вылітая казашка з еўрапейскімі вачыма. Бацька развёўся. Застаўся там. Маці тры гады таму прыехала. Нямецкую ведае, але цяжка. Там, у Казахстане, толькі па-нямецку гаварыла бабка.

Хацелі чакаць Урсулу ў зялёнай альтанцы. Як вераб'і, наляцелі дзеці. Пачалі ламаць і рваць галінкі. Хвастацца імі. Выхавацелька крыкнула: «Не рушце дрэва, не калаціце». Гэта дзеці розных народаў натуралізуюцца. Асабліва вылучаюцца лаціносы. А я спачатку падумаў, дзе ж тыя ўрокі экалогіі з першага класа. Гэту масу трэба перамалоць, пакуль атрымаецца паўфабрыкат нямецкага насельніцтва. Нацыю й мову калоцяць, як тое дрэва, якое бараніла настаўніца.

По абедзе паехалі ў *Гісэн.* У ўніверсітэце чалавек дзесяць студэнтаў, колькі выкладчыкаў. І два саўкі з Казанскага ўніверсітэта, бо Гісэнскі ўніверсітэт супрацоўнічае, студэнты стажыруюцца. Напрыклад, 50 з Нямеччыны ў Казані, і 25 у Гісэне. Усё ад грошай залежыць. Дык гэтыя два казлы — адзін расіянін, другі татарын — кінуліся бараніць Расію й нашага [Лукашэнку]. Уладзімір заводзіўся. Я стараўся трымаць сябе ў руках. Вёў усё славіст з былой ГДР, яўрэй. І не выключана, што заангажаваны. Абразіліся, што калгаснікамі назваў нашых. Хацеў дадаць, што калгаснік — гвалтоўна вылегчаны селянін, які забыўся, як усё робіцца. Дарэчы, пра Лоту. Мела 12 дзяцей. Дажыла да 75 гадоў. Хапіла часу на ўсё, бо жыццё нікуды не спяшалася.

За вячэрай ішлі розныя размовы. Дзяўчыну з Віцебска маці паслала зарабіць грошай, каб выйсці замуж. Зарабіць прастытуцыяй. А як падрасце меншая дачка, каб сястра забрала й яе ў Нямеччыну. Тут афіцыйныя бардэлі ў вялікіх гарадах. У меншых цяжэй. Бардэлі могуць быць толькі ў раёнах, дзе прамысловасць, бо гэта таксама індустрыя, праўда, лёгкая. Там, дзе жывуць, у тых кварталах нельга індустрыю сексу адкрываць. Цікава, як узнікаюць гарады. Бо ні вонкава, ні па ўкладу жыццёваму цяжка вызначыць, дзе сканчаецца горад, а дзе вёска. Некалькі вёсак аб'ядноўваюцца, ім надаецца права горада. Многія перажываюць, што знікаюць назвы вёсак. Тады да назвы горада новага дадаецца прыставачка імя вёскі. Напрыклад, Sols-Wolfhause, Sols-Wolffeld. Паўсюль так чыста, што трэба падумаць, куды дробнае смецце выкінуць.

Сын у гаспадароў скрыпач. Ездзіў з аркестрам у Бразілію. На 5 дзён. Усё каштавала фірме-арганізатару 2 млн даляраў. Прыслаў бацькам паштоўку. Загараюць на пляжы пяць рудых да чарнаты срачак. Клаус смяецца, што ён бы сваім бацькам такое прысласць не пасмеў. А сын напісаў, што гэта бачыць ён з вакна гатэля. Новыя часіны.

* Няпуджаныя салаўі пяюць пад вокнамі на елцы ў цвеце.

*23 мая, чацвер*

Guten Morgen ohne Sorgen! [Добрай раніцы без турботаў!] Імжыць. Шпакі на дождж разгаварыліся. Вышэй за двухпавярхоўку цвіце каштан. Як зялёны падсвечнік мне ў вакно. Далёка ўсё ўвяснелае, далёка ўсё

зялёнае. Мы ўсё з Валодзем маніліся ўскапаць кузлачок зямлі. Як у анекдоце: магу капаць, магу не капаць. Учора прыязджаем з універсітэта, а Клаўс усё машынай зрабіў. Толькі на тачцы ляжаць зрэзаныя галінкі, як з верша Максіма Багдановіча. Сёння зноў дождж. Мажная фрау пад парасонам прагульвае мажнога сабаку. Сабака колерам нагадвае ліса. Фрау мажнасцю гераіню нейкай казкі. За сняданнем размова, што маці дзвюх скрыпачак хоча яшчэ паглядзець ZOO. А ў планах няма. Усё хоча зачапіцца, каб пабыць. Я кажу, што ў нас уся краіна — звярынец. Клаўс рагоча.

Едзем у Wetzlar у гімназію імя Гётэ, калі як у нас. Лозунг намецкай школы — навучыць вучыцца. Лозунг не новы, але заўсягды надзённы. Каб пастуліць у ўніверсітэт, трэба вучыцца 13 гадоў. Пасля без экзаменаў. Нейкія, так бы мовіць, конкурсы толькі на медыцынскія факультэты. Там, здаецца, тэставанне. Да Уладзіміра падышоў выкладчык расійскай мовы. Наіўны лірык з выгляду. Сумеснае прадпрыемства з Пецярбургам зрабіў. Цацачныя чыгункі. Ніхто не купляе. Бо кепскія. Шуфлікі проста цягнуць з яго грошы, а ён верыць. Яму гэта забава, а шуфлікам корм паднsocialжны.

Зайшліся ў кавярню. Басейн унізе. Плаваюць дзеці, а бацькі ўверсе п'юць каву. Кавярню трымае італьянец. Тут жа й школьнікі за каваю ды гарбатай нешта вучаць, нешта чытаюць, нешта зю'каюць, як казалі ў нас. У гімназіі падыходзіў выкладчык фізкультуры. З Віцебска спартсмэны былі. Пабылі й хвастом накрыліся. Ні слова, ні паўслова не напісалі. Цяпер прыслалі запрашэнне на травень, бо ведаюць, што немцы прыехаць не могуць. Дамова ж была на восень. Наўмысна зрываюць ўсё.

«У найме»[1]. А словы лезуць з мяне. Думаю, што асвер і падсверваць ад Schwer (цяжар). Пахадзілі з Уладзімірам па Braunfels'у. Гэтаму мястэчку ці вёсцы 750 год. Годныя моцныя даміны. З густам усё зроблена. Вакол горы й густы лес, як галава юнака, дзе грабянец ломіцца. Тут будзе й любоў да зямлі, да ўсяго свайго да фанатызму. А ў нас у хлявах толькі рохкаць можна вясёла і то пасля добрай яды. Хоць прагрэс ужо гэтак далёка пайшоў, што менеі і менеі натуральнага ў побыце. Пачынаеш сябе адчуваць на нейкі момант камаром у бурштыне ці, як казала Берггольц[2] пра Шчыпачова[3], мужчынам з сінтэтычнымі яйцамі, калі не ўсім з сінтэтыкі. А ў Бібліі чытаю: «Усе яны лягчэйшыя за пустату».

Ездзілі да ўрача. Малады, сімпатычны, прыветлівы. Вачыма гаворыць. Прызнаў у мяне нізкі ціск. А дома казалі, як у касманаўта. Хрыбет-

[1] Гл.: У найме (23.05.96, Braunfels) // Ксты. С. 337.

[2] Берггольц Вольга Фёдараўна (1910–1975), руская паэтэса. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951).

[3] Шчыпачоў Сцяпан Пятровіч (1899–1979), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1949, 1951).

нік адразу за галавой старэе. Трэба круціць не толькі галавой. Даў нейкіх таблетак. Вечарам журналіст з тутэйшай газеты. Казалі з Уладзімірам, што пытаўся. Яны ўсё ведаюць. Эўропа на нашыя падзеі глядзіць як на спартыўныя спаборніцтвы, як на футбол, як на бокс. Адны рэагуюць гучна, іншыя спакойна. А ўсім усё да печкі. Так было, калі каланізаваўся амерыканскі мацярык, калі расійскія ярмакі[1] вынішчалі ўсё тубыльскае. Тады не было сувязі, інфармацыі. Цяпер усё ёсць. Але нічога не змянілася.

*24 мая, пятніца*

Wetzlar. Прыём обербургамістрам Вецляра. Як наш мэрчык. Здаецца, з *гада*эраўцаў. Мяшком пінжак, на пузе не сыходзіцца, штаны з ліхтарамі. Адным словам, ён свой. У зале Музея культуры побыту. Нямецкая ўрачыха збірала старую мэблю, парцэляну, срэбра. Ёсць шалёна цікавыя рэчы. Падсвечнікі, ці, дакладней, тагачасныя люстры з аленевых рагоў. У пазлацаным срэбры страусава яйка, бурштын, ракаўкі. Камоды з 1524 года. Габелены. На адным бойка. Не паспеў замахнуцца мечам, толькі пачатковы рух, а яму ў горла садзіць кол спакойны тварам абаронца замка. З замкавай сцяны глядзяць на бойку. Карціна. Пышнагрудая, рудавалосая да залацістасці frau (Вірсавія[2]) паклала руку на адрэзаную галаву Іаана Ксціцеля. Амаль дэкальтэ. Праз празрыстую тканіну сукенкі гарыць ажно сасок, які разам з грудзямі рвецца на волю, у рукі просіцца. Ці ў губы.

Выходзім. У двары машына нечая. Ззадзі эмблемкі. Кнораз ці свіння на свінні, як не валяцца двое. Пазнак Super Love. Вышэй пяць парсюкоў у цыліндрах сядзяць адзін за адным. Ніжэй кракадзіл на кракадзільцы. Паказаў Прыгуну, які ад’язджае сумны, што мала ўхапіў. Загарэўся. Вось бы такое дамоў. Кажу, паспрабуй адарваць. Каб было меней народу, думаю, паспрабаваў бы. У машыну грузяць саўковую сумку. Немец жартуе: «Паў-Германіі ў ёй, такая цяжкая». Савок адказвае, што гэта перадалі. Захопленая немка кажа, што ёй хацелася быць паэткай і сялянкай (Ханда Граснік). Вайсковая акадэмія ў Омску выстройвалася й вітала яе, калі прывозіла гуманітарную дапамогу, якую дзялілі генерал і поп. Усе пілі й пілі. Яна на дне сабе налівала. Плакала. Бо тут плакаць нельга, трэба быць сабранай. Экзальтаваная асоба, любіць пагаварыць.

Прыехалі да Урсулы. Пасля абеду (за нейкія хвіліны зрабіла піцу, тут жа праз колькі хат купіла). За вакном зялёна. Птушкі не томяцца ў спеве. Вісіць паджары каршун. Падае. І здаецца, што я йду на Ваўчэнскае возера, са мной маленькі кішэньковы нямецка-расійскі слоўнічак. Вучу словы.

---

[1] Ярмак Цімафеевіч (?–1585), казачы атаман. Паходам каля 1581 г. пачаў асваенне Сібіры.

[2] На самой справе абезгалоўлены Іаан Ксціцель быў па ўказу Ірада Анціпы на просьбу дачкі Ірадыяды Саламеі (Мац. 14:3–11).

Адтуль сёння вяртаюцца да мяне. Са школьных гадоў. Каб жа гэта можна было тады з'ездзіць у Германію, замацаваць веды. А то не яны немцы, а я немец — нямко, значыць, няме'ц. Гаварыць не ўмею.

Званіў Васілю наконт Сіўчыка й Хадыкі. У 3-й гарадской больніцы. Юрась галадаў 24 дні, Сіўчык меней крыху. Пасля павінны будуць іх судзіць. За арганізацыю беспарадкаў на падставе Канстытуцыі БССР. Украінцаў не выпусцілі[1]. За Зянонам і Навумчыкам сочаць. Кажу Васілю, што ў сераду буду. Раіць яшчэ пабыць, бо дома нічога добрага. У нас дождж. Надвор'е і палітычнае змрочнае. За каваю напісаў: «Fachren wir nach Giesen — Küssen in den Kissen» [«Ехалі мы ў Гісен — цалавацца ў падушку»]. Некалі Цішка Гартны[2] пісаў, як дзівіўся нямецкі наборшчык з нашага *ў*. Нічога не змянілася. І цяпер будуць дзівіцца. Дзяржавай не сталі. А як кэдэбіст Лужанін[3] кпіў з Гартнага: «У нас у берлінцаў слова цвёрдае». Цвёрда трымаўся задання КДБ чарніць нацыяналістаў.

Паехалі да баўэра Эбэра (у перакладзе — вяпрук). 50 га. Усё сваё. Млын. Каровы стаяць у дагледжаным хляве. Дзённае святло за кошт некалькіх празрыстых шыферанаў. Асмужаны, упэўнены, нетаропкі. Гаспадар на сваёй зямлі й сам сабе гаспадар. Але на ладным кузлачку дзьмухаўцы. Як у нас спрэс. Каровы, як сапраўдныя бюргершы, спаважныя. Свінні, як з Коласавай «Новай зямлі» («Свіння, як хворая, ляжала, хоць гэтай хворасці не знала...»). У баўэра працуе адстаўнічок з Віцебска. Працуе, відаць, цераз пень-калоду. Пачаў, што бацька з Заслонавым[4] перад вайной быў знаёмы, працавалі разам. Я адразу напомніў, як загінуў герой гэны. Напіліся ў баб. Вайна партызанскіх камандзіраў у аснове сваёй праходзіла ў баб пад спадніцамі. Замоўк. У хаце ў баўэра на падлозе цялячая шкура. На сцяне даўгі гадзіннік. Павітаўся з сабакам па-нямецку, пахваліў яго, і ён сціх.

Потым паехалі ў вясковую краму. Усё ёсць. Прадавіца ветлівая. І нарэшце, у вёску *Steindorf* (адразу каменнай была) да Барбары fon Rosen. З земляў зысканых. На пенсіі. Выкладала ангельскую мову. Запаліла свечкі. Надышоў час — само запалілася святло. Хата ацяпляецца з падлогі. Падлога каменная. Уключыла касэту, дзе ў Dom zu Wetzlar, да завяршэння нейкае

---

[1] Да 26 сакавіка ў Мінск прыехала група ўкраінскіх нацыяналістаў з УНА-УНСО, каб навучыць ладзіць пратэстныя выступленні. Былі арыштаваныя, зняволеныя на некаторы час; пазней высланы ва Украіну.

[2] Гартны Цішка (сапр. Жылуновіч Зміцер Хведаравіч; 1887–1937), беларускі пісьменнік, драматург, крытык. Акадэмік АН БССР (1928). Рэпрэсаваны.

[3] Лужанін Максім (сапр. Каратай Аляксандр Амвросьевіч; 1909–2001), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1965). Быў рэпрэсаваны.

[4] Заслонаў Канстанцін Сяргеевіч (1909]10–1942), адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў час Вялікай Айчыннай вайны ў Беларусі. Герой Савецкага Саюза (1943).

містычнай таямнічасці спрадвечнавясковай, евангелічны хор і хор з Віцебска выконваюць Chrystostomos-Liturgie Чайкоўскага[1], Krőnungsmesse Моцарта[2]. Урсула слухала й падцягвала сціха. Яна як прытомленая ластаўка. Пані Барбара крыху кранутая інеем, а вочы чорныя, як маладыя галкі. Потым, калі заспявалі «Магутны Божа», у мяне ўсё перавярнулася ўсярэдзіне. Нешта казачнае й дзіцячае па шчырасці ў іхнім вымаўленні беларускіх словаў. Птушыная мяккасць гукаў.

Сабака, ці, дакладней, сучка названа Tora. Пытаюся, ці ведае, што гэта Пяцікніжжа? Кажа, што гэта болей ад паганскага бога Тора. Тор — бог грому. Ездзіць на двуколцы, запрэжанай козамі. Шпурляе молат — адсюль грымоты й іскры. Гэта сын бога Одзіна, Водана, Вотана. Па бракгаўзаўскаму[3] слоўніку Водан — фюрэр дзікага палявання, вайны, нябожчыкаў і ветру. У каго з нашых цяперашніх ці былых настаўнікаў будуць даведнікі, слоўнікі? У адзінак. Паказала нам шыкоўны альбом вітражоў Шагала ў Іерусаліме. На сцяне вісіць рэпрадукцыя Шагала. Панавітая, з адчуваннем свайго паходжання, неўзнаку папраўляе нітку жомчуга на шыі.

Ехалі, і зноў Wolfgasse (Ваўчыны завулак), у нас бы быў камуністычны тупік, не меней. Tora такая разумная сучка, такая выхаваная, аж хацелася загаварыць з ёй. Аж чакаеш, што яна загаворыць.

*25 мая, субота*

Хмарна. І дамоў хочацца, і не дужа. Нейкае адчуванне, што прыходзіць канец. Якое шчодрае жыццё й якое сквапнае. Як зачараваным зеллем да сябе прысушыць і тут жа прэч ідзе. Жыццё нічым не расчуліш. Жыццё няўмольнае, няўпроснае.

Ездзілі ў Wetzlar. Купіў Дамінічцы ранец. Прасіла перад ад'ездам. Крамы параспасвілі свае чэравы, як ненажэрцы тыя. Ды ўспамінаецца наша: купіў бы сяло, ды грошы гало. А голы заўсягды га'лы. Гэта ўжо не зусім вясёлая філалогія. Прыехалі. Недзе кудакча курыца. «Ку-кудак, яечка з кулак!» — трэба было дома падахвочваць курку. І да яе былі словы заклінання й падзякі. Мама некалі любіла нядзельку. Калі сакочуць куры. Гэта быў яе кароткі адпачынак у штодзённай бясконцасці турботаў, барацьбы за кавалак хлеба. З паўдня на фальклорны фестываль. З нагоды 750-годдзя Браўнфельса. Спачатку нямецкіх колькі нумароў. Першы нешта нагадвала савецкія піраміды. Потым спаважны даўні танец. Хлопцы

---

[1] Чайкоўскі Пётр Ільіч (1840–1893), рускі кампазітар.

[2] Моцарт Вольфганг Амадэй (1756–1791), аўстрыйскі кампазітар, скрыпач, арганіст, дырыжор.

[3] Бракгаўз Ф. А. (1772–1823), заснавальнік нямецкай выдавецкай фірмы. З 1808 г. выдавала энцыклапедыю пад назвай «Бракгаўз».

з цяжкімі азадкамі. Хоць запрагай у фуру, падрэзаўшы хвост. І наша «Чарніца» з Заслаўя. Самадзейнасць савецкіх часін. Расійскія песні ў дрэнным перакладзе. І проста самадзейна-расійскіх. Адно што былі й добрыя нумары. Дуда была. Скокі пад Майсеева[1]. І пад канец пад гапак. Калі адзін акрабаціўся, дык я казаў Уладзіміру, каб гэта Ленін. Маленькія дзеткі ў праходзе гэтай крытай аборы адчувалі сябе добра. І бегалі. І поўзалі. І танчылі, як умелі. Сустрэў яўрэя з Менска, з Заслаўскай вуліцы, Рафаэла Красельнікава. Эканаміст. Спытаўся, ці ён старшы [эканаміст]? Ведае анекдот. Трэба перавучвацца на нешта. І старшаму эканамісту няма працы.

За кавай Урсула распавядала пра маці. У пахілым веку памёрла. Аддалі ў дом прыстарэлых. Было, што правільна будавала фразу, а словаў не зразумець, нейкія квяцістыя наватворы. Адчула канчыну, наведала і абзваніла ўсю радню. Аслепла, але не разумела. Пыталася ў медсястры, як гэта яны ў цемры працуюць. Калі перад самай смерцю зайшла яе радня, у пакоі было шмат анёлаў. Сказала, што анёлы завядуць яе ў святло да мужа Клаўса.

Вечарам у Вецлары. Вячэра ў святара, які яшчэ піша ў мясцовую газэту. Чынна-мінна (у сэнсе — з разумнай мінай) вячэралі. Было мяса з персікамі. І г. д. Потым размовы пра валацуг, якіх тут даволі. Жабруюць, хто прадае нейкія паштоўкі. Валацугі ў асноўным свае, болей з былой ГДР. Наезджыя туркі ды іншыя працуюць, бо прыехалі жыць. Дзівяцца, што нашыя студэнты такія пасіўныя ў палітычным жыцці. Святар пачаў задаваць Уладзіміру гэтулькі пытанняў, што ўзарваў ягоную раўнавагу. Дапытаўся да таго, што калі нацысты добрыя спецыялісты, трэба іх збіраць. На што Уладзімір яму кінуў, каб пачалі зноў біць яўрэяў.

Маладая двойца. Яму 29 гадоў. Святары. Закончылі тэалогію. У розных універсітэтах вучылі, дзе лепшыя спецыялісты. Хоць цяпер у навуцы няма вялікіх аўтарытэтаў. Ён вучыўся ў агуле 13 гадоў. Гэта ўсе вучэльні разам. Ён будзе прыслужваць гэтаму Цыцэрону. Яна ў іншым месцы. А святар яўна ўявіў сабе, што ён у парламенце. З нейкай казлінай упартасцю пытаўся. Падліваў усім віна, нам соку. Сам напаўняў жменю арэшкамі і шпурляў у рот, падбіраў крошкі з далані й з падлогі. Потым усе пыталіся, чым могуць дапамагчы нам, каб у Беларусі было нармальнае жыццё. Я адказаў: хай моляцца за нас. А яшчэ чым?

* [Дзяўчаты] з «Чарніцы» (іх размясцілі недзе ў Доме абшчыны, такія шчаслівыя былі, што танчылі ў начных кашулях).

---

[1] Маісееў Ігар Аляксандравіч (1906–2007), рускі артыст балета, балетмайстар. Народны артыст СССР (1953). Герой Сацыялістычнай Працы (1976). Арганізатар і кіраўнік Ансамбля народнага танца СССР (з 1937). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1967), Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1947, 1952, 1985), Дзяржаўнай прэміі РФ (1995).

*26 мая, нядзеля*

Сёння Сёмуха. Вось бы Сёмуху сюды, у Вецлар Evangelische Dom-Kirchengemeinde [Евангельская царкоўная абшчына]. Усё ўрачыстае. Казанне святара. Спяванне псальмоў. Тэксты вершаваныя XVI стагоддзя. Гучаць лёгка да дзіцячасці. Прымаюць адну фрау ў абшчыну, якая была выйшла. Потым прычасце. Святар малады, у меру пульхны, дагледжаны. Потым прычасце. На поўныя грудзі дыхае каменны сабор, калі гучыць арган. Арганіст прыемны, быў у Віцебску. Прозвішча ў перакладзе Вавёрка. Канец. Выходзяць спакойна. Малітоўнікі кладуць у адпаведныя шафкі. У малітоўніках па некалькі рознакалёрных лясэ. Потым абносілі лазовыя кошычкі, у якія кідалі грошы. Без даўніх званочкаў. Пры выхадзе той-сёй кідаў у скарбонку. На абед да Барбары. У яе прапрабабка ўкраінка. Вось адкуль такія чорныя вочы (темні, як нічка). На стале чатыры свечкі. Індычка (Pute), гара сіласу. Маладая бульба з нейкай паўднёвай краіны. Каля ганка ў Клаўса васількі. Буйныя. Аж хочацца сказаць, як каняўё. Kornblume. Кветкі жыта. Багдановічаў васілёк — нябога ў параўнанні з тутэйшымі. Тут і шпакі, як гусакі, і вераб'і, як гускі. Клаўс спытаўся ў маці, хто такія гітлерюген. Маці адказала: «Дужыя, смелыя хлопцы, якія прабіваюць палонкі і мыюцца халоднай вадой з іх».

Пайшлі па Браунфельсу. Каб дзе п'яны. Каб хто пабіўся. Усё да ладу. Старыя колы пафарбаваныя вісяць на сценах і даюць адчуванне даўніны і ўтульнасці. Стаяць машыны на продаж. На паперынах пад ветравым шклом цэны і ўказана, чаму якраз такая цана. Ад 10-ці й болей тысяч марак да 2-х і ніжэй. Калі вячэралі, пазваніла выкладчыца з Віцебска UNI. Каб Уладзімір прывёз пісчую машынку, бо тая, што ён раней прывёз, паламалася. І просіць пра гэта ў Урсулы. Нахабнасць жабрака. Тую загнала. Новую трэба загнаць. Сорам.

Уладзімір кажа: пакажу дзіва. Націскае кнопку — падымаецца ўзгалоўе з падушкай, націскае яшчэ — узножжа падымаецца. Гэта ложак, дзе памірала маці Урсулы. Уладзімір смяецца, што сны нейкія цяжкія сняцца. Пытаюся, ці ёсць такія ложкі ў дамах распусты. Нямецкая пунктуальнасць ці што: Клаўс на маленькім кузлачку пасеяў радыску. Быў дождж, але ўсё роўна паліў. Такая стэрыльнасць і чысціня, што здаецца іншы раз, не ў доме, не ў кватэры ты жывеш, а ў бальніцы ці ў дужа шыкоўным гатэлі. Пачынаеш сумаваць па сваім мярлогу. Гэта вядома, што ты ў гасцях, таму і ўжыцца нельга ў гэты Super Ordnung. І густыя птушыныя галасы ўсё адно, як у ZOO.

Пастар, што, як з верша Куляшова[1], дапытваў Уладзіміра, быў у арміі капеланам. Адсюль, відаць, і характар. А наконт нацыстаў, дык ён хваліў

[1] Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч (1914–1978), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Народны паэт БССР (1968). Заслужаны работнік культуры УССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай

аднаго, які дужа добра працуе на пошце. Уладзімір тлумачыў яму, што нельга нацыстаў дапускаць да ўлады і ідэалогіі. Цікава глядзяцца фахвэркавыя дамы. Як каўбойкі нашай маладосці. Fachwerk — каркаснае збудаванне. Гэта своеасаблівыя ўкраінскія мазанкі (якія, дарэчы, бачыў на паштоўках з Турэччыны), толькі ў каркас засыпаецца гліна-салома, драўляны каркас, бэлькі фарбуюць ў бура-руды колер, а глінабітныя бакі беляць. І атрымліваецца, як некалі кароў з Прусіі гналі.

*27 мая, панядзелак*

Яшчэ свята. Сёмуха. Усё заціхла. З Уладзімірам прагульвалі парасоны каля замка. Бо дождж то брыґаў, то сціхаў. Адна з босай галавой, бо маладзейшая, другая з хусцінкаю. Калі было «нямецкае дзіва», набіралі рабочых. Часова. А яны аселі, бо падабалася. Сем'ямі абраслі. Так і робіцца новы нямецкі зэльц. Гэтыя рабочыя й зваліся Gastarbeiter. З гасцей сталі як не гаспадарамі.

Пасля абеду ў Elke's Galerie. Элька — пухленькая дамачка. Нечым нагадвае маю дабрадзейку Вольгу Антонаву. Трымае ў вёсцы галерэю. Выставы робіць. Хобі такое. Муж, кажа, італьянец — Каладзей. Той, хто робіць колы. Хай будзе італьянцам, можа, аднекуль з-пад Фарынава. Дарэчы, само Фарынава, што пад Полацкам, яўна прыехала з Нямеччыны. Па дарозе ехалі сапраўды горнай. Лес — неад'емнага кшталту частка нямецкага духу. Вандроўкі й лес — уся рамантычная паэзія. Рамеснікі па сканчэнню навучання йшлі па колькі гадоў вандраваць. Без грошай. Трэба было зарабіць. Знаёміліся з дзяўчатамі. Часам і дзіця рабілі. Ішлі далей. У песнях дасюль дзяўчына чакае ля хаты пад ліпаю свайго варачонага. А ён ёй кажа: «Калі праз год не вярнуся, можаш выходзіць за другога». Цэлае таварыства, якое прапагандуе цяпер падарожжы па лесе. Спецыяльныя дарожкі пракладзены, карты. Гэта, так бы мовіць, вылегчаны лес. Ягады й грыбы вырошчваюцца. У галерэі Элькі (у школе вучылася з Урсулаю) выстава Себасцьяна Burghardt'a. Сярэдняй рукі абстракцыя. Асабліва ўразілі аб'екты — на кавалачках дошак ці абрэзкаў трохі нешта намалявана. Цэны да 450 дм. Яшчэ каменьчыкі распаласачаны. Ілона маленькая лепей рабіла гэта. А што тычыцца аб'ектаў, дык тут мая Дамінічка зрабіла б куды лепш. Але чым бы чалавек ні цешыўся — абы не ныў. У Элькі мастакі жывуць, малююць, выстаўляюцца з розных краінаў. Цяпер кітайскі прафесар і мастак Хун-і-Ян. Прымітыў сацрэалізму. Хоча прыехаць дачка брэстуна Фяцісава[1]. Альбом бацькі 1991 года ў Менску

---

прэміі СССР (1946, 1949), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970).

[1] Фяцісава Анастасія Іванаўна (н. 1955), беларуская мастачка. *Фяцісаў* Іван Якаўлевіч (1920–1994), беларускі мастак. Заслужаны работнік культуры БССР (1989).

выдадзены. Героі афганскай разні, даяркі, свінаркі, райкомаўцы. Асаднік з Разаншчыны. [...]. Кітайца ўладкавала на нейкай фабрыцы нешта ўпакоўваць. Трэба ж назад грошы на дарогу. У двары сажалачка. Тры чарапахі. Адна дужа ўцячы хацела. Пакуль не насыпаў на дно пяску, каб было, куды зарывацца. І зімуюць на дне. Мароз бывае да 22-х градусаў. У хаце калекцыі напарсткаў, кубачкаў на каву й гарбату. Усё, што можна, калекцыяніруецца.

Вечарам да Клаўса прыйшлі госці. Міха [пропуск] з балтыйскіх немцаў. Да холаду сінявокі. Нейкія славянскія рухі й рысы ў яго. Працаваў з Клаўсам на заводзе Leica. Інжынер. Майстра на ўсе рукі. Дапамагаў Клаўсу рабіць паркет, насцілаць, дакладней. Любіць паэзію. Чытае па памяці нямецкіх рамантыкаў. Амаль тры гадзіны спакойная размова за пляшкай віна. Ён з жонкаю. Прыйшлі пасля вячэры. Закусі ніякой не падаецца. Пра ўсе што ні ёсць на свеце праблемы. І пра скурвіванне свету, і пра школу, і пра дзяцей. Адна піла дама шмат coca-cola й растаўсцела. Цяжка працаваць, бо ўцягнулася ў гэта. Нам бы іх праблемы. Усе апрануты як у тэатр. З густам. Я, вядома, ахламонам выглядаў. Госць які ёсць. Сумная гісторыя з падарункамі, якія валакуць саўкі. Прыгун падараваў Урсуле безгустоўны ні гаршчочак, ні вазачку. Ад'язджаем з Вецлара. Уладзімір паказвае, што ён ужо у адпаведным кантэйнерчыку на смецце. Яшчэ Прыгун падараваў «Энцыклапедыю археалогіі й нумізматыкі» [Мн., 1993]. Цяжкая. Нават на адной старонцы з дарчым надпісам аўтара артыкула (Прыгун сэканоміў). Клаўс незадаволены. Прапануе Уладзіміру забраць гэты дар. Як бы ні было, на нас глядзяць, як на жабракоў. Калі вячэралі ў святара, перш чым пачаць размову на розныя тэмы, нам казалі пра жабракоў, якія на газетах каля ганка спяць. Але падпашша дэзадарантамі асвяжаюць, каб не так смярдзець, калі заходзяць у дом прасіць. Ці такі ўжо кон беларусаў — парабкаваць у дужэйшых суседзяў. Бо не маем сваёй дзяржавы, хаты сваёй цёплай. А кутнікам сядзець у некага не дужа салодка. Гэта госць на куце, пад абраза'мі, а кутнік (кватаранта так звалі вушацкія) у кутку пад абра'замі. Немцы нейкім чынам бурштын (гэта з нямецкага — камень, які гарыць. Ім некалі ацяплялі хаты. У Кёнігсбергу ў музеі некалі бачыў і гузікі, і шахматы, і фігуры фюрэраў савецкіх). Вонкава сонечны, але каб загарэўся й сагрэў ён, трэба асаблівае сонца. Славуты нямецкі парадак — гэта ўжо адшліфаваны бурштын ці нават плаўлены, эрзацысты.

Пачынаўся дождж. Уладзімір у свэдары. Клаўс прапануе нейкі лапсердачок з зашмальцаваным каўняром. Кажа: «Яшчэ ты зашмальцуеш — і я аддам чысціць мой бруд і твой». Наш бы госцю даў новае. Але гэта ўжо хутчэй традыцыя. Гэта з прымавак — апошнюю кашулю з плячэй. Голы хіба скурай падзеліцца.

* Афіцыянт выходзіць на вуліцу пукнуць. Каб не на рабочым мейсцы, а калі на вуліцы — тады ў хату, — кажа Уладзімір.

Вучоны [пераклаў] назад на арамейскую Біблію.

*28 мая, аўторак*

Frankfurt a. Mein. Апошні дзень. Франкфурт-на-Майне. Па дарозе Marburg, дзе наш Дастаеўскі[1] гуляў у рулетку. Рымскі ўзгорак. Сабор уражвае. Зведзеныя ў малітве рукі скляпенняў без слоў кажуць спрадвечнае. Ахоўваюць неба ад абразаў зямных. Прадаюць паштоўкі. Свіння ўзлакацілася на каменную загарадзь, і подпіс: «Твой партрэт можна ўбачыць па ўсёй Германіі». А адна паштоўка проста шалёная на выдумку: чорны фон, негатыў і ўверсе толькі тэкст: «Frankfurt bei Nacht» [«Франкфурт ноччу»]. Зайшліся ў піцэрыю, афіцыянт, калі Урсула сказала *danke*, Уладзімір чамусьці *спасибо,* а я — *дзякуй,* пазначыў: немка, рускі, паляк. Пачаў з ім па-польску, разумее нешта. Відаць, з польскіх зямель. Былі ў музеі, дзе ўсе кайзеры. Леапольд І з вусамі нагадвае ката Леапольда: «Хлопчыкі, давайце жыць дружна»[2]. [Верш па-нямецку.] Прыпісваюць Гётэ, калі ён разводзіў віно вадой, а з яго кпілі студэнты. Нечым нагадвае жарт з Рабушынскім, які дужа любіў Караткевіч. Уладзімір мне нагадаў дзіцячае: «Давай я табе вырву гузік і без іголкі ўшыю». Гузік вырываецца і даецца кухталь у шыю. А мне прыйшло школьнае: «Гром грыміць, зямля трасецца, Немка з дзённікам нясецца, Прыбягае ў пяты клас: — Kinder, Kinder, was ist das?»

Уладзіміра загружаюць лістамі й перадачамі. У «Народнае слова»[3] прыйшло пісьмо аднекуль са Смаленшчыны. Жанчына, ёй за пяцьдзесят, піша, што адчувае — яна ад немца, а маці захоўвае маўчанне. Што робіць галеча. Прыходзіла тая крыху павышанай экзальтацыі немка, якую віталі ў Тамбове ў вайсковай вучэльні, дзе генерал і поп дзялілі гуманітарную дапамогу. Прыходзіла й Барбара дэ Розэн. Чарніла сваімі прапраўкраінскімі вачыма. Уладзімір яшчэ перакладаў мой каментар да ліста Хадыкі з турмы. У вакно шалелі салаўі. Гэтулькі птушыных галасоў чуў толькі некалі ў маладыя гады ў Вушачы ў алешніку. Як з маленства прыляцелі галасы гэтыя.

---

[1] Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч (1821–1881), рускі пісьменнік, крытык, публіцыст.

[2] «Ребята, давайте жить дружно» — сакраментальная фраза героя мультыплікацыйнага серыяла «Кот Леапольд» (1975–1987). Сцэнарыст *Хайт* Аркадзій Іосіфавіч (1938–2000), рэжысёр *Рэзнікаў* Анатолій Ізраілевіч (1940–2018), заслужаны дзеяч мастацтваў РФ (2012), мастак-пастаноўшчык *Назарук* Вячаслаў Міхайлавіч (н. 1941) — лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

[3] «Народнае слова» — грамадска-палітычная газ. (з 1991, Віцебск; з 2009 — «Народная газета»).

*29 мая, серада*

Спаў як заяц пад кустом з расплюшчанымі вачамі. Баяўся праспаць, бо паабяцаў разбудзіць Уладзіміра. А потым выявілася, што й ён не спаў. Дужа блізкія ў нас характары ў нечым. Клаўс давёз да Вецлара, адтуль на хуткім цягніку. Мяккія вагоны, не трэба было б тут чукчу біцца галавой, шукаць мяккі дэпутацкі. Людзей шмат. Пачынаецца сезон вакацый. У Франкфурце стаў у паток, з'ехаў уніз і ледзьве не адстаў. А ў мяне ж білеты й мае, і Уладзіміравы. Знайшоўся. Адчуванне, як у сне бывае. Куды? Як? Калі? У аэрапорце кантроль лёгкі. Не абмацваюць і не абшукваюць, як у бяздарных фільмах. Даю пашпарт. Вокладка з Пагоняй. Мытнік пытае, а што гэта й дзе гэта Беларусь? Адказваю ледзь не цытатаю з песні пра беларускую польку: паміж Расіяй, Польшчай і Літвою. Ківае галавою, што зразумеў.

У самалёце дужа шыкоўна адзетая маладая дамачка блізка ад нас сядзіць. Я спяваю нешта прывольна-фрывольнае. Уладзімір кажа, каб не дужа, бо суседка гэтая здаецца яму нашай суайчынніцай. Калі запаўнялі анкеты на вяртанне, запытаўся — адкуль, выявілася, што з Менска. Нават мяне крыху ведае, а бацькі зусім добра. Ляціць з Іспаніі. У аэрапорце сустрэлі з ФС. Яшчэ ляцеў з Штатаў эканаміст. Па дарозе яму расказаў усё пра нашыя справы. Амерыканцаў выбары ў Расіі цікавяць болей, чымся свае. Яно й зразумела. Расія размахвае атамнай дубінкай, як пячэрнік той. А ёсць жа послаўка: хочацца, як дурню стрэліць.

*30 мая, чацвер*

На працу. Андраюк, як малое дзіця, пакрыўджаны быў, што доўга затрымаўся. Хоць рабіць нічога няма. Усё стаіць на мёртвай кропцы. Затое праходзіць фестываль самых бяздарных рэжысёраў праславянскіх, праправаслаўных фільмаў. [...]. У Палітпрасе тры залы. Пачалі з хрэснага ходу каля Свіслачы, дзе побач спірт- і піўзаводы. Прыехалі скорасшывацелі імперыі, у тым ліку й [...] Распуцін[1] [...]. А вечарам спрабавалі пікетаваць рэзыдэнцыю [Лукашэнкі] ў пратэст трымання вязняў украінскіх і нашых. Разганялі жорстка. Білі. Каля сотні адвезлі ў пастарункі.

*31 мая, пятніца*

Васіль казаў: «Цяпер без Сораса не могуць двух на рагу сысціся. Пішуць заяўкі, каб Сорас даў на куфаль піва». Засядалі. А потым Васіль распавядаў, а яму Ткачэнка[2] з расійскага ПЭН-цэнтра. Ён выступіў перад скорасшывацелямі імперыі ў АН і запытаўся, чаму няма ні Быкава, ні мяне,

---

[1] Распуцін Валянцін Грыгор'евіч (1937–2015), рускі празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1977, 1987).

[2] Ткачэнка Аляксандр Пятровіч (1945–2007), рускі паэт. Дырэктар Рускага ПЭН-цэнтра.

ні Алексіевіч. Зала загула й пачала крычаць праклёны ў адрас нацыяналістаў. […] Яроменка падбег пасля да Ткачэнкі й пачаў: «І ты прадаўся, колькі табе заплацілі нацыяналісты?» Міністр культуры [Сасноўскі] падтрымаў актора-бяздарніка. Артуравага [Вольскага] пасынка [Сяргея] схапілі каля ГУМа, запіхнулі ў машыну. Афіцэр нешта сказаў другому, а пасля яму: «Свабоды захацелася?» — і ў твар локцем. У хлопца было пасведчанне «Вожыка». Адпусцілі. А раніцай прыехалі дамоў, забралі, вечарам зноў адпусцілі.

Быў запрошаны на абед мільянеркай Вольгай. Ёй трэба было маё спрыянне ў адной справе. А ўсё яшчэ ўспамінаецца Нямеччына. У Франкфурце поштоўкі. Самалёт узлятае. Lufthansa. Аб'ява на чысцюткай беларускай мове, з водарам даўніны. Нехта з эмігрантак, відаць.

*1 чэрвеня, субота*

Месяц, калі нарадзілася мама. Усё зелянее, усё буяе. Пайшоў быў прайсціся ў наш так званы парк, чыста савецкі. Іду. Двое шмэндрыкаў даволі ўкормленых, вядома, ні слова без мату. Падыходзяць, мінаюць, і раптам адзін крычыць: «Жыд!» Гэта ў мой адрас. […]. У Нямеччыне рух за кайнасць, за фашыстоўскія зверствы. Нельга сказаць двухсэнсоўна супроць яўрэя. А тут — усё, як было пры цары й генсекратары. Камуністы не папрасілі прабачэння, не пакаяліся. Камуністы ў законе.

Званіў Васілю. Зянон з Варшавы пазваніў. Процька […]. Ад імя Хельсінскага камітэта не праз наш факс папрасіла польскі Хельсінскі прыняць і спрыяць — групу так званых парламентарыяў з нашага Верхняга Савета. Камуністаў […] на абмен вопытам. Якім? Палякі толькі дзівяцца. Намесніка старшыні Хельсінскага камітэта [Хадыку] судзяць, а яна, старшыня, на месяц у Штаты. Яе прыцягнуў Карлас. Сумна. Але Карлас цьмяная асоба. Таго не хочучы, але я фактычна за свой век шмат дапамог КГБ, бо, што завецца, укарчоўваў розных -бістаў. А яны прыкідваліся маімі сябрамі. Ім давалася заданне зрабіцца сябрамі. Хоць разбіцца, а зрабіцца.

*2 чэрвеня, нядзеля*

Сёння Сёмуха. Каталіцкую й пратэстанцкую сустракаў у Нямеччыне, сваю тут. Хоць каталіцкая мне радней. Усё-ткі кшчоны я ксяндзом. Ездзіў шукаў бульбу. На маленькім базарчыку няма. Давялося ехаць на Камароўку. Бульба кг 4 тыс., ёсць і па 6, і па 10. Часнык галоўка 5 тысяч. Будуем […] рыначны сацыялізм. Вечарам чытаў Рыльку ў перакладзе Сёмухі. На Сёмуху фактычна чытаў Сёмуху. «Прадай!»[1]

Званіў Васілю. Настрой ягоны кепскі. Здароўе таксама. Як з Бібліі сказана. Не ўмяшчаецца ён у саўках, занадта вялікі.

---

[1] Гл.: Прадай! (2.06.96) // Ксты. С. 267.

*3 чэрвеня, панядзелак*

Ёсць звесткі, што закрываюць БНФ. Звесткі ад пракурора быццам. Званю Васілю. Ён ужо ведае. Кажа: «Хай не радуюцца пэўныя. Сёння БНФ, заўтра «Грамаду», потым — «Згоду»[1]. Спачатку будуць садзіць, потым расстрэльваць. Усё па сатанінскай логіцы. Але жыць трэба. Не па сваёй волі прыйшлі мы на гэты свет, не па сваёй і пойдзем з яго». А ў Ніла, казаў Генадзь, трагедыя. Раньком пазваніў, запытаўся, ці запрошаны Генадзь у акадэмію на шабаш скорасшываццеляў імперыі. «Братачка мой, як жа гэта без пісьменнікаў?» Зразумела, без яго. «Трэба званіць Зуёнку». Відаць, званіў [...].

Трэба мне ехаць у Віцебск на Пушкінскае свята паэзіі. Жах. Няма трох чалавек нават, з кім бы мне хацелася хоць сядзець у машыне. Усе любыя душы маёй даўно не тут. Званю Артханаву[2]. Запрашаю яго ехаць. Кажа, што «Здубавецьця» яму фактычна падабаецца. Зайшла гаворка пра показкі. Найбольш запомнілася: лёг не еўшы, устаў не спаўшы. Нялёгка, значыць, жывецца яму, які ніякой працай не грэбуе.

*4 чэрвеня, аўторак*

На працы завал. Выдавецтва ў глыбокай яме. Лянько-Парсюк ходзіць, як некалі казаў Шолахаў[3] пра Сіманава[4], маладым гаспадаром літаратуры. Прэтэнзій шмат, за плячыма не дужа. Бог яму суддзя. Хвароба маладой сачковай генерацыі — замінаюць старэйшыя. Як таму танцору кепскаму. Неўзабаве й яму пачнуць дыхаць у шыю яшчэ жвавейшыя жыгункі.

На працу прыйшоў і спаткаў Міхася Басалыгу[5]. Міністр культуры [Сасноўскі] аддаў загад скараціць пасаду ў мастацкай вучэльні Купавы[6]. За актыўны ўдзел у БНФ. Пятлю на шыі зашморгваюць.

---

[1] Партыя народнай згоды (1992–1996), з 1997 г. Сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды.

[2] Артханаў Глеб (сапр. Аляксееў Юрый Ігаравіч; н. 1954), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Усерасійскай літаратурнай прэміі імя Б. Карнілава, Міжнароднай літаратурнай прэміі імя І. Анненскага.

[3] Шолахаў Міхаіл Аляксандравіч (1905–1984), рускі празаік, публіцыст і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1939). Герой Сацыялістычнай Працы (1967, 1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941), Ленінскай прэміі (1960).

[4] Сіманаў Канстанцін Міхайлавіч (сапр. Кірыл; 1915–1979), рускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1942, 1943, 1946, 1947, 1950).

[5] Басалыга Міхаіл Самуілавіч (н. 1942), беларускі графік.

[6] Купава Мікалай Мікалаевіч (н. 1946), беларускі графік. У 1990–1996 гг. дырэктар Мінскага мастацкага вучылішча.

*5 чэрвеня, серада*

Трошкі адзначылі на працы сераду. Змусілі мяне ўсё-ткі ехаць. Невялікія зборы. Прыходзіў Міхась Скобла. Намеснікам міністра па друку па міжнародных сувязях назначылі [...] Вячаслава Дашкевіча[1]. Адразу ж заявіў, што ён спыніць русафобію, якая вылязае адусюль. Вялікадзяржаўны расійскі шавінізм па-ранейшаму — ойча наш [...]. «Гэты свет...»[2]

*6 чэрвеня, чацвер*

[*г. Віцебск.]* Сустрэча ў тэатральнай гасцёўні. Прыехаў Фаняко́ў[3], Сямён Ласкін[4], гэта з Піцера, са Смаленска Аляксей Мішын[5] і калгасніца, якая ўзначальвае смаленскую філію Саюза пісьменніка, Ніна Сямёнава[6]. Дыхнула дэкадамі савецкіх часін. Толькі размах меншы, правінцыяльны. Зноў дружба народаў, усіх гасцей аб'ядноўвае туга па чырвонай імперыі. [...].

Каля Пушкінскага знака чыталі вершы. Беліжэнка[7] ўсё паўтараў: «Вые бура». Добра было б украінскае прозвішча кшталту Мікола Выябура. Наогул інтарэс да падобных імпрэз падае. Гэта яшчэ савецкая інэрцыя. Трэба нешта новае, у сэнсе — даўняе, чалавечае. Дый вялікія статкі зганяць якое карысці.

* «Ум у меня болит, который ещё остался», — Нина Семёнова (Смоленск).

*7 чэрвеня, пятніца*

*г. Полацак.*Музей беларускага кнігадрукавання. Сустрэча. Сустрэў зяця Ганулькі Міклашэўскай[8]. Псэўданім Куніцкі. Піша вершы па-беларуску. З 1929 года нараджэння. Матка хросная пахавана на могільніку каля Палаты, насупроць Музея кнігадрукавання, на тым беразе. Потым у *Наваполацк*. У бібліятэцы сустрэча. Новыя песні Міколы Пятрэнкі[9]. Яшчэ клявае. Малайчына. На ім фактычна трымалася ў савецкія часіны беларускасць у Полацку.

---

[1] Дашкевіч Вячаслаў Іосіфавіч (н. 1941), беларускі паэт. У 1996 г. нам. міністра Дзяржаўнага камітэта па друку і інфармацыі.

[2] Гл.: Проста людная... (5.09.96) // Ксты. С. 297.

[3] Фанякоў Ілья Алегавіч (1935–2011), рускі паэт, журналіст.

[4] Ласкін Сямён Барысавіч (1930–2005), рускі празаік, драматург, сцэнарыст.

[5] Мішын Аляксей Віктаравіч (1936–2009), рускі паэт (Смаленск).

[6] Сямёнава Ніна Арцёмаўна (1931–1996), рускі празаік (Смаленск).

[7] Беляжэнка (Беліжэнка) Барыс Паўлавіч (1937–2016), беларускі паэт.

[8] Ганна, дачка хроснай маткі Рыгора Іванавіча Феліцыі Антонаўны Міклашэўскай; сяброўка маленства.

[9] Пятрэнка Мікалай Макаравіч (1919–1997), беларускі дзеяч аматарскага мастацтва, кампазітар, педагог. Заслужаны настаўнік БССР (1966).

Вячэра ў рэстаране гатэля Naftan. Танцы. Новыя [бізне]смены. Адзін асабліва раздражняў. […]. На варацакі цягне. Затое ў супершыкоўным нумары па апошнім слове зробленым на італьянскіх спецыялістаў. У вакно даносіцца муканне кароў, туркаўкі туркаюць без суціху. Вёска ніяк не хоча саступаць месту. Праўда, ідзем па калідоры, як па ямінах у лесе, а ўсё заслана сінтэтычным кілімавым засціланнем. Цікава, як мяняецца ўсё. Калі пачалі мы за агульным сталом спяваць, а потым Рабаконь рамансы, дырэктар рэстарана сказаў спыніць, каб не перашкаджаць астатняй публіцы за столікам адпачываць і слухаць запісаную музыку. З намі былі кіраўнікі горада, у прыватнасці, […] вертыкальшчыца па культуры. Раней бы ўсё было наадварот. Грошы пачынаюць браць уладу.

*8 чэрвеня, субота*

Наваполацк. Усё-ткі беларусы […] робяцца вялікай нацыяй — на нас працуюць негры. У гатэлі Naftan негр і нейкую бочку каціў, і ключы ад нумароў прымаў. Проста Новы Ёрк ці Лёндан. Паехалі ў *Бачэйкава* ў маёнтак Ціханавецкіх — некалі да бальшавікоў беларускі Версаль. Ціханавецкія марылі выйсці ў неабмежаваную прастору. Бальшавікі дапамаглі, каб мара здзейснілася. Прастора засталася, ад маёнтка з паркам, з вадаспадамі, з выхадам праз рэкі ў Балтыку, адтуль у акіян, нічога не засталося. Кірылава[1], кіраўніца Віцебскага аддзялення ФС, робіць нейкія маніпуляцыі, быццам бы мае канкрэтны намер узнавіць маёнтак. Выявілася, што Мальдзіс[2] спадзяваўся, што апошні Ціханавецкі, які жыве ў Лёндане, а цяпер пасол Польшчы ў Італіі, аддасць, адпіша яму маёнтак. […]. І наогул усё выглядае смешна. Зямля фактычна калгасная. Падзелена ўсё на надзелы. Садзяць бульбу, сеюць жыта, косяць сена, пасвяць кароў. Савецкія калгаснічкі, калі й адновяць раптам сілы нябесныя сядзібу, спаляць усё й разрабуюць. Вопыт ёсць. Ну, хай па гэтым галава баліць Кірылавай і Адаму. А мне запалі ў душу вочы аднае дамы. Запрашала на Купалле. Калі не прыеду, абяцала, што вочы ейныя будуць стаяць у мяне не толькі перад вачыма. Паганская жарсць і вядзьмарскія чары ў гэтых вачах. Твар у вяснушках. Уся гарачае сонца — у пратуберанцах вяснушак.

*9 чэрвеня, нядзеля*

На Камароўку з Валяй. Потым сустракаўся з гомельскай бэнээфаўкай — дачка паступае ў Акадэмію мастацтва. Званіў двойчы Васілю.

[1] Кірылава Валянціна Міхайлаўна, выканаўчы дырэктар Віцебскага абласнога аддзялення Фонду Сораса.

[2] Мальдзіс Адам Восіпавіч (н. 1932), беларускі вучоны-філолаг, пісьменнік. У 1991–1998 гг. дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. Доктар філалагічных навук (1987). Прафесар (1990). Заслужаны дзеяч польскай культуры (1982). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1980).

Васіль пра народ наш: «Яго фактычна няма, бо рысы галоўныя, якія вылучаюць народ, — мова й рэлігія — страчаны. Гэта тое, што аб'ядноўвае. Цяпер аб'ядноўваюць кэдэбісты, якія ўсю ўвагу перакінулі на вёску. Пасуць вёску, як раней духаўнікі'. Раней было сялянства з традыцыямі, з сваім мысленнем. Яно грунтам нацыі было. Гэты грунт знішчылі».

*10 чэрвеня, панядзелак*

Сёння, калі верыць пашпарту, які выпісвалі напавер, вядома, дзень нараджэння мамы. Кожны год аддаляе яе ад зямнога бытавання. Думаў пра маму. Успамінаў розныя драбязінкі, што жывілі вобраз. Кожнае ейнае слова цяпер гучыць і ўспрымаецца іначай, чымся пры жыцці. З кожным годам я самотнейшы й самотнейшы.

*11 чэрвеня, аўторак*

Збіраліся ехаць. Не атрымалася. Сёння Васіль мусіў ісці ў клініку. Я спалохаўся. Не пайшоў і мне не сказаў, што з ім. Божанька, ратуй яго. Ссірацеем. Сёмуха хадзіў да ўрача з горлам. На заўтра да анколага. Хаця б у яго нічога кепскага не было. Леся [дачка] прыслала яму [з ЗША] нумар «Беларуса». Яшчэ клявае газета.

*12 чэрвеня, серада*

Ніяк не ад'едзем. Ганад захварэў, хоць бы ачомаўся. У Ілоны з Косцем канфлікт за нейкіх капеек. Трагедыя жабракоў. Мне не ў нос, што дачка мая бедная. Хоць і сам вінаваты, дужа аранжырэйна гадавалі. Ды быў час такі. Затое моладзь новая расце іншая. Цікава, што ў студэнцкім асяродку шануюцца ўдзельнікі мітынгаў, дэманстрацый, асабліва бітыя, за якіх болей чым сем нябітых даюць. Іх запрасіць на вечарыну лічыцца за гонар. Яшчэ не на любую пойдуць. І ёсць у нас яшчэ б. л. Толькі б сярод іх правакатараў не было.

*13 чэрвеня, чацвер*

Нацыя жыве! Негры працуюць на нас. У пад'земным пераходзе вясёлы жабрак катуе гармонік і пяе «Гуляць, дык гуляць». А даўно чуў, як п'яныя дзяўчаты пяялі: «Лёс, як віно на палыне». Някляеў, як Някрасаў[1], папулярны. Дарэчы, такімі тэмпамі, як Някляева, ужо нікога не выдавалі. […]. Будзе непасрэдная трансляцыя вечара Вовы з Маладзечна. І ружы ад [Лукашэнкі] будуць. А ў нас у выдавецтве ўжо некаторыя галадаюць. Вараць суп з дзьмухаўцоў. Зарплаты няма. Ганад захварэў. Галя Роліч, чулая беларуская душа, адразу прапанавала наведаць хворага, бо, кажа, п'ем разам, а на хворага забываемся.

[1] Някрасаў Мікалай Аляксеевіч (1821–1877]78), рускі паэт і празаік.

*14 чэрвеня, пятніца*

*Вушача!* Як бы ні мучаўся, абы добра памёр. Усё-ткі выехалі. Па дарозе Мірон нэрваваўся, сядзеў за фіранкай, пад'язджаючы да Вушачы, пачаў мяўкаць. Мой залаты званочак Дамінічка шчасліва звінела ўсю дарогу. Хата крыху пацямнела. Двор і гарод зарос маладой, яшчэ светлай травой. Нейкім шчымлівым спакоем ахінула. Марыя Рыгораўна прынесла згатаваную бульбу. Рукаў у свэдары падраны, увесь час аблакочваецца аб прыпек, аб стол — усё гатуе, вымоджвае традыцыйнае нешта з нічога. Адыходзіць радня мая, адыходзіць Вушача мая, адыходжу й я. Толькі, што сам адыходзіш, не гэтак заўважаеш. Сум раней ішоў надозар, а цяпер у патыліцу дыхае. Адчуваю сябе між Вушачай і Менскам, як сарваны зялёны яблык. Раптоўна і не ў час з галінай разлучылі. Стрэслі. Бакі абабілі.

Прыехаў назад. Званю Васілю. Ён суправаджаў немцаў у Музеі вайны. Асобная выстава ра'ка крыві нацыі Крапівы, сярод генералаў планшэтка Шамякіна, па якой ён, відаць, збіў свой самалёт. Нешта ад Бачылы[1]. У музеі ўжо рэчы Кастэнкі[2] й цяперашняга міністра[3] войска. Бо пасля выкінуць. Асобныя стэнды «Яны ваявалі». Кажу Васілю, каб стэнд зрабіць пра стукачоў: «Ад іх вызвалялі Беларусь». [...]. Вядома, Быкава нідзе няма. Ён жа ў штабах не ваяваў, не піў у гатэлях Масквы ў рэдакцыях папугайскага кшталту. «Сімвалісты: Базарнага сацыялізму прыступы...» [у дзённіку].

*15 чэрвеня, субота*

Прывыкаю адзін дома быць. Не хапае ўсіх. Хоць, здавалася б, перашкаджалі. Раздражнялі нават. Хадзіў на Камароўку — купляў нейкі харч. Званіў Васілю. Ён мазахіст — чытае чырвона-карычневыя газеты. Гэта ж яд у душу ягоную светлую йдзе.

*16 чэрвеня, нядзеля*

Да Радзіка. Сынок Ларык такі пацьмячок. Бацькі вагаюцца, ехаць ці не ехаць. Як у тым анекдоце: не ведаю, пра што вы гаворыце, але ехаць трэба. Дый Радзіку рана ці позна давядзецца з'язджаць адсюль. Ніколі тут на чалавечай памяці толку не будзе з такімі суседзямі.

З Маладзечна непасрэдная трансляцыя вечара Някляева. Палова канцэрта на расійскія тэксты юбіляра. Паплаўскія[4] [...] каб слова па-беларус-

---

[1] Бачыла Алесь (Аляксандр Мікалаевіч; 1918–1983), беларускі паэт, лібрэтыст, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1967).

[2] Кастэнка Антон Іванавіч (н. 1940), беларускі ваенны і дзяржаўны дзеяч. Генерал-палкоўнік. У 1994–1995 гг. міністр абароны РБ.

[3] Мальцаў Леанід Сямёнавіч (н. 1949), беларускі ваенны і дзяржаўны дзеяч. Генерал-палкоўнік. У 1995–1996 гг. міністр абароны.

[4] Паплаўская Ядвіга Канстанцінаўна (н. 1949), беларускі кампазітар, эстрадная спявачка. Народная артыстка РБ (2006). З 1989 г. (разам з мужам А. Ціхановічам) заснавальнік

ку. «Песняры»[1] ездзілі з праграмай для казакоў на поўдзень Расіі. Тэксты песняў Вова па-расійску ўштопаў. Казакі перадалі яму казачую вопратку. Яшчэ залічаць, як некалі Леніна качагарам, машыністам, і Вову ганаровым [...]. Казакі — апора вялікадзяржаўнікаў. Прыехаў вітаць і [...] Шарэцкі. Ахвярадаўцамі былі ў першую чаргу — Адміністрацыя [Лукашэнкі]. Над натоўпам нехта трымаў [афіцыйны] сцяг. Адзін выгук быў: «Жыве Беларусь!» Утомлённое солнце дужа падобны быў да Зюганава й колерам твару, і ўпэўненасцю ў ідэі светлай будучыні.

*17 чэрвеня, панядзелак*

Званіў Генадзь. Яўна перажывае, што не ягоны вечар быў. Някляеў запрашаў на застолле. Не застаўся. Сказаў, што дружба з ім можа нашкодзіць Вову. Хоча быць апальным. І яшчэ паведаміў, што пахваліў Шарэцкага за выступ. А Дранько казаў пасля, што Генадзь выступаў [...]. Занадта ўлёг. Васіль смяяўся: «Раней любіў, але баяўся Палітбюро, а цяпер толькі Юля засталася».

Званіў у Вушачу. Там даждліва, халодна й галодна. Да восені ўсё на самоў хвост звядзецца. Мірона заганяе суседскі кот. Бедны мой лірык. Інтэлігентнасць трэба хіба што пры адыходзе з гэтага свету. Дый то не трэба. «Маўчыць галінамі ў неба крона»[2].

*18 чэрвеня, аўторак*

Засядаў Хельсінскі камітэт. Васіль зазначыў, што вельмі важна збіраць звесткі пра катаў — міліцыянтаў, суддзяў, пракурораў, якія стараліся ў здзеках над схопленымі дэманстрантамі. Важна гэта — бо адзіны й суд нам, і прысуд. Старацца, каб ішла інфармацыя ў прэсе. Застаецца хай у колькіх экземплярах як дакумент. Нашага выдавецкага Міхася Котава[3] затрымалі, пераламалі грудную клетку, бо ўбачылі бел-чырвона-белы значок, а яшчэ гаварыў па-беларуску. Генацыд самы сапраўдны ў суперпаліцэйскай дзяржаве. А Генадзь яшчэ хваліць розных [шарэцкіх]. Вось табе й цэнтр Эўропы, і канец дваццаці стагоддзяў. Прагрэс, як тая чарапаха з анекдота, што йшла па гарэлку.

Заўтра Пятроўскі едзе ў Вушачу здымаць чаўнара. А ён як кожны нармальны вушацкі запіў ды яшчэ лоб разбіў. Нічога-ткі сабе кадр. Бегаў па магазінах, каб нешта купіць ды перадаць маім дарагім. Небагата ў магазінах. Дорага, але бедна.

і кіраўнік Тэатра песні. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979). Дачка К. Паплаўскага. Ціхановіч Аляксандр Рыгоравіч (1952–2017), беларускі эстрадны спявак. Народны артыст РБ (2006). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979).

[1] «Песняры» — беларускі вакальна-інструментальны ансамбль (з 1969).

[2] Гл.: Ясачкі: Маўчыць галінамі ў неба крона (17.06.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 332.

[3] Котаў Міхаіл Іосіфавіч, супрацоўнік выд-ва «Мастацкая літаратура».

*19 чэрвеня, серада*

Учора Васіль сабраўся ехаць у Гародню, каб збегчы ад няпрошаных віншавантаў на свой дзень народзінаў. Я ўзяў у яго тэлефон сына Васіля, каб пазваніць ды павіншаваць. Раненька званок: «Званю табе сам, каб ты не траціўся». Пытаюся, ці ўжо заехаў так рана. Аж гэта Васіль не паехаў у Гародню, застаўся дома. Запрасіў мяне прыйсці а другой гадзіне. Каля дзесяці замест абяцанай паловы восьмай прыехалі кінастудыйцы, і перадаў я тое-сёе. Потым на працу, бо пазваніў Ганад, што афармленне ягонай кніжкі прыйшло. Казлоў[1] зрабіў.

Да Васіля. Пакуль няправільна набіраў код пад’езда, падышлі Карміль-кін, Артур і дзве дзяўчынкі паглядзець Васіля. У пакоі ўжо сядзелі Болтач[2] і […] Генадзь. Званілі бесперапынна. Малады чалавек прынёс віншаванне ад амбасадара Злучаных Штатаў. Пашанлівае, захопленае, інтэлігентнае. Выходзіць, [Лукашэнка] на сустрэчы з моладзю назваў Васіля побач з Шамякіным і Танкам[3]. І ў выдавецтве заварушыліся з кнігай. Андраюк прызнаўся, што быў званок не друкаваць, быццам бы толькі дзяўчатам з Камітэта [па друку], якія робяць палітыку. Адна з іх дачка Савелія Паўлава[4]. Закаціўся Лучанок[5] з Стральчэнем[6]. […].

Па дарозе, калі я ўсё-ткі ўсіх вывеў (гэта мой самы лепшы падарунак юбіляру), Лучанок сказаў, што [Лукашэнка] лічыць, што гэта я напісаў паэму [… «Лука Мудзішчаў»]. Занадта шмат гонару […]. Але, калі лічыць, няхай. Мне ягоная ласка не трэба. Васіля віншаваў і амбасадар Італіі. Карпенка[7] сказаў, што ёсць спісы няўгодных палітыкаў […].

На беларускай велікоднай паштоўцы Васілю напісаў:

---

[1] Казлоў Мікалай Раманавіч (1945–2011), беларускі кніжны графік.

[2] Болтач Валянцін Уладзіміравіч (псеўд. Блакіт; 1938–2007), беларускі пісьменнік. У 1987–2000 гг. гал. рэдактар час. «Вожык».

[3] Танк Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912–1995), беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР (1968). Акадэмік АН БССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1966), Ленінскай прэміі (1978).

[4] Паўлава Алена Савельеўна, супрацоўніца Дзяржаўнага камітэта па друку і інфармацыі. *Паўлаў* Савелій Яфімавіч (1934–2017), беларускі гісторык, партыйны дзеяч і публіцыст. Кандыдат гістарычных навук (1971). Прафесар (1990).

[5] Лучанок Ігар Міхайлавіч (1938–2018), беларускі кампазітар. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны артыст БССР (1982). Народны артыст СССР (1987). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[6] Стральчэня Віктар Аляксандравіч (н. 1940), артыст оперы. З 1974 г. саліст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы РБ. Заслужаны артыст РБ (1999).

[7] Карпенка Генадзь Дзмітрыевіч (1949–1999), беларускі навуковец і дзяржаўны дзеяч. З 1996 г. дэпутат ВС РБ, нам. старшыні ВС. Доктар тэхнічных навук (1990). Член-карэспандэнт НАНБ (1994). Заслужаны дзеяч навукі РБ (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

Дзень народзінаў тваіх, Васіль,
Як Вялічка крывіцкага роду.
Сыдзе ўся бальшавіцкая цвіль,
І пачуем святую лагоду.
Дасмыляць, як карчы, стукачы,
Стане цёмна прадажніцкім совам.
Вечніну' абжывуць крывічы,
Душы свенцячы быкаўскім словам!

*20 чэрвеня, чацвер*

З раніцы званіў Лявон Ліпень[1]. Супроць паганства, супроць фальклору, супроць беларускай паэзіі, якая, на ягоную думку, цёмная. Кальвініст. А бальшавіцкімі аршынамі ўсё мерае. Безапеляцыйнасць чыста бальшавіцкая. Селекцыя дае сябе адчуць. А пасля званка ўключыў радыё. Алесь Савіцкі распінаўся, якія партызаны былі добрыя. І толькі недасканалыя й злыя людзі ўзводзяць паклёп, быццам бы яны ў каго боты ці папружку забіралі. А партызаны дапамагалі сеяць і ўбіраць. І крый Бог, каб партызан іголку ўзяў у каго. Дужа нагадвае анекдот пра будаўнікоў і дзяцячы садок. Ну, вядома, хваліў савецкую ўладу, правільнасць русіфікацыі. Назваў сваіх сяброў — Пташнікава, Пашкова, Бажко, з мёртвых Карпава[2], Сачанку, Чыгрынава, апошняга назваў прарокам. Усе [...] камуністычныя кадры праяўляюцца, як плёнкі. [...].

*21 чэрвеня, пятніца*

Пасяджэнне клуба «Спадчына» ў доме Купалы. Добра пра Васіля казалі ўсе, асабліва Мікола Ермаловіч[3]. Праз Быкава нас ведае Эўропа, калі што й ведае. Яўген Ціхановіч[4], зяць Галубкоў[5], паведаміў, што ўжо даказана аўтарства «Несцеркі»[6]. Гэта, вядома, рэч Галубка. Зэйдэль[7] як чэкіст, што курырваў культуру, украў з бальшавіцкім спрытам. Праўда, юрыдычна цяжка даказаць. [...]. Белы звярнуўся да прадстаўнічкі амбасады Штатаў, каб дапамаглі зрабіць кампутарны аналіз тэксту, як рабілі з Гамэрам[8], з Шолахавым. Спадарыня паабяцала паспрыяць. Дарэчы,

---

[1] Ліпень Лявон Альгердавіч, кальвінісцкі пастар.

[2] Карпаў Уладзімір Барысавіч (1912–1977), беларускі пісьменнік.

[3] Ермаловіч Мікалай Іванавіч (1921–2000), беларускі гісторык, літаратуразнавец.

[4] Ціхановіч Яўген Мікалаевіч (1911–2005), беларускі мастак, скульптар, графік.

[5] Галубок Уладзіслаў (сапр. Голуб Уладзіслаў Іосіфавіч; 1892–1937), беларускі паэт, празаік, драматург, акцёр і рэжысёр. Народны артыст БССР (1928). Рэпрэсаваны.

[6] «Несцерка» — п'еса У. Галубка, якая была прыўлашчана В. Вольскім.

[7] Вольскі Віталь (сапр. Зэйдэль-Вольскі Віталій Фрыдрыхавіч; 1901–1988), беларускі драматург, літаратуразнавец, нарысіст. Кандыдат філалагічных навук. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1971).

[8] Гамер — легендарны старажытнагрэчаскі эпічны паэт.

кэдэбісцкую справу Галубка Яўгену Ціхановічу даў Лучанок. Які стаіць нападхопах пры ўсіх уладах. Добра спявала песню пра нябесных пілігрымаў кампазітарка Смоляк. Адна паэтка, удзельніца чарговай кнігі «Спадчыны», вясёла зазначыла: «Я была б проста цётка, а цяпер я — маладая паэтка. Гэта дало мне другую маладосць». Спадар Белы ўручыў мне імянны пярсцёнак з выяваю Пагоні, з ініцыяламі й надпісам «Жыве Беларусь!». Прачытаў яму экспромт:

Хай вышэе нашай хаты столь,
Хай жагнае родны край іконаю
Бел-чырвона-белы Анатоль,
Каб трывала «Спадчына» ягоная!

Усе стоячы спявалі «Магутны Божа». Цікава, што й Арсеньева, як і вялікі Максім [Багдановіч], называе Беларусь Краінай. Буйлянка[1] ж — «наш край, старонка». Этнаграфічнасць бярэ верх над дзяржаўнасцю. Розныя мэты, розныя памкненні.

*22 чэрвеня, субота*

На мітынг не пайшоў. Качаюся з галавой. Трачу прытомнасць. Пазваніў дамоў. На кухні праваліўся памост. А раптам званок Стасі Гулевіч. Ці ёсць у мяне кот Мірон. Кажу ёсць. Ды за ім, кажа, з сякераю ганяюцца. Пакусалі сабакі, нейкія плямы сталі. Яна панесла ў ветлякарню. Нічога не прызналі. А ёй сказалі, што гэта Барадулінаў кот. Дзякуй добрай душы. Мой Міронька ў Вушачы й нешта ў яго з лапкаю дрэнна.

Званіў Ваіль. Расказаў яму пра падлогу. Васіль: «І сад, калі ніхто не жыве, сохне, дзічэе. Хай яго й не даглядаюць, але, калі жыве чалавек, і ён жыве. Таксама і з хатаю. Спачатку праваліцца падлога, потым падваліна. Усё жывое й любіць, каб з ім нехта жывы быў».

*23 чэрвеня, нядзеля*

Вар'яцею ад галаўнога болю. То холад, то парна, як з лазні. Званіў Васілю. Ён перачытаў на лецішчы сваім старыя часопісы. Любіць чытаць старую прэсу часам. Агіду выклікалі эпіграмы Вялюгіна[2] ў «Полымі» за 88 год. Асабліва, што ў пэўных маладых у зубах навязла Варкута. І там жа Звонак пра Поўнач, пра пакуты. Я сказаў, што перачытванне старых часопісаў нагадвае ваду, якую цягнеш з глыбокае студні. У ёй і цішыня, і глыбокасць нятлумная. Васіль пагадзіўся. Казаў, што КГБ сваіх адлуч-

---

[1] Буйло Канстанцыя (Калечыц Канстанцыя Антонаўна; 1893–1986), беларуская паэтэса.

[2] Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч (1923–1994), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).

нікаў жорстка карае. Як павучанне іншым. І тут тэлефон пачаў пікаць. На пэўныя прозвішчы й словы аўтаматычна адключэнне йдзе. Ужо няма тых, хто слухае ўручную. Прагрэс.

*24 чэрвеня, панядзелак*

Зрання займаўся праблемай вады. Прыйшоў вадаправодчык Сяргей Марковіч. Беларус, родам з Душанбэ. Тут 10 гадоў. Эвангеліст. Запрашаў наведаць іхнюю царкву. Вярнуўся на працу й прынёс мне брашурку «Свет миру». На працы Ганад фатаграфаваў імгненным апаратам. Хоча схадзіць да Васіля. Званю Васілю. Ён кажа, што гэта ўжо як насланнё — кожны дзень нехта просіцца зайсціся, нехта заходзіцца. Званілі (яны прыехалі) з Калінінградскага тэле, прасілі інтэрв'ю, адмовіўся. І сапраўды, колькі можна чалавека ўкрыжоўваць у эфіры й на тэлеэкранах.

Сяргей хлопец сумленны, богапаслухмяны, а вада ўвесь вечар вадаспадзіла. Хоць я рыба па гараскопу, а вада ў трубах мяне не любіць.

*25 чэрвеня, аўторак*

Сёння дзень нараджэння Броўкі, Шклярэўскага[1]. Пазваніў ранічкай Лапушыну[2] старэйшаму — ён таксама сёння імяніннік. Шкада, але неўзабаве мусіць, мусіць, ад'ехаць. Не дужа затрымаецца й Радзік. Мне будзе не ставаць яўрэяў. Усё жыццё жыў з імі — і сябраваў, і сварыўся, і дапамагаў, і ад іх ласку бачыў. Бальшавікі як пачалі высякаць лясы нашага людства, дасюль высяканне доўжыцца. А тут на Беларусь і Чарнобыль [...]. Гэта яшчэ паспешыла працэс. Гэткай цемрай, гэткім змрокам ахінёна Беларусь, відаць, яшчэ ніколі не была. Камуна[...] змрок у паветры разліты.

*26 чэрвеня, серада*

На працы была засядалаўка. Андраюк з разумным выглядам прачытаў урыўкі з выступу [Лукашэнкі] датычна культуры й выдавецкіх спраў. Бальшавіцкая балбатня, напісаная [за]мяталінаскобелевым. Калі выходзілі, самазакаханец N. упікнуў мяне, што [...] спрыяю выхаду кнігі Ганада. [...] без маленькіх самых пазнак душэўнай далікатнасці. Новае пакаленне. Усе перашкаджаюць, усе замінаюць. Нават яйцы свае, мусіць, не даюць дагнаць славу. Ім дужа хочацца, каб іх купілі [...], а купцоў няма. Усё ў геніяльных хлопчыкаў гуляюць, а самі ўжо сівухі. Агідна. Падмызы.

Васіль хоць вясёлы выпадак расказаў, як яны з Аркадзем Куляшовым былі ў гасцях у Караганавых (яна[3] паэзію вяла ў «Новом мире»), а потым

[1] Шклярэўскі Ігар Іванавіч (н. 1938), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987), Пушкінскай прэміі РФ (1999). Ураджэнец Беларусі.

[2] Лапушын Яфім Сямёнавіч (н. 1932 — ?, ЗША), адвакат; бацька Р. Лапушына.

[3] Караганава Соф'я Грыгор'еўна (1918–2013), супрацоўніца час. «Новый мир» (Масква).

націснулі на кнопку, ліфт з'ехаў уніз, адчыняюць, а там жалезныя дзверы. Рашылі, што зачынілі. Пачалі сядзець. Гадзін каля трох ночы вырашылі ехаць назад да Караганавых. Разбудзілі гаспадара, растлумачылі, што дзверы зачынены. Той паехаў з імі. Усё нармальна. Выходзіць, што яны націснулі на падвал. Гэта была апошняя сустрэча Васіля з Куляшовым.

Сустракаўся з Анціпенкам. Сорас незадаволены нашай Назіральнай радай. Будзе ратацыя. Учора па просьбе Андраюка, а яму далі загад, пісаў анатацыю на «Сцяну» Васіля.

*27 чэрвеня, чацвер*

Сустракаўся з Сяргеем Шараметам ў Вільні. Прадпрымальнік, беларус, у былым афіцэр, рамантуюць кампутары нават для Лукішак. Выдае дзве газеты на расійскай мове. Тыраж 30 тыс. і на нямецкай тыраж 10 тыс. Выдаў адну кніжку Анішчыка[1], выдае другую, трэцюю Анішчык піша пра Барыса Кіта[2]. Нам бы такіх бізнэсоўцаў. Доўга галаву тлуміў Анатоль Белы. Прыйшоў дамой. У маім пакоі не можа вылецець і ў шыбіну як не б'ецца ластаўка. Схапіў за крылцы і выпусціў. Лёгка паляцела. Званю Васілю, кажа: некаму блізкаму майму кепска. У яго на лецішчы птушка залятала. Але нічога дрэннага не здарылася. Пазваніў у Вушачу. […]. А ў мяне галава разламваецца. Як перад канцом.

*28 чэрвеня, пятніца*

Нешта ў паветры перадаецца ад палітыкі. Цяжка. Баліць галава. Глядзеў расійскае тэле. Хоць перад выбарамі паказвалі ўсе жахі камуністычнага заўтра. І правільна кажа Васіль — нам наш так званы суверэнітэт бокам вылезе. У Расіі хоць нейкія змены, хоць трохі ды трасуць ігрушыну камуністычнай ідэалогіі. А ў нас жа заказнік ідэй […]. І, вядома, расійскія дэмакраты могуць папікаць: вы ж самастойныя. У нас суверэнітэт завязанага меха — таўкуць, рэбры выломваюць, а не выскачыш; каму крыўдзіцца? «Якую ўладу ні папрасі…» [у блакноце].

*29 чэрвеня, субота*

Нічога рабіць не магу. Няўжо гэта канчына прыходзіць? На каго ж застанецца мой званочак, мая Дамінічка? Хадзіў да Навума [Кісліка]. У яго

---

[1] Анішчык Аляксей Сцяпанавіч ( псеўд. Андрэй Чэмер, А. Шпак і інш. 1912–2007), педагог, журналіст, пісьменнік, грамадскі і культурны дзеяч (Вільнюс). Быў рэпрэсаваны.

[2] Кіт Барыс Уладзіміравіч (1910–2018, ФРГ), амерыканскі вучоны; дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША. Доктар філасофскіх навук (1982). Акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы (1991). Акадэмік і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі. З 1944 г. жыў у Германіі, з 1948 г. у ЗША, з 1972 г. у ФРГ. Ураджэнец Беларусі. Гл.: Барыс Кіт // Дуліна ад Барадуліна. С. 82.

Рабкін[1] з Піцера. Бабруйчанін, мастак. Жыве ўпрогаладзь. Цэлая дыскусія, як і з чаго варыць, каб танна й навbadрыста. Навумаў брат Валянцін кажа, што да зарплаты на хлеб няма. Жонка павіншавала сяброўку, а другая знаёмая забалтала яе. Трэба плаціць 150 тысяч. Гэта цяжка бюджэту сям'і. Рабкін баіцца йсці плаціць за майстэрню, бо 90 квадратовых метраў. Затое мае радасць — на дзень Перамогі Ельцын павіншаваў як ветэрана. Прапагандысцка-перадвыбарны ход. А ў мяне з галавы не выходзіць Вушача, як там Дамінічка [...]. А Дамінічку ж трэба вучыць. А грошы няма. Ілона без капейкі сядзіць. Малюе добра.

*30 чэрвеня, нядзеля*

Апошні дзень чэрвеня. Увесь месяц у мяне прайшоў у сумятні, у галаўных болях. Ці не развітацца мяне Бог спяшыць? Цэлы дзень прыбіраў, пакаваў, як перад апошнім ад'ездам. Толькі голас Дамінічкі ўзрадаваў па тэлефоне: сказала, што засумавала па дзедзю...

*1 ліпеня, панядзелак*

Званіў дамоў. Дамінічка, раззлаваўшыся на некага, крыкнула: фашыскі кэгэбіст! Вуснамі дзяцяці ісціна прамаўляе. Хадзіў да Андраюка наконт Васіля. Трымае паўзу, як таленавіты актор. Каманда зверху трымаць. І ўсе выконваюць. Нічому й нікога не вучыць гісторыя. [...].

*2 ліпеня, аўторак*

На працы цішыня, як у падводнай лодцы, якая на дне ляжыць у так званай аўтаномцы. Праблема з Ганадам. Андраюк, вядома, пакрыўджаны. І па-засцянковаму помсціць. А я між двух агнёў. Баліць галава. Душа не на мейсцы. Хоць адна радасць — карэктура па «Школьнай серыі» кніжкі прыйшла. Вычытаў. Бальшына самому не падабаецца. Як ні круці, а гэта савецкая паэзія. «Трыкірый» мне болей даспадобы самому. І то пакуль. А з цягам часу нядбайнасць знайду і ў ім. Часіны савецкай селекцыі на ўсіх адчуваюцца. Куды было ўцякаць? Можна апраўдвацца, што трымалі беларускасць хоць у такіх умовах, але гэта слабое апраўданне.

*3 ліпеня, серада*

Сяргей Пятроўскі паехаў здымаць чаўнара. А ён — сапраўдны вушачанец, запіў. І што яму фільм пра яго й план кінастудыі, якая патанае, як Атлантыда. Перадаў маім родным таго-сяго смачненькага. На маю галаву акрамя бураў яшчэ й зацятасць Ганада й Андраюка. Адпачынак мне не належыць. Магу толькі за свой кошт. А грошы няма ніадкуль. Калі студэнтам ехаў да мамы — на ўсё гатовае. А цяпер дамоў едзь і вязі ці ежу, ці

---

[1] Рабкін Абрам Ісакавіч (1925–2013, СПб, РФ), беларускі мастак.

грошы. Іначай — лірыка краявідаў і водар родных мясцінаў сыціць душу будуць. Тры дні хацеў напісаць верш і ніяк далей трох радкоў не пайшоў. Пачытаў Радзіку, а ён кажа, што тут усё й ёсць. Праверце, кажа, на Сёмуху. Васіль пацвердзіў тое ж. «Кожны»[1]. Усё дзейнічае яшчэ вымучаная навука пісання вершаў — пачатак, сярэдзіна й канец. Але ёсць жа яшчэ й верш Гётэ — на шыбіне.

*4 ліпеня, чацвер*

Адключыў тэлефон і нікому не званіў. Пачалі хвалявацца Васіль, Валя званіла з Вушачы. Аднойчы адключыць тэлефон мой сам Усявышні. І мала каму будзе цікава, чаму не чуюць голасу майго. Старасць ёсць старасць — пачынаю самога сябе расчульваць, шкадаваць сябе.

*5 ліпеня, пятніца*

Сёння майму званочку Дамінічцы сем. Даў учора тэлеграму, сёння раніцай званілі з Ілонай. Прыйшла спецыяльна, каб пазваніць. Хоць помніць, што ў яе дачка. Бедная, галодная, знерваваная. Толькі мне жалю дадае. Стаміўся я, прыстаў. А ўсё некуды бягу, як той заяц у сне. На працу заходзіліся Урсула з Папковічам. Мы якраз па-бядняцку палуднавалі. Частавалі іх, чым было. Галеча трымае пальцы на коўціку. «Парабкаванне»[2].

Яшчэ пазваніў Дамінічцы — павіншаваў яе ад імя Васіля й Ірыны Міхайлаўны. Васіль — адзіны родны мне па духу й па нашай крывіцкай, вушацкай зацятасці ў балючай любові да нашага здратаванага бальшавікамі гонару, да Беларушчыны.

*6 ліпеня, субота*

Сёння Купалле! Накіраваў Ілону ў «Дудуткі»[3], дзе Будзінас правіць баль. Хай пагуляе. Сам не магу ўжо вялікіх зборышчаў, шумоў, галагану. Валя з Дамінічкай пойдуць на вушацкае Купалле. Хай Дамінічка сэрцам прысыхае да прадаўняга. Хоць пасля яшчэ балючэй будзе ў малатарні ўсёзнішчэння. [...].

Цэлы дзень разбіраў кнігі. Пад вечар такі дождж уліў, што цёмна стала. Прыгадалася латышская пслаўка: лье як на Ліга. Пазваніў Васілю. У яго нейкі расслаблена-замроены голас. Кажа: «З Ірынай успамінаем Купалле. Ты, кажа, апошні адвакат нашай язычніцкай душы. Паганец, паганства — слова кепскае, яго ўвялі кепскія людзі, а трэба ўсё-ткі язычніцтва. Язычніцтва — духоўная гісторыя народа. Успамінаю, як палілі

---

[1] Гл.: Кожны (3.07.96) // Ксты. С. 285.

[2] Гл.: Парабкаванне (5.07.96) // Халодная памяць вады. С. 90.

[3] «Дудуткі» — недзяржаўны музейны комплекс старажытных рамёсел і тэхналогій каля в. Пціч Пухавіцкага раёна Мінскай вобл., утвораны Я. Будзінасам (з 1994).

кола. Аблівалі дзёгцем, на ўтулку ставілі карчажку і ўзносілі на высокай жардзіне. Кола, вядома, старое, з'езджанае. І тут з Кублічаў прыляталі пагранічнічкі, разганялі. Гэта такі здзек. У нас называлі Купалка. У нас галоўным АМОНам былі пагранічнічкі — хапалі, саджалі. Усё жыццё праходзіла пад гэтым прыгнётам, прымусам. Раней леты былі з дажджамі, з грымотамі. У нас асабліва. Бывала, што пярун і чалавека заб'е. Цютчава[1] апошнім часам падымаюць зноў панславісты. Цютчава прыемна чытаць, але калі чытаеш купалаўскую паэзію дасавецкага перыяду, душу перапарочвае». Добра кажа: «Як-небудзь пяражывём што-небудзь…» Які Васіль беларус нясхібны, трывалы, вушацкі. Зноў пра язычніцтва: «Гэта Атлантыда, якая ўжо не ўсплыве. Добра, што ты яе трымаеш. Думаеш, мне хацелася пісаць пра вайну, пра калектывізацыю? Але маладзейшыя ўсяго гэтага не ведаюць. І я хапаўся, як за адыходзячую натуру…»

*Яўгену Будзінасу*
*(для «Дудутак»)*

Адчуць ласкавы прымус,
Пабыць у сядзібе муз,
Пачуць салаўя на Пцічы,
Раскласці агнішча ў начы,
Пацягаць за вушы асла,
Нафэсціцца да святла, —
Усё гэта праўда, не чуткі.
Спяшайце!
Чакаюць «Дудуткі»!

*Май*

*7 ліпеня, нядзеля*

Цэлы дзень ваяваў з заваламі кніг. Колькі выпушчана савецкай макулатуры, і я нахапаўся кніжак гэтых як жаба гразі'. Хочацца пісаць, а рукі не даходзяць. Мітусня. Роспач. Безнадзейнасць. І так, відаць, праз усю гісторыю свядомай Беларусі.

*8 ліпеня, панядзелак*

Памёр Даніла Коласаў[2]. Вечная памяць. Годна нёс славу бацькі. Хінуўся да ўсяго непрасавечанага беларускага. Час зрабіў яго абачлівым, але не зрабіў подлым […]. І памёр Вітка[3]. Паводзіў сябе нябожчык як алімпі-

---

[1] Цютчаў Фёдар Іванавіч (1803–1873), рускі паэт.

[2] Міцкевіч Даніла Канстанцінавіч (1914–1996), беларускі дзеяч культуры, вучоны-хімік. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Сын Я. Коласа.

[3] Вітка Васіль (сапр. Крысько Цімох Васільевіч; 1911–1996), беларускі паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, драматург, крытык і публіцыст, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры БССР

ец. У нас у выдавецтва павінен быў прыйсці міністр Бельскі. Не прыйшоў. Сам сябе не паважае. [...]. І пылу ад яго не застанецца. Не трэба будзе гісторыі нават мокрай анучкі, каб выцерці мейсца, дзе ён быццам існаваў.

Па дарозе дамоў зайшоў у школу, дзе мусіць вучыцца Дамінічка. У спісах залічаных пад нумарам 15. Гэта ўжо называецца гуманітарны ліцэй № 30. Дамінічка ў французскай групе. Англійская малая. Калі йшоў у гімназію, сустрэў пана Алеся Траяноўскага[1]. Ён перакладае набажэнства ў касцёле Алены й Сымона. Цікава казаў. У касцёле пасялілася кошка. Прывяла кацянят. Малыя растуць, дурэюць, перакульваюць вазоны з кветкамі. А сама кошка любіць пакволіцца на алтары, калі служба не йдзе. І невядома, як быць з тварынай боскаю. Выгнаць грэх і так трымаць таксама.

Калі званіў Васілю, казаў, што Ірына Міхайлаўна не ўмее паводзіць сябе як жонка класіка. Ліля Законнікава[2] дасюль пачувае сябе жонкай загадчыка сакратара літаратуры ЦК, Юля Бураўкініха як высокаранговая пасліца й міністэрыха. Васіль смяецца, што Ірыне Міхайлаўне не хапіла на хлеб. Яна пярэчыць, што хацела купіць піва й хлеба, дык на піва не хапіла, а хлеб усё-ткі купіла. Мы заўважаем з Васілём: калі Шамякіну не хапіла на піва, пра гэта праз ўсю прэсу лямантаваў нябога.

*9 ліпеня, аўторак*

Сёння дзень нараджэння маёй дарагой Валенькі. Званіў. Віншаваў. Паўвека Някляеву. Дазваніцца не мог. Перадаў віншаванне праз нейкага казачка, які дзяжурыць у яго на тэлефоне. На разрыў і сёння, і штодня. Васіль быў на пахаванні Віткі. Падышоў Вовік, Васіль яго павіншаваў. Клікаў Васіля выпіць. Каля Вовіка тут жа круціўся Законнікаў, землячок наш, пакутнік ЦК. Васіль запытаўся ў Вовіка, калі дасць інтэрв'ю, што браў у яго ў «Крыніцу» Залозка[3]. Вовік пачаў казаць пра цяжкасці з паперай і розную муць. Васіль кажа, што вочы ў яго, як у шэльмы. Відаць, перад сваім юбілеем не хацеў псаваць настрой Замяталіну. Наогул, у паветры разліты трыццаць сёмы год, толькі градусы вычхаліся, бо не закупораны.

*10 ліпеня, серада*

Кожны дзень прачынаюся хворы. Як з жыццём развітваюся, так нічога й не зрабіўшы з тога, што меў на мэце. З Сёмухам разважалі, якая сіла

(1970). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972). Узнагароджаны міжнародным ганаровым дыпломам імя Х.-К. Андэрсена (1978).

[1] Траяноўскі Алесь (Аляксандр Пятровіч; 1925–2005), беларускі перакладчык.

[2] Законнікава Лілія Рыгораўна (н. 1947), карэктар, мал. рэдактар, рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура» (1975–1997).

[3] Залозка Юрый Іванавіч (н. 1968), беларускі журналіст; пасля 1995 г. святар.

большая — Гасподняя ці д’яблава. А ўшчалося ўсё са смерці Кучара[1] — старога стукача, рангам ніжэйшага за Лужаніна ці Віталя Вольскага. У саюзе быццам не хацелі ставіць труну. Але ж чаму раней не выключылі з саюза, ці пабаяліся КГБ, ці атрымалі ўказанне ад гэтай самай масавай масонскай арганізацыі. Мёртвы ўжо на суд ідзе да самога Госпада. Дый нейкім чынам ён выконваў кару Гасподнюю, займаўся брудняй працай. І суддзя яму цяпер Бог.

Хавалі Данілу з музею, з бацькавай хаты. Вёў жалобны рэй Алесь Савіцкі. […] партыя падымаюць са дна куфраў свае кадры. Час іхні зноў. Да Васіля падышоў Паўлаў і папрасіў прабачэння. Васіль здзівіўся — за што? Прапусцілі прозвішча Васілёва ў некралогу па Вітку. Ці прапусцілі? Потым мяне дапякала […] Процька. […]. І яна за супрацоўніцтва з Вярхсаветам і з камуністамі. І ў Кангрэсе ЗША была. Карлас добрыя кадры паставіў на Хельсінскі камітэт. Не хочацца верыць недаверу Карласу, а факты націскаюць. «І наноў»[2].

Прыехаў Самсон з Ізраіля. Доўга глядзеў у яго кадры на відэа. Прыёмны ўнук здаровы, укормлены й чужы, нават сабе, здаецца. Закарміць можна ўсё, душу нават.

*11 ліпеня, чацвер*

Прасядзеў дома. Ваюю з заваламі кніг. Гэтулькі рознага непатрэбнага — жах. Вовіку [Лукашэнка] даў тэлеграму. […]. Нашую так званую інтэлігенцыю яшчэ сысункамі, як парасят у кашалі, раскупліваюць. І пояць адпаведна з накірункам з розных сосак розным фармальна малаком. Сутнасць адна. Купіць, зваўкалачыць.

*12 ліпеня, пятніца*

Выпаўз на працу. Андраюк збіраецца быццам адыходзіць. Не дапамагло й трыманне Васіля ледзь не два гады. З Сёмухам цікавая гутарка. На пахаванні пратэстанта пастар: «Нябожчык быў без асаблівых заганаў, паслухмяны перад Госпадам. За што ж усё-ткі Бог пакараў? А пакараў за тое, што не бярог жыццё, дадзенае яму Усявышнім. І заяц, і курапатка ратуюць сваё жыццё. Хоць ў іх няма свабоды выбару — свядомасці. А нябожчык заснуў за рулём, а мусіў адпачыць. Няправільна распарадзіўся дарам Гасподнім. Бог не адказвае за кожнага чалавека, Бог у кожным чалавеку. І д’ябал — адпалы анёл. Чым бліжэй хінемся да д’ябла, тым далей аддаляемся ад Госпада. Людзі — зброя Госпадава. Ці змагацца са злом, з д’яблавай навалаччу, ці спрыяць д’яблу. І забойца толькі выканаўца волі Гасподняй. А ахвяра сплачвае даўгі, не абавязкова свае, а роду

[1] Кучар Алесь (Айзік Евелевіч; 1910–1996), беларускі крытык, драматург, сцэнарыст.
[2] Гл.: І наноў (10.07.96) // Ксты. С. 224.

свайго ў невядома якім калене». Так, улада ад Бога. Але ж ад Бога й ласка, і кара. [...]. Любое прыхіленне да ўлады гэтай — служэнне д'яблу. Прыхіленне да сілы зла.

«Якая...: І д'яблава, і Госпадава сіла» [у дзённіку].

*13 ліпеня, субота*

Маё любімае чысло трынадцаць. Каб яшчэ ды панядзелак. Сядзеў як воўк дома. Нікуды не магу хадзіць, асабліва дзе шмат тлуму. Учора ўначы пад уражаннем гутаркі з Сёмухам пісаў: «Ад Бога»[1]. А потым удзень з хворай галавой яшчэ нешта вымоджваў: «Кат ці ахвяра»[2].

*14 ліпеня, нядзеля*

Выпаўзаў на Камароўку. Таго-сяго ў Вушачу купіць. Усё ёсць, а грошы няма. Званіў вечарам Васілю, крыўдзіўся на сваё здароўе. Васіль адказаў: «Мы проста старыя людзі». І гэта так. Пра Яроменку: «У яго манера гаварыць, як у прэзідэнта. Паслухаць збоку — вялікі, разумны чалавек, калі не ўслуха'цца». Так некалі Ягор Ісаеў[3] [выступаў]. [...]. Інтэрв'ю Генадзя. Як і ў Ніла, ні слова пра камуністаў. З імі дыскутаваць бескарысна, усё зводзяць на ўзровень дэмагогіі. Толькі з пазіцыі абвінавачвання трэба гаварыць з пракамуністычнымі, а не апраўдвацца. Звычайна ў літаратуры ідуць парамі. Спачатку Генадзь абагнаў Ніла, бо стаў членам ЦК, а потым Ніл, пакуль Генадзь на прыёмах цадзіў з фужэраў шампанскае ў Штатах, Ніл стаў камісарам усёй культуры. Калі б патрымаўся Шушкевіч, Нілу быў бы разгон. Сябе паўводзіў у школьныя праграмы. Але народныя мсціўцы заўважаць і выведуць, увядуць Скобелева, Някляева. Як ні хаваўся Ніл, а ў нацыянальным плане засвяціўся. А мова цяпер — крымінал. Амонаўцы б'юць на прыпынках, хто спрабуе яшчэ гаварыць па-беларуску.

*15 ліпеня, панядзелак*

На працы паніка. Новы міністр [Бельскі] абяцае прывесці новага дырэктара. Андраюку прапануюць галоўным [рэдактарам] быць. Палескі балотны філосаф Кусянкоў[4] хоча быць ці загадчыкам, ці вядучым [рэдактарам]. З раніцы на кінастудыі. Матэрыял пра чаўнара. Цікавыя кадры. Як узнікае човен. Прасмольвае чаўнар човен і замест пакулля — зялёнае сінтэтычнае валакно нейкае. Даўніна з сумным сённяшнім днём.

---

[1] Гл.: Ад Бога (13.07.96) // Ксты. С. 290.

[2] Гл.: Кат ці ахвяра (13.07.96) // Тамсама. С. 201.

[3] Ісаеў Ягор (Георгій) Аляксандравіч (1926–2013), рускі паэт. Герой Сацыялістычнай Працы (1986). Лаўрэат Ленінскай прэміі (1980).

[4] Кусянкоў Мікола (Мікалай Сяргеевіч; 1935–2004), беларускі пісьменнік. У 1993–1996 гг. гал. рэдактар, у 1996–1998 гг. вядучы рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя А. Куляшова (1991), Дзяржаўнай прэміі РБ (2000).

*16 ліпеня, аўторак*

Хацеў не йсці на працу. Трэба падпісаць кожную старонку зборніка Законнікава — вязьня ЦК. Прыехала Снарская[1]. Напісаў ёй рэкамендацыю ў саюз. Маладых некаторых гэта яшчэ грэе. Брылішка[2] Наташа чула па «Радыёфакце»: на Палессі буслы не заводзяць сем'яў, бабылююць[3]. Пасля вайны бусліхі былі без буслоў.

*17 ліпеня, серада*

*Вушача!* Перад ад'ездам Васіль перадаў прывітанне роднай зямельцы, усім маім. Сказаў, што дарога — заўсягды небяспека. Пажадаў: «Хай цябе Божанька беражэ!» Першая сустрэла мяне Дамінічка. Узрадавалася. Абвілася каля шыі. Роднае, баючае стварэнне, яшчэ анёльская душа. Ездзілі на ўзглёдзіны на Плінскае возера. Тут і будуць здымаць. Заязджаліся на лецішча да Роўбы. [...]. Ціша й сум.

*18 ліпеня, чацвер*

Як не цэлы дзень веславаў. І лёгка было, і прыемна. Колькі пакаленняў перадаецца гэтая любоў да вады, да чаўна, да жадання ўзараць ваду вяслом. Усё — і плуг, і вясло, і лапата, і рыдлёўка ад далані й крыла. Ці крыло таксама ад далані. Човен, валачобнік, багаслаўлёны вяслом (залачыліся, валачыліся валачобнічкі), рвацца на быстру. Хвалі штурхаюць убокі, падбухторваюць, казычуць. Вясло чэша вяршаліны й белыя аблокі. Аж здаецца, што вось яны, затанулыя замкі, сталі белымі аблокамі, жывуць у вадзе, а ўсплысці не могуць. Калі бралі вясло ў чаўнара Краснова, пачаў заводзіцца са мной, навошта я за беларускую мову. Трэба, каб чалавек працаваў і любіў радзіму. Ён ведаў аднаго глуханямова, дык той быў добры працаўнік. А потым сам пачаў казаць, што Расію ўсю праехаў. Нідзе нічога ні жывога, ні пасаджанага. А Шушкевіч хацеў да Польшчы. Але ён, хай і бальшавікі зноў прыйдуць, за тое, каб мы былі з Германіяй і Японіяй. І дзякуй Гітлеру: дужа добры плуг нямецкі і цяпер яму служыць. Немцы не ведалі, будуць тут ці не, а плугі, косы і ўсё іншае слалі. Калі пачаў даводзіць яму, што без нямецкай мовы не было б Нямеччыны, згадзіўся. І што радзімы ў нас няма, яе забралі камуністы, згадзіўся. Чалавек спіты, дэмаралізаваны. Ягоны брат Павел Васілевіч Красноў быў у нас завучам. Цікавая дэталь. Калі на партызанскім аэрадроме, дзе ён распальваў вогнішчы, забіла ягонага таварышка, пачаў рыбу лавіць у пасцель. Як у ву-

---

[1] Снарская Іна Станіславаўна (н. 1969), беларуская і ўкраінская паэтэса; тэлежурналіст. З 1987 г. жыве ў Палтаве (Украіна).

[2] Семашкевіч Наталля Іванаўна (н. 1947), у 1972–2007 гг. мал. рэдактар, рэдактар, ст. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура». Дачка Я. Брыля.

[3] Гл.: Рэквіем (14.04.97) // Босая зорка. С. 82.

шацкай паслаўцы: добры малец, але сцыцца. У ваенкамаце сказалі: «Нічога, каля матораў высахне». Бо ён быў шафёрам, трактарыстам. З арміі пісаў у Маскву, пакуль камісавалі. Кручаны, мучаны савецкі чалавек. [...].

*19 ліпеня, пятніца*

Зноў на Плінскае возера. Колькі кадраў рабілі. Нарэшце прыехаў пячнік. Печку, як і падлогу, зрабілі па-савецку. Лепшы ўшацкі мурнік празвішчам Грак. Магутны ў былым, яшчэ й цяпер не сла′бак. Раней, казаў, як з дзядзькам насілі цэглу. Двое насілак дзядзька з імі прынёс — і ў бальніцу, злёг. Насілкі паламаліся. Яшчэ засталіся сапраўдныя вушацкія людзі. Выключная мова, шырокія жэсты, нейкая няўлоўная панавітасць, павага да іншага й несхаваная самапавага. Гэта ад таго, што сам сабе гаспадар, што майстра, умец. Бальшавікі звялі на самоў хвост усё мястэчка, навешаўшы на іх антысеміцкае паняцце местачковасці. Хоць мястэчка — гэта проста невялікія гарадкі, бо горад — места, а расійскае *место* па-беларуску правільна *мейсца*. Зруйнавалі старыя будыніны, знявечылі вулкі й пляцы, каб пабудаваць кароўнікавыя райкомы й райвыканкомы. Гэта тыя ж самыя мястэчкі — нямецкія гарадкі. Вось там, у Эўропе, куды так не хоча пусціць Расія цяпер, паняцце горада й вёскі злілося. А бальшавікі нешта мямлілі, мянцілі, заклікалі. Мястэчкі ў нас абазвалі пасёлкамі гарадскога тыпу. Тыпы ўсё любяць называць тыпамі. Гэта сталі мочаадстойнікамі, дзе, як у колбах, выводзілася «новая общность советского человека». П'янюгі, зладзюгі, валацугі. Гэта з савецкіх ПГТ [пасёлкаў гарадскога тыпу] і знявечаных малых гарадоў не выйшла ніякой інтэлігенцыі, вучоных, мастакоў, паэтаў. Бо гэта своеасаблівыя ГУЛАГі[1], зоны. Уся творчая сіла выходзіць з вёсак, дзе яшчэ захаваўся нацыянальны дух і добрыя школы, ды з буйных самастойных гарадоў з даўнімі традыцыямі. Калі нехта згадае Наваполацак, дык тут толькі да старажытнейшага горада нашае зямлі дададзена «новы».

*20 ліпеня, субота*

Прыязджалі а шостай здымаць. Дождж. К паўдню распагодзілася. Ездзіў па мурніка. Мікола Цімафееў Грак. З 1928 года. З Чэрвеня, вёска Загор'е. Як пачалася калектывізацыя, хоць і мала было зямлі, бацька падаўся ў Варонавічы, бацька быў ветэрынарам. Бацька загінуў на фронце. Засталося тры браты й сястра. Паступіў у Гродзенскае рамеснае. У маці абярнулася зямлянка. Кінуў вучылішча. Апарадчыў дом, злажыў печку, і маразы сталі. З 1946 года мурнічае. Злажыў блізка 700 печаў і 1500 шчыткоў. Чацвёра дзяцей. «Паразляталіся мае зайчаняты. Трошкі рыпаю на

---

[1] ГУЛАГ — Главное управление исправительно-трудовых лагерей = Галоўнае ўпраўленне папраўча-працоўных лагераў.

гармонь». Трымае гаспадарку: конь, карова, трое свіней, колькі дзясяткаў курэй. Яшчэ спецыяльнасць краўца. У 1953 годзе маці перавёз у Вушачу. Яна 74 гады *ажыла'.* Трое братоў. Адзін брат алкаголікам горкім зробіўся. Пытаюся: «У Вас чатыры жонкі было?» — «Каля гэтага. А ўхажорак дык і не злічыць колькі». Цікава, што печкі й шчыткі помніць лепей. Пытаюся: «Колькі за працу?» Адказвае: колькі дасі, каб ні сябе, ні яго не ўкрыўдзіў, а галоўнае, каб не абразіў. Даю шэсць пяцідзесятысяцовак. Глядзіць, пытае, што многа. Адразу Петраку дае адну пяцідзесяцітысяцоўку, бо за падсобніка быў. Калі гаварыў, як пілі некалі з Петраком, у яго з патайное кішэнькі парваная пяцідзесятка (старая, гэта былі грошы) была. Паслаў Петрака ці Пятрок сам падахвоціўся ў банк мяняць. Як пайшоў, дык і знік. Відаць, кажа, да дзевак збег. «Даў бы я табе за такія хітрыка, калі б мы з тваёй маткай у радні не былі». Пятрок прысаромлена замаўкае, але раптам успамінае, як потым пілі: далі пяцідзесятку, а ім рэшту пяцідзясяткай далі. Мікола ўсміхаецца ўсмешкай дужага чалавека, добрага. Рамантуе камін. Кляне Роўбу, які недаглядзеў, лаіць майстра, які клаў і печ, і камін: «Каб я знові зробіў, лепей было б». Пад руку сабе ўспамінае: «Ведаем мы камуністаў, Ведаем бальшавікоў, Яны ходзяць у тужурках, Аббіраюць мужыкоў». Кажа, што я падпісаў кніжку ягонаму пасынку: «Хоць вершы, але ладная кніжка». І на пальцы паказвае таўшчыню й фармат, прыраўноўваючы да цагліны. Заводзіць размову пра Быкава. «Як здароўе ягонае? Як ён там? Дужа ж не пушчалі яго камуністы. Ціснулі. А які ў нас настаўнік скажа так? Рэдкі». Праводжу, саджу ў кінастудыйную машыну, ляпае па-сяброўску па плячы, абдымае: «Каб цябе жырам абкаціла і балесь не брала!» Кладу ў сумку ягоныя дзве шапкі (адну ўчора забыўся), кажу, каб не забыўся ўзяць, калі машына прывязе. Смяецца: «Яшчэ магу пашыць і бабровую, і тыгровую. Я ж у тайзе ўсурыйскай і тыграў лавіў». Вось якія нашыя вушачанцы. Не ўсіх бальшавікі спасцілі.

Здымкі ў касцёле. Апаганены. На сценах расійская лаянка, прозвішчы саўпадонкаў з адрасамі й датамі. Здаецца, шчырыя паганцы прыйшлі пасвянціцца — дзядоўнік, кроп, крапіва. На сценах, дзе знік дах, гронкі арабінак, гараць, як кроў Хрыстова[1]. Бальшавікі чым і ўзялі, што парвалі кайданы, якімі царква трымала самыя цёмныя інстынкты, самыя моцныя, самыя жывучыя, бо яны першародныя. Усё можна, усё дазволена. Гуляй, голь!

І вечарам на закот сонца зноў на Плінскае возера. Човен. Ужо цягне восенню. Зябка. Гэта ж тое возера, дзе я ў блакаду згубіўся ў лесе й гукаў маму сваю: «Куліна!» Астроў, па якім касілі карнікі. Там былі людзі. Перад

---

[1] Гл.: Прыхаджане (20–23.07.96, Ушачы) // Босая зорка. С. 42. Верш памяці маткі хроснай Феліцыі Антонаўны Міклашэўскай.

развітаннем на кругі свае… Мне доўга яшчэ стаяла ў галаве фраза мурніка: «Дым, як не пойдзе у неба, дык пойдзіць абавязкова ў дом…»

*21 ліпеня, нядзеля*

З самае раніцы ўпрогся дождж. І не сціхаў. Кіношнікі паехалі. Палякоў з імі. Без яго мне самотна неяк стала. У ім вялікі зарод спакою й мудрай развагі. Чаго мне не стае. Дамінічка мне сказала: «Я малюю, пакуль малая, а вырасту — мастаком не буду. Мастакі бедна жывуць. Буду лепей урачом. Я раней думала, што касірка ўсе грошы сабе бярэ, а яна аддае іх начальніку. І касіркаю не буду. Толькі ўрачом». Новы час. Новае мышленне. Адчуванне галечы, адчуванне жорсткасці жыцця ўжо з малечага ўзросту. Гэтага ў нас не было. Таму й маем цяпер: нічога свайго, ні якой гарантыі бязбеднага жыцця.

* Дамініка: «Я такая вярцікру′ця… Чаго ты зубы шчэліш?»

*22 ліпеня, панядзелак*

Займаўся гаспадарчымі справамі. Хадзілі з Валяй у краму, па вадаправодчыкаў. Усё зроблена па-савецку — рамонту не падлягае. А потым чытаў запісы аднаго ахламона, як ён змагаўся за савецкую ўладу, пра партызаншчыну. Нават Вову Леніна бачыў. Цікава было назіраць, як магутна замбіравалі мазгі цёмным сялянам бальшавікі. І перакананыя зомбі атрымаліся. Гэта апора — улады […]. Цёмныя, як піліпаўская ноч, і ашалела верныя вар'яцкай ідэі, як ваўкі галодныя.

*23 ліпеня, аўторак*

Званіў Васілю. Ягонае здароўе, дзякуй Богу, лепшае. Казаў, што дазволілі мітынг у адзнаку ліпавай незалежнасці. Такі мастак, такі майстра запоўнены палітычным клопатам. Стараецца ўтрымаць магчымую дзяржаву. А яе яшчэ няма, а яе яшчэ не дазваляюць беларусам мець, а самі беларусы з выбітымі мазгамі вераць [Лукашэнку]. Выбівалі мазгі два стагоддзі, прыгаворваючы: «Мы вас любім, вы рахманыя». […].

Званіў Палякову. Цвяткоў, выходзіць, не падпісаў карціну. Паміж двух агнёў. І з Васілём, і са мной быць хочацца добрым, і з [за]мяталіным. Затое як добра паліць камін, калі шчабеча Дамінічка, калі недзе на гарышчы Мірон адсыпаецца з начных баёў. Як хочацца спакойна пабыць, пажыць у Вушачы. Ды не атрымліваецца: раней не было калі, а цяпер да некальства дадалося яшчэ й няма за што. Пад ноч адкрыў сабе выдатную амерыканскую паэтку Эмілі Дзікінсан (1830–1886). І наватарства, і шаленства вобраза й думкі. Рабіў колькі пазыкаў у гэтай чараўніцы. І зусім забыўся на п'есу, якую трэба перакласці ў ТЮГ. Відаць, у Менску закончу п'есу.

*24 ліпеня, серада*

З раніцы пайшлі з Валяй і Дамінічкай на наш базар. І тут еўратранты, семкі, нешта сваё з ежы. Купілі Мірону кіло дробненькай, як артыстычныя слёзы, рыбкі. Трэба ж яму фосфар, каб разумнейшым быць у баталіях начных. 10 тысяч кіло. На галоўнай вуліцы тумба з бетоннай трубы пад вадасцёкі пад драўлянай стрэшкай. Аб'явы. Прадаюцца тэлевізар, матацыкл. А адна аб'ява, ад рукі напісаная нечым, кранула: «У нядзелю 28 ліпеня 1996 года а 5 гадзіне раніцы каля вакзала будуць прадавацца парасяты». Пра закусь і пра хаўтуры дбаюць вушачанцы.

Потым зноў пазычаў у Эміліі Дзікінсан. Каля 7-мі вершаў. Зноў паліў камін, і зноў сум, як ціхі дым, віўся над думкамі маімі. Толькі ў кіно, толькі ў жаданнях сваіх некуды не бег, сядзеў ды пасвіў спакой. «Як асот...»[1] Перачытаў колькі навэлак з лепшай кнігі Міхася Стральцова. Які ўчэпісты позірк, якое веданне рэалій. Адкуль? Толькі ад Бога. Кідаецца ў вочы й афармленне, нязвыклае для шэсцьдзясят трэцяга года. Збораў. Мастак афармляў мастака. Абодва маладыя й таленавітыя. Талент адчувае талент. Талент шукае талент. Гэта й ёсць рух мастацтва.

*25 ліпеня, чацвер*

Хворы, з тэмпературай, але трэба ў Менск. Аўтобусам да паваротки на Сарочына. Чакаў аўтобуса Полацак — Менск. І, як некалі ў маладыя гады, усе прыпынкі — Лепля, Бегамля, Плешчаніцы, Лагойск. На кожным прыпынку базарчыкі з еўратрантамі. Са мной ехаў сябрук Петракоў — Спірыдзёнак. Помніць маму маю, што яна хадзіла ў прыгожым кажушку. Наогул, публіка ахламоністая. Нейкая каровістая [...] чытала «Советскую Белоруссию». Дзве тараторкі пад'язджалі, бедавалі, што дзецям цяжка паступіць вучыцца — цяпер паступаюць даляры. [...].

Менск сустрэў шумам, штурхатнёй, мітуснёй. Кожны раз вяртаюся з Вушачы ў Менск, як першы раз прыязджаю. Хутка прыжываюся ў Вушачы. Не раўнуючы, калі кінуць піць і доўга не піць, а потым варта толькі пачаць, і за колькі дзён дагоніш той стан, з якога выйшаў хай дзесяцьдваццаць гадоў. Любоў да роднага гнязда мацней за любы алкаголь.

*26 ліпеня, пятніца*

Дазваніўся да Алеся [Анціпенкі], а ён пераблытаў усё. Паседжанне групы ФС было 23-га. А мне сказаў сённяшняе чысло. Схадзіў на працу. Андраюк галоўным [рэдактарам зноў]. Дырэктара чакаюць. Рвецца Марчук[2]. [...].

---

[1] Гл.: Як асот... (24.07.96, Ушачы) // Босая зорка. С. 43.

[2] Марчук Георгій Васільевіч (н. 1947), беларускі празаік, драматург. У 1996–2002 гг. дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

Званіў Хадыка, каб я заўтра выступіў. Пазваніў Васілю, яго даймаў Таразевіч[1], каб Васіль на мітынгу заўтрашнім выступіў. Васіль, вядома, адмовіўся. Бо ён жа выступаў 25 Сакавіка. Дый пад кіраўніцтвам Таразевіча выступаць не зусім этычна. Інтэлігентнасць Хадыкі можа прывесці да мяккага згодніцтва. Усе пракамуністычнікі папракалі Зянона за радыкалізм. Але лепей радыкалізм, чымся згодніцтва. Вядома, не пайду й я. Тым болей што хвароба панімае верх па мне. Горла села. Галава баліць. Сустрэў Траяноўскага, казаў, што ў «Царкоўным слове» прарасійскія папы бэсцяць Каліноўскага. Ім па душы Мураўёў-вешальнік[2]. Гэты ж Шалькевіч выдаў на свае грошы лісток з тэкстам «Боже, царя храни». А ў нейкай менскай царкве маладзіца звярнулася да папа па-беларуску, дык той азвярэў і выгнаў яе з храма: «Каб я болей не чуў гэнай вашай мовы». [...].

А я ўсё-ткі напісаў верш: «Чаўнок»[3].

*27 ліпеня, субота*

Ірына Міхайлаўна хадзіла на мітынг. Васіль пазваніў — выступалі Таразевіч, Ніл, Генадзь. Добра пра іх Васіль сказаў — легальныя марксісты. Разам з Нілам ні на полі не сяду, ні ў прызідыуме, ні на мітынгу. [...].

Цэлы дзень сядзеў дома, трохі корпаўся з кнігамі. Хварэў. Званіў дамоў, Мірон знайшоўся. А то быў знік. Дужа б'юць яго вушацкія каты′. Сапраўдныя ка′ты. А мне свет нямілы. Астрашэў я з гэтай хваробай. Запа′длівы стаў. Няўжо хутка развітацца давядзецца з жыццём? Як ні кепска, як ні блага, а жыць хочацца. Напавер дадзеныя дні Даўца хоча забраць назад. Злітуйся!

*28 ліпеня, нядзеля*

Ледзьве ногі знасілі мяне на Камароўку. Купіў цыбулі маладой. Дажыліся, што ў Вушачы, як у паслаўцы: ані цыбулінкі, ані ў што ўкрышыць. У ўкраінак купіў вэнджанага сала. Камароўка багатая, а бальшына бяднее. Настрой паганы. Здароўя няма. І ўжо не будзе. Патраціў на тлум, на глум. Хітра даецца жыццё. Не сваё яно, і не ты над ім гаспадар. Дае Усявышні, і распараджаецца Ён.

---

[1] Таразевіч Георгій Станіслававіч (1937–2003), беларускі палітычны і дзяржаўны дзеяч. Кандыдат тэхнічных навук (1967). З 1995 г. адзін з сустаршыняў ЦК Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада).

[2] Мураўёў Міхаіл Мікалаевіч (1896–1866), граф, рускі дзяржаўны дзеяч, генерал ад інфантэрыі (1863). У 1863 —1865 гг. генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю; за жорскасць пры падаўленні паўстання 1863 г. празваны «вешальнікам».

[3] Гл.: Чаўнок (26.07.96) // Ксты. С. 288. У зборніку дапушчаны памылкі; дакладна: «Чаўнок *чаўна* даткаў абрус азёрны І датыкае чаратовы *шляк*».

*29 ліпеня, панядзелак*

Хадзіў на працу. Званіў ведзьмару Пётру, перадаваў дадзеныя пашпарта. Вацлаў Станкевіч хоча запрасіць мяне на пагасціны ў Летуву. Хацеў бы з’ездзіць. Нам сватаюць быццам бы [...] Марчука. [...]. Цемрай і холадам тхне, як з падвала. Усё ў змроку. [...].

*30 ліпеня, аўторак*

Усе дні звоніць Васіль, пытаецца, як маё здароўе. Апошні заступнік мой, апошні мой зямны святы. Яму званіў з Таронта Акула[1]. Акула ваяваў у макі[2], у англійскай арміі супроць фашысцкай Германіі. Пасля вайны ў Англіі закончыў вайсковую вучэльню. Рагуля[3] быў з немцамі, ад іх атрымаў званне генерала. Рагуля прапануе Акулу даць званне (бо ён застаўся без звання), ды Акуле не з рукі атрымліваць званне, атрымліваецца, ад нямецкага генерала. У нашай беднай эміграцыі свае праблемы. Мы з Васілём вырашылі, што нікуды ад стукачоў не дзенешся. Толькі трэба дзяліць стукачоў на залішне старанных і ленаватых.

*31 ліпеня, серада*

З раніцы пазваніў Хадыка. Зянон і Навумчык папрасілі палітычнага прытулку ў Штатах. І правільна зрабілі. Не йсці ж ім пад [...] кулю ці атруту. [...].

А з шарэнніка такі дождж улупіў. Васілю званіў. І ён казаў мне пра грымоцце. «Змрок, як цень распяты кажана...»[4] Аб’явілася Ілона. Яна там з [Косцем] сваім, на лецішчы. Казала, што шмат працуе. Дай Бог!

*1 жніўня, чацвер*

Першы дзень восеньскага месяца. Вось і па лету. Прасядзеў тут, у камянях. З раніцы хадзіў да Генадзя. Тэлевізійшчыкі робяць пра яго тэленарыс. Чытаў вершы, якія яму прысвячаў некалі. Кватэра ягоная зноў гатовая пад музей. [...]. Васілю званілі Зянон і Сяргей. Зянон пакрыўдзіўся на эпітэт, які даў яму Гусак, — харызматычная асоба. Дарэмна.

Нарэшце сігнал Радзікавай кнігі[5]. У мяне камень з душы адпаў. Гэтулькі мурыжылі. Званіў Ганад, што ў нас будзе дырэктарам Марчук. Па-

---

[1] Акула Кастусь (сапр. Качан Аляксандр Ігнатавіч; 1925–2008), беларускі празаік, паэт, драматург, грамадскі дзеяч беларускай дыяспары ў Вялікабрытаніі і Канадзе (з 1947).

[2] Макі′ — адна з назваў атрадаў французскіх партызан у гады Другой сусветнай вайны, частка Руху Супраціўлення.

[3] Рагуля Васіль Цімафеевіч (1879–1955), беларускі грамадска-палітычны дзеяч у час Вялікай Айчыннай вайны. Супрацоўнічаў з нямецкімі акупантамі. Быў бургамістрам Дзятлаўскага р-на. З 1944 г. у Заходняй Германіі, з 1950 г. у ЗША.

[4] Гл.: Ясачкі: Змрок, як цень распяты кажана... (31.07.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 330.

[5] Лапушын Р. Взрослее облаков. Минск, 1996.

лескі варыянт зайчыка Грышановіча[1]. Гэты выдавецтва нарэшце даб'е. Гэта як некалі старшыняў калгасаў ставілі — сабе нахапае, гаспадарку звядзе, і добра. «Не»[2]. Сёння па радыё […] крычаў шалёна […] Акулаў[3]. Як у 37-м пачынаецца ўсё. […]. Ад усіх страхоццяў ратунак — вершы: «Галоўнае — не азірнуцца…»[4]

*2 жніўня, пятніца*

Званіў Васілю. Нездаровіцца яму, але трымаецца. Сам Бог трымае яго, каб не згінулі беларусы. Ездзіў на Камароўку купіць тоўсты брус сала Пятроўскаму на кінакадр. Адышлі ў гісторыю брусы. Танюсенькае сала, калгаснае. Яфім Лапушын наважыўся ехаць. Усе добрыя яўрэі з'язджаюць. І кепскія таксама. «І ліпень упрочкі збег»[5].

*3 жніўня, субота*

Пракачаўся з галавой. Зусім даходжу. Прападае інтарэс да сустрэчаў, да гаворкі, толькі хочацца забіцца ў Вушачу й сядзець там з кніжкай. Ды як. Галоўнае — за што.

*4 жніўня, нядзеля*

Збіраўся ў дарогу. Заўтра з кіношнікамі ў Вушачу. Зноў кепска. Ратаваўся вершам. «Чакаем: Край сноў — той рай…» [у дзённіку].

Учора пазваніў Рыне[6]. Яна ў Глыбокім. Юля [дачка] кажа, што я ёй як бацька. А ў бацькі аж тры сыны ад розных жонак, і адпаведна яны ейныя браткі. Жыццё заўсягды вясёлае.

*5 жніўня, панядзелак*

*Вушача!* Збіраліся ехаць, як галодны ср.ць. Раніцай прыйшла Ілона. Таго-сяго даў з ежы. Галодная, як сапраўдная мастачка. Раптам мне звоніць, што за 30 тыс. купіла з натуральнай скуры напузнічак, дзе грошы й дакументы носяць. Яшчэ дзіцё. Радуецца кожнай рэчы. Баліць маё сэрца па ёй. Па дарозе ехалі, і прысады з бакоў сціскалі неба, і адначасова над галавой, як светлы агонь, як паходня, узнікала неба. У галаву лезла ўсё пасля сённяшняга ранішняга ўключэння радыё — каб паслу-

---

[1] Грышановіч Валерый Мікалаевіч (1947–2007), беларускі паэт. Дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура» (1987–1993).

[2] Гл.: Не (1.08.96) // Босая зорка. С. 44.

[3] Акулаў Валянцін Леанідавіч (1936–2012), беларускі філосаф. Доктар філасофскіх навук (1984). Прафесар (1985). З 1983 г. заг. кафедры Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта.

[4] Гл.: Змеі агню (1.08.96) // Босая зорка. С. 47.

[5] Гл.: Ясачкі: Ліпень упрочкі збег (2.08.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 330.

[6] Бабіцкая Рынальда Пятроўна, настаўніца беларускай мовы і літаратуры. Ёй прысвечаны вершы 70-х гг.

хаць надвор’е. І тут жа голас [Лукашэнкі]: хваліў калгасны лад і нёс нацмэнаў — пераблытаў з нацдэмамі. «І душу тваю абабралі — у ёй нават мовы няма»[1]. […]. Беларусь на парадоксах трымаецца. Можа, гэта самы лепшы спосаб не знікнуць. Мова нашая дык бароніць свае галосныя гукі, засланяючыся зычнымі, — возера, вакно, нават гараць, гаплік, гарэх.

Прыехалі, а Дамінічка заяўляе Валі, што яна паказвае стрыптыз, бо папрасіў васьмігадовы хлапчук. Перад гэтым яна Валі казала, што яны «трахаюцца». Валя, робячы выгляд, пытаецца: а што гэта? Адказвае, што цалуемся й качаемся па лісці.

Адразу ж паехалі на Плінскае возера. Веславаў. У веславанні ёсць нешта сексуальнае. Мне ўжо як тому шызіку з анекдота. Вада вечна цнатлівая. З вады мы ўсё-ткі выйшлі і ў зямлю йдзем. Дый вада з зямлі. Як цыган з завушніцай у вуху, валачобнік-човен з замком.

*6 жніўня, аўторак*

Зноў здымкі ў касцёле. Каталіцкі могільнік зарос, мейсца п’янак перамясцілася, значыць. Надтрунні, што цудам ацалелі, павалены, падзяўбаны, павышчэблены. Дасюль шукаюць клад нашчадкі камунараў з голымі ср.камі. Каля ўвахода раскладваюцца вогнішчы, прыладжваюцца жэрдзіны. Як быццам смалу кіпяцяць па заказу пекла. Спускаюся да сваёй прыстані, дзе ўпершыню паплыў, дзе ныралі ў ваду і, трымаючыся за кол, пераседжвалі адзін аднаго пад вадой да пасінення. А нехта крыху старэйшы за нас, падшыванцаў, вынырваў з рыбінай у руках і ў пальцах ног, — так чамусьці запомнілася. Цяпер ныраца не дасі, застаў прынялі на млыне, рака скана′вілася, вада ўцякае на радзіму — пад зямлю. Палова схіла абгароджана бетоннымі слупкамі. Гарод травы. Трава лапушыцца, кусціцца, раскашуецца. Што нагадвае пра гарод, дык гэта капуста. Як галовы партнязькоў раённага маштабу. Дарэчы, на касцёле № 13. На райкаме, здаецца, няма. Васіль казаў, каб даведаўся, хто кіруе ў Вушачы. А даведацца амаль няма ў каго, хіба ў Хвашча[2] ды ў Кірпіча[3]. Двое беларусаў непракамуністычаных.

Ідуць трое хлопчыкаў. Сучасная стрыжка, куртачкі, штонікі пад adidas. Вуды. Паплаўкі куплёныя, лёгкія, хімічнавытвораныя, але вясёлыя колерамі, як стракозы, якіх па-вушацку завуць стрэлкамі. Услуха′юся, якая мова, ці зусім змаскалілі маю радзіму? Чую: «Ці цёплая вада, ма′льцы?» Толькі ўжо залятае слэнгавае *блін*. Мелюзгу завуць печкурамі, а ў наш час уся мелюзга звалася адным словам — піздадзверка. Адзін адразу

---

[1] Радок з верша М. Багдановіч «Народ, Беларускі Народ!» (1913).

[2] Хвошч Уладзімір Іванавіч (1943–2001), у 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ.

[3] Кірпіч Мікалай Мікалаевіч (н. 1950), дырэктар Ушацкага дзяржаўнага музея народнай славы імя У. Лабанка (1975–2010).

зайшоў у ваду, бо ў нейкіх шорціках, другі паленаваўся добра падкасаць сінія штаніны — замачыў, другі падкрэсліў, што ён замачыў штаны. Адзін і кажа: «Калі злаўлю рыбку, скупнуся». Пытаюся: «А шчупакі ці бяруцца?» Адказвае: «Не, яны кручок адкусяць». Ва ўсіх цалафанавыя торбачкі, там хлеб, а ў аднаго вада й рыбінка плавае яшчэ, толькі злоўленая, маленечкая.

З паўдня паехалі ў *Пліна*. Па дарозе ў полі, дзе пасвіліся авечкі, здымалі Дамінічку: яна бегла й крычала: «Дзедзя!» Прапанаваў пагладзіць авечку, кажа: «Хачу яе паганяць». Рука ўжо не цягнецца да жывой воўны, яна аддалена. Па дарозе якраз напаткалі Краснова, героя фільма «Апошні човен». Трэба было падзняць кадр з тытунём і самакруткай. Зарослы, але цьвярозы, адбывае радоўку. Кажа: «Старасельцы, замашшаʹне хадзілі ў нашу Плінскую школу» . Цікавая форма жыхароў вёсак Старое Сяло, Замошша. Адчыняе пушачку з-пад цукерак. Зялёны самасад. Тлумачыць: «Тытунь сам раблю, ліст сушаны рэжу нажом, а карані, як жонка не бачыць, прапускаю праз мясарубку. Раней таўклі таўкачом у драўлянай ступе». Наламаў сабе букет з дзядоўніка і з кветкамі, і з пупышкамі. Атрымаўся, як сказала Дамінічка, мужчынскі букет. Як хочацца ўрасці ў гэтае поле, у гэты луг, як хочацца ў возера заплысці й бачыць над сабой вушацкія аблокі. Відаць, неўзабаве ўрасту. Бо кепска.

*7 жнівень, серада*

На магільнік да мамы. Калі сядзеў на гранітнай абляцоўцы магілы, сэрца пачало тахкаць-калаціцца. Нейкі потайны неспакой, нейкая няўлоўная трывога перадавалася. На магіле ўжо й палявыя кветкі прыжыліся. Прыняла зямля мамін прах. А дасюль падспудна чакаю, што ўбачу, што пачую. Ведаю, што не, а ўсё роўна нешта роіцца. Гэта перад вечнай сустрэчай. І мейсца мне на гэтым гародзе ёсць. Хоць дзядоўнікам ды прарасце мой прах. А душы грукацца ў дзверы да Госпада.

*8 жніўня, чацвер*

Апошнія кадры ў хаце. Самы галоўны герой падвёў. Мірон не захацеў сядзець на плячы. Тут ён канчаткова здзічэў. Вушацкія кошкі не гэтакіх катоў зводзілі. І кошкі на дзвюх нагах таксама. Узяўся перачытваць казкі. Заўсягды дзіўлюся мове. І гэта пры бяздарных так званых апрацоўках і кепскіх запісах. Чысціня!

*9 жніўня, пятніца*

Кіношнікі паехалі. Сяргей паздымаў яшчэ крыху бацькаў вяз, казялка на лужку ў «Апошні човен». Хадзілі з Валяй і Дамінічкай па цукар. Цэлыя вяткі сухапятак ад крамы да крамы цягаюцца. Каб хто працаваў. На тра-

туарах стаяць і грэюць праходжаны асфальт вушацкія шурыкі прапітыя, засулочаныя, пыльныя, нямытыя. Вынік саветызацыі, бальшавіцкай селекцыі.

Званіў Васілю, казаў, што ў суботу сойм БНФ; папрасіў яго: калі будуць што падпісваць, хай і маё прозвішча паставіць. Разам з Васілём я падпішу й прысуд сабе. Абы на справу БНФ! Васілю спадабалася маё інтэрв'ю ў «ЛіМе». Гэта, выходзіць, адказы на пытанні Астравух, якія некалі яна мне задавала. Мне цяпер адна радасць, адна ўзнагарода — ацэнка Васіля. Ён для мяне — усё! Хай Бог доўжыць дні ягоныя тут!

*10 жніўня, субота*

З раніцы рабіў нейкі парадак у дрывотні. Трэба скласці парэзаныя дровы. Прыходзіў Лёля, разлічыўся з ім за тое, што столь аліфіў, ці, правільней, пакосціў. Шалёныя ў маім цяперашнім становішчы трэба грошы на перасціл усяе падлогі. Мама да канца дзён сваіх пеклілася — то шалявала хатку, то перабойкі рабіла, і зноў жа падлогу ўвесь час наві'лі. Нідзе спакою няма. На дарозе, што жывуць у хаце маткі хроснай, бензапілой пілуюць дровы. А здаецца, што мазгаўню маю распілоўваюць. «Неба над мамінай хатай»[1], «Не ўпершыню...»[2], «Miss: З-за воблакаў маладзічок выглядвае...» [у дённіку].

*11 жніўня, нядзеля*

Сёння святая нядзелька. Так ласкава й пашанліва называла мама нядзелю. У самой Вушачы сухапяткі, як незапёртыя свінні, бегаюць ад адной крамы да другой. Прадукт саветызацыі вышэйшай пробы з сінімі насамі. Няголеныя, нястрыжаныя, землянiстага колеру ад твару, калі гэта можна назваць тварам, да вопраткі, стаяць на вуглах і нешта мікіцяць на трох. Далей адыдзешся — п'яныя, як падупалыя коні, ляжаць у пыльнай траве. Дакладней — качаюцца, як коні. З лёгкай рукі картавага Вовы Ульянава абрывіятуры задавілі ўвесь абыход. КПБ, КГБ, МУС і г. д. З мястэчак зрабілі ПГТ — пасёлак гарадскога тыпу. Якога тыпу? З усяго зрабілі зоны. Людзей загналі ў павярховыя баракі. Як калумбарыі, дамы блочныя. Каб гародчык ля хаты, каб зяляніна. І гэта ў маленькім, утульным некалі мястэчку. Крыху душа адышла, калі сухапяткі, гаворачы мовай дземянцея[3]-[...], сказалі *пілнуюць*. Па-ўшацку. Бо навязаная крапівамі [Крапівой] норма *пільнуюць.* Цешаць і аб'явы. Прадаюцца козачка й казялок 6 месяцаў. Карова першацёлка. Каза ва ўзросце двух гадоў. Як

---

[1] Гл.: Неба над мамінай хатай (9–10.08.96, Ушачы) // Ксты. С. 255.

[2] Гл.: Не ўпершыню... (10.08.96, Ушачы) // Босая зорка. С. 12.

[3] Трасянка, якой вызначаўся некалі 1-шы сакратар ЦК КПБ (1979–1989) М. Дземянцей (1930–2018), займела назву дземянцееўкі.

дама — ва ўзросце. Павага да жывога. «Здалёк»[1]. Дапісаў казку-пераказку «Бо б вырас да неба боб…»[2].

*12 жніўня, панядзелак*

Цэлы дзень займаўся пытаннем дошак на падлогу. З Роўбам ездзілі й на нейкую фірму, і наведалі леспрамгас. Купілі 2,5 куба за 3 750 000. Кожная достачка залатая. Вечарам лесавоз згрузіў, і мы з хлопцам, які складае дровы, паперанеслі дошкі ў дашчанік. 82 дошкі па 6 мэтраў. Цяжка з адвыкання, але затое якое гэта шчасце, што жыве ў генах, браць рукой свежую дошку, яшчэ ў пілавінні, яшчэ ў плашках кары, у смале. Гэта — нешта будаваць — самае трапяткое пачуццё. «Доўга»[3].

*13 жніўня, аўторак*

Дасkладалі дровы. На двор увалілася мажная, але маладая. Паэтка й музыку піша. Вера Пашута. І па-расійску, і па-беларуску. Дужа квяціста па-расійску — *лобзая, пурпур* і т. п. […]. На групе інваліднасці. 230 тыс. пенсія. Бедныя бацькі. Ёй хочацца, каб нехта слухаў яе. А ў сябровак сем'і. Яна прыйдзе пачытаць і паспяваць свае песні, а яны кажуць, што трэба карміць свіней, курэй, кароў. Вечны разлад летуцення з побытам. У Полацку пазнаёмілася з нейкім паэтам. Запрасіў у царкву. Ёй нельга было. Захацеў ехаць з ёй і сябраваць, каб слухаць і слухаць яе. Сказала мужу, муж забараніў: «А то ещё вступишь в связь с ним…» Хочацца мужу падарункі рабіць, а грошы няма. Бацькі не даюць, бо яны на пенсіі. Жывуць з гарода. Раджаць нельга. […]. Жыццё гэтак выкручвае людзей, як бялізну тую ў начоўках бытавання.

А потым былі ў нас госці. Замбіраванне камуністычнае — самае магутнае. П'яны Пятрок за камуністаў, бо там было каму пакрыўдзіцца, схадзіць у райком. Хоць ён і не ведаў, дзе тыя дзверы ў райкоме, хіба пакрыдзіцца, што піва ці стограмовік недадалі. А Роўба — дык той даказвае, што бачыў на рукавах у народнікаў бел-чырвона-белыя сцягі. Яшчэ й фільм [азаронка[4]]. Недарэмна зрабілі […] чорна-белы фільм. Але затое той жа Роўба расказваў два анекдоты. Ідуць даяркі — гераіні ўсіх савецкіх прапагандысцкіх фальшывак і пакутніцы калгаснага ладу. Валяецца п'яны. Адна кажа: можа, мой. Другая: можа, мой. Тады рашучая з іх падышла, абмацала: «І не твой, і не мой, і наогул не з нашае вёскі…» Партызан вядзе дзённік:

[1] Гл.: Здалёк (11.08.96, Ушача) // Кcты. С. 336.

[2] Гл.: Бо б да неба вырас боб… (11.08.96, Ушачы) // Ішоў коця па канапе. С. 233.

[3] Гл.: Доўга (12.08.96, Ушача) // Руны Перуновы. С. 423.

[4] Азаронак Юрый Уладзіміравіч (н. 1965), беларускі тэлежурналіст і грамадскі дзеяч, аўтар тэлефільмаў «Нянавісць: Дзеці хлусні» (1995), «Закуліса» (1996) і інш. Заслужаны работнік культуры (2008). Лаўрэат прэміі Прэзідэнта «За духоўнае адраджэнне» (2005), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта (2007).

«10 травеня выгналі немцаў. 13 травеня немцы выгналі нас. 15 травеня выгналі немцаў. 17 травеня немцы выгналі нас. 19 травеня прыйшоў п'яны ляснік і выгнаў і нас, і немцаў». Гэта ўжо вялікі зрух. У так званай сталіцы партызанкраю, з вуснаў зацятага камуніста анекдот. А Марыя Рыгораўна, заходзячы ў хату, ужо слабым голасам пяяла:

Пан Езус пахвалёны
У гэты дом свянцоны.
Ці жывы, ці здаровы
І сват, і сваціца,
І сват, і сваціца,
Маладая братовачка.

Глушэе ў маёй душы без песень гэтых. «Каб потым…»[1] Учора перачытваў Межырава[2]. Мне ў Кітаі падараваў сваю кніжыцу «Бормотуха». Перапалоханы, закамплексаваны яўрэй, майстравіты, халодна-віртуозны. «Вядзьмоўства: Вядзьмоўства майстэрства…» [у дзённіку].

*14 жніўня, серада*

Законны жнівень. Але пячэ добра. Круціўся каля дрывотні, каля хлева з дошкамі. Дні лятуць. І ў Менск не хочацца, а трэба. Доўга не мог заснуць. Лёг у пакой падстрэшша, які на вуліцу. Чмяліны бас хлопца й кнігаўчына скавытанне дзяўчыны: «Рукі па швах». Жыццё ідзе. Тэлевізар хоча ўзяць пад сваю апеку й секс, а ўсё само йдзе і ў сексе, і ў паэзіі ўсё новае — успомненае старое. Таму й жывучае гэта ўсё. І голас хлопца: «Тут Барадулін жывець». Гэтае *жывець* як маслам па сэрцы. Жывучая й мова нашая. Яшчэ ліпіць. Хоць арфаэпія нядоўга будзе нашая. Дагэтуль…»[3]

*15 жніўня, чацвер*

Прыязджалі Галіна Варатынская з мужам[4]. Сімпатычны хлопец. З быкаўскага боку. Спартсмэн. Зараз бізнэсуе перагонам машын і грузаў. Галі падараваў «Здубавецьця» і слоўнік беларуска-расійскі. Пытаюся, ці мае слоўнік Ластоўскага[5]. «А які ён?» — пытаецца яна. Дзіўныя маладыя паэты — не цікавяцца слоўнікамі. Колькі думак — гэтулькі й словаў трэ-

[1] Гл.: Каб потым… (13.08.96, Ушачы) // Ксты. С. 329.
[2] Межыраў Аляксандр Пятровіч (1923–2000, ЗША), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1986). З 1992 г. жыў у ЗША.
[3] Гл.: Дагэтуль… (14.08.96, Ушачы) // Босая зорка. С. 62.
[4] Варатынскі Пётр Юльянавіч (н. 1953), беларускі спартсмен, трэнер Дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы. Майстар спорту.
[5] Ластоўскі В. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна, 1924. Факсімільнае выд-не. Мінск, 1991. *Ластоўскі* Вацлаў Юсцінавіч (1883–1938), беларускі крытык, літаратуразнавец, паэт, празаік, публіцыст. Акадэмік АН БССР (1928). Рэпрэсаваны.

ба. У раёне вертыкальшчык — чырвоны памешчык з Кублічаў. Абедаць і вячэраць дамоў на машыне. Бензін ёсць. Ужо адведзены ўчастак пад катэдж. Усё як і пры імперыі. Цікава, што прозвішча Пачэпка. Пачэпка ад пугі — тое, што звязвае пугу з пугаўём. [...]. Званіў Васілю. Нядуж. У Менску ўжо дождж. [Лукашэнка] збірае нейкі хурал у падтрымку рэферэндуму[1]. А ў гэты дзень меўся быць кангрэс ПЭН-цэнтра. Трэба пераносіць ці ўперад, ці назад.

«Кром»[2].

*16 жніўня, пятніца*

Наташа [Давыдзенка] з працы пазваніла. Чакаюцца нейкія змены. [...]. Наогул не хочацца ехаць у Менск, купацца там у га.не. А было раней — з такой надзеяй вяртаўся з дому да сяброў, да аднадумцаў. А цяпер іх, лічы, няма. Цяпер болей аднадумцаў, у якіх адна думка — некага абхітрыць, аб’ягорыць, даражэй прадацца ўладзе [...]. Сум. «Разгубленая цішыня: Конікі, кавалькі, казялкі…» [у дзённіку].

*17 жніўня, субота*

Прыехаў па нас Стас з віцебскага ФС ад Валі [Кірылавай]. У *Бачэйкаве* вялізнае свята «Ганчарны круг». Экскурсію вёў прафесар Федарук[3], батанік па прафесіі, заядлы знаўца замкавай і палацавай культуры. Які імпэт, якая любоў. А як пачаў расказваць пра Польшчу, ды з такім сумам і зайздрасцю, што не вытрываў я й адышоўся. Так у нас усё кепска. Вечарам тэатралізаванае відовішча на тэму ганчарства. Вячэра пры вогнішчы. Народныя майстры нацыянальнасвядомыя ў бальшыні. Сахута[4] проста цуда. Быў тамадою. Дык я экспромт яму над канец сказаў:

Вядома, што за тамаду
Гарэлку п’юць, а не ваду.
За спадара Сахуту
Я вып’ю хоць цыкуту!

---

[1] Рэферэндум (лістапад 1996) па стварэнню двухпалатнага Парламента Нацыянальнага схода і змен у Канстытуцыі РБ.

[2] Гл.: Кром (15.08.96, Ушачы) // Босая зорка. С. 45.

[3] Федарук Анатоль Тарасавіч (н. 1939), беларускі вучоны-батанік. Доктар біялагічных навук (1991). Прафесар (1995). У 1994–2013 гг. заг. кафедры Беларускага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка. Лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне».

[4] Сахута Яўген Міхайлавіч (н. 1945), беларускі мастацтвазнавец. Доктар мастацтвазнаўства (1996). Прафесар (2006). З 1975 г. у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ. З 1992 г. старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1996), прэміі «За духоўнае адраджэнне (2008).

*18 жніўня, нядзеля*

Бачэйкава. Самае пекла было на гэтае свята. Пад сорак градусаў на паляне. Дый яшчэ музыка попкультурная на ўсю галаву. Ганчары тут жа на вачах рабілі дзівосы. Падабаецца мне, як цягнуць за горла будучы гарлач. Ганчары кажуць: «Гліна, як дяўчына, чым болей яе мякшыш, тым падатлівейшай і мякчэйшай робіцца». Падышоў да дзядзькі, здаецца, Губка з-пад Дуброўкі. 23-га года нараджэння. Быў вывезены ў Баварыю, працаваў тры гады на нікелевым заводзе. Пасля вызвалення да 47-га года па савецкіх лагерах. А Савіцкі [Міхаіл] адразу ў інстытут. […]. Ды гэта да слова. А дзядзька мне казаў пра сваё жыццё. Маглі астацца ў Нямеччыне, але адзін сказаў: «Калі маці хворая, сын мусіць быць пры ложку хворай маці. А наша Беларусь хворая». І заслужылі. У пункце, ці ў лагеры, дзе трымалі савецкіх ваеннапалонных і тых, хто працаваў у Нямеччыне, начальнікам быў, вядома ж, расеец, але якое прозвішча — Вырвікішкін. Па генах кат. Калі працаваў у немцаў, з ім працавалі й нямецкія камуністы, спяцы, якія далі падпіску, што не будуць займацца палітычнай дзейнасцю. Адзін сказаў: «У нас дадуць бюлетэнь тады, калі ты прынясеш сваю галаву пад пахай». Дзе ён толькі не быў. Але нідзе не давалі лёгкай работы. І цікава, што абураўся звароту камуністаў. Ён супроць камуністаў. Цікавіўся здароўем Васіля, прасіў перадаць яму прывітанне й пажаданне моцы. Вось табе й народ.

Народная этымалогія падчас вясёлая. Бешанковічы выводзяць ад двух яўрэяў Шанковічаў, якія тут мелі нейкую справу. А Бе — гэта бі — два. Тое, што Мозыр — мой жар. Я заўсёды тады пытаюся: а махер як? Ці не ад беш — пяць. Бо й Ула яўна не ад Ульяны.

Па дарозе дамоў напісаў «Ясачкі»[1].

*19 жніўня, панядзелак*

Заязджаўся Алік Казлоў, з якім разам вучыліся. Быў афіцэрам, цяпер у Навагрудку на заводзе газавай апаратуры. Хоча купіць хату ў Полацку. Бо бацькава хата ў Чэрсві яшчэ моцная. Цягне ў родныя мясціны яго. Сягоння Іспас. Узяў яблыкаў і схадзіў да мамы. Бутаўшчына перанасяляецца. Прыходзіла Марыя Рыгораўна. Трохі мне напяяла. Як гэта добра: «Ці мой хлеб не пушон, Ці мой квас невясёл…» Вар'яцтва дый годзе — вясёлы квас. Як чалавек, як застольнік.

* Іспас. Да мамы з яблыкамі з саду, які перажыў яе. Раней за мяне прыляцела сарока, згубіла з хваста пер'іну. Ад спёкі магілку бароняць дрэвы, з апошняе сілы зялёнае. Дзяцел б'е ў сасну суседнюю, як у скалелы чэрап. Унізе на пойме, падпеpазанай перасохлай рачулкай, бляе навязаная

---

[1] Гл.: Ясачкі: А на небе ані пыліны (18.08.96, па дарозе з Бачэйкава) // Збор твораў. Т. 3. С. 330.

авечка. Памінальшчыкі смела галёкаюць. Як у лесе ў грыбы прыйшоўшы і заблукаўшы. Сонца заходзіць, каб заўтра ўзысці. «Цяжка»[1].

*20 жніўня, аўторак*

Доўга чакалі абяцаную Валяй [Кірылавай] машыну, аж паспелі ўсе, акрамя Мірона й Дамінікі, перасварыцца. Нарэшце прыехалі «Жыгулі». Палова рэчаў не змясцілася. Мірона не выпушчалі з хаты пасля чатырох, а машына прыйшла а шостай амаль. Палову дарогі крычаў благім матам, як у нас кажуць. На рукі не даваўся. Сэрца трымціць, як лісток асінавы. Язык ажно малінавы. Пасярэдзіне дарогі наш Мірута ажно ўсраінькаўся. А дома пацішэў, асвойтаўся. Прыехалі ў смурод, у спёку, у гарадское пекла, куды мы ўсе па сваёй жа ахвоце ціснемся. Адразу пазваніў Васілю. І ён не дужа сябе пачувае, і Ірына Міхайлаўна хварэе. Ірына Міхайлаўна — ідэальная жонка такому апосталу нацыі. Як вада. Ціхая. І ў руху.

* Дамініка: «Багоўкі такія шчакотлівыя… Раскажу анекдот, які сваёй галавой прыдумала… Аднойчы сланечнік гуляў з зялёным зайцам. Сланечнік пытаецца: «Чаму ты, заяц, такі зялёны?» — «Таму што я гарох!»

*21 жніўня, серада*

На працу. Новага дырэктара [Марчука] не застаў. З абеда запісваўся ў Паўлікавай[2] на тэле. Там наша вушацкая Рая расказвала, як была ў ЦДЛ[3] на […] праханаўскім[4] вечары. Да яе падсеў паэт Міх. Шаўчэнка. «Я вам пачытаю вершы. Адкуль вы?» А сяброўка й кажа, што з Беларусі. І гэты зрусіфікаваны ўкраінец: «Што гэта з вашым Васем творыцца? Уключыў ягонае апавяданне ў адно выданне. Напісаў яму, а адказу не атрымаў». Рая адразу: «Ну, для каго Вася, а для нас — класік». І гэты паэтунчык адразу, як цяпер маладыя кажуць, заглух.

*22 жніўня, чацвер*

Гаʼды выпаўзаюць. Да дырэктара як з таго свету прывалокся сапселы стукач […] Алесь Бажко. На калідоры разгульвае […] пташнікаў. Учора Васіль сумна згадзіўся, што ў нас з ім вялікія заслугі перад КГБ — гэтулькі мы іхніх увялі ў сваё асяроддзе. Замест удзякі — кусаюцца. На хвілінку зайшоў да новага нашага дырэктра Марчука. Напомніў, што трэці

---

[1] Гл.: Цяжка (19.08.96, Ушача) // Аніma. Мінск: Рымска-Каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены. Мінск, 2011. С. 154.

[2] Паўлікава (Хейдарава) Людміла Фёдараўна (н. 1952), беларуская паэтэса, празаік; інжынер. У 1990–1997 гг. нам. галоўнага рэдактара літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання.

[3] Цэнтральны дом літаратараў (Масква).

[4] Праханаў Аляксандр Андрэевіч (н. 1938), рускі пісьменнік, публіцыст. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола, Міжнароднай Шолахаўскай прэміі (1998).

год ляжыць падпісная карэктура Васілёва. Абяцаў не забыцца. Тут руку прыклаў і быкалобы Андраюк. Таксама кніжнік, як Сачанка, як Антановіч. […].Хадзіў на кінастудыю, глядзеў «Апошні човен». Сумная балада развітання. Глядзелі адзняты матэрыял, дзе я вяслую, рэжу хлеб, стаю ў нашым касцёле. Пятроўскі так зняў разбураны ўшацкі касцёл, што, здаецца, ён свеціцца ранамі, але спавядае, але з нябёсамі гаворыць, але зямлю ад пошасці бароніць. Добра, што касцёл, бо ксціў мяне ўсё-ткі ксёндз. Няхай на хаду. Бо час такі быў. Я па-добраму — уніят.

*23 жніўня, пятніца*

Званю Васілю на ўсе брэхі з розных […] «зямов юности», «совбелрусей», раю помніць мудрасць Усхода: сабака брэша, а караван ідзе. Васіль сумна: «Каравану ўжо няма куды йсці. Прыйшоў». Днямі заходзіў Вальдко [Калінін], […]. «Кожнаму сваё: Выглядалі сляпога ў цары…» [у дзённіку].

*24 жніўня, субота*

З Дамінічкай да Лапушынаў. У чацвер ад'язджаюць. Яўрэяў амаль не засталося. Сумна. Гэтулькі вякоў суседзіліся, хаўрусіліся. Камуністы яўрэйскую праблему вырашылі […]. «За грэх зямны…»[1] Пішу п'яным почыркам, бо на ўвесь стол пад лямпай разлёгся Мірон. І не пускае.

*25 жніўня, нядзеля*

З Дамінічкай хадзілі на Камароўку, купілі сала, часныку. Дамінічцы трошкі вінаграду й заваднога цюленя. Да вечара не вылязала з ваннай. Забягалася Ілоначка. Паехала ў Санкт-Піцер. Даў кавалак сала ды пяць даляраў. Сам гол як сакол. А па дачушцы душа баліць. […]. Рукі апускаюцца. А дзён засталося так мала. І хоць нешта хочацца напісаць.

*26 жніўня, панядзелак*

На працу. Потым на абед да мільянеркі Вольгі. Чырвоная ікра. А калі ішоў на працу, казаў, што буду есці ікру. А Дамінічка мне: «Прынясі й мне хоць трошкі». Не лезлі ў горла бутэрброды. Усё голас Дамініччын стаяў. І ў багатых свае клопаты й турботы. Усё, як у людзей.

*27 жніўня, аўторак*

Пакруціўся на працы. Пісаў анатацыі на выставу. Марная праца. Па ўзору, як сам на сябе напісаў давідгарадоцкі геній, новы дырэктар. Потым да Пятра Ісаевіча[2]. Так дзень яшчэ адзін мінуў.

---

[1] Гл.: За грэх зямны… (24.08.96) // Руны Перуновы. С. 445.
[2] Ліфшыц П. І., стаматолаг.

*28 жніўня, серада*

На лятучцы давідгарадоцкі шэкспір назваў мяне Рышэлье[1], «але эра Барадуліна скончылася». Наогул, ён не ў захапленні ад маіх вершаў, але помніць, што неяк я на калідоры сказаў пра яго «Крык на хутары» — «нічога твор». Што ж, прыйшла пара [...] славянасабораўцаў[2]. N. яўна быў задаволены, што землячок пстрычку мне ў нос даў. Давідгарадоцкая культура так і прэ.

*29 жніўня, чацвер*

Званіў Васіль: хоць не хацеў казаць па тэлефоне, але калі мяне не будзе, ніхто не будзе адказваць па тэлефоне: «Я паехаў у Вушачу на колькі дзён». [Жарыкаў[3]] з Кампадруку: «Быкава выдаваць за кошт выдавецтва, датацыі не будзе. Геніюш — нельга, бо калабарантка. Сагановіча[4] й Арлова — нельга. Бо па закону аб друку: распальванне варожасці між народамі (расійскага крывавага цара замест Грознага назвалі Жахлівым)». Са спісаў у Свяце пісьменства [Жарыкаў] выкрасліў Быкава — бэнээфавец. Часіны настаюць вясёлыя, мякка кажучы. [...].

*30 жніўня, пятніца*

Наташа [Давыдзенка] хадзіла падпісваць Жылку[5]. Размова зайшла пра Моркаўку[6]. Калі сказала, што я прадмову раблю, падскочыў давідгарадоцкі шэкспір. Чаму, бачце, я шмат прадмоў раблю? А чаму не вярцінскі ці лужанін? [...]. Давядзецца йсці з выдавецтва. [...]. Усё даведзена да камедыі — святы агонь на Гродзеншчыну павезлі з Філарэтам двое [...], дашкевіч і Загорская[7]. [...].

* Дамініка: «Аднаразавая аса, як аднаразавы шпрыц».

*31 жніўня, субота*

З Дамінічкай і Самсонам — дзедам ката Мірона, як ён сябе называе, хадзілі на Камароўку. Цікава, Дамінічка ўсё не хацела, каб я купляў — ба-

---

[1] Рышэлье (Рышэльё) Арман Жан дзю Плюссі (1585–1642), кардынал (з 1622), з 1624 г. галава каралеўскага савета, фактычны правіцель Францыі.

[2] Слявянскі сабор «Белая Русь», грамадскае аб’яднанне (1992–1999).

[3] Жарыкаў Віктар Іванавіч (н. 1953), былы рэдактар; чыноўнік Дзяржаўнага камітэта па друку і інфармацыі.

[4] Сагановіч Генадзь Мікалаевіч (н. 1961), беларускі гісторык і археолаг. У 1984–2005 гг. супрацоўнік Інстытута гісторыі НАНБ.

[5] Жылка У. Творы. Мінск, 1996. *Жылка* Уладзімір Адамавіч (1900–1933), беларускі паэт, перакладчык. Быў рэпрэсаваны.

[6] Моркаўка Аркадзь Андрэевіч (1900–1957), беларускі паэт.

[7] Загорская Ніна Сымонаўна (н. 1940), беларуская паэтэса. З 1982 г. супрацоўніца Міністэрства культуры. Заслужаны работнік культуры РБ. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі прэзідэнта «За духоўнае адраджэнне» (2004).

ялася, што не застанецца грошы на завадную рыбку. Спякота — пекла. Галава дурная [...]. Калі не горшая.

*1 верасня, нядзеля*

[Малюнкі.] Дамінічка мне малявала, а пасля гуляла ў школу й такія рэчы імправізавала, што мне стала вусцішна. Цэлую старонку запісаў пятае праз дзесятае. «Гісторыя ўразумляе ўсіх… Душа — гэта такое пачуццё, якое ніводзін чалавек у свеце не адчуў… Гісторыя багатая на разум…». Здаецца, што ёй з неба дыктавалі словы.

* Дамініка: «Буду вучыцца, пісаніны розныя пісаць… Як плюс пішацца: крыжыкам ці палачкай?.. Гісторыя — гэта што трэба усім. Гісторыя такая добрая, прыгожая й разумная. Без гісторыі свет не свет. Гісторыя ведае, што яна робіць. Без гісторыі чалавек не чалавек. Гісторыя — папулярнейшы гук душы. Гісторыя нас ніколі не пакіне. Гісторыя такая істота, што нам так неабходная. Гісторыя ўсё павінна ведаць. Гісторыя ўразумляе ўсе светы, гісторыя ўразумляе навуку. Гісторыя нараджае чалавека. Цяпер у свеце жыве душа, якая знае і натхняе».

*2 верасня, панядзелак*

Да Палякова. Глядзеў ягоны фільм «Посторонний», сумесны з літоўцамі. Ідэю сапсавалі ср.ным авангардам. Тэле дало гутарку Паўлікавай са мной. Белы хваліўся, што пацалаваў Філарэта ў шчаку, а ён дазволіў «ігуменні» Загорскай пацалаваць руку. Камедыя на боскія тэмы.

*3 верасня, аўторак*

З раніцы давалі ўрыўкі з выступлення [Лукашэнкі] ў універсітэце. Праходзіўся па Васілю, па мне, нават па лагойскім [...]. Хадзіў на кінастудыю. Гайдук[1] зняў нейкі размыты фільм. Цікава, Лук'янчыкаў паслаў у Парыж на конкурс колькі сваіх фільмаў. Адказ: «Вы цікавы як рэжысёр, творы вартыя ўвагі, але ў конкурсе як прадстаўнік Беларусі ўдзельнічаць не можаце, бо няма такой дзяржавы ў Эўропе. Мы Вас дапускаем удзельнічаць у пазаконкурсным паказе фільмаў».

*4 верасня, серада*

Іду на працу, нехта ў пераходзе крычыць з нейкай дамай. Фраер у крымплене. Наш новы шэф, давідгарадоцкі шэкспір. [...].

Хадзіў да Пятра Ісаевіча. Бяззубаму няма чаго рабіць у нашай сітуацыі. Духата дабівае. Кара боская на Беларусь-бязбожніцу. Мала Чарнобыля [...].

---

[1] Гайдук Станіслаў Аркадьевіч (1945–2017), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст. Рэжысёр кінастудыі «Беларусьфільм».

*5 верасня, чацвер*

На працы зайшоўся давідгарадоцкі шэкспір і прапанаваў, каб Ілона на паўстаўкі рабіла ў выдавецтве. Сказаў, што падпіша мой першы том і выдасць шматпакутную Васілёву «Сцяну». Потым Васіль казаў: «Калі ўсё рушыцца, тут ўжо не да кніг». Не можа адбіцца ад давання інтэрв'ю. Зразумеў, што расійскія беруны інтэрв'ю не гэтулькі шануюць яго, колькі ён бясплатны, бо ў Маскве ўсё чынавецтва дзярэ з іх даляры. Казаў, што прынясу зялёнай гарбаты й разынак. Адмовіўся. Ірына Міхайлаўна купляе піражкі з капустай і буллённыя кубікі. А мяса ўжо мне, кажа, не трэба. Сапраўды рацыён святога пакутніка. Па-ранейшаму рацыён наш робяць камуністы, цяпер ужо з дабаўкай нео-.

*6 верасня, пятніца*

Пасяджэнне па адамовічаўскіх прэміях. Лук'янчыкаў — маэстра, а фільм пра Чарнобыльскае гора не атрымаўся. Эстэцтва на бядзе. Казловіч[1] за пяць нумароў «Круга» атрымаў толькі афіцыйна 25 мільёнаў. Нічога сабе галоўны рэдактар. Землячок давідгарадоцкага шэкспіра. Наш вусацік абяцаў яму пасаду галоўнага рэдактара ў выдавецтве. Адмовіўся. [...].

Ездзіў да Будзінаса. І трэба рабіць паштоўкі калядныя. «У выніку»[2].

Дачытваю новы зборнік Някляева «Прошча». І нова, і знаёма. Нешта ўсё пад «Мцыры» [Лермантава] шмат.

*7 верасня, субота*

Пісаў выступленне на пэнцэнтраўскім кангрэсе. Да Палякава. З разумным і памаўчаць болей, чым з дурнем пагаварыць. Ілоны няма. [...].

* Дамініка: «Вырасту, буду зарабляць многа грошы і Мірону буду купляць кожны дзень па індыку... Добра, што ў цябе шмат барахла, нешта й патрэбнае ёсць».

*8 верасня, нядзеля*

Ваяваў цэлы дзень з Міронам за стол і за крэсла — адусюль ён мяне выцясняў. Дапісаў свой выступ. Нешта пісаў Будзінасу на паштоўкі. Наступны год Вала.

Надыходзіць год Вала.
Цягавітасці хвала!
Толькі ўпартасць і вала
Часта не туды вяла...

---

[1] Казловіч Анатоль Мікалаевіч (1946–2011), беларускі пісьменнік, журналіст, сцэнарыст.

[2] Гл.: У выніку (6.09.96) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 41.

Будзьце дужымі валамі
За святочнымі сталамі!

І зрабіў тэксты яшчэ шасці калядных паштовак[1]. Намаляваны паштоўкі сучаснай [...]. Няма адчування нацыянальнага.

*9 верасня, панядзелак*

Прыехаў Ганад. Чытаў ягоную карэктуру. Васілю было дужа дрэнна. Ужо сэрца. Божанька, беражы яго!

10 верасня, аўторак

Вальдко прыходзіў са сваёй дачушкай. Цыганачка сімпатычная. Як хораша гаворыць па-беларуску. Вучыцца ў Лёндане. Заўтра едуць у Лёндан. Толькі цыганы ды татары нам мову захоўваюць. Вечарам паседжанне ФС. Дамініка сказала мне раніцай: «Іду ў школу з вялікай неахвотай». Вальдко падарыў Сёмуху й мне «Евангелле ад Мацея» па-цыганску. Гэта дужа кранае. Усе мовы павінны маліцца Усявышняму. У ФС укарчоўваюць новых. Тут і Дубавец [...], і Алексіевіч, і Сагановіч, і Жанна Ліцьвіна[2]. [...]. Дзяржава ў нас унікальная. Калі [Шарэцкі] — фігура, тады куль яравой саломы — Аляксандраўскі столп[3].

*11 верасня, серада*

Учора да ночы сядзеў. Позна прыйшоў. [...]. Загналі мяне, як ваўка, у кут. Толькі адстрэліць. Пісаў колькі словаў пра Законнікава. На працы Сёмуха асудзіў мяне, што пішу ў «Народную газету». Але ж гэта юбілейная пстрычка. Сам аўтар юбілею хацеў якраз у «Народнай». Сёмуха рацыю мае. Гэта мая апошняя фатыга ў газету [...]. І Сяргей, і Генадзь — людзі ЦК. Калі я сказаў Генадзю, як [Лукашэнка] крычаў, што дазволіў Генадзю праводзіць юбілей, Генадзь аж у трубку падскочыў. «А чаму тады, — закрычаў былы галава прадстаўніцтва Беларусі ў ААН, — у «Советской Белоруссии» пра мяне ні слова?!» Цягне дамоў.

---

[1] Гл.: Калядныя віншаванні народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, намалявала Вольга Бяліцкая. ТАА «Паліфакт», 1996 (6 паштовак). Рэспубліканскае аб’яднанне «Белпошта», 1996.

[2] Літвіна Жанна Мікалаеўна (н. 1954), беларуская журналістка. У 1995–2015 гг. старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў.

[3] Аляксандраўская калона ўзведзена ў 1834 г. у памяць Аляксандра I, пераможцы Напалеона. Аўтар праекта А. Монферран, скульптар Б. Арлоўскі. *Монферран* Аўгуст Аўгуставіч (Агюст Рыкар дэ; 1786–1858), рускі архітэктар. *Арлоўскі* Барыс Іванавіч (сапр. Смірноў; 1796–1837), рускі архітэктар.

Хадзіў да Рылаткі. У яго Фінберг[1]. Фінберг казаў, што налета будзе рабіць мне вечар-канцэрт. Рылатку на «Здубавецьці»: «А закахаўшыся ў Рылатку…» [у дзённіку]. А адно «Здубавецьця» падпісаў Пятру Васючэнку[2]:

Пятра Васючэнку
Берагу, як зрэнку
Крывіцкага вока,
І люблю глыбока.

* Дамініка: «Добра, што ў Мірона такія вочы, бо іншыя маглі б у цемры заблудзіцца».

*12 верасня, чацвер*

Хадзіў да Карласа. Ідзе падрыхтоўка да кангрэса. Прыехаў з расійскага ПЭНа Аляксандр Ткачэнка. Масквічы ўмеюць выжываць. Напрыклад, трое едуць у Алма-Ату, тры вечары паэзіі — па 2 тыс. даляраў кожнаму. Ісаеў Ягор здае ў цэнтры кватэру за 800 даляраў, а сам жыве ў Перадзелкіне ды разводзіць курэй. Імперыя свае кадры беражэ. Яны могуць спатрэбіцца ў любое імгненне.

*13 верасня, пятніца*

У гатэлі «Беларусь», задуманым камуністамі як бы на востраве, прэс-канферэнцыя з нагоды пачатку Міжнароднага форуму «Улада й свабода слова». Калі выступаў Васіль, увесь час былі непаладкі з мікрафонам, і гэта ў добра адладжаным […] гатэлі. Чакалі [Шарэцкага]. Калі йшоў на трыбуну, нейкі […] ускочыў, а за ім бальшыня прысутных. Нават у прызідыуме Васіль, прадстаўніца швэцкага ПЭНа мусілі ўставаць. Вядома, я сядзеў. Са мной малады паэт з газеты «Культура»[3] ўскочыў. Пытаюся: чаго? «А ён жа, — пра [Шарэцкага] кажа, — такі артыкул напісаў у «Народнай волі». І пісаў з перапалоху й дазволу на смеласць […], і правіў яму Букчын[4]. Але як мала трэба ў нас, каб стаць нацгероем. Не дзіва, што пасля 37-га ўжо ў наш час хвалілі й славілі таго, хто мала даносаў напісаў

[1] Фінберг Міхаіл Якаўлевіч (н. 1947), беларускі дырыжор. З 1971 г. выкладчык Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Прафесар (1997). З 1987 г. мастацкі кіраўнік-дырэктар Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі РБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1990), Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

[2] Васючэнка Пётр Васільевіч (1959–2019), беларускі літаратуразнавец, крытык, пісьменнік, драматург. Кандыдат філалагічных навук (1983). З 1997 г. выкладаў у Мінскім лінгвістычным універсітэце.

[3] «Культура» — грамадска-палітычная газета (культура, мастацтва; з 1991).

[4] Букчын Сямён Уладзіміравіч (н. 1941), беларускі пісьменнік, публіцыст. Кандыдат філалагічных навук (1972). Выехаў ў Польшчу (Варшава).

ці амаль не пісаў. Дазволены […] дэсідэнт Бітаў[1] выступаў як сакратар рэспубліканскага ЦК […]. Потым прыём, ці застолле аля быдла, стоячы. Усе як парнакапытковыя ірвануліся. Я пайшоў дамоў, тым болей гэты мой сусед, паэт малады, папрасіў сказаць пінгвіну Карласу, каб не выганялі. Галодны, як і належыць сапраўднаму маладому паэту. [Шарэцкі] сядзеў, […] падбеглі да Васіля, каб ён падышоў да [шарэцкага]. Васіль, вядома, падышоў, бо не будзе ж ён […] нешта пра этыкет уцямліваць. Калгаснік заверыў Васіля, што будзе непахісна весці лінію. Яшчэ нядаўна хістаўся разам з генеральнай лініяй.

*14 верасня, субота*

Выступаў напачатку. Вечарам вечарына паэзіі. Вёў разам з Фрэнсісам Кінгам — віцэ-прэзідэнтам Міжнароднага ПЭН-клуба, гэта паэт з Вялікабрытаніі. Бітаву захацелася чытаць […]. Забраў чвэртку часу прамога тэлеэфіру. Хоць Ліна Кастэнка[2] добра сказала ў абарону сваіх землякоў, якіх судзілі […]. Бэла Ахмадуліна[3] ўся ў карункавым чорным касцюме. Дамскі варыянт Еўтушка[4]. Але мілы. Геворг Эмін[5] чытаў добра й добрыя вершы. Лявон Баршчэўскі па-англійску агучваў пераклады выступоўцаў, чытае свае пераклады. Людзей было не так каб багата, але слухалі добра. У першым радзе сядзеў N-N. у паставе капрызнага Гамлета. Тэлеэкран на яго дзейнічае, як удаў на трусіка. Ці вытрымаюць ягоныя мазолькі?

*15 верасня, нядзеля*

На паседжанні падсеў нейкі мітуснік. А гэта граф Прушынскі[6]. Здаецца, з «Паўлінкі» [Купалы] Адольф Быкоўскі змяніў прозвішча. Вялікі нагруднік, вялікімі літарамі «Граф Прушынскі». Убачыў у мяне пярсцёнак. Кажа: «Дзе такі зрабіць?» Адказваю, што Белы даў. Калі яго цікавіць… Не, ён мне паказвае свой залаты з фамільным гербам. І тут жа тлумачыць: вазіў гуманітарную дапамогу. Збіраў там, у Канадзе. І адна дама аддала

---

[1] Бітаў Андрэй Георгіевіч (1937–2018), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (1992, 1997).

[2] Кастэнка Ліна Васільеўна (н. 1930), украінская паэтэса. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнка (1987**)**.

[3] Ахмадуліна Бэла (Ізабела) Ахатаўна (1937–2010), руская паэтэса. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1989), прэміі «Трыумф» (1994), Пушкінскай прэміі (1994), прэміі прэзідэнта РФ (1998), Дзяржаўнай прэміі РФ (2004).

[4] Еўтушэнка Яўгеній Аляксандравіч (1933–2017), рускі паэт, празаік, кінасцэнарыст, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1984), Дзяржаўнай прэміі РФ (2010). Тройчы намінаваўся на Нобелеўскую прэмію.

[5] Эмін Геворг (сапр. Мурадзян Карлен Грыгор’евіч; 1919–1998), армянскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951, 1976).

[6] Прушынскі. У пачатку 90-х пераехаў з Канады ў Беларусь. Безвынікова рабіў спробы балатавацца на пасаду прэзідэнта.

залатыя непатрэбныя ёй каронкі. З іх ён і зрабіў пярсцёнак. Дарэчы, пра мой Васіль сказаў, што па ім лёгка будзе ідэнціфікаваць маю асобу. Вярцінскі чытаў нудную жвачку. Самалюбоў губіць.

*Ціха…*

Мы ўсе, ў катэджах
Ці ў дзюравых хатах
Жывём у Беларускіх Вымiратах.
Мы на караты ліха вымяраем,
Адбыўшы рату,
Ціха вымiраем…

*16 верасня, панядзелак*

Так хапілі ныркі, што ўвесь дзень праваляўся, дакладней, пракачаўся. У мяне ад выступленняў Ахмадулінай бэланіфрыт. Вечарам прыходзіла Ілона. Сагітаваў ехаць на плэнэр Драздовіча[1]. Няхай прыжываецца ў беларускім мастакоўскім асяроддзі, а не бабылкуе недзе ў Расіі.

*17 верасня, аўторак*

Паехала Ілона даганяць плэнэрыстаў пад Глыбокае. Хай ёй будзе ўсё добра. На працы Лявон [Дранько-Майсюк] віншаваў мяне, што добра й годна падаў Бэлу на вечарыне. Званю Законнікаву. Кажа, што добра прайшло застолле дома ў гонар юбілею. Потым яго прымаў пробашч. Вітаў. Кветкі. Адным словам, ад душы. І на стале гляджу «Звязду». Там ужо Сяргей з […] мітрапалітам. Праўда, казаў Адамовіч, хто папрацаваў у ЦК, у іх адно яйцо выразалі.

*18 верасня, серада*

Паседжанне ФС. Гальдадзе казала, што ў іх у Гомлі на пасяджэнні Гарсавета ўжо афіцыйна прысутнічаў прадстаўнік КГБ. І ўсе выступоўцы не чубіліся, адно адзін перад адным хваліліся поспехамі. Як у лепшыя часіны. Лубянка было задрамала, і за гэты момант трошкі акрыялі. Але прачнулася хутка й пачала наганяць страчанае. Пакуль будзе расійская імперыя, хай і абразаная, нам будзе пагана.

*19 верасня, чацвер*

Бегаў па гаспадарчых клопатах. Плаціў за паслугі розныя, купіў тое-сёе Валі й Ілоначцы. Які ўжо дзень кручу «дурноціну», і нічога не

[1] Драздовіч Язэп Нарцызавіч (1888–1954), беларускі мастак, скульптар, этнограф, фалькларыст, археолаг, пісьменнік.

выходзіць: «І скіпетр: Пастухоўца-цара…» [у дзённіку]. А цяпер крыху сур'ёзней: «І ўсё ж…»[1]

*20 верасня, пятніца*

З раніцы ў ПЭН-цэнтр. Васіль уручыў Пятроўскаму й мне дыплом Алеся Адамовіча за фільм «Забораўна» [«Забароўна»]. Карлас ва ўсім звышімпартным, звышзаклапочаны й звышгэшэўтовы. Едзе з Процькай […] у Швейцарыю, Францыю і па пытаннях правоў чалавека, і Эўрапарламента, і Эўрасаюза пісьменнікаў. А грэйсэ шышке! Пытаецца, што за клопат маю я ў Швейцарыі. Кажу: «Пакланіся мясцінам, дзе быў Вова Ульянаў». Лубянка дужа нешта ўзварушыла кадры свае да глыбокіх пластоў.

Васіль мне даў пачытаць ліст Зянона. Пакутуе. Новы Ёрк не па ягоным характары. Але хоць ёсць беларуская дыяспара. Розная. Зянон хоча яе неяк згуртаваць. Піша ў лісце, што ўпершыню адчуў настальгію ў Маскве. Наогул, Зянон не можа быць без Беларусі. Яшчэ, відаць, Вільня была б яму роднай. Але тут блізка рука Масквы. Васіль казаў, што асабліва жахліва адчуў ён настальгію на Курылах. І толькі настальгіяй можна тлумачыць, што многія беларусы, украінцы, балты не вытрымлівалі й канчалі жыццё самагубствам. Васілю з Польшчы прыйшло запрашэнне. Не паедзе. Раней паездка за мяжу была за радасць, а цяпер абразы на мяжы, праверкі ўсё звялі на самоў хвост. Дый ездзіць апошнім часам няма жадання. У Вушачу збіраўся як не паўгода. Адно куды яшчэ ёсць жаданне й могласць, дык на лецішча з'ездзіць, пабыць у хатнім бярэзнічку. Сумна, гляджу я, глядзець вялікаму беларусу Васілю на жыццё нашае.

На «Здубавецьцы» Вадзіму Дапкюнасу[2]: «Усё на гэтым свеце дым…» [у дзённіку].

*21 верасня, субота*

З раніцы мне Дамінічка малявала. Спецыяльна разварот пакінуў. Кот геніяльны. Аж Валя пашкадавала, што не на асобным лісце — на выставы. Вечарам хадзіў да Палякова. У Ізраілі цікавае расслаенне й нелюбоў да рускіх яўрэяў. Палякова ўнучка напалову яўрэйка, па бацьку, але ўсё роўна з Расіі, і з ёй мала хто сябруе. Адна амерыканка толькі добра да яе ставіцца. А з унукам наогул цікава, бацька ягоны паляк, маці руская. Сябраваў з венгерскім яўрэем, сваім аднагодкам. І раптам бацькі перасталі пускаць гэтага венгерчыка гуляць з Паляковым унукам. Асабліва шалеў

[1] Гл.: І ўсё ж… (19.09.96) // Ксты. С. 301.

[2] Дапкюнас Вадзім Вячаслававіч (н. 1940), беларускі тэатральны дзеяч. У 1983–2001 гг. супрацоўнік Міністэрства культуры.

бацька. Відаць, памятае венгерскія[1] падзеі. Гэты ўнук са слязамі запытаўся: «З кім яшчэ ваявала Расія, што я павінен адказваць, што мяне ненавідзяць?» Расійскі імперыялізм, як СПІД. І гэтае беднае дзіця адказвае. Ягоная душа ўскосна кавэркаецца ім жа, вялікадзяржаўніцтвам.

* Дамініка: «Ты ў мяне, дзедзя, будзеш п’янавар’ятам… Як Мірон уцячэ, тады творчасць не атрымаецца».

*22 верасня, нядзеля*

Дома выбіраў для Пятроўскага фатаграфіі. Званіў Васіль. Ён хадзіў да Найдэна Вылчэва[2] ў Лечкамісію. Найдэн культурны аташэ ад Балгарыі. Казаў Васілю — яму далі кватэру ў раёне Камароўкі. Выходзіць з хаты, у калідоры нейкі пытае: «Вы з Балгарыі?» Найдэн адказвае, што так. «А вы хто?» — «Я дырэктар «Мастацкай літаратуры». Найдэн тады кажа: «А ў мяне там сябра працуе». — «Хто?» — «Рыгор». Адказ: «Месяц працуе, выпраўляем на пенсію». […]. Хоць бы элемент культуры быў. Як сабака, выконвае ўказанні […].

*23 верасня, панядзелак*

У ТЮГ да Шайко[3]. Па п’есе Гоццы[4] пытанні. На працы Далідовіч[5] паказаў новы лісток па ўліку кадраў. На чатыры старонкі, як у савецкія часіны: і партыйнасць, і дзе бацькі пахаваныя, і радня за мяжою. У графе «нацыянальнасць» зорачка-зноска: «Нацыянальнасць паказваецца са згоды й жадання анкетанта». Як у тым анекдоце пра яўрэя: «А калі так, дык што?» Радзікавага сына запісалі ў графе «нацыянальнасць»: «Маці грамадзянка Рэспублікі Беларусь, бацька — яўрэй».

*24 верасня, аўторак*

Генадзь ніяк не можа супыніцца з юбілеем. Сёння ў Доме Купалы. Прыйшоў я на 15 хвілін пазней. Людзей паўнютка. Пытаюся, хто з па-

---

[1] Рознагалоссі ўнутры ЦК Венгерскай працоўнай партыі на чале з М. Ракашы і ўрадам І. Надзя і рэпрэсіі прывялі спачатку да мірных маніфестацый. Па просьбе ўрада А. Хегедзюша ў Будапешт былі ўведзены савецкія механізаваныя часці (24.10.1956), што выклікала ўзрыў антыкамуністычных настрояў.

[2] Вылчэў Найдэн Станеў (н. 1927), балгарскі паэт, перакладчык, эсэіст, журналіст. Узнагароджаны медалём Ф. Скарыны РБ (2000).

[3] Шайко Мікалай Міхайлавіч (н. 1938), рускі тэатральны рэжысёр. Заслужаны дзеяч мастацтваў РФ (1999).

[4] Гоццы Карло (1720–1806), італьянскі драматург, паэт.

[5] Далідовіч Генрых Вацлававіч (н. 1946), беларускі пісьменнік. У 1991–2002 гг. рэдактар час. «Маладосць». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя І. Мележа (1988), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1996).

этаў. Аўрамчык[1] і лагойскі […]. Апрануўся й пайшоў дамоў. З лагойскім гарладзёрам ні на полі брані, ні на полі ср.ні быць не хачу. Удзень званіў Васілю. «Гляджу, — кажа, — у вакно на сонейка. Хоць сонейка яшчэ на Беларусь глядзіць, а Бог адвярнуўся».

*25 верасня, серада*

Лятучка. Давідгарадоцкі шэкспір чуў пра артыкул Букчына, а не чытаў. Гразіцца падаць у суд. А там не названа ні прозвішча, ні выдавецтва. Атрымаецца, што сам сябе пазнаў. Мне заўсягды дужа шкада дурных […].

*26 верасня, чацвер*

*Вушача!* Пасля доўгіх кіношніцкіх збораў недзе каля 11-ці выехалі. У самую імжу сабраліся. Прыехалі і адразу паехалі на ўзгледзіны да вазёраў. Былі на Крывым. Але спыніліся на Бярозаўцы. Дужа берагі вабныя Сяргею. А дакладней, гэта не Бярозаўка, а Атолава, альбо яшчэ завуць мясцовыя Оталава. Гаспадар, у якога будзем браць човен, Васіль Каваленка. Было двое сыноў. Адзін у Наваполацку жыве. А другога, які працаваў у Вушачы па вадзяной частцы, забілі алкашы. Зараз гаспадар, калі памерла гаспадыня, узяў маладзіцу з Ліпаўца. Яна мяне пазнала, у школу хадзіла маладзейшымі класамі.

Пятрок мой злагоднеў, бо зблажэў. Баліць бок, не можа падняць руку. Урачы зноў параілі закусваць малочным. Дзівосы вушацкай медыцыны. Марыя Рыгораўна зусім слабая. Рвуцца мае апошнія карані.

*27 верасня, пятніца*

Вушача! На Атолава. Човен куты жалезам, цяжкі, вясло, як дзіцячая лапатка ў пясочніцы. Усё йшло добра. Потым Сяргею Пятроўскаму захацелася здымаць з чоўна. Сядзеў на металічным карабку з-пад апаратуры. Я й ўгледзець не мог, як ён віхтануўся — і ў возера. Уцягнуць не магу. Човен не йдзе, Сяргей трымаецца за край. Жах. Пад'ехалі браканьеры на двухвясёлцы, перш чым дапамагчы, спыталіся: адкуль, ці мы рыбу ловім электратокамі? Хацелася паслаць, […], абыдлелі зусім. Так-сяк Сяргея на бераг. Расціралі гарэлкай, бо даўно кінуў піць. Вазілі ў нашую бальніцу. Званіў Васілю, а ён сказаў: мастак Селяшчук[2] утапіўся ў возеры [у моры] ў Італіі. І які бездапаможны цяперашні чалавек перад вечнай стыхіяй. Чым далей, тым болей бездапаможнейшы робіцца. «Ніткай, трошкі таў-

---

[1] Аўрамчык Мікола (Мікалай Якаўлевіч; 1920–2017), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964).

[2] Селяшчук Мікалай Міхайлавіч (1947–1996), беларускі мастак, графік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

сцейшай за гук…»[1] А нечаканы, знянацкі канец неяк спакойна ўспрымаецца. Безвыходнасць мацнейшая за надзею. Надзея хвалюе, нэрвуе, халеруе. А бызвыходнасць супакойвае, суцішае халодным позіркам сваіх нетутэйшых і нікому не бачных вачэй. Адчуў гэта, калі веславаў, а човен упарта стаяў на адным мейсцы. Быццам хацеў пакінуць вяслом след на вадзе.

*28 верасня, субота*

Вушача! Раніцай ўстаў. Зайшоўся Пятрок. У нас не стаў піць. Узяў з сабой. Я пайшоў да Марыі Рыгораўны снедаць. Напякла бліноў мучных. Напусціла сала. Скваркі перасмажаныя, але дужа тлустыя. Гэта пад гарэлку добра было. Павяла на гарод. Капуста на недагледжаных ледзь прыкметных лехах, як забытая Богам мясціна ўся нашая. Тупым нажом ледзьве зрэзаў дзве галавы. Пятрок сварыцца з маці ўвесь час. Адзін аднаму анелюбелі. Абодва старыя, і матка, і сын. Страшна на гэта глядзець. І якая мяне старасць чакае, калі яна мяне дачакаецца. Усё бедна, запушчана, забыта. Прыедзеш з нейкім сподзевам, а ад'язджаеш хворы. Па дарозе з Вушачы пісаў верш:

*Варагуюць…*

З дня народзінаў дабра і зла
Варагуюць розум і ўлада.
Каб улада перамагла,
Завінаецца звада і здрада.

Хоць дрыжаць і зоры, й лісты,
Спіць пакора ў кожным паглядзе.
Ды за кратамі ў нематы
Толькі розум і страшны ўладзе.

Прыехаў дамоў. […]. Учора вечарам фары машыны высветлілі ката, які перабягаў нашую вуліцу. Здалося, што ў яго безліч ног. Нешта ад мультыплікацыі. Да містычнага ўражліва. Шмат ног, і ўсе яны бягуць, спяшаюца, спазняюцца.

*29 верасня, нядзеля*

Раніцай пайшоў выразаць шклінку ў рамачку пад фота Дамінічкі. Адно вакенка на Камароўцы. Двух мужчын маладых. Стараюцца. Але чарга. Званю Васілю, ён усміхаецца: «Сацыялізм без чаргі не можа быць. Чарга — рухаючая сіла сацыялізму». Васіль […]. Жартаваў, што Генадзь

[1] Гл.: Ясачкі: Ніткай, трошкі таўсцейшай за гук… (19 —27.09.96, Ушачы) // Збор твораў. Т. 3. С. 330.

не можа спыніцца ў юбілеенні. Навыперадкі з Нілам. Ніл адзначае 65 год з дня ашчаслівення свету сваім з’яўленнем, і 50, калі накрамзоліў нешта ў рыфму. Неяк званіў Васілю Таразевіч, запрашаў на іхняе партзборышча. Васіль пахваліў, што ў бок дэмакратыі пачаў хінуцца. Таразевіч адказаў, што ён заўсягды быў дэмакратам. Васіль напомніў яму, як ён выклікаў Васіля пасля стварэння «Мартыралогу»[1]. Статут увесь пакрэслены. Роў: «Вы што хочаце, новую палітычную партыю стварыць надумаліся!» Таразевіч зрабіў выгляд, быццам нічога не было.

*30 верасня, панядзелак*

Іду ў выдавецтва. У пад’земным пераходзе Яўменаў[2]. Загаварылі. Кажу: «Ты разумны, хоць і камуніст». Адказвае: «Я з тых камуністаў, якія былі за горад-сонца». Пасля, калі расказваў гэта Васілю, ён усміхнуўся: «Горад-сонца, а Курапаты, а ГУЛАГ?» Пад вечар пазваніў кіраўнік ансамбля БВА[3], каб падправіў бэсесэраўскі гімн, тэкст. Вядома, адмовіўся. Сказаў яму ўсё, што думаю пра гэты […] гімн […]. Папрасіў каго параіць, адказаў: хай звяртаецца да замяталіных ды посахавых[4], да […] чаргінцоў. […] Ніл заданне […] партыі выканаў. Хай бы цяпер [Лукашэнка] адмяніў «Магутны Божа» ці «Мы выйдзем шчыльнымі радамі»[5].

*1 кастрычніка, аўторак*

Пасля ўчарашняе халадэчы сёння цёпла й нават сонечна. Васілю трохі лепей. Голас лепшы, весялейшы. І ў мяне на душы таму святлей. А наогул, жывем, як у цёмнай яме, адкуль бульбу ўзялі.

*2 кастрычніка, серада*

Хоць радасць нейкая. Арахоўскі з «Беларусі» даў мне сігнал «Слаўлю чысты абрус». Прыходзіў Абрам А. Кацнэльсон. Жыў раней у Менску, цяпер у Ізраілі. Зачытаў нас вершамі. У Сёмухі ажно вочы пабялелі, на палове ўцёк. А я да канца мусіў слухаць. Разумныя яўрэйскія хлопчыкі,

[1] «Мартыралог Беларусі» — грамадскае гісторыка-асветніцкае таварыства памяці ахвяраў камунізму і сталінскіх рэпрэсій у Беларусі (з 1988).

[2] Яўменаў Леанід Фёдаравіч (н. 1932), беларускі філосаф, пісьменнік. У 1982–2002 гг. заг. аддзела навуковай інфармацыі НАНБ. Доктар філасофскіх навук (1977). Прафесар (1979). Член-карэспандэнт НАНБ (1991).

[3] БВА — Беларуская вайсковая акруга.

[4] Посахаў Сяргей Аляксандравіч (н. 1944), кадравы вайсковец, палкоўнік. У 1994–2000 гг. памочнік прэзідэнта РБ.

[5] Твор «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (гімн БНР; сл. М. Краўцова, муз. У. Тэраўскага) прапаноўваўся ў якасці новага гімна РБ. *Краўцоў* Макар Мацвеевіч (сапр. Касцевіч; 1901–1939), дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, паэт, публіцыст, перакладчык. Рэпрэсаваны. *Тэраўскі* Уладзімір Васільевіч (сапр. Цяраўскі; 1871–1938), беларускі харавы дырыжор, кампазітар, фалькларыст. Рэпрэсаваны.

якіх спанталычыў таленавіты, па-яўрэйску юрліва-цынічны Бродскі[1]. А перад гэтым Пастарнак і Мандэльштам.

*3 кастрычніка, чацвер*

Тоўкся на працы. Амаль праз паўвека дайшоў канкрэтны сэнс мамінага выслоўʼя: навошта мне клад, калі ў мяне ў сямʼі лад. У хату зайшоў, […], Дамініка вясёлая. І самому жыць хочацца.

*4 кастрычніка, пятніца*

На кінастудыю. Адбіралі фотакарткі. Прыехала Снарская. Супакоіў, што кніжка выйдзе. Да Эдуарда Зарыцкага[2]. Напісаў дзве песні на мае вершы для маэстра Фінберга. Трэба толькі трошкі словы падагнаць.

*5 кастрычніка, субота*

Хадзілі з Валяй і Дамінічкай купіць Валі туфлі. Усёй маёй пэрсанальнай пэнсіі толькі й хапіла на восеньскія туфлі Salamander. Вось тут і жыві. Потым чытаў карэктуру свайго першага тома[3]. Настрой нейкі як перад пераездам ці хаўтурамі. Ні да чога рукі не ляжаць. Галава баліць. Толькі й радуюць Дамініка й Мірон.

*6 кастрычніка, нядзеля*

З Дамінікай да Радзіка глядзець фільм. Па дарозе Дамініка ўбачыла бярозкі. І кажа: «Неўзабаве зіма, а ім яшчэ расці й расці трэба». Калі ад Радзіка выходзілі, убачыла боцікі малога: «Такія, як у мяне, толькі зусім іншыя…» У Радзікава сына ўсё імпартовае. Мы з Дамінікай жабракі. Радзік расказваў, што Жданку[4] а трэцяй начы пазваніў з Новага Ёрку Навумчык пʼяненькі: «Пачынаюць усіх садзіць, усё пачалося». Маладому й пʼянаму й палітэмігранту вясёла. А вось Зянон званіў Васілю неяк раней і пытаўся між іншым і пра надворʼе. Васіль адказаў, што ў нас зябка. Зянон уздыхнуў: «Гэта ж і ў Варшаве сцюдзёна. А там жа Галя[5]…» Калі Дамінічка глядзела мульцікі, ёй перашкаджаў Радзікаў Ларык. Тады Дамінічка: «Цётка Света, забярыце Вашага сына». Чым увяла ўсіх у смех. А па дарозе

[1] Бродскі Іосіф Аляксандравіч (1940–1996, ЗША), рускі паэт, перакладчык. З 1972 г. у эміграцыі ў ЗША. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1987).

[2] Зарыцкі Эдуард Барысавіч (1948–2018), беларускі кампазітар. Народны артыст РБ (1999). Заслужаны дзеяч мастацтваў РБ (1994). З 1993 г. у Нацыянальным аркестры сімфанічнай і эстраднай музыкі РБ.

[3] Барадулін Р. Збор твораў. Т. 1–4. Мінск, 1996–2002.

[4] Жданко Валянцін Пятровіч (н. 1964), беларускі журналіст. Пасля 1995 г. супрацоўнік Радыё «Свабода».

[5] Вашчанка Галіна Фёдараўна, беларускі філолаг; жонка З. Пазьняка.

дамоў паўтарала, што яе пакахаў Ларык. Не будзь тая дама будучая. Спачатку капрызілася, а пасля дайшло да яе.

*7 кастрычніка, панядзелак*

Прыходзіў у рэдакцыю Белы й расказваў, што бацька Ніла — сакратар калгаснай партарганізацыі ў вёсцы Корань загадаў трактарам знесці надтрунні Купалавых крэўнікаў. Павел Вераб'ёў[1] у «Мінскай праўдзе»[2] працуе. Папрасіў, каб даў падборку Ганада ў дзень Ганадавага юбілею. Прыйшоў. Пішу ўрэзку. У канцы ў перакладзе на беларускую маім. Павел, саромеючыся, кажа: «Калі можна, не стаўце сваё прозвішча». Рэдактар Шлома[3] (былы цякун) не любіць гэтае прозвішча. Усё матузок цягнецца.

Быў на кінастудыі. Глядзеў адзняты матэрыял на Атолава. Кадр, дзе Пятроўскі купаецца, якраз і замок.

Белы расказваў, як Запруднік[4] і Васіль Рагуля завербавалі 15 чалавек для закідкі ў Беларусь савецкую. За кожнага атрымалі грошы. Ледзь іх скінулі з самалёта, як тут жа чакалі кэгэбісты. Іх прадалі ў амерыканскім штабе, савецкія разведчыкі былі паўсюль. Тое ж атрымалася і з літоўцамі. На яўку йдуць, хто ацалеў пасля парашутавання, а іх і там чакаюць. Так Запруднік і забагатеў.

У Гомелі жыве адзіны, хто выжыў, адседзеўшы, адгулагаваўшы 20 гадоў. Таксама й амерыканскія службы добрыя цацы — заплацілі 20 тыс. даляраў. Па тысячы за год. Не густа. Па чарзе, па кругу ўсе прадалі юнакоў, за душы іхнія забагацелі. І цяпер Запруднік прыехаў спраўляць 70-годдзе. Хай.

*8 кастрычніка, аўторак*

Усё пішу па інэрцыі верасень. Цэлы дзень балела галава. Было нейкае хваляванне, бо вечарам была ратацыя. Хацелася яшчэ трэці тэрмін пабыць, зараз усё няпэўнае. Яно й Фонд Сораса ў нас няпэўны. Анціпенка сунуў [...] Дубаўца [...], чалавеканенавідніка, фюрарыста, ды яшчэ [...] Садоўскага[5] [...]. Пачынаю сумнявацца ў Алесе. Гэта звышінтэлектуальная пазіцыя фактычна падтрымлівае рэжым. Вечарам усё ж ратацыя адбы-

---

[1] Вераб'ёў Павел Віктаравіч (н. 1958), беларускі паэт. З 1994 г. супрацоўнік газ. «Мінская праўда».

[2] «Мінская праўда» — грамадска-палітычная газ. (з 1950).

[3] Шлома Мікалай Аляксандравіч, гал. рэдактар газ. «Мінская праўда».

[4] Запруднік Янка (сапр. Вільчыцкі Сяргей Мікалаевіч; н. 1926), беларускі гісторык, палітолаг, паэт, літаратуразнавец, публіцыст, грамадскі дзеяч беларускага замежжа (ЗША).

[5] Садоўскі Пётр Вікенцьевіч (н. 1939), беларускі мовазнавец, палітык, дыпламат. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне».

лася. Мяне пакінулі. Але яшчэ мусіць быць з'езд. [...]. «Ніколі!»[1], «Дамінічка ўсё заўважае...»[2].

*9 кастрычніка, серада*

З раніцы Сяргей Пятроўскі здымаў Васіля, нас двух. Каля Менскага возера. Здымаюць у парку. Бераг возера. Мы з Васілём сядзім на нейкае карчажыне. Праўда, Сяргей паклапаціўся, каб было нешта накшталт падушак. Васіль крыху застужаны. Па ім ужо старасць спрабуе верх узяць. Але дух ягоны малады, моцны, карчысты, караністы. У эўрапейскай кепцы, аскетычна высмуглы, і дужа наш, вушацкі. Парода нашая вушацкая бадай самая крывіцкая, самая чыстая ўнутраным святлом, рагатай, я сказаў бы, упартасцю адстойвання свайго, крывіцкага. Мы ўсе амаль крыху фанаты. Ападаюць і ападаюць лісцінкі. Як мы ўсе павінны. Васілю кажу, што ў пятніцу маем намер з кіношнікамі ехаць у Вушачу. Што, можа, Валі[3], сястры Васілёвай, перадаць, пытаюся. Васіль выцягвае грошы, адлічвае тры сотні пяцідзясяткамі, пералічвае, між іх адна сотня зачасалася пад пяцідзясятку. Як Ніл у паэты добрыя. Праз некалькі хвілін яшчэ дадаў дзве сотні — Валі на дровы. Гэта палова Васілёвай пэнсіі. А Валя атрымлівае трыста тысяч. І разгуляешся, як той сабака ў торбе. [...]. Сяргей перастаўляе камэру. Ідзе нейкая маладзіца й пытаецца, ці не бачылі мы кароў. Паказваем на той бераг. Там карова. Маладзіца кажа, што ёй трэба некалькі кароў. Цэнтр горада, каровы ў парку пасвяцца. Васіль заўважае, што мая Марыя Рыгораўна трымае казу, бо мястэчка, а ў сталіцы трэба карову трымаць. Патрэбы большыя.

Часта Васіля ўночы а другой ці а трэцяй гадзіне будзіць Акула з Амэрыкі. Раптам пытаецца, а ці ведаюць у вас там, што такое запраграмаванасць. Праўда, ён добры суразмоўца, бо яму не трэба адказваць, а толькі даводзіцца ў споднім слухаць доўгі маналог. І за якія толькі грошы. Хоць яму ўжо мала трэба. Нехта піша пра ягоную творчасць, Акулу дужа цікавіць, што і як, як ацэняць. Па дарозе ў выдавецтва, а ён у кнігарню, кажу, што дагэтуль блытаю апельсіны з лімонамі. Васіль: «Цытрусавыя да нас прыйшлі з палітыкай. Пазнішчалі ўсе сады, павывелі садавіну». [...]. Васіль зноў паўтарыў: «Цяпер наперад нічога не загадваю, не разлічваю, толькі да святое суботы».

[1] Гл.: Ніколі! (8.10.96) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 42.
[2] Гл.: Ясачкі: Дамінічка ўсё заўважае... (8.10.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 330.
[3] Быкава Валянціна Уладзіміраўна (1926–2016), сястра В. Быкава.

*10 кастрычніка, чацвер*

Паўлікава запісвала Ганада, у надсвіслаччы колькі словаў сказаў і я пра Ганада. У «ЛіМ» Шніпу[1] занёс слова пра Ганада. Алесь Карлюкевіч[2] прыходзіў, рабілі некую гутарку для «Звязды». Заўтра ў Вушачу. У Васіля заўтра аж тры запросіны: да палякаў, да французаў і да Белага. Раю йсці да французаў, пярэчыць: «Там будуць тыя ўсе, каго й паасобку бачыць непажадана. У Белага хоць загадзя ведаеш, хто будзе. Хоць настрой не сапсуюць». [...].

*11 кастрычніка, пятніца*

Адразу на Атолава. Сяргея да сябе ў човен не браў. Пад заход сонца такая лагода разліта ва ўсім. У чоўне з вяслом адчуваеш сябе далёкім продкам. Усплываюць з памяці радкі кітайскае паэзіі. Відаць, усё-ткі радзіма чалавека — вада. Гэтак цягне, гэтак палоніць, гэтак прымушае думаць толькі пра яе. У ўзмаху вясла нешта ад ўзмаху касы. «Нешта...»[3] Вечарам зайшоў да Сяргея, занёс лусцень з салам. А па тэле [Лукашэнка]. Доўга. Жах. Іду дамоў — цемра. Каб агменьчык, як у Беларусі. Як на душы. Пакуль што, як Васіль кажа, старога чорта дома не было. [...].

*12 кастрычніка, субота*

Зноў на Анталова. Чаўнар. З 29-га года. Кажа, што ён бязбожнік. Бо ў немцаў на дзягах было «Got mit uns» [«З намі Бог»], а яны маленькіх дзетак забівалі. Пытаюся, а як жа камуністы сваіх? Расказаў, як урач гадоў пад 80 застрэліўся. Запіску напісаў. Да жывата прыклаў грэлку, каб кроў не запэцкала нічога. Засталася дачушка, у 4-ты клас ходзіць, і другая жонка. З першай разышоўся: яму трэба была жанчына, а яна яго не падпускала. Тады з цяперашняй недзе на азёрах пад час адпачынку пазнаёміўся. З чаўнаром рослы ўнучак, бучнейшы за Дамінічку, а яму пяць гадочкаў. На возеры хваля. Човен, калі паплыў, пачало-такі люляць. Ён жа калыска першая чалавека. Пасля купання Сяргея не дужа хацелася далёка заплываць.

З возера ў Вушачу. Зайшоў на барахольны базар. Нешта спытаў, як пачала чаркаць нейкая [...] рваначка, я ёй сказаў: «Табе трэба працаваць у камсамоле, а не ў гандлі». Прыйшла Марыя Рыгораўна. Цяжка ёй ужо хадзіць. А разгаманілася, расшабунялася й прапяяла мне: «Есце, госці капусту, капуста тлуста [...]». Вось гэта па-ўшацку! Гэта з паганшчыны

---

[1] Шніп Віктар Анатольевіч (н. 1960), беларускі паэт. У 1995–2004 гг. нам. галоўнага рэдактара газ. «Літаратура і мастацтва». Лаўрэат прэміі імя У. Маякоўскага СМ ГССР (1987).

[2] Карлюкевіч Аляксандр Мікалаевіч (н. 1964), беларускі ваенны журналіст, пісьменнік-краязнавец, крытык, публіцыст. У 1995–1998 гг. гал. рэдактар газ. «Чырвоная змена». Лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» (2017).

[3] Гл.: Нешта... (11.10.96, возера Атолава, Ушачы) // Ксты. С. 331.

йдзе. І настрой мой падняўся на ўсю дарогу. А тут яшчэ вадзіцель Сяргей добрую паслаўку казаў: не спі ў аглоблях! Па дарозе назіралі сонечнае зацьменне. Сонца ненатуральнага колеру, а формы дзіўнаватай: як тлусты маладзік.

[…]. Васілю спадабалася інтэрв'ю маё ў «Звяздзе». Сказаў, што напісана дакладна, выканана артыстычна. А мне ўсё ўзгадваецца Марыя Рыгораўна. З яе голасам, родным, ушацкім, калявячэльскім. Знікаюць родныя галасы. А ўсё-ткі яна сапраўдная крывічанка барадулінскай пароды. Некалі казала, што з 1905 года, а цяпер колькі ўжо гадоў кажа, што ёй каля васьмідзесяці. Гэта добра. Гэта й трымае яе нейкім чынам тут.

*13 кастрычніка, нядзеля*

Галаву хоць адкруціць і ў ср.ку заторкнуць — па вушацкаму даўняму рэцэпту. Пісаў пра Ганада ў «Народную газету». Згубіў пераклады ягоныя ў рукапісе.

Пераклаў адзін верш. «Позна прыйшоў я сказаць *прабач*»[1].

*14 кастрычніка, панядзелак*

Шукаў і ў пятніцу дырэктар. Думаў, прапануе пайсці з работы. А гэта ён папрасіў напісаць прывітанне Ганаду. У «ЛіМе» нейкая […] напісала пра майго «Аратая…». Як сучачка кусае за лыткі . Тут ёй яўна дапамагла Каржанеўская[2]. […]. Хай будзе, можа, болей увагі стане да кніжкі. А вось Дамініка ўчора выдумала слова сваё узамен акварыума — *рыбарый*. Гэта грэе. А сёння ў садзіку адзін малы, дакладней, у першым класе, задаў пытанне: хто за БНФ, а хто за камуністаў? За БНФ было чацвёра, а рэшта — за камуністаў. Малы кінуўся ў істэрыку. Хоць Дамініка была за БНФ, атрымала ў вока. Палітбаі ўжо з самага пачатку пачынаюцца. І церпяць, як заўсягды, невіноўныя.

*15 кастрычніка, аўторак*

Хоць сімпатычныя прадаўшчыцы ў вайсковым універмагу ведаюць. Абмянялі бракаваны свэдар. Хадзіў да Карласа. Вечарам дапісаў артыкул у «Круг».

---

[1] Гл.: Ясачкі: Позна прыйшоў я сказаць *прабач* (13.10.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 330.

[2] Каржанеўская Галіна Анатольеўна (н. 1950), беларуская пісьменніца, публіцыст, крытык, перакладчык. У 1984–2000 гг. карэспандэнт, заг. аддзела, аглядальнік газ. «Літаратура і мастацтва».

*16 кастрычніка, серада*

На радыё запісаў пераклады вершаў Ганада. Там сустрэў [...] Браніслава Спрынчана[1] й [...] Грахоўскага. Кампанія — лепей не трэба. Грахоўскі толькі мне прагундосіў: «За волю павшим, в борьбе уставшим…» Званіў Васілю. Спытаўся, ці не сапсавалі яму нашыя непрыяцелі прыём у немцаў. Адказаў, што не, а вось артыкул у «ЛіМе» сапсаваў. Раіў ніяк не рэагаваць. Васіль так заўсягды паступае. Адзін раз падбіў Адамовіч напісаць Гарбачову[2], бо Сеўрук[3] на галаву залез. Дык потым жа парт[…] Сеўрук распінаўся, што гэта данос да так званай галоснасці. Мяне пашкадаваў Васіль, што я не прывык да такой крытыкі. Супакоіў яго, што мокраму вада не страшна. Вечарам хадзілі з Васілём у БелОКС на вечарыну вынікаў конкурсу «Дзеці свету малююць Іерусалім». Таксама была паказана кніга пра Ізраіль. Без Філарэта не абышлося. Без Філарэта, як некалі без Ніла, нічога не бывае.

*17 кастрычніка, чацвер*

Патоўкся крыху на працы. Тут атмасфера нейкага чакання нечаканага. А гэтае нешта ў вобразе вусаціка дырэктара й само не ведае, хто яно й што яно. Раніцай на кінастудыю. Вісіць загад аб прыпыненні здымкаў фільмаў. [...].

*18 кастрычніка, пятніца*

На юбілей да Ганада. Быў Васіль. Усё прыстойна. Васіль у перапынку расказаў, як Генадзь пёр супроць Зянона, супроць БНФ ды яшчэ з падачы заакіянскага [...] Запрудніка. У Палацы прафсаюзаў кангрэс. [...] Кангрэс арганізаваны ў асноўным пакрыўджанымі партайпавадыркамі [...]. А ўражанне ад застольнікаў Ганадавых змрочнае. Прасавечанае савецкае смецце, вушацкія казалі багацей па сэнсу — замест смецця — шу′ма [...]. Крыўдна яшчэ болей, што гэта ў бальшыні людзі да пяцідзесяці. Савецкая селекцыя спрацавала. Ганад застаўся асобай дзякуючы генетычнаму клёку. [...]. Хай дзякуе продкам. Яны прыроджана былі багатыя духоўна. Ганаду маленькіх крошак хапіла з багатага караваю. Папрасіў прапяяць што-кольвек па-курдску. Нічога не ведае. Гэта трагедыя ягоная.

---

[1] Спрынчан Браніслаў Пятровіч (1928–2008), рускі паэт і перакладчык.

[2] Гарбачоў Міхаіл Сяргеевіч (н. 1931), савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1990–1991 гг. прэзідэнт СССР. Лаўрэат Нобелеўская прэміі міру (1990).

[3] Сеўрук Уладзімір Мікалаевіч (1932–2005), беларускі грамадскі дзеяч, літаратуразнавец, публіцыст. Кандыдат філалагічных навук (1967). У 1995–1998 гг. нам. дырэктара Беларускага прэс-цэнтра, заг. аддзела Адміністрацыі прэзідэнта РБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1981).

*19 кастрычніка, субота*

Сёння два мерапрыемствы, як любілі казаць бальшавікаі. Мітынг дэмакратычных сілаў на чале з былымі функцыянерамі партыйнымі (у бальшыні) і так званы Усенародны сход [...]. Здаецца, усё абышлося мірна. Хадзіў на колькі гадзінаў да Наташы Давыдзенчыхі на дзень нараджэння. Нашыя дзяўчаты ў асноўным. Надвор'е, як некалі мама казала, раскісялі'ла. Такая ж раскісялелая й мая галава. Толькі ў сне спакой. [...].

*20 кастрычніка, надзеля*

Качаўся з галавой. Занёс Эдуарду Зарыцкаму вершы на дзве песні. Трохі правіў свой жа тэкст. Каб пяялася. Такім чынам атрымалася «Рыжая бліскавіца» і «Усё жыццё — паўтор...»[1]

*21 кастрычніка, панядзелак*

Прыехалі Пятроўскі, Палякоў. Здымаліката Мірона са мной. Пятроўскі застаўся задаволены акторскімі здольнасцямі Мірона. Маімі меней. Хадзіў на працу. Ганад рыхтуецца да чарговага застолля ў выдавецтве. Сёння каля 12-ці дня стралялі ў машыну Карпенкі. У раёне старога Дома друку. [...]. Каб запалохаць. Па дарозе на працу ў галаву лезла розная філалагічная капуста. Калі булава, яна баявая. Калі булаўка — яна цацачная і ў расійскай мове заколкай стала. А што маем з неграмі? Страцілі самастойнасць, дзяржаўнасці не прыдбалі. За дзяржаўнасць сваю нельга лічыць прынесеную каланізатарамі. І ў выніку не канкрэтны народ (многія плямёны так і не збіліся на масла, якое народам завецца), а проста афрыканцы, як сябе хочуць называць, ці пашыранае — негры, гэта значыць, чорныя. Расійскія вялікадзяржаўнікі, камуністы (гэта пазнейшыя вялікадзяржаўнікі) і [...] хочуць з беларусаў неграў зрабіць. І ўжо фактычна праца зроблена нашмат.

*22 кастрычніка, аўторак*

З раніцы гутарка з Святланай Расянчук[2]. На радыё. Па дарозе напісаў ёй «Акрааняменне: Раўніва кветкі мыюцца расой...» [у дзённіку]. Ганад зрабіў добрае застолле. Напіліся пэўныя да ўсёру. [...]. Славяне закончаныя. Некалі на пахаванні мамы дарагія мае суседзі са стала цягнулі пляшкі і кláліся ў барозны бульбяныя. І там смачней пілося. А што робіць сабака, які закопвае цэлымі кумпякамі мяса й ніколі не знаходзіць сховін?

---

[1] Гл.: Рыжая бліскавіца (]1986]); «Усё жыццё — паўтор...» (23.07.85) // Маўчанне перуна. Мінск, 1986. С. 197; 196.

[2] Расянчук Святлана Іванаўна (н. 1954), супрацоўніца Белрадыё; былы мал. рэдактар выд-ва «Мастацкая літаратура».

А шостай вечара ў БелОКСе Васілю ўручыў пасол Італіі[1] ордэн Італьянскае Рэспублікі. Спачатку пасол зачытваў як бы прывітальны адрас, потым павязаў Васілю на шыю зіхоткі ордэн на шыкоўнай стужцы. Аддаў папку й маленькую копію ордэна, якую носяць на лацкане. На вечары былі абавязковыя [...] — Вярцінскі, Мальдзіс, Яўменаў. Быў і Шушкевіч, і пасол Амерыкі, пасол Украіны, Балгарыі, Славакіі. Прыехаў дамоў, Валя кажа, каб пазваніў Васілю. Званю. Калі пасол адвёз Васіля дамоў, выявілася, што нехта ўкраў, калі фатаграфаваліся, папку і ў дадатак маленькі значок з правае кішэні пінжака. Падазрона шмат было фотакораў і нейкіх маладзюшак, яўна праходзілі практыку з жаночага батальёна. Васіль адразу пазваніў, нічога не знайшлі. І гэта было ў былой забаўляльні Цанавы[2], у культурным цэнтры КГБ. Каб хоць нейкую брыдоту Васілю ўчыніць. Васіль казаў: «Шырокая падзея ў вузкім коле».

*23 кастрычніка, серада*

Лятучка. Крыху спазніўся. Пасля дырэктар паклікаў і прапанаваў ісці з працы. Яму яўна з Адміністрацыі [...] ўказанне. Ідзе чыстка. На працы павінны застацца толькі прыхільнікі [Лукашэнкі]. [...]. Шкада, што мала жыць засталося. [...].

Сяджу пішу эпіграмы ў «Вожык». Валя ваюе з Дамінічкай. Дамінічка выводзіць свае крамзолі й крыўдзіцца: «Чаму ў мяне літары выходзяць рознага ўзросту?» А кот Мірон, на стале седзячы, спрабуе лапай ухапіць секундную стрэлку гадзінніка. Толькі, як па лёдзе, шкрабе кіпцюрамі па шкле.

*24 кастрычніка, чацвер*

На працы, як на пахаванні, усе. Новыя пражэкты. Усе на нэрвах. Ганад хадзіў у Камітэт клапаціцца пра мяне. Быццам пакінуць на рэдактарскай палове стаўкі. Адна радасць — Таня Бардзіян[3] павезла на Паліграф[камбінат] мой першы том. У друк падпісалі тыражом тры з паловай тысячы. Болей чымся дастаткова ў сённяшняй сытуацыі.

Званіў Роўба з Вушачы. Майстра згодны рабіць падлогу.

*25 кастрычніка, пятніца*

На працы раптам дырэктар сказаў, каб заставаўся пад ягонай апекай. Вось гэта й прыйшло тое, што па-вушацку называецца зжыць на сабаку.

[1] Бальдзі Марыо Джоджо Стэфане (н. 1965), пасол Італьянскай Рэспублікі (1996–1998).

[2] Цанава Лаўрэнцій Фаміч (сапр. Джанджагава; 1900–1955), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1938–1951 гг. наркам, міністр унутраных спраў і дзяржбяспекі БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1949). Адзін з арганізатараў масавых рэпрэсій. Арыштаваны ў 1953. Памёр у Бутырскай турме (ці засіліўся).

[3] Бардзіян Таццяна Васільеўна (н. 1956), супрацоўніца вытворчага аддзела выд-ва.

Званю Васілю. Тэлефон увесь час зрываецца. Кажу Васілю, што гэта справа вушэй дый рук кэгэбістаў. На што Васіль заўважае: «Затое ў іх ніхто з пятлі не зрываўся». [...]. Ілона прынесла афармленне Бурсава. Шмат што ўпадабалі мастакі. Далі заўвагі. У мяне камень з душы зваліўся. Бо баяўся, што падвядзе.

*26 кастрычніка, субота*

У ТЮГ на «Кошчын дом». Заўсёды ў тэатры раздражняе мяне ўмоўнасць, якая мяжуе з прафанацыяй. Паступова забыўся на сваю прадузятасць і глядзеў весялей. Андросік[1] зрабіў добры спектакль. Ларыса [Горцава] іграла добра. Званю дамоў — Валя падвіхнула нагу, парвала звязкі. А ўчора ў Вушачы цешча[2] зламала руку. Ашалець можна. Званіў вечарам Васілю. Васіль: «Усё лепшае, усё вынайдзенае ўнікальна на Захадзе, як толькі трапляе да нас, прафануецца, зводзіцца на тло».

*27 кастрычніка, нядзеля*

Гадзіны чатыры на нагах. Быў і на Камароўцы, і на стадыёне [тарговыя рады] — галаўны боль не прайшоў. Цікава на стадыёне аб’яўляюць: робяцца наколкі чорныя й каляровыя, татуіроўкі па ўсіх законах і дасягненнях Амерыкі й Расіі. Хоць тут Расія роўная вялікай дзяржаве.

Званіў Васілю. Ён кажа, што ўтвараецца нацыянал-камунізм, хоць пра гэта маўчаць. Камуністы, вядома, ідуць самі, а беспартыйных спецслужбы падсаджваюць. Вось каб у статут КП запісалі беларускую мову й, галоўнае, загаварылі на мове, усё добра — і Ленін, і Дзяржынскі[3]. У гэтых адносінах Ніл — класічны ўзор нацыянал-камуніста. Кажу Васілю: можа, часта званю, адбіраю час? Адказвае, што апошнім часам амаль ніхто не звоніць. Баяцца звязвацца. [...].

*28 кастрычніка, панядзелак*

З раніцы на працы валтузня й перапалох. Усіх дужа хвалюе кадравае пытанне, якое вырашае, штохвілінна бегаючы ў Камітэт, давідгарадоцкі шэкспір. Мяне паклікалі ў аддзел кадраў, каб распісаўся ў загадзе, што з 5 лістапада я ўжо не займаю гэную пасаду. Скончыўся кантракт. Скончыўся й галаўны боль у шэкспіра, як мяне вытурыць, каб выканаць загад.

---

[1] Андросік Андрэй Фёдаравіч (1941–2003, РФ), беларускі рэжысёр, выкладчык. У 1995–2003 гг. мастацкі кіраўнік, гал. рэжысёр ТЮГа.

[2] Сталярова Таццяна Харлампіеўна (1914–2005), маці В. Барадулінай.

[3] Дзяржынскі Фелікс Эдмундавіч (1877–1926), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Пасля 1917 г. займаў пасады старшыні УЧК (АДПУ), наркама ўнутраных спраў. Ураджэнец Беларусі.

Да нас заходзіў Мікалай Казлоў, яму далі заданне зрабіць вокладку часопіса «Всемирная литература». Загадчыца, ці рэдактар, гэтага эпахульнага выдання Бондар[1]. Калі Дранько спытаўся, чаму Тася пайшла на тое, каб выходзіў так званы часопіс па-расійску, яна ж пісьменніца беларуская, Тася адказала канкрэтна: «Мне ж недзе трэба працаваць». Вось ўсё і Адраджэнне нашае. Вечарам пазваніў Драньку й раю перадаць Тасі: калі яны маюць даваць Шымборскую[2], набілянтку, па-расійску, хай закажуць пераклад Тарасу. Дранько адказаў, што Жора Марчук усё жыццё ненавідзіць яўрэяў, лічыць, што яўрэі якраз перашкодзілі, каб ён стаў геніяльна-папулярным, набілянтам. Спачатку прапанаваў Тасі знайсці блазна славянасабораўца Шэлехава[3]. Не знайшлі. Тады параіў адшукаць русско[...] паэтух. А яны не ведаюць польскай мовы. Тады Тася стала званіць Хрысціне Лялько[4], каб пачытала русско[...] польскі арыгінал і патлумачыла. І з гэтакімі кадрамі замахвацца на «Всемирную литературу». Расійскія вялікадзяржаўнікі ў росквіт імпэрыі не наважыліся назваць так, назвалі ўсё-ткі «Иностранная литература». Дзіва што па заданню Марчука як спецу па антысемітызму [Андраюк] рабіў спіс, хто з аўтараў выдавецтва якое нацыянальнасці. Сядзіць піша — просіць дапамагчы. Кажу, што Калінін цыган, Ганад — курд. Пры слове *курд* Серафіма як шылам у ср.ку паркнулі: «Ведаю, што курд. Умудрыўся выдаць тры кнігі за чатыры гады». Сачанку ды Пташнікаву ніколі не лічыў. Пачаў запісваць яўрэяў. «А Я. яўрэй?» — пытаецца Андраюк. Кажу, што расіец з глыбінкі Расіі. «А ў яго ж, — кажа, — характар яўрэйскі». Я яму назваў Л. Пачаў сумнявацца, ці Б. яўрэй. [...]. Пытаецца наконт Т. Адказваю: «Калі трэба працэнт, пішыце...». «Ну, а як з А. быць?» — пытаецца. Пра гэтага [...] я нічога сказаць не мог. Актыўны аўтар «Сов[етской] Бел[оруссии». [...]. Андраюк тугадумна сказаў, што пазвоніць Тацяне Кузьмінічне[5], у яе ўсе дадзеныя. Пісаў-пісаў яўрэяў і жахнуўся — шмат. А рускіх мала атрымліваецца. «Ну, нічога, — кажа, — з працэнтам я спраўлюся». [...]. Гісторыя паўтараецца, толькі ў камічным варыянце.

*29 кастрычніка, аўторак*

---

[1] Бондар Таіса Мікалаеўна (1945–2005), беларуская паэтэса, празаік, перакладчык. У 1996–2002 гг. дырэктар рэдакцыйна-выдавецкай установы «Літаратура і мастацтва». Лаўрэат прэміі прэзідэнта «За духоўнае адраджэнне» (2004).

[2] Шымборска Віслава (1923–2012), польская паэтэса. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Польшчы (1955), Нобелеўскай прэміі (1996).

[3] Шэлехаў Міхась (Міхаіл Міхайлавіч; н. 1954), беларускі паэт, кінасцэнарыст. З 1996 г. вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах пры Літаратурным інстытуце імя М. Горкага.

[4] Лялько Хрысціна Аляксееўна (н. 1956), беларуская пісьменніца. З 1996 г. гал. рэдактар час. «Наша вера» і «Ave Maria». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986).

[5] Іваніцкая Таццяна Кузьмінічна, кансультант па арганізацыйнай рабоце СПБ.

Адтоўкся на працы. Памалу збіраю вархопкі. [...] Шупенька[1] бегае й крычыць, што выкінецца з вакна, парэжа вены [калі звольняць]. [...]. Неяк усё адышло, адшумела й зусім не шкада пакідаць выдавецтва. Такі час, што ў паветры разліты смурод [...].

*30 кастрычніка, серада*

На лятучку сёння ўжо не трэба. Ішоў, дакладней, даходзіў на працу як белы чалавек — няма куды спяшацца. Хоць усё жыццё, як пачынаю сябе помніць, я некуды спазняўся, некуды спяшаўся. Бег, як той заяц у сне, у якога і ў заснулага ногі торгаюцца. У калідорах традыцыйны савецкі рамонт. Шмат бруду, смуроду ад фарбы, а бліску мала. Званіў Васілю. Сказаў, што пачалася кампанія па падвінчванню гаек сексотам. Адны развінціліся, другія пачалі вагацца ці ў іншы бок глядзець. Дык пачалі біць — пад выглядам хуліганства. Але ніхто пацярпелы не абскардзіў напады. Ведаюць, за што.

Кажу, што трэба ехаць у Вушачу з Законнікавым, а пачуваю сябе блага. Васіль раіць не прымаць рашэнне да апошняе хвіліны. Прыязджае Вазнясенскі[2]. Жак[3] стараецца. Выдаў ягоны зборнік. [...]. Нам з Васілём давядзецца быць на вечары Андрэя. А Васілю яшчэ трэба да італьянцаў — ад'язджае пасол. Раю не быць — толькі мітрэнга. І паслу не будзе цікавасці ні да кога, і яшчэ давядзецца Васілю стаяць разам з рознымі шаранговічамі ды паплаўскімі. Лепей пазваніць паслу на дарогу.

Вечарам ехаў у трамваі з дзвюма гегемонкамі п'янюткімі. З размоў іхніх адна фраза дала гэты верш: «Сага»[4].

*31 кастрычніка,чацвер*

І весялосць заўсёды ёсць. Дырэктар, які праз вуліцу вырас з Драньком, напомніў Лявону, каб не называў Жорам, а Георгіем Васілевічам і на «вы». На што Лявон толькі ўсміхнуўся й сказаў, што яго сам Барадулін прасіў дзесяць гадоў назад называць на «ты», але ён называе на «вы», а Жору й не збіраецца. Калі Лявон не прыйшоў на адну лятучку, дырэктар папрасіў напісаць тлумачальную, дык Лявон напісаў, што якраз у гэты час, калі йшла лятучка, праводзіў у цырульні «Чарадзей» канфэрэнцыю па твору Марчука «Сава Дым і ягоныя палюбоўніцы». Калі дырэктрыса

[1] Шупенька Генадзь Серафімавіч (1936–2010), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1982–1996 гг. ст. рэдактар, заг. рэдакцыі серыйных выданняў, з 1997 г. вядучы рэдактар.

[2] Вазнясенскі Андрэй Андрэевіч (1933–2010), рускі паэт, публіцыст, мастак, архітэктар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978), прэміі Ураду РФ (2010, пасмяротна). Ганаровы член 10-ці акадэмій свету.

[3] Жак Віктар Герасімавіч (1931–1998), дэкан інжынерна-педагагічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута. Кандыдат педагагічных навук.

[4] Гл.: Сага (30.10.96) // Босая зорка. С. 49.

цырульні спадарыня Выгоцкая запыталася, ці Дым і Марчук адно й тое, Лявон растлумачыў, што нельга атоесамляць аўтара з героем ягонага твора. І калі цырульніцы запыталіся, ці гэта ў Марчука было 10 палюбоўніц, як у Савы, Лявон патлумачыў, што ў Марчука толькі адна палюбоўніца — Адміністрацыя. Марчук пачытаў тлумачальную, па-ідыёцку заўсміхаўся, а потым сказаў падраць тлумачальную.

Мне прыйшло два запрашэнні на ўрачыстасць з нагоды юбілею ўніверсітэта. У оперным недзе ў трэцім радзе. У Палацы спорту таксама блізка да сцэны. Не пайшоў. Яшчэ давялося б уставаць пры выкананні [...] так званага гімна «Мы, беларусы, з братняю Руссю...». [...]. Ліст у падтрымку [Лукашэнкі] ад пісьменнікаў падпісаў Марчук, ад кампазітараў Вагнер[1] [...]. А пачынаюцца падпісанты з дырэктара цырка[2]. «І д’ябла лысага...: Каб рассмяшыць і д’ябла лысага...» [у дзённіку].

Званіў Васілю. Чытаў апошнюю кнігу Астаф’ева[3]. Пра Астаф’ева: «Талент з яго папёр перад канцом жыцця». «Капліца»[4]. Званю Васілю, між іншым кажу, як адна актрыса перажывала, што яна, іграючы кошку, на думку актора, мужа сяброўкі, у апошнім акце была не пры красе. А ў кошкі дом згарэў. Васіль расказаў, як некалі быў у ЮНЕСКО. Назад з паседжання вяртаюцца. І адзін так званы дыпламат хваліцца, як удалося адстоіць прыназоўнік у першай рэдакцыі рэзалюцыі. Цэлы дзень дыскутавалі. А было гэта ў часы чырвонай імпэрыі. На каларыт узяты быў і старшыня калгаса з Украіны. Ён слухаў-слухаў [...] дый кажа: «О цэ мне б вашыя клопаты». У кожнага клопаты па ягонай сіле.

*1 лістапада, пятніца*

Дзень добры, Лістападзен! Не дай мне абляцець лістом з дрэва жыцця. Будзь спагадлівы... Да вечара на працы перабіраў паперы. Рыхтуюся, пакуюся перад развітаннем з працай, з присутствием, як казалі ў расійскай імпэрыі. Званіў Васілю. Завязалася зямляцкая гутарка. Як што завецца ў нас. Як то было. Учора, дарэчы, быў Сусветны дзень нечысці. [...]. Кажу Васілю, што Будзінас запрашаў у «Дудуткі». Васіль кажа, што да суботы нічога нельга ўгадаць. А сёння ж пятніца. Кажу, што па расійскаму тэле паказвалі прэзентацыю кнігі Зюганава. 10 гадоў пісаў. Цытаты 36-ці філосафаў свету. Васіль: «Ці прачытаў Зюганаў сам сваю кнігу? Яўна ж пісалі маскоўскія антановічы».

---

[1] Вагнер Генрых Матусавіч (1922–2000), беларускі кампазітар, педагог. Прафесар (1988). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1963). Народны артыст БССР (1988). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1976), Дзяржаўнай прэміі РБ (1998).

[2] Бандарчук Таццяна Мікалаеўна (н 1952), дырэктар беларускага цырка (1996–2011).

[3] Астаф’еў Віктар Пятровіч (1924–2001), рускі пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР (1975), Дзяржаўнай прэміі СССР (1978, 1991), Дзяржаўнай прэміі РФ (1995, 2003).

[4] Гл.: Капліца (31.10.96) // Босая зорка. С. 20.

Расказваю, як з маёй мамы кепілася свякроў, калі мама сказала: «Іван[1] рыбу ўкукаваў». Гэта кукай білі па лёдзе, дзе стаяў шчупак, а потым тапарком прасякалі светлы лядок. Васіль: «Мая мама ведала ўсю рыбу, як завецца, калі якая нерастуе. А дзядзька Лявон, па сутнасці, з рыбы жыў. Пад час падзелу апынуўся пад Польшчай. На возеры Шо. Недзе ў 60-х гадах дзядзька Лявон злавіў шчупака, які адарваў бляшню ў дзядзькі ў 26-м годзе. Як у казцы». Васіль: «Як толькі лёд возьмецца, вада празрыстая, а возера балоцістае. Відаць, як стаіць рыба, як карэнне стыне ў вадзе. […]» Васіль быў забыўся, як восці завуцца. Разгаварыліся, як зябка было зімой лавіць рыбу. Дый наогул у сялян не было нічога на дождж, на слату. Самы лепшы быў мех складзены. Як башлык. Ды й ён прамакаў. Кажух у слату не надзенеш. Бравэрка таксама прамокне. «У Фарынава ці ў Ветрына вазілі лён. Перадзі'е. У дзядзькі чахотка стала. І я некалі кукай на шчупакоў хадзіў. Калі першы лёд возьмецца, відаць, як шчупак стаіць. Цюкаеш тапорыкам. А пасля восцямі па галаве. Яшчэ кукаю глыжы разбівалі. Во якая ў нас зямля цяжкая, глiністая». Напомніў Васілю, што ў нас казалі нораст, нура. Ад нуры й слова *ўнурыцца, унурысты*.

Вечарам быў у Самсона. Кажу, што не змог паехаць у Вушачу па хваробе. Самсон жартуе: «Ты ж прыватызаваў Вушачу. Яна толькі твая…»

*2 лістапада, субота*

[Малюнкі.] Вырашыў так памянуць Дзядоў — Дамінічка малявала й шчабятала. Жывы працяг нашага роду. А ў думках памянаў і жадаў са святымі спачываць усіх, каго ведаю й каго не застаў на зямлі гэтай. А Дамінічка перш чым што маляваць, як заклён паўтарае: «Фантазія павінна накручвацца, накручвацца, накручвацца. Маўчы, дзедзя, а то ў мяне фантазія згубіцца». Калі б не Дамінічка — званочак мой залаты, дык і жыццё б сэнсу ўжо амаль не мела. Яна й радасць, і надзея, і найбольшая трывога мая. Разумею вялікага Быкава, які так ненавідзіў і так званы подзвіг бацькі Міная[2], і куляшоўскую баладу пра закладнікаў[3]. А як мама мая люта ненавідзіла адну з італьянскіх казак вялікага пралетарскага басяка, дзе маці забівае сына[4]. Голас крыві, абарона свайго працягу — яна мацнейшая за цягу да працягу, якая ахрышчана мілосцю. Самыя любімыя й самыя балючыя — унукі. Гэта й голас дзядоў, і позірк дзядоў у прышласць.

---

[1] Барадулін Іван Рыгоравіч (1908–1944), бацька Р. Барадуліна.

[2] Шмыроў Мінай Філіпавіч (1891–1964), арганізатар партызанскага руху ў Віцебскай вобл. Герой Савецкага Саюза (1944). Ягоныя дзяці былі ўзяты фашыстамі як закладнікі і расстраляныя.

[3] Куляшоў А. «Балада аб чатырох заложніках» (1942).

[4] Горкі М. «Маць здрадніка».

*3 лістапада, нядзеля*

Апоўдні паехалі з Васілём у паказальную вёску, дзе прыгоннікам Будзінас. І вятрак, і лазня, і ганчарня, і вяндляльня, і вазок запрэжаны сытым канём, і нават ішак. Пасля экскурсіі вячэра з ансамблем «Свята». Жак з Будзінасам выдалі зборнік Андрэя Вазнясенскага. У анатацыі паправінцыйнаму Андрэй — буйнейшы паэт XX стагоддзя. Трэба было ўжо й XXI ўзяць. Што там дробязнічаць. Андрэй чытаў старыя вершы. Апрануты пад юнака няхлюя. А ўжо 65. І наогул, усё гэта ўжо дзень мінулы, публіка незразумелая. Акрамя колькіх журналістаў. Гэта Будзінас адмывае маскоўскія расійскія грошы. Гэтыя уік-энды нагадваюць нечым хаўтуры. Толькі стукачоў болей, чымся на хаўтурах. Васіль казаў коратка й дужа добра. Усе, хто крычыць, што парваліся сувязі, крычыць пра сувязі ВПК. А сувязі культуры — яны не партыйныя.

Ехалі назад, Васіль тлумачыў нейкаму нашаму спадарожніку з Таварыства Адэнаўэра пра угра-фінскія карані нашае тапанімікі. Пасля пазваніў Васілю, і ён з сумам заўважыў, што ў марных мітрэнгах праходзяць дзень за днём. Раней у маладыя гады хоць сяброўская шчырасць была. А цяпер яе няма. Мне ўспомнілася вушацкая послаўка: шляцца па дурных ба′лах. Гэта якраз пра нас. Якой мудрай дабрынёй, якой пяшчотай, глыбока схаванай, вее ад Васіля. Як сумна, думаю, яму, вялікаму й мудраму, у гэтай пастсавецкай мітусні, у гэтых кучкоўках. Кажу: магу прынесці зімовыя боты, бо маю ў запас. Усміхаецца: «Прыхавай сабе, ты ж цяпер у новай якасці, у пенсіянерах, без працы сталай».

*4 лістапада, панядзелак*

Атрымаў апошнюю зарплату й кампенсацыю за адпачынак. Успомніўся анекдот пра бацьку, які даваў сыну аднесці аліменты апошні раз і прасіў сказаць, які будзе твар у маці. А маці адказала: «Перадай бацьку, што ўсе 18 гадоў ён плаціў за суседа Мікіту, і пагледзі, які твар будзе ў бацькі». У выдавецтве, як быццам нябожчык ляжыць у адчыненай дамавіне.

На Андрэя ў рускі тэатр не пайшоў. Хопіць і таго, што быў у «Дудутках». Прысутнічаў на вечарах Андрэя, як быццам на грамадзянскай паніхідзе па савецкай паэзіі. Быў час, адшумеў, ададраў горла, можна было б трохі й памаўчаць, падумаць. Дык цягне да выступленняў як ката′ на варацакі. Кожнаму свой час. І актору, і паэту трэба час пакінуць сцэну, каб не выглядаць камічна. [...]. Званю Васілю. Пытаюся, як прайшоў вечар у Італьянскім пасольстве. Смяецца. Завязаў гальштук, надзеў новую кашулю, а потым разважыў. Да Драздоў абяцаў падвезці Будзінас. А назад прасіць якога чыкіна[1] ці антановіча. Бо гэта не прыём інтэлігенцыі,

---

[1] Чыкін Віктар Валянцінавіч (1949–2012), беларускі журналіст, грамадскі і партыйны дзеяч. 1-шы сакратар КПБ (з 1996).

а развітанне пасла. Так і застаўся дома. Пасмяяліся, што мы зрабілі ўсё па-ўшацку. І засталіся задаволеныя самі самімі. […].

*5 лістапада, аўторак*

На працы апошні дзень. Давідгарадоцкі шэкспір сабраў колькі чалавек і панёс ахінею. Усё зводзілася да таго, што ён удзячны мне за згоду пайсці з работы на пенсію. Выглядала ўсё адпаведна па-калгаснаму. Заданне […] выканаў. Наогул, у выдавецтве стала працаваць невыносна. Потым з Васілём пайшлі ў госці да Найдэна Вылчэва. Па дарозе куплялі кветкі. Выявілася, што й Васіль, сапраўды вушацкі, не любіць хадзіць з кветкамі. У Найдэна Васіль пацяплеў душой, успамінаў пра паслявайну. І як абарвалася ягоная кар’ера камсамольская з узносамі[1]. Найдэн займае тры пакоі. Гэта ад Балгарскага пасольства. Тысяча даляраў штомесяц. Ён дарадца па культуры. Па дарозе дамоў Васіль казаў пра дацкага перакладчыка. Перакладаў і Дастаеўскага, і Васіля. Жыве бедна. Мае хутар і паўгектара зямлі. Сядзіць за кампутарам. Васіль пытае: перакладае? А гэта ён вылічвае, што лепей сеяць на наступны год — авёс ці жыта, а можа, грэчку.

*6 лістапада, серада*

Хадзіў на працу. Зграбаў у кучу кнігі й рукапісы. На маё мейсца ставяць Леаніда [Кірэевіча] Левановіча[2], пляменніка Лявонава[3], былога сакратара Магілёўскага абкома. Давідгарадоцкі шэкспір сваю пустату пустатой запаўняе. […].

*7 лістпада, чацвер*

Як добра, што не трэба йсці пад чырвонымі анучамі. Адганялі. Хадзіў на Камароўку. Купляў у ўкраінак сала. І вэнджанае, і белае. Цікава, што літоўцы свежае несалёнае сала завуць зялёным. Мой сябра Альгімантас Балтакіс[4] на балконе сваёй пышнасавецкай кватэры карміў сінічак зялёным салам.

Не паспеў адамкнуць пакой, як званок. Хадыка звоніць. Каб падпісаў нешта ў падтрымку былога начальніка міліцэйскага Захаранкі[5] на вы-

[1] Гл.: Быкаў В. Доўгая дарога дадому. Мінск: ГА БТ «Кніга», 2002. С. 138–139.
[2] Левановіч Леанід Кірэевіч (сапр. Лявонаў; н. 1938), беларускі пісьменнік. У 1984–2000 гг. ст. рэдактар, заг. рэдакцыі выд-ва «Мастацкая літаратура».
[3] Ляонаў Васіль Севасцьянавіч (1938–2015), беларускі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1994–1997 гг. міністр сельскай гаспадаркі і харчавання.
[4] Балтакіс Альгімантас (н. 1930), літоўскі паэт, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік ЛітССР (1986). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі ЛітССР (1966).
[5] Захаранка Юрый Мікалаевіч (1952–1999?), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Генерал-маёр унутраных спраў (1994). Адзін з арганізатараў Грамадскага аб’яднання

барах. БНФ зняў сваіх у карысць яго на адпаведнай акрузе. Выйшаў на прыпынак. Пад'ехаў Захаранка з Юрасём. Чарнявы, маладжавы, польска-ўкраінскі тып. Там ужо спіс гатовы. Прозвішча й Ніла, і [Брыля[1]]. Там і Васіль. Інтэлігент Юрась занадта мяккі, як воск на свечцы. Цяпер Захаранка дэмакрат. А хто разганяў рабочую дэманстрацыю? Пачаў казаць яму пра Лубянку, пра КГБ, — халодныя, адсутныя вочы. Але, думаю, няхай хоць змушана паслухае. У гонар кастрычніцкага перавароту Ельцын падпісаў указ пра свята як сімвал згоды. [...]. «Рэклама: Створаць памперсы інтым...» [у дзённіку].

*8 лістапада, пятніца*

Баліць галава. Толькі Мірон, відаць, адзін мяне разумее й па-кацінаму суцяшае. Пісаў «дурноты»: «Палкаводцы: Старшыні калгасныя...» [у дзённіку]. Васіль мне неаднойчы падкрэсліваў, што «дурноты» самыя прыдатныя ў нашым варыянце. Свет перакулены. Трэба пісаць «дурноты» й яшчэ некананізаваныя ўспаміны. [...]. У цябе, кажа, памяць яшчэ неблагая. Запісвай як мага болей. У мяне, кажа, памяць кепская. Мала памятаю дэталяў, драбніц. Ну, гэта, вядома, самагіпербала.

«Доўжыцца»[2]. Нешта пачало зноў брацца на радок. Памятаючы наказ Пімена Панчанкі: калі пішацца — кінуць усё й пісаць, таксама раблю. Даўно-даўно набіраўся нахабнай смеласці па-свойму пачуць «Ойча наш...». Божа, багаславі! «Ойча наш, што ў нябёсах...»[3]

*9 лістапада, субота*

З раніцы на сойм БНФ. 20 чалавек высунулі сябе ў дэпутаты. [...]. Васіль выступіў і сказаў, што не варта высоўваць свае персоны ў дэпутаты. Бо калі зноў усе дружна праваляцца, яшчэ глыбейшае будзе расчараванне й нараканне. І новыя казыры ў рукі апанэнтаў. Бальшыні яўна не ў нюх гэта стала. Некаторыя дагаварыліся да прыняцця нацыянал-камуністаў.

Вечарам хадзіў да Самсона. Гутарка на тэалагічныя тэмы. У яго ў гасцях маладзічка з ВПК. Наша ВПК працуе на Кітай. Па дарозе да Самсона пісаў ясачку: «Галодны досвітак снедае рэхам...»[4] Званіў Васілю. Ён быў на выставе мастака Дурчыца.

---

«Беларускі саюз афіцэраў» (з 1992). У 1994–1995 гг. міністр унутраных спраў. Член палітсавета Аб'яднанай грамадзянскай партыі (з 1996).

[1] Брыль Янка (Іван Антонавіч; 1917–2006), беларускі празаік, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік БССР (1981). Ганаровы акадэмік НАНБ (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1982).

[2] Гл.: Доўжыцца (8.11.96) // Босая зорка. С. 19.

[3] Гл.: Ружанец: Ойча наш, што ў нябёсах... (8.11.96) // Ксты. С. 20.

[4] Гл.: Ясачкі: Галодны досвітак снедае рэхам... (9.11.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 330.

*10 лістапада, нядзеля*

Сёння з раніцы мокры снег. Дамінічка ўзрадавалася, што зіма. Васілю званю. Кажа: «Спачатку снег, пасля адліга, пасля макраццё, пасля гурбы, праз якія нам, старым, цяжка пералазіць. Не тое што маладым». Васіль займаўся такім клопатам. Некалі Караткевіч падарыў яму карціну на тэму Альшанскага замка. З часам краі паперы пажоўклі. Васіль абрэзаў. Давялося падразаць шкліну й раму змяншаць. Атрымалася зграбней. Васіль: «Валодзя такі талент, да якога трэба ставіцца па-асабліваму. А то калі таленавіты памірае ў самым росквіце, спачатку ўсе шануюць, славяць яго, а па часе забываюцца. Бо прыходзяць у жыццё маладыя». Кажу пра ВПК. І ў Маскве, і нашыя камуністы называюць нават задужа ласкава: абаронка. Васіль: «Як бландзінка...»

Перарабіў «ясачку» на чатырохрадкоўе: «Сняданне»[1]. А яшчэ пісаў «дурноту» з падказкі Васіля:

*Нацыянал-камуністы*

Нацыянальную зробяць турму.
Бо клопат у іх
Аб сваёй пагалоўшчыне.
Сашлюць у канцлагер
Не на Калыму,
А ў пыл ператруць
Ля Менска ў Валоўшчыне...

Хадзіў па вуліцы, драмаў з Міронам, а галава не праходзіць — баліць і баліць. Ці ад роспачы, ці ад старасці. Але не заменіш. Пісаў яшчэ дзве малітвы на аснове «Праваслаўнага малітоўніка»: «Багародзіца, Вечнадзева Марыя...», «Устаўшы з пасцелі...»[2]. Гэта пад нейкім уплывам, пад нейчым позіркам пісаў я. Тры малітвы. А яшчэ й «ясачка»[3] напісалася. І ўжо кладучыся спаць, падпісаў Тані Бардзіян «Аратая...»[4].

*11 лістапада, панядзелак*

На кінастудыю. Глядзелі адзняты матэрыял на Атолаве і ў мяне дома. Мірон — геніяльны кінаактор. Асабліва калі абыякава да кінакамеры вылізвае яечкі свае. Забегся на працу атрымаць трохі грошай. Як на магільніку ў выдавецтве. Вечарам званю Васілю. Зачытваю мясціны з ліста Рэма [Нікіфаровіча] з Чыкага. Рэм просіць, калі будзе ў 97-м ПЭН нешта

[1] Гл.: Сняданне (10.11.96) // Ксты. С. 291.
[2] Гл.: Ружанец: Багародзіца, Вечнадзева Марыя...; Устаўшы з пасцелі, як з дамавіны... (10.11 96) // Ксты. С. 21; 26.
[3] Гл.: Ясачкі: Усёдазволенасці двайніца... (10.11.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 331.
[4] Гл.: Якая рука... (10.11.96) // Халодная памяць вады. С. 62. (Без прысвячэння.)

праводзіць, запрасіць яго. Васіль: «Калі будзе свабода. А то ў нас Курапаты XXI стагоддзя — Валоўшчына».

*12 лістапада, аўторак*

На працы трэба цюкаваць свае вархопкі. А тут званок ад боса Будзінаса. Даў машыну. Падарыў мне колькі набораў калядных выншаванак. Задумаў вялікую працу й справу — розныя дзённікі-нататнікі звышвысокай якасці з выявамі нашых храмаў і замкаў. Сапраўды, ён кажа, што калі б тыя грошы, якія йдуць на плач па беларускай мове, выдаткаваць на выданне маляўнічай Бібліі, буквара, дык лепейшы быў бы толк. Працуе бос. Як на Захадзе.

*13 лістапада, серада*

Сёння з дзяўчатамі й «казло»-Васілём і Ганадам апошні абед у выдавецтве. Трохі выпілі. Закусі прынеслі, хто што мог. Сумна. Але выгляду не падаваў. [...]. Ганад мяне ў які раз прыемна ашаломіў. Падарыў выяву Пагоні, што вісела ў нас на шыльдзе міністэрства друку. Гэтулькі гадоў працаваў, хадзіў штодня на працу, што выходжу, як у пустэчу. Халадок унутры, бо ўсё наскае, крывіцкае нішчыцца ў помірг вока [...].

*14 лістапада, чацвер*

Сядзеў дома. Хадзіў па вуліцы. Дождж на вуліцы. На душы імжака. За што нас так Усявышні карае? Відаць, ёсць за што. Ці, можа, толькі ў выпрабаваннях мусіць нарадзіцца Дзяржава Беларусь. З акалгашаных ахламонаў мусяць выйсці беларусы.

*15 лістапада, пятніца*

Пазваніла мільянерка сустрэцца й паабедаць. У яе новы вадзіцель. Барыс вучыцца на ювелірнага майстра. Усе п'юць. Прыстаюць, каб і ён выпіў. Давялося сказаць, што падшыты. Перасталі прыставаць, запаважалі. Свой, значыць. Пад'ехалі на праспект. Кавярня «Паляўнічы». Нейкае запусценне. Саўмузыка па мацюгальніку ажно вушы зносіць. Пытаемся, ці можна цішэй. Афіцыянтка адказвае, што нельга. Бо зусім выключыцца. Пераселі за другі столік. І там глушыць. Папрасіла адміністратара, тады адразу зрабілі цішэй. Усё па-савецку. Падалі фірменную катлету «Паляўнічы». Суцэльны кіслы хлеб. Усё нясмачнае. І ўсё дарага. У мільянеркі гэты Барыс трэці муж. Першы спіўся. Калі дачка прыйшла да яго, у запоі плакаў: «Скажы маме, хай мяне назад возьме». Малы, стары й п'яны — усе дзеці прыроды самыя непасрэдныя.

Сёння [Лукашэнкавым] прыказам Ганчара[1] не пушчалі ў ягонае крэсла. Нейкую парт[…] знайшлі ў замену. Калгаснік [шарэцкі] выступіў з заявай. Трэба было раней выступаць. А то, як у вушацкай послаўцы: абдумаўся манах, што наср.на ў кішанях. И наогул чубленне [Шарэцкага] з [Лукашэнкам] нагадвае Гогаля[2], як пасварыліся старшыня калгаса са старшынёю саўгаса. Усё адбывалася ў Доме палітпраса. Тэлежурналісты, […] плёнку адзнятую даручылі вынесці ў дзявочых сумачках студэнтак Інстытута кіравання. Як некалі бальшавікі, працуюць.

Званіў Васілю. Доўга гаварылі, Васіль у заключэнне: «Так і не зразумею, што ж такое народ. Ці гэта нешта сімвалічнае, ці рэальнае. Бо калі паглядзіш, як [Лукашэнку] сустракалі ў Магілёве, нічога не зразумела. Вядома, рэфэрэндум ён выйграе ў любым выпадку. Калі якую бабку ці маладзіцу, да прыкладу, і грэе нацыянальная ідэя, ды ёй ўсё роўна трэба й конь гарод заараць, і дровы. А ўсё гэта ў руках старшыняў ды брыгадзіраў. Яны й падкажуць, як галасаваць, яны й прагаласуюць за гэных гаратніц».

Палякову ў дзевяць раніцы званіў Цвяткоў, прапаноўваў рабіць двухчастовік пра Алеся Кучара. Пра Сачанку […] дае адну частку.

*16 лістапада, субота*

Адкачаўся цэлы дзень з галавой. Хадзіў на сяло да Самсона. Беларускае тэле глядзець шкодна […].

*17 лістапада, нядзеля*

Выйшаў трохі на вуліцу. Пазваніў Васілю. У яго госці. Як ён сказаў, італьянцы насыпаліся. Аж цэлых шэсць. У нас з нашымі кватэрамі й цяперашнімі магчымасцямі госці як бяда якая. З хворай галавой чытаў карэктуру дзіцячай кніжкі па «Школьнай серыі» й адзначаў для Галачкі [Роліч] галачкамі вершы пад другі том, калі ён наогул будзе.

Была Ілона. Яна ўчора ездзіла ў Полацак на закрыццё Драздовічавага плэнэра. Ёй трэба купіць на ногі. Прыйшлі правяральшчыкі па электра. Трэба купляць талоны на паўмільёна. Усюдых трэба плаціць, а грошы няма. І тыя зробленыя слёзы не плоцяць.

*Льга*

Льга
Ад дарослае крыўды ўцячы
Толькі ў маленства да мамы.

---

[1] Ганчар Віктар Іосіфавіч (1957–1999?), беларускі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1996 г. старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі (5.09–13.10.96); адхілены ад пасады.
[2] Гогаль Мікалай Васільевіч (1809–1852), рускі пісьменнік.

Там адвячорак на цёплым плячы
Сон крумкача падымае.

Там, каб тугу разагнаць,
Як смугу,
Выйдзе насустрач сустрэча.
Там перазяблы ручай на бягу
Роспач наскрозь пращчабеча.
Там нарадзіцца нанова магу!

Неяк мне званіла Галіна Варатынская з Вушачы. Свае клопаты й мітрэнгі. Муж пазычыў даляры былому камсамольскаму павадыру раёна, а той хвастом накрыўся. Медсястра піша вершы й пратэндуе на мейсца першае паэткі раёна. А Галіне гэта казыча. І зусім развесяліла. У ёінтэлігентнай кампаніі сказалі: «Медсястра піша зразумела, а Барадулін незразумела». Адкуль гэта ў Вушачы інтэлігентныя асобы?

*18 лістапада, панядзелак*

Аднёс у выдавецтва «Полымя» карэктуру «Ішоў коця па канапе». Зайшоўся да Ганада. Потым з нашымі дзяўчатамі й Ганадам перакусілі. Я прынёс хлеб з салам ды гарэліцы. За столькі гадоў як адна сям’я. Нейкі трывожны сум. Не з таго, што пайшоў насустрач з ёй, чыё імя з гадамі вымавіць баішся. Ліна[1] мне раіла меней думаць пра зямное, пра развітанне з жыццём, а болей — пра жыццё вечнае. Дый унучку лёс ужо вядзе, ён вызначаны. І не трэба ўблытвацца. Толькі нашкодзіць можна.

*19 лістапада, аўторак*

Па гаспадарчых справах бегаў. Сустрэў Генадзя. З пасяджэння Вярхсавета йшоў. Цягне яго да сваіх. І твар [...], і пастава, і звышшыкоўныя гарнітуры, і пастава начальнічая, і голас, а пасады няма. А [Шарэцкі], як сноп аўса, а з пасадаю. Бог не роўна дзеліць. Генадзь запытаўся, ці раблю яшчэ. Адказаў, што мяне пайшлі. [...].

*20 лістапада, серада*

Заходзіўся на працу. [...]. Вечарам ФС. Сасноў паказваў заяву аб выхадзе з урада, з пасады міністра працы. На беларускай мове. Усё-ткі бэнэфаўская загартоўка трывалая.

[1] Каўрус Ліна Іванаўна (н. 1950), заг. рэдакцыі прозы выд-ва «Мастацкая літаратура» (1994–1998).

*21 лістапада, чацвер*

З Валяй ездзілі на Камароўку. Куплялі крупы, цукар, муку. Такія-сякія запасы. Валя купіла нешта накшталт мяса. Усё шалёна дорага ў параўнанні з даходамі. Званіў Сёмуха. Расказваў пра анекдатычны сход давідгарадоцкага шэкспіра. Прапанаваў сам сябе на званне заслужанага працаўніка мастацтва. Адзін Васіль задаў яму пытанне наконт сораму, наконт дурнога становішча, у якім апынуліся падуладныя. [...]. А сёння Рыгор Рэлес[1] на вуліцы мне нагадаў: *лёкай, падай мне лапці!*

*22 лістапада, пятніца*

Хадзіў у выдавецтва. Занёс Галі [Роліч] апошнюю расклейку. У выдавецве «Полымя», дзе мусіць выйсці «Ішоў коця па канапе», распісаўся для афармлення. Забраў білеты на Варшаву й праз колькі гадзінаў здаў. Кепска мне. Адчуваю, што рассыпаюся.

*23 лістапада, субота*

Пайшоў купляць Мірону Whiskas, Дамінічцы сок. Прыйшоў, а тут нейкія капейкі прыйшлі. Паехалі ўтрох (чацверты, Мірон, застаўся дома) на Камароўку купляць сала ў украінцаў. Запасы хоць малыя трэба, бо [Лукашэнка] пакажа, на чым свіння хвост носіць. А пасля да ночы пісаў вершы, дакладней, урыфмоўваў малітоўнік.

*24 лістапада, нядзеля*

Утрох хадзілі ўкінуць бюлетэні ў вурну. Па-вушацку: вурну ў вурну. Закрэсліў два бюлетэні і ўкінуў. Усё роўна будзе, як Сара казала. Пісаў зноў малітоўнік[2]. У галаву прыйшло, як глыбока русіфікацыя засела. Нават слова школьнае *ўрок* пярэчыць нашаму сэнсу. Урок — тое, што парасійску *сглаз.* Па-вушацку *ўроцы.* Маскалі, як мазалі, садзяцца хутка, сыходзяць доўга.

Прыходзіла Ілона. Халодная, галодная. Беднае дзіцятка маё. Баліць душа за яе. Глыбока.

*25 лістапада, панядзелак*

Ледзь жывы пацягнуўся ў Дом прэсы. Як у аэрапорце, вясёлка металічная. Міліцыянт. Толькі не абмацваюць. [...]. Атрымаў нейкія слёзы. Купіў цыбулі, праязныя. І амаль усё. Калі такімі тэмпамі пойдзе, жабраком буду ў поўным сэнсе слова. Толькі трубіць пра гэта, як Шамякін, не буду. З галечай, як і з мілосцю, трэба быць сам-насам, на чатыры вокі.

---

[1] Рэлес Рыгор Львовіч (1913–2004), яўрэйскі і рускі празаік і паэт.

[2] Гл.: Ружанец: Веру ў адзінага Бога Айца... (23–24.11.96); Усёчуйны, пачуй... (24.11.96) // Ксты. С. 22; 25.

*26 лістапада, аўторак*

Прыходзіла Ілона. Знайшоў ёй нейкі ейны стары, але не дабіты, абутак. Хай ёй у ножкі цёпленька будзе. Крывіначка мая, балючая мая. Як гэта няшчадна задумана Богам, каб так балелі крэўнікі, асабліва на развітанні. А можа, не няшчадна, а наадварот — літасціва. Гэта й трымае чалавека да апошняга ўздыху. Яшчэ ўсё па інэрцыі на працу спяшаюся раніцай у думках. Яшчэ ўсё атрасаюся ад клопатаў. А іх, тых былых, менее.

*Прыйшоў...*

Як першы госць кароткага застолля,
На спадзе лістапада снег прыйшоў.
Дасвеццю не хапіла гладышоў,
Каб паразліць малодзіва густое.

Дасюль маленства пахне халадамі.
Малодзіва маіх далёкіх зім
Пайшло за возам дзён
І знікла з ім,
Як белы кот,
Што з чорнымі слядамі.

Ваколлю нізка пад азяблай столлю.
Далёка да цыбатых ледзяшоў.
Маўклівы госць знянацкага застолля
Па лістападавых слядах прыйшоў...

*27 лістапада, серада*

Аднёс у тэатральную газету верш пра Марыю Захарэвіч[1]. Потым у сабес на Маякоўскага па пуцёўку ў [санаторый] «Сосны». Якраз трапіў у абедзенны час. Цэлую гадзіну хадзіў. Быў на Чэрвенскім рынку. Перапёрлі «чаўнакі» з усяго свету барахло. І ўсё ёсць, і нічога няма.

*28 лістапада, чацвер*

У выдавецтва «Полымя» дадаў колькі пацешак малдаўскіх, грузінскіх, эстонскіх. Тэхрэдам трэба было. Усе разам, як некалі, паабедалі ў нашай рэдакцыі.

[1] Захарэвіч Марыя Георгіеўна (н. 1936), беларуская актрыса; выкладчык. З 1957 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Прафесар (1999). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984). Магчыма, гл.: Чытае вершы Захарэвіч (5.12.80, Рыга) //Амплітуда смеласці. С. 74.

Прыходзіў Арлен Кашкурэвіч[1]. Падарыў мне афорт. Але цікава, калі даў яму сваю кітайскую ручку, каб падпісаць афорт як бы прысвячэннем, пісаў Арлен так, што толькі пырскі ляцелі. І ручкай піша, як алоўкам. І пырскі лятуць, як з-пад цыркуляркі.

Вечарам па тэле рэтра-шоу. [Лукашэнка] падпісваў сваю канстытуцыю. Камуна[…] Малафеева[2] выцягнуў з тога свету. Філарэт стаяў […] збоку.

*29 лістапада, пятніца*

Купіў 22-гі нумар так званай элітарнай «Крыніцы». Крыху адвялі мейсца й мне. І абавязкова, як і пра Васіля, брыдзенька й злосненька напісаў літаратурны […] Шупенька. […]. Гэта савецкі Саюз пісьменнікаў аганізуе. Якое гэта няшчасце — мець адносіны да савецкай літаратуры, да савецкага пісьменніцкага саюза. […]. Добра было быць шляхціцам, мець такі-сякі фальварак і пісаць сабе ў асалоду. А тут усіх свіней пасталі ля карыта — і аб'ядаюць сабе лычы й капыты. У «ЛіМе» з дзённікаў Танка, дзе запісана, з кім у партгрупе ездзіў куды, каму званіў, як хварэў, як перажываў за здароў'е сакратароў ЦК, робяць вяршыню думкі. […]. «Не выпрастаць!»[3]

*30 лістапада, субота*

Раньком марозік і снег. З паўдня пацякло. Галава разломваецца. З Дамінічкай і сваёй кватухай хадзілі на Камароўку. Таго-сяго купілі. Маладзіца прапануе качан капусты. Кажу, што пакуль не трэба. Яна: «Ну, тады нарайце мне *пакупца'*». Ідзем дамоў. Міліцыянты-[…] ганяюць бабак. Адна: «То ад немцаў уцякалі, а цяпер ад сваіх сабак». Увесь гераізм […] паліцыі. Толькі на бедных бабак.

*1 снежня, нядзеля*

Апошні месяц года. Акрайчык ад бохана. Такія залевы толькі ўвесну бываюць. Сядзеў дома, калі гэта так можна сказаць. Галаву хоць адвінці. Дамініка хадзіла з Ілонай на «Кошчын дом» у ТЮГ. Мой пераклад. Арыі таксама тэкстамі мае. Сказала Ілоне: «Давай гуляць. У мяне будзе ўлада, а ў цябе правілы». На што Ілона заўважыла: «Ты як Лукашэнка».

---

[1] Кашкурэвіч Арлен Міхайлавіч (Арсен; 1929–2013), беларускі графік. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны мастак Беларусі (1991).

[2] Малафееў Анатоль Аляксандравіч (н. 1933), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1990–1993 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

[3] Гл.: Не выпрастаць! (28–29.11.96) // Ксты. С. 310.

З Масквы прыехаў Радзік. Расказаў яму пра публікацыі ў «Крыніцы». Радзік: «Они не могут Вас Вам простить...» Пісаў яшчэ адну малітву. Пачытаў Сёмуху, параіў болей вальней — у бок паэзіі.

*2 снежня, панядзелак*

З Ілонай у склеп. Купіў ёй зімовыя чаравікі на кажушыне натуральнай. Як пабегла, дык да ночы не было. Не будзе толку з яе. Сэрца маё баліць за адзіную крывінку. Таленавітая, але.

«Каб не знік...»[1] Успомніў верш і перапісаў у дзённік. Чытаў Карласу, яму падабалася. Першы, хто ўхваліў, быў тонкі Радзік. Будзе мне дужа не хапаць яго, як паедзе... «Госпадзе, не забудзься ўранні...»[2] Хадзіў на тэле. Запісаў колькі словаў пра Яўгена Шабана[3], яму ў канцы снежня 60. Вясёлы быў, бо сумна жылося. Пісаў, надрываўся. [...].

*3 снежня, аўторак*

Хадзіў на кінастудыю. Самсон робіць «Эвангелле ад Мамы». Пятроўскі проста геніяльна робіць доўгія планы. Дапісаваў яшчэ адну малітву. Нізка будзе называцца, відаць, «Ружанец». «Святы анёле...»[4]

Нарэшце Ганаду ўдалося арганізаваць машыну й прывезці два сталы і ўсе мае мяхі з кнігамі, што назбіраліся ў выдавецтве. Дамінічка так узрадавалася сталу, што аж настаўніцы пахвалілася, калі Валя яе забірала. Яна, апошняя зорачка радасці мае зямной, баліць мне штохвіліны. З успамінаў пра Якуба Коласа на вечары Данілы мне запаў адзін, як дзядзька Якуб дзяліўся радасцю з маладзейшым — купіў шапачку Данілу.

*4 снежня, серада*

Занёс у райсабес пуцёўку ў «Сосны». Вазьму з 10 студзеня аднапакаёвік. Не жыць жа мне з [...] вертыкальшчыкамі. І не роблю на службе, а часу ўсё няма. Не магу яшчэ арганізавацца. Наўкол мярзотна, бо цёмна [...]. Вечна пра нас ведаюць толькі з кепскага боку.

*5 снежня, чацвер*

З Сёмухам сышліся ў нашай былой рэдакцыі. Папалуднавалі, што хто прынёс, і Васіль пакінуў выдавецтва. Сказаў: «Лепей сабаку хвост адсякаць адразу ўвесь, чымся па частках». [...] Марчук разбурыў усю перакладніцкую школу, якую Сёмуха ствараў 30 гадоў. Перакрэслены ўсе беларускамоўныя пераклады, зачынены альманахі. Затое «Всемирная

---

[1] Гл.: Каб не знік (26.11.96; у дзённіку з прысвячэннем К. Шэрману) // Аніma. С. 296.

[2] Гл.: Ружанец: Госпадзе, не забудзься ўранні... (2.12.96) // Ксты. С. 24.

[3] Шабан Яўген Пятровіч (1936–1982), беларускі паэт, драматург, сцэнарыст, перакладчык.

[4] Гл.: Ружанец: Святы анёле... (3.12.96) // Ксты. С. 27.

литература» пад кіраўніцтвам Тасі Бондар і Марчука даюць віншаванне першага нумара не Быкава, ні нават Брыля, а самога [Лукашэнкі]. Забыліся, спахапіліся, вяртаюць першы нумар, каб даць [Лукашэнку].

*6 снежня, пятніца*

Да Васіля на абед. Ірына Міхайлаўна ўсяго нагатавала, як у нас казалі, як на Маланніна вяселле. Абое пастарэлі. А значыць, пастарэў і я дужа. Бо толькі збоку, што называецца, гэта відаць. Занёс Васілю зімовікі боты, яшчэ югаслаўскія, яму яны якраз. Хай нагам ягоным будзе цёпла. Ірына Міхайлаўна пачала сварыцца, ці не сорамна Васілю, і прасіла мяне, каб адвёў Васіля куды купіць якую прыстойную апранаху. Васілю давялося ў адказ пярэчыць, што ён папросіць Валю, каб яна Ірыне дапамагла з'ездзіць ды купіць сабе сукню. Карацей, такая мілая перакідка ўсмешкамі.

Званілі Васілю Найдэн і Матукоўскі наконт прэм'еры «На чорных лядах» у кінатэатры «Масква». […] Панамароў[1], сапсаваўшы ідэю, хацеў зрабіць прэм'еру. Мне Цвяткоў яшчэ а восьмай раніцы званіў, што, бачце, нехта копію ўкраў. На гэта Панамароў мне сказаў, што ляжыць копія «На чорных лядах» у самога Цвяткова ў сэйфе. Як і заўсягды размова ў нас з Васілём зайшла пра палітыку. Васіль сумна казаў, што […] беларусы будуць самай пагарджанай нацыяй, як некалі албанцы. Вайна пры ўсіх яе адмоўных баках усё-ткі падняла аўтарытэт беларусаў. Бо любяць іншыя народы народ багаты, смелы, самастойны.

Нехта званіў у дзверы. Не адчынілі. Бо Васілю часта падсылаюць. Калі хто свой, хай спачатку пазвоніць па тэлефоне. Праводзіў мяне на двор. Дамініцы Ірына Міхайлаўна перадала навагодні набор. Дамініка адразу назвала мядзведзіка плюшавага Ха'пка, Хапунька. А пра Дзеда Мароза сказала: «Дзеду Марозу будзе прыемна бачыць гэтулькі сваіх шакаладных партрэтаў». Калі дзякавала па тэлефоне (Васіль напомніў мне, каб я запісваў за Дамінікай), сказала, што ўсе цацкі свае адкінула й гуляе толькі з Хапкам. Далікатная душа ў Дамінічкі. Адчувае няхват бацькоўскае ўвагі.

Васіль мне даваў пачытаць ліст Навумчыка. Сяргей піша, што палітэмігрантам ніякіх падмогаў не даюць. Жывуць у бацькоў Данчыка[2]. Бо кватэра ў сярэднім раёне Новага Ёрка 700–800 даляраў. Зянон ходзіць у музеі. Галя Сяргеева [жонка] ў Празе, Галя Зянонава з дачкою ў Варшаве без працы, без сродкаў. Ідзе зіма, а яны ва ўсім летнім. Сяргею яшчэ ні разу не сасніўся наваёрскі сон, усё — то менскія, то віцебскія сняцца…

---

[1] Панамароў Валерый Дзмітрыевіч (н.1943), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст.

[2] Андрусішын Багдан Паўлавіч (н. 1958), беларускі спявак (Данчык), журналіст, грамадскі дзеяч беларускай дыяспары (ЗША).

Піша, што крумкач адраджэння Арлоў прывёз маё «Здубавецьця». Сяргей чытае для настрою, калі на душы пагана, грэе душу вушацкімі жартамі. Па дарозе дамоў ад Васіля хадзіў па аптэках, шукаў лекаў Дамінічцы. Захварэла. І напісаў такую «ясачку»:

* * *

Лягутка йдуць, хоць кайны клунак важкі,
Як тыя чайкі, што ўчарнелі ў горы,
Па чорнахмар'і вулачак манашкі.

*7 снежня, субота*

Сядзеў дома. Змагаўся з галаўным болем. Беспаспяхова. Перамога за ім. Як заўсягды.

*Эмігрант*

*С. Н.*

Небу не хапае сінізны,
Восені далёка да вясны.
Рэха запытай —
Не дасць адказу.
Менскія ды віцебскія сны.
Сон ньюёркскі не сасніў ні разу…

Не маўчаць на дне азёр званы.
Небасхіл трымаюць курганы.
І на дахах рыцарскія латы.
Думкі і аблокі — цыганы.
Сны не пакідаюць роднай хаты…[1]

Гэта Сяргею Навумчыку. Увесь час яму трохі не давяраў я. За бацьку. Аж, выходзіць, памыліўся. І дзякуй Богу!

*8 снежня, нядзеля*

З 12-ці дня да 10-ці вечара ў Самсона адбіралі вершы на тэксты ў «Эвангелле ад Мамы». Пятроўскі наздымаў шмат і таленавіта вушацкіх краявідаў. Асабліва на вадзе «Свабоду» злавіць не ўдалося. Як у савецкія часіны — глушаць.

*9 снежня, панядзелак*

Дзень вялікага Максіма [Багдановіча]. Званю Васілю: «Як здароў'е?» Адказвае: «Яшчэ нэкралёг пісаць рана». Кажу: «Хай па ворагах нашых

[1] Другая страфа дапісана 17 лістапада 1997 г.

нэкралёгі пішуць». Васіль: «Ворагі нашыя неўміручыя». На кінастудыю. Глядзелі нямы змантаваны матэрыял. Самсон кажа: «Трэба скарачаць, каб фільм даўжэйшы быў». Закон кіно.

*10 снежня, аўторак*

Амаль увесь дзень на кінастудыі. Запісвалі тэкст. Выходжу, а нейкая старая на праходзе просіць мяне пачытаць, як кот праводзіў рэфэрэндум. Пачытаў. Аж весялей стала, што не ўсе старыя за [Лукашэнку]. На сон салодкі Дамінічка паклікала паслухаць, якую напісала яна беларускую песеньку: «Добрай ночы, добрай ночы! Заплюшчай, маленькі, вочы». Анёльскім голасам з добрым вымаўленнем.

*11 снежня, серада*

На кінастудыю. Потым на выставу швэцкага мастака-мадэрніста. Цікава, што сапраўды наватарскае мастацва заўсёды маладое. Чаго не скажаш пра мадэрн. Наватар — гучыць і новы твор, і наватворца. І на самой існасці гэта так. Позна ўначы заявіліся Дранько з Някляевым з пляшкай, кветкай, з цукеркамі. Візіт незразумелы. Ці пасля арганізаваных памыяў, якія вылілі на мяне […], ці так проста. Някляеў усё расказваў, як ён ўпершыню сустрэўся з [Лукашэнкам]. Запрасіў на тэле пра Чарнобыль. […]. Як ішоў з [Лукашэнкам] у засуху 92 года, як [Лукашэнка] каля ЦК узяў падняў з зямлі пясок і […] цвёрда заявіў: «Калі я прыду ў кіраўнікі, тут будзе райскі куточак». На што Някляеў быццам бы сказаў: «А хуюшкі». Што [Лукашэнка] прапанаваў яму быць міністрам культуры, потым яшчэ нешта прапаноўваў, і таму адмаўляцца ад «ЛіМа» па сумяшчальніцтву з «Крыніцай» было проста нельга. Ды яшчэ яму адміністранцы далі прыклад: «Шпігель» выпускае сотні газетаў і дзясяткі часопісаў». Праўда, у пана Шпігеля грошы свае. […]. Калі Лявон чытаў мае нейкія «дурноты», Уладзіміру гэта было не ў нос. Ён, бачце, над палітыкай […]. Бог яму суддзя. Прывабнасць мае, на ёй і грае. На здароўе! Пасля пачалі распавядаць пра «Крыніцу». […].

*12 снежня, чацвер*

Цэлы дзень амаль з дарагой памашніцай маёй Наташай [Давыдзенка] адбіралі фота ў магчымы мой другі том [Збору твораў]. Трохі назбіралі. Яна мае добры густ і вялікі вопыт у такой справе. Усё выдавецтва пастаўлена на ногі й на рогі — давідгарадоцкі шэкспір рыхтуе сваё паўвека.

*13 снежня, пятніца*

Да кіношнікаў. Фільм даканчваюць. Цікава на сябе глядзець як бы збоку. Як на чужога й амаль незнаёмага. Няма радасці, ёсць толькі сум

развітання. Толькі ў мітусні й забываешся, што дапіваеш апошнія кроплі акавітай бытавання зямнога. Успышкамі цешыць дачка. [...]. Разбурылі бальшавікі сямейны ўклад, уклад, які складваўся вякамі, трымаў нацыю, маладзіў душу. Звычайна ў горы ласкавелі душы крывіцкія, гаманілі ў радасці. Цяпер глухнуць у разбарсанай краіне нашай, [...] спанталычанай. Адзіная радасць, якая сонейкам узыходзіць, гэта ўнучка Дамінічка. У гэтым сямейным вэрхале рана сталее, рана коле сваё сэрца аб дзіды побыту. А як страшна сабе самому прызнавацца, што ўсё, чаму аддаў ты жыццё сваё, гады маладыя й сталыя, пайшло прахам, дымам, слабым павевам.

*14 снежня, субота*

Першага снежня па крывіцкім календары. І сапраўды й снежна трохі, і маразяна, і вятрыста. Разбіраю завалы ў пакоі сваім. На добры лад ды спакой можна было б заняцца ўспамінамі. Можа б, каму калі-небудзь і прыдаліся. Ды не па савецкіх падшыўках газетных мусяць меркаваць пра наш час нашыя спадкаемцы. Хоць адну «дурноціну» здурноціў: «Дзякуй!: Скалгашваць, гулажыць...» [у дзённіку].

*15 снежня, нядзеля*

Пазваніла Аксак[1], што па «Свабодзе» дадуць нарэшце «дурноты». Вечарам глушылі лепей, чым пры Сталіне. Апаўночы далі пару «дурноцін» у перамешку анекдотамі туркменскага свабадзіста й эстонскага. Новы прызыў адсюль пільны, толькі сябе даюць шчодра. Не думаю, каб абышлося без КГБ пры адсыпанні адсюль залатога запасу кадраў на помач старой эміграцыі.

*16 снежня, панядзелак*

Званіў Васілю. Таксама незадаволены перадачай. Няма, кажа, дзе друкавацца. Усё перахоплена. Хадзіў па пуцёўку ў «Сосны». Абсалютна не ведаю маршрут аўтобусаў. Заехаў аж у самае поле голае. Ледзь назад прыбіўся.

*17 снежня, аўторак*

Хадзіў на Чэрвеньскі [рынак]. Купіў Дамінічцы футрачка. Пасля ўжо не змагу. Кажуць, што з новага года будуць картачкі. Картачная ўлада, што дзівіцца. Хацэў было патаргавацца з маладзіцай. Кажа, што не можа

---

[1] Аксак Валянціна Іванаўна (Арлова; н. 1953), беларуская паэтэса, журналістка. З 1995 г. супрацоўніца Радыё «Свабода». Жонка У. Арлова.

танней, бо гэтак назваў цану гаспадар. А яна ў былым нейкі тэхнічны канторскі работнік. Саўкі наймаюць. «Ад сябе ўцячэш малады…»[1]

*18 снежня, серада*

На былую працу. Прыходзіў таксама й Сёмуха. Распавядаў цікава пра кампутар, як дапамагае яму ў працы. Утрая хутчэй робіць пераклад. Каб гэтае яму ды ў маладыя гады, дык горы б перавярнуў. З ягонага расповеду зразумеў, што кампутар нечым нагадвае ўладу Усявышняга (хай гэта богаабразай не гучыць), такі парадак і такая памяць. Аж жудасна мне, філолагу, робіцца. Вечарам назіральная рада фонду. Засядалі не доўга, недзе 11 студзеня сам пан Сорас будзе нас прымаць у Будапешце.

*19 снежня, чацвер*

На кінастудыю. Палякоў усё-ткі зрабіў геніяльны фільм, гэта не дакументальны, гэта мастацкі. Хай сабе пра мяне і з удзелам Васіля, Дамінічкі, Мірона — галоўнага героя. Потым крыху выпілі Самсон і Уладзімір [Халіп] з дырэктарам студыі. Дужа шчыры чалавек, аж шкада, бо студыя — людажэрня.

*20 снежня, пятніца*

Тоўкся ў хаце й каля хаты. Зіма й гарадскі краявід робіць вясковым, перашапачатковым. Дрэвы робяцца чорнымі ценямі. У мове нашае слова *летуценні* — цені лятуць. «Год ці…»[2] Самсон мне правільна, відаць, параіў зрабіць нізку, як Бог свет тварыў. Па-бальшавіцку кажучы, працоўны тыдзень пана Бога. Можа, назваць «Тварба».

*21 снежня, субота*

Гэта ўжо не арыгінальна, але я ізноў хворы. Каб не звар’яцець ад хворасці, перадрукоўваў нешта. Званіў Васілю. Ён таксама не дужа дуж. Робіць тэрмінова кнігу публіцыстыкі. Карлас прапанаваў па ФС ці, можа, сам Алесь Анціпенка. Алесь — фігура дужа цёмная й глыбокая. Пад выглядам філасофствавання й культуралогіі робіць нешта сваё й не сваё. Сёння, дарэчы, самая даўгая ноч. Нездарма нарадзіўся звер чалавечы — Сталін.

*22 снежня, нядзеля*

Перадрукоўваў вершы ў часопісы. Як розныя лёнігалубковы ды скаржанелыя крытыкухі ні пнуцца, пісаць буду, пакуль дае мне волю Бог.

---

[1] Гл.: Ясачкі: Ад сябе ўцячэш малады (17.12.96) // Збор твораў. Т. 3. С. 331.
[2] Гл.: Год ці… (20.12.96) // Босая зорка. С. 10.

Бачце, шмат пішу. Танк пісаў яшчэ болей, […] і яму льга, бо партыяй […] адзначаны. […].

*23 снежня, панядзелак*

Дабілі […] Андросік з ягонымі пасланцамі, каб мне сустрэцца з Шайко. І застуды, і галава. Яшчэ магнітныя буры, поўната […] . Вечарам усё ж мусіў быць на ФС. Усё, як перад развалам.

*24 снежня, аўторак*

Хадзіў на былую працу. Рука ўсё яшчэ не хоча пісаць *былую*. З дзяўчатамі трошкі адзначылі Каляды эўрапейскія, яны ж і мае фактычна. Пайшлі лісты першага тома. Лісты й цыбатага лагойшчыка таксама. Вечарам званіў Васілю. Нешта яму з тэорыі артылерыі сказаў, толькі ўсміхнуўся Васіль: «У кожны мірны час генералы рыхтуюцца да мінулай вайны». Пра Букчына, увогуле, высока цэнячы ў ім розум і талент, Васіль: «Заўсёды ўхмылачка да беларускасці».

*25 снежня, серада*

Калядны стол вечарам рыхтавала сама Дамінічка — як магла, замінала Валі. Са мной гаварыла выключна па-беларуску. Расце сапраўдная беларуска на змену скалгашаным, замбіраваным. Удзень хадзіў на Камароўку купіць цыбулі й часныка. Зіма, як забытых акварэляў, — мароз, снег, шэрас, вецер. Аж душа маладзее, як быццам у маладыя гады вяртаешся. «Спрабуе: Няўпэўнены снег» [у дзённіку]. Гэты абразок мяне дужа ўразіў, а напісаў — самога не дужа ўражвае. Нечага не хапае. «Так казалі…» [у дзённіку].

*26 снежня, чацвер*

З раніцы ў Лечкамісію. Можа, пераменяць дату пуцёўкі ў «Сосны». На былую працу. Сёмуха прынёс ўсяго паранага, смажанага й так кускамі. Адзначылі надыход Новага года, залагодзілі маладзёна. З Сёмухам гаварылі пра самы першы рэфэрэндум — калі натоўп просіць Пілата вызваліць Вараву і ўкрыжаваць Ісуса. І колькі стагоддзяў паўтараюцца гэтыя рэфэрэндумы. Каўрусіха распавяла, як адна з нейкага СКБ была ў падліковай камісіі. Адчуўшы ейны настрой, адпіхвалі, лаялі самымі расійскімі мацюкамі. […]. А пасля рэфэрэндума скарацілі з працы.

*27 снежня, пятніца*

З раніцы прыехаў Роўба. Перадаў ім даляры цесляру за падлогу, тагосяго на Каляды Марыі Рыгораўне й Пятру. Схадзіў у Лечкамісію й з’ездзіў у райсабес — атрымаў пуцёўку з 22 студзеня. Мароз, які даўно ўжо быў.

Але неяк звычайней, чым хлюпаніна. Радзік прыехаў з Прагі. Дужа яму спадабалася. Амэрыканізацыя не кранула. Дзіва што, недарэмна Прага завецца маткаю местаў.

*28 снежня, субота*

На кінастудыю. Глядзелі копію фільма. Цікава, як іншым будзе глядзецца. Потым невялікае застолле. Прыйшоў дадому — кепская навіна. Званіў Іван Роўба. З Пятром нашым блага. Ляжыць у больніцы. Гарэлка ўсё ж перамагла.

*29 снежня, нядзеля*

Хоць марозам, але з'ездзіў на Камароўку. Як пры канчыне свету, гэтулькі людзей. Усіх гоніць холад і голад. Два ўсемагуты. Яны пераймаюць чалавека, яны праз усю дарогу следам за чалавекам ідуць. Бывае, што чалавек на нейкі момант на іх забудзецца. Але толькі на момант. А напрыканцы яны сустрэнуць, як і маладыя. Іх гады' не бяруць. Іх не ашукаеш, не апярэдзіш.

Па тэле перадача пра Шабана. Рана пайшоў сябра мой залаты. Беларуская душа была ў савецкім акторы. Гэта якраз і не трэба было тады. Дый цяпер.

*30 снежня, панядзелак*

У «Вожык», да Карласа. Маразы нарэшце сапраўдныя. А то ўсе апошнія зімы з нейкімі фальклорнымі маразамі. Маразы не даюць псавацца настрою, яны крамяняць настрой, нават лубяняць. Не люблю толькі перадсвяточнай мітусні.

«Што заблукала…»[1] А яшчэ ў галаву прыйшла «дурнота»: «Раней і цяпер: А прэміі дзяржаўныя…» [у дзённіку]. Для лукшакарызнаброніка-спрынчаноў[2] усе рыфмы, якія абгладала савецкая паэзія, можна ўзяць на […] Замяталіна.

*31 снежня, аўторак*

Да Радзіка. Ягоны маленькі Лапушын ужо ў скокі ходзіць. І ў мамы на руках танчыць сем сорак. Нарадзіўся тут. Жыць будзе адсюль далёка. Пакідаюць нас яўрэі, а з імі жылі гэтулькі часу. І ім, і нам было й добра, і кепска, пакуль не ўсабачыліся бальшавікі. Гэныя аматары й спецы ўсё ставіць стоць, дагары нагамі.

---

[1] Гл.: Што заблукала… (30.12.96) // Ксты. С. 234.

[2] Карызна Уладзімір Іванавіч (н. 1938), беларускі паэт, перакладчык. У 1981–2001 гг. ст. рэдактар, заг. рэдакцыі выд-ва «Юнацтва». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1996).

Хадзіў купіць ляльку Дамінічцы. Скрозь збой народу. Ілона ўхапіла нейкія шэлегі й знікла з [Косцям] на лецішча. Сустракалі Новы год маласямейна — Дамініка, Валя, цешча й я. Настрой яшчэ напрыканцы сапсаваўся, бо [...] ні ў старым, ні ў новым не пачуем толькі беларускую мову з тэле й радыё. Скрозь то занадта рюсская, то калгасная трасянка. Беларусу ў Беларусі, атрымліваецца, няма мейсца. [...]. Учора дзяцініўся: «Добры прыклад»[1].

[1] Гл.: Добры прыклад (31.12.96) // Як воўк калядаваў. Мінск: «Юнацтва», 2000. С. 3.

## 1997

*1 студзеня, серада*

Новы год пачаў з вершаў Ван Вэя[1]. Перабеларушваў па-свойму. Званіў першаму Васілю. Колькі разоў. Васіль распавядаў, як ён яшчэ Ігрунову[2] (абавязкова расійскаму другому сакратару ЦК) казаў пра неабходнасць рэабілітацыі нашых дзеячаў культуры. Той казаў праз нейкі час, што няма ніякіх дакументаў. Тады Васіль да Таразевіча. Той сказаў, каб спіс быў. Васіль сам абзвоньваў і акадэмію, і творчыя саюзы, нікому галава не балела. Васіль набраў 58. Трое адпала, бо фармальна неграмадзяне Беларусі. Таразевіч правёў указам, і 55 дзеячаў нашай культуры былі рэабілітаваныя. Васіль тады быў дэпутатам Вярхоўнага савета БССР. З паршывай авечкі хоць воўны кузлак — гэтак і з Таразевіча. Бядак Зянон недзе па чужых кутках. Яму, самаму беларускаму беларусу, няма мейсца ў Беларусі. [...].

*2 студзеня, чацвер*

Адхварэў цэлы дзень. Перабеларушваў Ван Вэя. Перакладаў трохі п’есу для ТЮГа.

*3 студзеня, пятніца*

Раніцай званок рэжысёра Арлова[3]. Фільм пра Генадзя. Трэба ў майстэрні Марачкіна[4] сабрацца 13-га. Каго Генадзь збярэ? Розных нілаў ды камуністых. Можна ўляпацца. Трэба выведаць, хто будзе. Аднёс у рамонт кажух. А якраз на адлегу пачало йсці. А я ўсё не магу ўзяць моцы. У летнім «Полымі» кавалкі дзённікавых запісаў Аркадзя Смоліча[5] 12–13-га года. Якая апантаная беларускасць, якая чысціня памкненняў. Гэта ж не мары цыбатага лагойца пра ежу ды выгоды. Вынішчалі бальшавіцкія душагубы лепшых беларусаў. *Пся*холагі былі, чалавека*еды*. На жаль, сітуацыя мала чым змянілася. Стаўленне да беларускас-

---

[1] Ван Вэй (Моцзе; 699 ці 701–759 ці 761), кітайскі паэт, мастак, каліграф і музыка.

[2] Ігруноў Мікалай Сцяфанавіч (1932–2016), расійскі журналіст; дзяржаўны і партыйны дзеяч. 2-гі сакратар ЦК КПБ (1987–1990).

[3] Арлоў Уладзімір Аляксандравіч (н. 1938), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст, тэлевядучы. У 1963–2002 гг. у творчым аб’яднані «Тэлефільм».

[4] Марачкін Аляксей Анатольевіч (н. 1940), беларускі мастак, педагог. У 1990–1996 гг. заг. кафедры БДАМ.

[5] Смоліч Аркадзь Антонавіч (1891–1938), дзеяч беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, вучоны ў галіне эканомікі, сельскай гаспадаркі, картаграфіі і геаграфіі. Прафесар (1927). Рэпрэсаваны.

ці ў бальшыні сваёй негатыўнае. Тады было ад невуцтва, а цяпер ад прагматызму. «Любіць думаць...»[1] Праца па перакладзе п'есы ў ТЮГ не йдзе. Галава баліць. Зусім развальваюся. А гэтулькі б яшчэ хацелася зрабіць.

*4 студзеня, субота*

У прыватнае выдавецтва «Лазурак». Выдаюць Караткевіча дзецям. Мне трэба напісаць прадмову. Калі б у нас прадпрымальнікі былі свядамымі беларусамі, не гібела б так культура нашая. А то ў нас усе так званыя бізнэсоўцы прасавечаныя, а гэта значыць — прамаскаленыя. Ім рубель толькі з Масквы бачыцца, і толькі на Маскву глядзяць. Вечарам міжгародні званок. Чуваць выдатна, як з суседняй кватэры. Гэта з Калядамі павіншаваў Вальдко Калінін. У Лёндане цёпла. Здзівіўся, што ў нас пад 30 было. Цыганы яшчэ трымаюць нашую мову. А самі? Перадаў прывітанне самаму вялікаму чалавеку. Я адразу ж перазваніў Васілю. Успомніў, як у Германіяй наладжаных сустрэчах быў з Вольгай Іпатавай[2]. Пра Васіля аб'яўлялі: народны пісьменнік, і ўсё. А пра Вольгу — і пісьменніца, і гісторык, і рэдактар газеты, і грамадскі дзеяч. Уражанне незаменнасці. «Варава»[3].

*5 студзеня, нядзеля*

Званіў з раніцы Арсень Ліс[4]. Рэдкі беларускі інтэлігент. Дасведнік. Даследнік. Вучоны. Пісьменнік. У нас такіх ужо амаль няма. Хваліў падборку ў «ЛіМе». Казаў добрыя словы. У заключэнні пажадаў, каб я прыглядаў за сваім здароўем. Як гэта суцешна ведаць, што хоць аднаму чалавеку цікава тваё пісанне, што некага турбуе тваё здароўе. [...]. З Самсонам хадзіў на Камароўку купіць скабак і сялянскае каўбасы на пражонку. Народу не гэтак і багата. Цэны. «На самы край...: Здаецца іншы раз, што апраметная...» [у дзённіку].

Званіў Васілю. Васіль узгадаў, як Сярэдзіч[5] быў намеснікам «Сов[етской] Белоруссии» і як ішоў артыкул супроць Васіля [Анатоля] Майсені[6] — сакратара *рак*мола [райкама камсамола].

---

[1] Гл.: Капусце з нашага гароду (3–4.01.97) // Руны Перуновы. С. 239.

[2] Іпатава Вольга Міхайлаўна (н. 1945), беларуская пісьменніца. У 1991–1996 гг. рэдактар газ. «Культура».

[3] Гл.: Варава (4.01.97) // Босая зорка. С. 24.

[4] Ліс Арсень Сяргеевіч (1934–2018), беларускі фалькларыст, літаратуразнавец, краязнавец, пісьменнік. У 1962–2015 гг. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ. Доктар філалагічных навук (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

[5] Сярэдзіч Іосіф Паўлавіч (н. 1949), беларускі журналіст. З 1995 г. гал. рэдактар газ. «Народная воля».

[6] Майсеня Анатоль Іосіфавіч (1959–1996), беларускі журналіст, палітолаг. Кандыдат філасофскіх навук. З 1992 г. прэзідэнт Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў Усход — Захад.

*6 студзеня, панядзелак*

Як не ўвесь дзень чытаў калядныя песні. У фальклоры — душа народа, вочы й мова. У хрэстаматыі трэба болей народнай творчасці, а не «Родных дзяцей» цыбатага лагойшчыка. Можа, нават крыху з’аранжыраваць, з колькі песняў зрабіць адну. Ды рабіць гэта трэба з найвялікшай асцярогай пры наяўнасці, вядома, бездакорнага густу. Якое, напрыклад, багацце: «Кілбас лыка, пірагоў у века». Як вольны народ абыходзіцца з націскам: «Кажушок з розных цялушок». Цытаваць немагчыма — трэба жыўцом усё заглынаць. Душой заглынаць. А якое абагаўленне, адухаўленне: «Зажурылася гара, што не расла трава...» Увесь мадэрн, усе вынаходніцтвы — у фальклоры. Бо гэта было жывое слова, як дзіця, якое гадавалі й навучалі.

*7 студзеня, аўторак*

Хоць паснедалі позна, але спакойна. [...]. Дамінічка й Мірон заўсягды мае саюзнікі. Мучаю п’есу для ТЮГа. Яна мяне таксама. Хачу ўвайсці ў нейкую новую каляіну жыцця свайго. Працы непачаты край, ляды некарчаваныя, а спакою няма. Мітрэнга хатняя, навакольная, галеча, якая б’е пугай па пятах, як той цыган сына, заганяючы яго ў школу ў Вушачах. «Зачыняе...: Жывыя цені...» [у дзённіку].

*8 студзеня, серада*

Хадзіў у сабес наконт абяцаных [...] трох мінімальных. Трэба воз папер. І ледзь не крывёй распіску, што бізнесам не займаюся. Званю Васілю. Ён кажа, што яму ўжо гэтыя тры мінімальныя прыносілі. «Але паштарка іншая. Трэба распісвацца ў двух нейкіх ведамасцях. Навошта ў дзвюх? Што там у іх напісана, — кажа Васіль, — я не паглядзеў. Бо мы ўсе разумныя заднім розумам. Можа, там напісана, што за супрацоўніцтва з КГБ. Атрымаецца, як некалі з Карпюком[1]». У лагеры атрымаў ад бацькі нейкія грошы й, вядома, распісаўся. Пасля КГБ і партыя зрабілі, што за паслугі ледзь не гестапа. Ён жа ў палон трапіў з Беласточчыны. На гэтую вобласць распаўсюджваліся іншыя законы паводле падзелу Беларусі. Выручыў Карпюка беластокавец Мелляновіч. Прывёз копію поўнага дакуманта, а кэгэбісты толькі кусок з подпісам круцілі пад носам у беднага Аляксея. Васіль пра ўсё гэтае напісаў у «Лит[ературной] газете». Хай як дакумант застанецца.

Вечарам Валя прывяла Дамінічку са школы. Ілона была ў нас. І Дамінічка танцавала танец самотнага лебедзя. І такой жаданай сям’ёй дыхнула. Ды ўсё ў жаданнях. Нейкі настрой чакання канца. Гэта кепска. Так

---

[1] Карпюк Аляксей Нічыпаравіч (1920–1992), беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1986).

можна сябе загнаць раней часу. А жыць трэба. Хоць бы каб Дамінічку на ногі крыху падняць. Хоць трошачкі. Дай, Божа, веку! А як там з Петраком? Апошні крэўнік мой па бацькавай лініі. Марыя Рыгораўна зусім слабая ўжо даўно. Чаго так мала ў мяне родных? Чаго я такі самотны? І жыву, як у гасцях. А так хацелася ўсё жыццё сям'і традыцыйнай, крывіцкай, цёплай, шчырай, спагадлівай. Сам, вядома, шмат у чым вінаваты.

«Наканаваная няволя»[1]. Чытаў Радзіку й Самсону. Ім верш спадабаўся. А наогул, цяпер вершы ўжо амаль нікога не чырыкаюць. Гэта трэба асяроддзе апантаных.

*9 студзеня, чацвер*

Хадзіў на працу былую. Генерал Чаргінец [...] важна зайшоў да Леаніда [Кірэевіча]. Двухтомнік [...] даюць, бо ў камандзе [Лукашэнкі]. Перад ад'ездам у Будапешт сабралася колькі з назіральнае рады. Гуртаўшчына.Ператасоўка крэсел. Мне гэта ўсё не ў галаве. Мітусня знадакучыла. [...].

*10 студзеня, пятніца*

Адлёт у Венгрыю. Па традыцыі званок Васілю перад любым ад'ездам на багаславенне. Жадае добрага лёту й кажа, што шмат у Венгрыі сілы паклаў, шмат беларусаў загінула ў вайну, бо паслалі тых, хто заставаўся ў вызваленай Беларусі. [...]. І ў Вене быў зноў жа я, толькі ў шкляным куфры аэрапорта. Светлы, сучасны, а Аўстрыі не відаць. Аэрапорты ўсе інтэрнацыянальныя, нават касмапалітычныя.

І ўрэшце ў *Будапешце.* Захаваны горад і ад немцаў, і ад саветаў. Венгры жартуюць: «У Эўропе толькі 10 мільёнаў змаглі вывучыць венгерскую мову». Гэтая яна цяжкая. Гэта колькі венграў. А беларуская яшчэ цяжэйшая, і 10 мільёнаў не вывучылі. Хоць нас якраз гэтулькі, колькі гордых мадзьяраў.

*11 студзеня, субота*

Budapest. З раніцы ў Эўрапейскі ўніверсітэт сораўсаўскі. Дыскусія па праблемах Эўрасаюза. Тысячы праблемаў. Агульная валюта, агульны рынак, а нацыянальная традыцыя. Хораша выступіў Сорас. Ад Расіі Сяргей Караганаў[2] — савецкавыкапнёвы тып [...]-міжнародніка. Яму, бачце, у ср.цы круціць, што Польшча й Венгрыя ў НАТО[3] будуць. Сорас у рэпліцы пра Расію: «Трэба разумець прышчэмленае самалюбства, трэба неяк дапамагчы, каб не раз'юшыць. Расія не можа сябе ўявіць не імпэрыяй».

---

[1] Гл.: Наканаваная няволя (8.01.97) // Халодная памяць вады. С. 259.

[2] Караганаў Сяргей Аляксандравіч (н. 1952), расійскі палітолаг, эканаміст. Доктар гістарычных навук (1989). Сын С. Г. Караганавай.

[3] НАТО (NATO) — Арганізацыя Паўночнаатлантычнага дагавора.

Потым сустрэча з Сорасам у гатэлі «Forum». За абедам у рэстаране. Сорас маладжавы, дагледжаны, але дагледжаны не ў традыцыях савецкіх партпарсюкоў. Апрануты сціпла, з густам. У ім нешта ад яўрэйскага паэта. Пакуль прынеслі стравы, паклалі па булачцы. Як школьнік, цярэбіць булачку, крошкі кідае ў рот. Уважлівыя, разумныя, рабочыя вочы. Рашэнні прымае для сябе іншы раз нечаканыя. Я яму сказаў, што ў яго рашэнні, як вершы, самі сябе здзіўляюць. Перадаў прывітанне ад Васіля з пажаданнем здароўя й поспехаў. Успрыняў з радасцю. Ён, адчуваецца, не стаміўся здзіўляцца й радавацца. Гэта вялікае багацце. Можа, нават у духоўным і душэўным плане вышэйшае за сораўскія, ягоныя ж, мільярды. Гэта геніяльны мешугенекопф. Даражыць часам, але, захапіўшыся, ахвотна траціць яго. Дырэктар ФС мадзьяр Мілаш, [некалі] прэс-сакратар Імры Надзя[1], некалі казаў, што Венгрыя — самы вясёлы барак у лагеры сацыялізму. Раман Якаўлеўскі дадаў: «Беларусь — самы змрочны барак ўсё яшчэ ў лагеры сацыялізму». Калі вечарам яшчэ раз сустракаліся ў нумары з Сорасам, нехта запрасіў яго прыехаць у Беларусь у траўні. Я яму сказаў: «І цяперашнюю Беларусь лепей любіць здалёк». Сорас пагадзіўся і ўсміхнуўся. Гэта цвердакаменны антыкамуніст. Чалавек, які хоча зруйнаваць астрог камуністычнай заразы.

*12 студзеня, нядзеля*

Budapest. Адлёт. Падоўгу ў сахарападобных аэрапортах. Толькі вады наліць — і яйкі варыць можна. У Менску, калі выходзілі, нейкі капітан адчыніў дзверы й запытаўся ў мытнікаў, ці не прапусцілі яны дзе ў спісах прыязджантаў Пазьняка. На святога Зянона палююць, як на звера. [...]. «І састарэўшы...»[2]

*13 студзеня, панядзелак*

У майстэрні Марачкіна. Генадзь, Сяргей [Законнікаў], Васіль. Сустрэча Новага старога года. Нешта трэба тэлевізійшчыкам, нешта робяць пра Генадзя. Яму ўсё верыцца, што цікавасць да паэзіі, да асобы паэта і яго ў першчаргу вялікая. Аляксей паказваў эскізы. Васіль падышоў да эцюдніка й кажа: «Гэта самы таленавіты твор, бо гэтулькі фарбаў разам і не ваюючь спаміж сабою». Паглядзелі фільм Хашчавацкага[3] пра [Лукашэнку]. Цікава. Гэта трэба дужа ў замежжа.

[1] Надзь Імрэ (1896–1958), венгерскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1953–1955 гг. і ў час Венгерскага паўстання 1956 г. прэм'ер-міністр. Рэпрэсаваны.
[2] Гл.: І састарэўшы... (12.01.97) // Ксты. С. 290.
[3] Хашчавацкі Юрый Іосіфавіч (н. 1947), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст, прадзюсер з 1989 г. на кінастудыі «Беларусьфільм». Аўтар фільма «Обыкновенный президент».

*14 студзеня, аўторак*

Сігнал першага тома збора [твораў] нарэшце. Спачатку ўсё-ткі лагойшчыка, [...] Васьвася [Зуёнка]. Ну, як бы ні мучаўся, абы добра памёр. Злёгку адзначыў з дзяўчатамі ў рэдакцыі. Начальства перажывала, што лепшы вонкава, чым у цыбатага. Цыбаты лагойшчык друкуе ў «ЛіМе» лісты Пімена [Панчанкі] да яго, а гэтага не надрукуе, як Пімен пад добрай чаркай раіў яму: «Ніл, ты цудоўны фальклярыст, займайся гэтым, а вершы — гэта не твая справа». Ды гэта ён не помніць. На калідоры сустрэў Прыходзьку[1], кажу: «Малайчына, што напісаў адказ у сувязі з тым, як хацелі ягоны стары верш прывязаць як талкаванне [афіцыйнай] сымболікі». А паўлітрук усміхаецца: «Я ж Жэромскага[2] чытаю, а не толькі Шамякіна».

*15 студзеня, серада*

У саюз, да Карласа, у выдвецтва «Полымя». У гэтым выдавецтве ад мяне патрабавалі хутчэй здаць рукапіс «О Беларусь, мая шыпшына». Гэта вершы нашых паэтаў пра Беларусь. Ужо па новых парадках тэма гэтая неактуальная. Падабраў, заплаціў за перадрук — выдаваць не будуць. Яшчэ чаго добрага й «Ішоў коця па канапе» здасца нацыяналістычнай. Там маё прозвішча замінала, а тут і вершы мае.

Званіў Васілю, ён зноў казаў: «Лепей бы хто вёў летапіс літжыцця, чым ствараюць дадатныя вобразы й адмоўныя. Гэта быў бы дакумант». У Расіі друкуюць архіўныя матэрыялы, а ў нас закрываюць архівы й паляць. І ўжо недзе Марчук з чужога голасу вішчэў і рохкаў аб пераглядзе творчасці Быкава. Ціснуць і ціснуць на Васіля. «З далані»[3]. Успомнілася. Праз мяжу правозілі копіі фільма Хашчавацкага. Раман [Якаўлеўскі] пайшоў першы. Каб адабралі ў яго, а на дзве іншыя ў іншых руках і не здагадаліся. Так і адбылося. Склалі акт, змылі. А потым маладзенькі мытнік шэптам Раману: «Мы сабе копію зрабілі, калі трэба, і вам зробім». Свядомасць разам з цікаўнасцю расце. І гэта добра.

*16 студзеня, чацвер*

З рання засядалі ў ФС. Надакучылі дробныя звады Манаева[4]. Як расійца ні кармі, а ён усё роўна ваўком глядзіць. [...]. Хадзілі з Валяй на Камароўку. Усё дарага да шаленства. І на Камароўцы ледзьве не паліты-

---

[1] Прыходзька Пятро (Пётр Фёдаравіч; 1920–2006), беларускі паэт. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1985).

[2] Жэромскі Стэфан (1864–1925), польскі пісьменнік.

[3] Гл.: З далані (14 —15.01.97) // Халодная памяць вады. С. 93.

[4] Манаеў Алег Цімафеевіч (н. 1952), беларускі сацыёлаг. Доктар сацыялагічных навук (1991). Прафесар. Заснавальнік і дырэктар Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД; з 1992).

ка — збіраюць подпісы, каб рынак быў не дзяржаўным. Напісаў: «Я за Камароўку!» І распісаўся. Кабеціна доўга разглядала.

*17 студзеня, пятніца*

Зноў хадзілі з Валяй на Камароўку. Купілі трохі ежы. Усё жыццё — на базары. Натуральнае, без прыўкрас і выдумак. Трэба ехаць на Нарач, а трымаюць хвасты й хвароба.

*18 студзеня, субота*

З хворай галавой раблю для ТЮГа пераклад п’есы. Як мне ад’язджаць куды, дык навальваецца ўсяго пільнага. І так ўсё жыццё.

«Вернасць»[1]. Вароны мяне заўсёды ўражваюць сваёй дасканаласцю, трывучасцю, паўсюдыіснасцю. Гэта на іх Богу эксперымэнт болей удаўся, чым на людзях.

*19 студзеня, нядзеля*

Цэлы дзень амаль рыхтаваў рукапіс Іны Снарскай. Крыху зацягнуў. Спадзяваўся, што напіша яшчэ лепшае. Ды што ёсць. Нешта ёсць у яе ад вядзьмоўства, гэта якраз і ёсць паэзія. Дай Бог ёй поспеху. Палачанка. Значыць, панавітая.

20 студзеня, панядзелак

Аднёс рукапіс. У выдавецтве, як на магільніку, дзе толькі што пахавалі нябожчыка і ўсе разышліся. Хадзіў да Ладуценкі[2] ўзяць картку ў «Сосны». На ўсю клініку ён адзін. Амаль ўсё памяшканне здадзена нейкай турэцкай кампаніі. Падпісаў яму «Здубавецьцяя»: «Жадаю Мікалаю Ладуценку Мець ад дзяўчат вышэйшую ацэнку!» [У дзённіку.] Званіў Васілю. Цікава, што некаторыя маскалі пачынаюць [Лукашэнку] называць беларускім нацыяналістам. Васіль слушна пажартаваў: «Калі [Лукашэнка] нацыяналіст, тады Зянон, выходзіць, інтэрнацыяналіст».

*21 студзеня, аўторак*

У выдавецтва. Давідгарадоцкі шэкспір ужо хоча перанесці мой другі том на наступны год, бо ў першую чаргу трэба выдаць Навуменку, Савіцкага, Кудраўца, Чаргінца [...].

*22 студзеня, серада*

Такая-сякая падрыхтоўка на паездку на Нарач. Заадно падганяю пераклад п’есы. Ужо цяжка рабіць ёмісты пераклад за кароткі час. Хочац-

[1] Гл.: Вернасць (18.01.97) // Босая зорка. С. 138.

[2] Ладуценка Мікалай Дзмітрыевіч, гал. урач паліклінікі СПБ.

ца пасмакаваць кожнае слова. Потым уцягваешся й развітвацца не хочацца. А можа, гэта ўсё толькі адгаворкі для сябе. Бо гады пра сябе напамінаюць часцей і часцей. Не любяць, калі іх забываеш.

*23 студзеня, чацвер*

Выпхнуўся ўсё-ткі з Менска. Па горадзе ўжо адчуваецца вясна. Асабліва гэта відаць па настрою бярозаў. Нейкае хваляванне разліта ў ствалах, галінкі пабурэлі ад нецярпення выкінуць першыя лісцінкі. Але гэта яшчэ толькі чаканне. У санаторыі ціха. Аж смешнна — цёпла ўразіла танюткая неабкароная галінка сасновая, пакладзеная замест згубленага металёвага шпрэнціка, які трымае туалетную паперу. І прыгадалася звышпадагнанасць усяго ў Нямеччыне. Адпачыванцы, відаць, у большыні сваёй вертыкальшчыкі й заслужанцы перад чырвонай імпэрыяй. Вечарам пайшоў павітацца з Нарачча. Галалёд жахлівы. Ідзеш як п'яны. Нарач спіць.

*Маўчаць*

Шаргункамі забытымі
Перагукваюцца ільны.
Словы вяртаюцца
Да незабытай віны.
І, адбываючы нябеснае пакаранне,
Беларусы маўчаць,
Як анямелыя валуны,
Прыгнаныя ледавіком спадзявання.

*24 студзеня, пятніца*

Па рытуалу да ўрача. Добры, прыветлівы беларус Галькевіч.

Чыста й вольна гаворыць па-беларуску. А ўся дакументацыя, зразумела, па-расійску. Гэты край то ўзмоцнена апалячвалі, то русіфікавалі. Заўсёды на ласы кавалак раты шырока разяплены. Асабліва ў вечна галодных расійскіх гультаёў. Званіў Радзіку. Ходзіць здаваць, дакладней, вучыцца, каб атрымаць вадзіцельскія правы. Гэта да ад'езду. Мне дужа пачынае не хапаць яўрэяў. Усё жыццё разам, усё жыццё дапамагалі яны мне, а я ім — чым мог. Са сваімі ахламонамі сумна. Усе залатыя сябры мае ўжо там, дзе ні смутку, ні скрухі… Адзін Васіль застаўся. Дай Бог яму багата дзён! Пачынаю патроху пісаць. Паралельна дамучваю п'есу для ТЮГа. «Пакінь…: Як цвёрда хочаш сцвердзіць штосьці…» [у дзённіку]. Заўсёды пры змене рэжыму любім каяцца, тлумачым, што кідалі сабакам косці.

*Касцы*

Чаркі ранішняй лаўцы,
Захмялеўшы ад бензіну,

Косяць хлопцы дзьмухаўцы —
Гарадскую канюшыну.

Канюшыну, ад якой
Сытна конікам зялёным.
За асфальтавай ракой
Спёка млее перад сконам.

Дужым часу не стае
Бачыць лета залатое.
Косяць хлопцы дні свае
І не думаюць пра тое…

Трыбушу старыя накіды, што ўзяў з сабой у маленькім нататнічку. А наогул, як заўсягды з маіх збораў, як выбораў — лапці ды аборы. Палову таго, што трэба было ўзяць, не ўзяў. Нават памазка.

*25 студзеня, субота*

Мне яшчэ горш, чым было дома. А дома было дужа дрэнна. Ідзе ўсё к канцу. Толькі й думак, каб хоць галава не балела, каб мог нешта рабіць. Працы шмат, а сілы мала. Па інерцыі ўсё думаю, што сяду й зраблю ўсё. Сядаю й неўзабаве ўстаю. Тамлюся, няма яснай галавы. «Ясачка»[1]. Мучаю тюгаўскі пераклад, а ён — мяне. Хто каго. Перачытваю «Пакуты юнага Вертэра». Уваходжу ў Нямеччыну, бо маюся напісаць нешта кшталту эсэ пра сваё летняе, леташняе паязджанне са спадаром Папковічам. «І Жывалака, й Парыж…»[2]. Тут адпачывае Дашук[3]. Выдатна, лёгка гаворыць па-беларуску, прыродна лёгка. А раней жа толькі па-расійску. Добра, што вяртаюцца пэўныя людзі, здатныя людзі, да сваёй мовы, да сваёй культуры. На жаль, дужа мала іх. […].

*26 студзеня, нядзеля*

Званіў Тацяне Харламаўне [Харлампіеўне, цешчы], віншаваў з днём нараджэння. […]. Цікава афіша ў калідоры пра кіно: «Уваход свободный». Беларуская мова праступае, як фрэскі з-пад пазнейшых напластаванняў. Хадзіў у Гатавічы. Каб чалавек на вуліцы. Толькі з сабакам павітаўся, даў яму цукерку — не дакрануўся. «Гусіныя лапкі», калі б не з двукоссямі,

---

[1] Гл.: Ясачкі: Жыццё — багажня, час — ручная кладзь (25.01.97, Нарач) // Збор твораў. Т. 3. С. 332.

[2] Гл.: І Жывалака й Парыж… (25.01.97, Нарач) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 45.

[3] Дашук Віктар Нічыпаравіч (н. 1938), кінарэжысёр, сцэнарыст, пісьменнік. Заслужаны дзеяч мастацтваў (1977). Народны артыст БССР (1989). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1985).

з'еў бы. Званіў Васілю. Палкоўнік Замяталін[1] — міністр друку й інфармацыі. Поўнасцю трэба знішчыць беларускі друк і кнігу. «Трымае»[2]. Вяртаўся з Гатавіч па сваіх жа слядах. Бо ніхто не хадзіў яшчэ. Нейкая магія ў слядах на снезе. Яны мройлівыя, прывідныя. Сляды ў небе, што завуцца Млечным Шляхам, амаль вечныя.

*Вярнуца б...*

З прышэптам радасным сляды
Ішлі за мной па першаследзе.
Далёка ўсё было тады —
Клады
І сон на тым начлезе.

Дадому, пад заснулы дах,
Кароцячы і хвілі, й мілі,
Вярнуцца б па сваіх слядах,
Ды іх даўно адлегі змылі...

*27 студзеня, панядзелак*

Пасля ўсіх працэдураў па рэканструкцыі майго здароўя пайшоў уздоўж Нарачы. Доўга. Паласаваўся ядлаўцовымі ягадамі. Ніякія заморскія не могуць з імі зраўнацца. Прыгадалася народнае: «Ой, калючы ялавец, ягадкі салодкі». Сапраўды салодкія, бо азяблыя, нешта ад дробных галубоняў вонкава ў іх ёсць, а ёсць, як чорныя да сінечы агрэсціны, дакладней, парэчкі. У канцы дарогі знайшоў кій бярозавы, умерзлы ў лёд. Узяў выдраў лёгка з лёду — і ўдвух весялей і лягчэй ісці. «Ясачка»[3].

Званіў Васілю. Сказаў, што хадзіў шмат і ўспамінаў яго. На гэта ён нешта мінорнае адказаў. А вось што хаджу шмат, пахваліў: «Шпацырак — гэта добра. І думаецца, і прырода гаворыць з табой. Няма тлуму». Сёння дзве цудоўных перадачы памяці Бродскага. А ў нас пра пакутнікаў кшталту Дубоўкі, Гарэцкага[4], Ластоўскага што зроблена? Памяць нашую выбіваюць адбойным малатком. [...]. Усё пад адхон.

*Журботнае*

Паў на душу маю змрок,
Быццам туман на даліну.

---

[1] У. П. Замяталін займаў пасаду старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку і інфармацыі з 23 студзеня па 15 ліпені 1997 г.

[2] Гл.: Трымае... (26.01.97, Нарач) // Ксты. С. 189.

[3] Гл.: Ясачкі: За пазуху поўня не лезе (27.01.97, Нарач) // Збор твораў. Т. 3. С. 331.

[4] Гарэцкі Максім Іванавіч (1893–1938), беларускі пісьменнік. Рэпрэсаваны.

Зман, як даступны прарок,
Выгарбіў дню майму спіну.

Дзень мой не хоча старэць.
Можа, шануючы морак,
Зорку папросіць гарэць
Пасынак дня — адвячорак…

*28 студзеня, аўторак*

Званіў Ганад. Званіў спадар Алесь Анціпенка. Кажу: «У нас завея». Яму дужа ўпадабалася слова. Кажа: «Напішыце, дзядзька Рыгор, верш і прысвяціце сабе. Памецце: Р. Б.». Можна будзе падумаць. Дзве гадзіны ішоў уздоўж Нарачы туды й назад. Такой завірухі, такой веі даўно ўжо не бачыў. Вецер збівае з ног. Дапамог учарашні кій, які цяпер грэецца ў мяне ў пакоі. Белая цемра.

*Завея*

Журліва задрамала белашвея —
І з рук замроеных клубочак выпаў.
Размотваецца ён да белых рыпаў.
Шалее котка белая — завея…

*29 студзеня, серада*

Вось і тыдзень прабег. А я нічога не зрабіў, нічога не пачаў і нічога не закончыў. Так калупаўся, увaходзіў у настрой. Званіў Андросік — з нажом да горла, трэба пераклад. Галава мая ўжо не тая. Вочы зрабілі б шмат, а галава стамляецца. Усё роўна хадзіў дзве гадзіны ўздоўж пані Нарачы. «Трывала: Мой кій бярозавы…» [у дзённіку].

*30 студзеня, чацвер*

Як у анекдоце ўкраінец ад сала, балдзею ад перакладу для ТЮГа. Як пераваліла за палову, весялей пайшла праца. Падабацца стала. Мне варта толькі ўвайсці ў смак, тады за вушы не адцягнеш. Дзве традыцыйныя гадзіны хадзіў уздоўж Нарачы. І радкі выходжваў: «Хмарны настрой»[1]. І на «дурноты» цягне. А друкаваць іх няма дзе. Некалі маладыя й галодныя паўтаралі мы васілявіткаўскія радкі: «А што, калі не надрукуюць? Ат! Жаўранка і так пачуюць!» Усё роўна, будуць мяне друкаваць ці не будуць, пісаць буду, пакуль пішацца. «У абарону дзвюхпалатнасці: Калі парламент буйнарагат…» [у дзённіку].

[1] Гл.: Гл.: Хмарны настрой (30.01.97, Нарач) // Ксты. С. 331.

*31 студзеня, пятніца*

Апошні дзень студзеня. Сёлетні студзень суравеесцейшы, чымся ягоныя папярэднікі. Аднавілася зіма і бальшавіцка-калгасная ўлада. Званіў Васілю. Казаў, што забраў рукапіс [«Сцяны»], які праляжаў каля трох гадоў падрыхтаваны ў нашым выдавецтве. Кажу па інэрцыі *нашым*. Дадаў: «З тваім подпісам у друк — у музей прыдасца». Змрок насядае, гусцее. Васіль зайшоўся да Андраюка, а там кэгэбісцкая выжла Бажко. Яшчэ жыве. Як і Лужанін. Добры харч стукачам давалі, што так захаваліся.

*1 лютага, субота*

Дабіваю пераклад. Закончыў верш. Мяркую — пад песню ў п’есу:

*Справядлівасць*

У гордай справядлівасці рукі′
Прасілі жаніхі ва ўсі эпохі —
Тузы, грашавікі і жабракі,
Глухія мудрацы і скамарохі.

Каму ўзаемнасць, а каму развод
Давала справядлівасць і глядзела,
Як мітусіцца чалавечы род,
Як адракаецца душа ад цела.

За юную нявесту і ўдаву
Спрачаліся і кулакі, і шпагі,
Арлы з каронай клалі галаву
І цень ад славы рыцары адвагі.

Хай ад крыві ў дарэмнай барацьбе
Твая апошняя пасцель сырая,
Спакойна справядлівасць на цябе
Сястрою міласэрнай пазірае.

Зноў свой дзвюхгадзінны паход уздоўж Нарачы. Зноў нешта: «Прыгадваю Вечалле: Золь вымятае снег з усіх кутоў», «Стараючыся не думаць пра…: Міргае зорка-варажэя» [у дзённіку].

*2 лютага, нядзеля*

Нарэшце! Скончыў пераклад для ТЮГа. Перачытаў і не дужа засмучаны. Трэба хутка было рабіць, а ўжо хочацца не спяшацца, пад настрой справу спраўляць. Ды час не любіць, калі яго не бяруць зналопу, як малады канец каханку жаданую з парога. З Дашуком хадзілі лесам. Цікавая асоба, на сабе зацыкленая. Гэта й добра, гэта дае плён. […]. Дзень быў

гэтакі цудоўны, як некалі ў маленстве. Аж не хацелася йсці ў пакой, як у камеру вязню. У дадатак я гэтак ляснуўся на гранітных прыступках каля будыніны, дзе крынічная вада, мінэральная. Гэта бязмозглыя цэкоўскія халуі рабілі, каб паказушна было. Знайшлі Італію. Хай хто з іх чарапы свае раскроіў. Так баліць, што хаджу важна, амаль як член ЦК Ніл. Званіў Карласу. Быццам бы па звестках Марыса Чаклайса[1] збіраюцца мне даць ордэн Латвіі. Буду рады. Бо гэта ад Дзяржавы! Ад самастойнай Дзяржавы! Хадзіў да цёмнага — і ўваччу — берагам. Шукаў радкі. «Параўнанні: Ад параўнанняў куды ўцячы?», «Цяжэй…: Як маеш — сівей ці рыжэй…», «Бамонд і АМОН: Надзею марную мае бамонд…» [у дзённіку].

*3 лютага, панядзелак*

Не магу адысці ад радасці, што з плеч зваліў пераклад. І тут жа ўзвальваю новы — Ян Баршчэўскі[2]. Мне заўсягды цяжка перакладаць класічна халаднаватыя вершы, дзе няма як павыпендрывацца, паспаборнічаць з аўтарам у вычварэнні. Вечарам двойчы хадзіў падоўгу. І з Дашуком уночы. Цікавая натура […]. Зайшоўся да мяне: «Ці замыкаеш дзверы, бо тут жа футра мае». З кішэні выцягнуў пісталет. Казаў, што сапраўдны. Для аховы. Вечарам па тэле глядзеў выдатны фільм Рэнуара[3] «Вялікія ілюзіі». Гэтулькі ў свеце выдатных фільмаў, а тэлевізар дае адно смецце. Усё для масы, якая нічым не розніцца ад той, калі ўкрыжоўвалі Збаўцу нашага.

*4 лютага, аўторак*

Званіла Валя. З Ілонай дрэнна. […]. Яе ненадоўга хопіць. Кволая, знерваваная, бедная мая дачушка. Мяне, як ваўка, сямейнікі абклалі. Ёсць тут і мая віна. І вялікая. Але што зменіш? Што зробіш? Такі лёс. Званіў Васілю. Хмары над ПЭНам і над Хельсінскім [камітэтам]. Званю дамоў, як Дамінічка? На гаршку. «На вяршыні»[4], «Ясачка»[5].

*5 лютага, серада*

Так выматаўся на перакладзе, што нічога, здаецца, болей не магу. Затое каля 4-х гадзін хадзіў уздоўж Нарачы. Успамінаў і Шабана, і Танка.

---

[1] Чаклайс Марыс (1940–2003), латышскі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры ЛатССР. Заслужаны дзеяч культуры Латвіі (2003). Лаўрэат Рэспубліканскай прэміі імя А. Упіта, прэміі Ленінскага камсамола Латвіі.

[2] Баршчэўскі Ян (1794–1851), польскі пісьменнік, беларускамоўны паэт, фалькларыст, выдавец.

[3] «Вялікія ілюзіі» (1937). *Рэнуар* Жан (1894–1979), французскі кінарэжысёр. Лаўрэат прэміі «Оскар» (1975).

[4] Гл.: На вяршыні (4.02.97, Нарач) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 46.

[5] Гл.: Ясачкі: З буграватага яйка шышкі сасновай… (4.02.97, Нарач) // Збор твораў. Т. 3. С. 333.

«Ясачка»[1]. «Дурнота: Харызматык» [у дзённіку]. [...]. Аж жыць у Беларусі не хочацца. [...]. Прыехаў з жонкай [...] Паплаўскі Жора, яшчэ «одно лицо неопределённой национальнасти» з кучы ханкоў, скобелевых, яроменкаў.

*6 лютага, чацвер*

Як моладзь кажа, быў у адпадзе. Ад галаўнога болю. Званіў Радзік, званіў Глеб Артханыч — яго ў саюз прынялі. Рад. Душа пад ільдом за Васіля. Нешта з печанем. Кажа: «Памалу развальваюся». Гумар благі. Трэба, каб неяк з Ірынай Міхайлаўнай Карлас змовіўся ды палечыць яго. Вядома, не ў Лечкамісіі. Там яго толькі чакаюць. [...]. Апостал нацыі ў такім загоне, у такім цкаванні. Дый якая яна, нацыя наша, бо колькі стагоддзяў толькі й ведаюць суседзі, што нішчаць. Асабліва ўсходні сусед. Уключыў тэлевізар і наткнуўся на цэкоўскага [...] Бабосава[2]. Сацыялагічнымі прагнозамі займаецца [...]. «Сацыялагічныя прагнозы (Прагназёр): Дакажа лёгка...» [у дзённіку].

*7 лютага, пятніца*

Званю Васілю. Між іншым укручваю фразу — «апярэдзіць удар праціўніка». Васіль: «У цябе ёсць шанцы ў другім жыцці спраўдзіць свае вайсковыя здольнасці. Генералам будзеш, а генералы ў цане пры любых рэжымах». Кажу, што сёння магнітная бура, што ўчора ляжаў. Васіль: «Ну што мы хочам свабоды ад начальства, калі ўжо не можам супроць ветру выстаяць». Пра розныя замены [...]: «Яны йдуць на пасады й думаюць, што навечна, а [Лукашэнка] іх хутка раскусвае й выплёўвае». У «ЛіМе» ва ўсіх нумарах раскашуюцца Лучанок і міхсавіцкі. Ім абодвум падкрэсліваюць савецкія званні. А перад гэтым на вуліцы ў пашлапнях, у спартоўным касцюме сустрэў Правасуда[3], палескага мядзведзя з цікавай біяграфіяй. Нясе загорнутую ў газеціну бутэльку: «Чырвонапёрку знайшоў...» Жыццё йдзе ў кожнага сваё. Па чалавеку й клопат. Мне так баліць галава, што нічога не пісаў і не перакладаў. Першы дзень адпачываў. Такі мой адпачынак.

---

[1] Гл.: Ясачка: Са снежнага зерня рунее белы спакой (5.02.97, Нарач) // Збор твораў. Т. 3. С. 333.

[2] Бабосаў Яўген Міхайлавіч (н. 1931), беларускі філосаф, сацыёлаг, культуролаг. Доктар філасофскіх навук (1972 ). Прафесар (1973). Член-карэспандэнт АН БССР (1977). Акадэмік НАНБ (1994). У 1990–1998 гг. дырэктар Інстытута сацыялогіі. Заслужаны дзеяч навукі РБ (1997). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1984).

[3] Правасуд Уладзімір Рыгоравіч (1934–2010), беларускі пісьменнік.

*8 лютага, субота*

Перадапошні дзень і доўгі, і кароткі. Так нахадзіўся ўздоўж Нарачы, што пачало ламіць нагу (рамантаваную, а на лечаным кані далёка не заедзеш). Ласаваўся ядленцавымі, ці ядлаўцовымі, ягадамі. Адчуванне нейкае пустэчы й дарэмнасці пражытага і зробленага. Пачынаю разумець трошкі самазагубцаў. Адно што грэе, што цешыць, што змушае жыць і рабіць нешта, — гэта анёлак мой, мая часцінка Дамінічка. Як гэта мудра й недаступна задумаў Усявышні: прывязаць нас да жыцця, ці навязаць на жыццёвым папары. Дамінічка — гэта й ёсць той залаты калочак, якім навязаны я, конь стары, на жыццёвым папары. І прыгадваецца: «А дзед бабу шанаваў, На папары прывязаў, І няхай баба паветраіць, А можа ж, яна палепшаіць». Пісаў баладу:

*Паўночная балада*

Спяшаўся паўночны кароль —
Чакала яго перамога.
Ніжэла нябесная столь
Ад крыку ўтрапення нямога.

Блішчэла з кальчугі луска.
Чало засланяла прылбіца.
З варонаю з-за каласка
Гатоў верабей быў пабіцца.

Сляды ад зіхоткіх падкоў
Рабілі дарогу відушчай.
І чорныя плоймы шпакоў
Трымцелі хмурынаю гушчай.

Усмешкай адпрэчваў кароль
Хмурынкі сумніўнасці з твару.
Ды страх прашаптаў: — Запаволь
Свой спех ды зірні...
І пачвару,
Зірнуўшы, пабачыў кароль.
Магуту бясстрашнага, можа,
Не страх папярэджваў, а троль,
Што ўстаў з верасовага ўзложжа.

І мыла кашулю карга
Замшэлая, як карчавешка.
І засціла позірк імга.
Сумелася смелая ўсмешка.

Крывавай ваду ручая
Рабіла кашуля сырая.
Спытаўся: — Кашуля чыя?
— Твая! — адказала старая…

І, радасцю гоячы боль,
Крышыліся дзіды і мечы.
Слуга перамогі — кароль
Упаў ёй у ногі ў ламечы.

Крывёю напоўніла ўшчэрць
Свой кубак нябачная сіла.
Канаючы, ўспомніў, як смерць
Кашулю ягоную мыла…

Нешта між дарослым і дзіцячым напісалася:

*Была ў сабакі хата…*

Была ў сабакі хата,
Сабачая, вядома.
Сабака жыў багата,
Сядзеў звычайна дома.

Калі бывалі госці,
Гасцям даваў пачостку —
І госці грызлі косці,
І гаспадар грыз костку.

І воўк як брат стрыечны
Прыходзіў з блізкай пушчы.
Воўк быў галодны вечна,
Не дужа каб хітрушчы.

Сабака бегаў мала,
Хвост скручваў абаранкам.
Як духата даймала,
Любіў драмаць пад ганкам.

Але сусед двухногі
І да таго ж двухрукі
Звярам хітрыў астрогі
І штукі на прынукі.

Жывот свой ненасытны
Ён падпярэзваў пасам,

Брахаць таксама спрытны
Заходзіў грэцца часам.

І пас прынёс сабаку
Не на жывот — на шыю.
Пас цюцьку не да смаку:
— Я ад яго завыю!

Сусед прымерыць просіць:
— Павер, любая краля
Такі ж ашыйнік носіць
І кажа, што каралі.

А да караляў, бачыш,
І ланцужок дарэчы.
Лёс не перасабачыш
Ні свой, ні чалавечы.

Каралі скураныя
Ды ланцужок жалезны
Надзеў сабака й вые —
Цяпер ён стаў залежны.

Ані аўтарытэту.
Бывай, былая слава!
Ані сувернітэту.
Віляй хвастом ласкава.

А меў сусед рукаты
Натуру жываглота.
Сабаку выгнаў з хаты
І прывязаў да плота.

Дзе голена, там гола.
Даверу хлусіць плата.
Смяюцца ўсе наўкола:
— Была ў сабакі хата!

*9 лютага, нядзеля*

Апошні дзень. Хадзіў амаль 3 гадзіны. Можна сказаць не гадзіны, а якраз хадзіны, бо хадзіў. Званіў Васілю: «Добры дзень, азёрны чалавек. Ці ходзіш, ці дыхаеш? Прыязджай, тут на цябе клопат наваліцца. Там, відаць, газет не чытаеш». Дамоў званіў. Дамінічка: «Пятрушка — гэта расійскі герой?» Кажу: «Так». Дамінічка: «Нашыя героі смялейшыя й ке-

млівейшыя». Добра, што расце беларускай! «Ясачка»[1], «Штогод: Свету гэтулькі бачаць…» [у дзённіку], «На паруках у настальгіі»[2].

Званіў Самсону. Трэба рабіць фільм пра гаспадыню Белай вежы. Вежа, альбо на мове шахматаў тура, на шахматнай дошцы гісторыі. Гулялі дзяржавы. Дакладней, лёс, а прайгравалі дзяржавы.

*10 лютага, панядзелак*

Прыехаў з Нарачы. Праводзіў мяне палескі мядзведзь Правасуд. Яшчэ дуж паўлітра бальзаміну пад папяроску ўгаварыць. Цікава расказваў, як […] Мясніковіч[3] пазваніў былому сакратару Хойніцкага раёна, каб, не дабыўшы пуцёвачныя дні, ехаў рашаць кадравыя пытанні. Ён, гэны, здаецца, Санько, назначаны загадчыкам (ці як называецца) аддзела кадраў у [Лукашэнкі]. Гэны сакратар, калі выбухнуў Чарнобыль, зганяў усіх на першамайскую дэманстрацыю. Заслугі бальшавікі помняць.

*11 лютага, аўторак*

Засядалі ў ФС. Падтрымка кнігаў. Вядома, тут і крумкач Адраджэння Вова Арлоў — кіпцюрыстасць невядома адкуль. […].

*12 лютага, серада*

Зноў засядалі ў ФС. Званіў Васілю, і Васіль мне званіў. Змрок асядае і ў душу таксама. Культмасавік-забаўнік Марчук выхваляецца, што не будзе выдаваць Быкава й мяне. Толькі й варт вушацкае показкі: няхай жывець красуецца, пакуль на х.. не ўсунецца! […].

*13 лютага, чацвер*

Як конь, што ходзіць па крузе, рэжучы шчапу, так і я па паседжаннях. Сёння ў БелОКСе з яўрэямі. Таварыства «Беларусь — Ізраіль». Савецкія згуртаванні, усё адпаведна савецкае. Пад такім вялікім ціскам ужыўлялі нам ўсё савецкае, што цяпер няма адзінак вымярэння, каб вызначыць сілу нянавісці й агіды да ўсяго савецкага. Мяне Бог ратаваў. Таму й не прасаветызаваўся так, як некаторыя. Хоць, праўда, і мне трэба выціскаць з сябе савецкасць. Гэта хутчэй наркотык. Душой адчуваю, бо сам піць піў таленавіта, але ніколі не ўжываў наркотыкі.

Ішлі з паседжанняў. З Якавам Каламінскім[4]. Падыходзіць п’янюсенькі яўрэй. Мяне ведае, разгаварыліся, і Яшу, і жонку ягоную Аду таксама

[1] Гл.: Ясачкі: Голас хоча сцяць цесната (9.02.97, Нарач) // Збор твораў. Т. 3. С. 333.

[2] Гл.: На паруках у настальгіі (9.02.97, Нарач) // Босая зорка. С. 50.

[3] Мясніковіч Міхаіл Уладзіміравіч (н. 1950), беларускі дзяржаўны дзеяч, вучоны-эканаміст. Прафесар (2003). У 1995–2001 гг. кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта РБ.

[4] Каламінскі Якаў Львовіч (1934–2019), беларускі вучоны-псіхолаг. Доктар псіхалагічных навук (1981). Прафесар (1982). У 1995–2010 гг. гал. рэдактар час. «Псіхалогія». Заслужаны дзеяч навукі БССР (1987).

ведае. З Палесся, гадаваўся ў дзіцячым доме, Віктар Лейбавіч Корчак. Успамінае, як да вайны. «Сара, што ты сёння варыш?» — пытаецца Тэкля. Сара адказвае. Беларусы, казаў гэны Корчак, самая лепшая ў свеце нацыя, усіх церпіць. А беларуская гарэлка самая лепшая, бо абуджае бацькоўскія пачуцці. Корчак працуе на мясакамбінаце, але, відаць, і шмат чытае, і шмат ведае. «Ты, — кажа, — еш скарынку, а душу не прадавай».

*14 лютага, пятніца*

Сёння Міхасю Стральцову 60. 10 гадоў, як няма яго з намі. Ездзілі на магілку. Карлас, Леся [дачка] з матчынымі сяброўкамі. Памянулі. Паклалі кветкі. Пры гэтым надломлівалі кветкі, каб ханыгам было кепска прадаваць. Потым абед у былой «Беларусі». Адна дама потым казала: «Застаецца толькі тое, што зроблена галавой, рукамі й х..м». Лена Мішава ў Амэрыцы зарабляе нейкія грошы. Спачатку пакавала абеды авіякампаніі [...]. Але самае галоўнае, што яна з Зянонам сустрэлася. Шые бел-чырвонабелыя сцягі. Над Міхасёвай магілай цішыня й снег. Ён ужо часцінка зямлі. Часцінка вечнасці. Памяць пра яго жывая яшчэ ў жывых.

*15 лютага, субота*

З'езд ФС. Вяршыня савецкай ахламанізацыі. Як толькі ні патрабавалі ад пана Сораса справаздачы, куды й якія грошы ён ахвяраваў. Усю гэтую ахламонію добра падрыхтаваў [...] пасынак Дракахруста[1] Манаеў [...]. Антыбеларускі настрой, націск пятай калоны [...]. З усіх 9-ці чалавек у н[азіральную] р[аду] толькі я не прайшоў — бэнээфавец беларускай арыентацыі ды яшчэ бел-чырвона-белы значок. Тарас [...] не галасаваў, яшчэ пару такіх [...]. У выніку мне не хапіла 2-х галасоў. Хоць і падлік вёўся не ад патрэбнае колькасці галасоў. Ну, Бог з імі! Адно гідка — гэта як бы цябе купляюць, ацэньваюць, як тога пеўня на рынку. І гэтая антыбеларуская маса. Васіль добра сказаў, што ў Беларусі дэмакраты — гэта выбракаваныя прэзідэнтам кадры. Яны толькі й чакаюць, што заўважыць, пакліча назад. Я па наіву думаў, што апошнія гады распаду імпэрыі змянілі неяк людзей. Ніхуютанькі, як вушацкія кажуць. Тарас раказваў пра сябе, як на прыёме ў камсамол, — партызан юны, працоўны стаж на заводзе. Мне й сорамна за яго стала, і парашыў, што праваляць, — не. Наадварот — звыш 70-ці галасоў. [...].

Лінія на беларускасць праваліласяя, дзякуючы такім саўкам з пятай калоны.

[1] Дракахруст Аляксандр Абрамавіч (1923–2008), рускі паэт, перакладчык.

*16 лютага, нядзеля*

З Дамінічкай і Валяй да Палякова, каб яны паглядзелі фільм «Эвангелле ад Мамы». Дамінічка дужа хацела ўбачыць сябе. [...].

*17 лютага, панядзелак*

У Мінкультуры. Забраў п'есу на пераклад коласаўцам. Трэба нешта рабіць, бо кнігі мае, відаць па ўсім, выдавацца не будуць. Лукша напісаў новы данос. А тут яшчэ прыйшоў, каб знішчыць беларускую прэсу, [Замяталін]. Цягнуць нешта й коцю, які йшоў па канапе, за хвост.

*18 лютага, аўторак*

Да Карласа. Потым на Камароўку. Усё прадаецца з машын, куды танней, чымся ў крамах. Званіў Цвяткоў, кляўся ў любові да Васіля й мяне. [...]. Званіў Тарас: у [...] Саснова й сябра ягонага Манаева не ўсё атрымалася, як ім хацелася. Не магу дасюль адысці ад абразы, арганізаванай [...] Манаевым і [...] Андрэйчанкай.

*19 лютага, серада*

Прэзентацыя ў «Змене» фільмаў «Апошні човен» і «Эвангелле ад Мамы». Добра выступіў Якаў Якубоўскі[1]. Пра паэта, які клапоціцца пра іншыя нацыі, як пра бусла казаў. Пад канец: «Рускія цярпелі нас, татараў, 300 гадоў, а вам дзякуй, што цярпелі мяне 3 хвіліны». Тарас добра сказаў пра жэст. Як кроіцца сала, як кроіцца хлеб, якімі лустамі. Гэта кажа пра характар. Выступалі настаўніцы, якія помнілі мяне студэнтам. Адна вучылася ў Полацку, помніць, як спадабаўся дзяўчатам верш пра ножкі. Любыя ўспаміны — гэта пэўным чынам прэзентацыя хаўтураў. «Сам: Сам ворага свайго ствары...»[2] Чытаў Самсону, яму спадабалася. Гэта мы з ім на прыпынку трамвая тэму гэтую нейкім чынам прагаворвалі.

*20 лютага, чацвер*

Вечар Міхася Стральцова ў СП. [...]. Людзей было. Паказвалі тэлефільм «Самотнік». Дужа доўга двойчы парторг Карамазаў[3] [...] вяшчаў. Фільм слабы. Рабіў Лёня [Галубовіч]. [...]. Карлас пачытаў па-іспанску верш Міхасёў. Добра сказаў. Казаў пра Міхася й пра Блока. Якраз Блока й дужа любіў Міхась. Памятаю, як неяк пярэчыў яму супраць вялікасці Блока, казаў, што ў такіх дозах Блока не праглынеш, як выдаюць у зборах

---

[1] Якубоўскі Якуб (Якаў Адамавіч; 1932–1998), беларускі географ і гісторык. У 1991–1998 гг. гал. рэдактар час. «Байрам». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[2] Гл.: Сам (19.02.97) // Ксты. С. 210.

[3] Карамазаў Віктар Філімонавіч (н. 1934), беларускі пісьменнік, сцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя К. Каліноўскага (1990).

твораў. І ўжо ў гадах быў я, а разважаў па-блазнюкоўску. Гэта ўсё саветызацыя.

*21 лютага, пятніца*

Мяняецца надвор'е. З марозу раптам на адлегу. Мокры снег. Хляпа такая, як у нас казалі. Пазваніў Лапцік[1]. Аванс плаціць не будуць. Кніжку прытрымаць. Загад ад [Жарыкава] й [Замяталіна]. Лукша й Карызна зноў данос напісалі, чаму мяне выдаюць. Час даносчыкаў [...]. Праўда, што камуністаў давядзецца ўспамінаць як светлае мінулае. Яны хоць шыльдавасць захоўвалі.

Хадзіў на Камароўку. Усё прадаюць з машын танней. Чэргі, як за савецкім часам. Савок народжаны ў чарзе, жыве ў чарзе, памірае — і там чарга на магільнік, і там блат і хабар. Савок, ясна, у гэтым не вінаваты. Такі лёс.

*22 лютага, субота*

Зноў такая ж хляпа. Снег яшчэ макрэйшы. Хадзіў на Камароўку. Сяготаго купіў. Прыходжу — міжгорад. Гэта Сяргей Навумчык з Прагі. Павіншаваў з надыходзячым днём нараджэння. Казаў, што Васілёва «Сцяна» — бадай другая кніга пасля ў свой час «Архіпелага ГУЛАГа». Відаць, «Свабода» будзе чытаць усю кнігу. Яна, кажа Сяргей, як ніхто лепей выкрывае рэжым [...]. Я параіў яму адгаварыць Зянона ехаць жыць у Польшчу. Яшчэ з часін Расійскай імпэрыі там агентура. Дадуць якую сатнягу даляраў нашаму чайніку — заб'е. Прасіў Сяргея перадаць далікатна Зянону, што й Васіль такой жа думкі. Зянону лепей за ўсё пасуе Лёндан. Пажадаў, каб яны вярнуліся на белых конях. Потым званіў Васілю. Васіль мне раіў зрабіць слоўнік Вушаччыны. Бо словы жывыя знікаюць. А пачалося, што я спытаў, ці рыхлы ён. Рыхлы па-вушацку — значыць хуткі, рухавы. Як і па-чэску. Сяргей мне даводзіў, што ніякіх такіх грошай, пра якія плявузгае саўбелпрэса, яны не атрымлівалі. Хоць, кажа, не адмовіліся б, каб давалі, і вокам не міргнуўшы. Яшчэ наконт іхняга ад'езду. Я супакоіў: усе, хто асуджае іх, кэгэбісты й недалёкія людзі. Самім у пятлю лезці не варта. Наконт [Замяталіна] я растлумачыў, што гэта [Лукашэнка] кінуў палкоўніка разбурыць апошні агмень беларушчыны — нацыянальныя выдавецтвы, і часопісы, і газэты.

Сустрэў Оліка Шклярэўскага[2]. Ігар курыруе аддзел рыбалоўства ў газэце, на дом прыносяць матэрыялы, ездзіць браканьерыць на Поў-

---

[1] Лапцік Вячаслаў Віктаравіч (н. 1952), беларускі пісьменнік; супрацоўнік выд-ва «Полымя».

[2] Шклярэўскі Алег Іванавіч (н. 1946), беларускі кінарэжысёр, аператар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (1994). Брат І. Шклярэўскага.

нач. З нейкім такім жа [...] прыватызаваў більярдную. Магілёўскія ўсе ўчэпістыя.

*23 лютага, нядзеля*

Званіў Васілю. Зноў ён натхняў мяне на вушацкі слоўнік. Трэба, каб засталося. Можа, некалі спатрэбіцца. Гэта, можа, галоўнейшае, што застанецца. Кажу, што ад мамы ўзяў усе словы. Васіль: «Ад цябе ўжо не возьмуць ні дачка, ні ўнучка, не таму, што не захочуць, а таму, што ў іх іншы накірунак. Гарадскім ужо няма ад каго браць натуральную мову...»

*24 лютага, панядзелак*

Вось мне й 62. Наадварот бы пераставіць лічбы. Раньком пазваніў з Віцебска Міхал Крывёнак[1], родам з Ваўча. Разам дровы рэзалі, разам вучыліся ў школе. Сказаў, бо маці распавядала, што нашыя маці разам ляжалі ў вушацкім раддоме. Міхал нарадзіўся на 6 дзён пазней. У гэтым званку й расповедзе нешта роднае, вушацкае. Як бы пацвярджэнне, што ніці мае з зямлёй роднай не рвуцца. Званіў Радзік, Дранько, Тарас. А а 9-й раніцы прамая перадача — па тэле віншавалі з праграмы «Времечко» з Масквы. Спыталі, ці пачуваю я сябе класікам, адказаў: «Калі адчую, значыць, я памёр». Пажадалі доўга жыць. Дарэчы, на добрай беларускай мове павіншавалі й пажадалі здароўя й моцы. З Масквы могуць, калі хочуць, у нас могуць, ды не хочуць.

[...].

Наладзілі віншаванне ў Фондзе Сораса. Пітэр[2] перадаў прывітанне й віншаванні ад самога пана Джорджа Сораса. Высокі гонар. Сабраўся ўвесь фонд. Карлас ад імя ПЭНа кветкі, шыкоўны букет. Ад імя фонду — кухонны камбайн. Рады за Валю. Сам я такога ўжо ніколі не куплю. Прасілі чытаць. Чытаў «дурноты». Потым да Наташы [Давыдзенка], дзе сабраліся нашы. Быў і Ганад, і Глеб Артханыч. Застолле пачалося сюрпрызам. Адкаркавалі «Крамлёўскую» ў супер-пляшцы, разлілі, а там шчырая вада. Гісторыя гэтай бутэлькі доўгая. Адна актывістка з БНФ прасіла перадаць Савічу[3] як прэзент, бо паступала дачка вучыцца на мастачку. Дачка не паступіла, да Савіча я так і не трапіў, бо ён дужа заняты й наадрэз адмовіўся ад прэзента. Як адчуваў.

Ліна Каўрус пра капусту. Актывіст БНФ распаўсюджваў улёткі. Каб быць, як камуністы, канспіратарамі, назвалі гэта «капустай». Пасля

---

[1] Крывёнак Міхаіл Фадзеевіч, аднакласнік.

[2] Берн Пітэр, выканаўчы дырэктар Беларускага Фонду Сораса.

[3] Савіч Уладзімір Пятровіч (н. 1952), беларускі графік. З 1976 г. выкладчык, заг. кафедры графікі БДАМ. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1990). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ (2009).

шчыравання звоняць у мясцовы цэнтр: усё амаль збыў, засталося 300 «качаноў капусты». Затлумлены мясцовы кіраўнік праз вушы прапусціў. Бліжэй да зімы нейкая маладзіца сказала, што няма капусты ў зіму ставіць. Ён і кажа: а ў таго 300 качаноў. Маладзіцы туды: «Ёсць капуста?» — «Ёсць». І выносіць у цэлафане 300 экз. улётак. Спачатку разгубленасць, а потым смех.

За сталом успаміналі пра маладыя гады. Сумна было глядзець, як пастарэлі нашыя дзяўчаткі. Пра сябе не кажу — сівы як конь. Усе застоллі становяцца рэпетыцыяй развітання, рэпетыцыяй таго апошняга застолля. Сёмуха казаў, як вучыў Лесю некалі вывучыць адзін мой малапрыкметны верш і чытаць, каго ні выцягне на экзаміне. Выцягнула Пысіна[1] й прачытала мой верш. Сышоў за Пысіна. Пяцёрку атрымала. Ілона атрымала нейкія слёзы й нават не пазваніла. Знікла са сваім [Косцем].

*25 лютага, аўторак*

Да Карласа. У Саюз пісьменнікаў, як быццам труп ляжыць ці шмат трупаў. Нейкае адчуванне сумнага канца. Па маім узросце й старэй. А маладыя неяк выб'юцца на дарогу беларускасці. [...] не ўдасца ўсё-ткі поўнасцю знішчыць усё беларускае. [...].

*26 лютага, серада*

Да Васіля на абед. Нейкі зменены ў яго выгляд. Вочы паглыбелі, позірк неяк аддаліўся ў глыбіню. Гэта ён зачасаў валасы назад. Ужо багата белыя. А я звык да ягонага дзекабрысцкага ўчасання. Прыгадваў, як некалі яго зацягнуў Кузьмін[2] да вялікага немтура Шауры[3], нашага земляка ў маскоўскім ЦК. Той між іншым сказаў: «Мы велічыні часовыя, а яны (пісьменнікі) пастаянныя». Нават партбульдог зразумеў нешта. [...]. Сумна. Заўважыў Васіль, што кніга ўжо аджыла, цяпер кампутары, інтэрнэт. Цэлую торбу падарункаў — кашулю, цёплыя пальчаткі, блакнот пад вушацкі слоўнік, паштоўку з вершам Васілёвым. Ён паэт у душы, іначай не магло быць, бо нарадзіўся ў нашых мясцінах.

*27 лютага, чацвер*

Занёс ў «Бярозку» Ягоўдзіку тры казкі-пераказкі. За гэтулькі гадоў упершыню ў часопіс зайшоўся, дзе пачынаў працу [...]. Тут жа п'янюткі,

---

[1] Пысін Аляксей Васільевіч (1920–1981), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1968).

[2] Кузьмін Аляксандр Трыфанавіч (1918–2003), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч; сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі (1971–1986).

[3] Шаура Васіль Філімонавіч (1912–2007), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч; заг. аддзела культуры ЦК КПБ (1965–1986).

болей на паказ, Сыс[1]. З-пад кашулі, каля голага жывата, вымае раз-пораз бутэльку з «белай» ды п’е з горла. Кажу: «Закусі». З кішэні скуранога паліто вымае чэрствы кусанік хлеба. Я йду, і ён са мной. У адным шапіку просіць даць 20 тыс. Даю — яму вяртаюць членскі білет пісьменніцкі. Ідзем далей праспэктам. Усё прыкладваецца да горла. Глыткі маленькія, паказныя. На шыю кладзе нейкую складзеную ў чатыры столкі хусцінку, кажа, мотальскае работы. П’е каля помніка Якубу Коласу. Просіць даць грошы. Кажу: «Дам 20 тысяч, бо ў самога застаецца столькі ж». Хоча праверыць кашалёк. Кажа: «Трэба, каб былі й беларускія алкаголікі». Калі потым казаў пра гэта Васілю, ён ўдакладніў: «Каго-каго, а алкаголікаў у нас хапае». Любіць маці, яна з 23-га года. Пэнсія даяркі недзе 400 тысяч. Яму прыслала сто тысяч. Любіць маці так, што пасылае яе на х.., яна адна толькі яго разумее. Калі піша вершы, павінен быць адзін. Крычыць, лезе на сцены, каб напісаць як ніхто. Зноў да мяне, ці не жыд я. Папярэдзіў, каб наглеў, але не дужа. Пацішэў. На плошчы Перамогі сарваў у мяне з галавы шапку аўчыную, мне ўторкнуў на галаву сваю маленькую летнюю. Давялося даганяць шапку. Прасіў напісаць пра яго кепска ў «Крыніцу», бо будзе прасіць Разанава даць яго на ўвесь нумар як постаць. Адказаў, што напішу ўсё, што думаю. Супакоіўся. Усё-ткі гарэлка перамагае яго. Шкада. У вечным двухбоі гэтым яшчэ ніхто не перамог гарэлку. Дарэчы, пазнаў сваю ікону, у фільме «Эвангелле ад мамы». Гэта ён мне некалі падарыў, а Віктар Стрыжак[2], светлай памяці, дзве іконы драўляныя з Гомельшчыны. Сыс казаў, што раней краў іконы па хатах, а потым адумаўся, пазваніў у Гомель у музей, прыехалі, і ён аддаў шэсць дзясяткаў іконаў.

*28 лютага, пятніца*

Прыязджала Валя [Кірылава] з віцебскага ФС. Прывезла кніжкі «Шагалаўскія чытанні». [...]. «Старасць — Маладзейшая сястра...» [у дзённіку].

Мне ўсё не выходзіць з галавы Сыс. Кажа, што зборнік рыхтаваць не будзе — хай пасля разбіраюць і выдаюць нашчадкі. Наіўны, калі спадзяецца. Нашчадкі, асабліва навейшыя нашчадкі, і пальцам не кіўнуць. Вядома, што ў яго няма нічога новага, бо ў такім стане цяжка пісаць. І яшчэ пытаўся, які загаловак лепш — «Ягамосць» ці «Лён». Я сказаў — першы, ён за другі. Ягоны зборнік, дай Бог, каб выдаў, і ягонае імя зборніку. У літоўца Плацялеса быў выдатны зборнік і верш «Шляхам лёну». Сыс ведаць гэтага не можа. Паміраюць нашыя паэты і ў асноўным пакідаюць пасля сябе легенды, а не творы.

[1] Сыс Анатоль Ціханавіч (1959–2005), беларускі паэт.
[2] Стрыжак Віктар Іванавіч (1955–1995), беларускі паэт.

*1 сакавіка, субота*

Сядзеў дома. Перакладаў п'есу для коласаўцаў «Тайбеле й ейны дэман»[1]. Нахапкамі смакаваў старадаўнія албанскія паданні. «Хоць бы вам...: Панавітыя спадары...» [у дзённіку]. «Салям! Чалом!»[2]

Неяк сустрэў Арлена Кашкурэвіча. Нёс нешта ў часопіс. Жыць цяжка. Пайшоў выкладаць у так званы Эўрапейскі ўніверсітэт ([...] Міхайлава), хоць 4 мільёны даюць.

*2 сакавіка, нядзеля*

Хадзілі з Дамінічкай да Радзіка. Дамінічка мульцікаў наглядзелася ўдосыць. Радзік ходзіць на курсы вадзіцеляў — гэта першы званок на ад'езд. А што ён там будзе рабіць? Ці трэба ён там? І сам, бедны, не ведае. Выкладаць у ўніверсітэце, трэба мову ведаць. Маленькі сынок хутка натуралізуецца. А ён будзе ні тут, ні там. Бо бацькі адсюль, як вясковая радня ў горадзе. Добра мець гістарычную радзіму, а лепей — рэальную, сучасную, няхай такую, як у нас, беларусаў. [...].

Дзіўнае, нават дзівоснае гэта адчуванне радзімы. Колькі ні жыву ў Менску, а душа басанож ходзіць там, каля Вечалля, каля Ваўчэнскага возера. І думкі там жа.

«Засвой!»[3]

*3 сакавіка, панядзелак*

Надвор'е толькі на сучынае вяселле. Круціць вецер. Нарывае мокры снег. Меўся схадзіць да Мазынскага[4] на юбілей яго й ягонай «Вольнай сцэны». Не змог. А ў дадатак, як падумаеш, што там яроменкі ды дударавы — і пры здароўіісці не хочацца. Мучаю п'есу коласаўцам. І лёгка йдзе, і цяжка з галавой цяжкою. Атрымаў пэнсію. Яна робіцца адзінай крыніцай майго існавання. А Дамінічка маленькая. Як падумаю, аж жыць не хочацца. І жыць трэба, бо хто яе затуліць, маю апошнюю крывіначку. А яшчэ Мірон — самы любімы мой. Адчуванне, што з-пад ног зямля ўцякае. Загружаеш сябе тлумам, які называецца тэрміновай работай, а ўвесь час Яна без словаў, нават без ценю нагадвае пра сябе.

---

[1] Зінгер Айзек Башэвіс (Іцхак; 1904–1991, ЗША), амерыканскі яўрэйскі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1978).

[2] Гл.: Салям! Чалом! (1.03.97) // Руны Перуновы. С. 387.

[3] Гл.: Засвой! (2.03.97) // Як воўк калядаваў. С. 4.

[4] Мазынскі Валерый Яўгенавіч (н. 1947), беларускі тэатральны рэжысёр. У 1993–2000 гг. мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1984). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

*4 сакавіка, аўторак*

Званіў Васіль. Мяне шукае Лукашук[1] са «Свабоды». Заўтра будзе званіць з раніцы. Каля паўночы пазваніў Рамейка[2] з Баранавічаў. Гадоў 25 ад яго ні гуку не было. П'янюткі. Успамінаў маю маму. Хоча выслаць свае графічныя працы. Мне раіў не лезці ў палітыку. Плакаў. Відаць, грошы яшчэ не ўсё ў жыцці, зразумеў пасля 60-ці. А пачынаў задзірыста. Казалі, што займаўся чаканкай, чаканіў грошы. Цяпер мае сваё атэльё. Пачынаў як таленавіты графік, з элементам наватарства. Мы ездзілі з ім у Вушачу. У лесе былі згубіліся. Сымбалічна згубіліся. На чвэрць стагоддзя. Ні гуку, ні паўгуку. Як ні дзіўнавата гэта гучыць, але жыццё купляе людзей, як тых парасят у кашы, што на базар прывезлі. У кашы разам, а купляюць — паасобку. «Хто?»[3]

*5 сакавіка, серада*

Званіў з Прагі са «Свабоды» Лукашук. Трэба сказаць колькі словаў пра гісторыю невыдання Васілёвай «Сцяны». Заадно Лукашук раіўся, якую музыку [дадаць]. Кажу, паспрабую выведаць у Васіля. Потым званю Васілю. Жартуе: цяжкі метал. Ці «Інтэрнацыянал»[4]. Бо ўсё нашае жыццё пакладзена на «Інтэрнацыянал».

* Дамініка: «Я мала напалохала цябе, каб самой не напалохацца».

*6 сакавіка, чацвер*

Запісаў слова пра Васіля, дакладней, як не выпусцілі «Сцяну», на «Свабоду» па тэлефоне. Сустрэўся з Цыбульскай, ёй трэба падагнаць пад музыку «Рыбку» Міцкевічаву[5]. Музыка Манюшкі[6]. Потым з Сёмухам гадзіны дзве хадзілі па Менску. Яго бядзіць клопат, яму бядзіць (так правільна) памірыць айца Мікалая й айца Ізяслава — іерархаў нашае аўтакефаліі ў замежжы. Глыбока нацыянальны, глыбінна інтэлектуальны Сёмуха ў побыце ўпарты казёл. Ды гэтым ён і мілы. Цікава распавядаў, як генерал КГБ разважае: «Была дыктатура пралетарыята — правільна,

---

[1] Лукашук Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; н. 1955), беларускі журналіст, публіцыст, празаік. З 1993 г. супрацоўнік Радыё «Свабода» (Прага).

[2] Рамейка Уладзімір Паўлавіч (1937–2012), беларускі мастак, графік, чаканшчык.

[3] Гл.: Хто? (4.03.97) // Босая зорка. С. 13.

[4] «Інтэрнацыянал» (1871) — міжнародны пралетарскі гімн. У 1918–1943 гг. гімн Савецкай дзяржавы. Сл. Э. Пацье, муз. П. Дэгейтэра (1888), рускі тэкст А. Коца (1902). *Пацье* Эжэн (1816–1887), французскі паэт. *Дэгейтэр* Пьер (1848–1932), французскі кампазітар. *Коц* Аркадзій Якаўлевіч (1872–1943), рускі паэт, перакладчык.

[5] Міцкевіч Адам (1798–1855), польскі паэт.

[6] Манюшка Станіслаў (1819–1872), польскі кампазітар, дырыжор; стваральнік польскай нацыянальнай оперы. Ураджэнец Беларусі.

потым дыктатура кампартыі — правільна, цяпер трэба дыктатура КГБ». Яна ў нас ёсць і доўга будзе [...].

*7 сакавіка, пятніца*

Заходзіў у выдавецтва. Віншуюць дзяўчат. Выдавецтва мне ўжо чужое. Няўлоўным нечым, але чужое. Бегае вусацік Марчук. Ганад заняты праблемай выручыць пляменніка з палону. Падумалася, усё-ткі ўскосна Ганад прывёў у выдавецтва гэтую давідгарадоцкую нікчэмнасць. Гэта сваім артыкулам у [...] «Совбелоруссии». У «Звязду» Карлюкевічу прадыктаваў экспромт:

Дзяўчаты, пані, маладзіцы!
Жадаю вам удачы ў марцы.
Хай будзе ліцца — не цадзіцца —
Хмель смелы, ашалеўшы ў чарцы.
Каб вас пяшчота асланіла,
Каб мелі моцную апору.
Вы — тая цяглавая сіла,
Што цягне воз кахання ўгору.

*8 сакавіка, субота*

Дзіка ненавіджу гэты савецкі звычай. Як быццам апроч 8 Сакавіка можна не помніць тых, хто дораг, каго любіш. Дабіваў п’есу «Тайбелэ й ейны дэман». Дабіў. У тэксце былі словы, дзе Элхонэн ведае, пра што думае камень. Я напісаў: «Пра што думае камень»[1].

*9 сакавіка, нядзеля*

Валя з Дамінічкай пайшлі ў оперны. Дзіцячы (у сэнсе — для дзяцей) балет. Юлія Гурко нешта рабіла. Прыслала білеты. А я цэлы дзень змагаўся з галаўным болем. Знадакучыла мне гэтае змаганне. Ясна, што пераможцам буду не я, а ён, боль. Чытаю старадаўнія албанскія паданні. Як і чалавек аднолькавы толькі з адценнямі, так і фальклор з нацыянальнымі адценнямі. Трэба шмат прачытаць фальклору баладнага, волатавага па магчымасці шмат якіх народаў. Можа, Бог дасць мне яснасць і напішу нешта кшталту «Гаяваты»[2], толькі беларускае. «Нельга!: Зношваецца побыту радно...» [у дзённіку]. У здаровым целе здаровы дух, а ў хворай галаве хворыя думкі. Цемра цісне з усіх бакоў. Жах.

---

[1] Гл.: Пра што думае камень (8.03.97) // Босая зорка. С. 69.
[2] Паэма Г.-У. Лангфелло. Пер. І. Буніна (1896). *Лангфелло* Генры Уодсуорт (1807–1882), амерыканскі паэт, вучоны-філолаг, перакладчык.

*10 сакавіка, панядзелак*

Пайшло на цяпло. Ці надоўга. Бо казалі ў нас: яшчэ й марац пад нос зашмарыць. Эдуарду Зарыцкаму аднёс перадрук верша на песню з прыпевам:

«На паруках настальгіі…» Усе дні мае ўжо на жаль на паруках у настальгіі. Змрок і жуда.

*11 сакавіка, аўторак*

Позна ўначы ўдалося адносна чыста пачуць працяг перадачы «Свабоды» па «Сцяне» Васілёвай. Трэба было сустрэцца з Карлюкевічам у «Звяздзе», не змог. Па мне верх паняла хвароба. Дый настрой. Улада […] бярэ ўсіх у кашчавыя абдымкі.

*12 сакавіка, серада*

Занёс Але [Смуразе-Гаўрон] на перадрук п’есу. У выдавецтве чужавата. Лявон сказаў, што ахламон з культмасавіцкім ухілам Снарскую адсунуў, бо мая прадмоўка. Зайшоўся ў выдавецтва «Полымя». Лапцік нічога не можа зрабіць — указанне дзіцячы мой зборнік трымаць. У думках я крыху зрэстаўраваў 37-мы год. А ў «Крыніцы» зноў, на гэты раз […] Ала Сямёнава зноў праехалася па мне, падтрымала [… Шупеньку]. Кусаць за пяткі любяць усе. А яшчэ гэты хлеў, які завецца Саюзам пісьменнікаў, куды сагналі ўсіх свіней. Усіх у бальшыні сваёй яднала пачуццё лыча ў карыце, зайздрасць і гатоўнасць напісаць данос. Якраз данос, як бы ён ні называўся. Цяпер карыта пустое й абгрызенае галоднымі. І рэанімуюцца савіцкія, […] скобелевы.

*13 сакавіка, чацвер*

Сядзеў у асноўным дома. Надвор’е шалёнае. […]. Адзін клопат збыў з галавы. Другі вісіць — славуты зямляк Ян Баршчэўскі. Пакуль увайшоў ў гэты верш, які мне цяжкавата рабіць. Тым часам пісаў «дурноты». «Цнатліўка: Як крытычны ўзрост перасягне…», «Вылучэнец: Смярдзяць шашкі спрадвеку ўсе…», «Баліць галава: Расія, Польшча, Літва…» [у дзённіку]. «Журлівы тост»[1]. Выконваю наказ Панчанкі: «Калі пішацца, кідай ўсё й пішы, бо й паседжанні будуць, і сустрэчы будуць, а гэтага настрою можа не быць». Ужо амаль няма каму чытаць. Радзік ды Самсон — яны разумеюць паэзію і ўмеюць слухаць.

*14 сакавіка, пятніца*

Усё-ткі Алесь Карлюкевіч вытурыў мяне, як мядзведзя з берлагу. Хадзіў да яго ў «Звязду» на гутарку. У сувязі з вельмі добрай прычыны —

[1] Гл.: Журлівы тост (13.03.97) // Дзённікі і запісы. Вып. 3. 1979–1982. Мінск: 2016. С. 30.

першым томам майго Збору твораў. Відаць, ён першы й будзе. Хадзіў у «Нёман». Кажучы высакапарна, літаратурны працэс ідзе. Але ён мне нагадвае Леніна ў саркафагу. Сустрэў Ілону. З [Косцем] бегла з Палаца мастацтва. Гэта з 24 лютага й носу не паказала. Залатое дзіцятка, што й казаць. «Паразуменне»[1]. [...]. Званіў Куксо. Прыехаў да маці з Масквы. Адчувае сябе белым чалавекам. А ў нас яго трымалі ў чорным целе.

*15 сакавіка, субота*

Б'юся над Янам Баршчэўскім. Адчуваю, што сілы ў мяне не гэтак і шмат. А трэба працаваць і працаваць. Галеча сціскае мацней у сваіх абдымках. Званіў Васілю. Сапраўды, да чаго дайшлі камуністы — ішлі сёння пад бел-чырвона-белым. Новікаў[2] нават па-беларуску гаварыў, і прытым лёгка. [...].

* Дамініка: «У ваннай бултыхнулася з галавой. Хацела крычаць: «На падмогу!» — але не было, чым крычаць».

*16 сакавіка, нядзеля*

Слухаў па «Свабодзе» Васілёву «Сцяну», а потым Дубаўца. Адмаўляе ўсялякія акцыі Адраджэння, барацьбу за мову. Стаўка на прыстойнага чалавека, які мусіць яшчэ вырасці. Прыстойнасць — паняцце беспамернае, як капронавыя панчохі. Толькі з іншымі фармулёўкамі пра гэта клапаціліся й камуністы [...]. У слове *прыстойны* ёсць яшчэ значэнне *прыстоіць,* пачакаць, а не рухацца рашуча. Прыстоіць, пачакаць, калі галаву, як пеўню, скруцяць. Наогул, Дубавец, хай Бог даруе, калі памыляюся, гэта адукаваны і звышразумны, халодна разумны [Лукашэнка]. Яго распірае ад жадання дыктаваць сваё. Усё ацэньваць толькі яму. Іншадумнасці ён не церпіць горай за [Лукашэнку]. Але гэта асоба. І такая дужа трэба нам, каб цвяліць застылыя мазгі парадаксальнай логікай. «І помніць...: Калі адпачыць наважыцца дзень...» [у дзённіку].

*І справа, і страва*

Палітыка — такая справа,
Што славу й ганьбу прынясе.
Палітыка, як тая страва:
Ледзь пакаштуеш — пранясе!

---

[1] Гл.: Паразуменне (14.03.97) // Ксты. С. 288.

[2] Новікаў Яўген Віктаравіч (н. 1956), беларускі ўрач, юрыст. У 1992–1998 гг. узначальваў Беларускую Лігу правоў чалавека.

*17 сакавіка, панядзелак*

[Лукашэнка] не пусціў Пітэра назад у Менск. Прадажнае тэле праз паліт]…] Хрушчову[1] слова ў слова паўтарыла тое, што казалі трое: Манаеў, […] з юрыдычнай адукацыяй Андрэйчанка й […] Сасноў. Сасноў трохі і ў БНФ быў, і міністрам працы, а потым быў […] накіраваны ў ФС, каб заняць пасаду Пітэра. Усё-ткі мне ўдалося адбіць, пераканаць пана Сораса, што кіраваць мусіць амерыканец. За зрыў […] плана мяне й вычысцілі з фонду. Званю Васілю, перадаю просьбу Пятроўскага сказаць слова пра Алеся Адамовіча ў кінафільме пра Алеся. Згаджаецца, але кажа, калі пацяплее. Бо такім надвор'ем можа толькі енк запісаць. Васілю нешта блага, і сасуды, і лёгкія. Вясновыя хваробы небяспечныя. Барані, Божа, анёла нацыі нашай. «Хацела б…»[2] Цікава. Званю Ганаду. Пытаюся пра ягоныя справы. Між іншым ён кажа, што жончын аднакласнік — міністр КГБ[3] хворы ляжыць у Маскве. Як і належыць чыноўніку з філіялу Лубянкі. Фармальна ж ён міністр КГБ самастойнай дзяржавы. Гэта нагадвае, як Тува была самастойнай дзяржавай, а партузносы тувінскія камуністы плацілі ў Краснаярск.

*18 сакавіка, аўторак*

Забраў перадрук п'есы. Хадзіў у ПЭН-цэнтр, падпісаў дыпломы Багушэвічаўскай прэміі. Бо Васіль яшчэ не ведае, што яму мы з Карласам рашылі даць. Чаму й падпісваў я, бо афіцыйна ён старшыня. Сёння ў «Звяздзе» інтэрв'ю Карлюкевіч даў. Васілю спадабалася, дзякаваў за падтрымку, ды асабліва яму (і мне, вядома) спадабалася фота Пясецкага[4]. На лацкане наш святарны бел-чырвона-белы. Сустрэў Генадзя. Да яго прыходзіў Ніл, каб Генадзь узначаліў ТБМ. […] грошы не стала ў арганізацыі, створанай КПБ […], каб Ніл быў дэпутатам. Генадзь правільна не пагадзіўся йсці апазадзь […].

*19 сакавіка, серада*

Званіў Белы й дзякаваў, што параіў яму рабіць прэзентацыю ў касцёле. А то Зуёнак вадзіў яго за нос. Адчуваў я, што Васю, як называў яго Сачанка — кату′ ў вазонах ці па маім ахрышчэнні цішайшаму, нешта паабяцалі […]. Выходзіць, што выслужыў ганаровага акадэміка. Трох прапанавалі: Васю, Ніла й яшчэ некага адпаведнага палёту з курасадні. У свой час Васіль рашуча адмовіўся ад такое ласкі рэжыму […].

---

[1] Хрушчова Інга, беларуская журналістка.

[2] Гл.: Хацела б… (17.03.97) // Ксты. С. 300.

[3] Мацкевіч Уладзімір Аляксандравіч (н. 1947), беларускі ваенны і дзяржаўны дзяч. Генерал-лейтэнант КДБ. У 1995–2000 гг. старшыня КДБ РБ.

[4] Пясецкі Яўген, беларускі фотамастак, паэт; вядучы фотакарэспандэнт газ. «Звязда».

*20 сакавік, чацвер*

Не падабаецца мне здароўе Васілёва. Божанька літасцівы, патрымай апостала нацыі яшчэ. Званю яму, дзелімся навінамі. Васіль мне нанач тлумачыць: «Ты маеш права не адчыняць дзверы міліцыі, калі толькі не крымінальная справа». У нас усё могуць зрабіць, усё зрабіць крымінальнай справай. [...]. Ідуць вадаспады памыяў на ўсіх хоць трошкі дэмакратаў. Служба бяспекі [...] павальна правярае, рэвізуе фінансавую дзейнасць усіх дабрачынных незалежных фондаў [...].

*21 сакавіка, пятніца*

З аднаго боку мне падабаецца перакладаць Яна Баршчэўскага, а з другога боку падганяюць тэрміны й цяжка змірыць насалоду з прымусам. Але, відаць, гэта й закон, і сутнасць жыцця. Любая проза, работа ў сваім першазначэнні — гэта прымус. У слове *праца* й *пярун,* і *пратаць,* і *прасаваць,* усё высілковае, прымусовае, якое цісне, перыць. А ў слове *работа* — і раб і робат, і горб і гроб. І на службу не хаджу, а ўвесь у даўгах (у сэнсе здачы зробленага), як у шаўках. Ці, як у нас казалі, у даўгах, як елка ў суках. Учора ўночы з парады Самсона паглядзеў камэту, якая яшчэ прыляціць праз 8 тысячаў год. Як расціснутая зорка. Паслязаўтрага яна наблізіцца да Сонца на адлегласць у 140 мільёнаў кіламетраў і да Зямлі — на 200 мільёнаў кіламетраў. Хвост камэты расцягнуўся ў касмічнай прасторы болей як на 150 мільёнаў кіламетраў. На небе яна будзе выглядаць большай за Сонца й Месяц. Імя яе Хейла-Бопа. Хадзіў пазябнуць на сакавіцкім марозе. Пісаў. «Паўтараць...»[1], «Рэпетыцыя: Ніхто на сабе не прымерыць труну...» [у дзённіку]. Апошнім часам пішу амаль як у песні «Разлука»: «Рука моя писала, не знала, для кого...»[2]. «Як на вяселлі...: На бочку возера абручы...» [у дзённіку].

*22 сакавіка, субота*

Як галернік на перакладзе Яна Гушчавай[3] «Жыццё сіраты». Як хочацца падчас усё рынуць, ды слова даў Кастусю Цвірку[4]. У «Свабодзе» інтэрв'ю з драматургічным [...] Дударавым. Загаловак «Сааўтар Шэкспіра[5]». На ўзроўні макаёнкашамякінскім. Колькі атрымаў за п'есы, колькі

---

[1] Гл.: Паўтараць... (21.03.97) // Ксты. С. 305.

[2] Руская народная песня «Разлука ты, разлука...».

[3] Агаворка, на самой справе Я. Баршчэўскага.

[4] Цвірка Кастусь (Канстанцін Аляксеевіч; н. 1934), беларускі паэт, перакладчык, даследчык, выдавец. Кандыдат гістарычных навук (1972). У 1984–1996 гг. рэдактар аддзела паэзіі час. «Полымя», з 1996 г. гал. рэдактар выд-ва «Беларускі кнігазбор».

[5] Шэкспір Вільям (1564–1616), англійскі драматург, паэт.

можна было купіць «Волгаў». Яшчэ, што ён закончыў ГПТВ[1]. [...]. «Ідзі ў...: І Дудараву сам Шэкспір...»

*23 сакавіка, нядзеля*

Сёння мітынг. Зноў разганялі. Хапалі. Білі. Узялі Захаранку, былога міністра міліцыі. Ён жа першы прымяніў гэта тады. Цягаў воўк, пацягнулі й воўка. Дый маладзечанскі мэр Карпенка апомніўся. А калі хацелі раскалоць БНФ, стварыў «Згоду»[2]. Вось і згадзі́лася, бо зга́дзілася згода. Сам бы я пайшоў, ды апошнім часам кепска мне з галавой. Болі невераемныя. Таму, відаць, і не магу пераносіць зборышчы фізічна, не кажучы ўжо пра псіхалагізм.

*24 сакавіка, панядзелак*

З Карласам да Васіля. Цяжка было сказаць, што мы яму прэмію імя Багушэвіча прысудзілі. Адразу запярэчыў. Давялося доўга прыводзіць контраргументы. Што, бач, не можа ўзяць прэмію ад міжнароднага імпэрыялізму. Распавядаў, што потым зразумеў, як яго хацелі ўслед за Салжаніцыным[3] зрабіць эмігрантам. Пасылалі аднаго, вядома, у рукі завербаваных Лубянкай. Думаў, што немцы спачуваюць нам у нашым памкненні да самастойнасці, да нацыянальнага адраджэння. А яны аднойчы проста сказалі, што гэта іх зусім не цікавіць. Перайшлі з Васілёвага пакою ў вітальню. Карлас распавядае пра Хельсінскі камітэт, пра тое, якую ён хоча ўнесці папраўку, каб назіральнікі Хельсінскага камітэта былі пад абаронай ААН. Ірына Міхайлаўна кажа Васілю: «Тут жа, правяралі, якраз і йдзе запіс». Васіль: «Ну і няхай». Ірына Міхайлаўна толькі рукой махнула.

* Дамініка бабе: «Ты кажаш, што ў мяне фігуры няма, а калі я сяджу на гаршку, у мяне ідэальная фігура».

*25 сакавіка, аўторак*

Вялікае свята. Угодкі абвяшчэння БНР. Віншую Васіля. У Палацы мастацтва выстава «Пагоня» — суполкі нацыянальных мастакоў. Дзве працы й Ілоніных. Народу шмат. Шмат якія рэчы перавернуты тварам да сцяны — забаранілі. Выдатная рэч лялькі — шаржаватыя партрэты [...]. Ад імя ПЭН-цэнтра ўручылі прэміі імя Францішка Багушэвіча Міхасю

---

[1] ГПТВ — Гарадское прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча. А. Дудараў скончыў Наваполацкае прафесійна-тэхнічнае вучылішча нафтавікоў (1968).

[2] Партыя народнай згоды (з 1992). Да расколу партыі ў 1995 г. Г. Карпенка — яе старшыня.

[3] Салжаніцын Аляксандр Ісаевіч (1918–2008), рускі пісьменнік. Быў рэпрэсаваны (1945–1953). У 1974 г. пазбаўлены савецкага грамадзянства. У 1974–1994 гг. жыў у Швейцарыі і ЗША. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1970), Дзяржаўнай прэміі РСФСР (1990).

Чарняўскаму[1], Лявону Баршчэўскаму й Васілю Быкаву. Дамінічка была з Валяй. Як ішлі, радавалася: «Нарэшце пабачу самога Быкава». Зляпіла баравічок з пластэліну і дала Васілю.

Калі Васілю ўручылі букет, ён пачаў пасля ўрачыстасці шукаць вачыма, каму б яго аддаць. Так было й на 70-годдзі, калі Літмузей рабіў ягоную выставу. Усе кветкі пакінуў дзяўчатам, сабе ўзяў колькі валошкаў. І тут кажа Паўлікавай: «А можа, Вам падарыць кветку?» Людміла разгубілася. Бярэ й кажа: «Ці не засушыць мне гэтыя кветкі?» На памяць, значыцца, ад самога Васіля Быкава. Як мыла з'еўшы стаяў цыбаты Гілевіч. […]. «Гэта ж трэба, мяне не заўважылі…» «Не застаецца…: Цікавішся, пакуль жывеш…» [у дзённіку].

*26 сакавіка, серада*

Прэс-канфэрэнцыя ў ФС. Перад канфэрэнцыяй усё сказаў рыжаму сынку[2] Аляксандра Дракахруста пра ягонага зводнага братка [Манаева], […] вялікадзяржаўніка па духу й сутнасці сваёй. Валянцін Тарас выступаў у сваёй ролі — актора масавых сцэнаў, Алексіевіч доўга з ухілам на інтэлект. Сказаў і я колькі слоў, абараняў Пітэра, пра цыганскую дэмакратыю, пра панславізм. «Застаецца…»[3]

*27 сакавіка, чацвер*

Завіруха не горшая, чымся ў Піліпаўку. Здаецца, не чысты чэцвер сёння каталіцкі ці ўніяцкі, а першы дзень Калядаў. У нас у Беларусі […] надвор'е суладзілася з палітыкай. Хадзіў у «Аргументы й факты», рабіла інтэрв'ю са мною дужа ж ужо сімпатычная Маргарыта Паляжаева. Расіянка ці мяшанка, але дужа ж прыемная. Нешта гаварыў з хвораю галавой. Недзе глыбока ў душы пачынаю адчуваць, што не за гарамі час развітання з усім, што люба й нялюба на зямлі. Трэба было б супыніцца ў мітусні зямной, паглядзець хоць навокала, пра позірк у сябе ўжо й не кажу. Ды штодзённасці авад гоніць, як тога каня, не дае дыху.

*28 сакавіка, пятніца*

Хадзіў у аркестр Фінберга. Сімпатычна выканалі некалькі песень саліст і дзве салістачкі. Маладзенькія, міле'нькія. Звілінкі ў асноўным у іхніх учасаннях. Чамусьці кампазытар Ярмоленка «Прыцягненне Віцебскай зямлі» ўзяў у расійскім прыгожым дужа да соладу перакладзе.

---

[1] Чарняўскі Міхась (Міхаіл Міхайлавіч; 1938–2013), беларускі археолаг, пісьменнік. Кандыдат гістарычных навук (1971). У 1990–2001 гг. заг. аддзела Інстытута гісторыі НАНБ.

[2] Дракахруст Юрый Аляксандравіч (н. 1960), беларускі матэматык, палітолаг, журналіст. Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1986). У 1993–1998 гг. палітычны аглядальнік «Белорусской деловой газеты». З 2001 г. жыве ў Празе.

[3] Гл.: Не застаецца… (26.03.97) // Ксты. С. 292.

І салістачка, якая перад гэтым выконвала па-беларуску песню з выдатным прыродным беларускім вымаўленнем, пачала прасіць, каб выконваць па-расійску. Безумоўна, я не Някляеў, які ў свой канцэрт [...] напісаў па-расійску нізку песняў для казакоў — апоры царызму [...]. Спытаўся ў Фінберга пра жыццё. Цяжка. Усе супроць ягонага старання для беларускасці. Усялякія Ярмоленкі ды Ханкі дапамагаюць кусаць яго за пяткі. Кажа: «Калі б не падробленне ў «Адгадай мелодыю» ў Маскве, смактаў бы я свой неабразаны». Зарплата 1,5 мільёна ў месяц. Душаць любую праяву беларускасці. Прыхінуўся да нашай справы Адраджэння яўрэй — і ён нацыяналіст беларускі. А беларус Лучанок хваліўся, што едзе ў Маскву з [Лукашэнкам] прадаваць Беларусь.

Потым сустракаўся з маладым паэтам і навукоўцам Алесем Дуброўскім[1]. Чысты, светлы, адукаваны, тонкі. З Богам у душы. З вернікаў хрысціян баптыстаў. Падарыў мне сакавіцкі «Першацвет»[2] з ягоным артыкулам «Слова стварае паэта (Філасофія слоўнага вобраза ў творчасці Рыгора Барадуліна)». Дзякуй яму! Пасля сустрэчы, прыйшоўшы дадому, двойчы званіў Алесю, дзякаваў, а потым чытаў пераклад Якуба Барт-Цішынскага[3]. Гэта, відаць, быў перабор. Загаварыла старэчая шматслоўнасць ува мне. Ды, можа, малады даруе такую маю імгненную слабінку.

Званіў Васілю. Васіль пытаўся пра Галіну Варатынскую — у «ЛіМе» сённяшнім спіс прынятых у [...] Саюз пісьменнікаў. Распавядаў, як неяк Галя, калі Васіль быў у Ваўчы ў Валі, прынесла яму трошкі вішняў у цалафанавым пакуначку. Я казаў, як Галя часам прыносіла нам у Вушачы малако. Яна — рэшта тых вушацкіх людзей, якія жылі адной сям'ёю, па традыцыі давалі адзін аднаму нейкія гасцінцы. Ну хоць бы са свежыны суседу насілі скабку, кавалачак сала, кілбаску. А потым сусед аддзячваў тым жа. Камуністы зрабілі ўсіх ворагамі, разбурылі чалавечую еднасць, пачынаючы з сям'і. Разбурылі, падтачылі, як шашаль, душы.

Пад вечар разгулялася завея. Прычым снег мокры, густы. Самсон аж чуў гром і маланку бачыў. Гром на голы лес — кепска.

«Трыумвірат»[4].

---

[1] Дуброўскі Аляксандр Уладзіміравіч, беларускі літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук. Супрацоўнік журфака БДУ. Гл. манаграфію: Дуброўскі А. У. Паэтыка Рыгора Барадуліна: рытмічная арганізацыя верша. Мінск: «Рэйплац», 2006.

[2] «Першацвет» — беларускі літаратурна-мастацкі і інфармацыйна-публіцыстычны час. для моладзі (1992–2002).

[3] Барт-Цішынскі Якуб (сапр. Барт; 1856–1909), сербскалужыцкі паэт, драматург, перакладчык.

[4] Гл.: Трыумвірат (28.03.97) // Халодная памяць вады. С. 163.

*29 сакавіка, субота*

Шалёнае надвор'е кепска дзейнічае на маю хворую галаву. Трохі чытаю, трохі перакладаю. «Да слова»[1].

*30 сакавіка, нядзеля*

Сёння Вялічка каталіцкае і ўніяцкае. Дзень на гадзіну ўперад пайшоў. Званіў Васіль, віншаваў мяне як касцельнага кшчэнца з Вялічкам. Казаў, што ледзьве ўначы не памёр. Аж крыўдна, яшчэ жартаваў, такім светлым днём гэты свет пакідаць… Павіншаваў Ірыну Міхайлаўну і ўспомніў, як Міхал Дубянецкі[2] ганарыўся сваёй перамогай. Васілю давалі, здаецца, Героя Сацпрацы. (Усё рабілі камуна[…], каб адбіць Нобелеўскую [прэмію].) Так званы куратар выдавецтва, […] прыстаўлены да нас, пацікавіўся, бачце, кажуць: у Быкава жонка яўрэйка. І тады Дубянецкі запярэчыў: яе ксцілі ў касцёле святога Роха, што на Залатой Горцы. На ёй, Залатой Горцы, стаялі асноўныя глушылкі за Саветамі. Распавядаю гэта Васілю, а ён дадае: «Бабка ў Курапатах ляжыць, магілы продкаў, што былі пахаваныя на могілках ля касцёла святога Роха, зруйнаваныя».

Доўга ў велікодную марозную ноч узіраўся ў камэту. У помірг вока позірк праходзіць мільёны кіламэтраў. Невядома, хто хутчэйшы — позірк ці прамень. Ці наогул яны браты. Адчуванне блізкасці камэты, ейнай прысутнасці нейкім чынам лучыць з Сусветам. І нават нейкае наіўнае пытанне ўзнікае: а хто на Зямлі вачыма [будзе] пасвіць гэтую камэту праз дзевяць тысячагоддзяў? І ці будзе да каго прыляцець камэце гэтай у госці? Зямное мысленне й адчуванне на пэўны міг як бы касмічным робіцца.

*31 сакавіка, панядзелак*

Сустракаўся з Кастусём Цвіркам — ён мне даў на прагляд так бы мовіць рэдактарскі том Вацлава Ластоўскага. Ягоны «[Беларускі] кнігазбор»[3] выдавецкі мае добрыя задумы й намеры па рэалізацыі беларускасці. А наогул, у нас так і не паспелі за караценечкі прамежак аддушыны выдаць нацыянальна дзейснае. Ні спадчыну, ні эміграцыю. Асабліва гістарычныя пласты так і застаюцца здзірванелымі.

*1 красавіка, аўторак*

Пайшоў у падатковую інспекцыю. Далі мільён — мне плаціць. Бухгалтэрыя нешта не так падатак узяла. Зайшоў у выдавецтва «Полымя».

---

[1] Гл.: Да слова (29.03.97) // Босая зорка. С. 102. Верш прысвечаны М. Скоблу.

[2] Дубянецкі Міхаіл Фёдаравіч (1927–1990), беларускі перакладчык. У 1979–1986 гг. дырэктар выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] МГА «Беларускі кнігазбор» (з 1996).

Далі мне сігнал «Ішоў коця па канапе». Вокладка цудоўная. У колеры. Рабіў Мік. Казлоў. А так усё у падбор, чорна-белыя ілюстрацыі. Дзякуй Лапціку, ён дужа паспрыяў. Беларуская душа. На яго касавурацца, бо ў выдавецтве і мастакі, і рэдактары ў […] Славянскім саборы. […]. Уводзіцца афіцыйны Галоўліт. Як пры камуністых. У Васіля маскоўскі карэспандэнт спытаў, ці не думае ён эміграваць у Расію? Васіль: «Калі б і за акіян, дык і там дастануць […]». Быў у Ганада. Кепскія ў яго справы. Хоча прадаваць калекцыю манет — няма каму перадаць. […]. А каму мне перадаць маю калекцыю роднай мовы?

*2 красавіка, серада*

Сёння дзень ганьбы. [Лукашэнка] з вялікадзяржаўным медзвядзём [Ельцыным] падпісалі дамову пра так званы саюз[1]. Ніяк не могуць без з'еднасці быць (каб Расія даядала Беларусь). Вечарам Белы ўручаў ордэны сваёй працы ў святым касцёле. Мусіў быць і я там, але не змог. І галава, і ногі, і рогі. Усё баліць. Развальваюся ціха, але няўхільна, як Савецкі Саюз некалі.

*3 красавіка, чацвер*

Так-гэтак дацягнуўся да Дому кнігі. Меў фінансавы інтэрас у выдавецтве «Полымя». Зайшоўся ў «Мастацкую [літаратуру]». Усе, як мышы пад венікам. Давідгарадоцкі […] робіць атэстацыю. Ганад мне адкрыў Амерыку, што Андраюк на некага працуе. Даўно і трывала […]. Таму й трымаецца. Гэта ён кнігу Васілёву затрымаў і ўсё зрабіў, каб яна свету не ўбачыла.

*4 красавіка, пятніца*

Халіпа збілі […]. І грэх і смех. Заступіўся за камуніста Шчукіна, якога дубасілі. Ці думаў Уладзімір, калі працаваў у ЦК і хаўрусіў з Петрашкевічам (і дасюль хаўрусіць, здаецца), што яго будуць біць за тое, што заступіцца за […] камуніста? [Лукашэнка] і камуністаў раскалоў (а гэта ж людзі, калі верыць Арк. Куляшову, людзі, як са сталі), раскалоў ядро моцнага арэшка. Усё робіць, каб пра яго чулі. Як нашыя некаторыя паэтапесеннікі. Хочуць быць і багемцамі, і эстрадунамі.

*5 красавіка, субота*

З Самсонам на Камароўку. Рабілі запасы кавы й цукру — каланіяльных тавараў. Паўсюль чэргі. Званіў Васілю. Яму нездаровіцца. Чытаў выбарачна дзённік Танка ў «Полымі». Добра сказаў: напісаны з аглядкай наперад, нават калі возьмуць органы, пачытаўшы такія клятвы ў верна-

[1] Падпісана Дамова аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.

сці Саветам і камуністам, выпусцяць. Мне прыгадалася, як Танк некалі казаў, што ездзіў у Пількаўшчыну сваю й паліў старыя лісты й чарнавікі, публікацыі. Відаць, рэшта чалавечага, непадсавецкага ў тых лістах была. Васіль вычытаў, што Танк запісаў, як я заказваў яму верш да з'езда камуністаў. У Танка была праблема, калі выдаваў чарговы Збор твораў. Звыш 80-ці вершаў пра партыю як размясціць.

*6 красавіка, нядзеля*

Рухаю Яна Баршчэўскага, у перапынках перакладаю Ганада. Мазалі на мазгах (мама казала на мазгі мазолькі) ад працы на галерах перакладу. Праца ледзь не рэзідэнцкая — мала хто будзе ведаць. І няўдзячная ў нашых умовах. Гэта болей для сябе, для душы, для гімнастыкі радка.

*Блукаць...*

*Марыне Наталіч*

Душы ненадзейна
За плотам плоці,
Ёй плыць бы ў каўчэзе
Ці на плыце
З бярвенняў мрояў,
Што даў маркоце
Магута духу
Ў сваёй мілаце.

Сон акалелы
Застыглай магілы
Ценем цярпення
Сагрэе спярша,
І ў свет нязнаны
За небасхілы
Блукаць трымценне
Пашле душа...

*7 красавіка, панядзелак*

Сёння Дабравешчанне. А холад такі, што галаву адрывае. Званю Васілю. Да яго журналісты з Нямеччыны, з Францыі. Адзін нармальны чалавек на ўсю краіну[...]. Кажа: «Усё нішчыцца, душыцца. Прытым спадціха, спадналуску. Калі б адразу — вэрхалу было б на ўвесь свет. А то, як сухотнік. Памірае незаўважна сабе самому». Званіла Наташа Давыдзенка. [...] Марчук ліквідаваў рэдакцыю крытыкі — і Наташа засталася без працы.

Заадно й Ліля Сяргеева, былая жонка[1] цыкуна, дробны […] Лецка[2], нават […] Арлоў, які як не на дзесяці работах. […] Шупенька як незаменны […] кадр у рэдакцыю «Памяці». [Замяталін] бярэ разгон на разгон адзінага нацыянальнага выдавецтва.

*8 красавіка, аўторак*

Занёс Фінбергу верш. Бо кампазітар напісаў на расійскі пераклад. Вонкава аптымістычны яўрэй толькі рукамі развёў ды запытаўся: «Што будзе?» І адказу не стаў чакаць. Дый што адказаць можна. Пытаюся вечарам у Васіля: як ён адбаярыўся ад журналістаў з Францыі (здаецца, часопіс [газ.] «Ліберасьён»). Кажа: «Тры гадзіны». Яны спярша былі ў Вал. Тараса. Здорава арыентуюцца ў нашых стасунках. Тарас як бы прыроўнены да Быкава. А грэйсэ шышке. Калі ў свой час прыязджаў з Польшчы Міхнік[3], спачатку быў у Васіля, а потым у [Лукашэнкі]. «Даецца…»[4]

*9 красавіка, серада*

Прыехала Ілона з лецішча. Прывезла бярозавік і пралескі. Сусед па лецішчы Аляксандр Савіцкі (былы Алесь) стаў важны. Рэдка бывае. […]. У Васіля быў Валеры Маслюк[5]. У Коласаўскім віцебскім [тэатры] будзе рабіць спектакль па аповесці «Пакахай мяне, салдацік». Трэба дапісаць колькі радкоў на песню. Нешта зрабіў:

Дом бацькоўскі — рай вясёлы,
Раніца вясновая.
А чужына — дамавіна,
Доля палыновая.

Ах, салдацік-нежанацік,
Не чакай ля веснічак.
Ты худзенькі, маладзенькі,
Як над рэчкай месячык.

Пакахай мяне, салдацік,
Буду вернай жонкаю,

---

[1] Агаворка, у сэнсе — жонка былога работніка ЦК.

[2] Лецка Яўген Рыгоравіч (н. 1944), беларускі крытык, пісьменнік. Кандыдат філалагічных навук (1980). У 1987–1997 гг. ст. рэдактар рэдакцыі прозы, заг. рэдакцыі крытыкі, літаратуразнаўства і драматургіі выд-ва «Мастацкая літаратура».

[3] Міхнік Адам (н. 1946), польскі журналіст і грамадскі дзеяч.

[4] Гл.: Даецца… (8.04.97) // Халодная памяць вады. С. 412.

[5] Маслюк Валерый Васільевіч (1953–2001), беларускі рэжысёр, драматург, паэт. У 1993–1996 гг. дырэктар, да 1997 г. мастацкі кіраўнік Беларускага тэатра імя Я. Коласа (г. Віцебск). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

А забудзеш — толькі разам
З роднаю старонкаю.

Чытаў Васілю, яму, здаецца, спадабалася.

*10 красавіка, чацвер*

З Ілонай і Валяй хадзілі ў «Лянок» купляць чысты лён. На ручнікі, на летні касцюм Валі, мне й Ілоне на кашулі, Ілоне яшчэ для карцін. Потым Ілоне джынсы. Дзень пакупкаў. І не дужа будзе гэтакіх дзён. Балабон Марчук казаў, што ўжо хутка [Замяталін] пойдзе з пасады міністра. Значыць, павышаюць […]. Дый Марчуку хутка дадуць пад зад. Ягоная задача была разбурыць адзінае нацыянальнае выдавецтва.

Слухаў «Свабоду». Працяг чытання Васіля. Перакладаю Ганада. Як перакладаю? Пішу на тэму. Аж самому падчас падабаецца. Падабаюцца й думкі Інгмара Бергмана[1] кшталту: «Ці гэта цела паняло верх над душою, ці гэта душа паўплывала на цела, не ведаю, ды толькі саўладаць з фізічнай немачу рабілася ўсё цяжэй… Творчая актыўнасць старасці — рэч зусім не відавочная. Яна перыядычная й выпадковая, прыблізна такая ж, як і пачуццёвасць, што ціха згасае…»

«Пазыкі»[2]. Што толькі не лезе мне з галаву, аж нельга вытрасці, як Дамінічка кажа. Раптам ўсплыло, што Ленін быў разбіты прагрэсіўным палярушам. Гучыць жа: прагрэсіўны паляруш!

*11 красавіка, пятніца*

Званіў Васілю. У «ЛіМе» зноў зацемкі Лёні [Галубовіча]. Васіль: «… патугі нешта сказаць». Еду ў трамваі. Выходзяць людзі. І малы, не болей як тры гады мае, спакойна выходзіць адзін. Ідзе ў камісійны магазін і круціць кола трохколавага дзіцячага веласіпедзіка. Яўна дзіця […] электарату. Запуджаны, нямыты, галодны. Сэрца разрываецца. Хто з яго выйдзе? […]. А [Лукашэнка] ужо […] ладзіць вось Пекін — Масква — Менск. Гэта супроць NATO. […] толькі й застаецца грэцца, душу чысціць мамінымі песнямі. Прыгадаўся, загучаў мне пачатак аднае:

Ішоў я, ішоў я
З паўначы′ з карчмы.
Знайшоў я, знайшоў я
Салаўя ў карчы.
Салавей, салавей —
Дробная пташка…

---

[1] Бергман Інгмар (1918–2007), шведскі рэжысёр тэатра і кіно, сцэнарыст. Лаўрэат 3-х прэмій «Оскар».
[2] Гл.: Пазыкі (10.04.97) // Ксты. С. 326.

Колькі ўсяго. Ніякімі каратамі не ацэніш…

*12 красавіка, субота*

Снег з дожджыкам ці дожджык са снегам. У нас казалі: як на сучынае вяселле. Хадзіў яшчэ купіць лёну на ручнік. […]. На мне вісіць пераклад, а працаваць немагчыма. […]. [Малюнак і рукой Дамінікі: «Анёл, які паклікаў сонца».] Хоць Дамініка мне намалявала трохі настою. Беражы яе, Божа. Ілона забягалася. Шалёная. Крычыць. […]. Званіў Васілю. Настрой у яго адпаведны надвор’ю. У «Народнай волі», казаў, артыкул Вал. Тараса. Зноў паведаміў, што ён быў юным партызанам. Абараняе Ніла ад [Лукашэнкі], блытаючы факты. Званне народнага Ніл сам сабе вырваў, а фармальна даў Шушкевіч […] . [Лукашэнка] даў званні камуна[…] Навуменку ды нябожчыку Чыгрынаву. Ды Тарасу абы на версе ў проламцы ўвагі плаваць. Сам жа даўно мне прызнаваўся, што не мае пра што пісаць. Колькі думак было — усё выпісаў. Але гэта йдзе ад рэўрамантыкі з яўрэйскім імпэтам. Каб хоць як ад бруду ўсяго абтрэсціся, пісаў нешта: «Не самой…»[1]

Нейк Валя прынесла два дубчыкі вінаграднае лазы. Кажа: «Пасадзім у Вушачы». Я паглядзеў з нейкім сумнівам. Поўнач, вінаград, колькі тога жыцця засталося. Затое Дамінічка была ў захапленні: «Як вырасце, я паспытаю першыя дзве ягадкі». У яе ўсё яшчэ наперадзе!

Кажу Васілю, як мне распавядаў у «Каралішчавічах» стары гэбіст Віталь Вольскі. Ён як каштоўны экземпляр ад’язджаў у Ташкент з Масквы. (Бо пісаўся ў адпаведнасці з патрэбай то немцам, то яўрэем.) Пытаецца ў Янкі Купалы, што перадаць Якубу Коласу ў Ташкенце. Купала: «Перадай Якубу, што ён вялікі дурань». Васіль мяркуе, што Купала падкрэсліваў — ад іх (камунігэбістаў, значыцца) нікуды не ўцячэш. Гэта як некалі Шагала суправаджалі два перакладчыкі, калі паехаў да пляменніцы ў тады Ленінград. Шагал жа нават вершы пісаў па-расійску. Як яны маглі яго перакладаць, калі ён з пляменніцай мовіў па-расійску?

*13 красавіка, нядзеля*

З раніцы на Камароўку. Мірону купіў ежы. Сабе з запас цукру. Званю Васілю. Кажа павіншаваць Генадзя, выбралі старшынёю ТБМ. А то ўсё то намеснік у Болтача, то ў Працькі, то адразу з Амэрыкі ў міністра культуры. Калі Генадзь думае, што ён, як Ніл, на гэтай пасадзе возьме (яго ж рухала партыя […] — дэпутат, народны, павадыр усяе культуры, уключэнне сябе ў школьныя праграмы), дык памыляецца. Праблемы беларускае мовы, як бы perpetuum mobile, праблема гэта невырашальная, бо залежная. Была б дзяржава, само б вырашалася пытанне мовы. А так гэта трэба

[1] Гл.: Не самой… (12.04.97) // Халодная памяць вады. С. 268.

таварыства, каб выпускаць пару. Кіраваць нацыяналістамі шчырымі па-партыйнаму ўмела, каб яны не ўзяліся за зброю пралетарыяту. А так хай бушуюць, засядаюць, складаюць заявы. А ўсё гэта фіксуецца, анкетуецца.

* Раней на базар хадзілі толькі багатыя, цяпер — бедныя. Адна бабка: «Я на базар хаджу, як у тэатр. Скрозь прайду, прыцанюся. Пад канец дня, дзе скінулі цану, нешта куплю. І з людзьмі ўвесь дзень».

*14 красавіка, панядзелак*

Сёння першае красавіка па нашым стылі. І сапраўды дзень смеху — стыль, сіберны вецер, як у глыбокі зазімак. Як у нашай краіне, так і ў надвор'і. Дамініка раніцай, ідучы ў школу, пяяла нейкую сваю песеньку. Валя кажа: «Як далей?» Дамініка: «Я ж яшчэ не такі паэзіцель, каб песні пісаць да канца». І галава балела, і ўсяго ламіла, а зрабілася гэтак светла ад ейнага анёльскага галаска. А наогул, такое ўражанне, што ахінулі чорнымі хмарамі. Званіў Васілю. Кажу, што цяжка з Дамінічкі рабіць натуральную беларуску, а што тады казаць пра так званы народ, замбіраваны [...]. Вакол рускамоўе. Ні ў нас радзімы, ні ў нас дыяспары. [...]. Васіль: «Яшчэ эліта намагаецца вучыць мову, карыстацца ёю. А маса, як латынь у школе, вучыла й забылася. На практыцы не трэба...»

*15 красавіка, аўторак*

На кінастудыю. Запіс Васіля ў фільм пра Алеся Адамовіча. Рэжысёр Жданоўскі[1]. Сустрэў Самсона. Падымаўся па лесвіцы. Самсон кажа, што [Лукашэнка] сёння глядзіць спектакль з [...] Гаварухіным[2]. Васіль: «[Лукашэнка] сам любіць ставіць спектаклі, толькі ў большых маштабах». Перад запісам паказалі Васілю «Эвангелле ад Мамы». Яму спадабаўся ўвогуле фільм: «Асабліва твой твар і вершы, і малітва. Можа, зацягнута сцэна ў касцёле». Потым, калі званіў Васілю дамоў: «Дзякуй, што ўвёў мяне ў вушацкі кантэкст. Гэта першы фільм, дзе я сам сабе, лічы, спадабаўся...» Запіс у бібліятэцы. Васіль скідвае куртку, шалік. Я хачу скруціць ягоны шалік, каб расправіць заломы. Бярэ й нейкім вольным рухам абкручвае шалік вакол шыі, канцы зніз. І неадумна, і элегантна. Пра натуральнасць характару й паводзінаў Алеся. Потым у перапынках, бо апаратура псавалася (быў [...]-сатанінскі дзень), гаварылі пра Феліксa Бахчыняна[3]. Знік недзе. Васіль казаў, як Фелікс прыходзіў да яго з памочнікам Дудаева[4] й яшчэ адным чачэнцам. Ім трэба было наладзіць збыт нафты. Васіль накі-

---

[1] Жданоўскі Міхаіл Андрэевіч, беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст. З 71 г. на кінастудыі «Беларусьфільм».

[2] На самой справе гаворка пра У. Гасцюхіна.

[3] Бахчынян Фелікс Бардугімеосавіч (н. 1959), армянскі паэт, перакладчык.

[4] Дудаеў Джахар Мусаевіч (1944–1996), расійскі вайсковец. Генерал-маёр авіяцыі. У 1991–1996 гг. першы прэзідэнт саманазванай Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя.

раваў да сына Стаха [Ст. Ст. Шушкевіча]. Падпісаў кнігу Дудаеву. У метро, калі чакалі цягніка, пра тое, што нараджаецца новая культура на зломе тысячагоддзяў. Для нас інтэрнэт — нешта з галіны фантастыкі. Як некалі эўрапейцы не маглі паверыць, што папяровымі грашыма можна замяніць золата й срэбра. І калі казалі, што ў Кітаі папяровыя грошы, дзівавалі.

Па дарозе ў метро сустрэлі Халіпа. Рассечана губа. Нельга галіцца. Нешта накшталт панічаўскіх вусікаў. У машыне [...] паліцыянты білі галавой аб жалеза, пакуль не страціў прытомнасць. Потым Самсон казаў. Калі Цвяткоў убачыў Халіпа, як ад чорта шарахнуўся. Халіп папрасіў грошы на фільм пра Каліноўскага, бо па старым каштарысе не хапіла, Цвяткоў пачаў даводзіць, што міністр культуры [Сасноўскі] й чуць не можа прозвішча Халіпа. І наогул ён у шоку ад паводзінаў Халіпа. На што Халіп заўважыў: «Білі мяне, а міністр культуры ў шоку».

*16 красавіка, серада*

Сядзеў дома. Дужа блага мне. Званіў Васілю. У Генадзя на новай пасадзе [ТБМ] клопат. Вялікая растрата грошай. І быццам бы дакумэнты прапалі. Генадзь хоча аўдытарскую праверку. Я яму пазваніў і сказаў, дзе трэба шукаць канцы. [...].

* Так усё выграбсці ў Таварыстве, пакінуўшы мінімум на рахунку і ні капейкі на аўдытарскую праверку.

*17 красавіка, чацвер*

Раніцай на *Берасце.* У рэстаўрацыйныя майстэрні. Хлопец, з якім захацелася выпіць і закусіць, тлумачыў, што й Ружанскі, і Косаўскі замкі нікому не трэба. Усё гатова, каб рэстаўраваць. [...]. Доўга не маглі знайсці Краязнаўчы музэй. У Берасці, дальбог не паклёпнічаю, ведаюць у асноўным базар. У музеі нічога па Белай вежы няма. Утульны гатэльчык дарожны [«Дружба»]. Гэта кіламэтраў сем ад цэнтру. *Задворцы.* У нумары на тэлевізары Біблія па-расійску й па-ангельску. Пачынае ўсё, як ў людзей, рабіцца. Некалі ў гатэлі ў Швецыі так званы перакладчык, які суправаджаў групу, абураўся, што правакатары буржуазіі паклалі яму на прыложкавую тумбачку Біблію. Гэбіст выкінуў у сметніцу.

За вакном халодная залева. Па тэле палітычныя перадачы Варшавы, Масквы й нашага [...] кісялістага тэлеварыва. Гэта да чаго давялі, што не магу чуць ні слова нават беларускага з нашага (чужога ўсё ж) тэлерадыё.

* У вадзіцеля Віктара сыну было чатыры з паловай. Прыйшоў дамоў і заявіў, што будзе жаніцца. Бацька кажа: «Добра. Хадзі сюды. — Перад люстэркам: — Паглядзі, які ты маленькі, а я вялікі. У цябе вусоў няма, а ў мяне ёсць. Дарэчы, на чым паедзеш па жонку?» Сын: «На таксі». Баць-

ка: «Гэта несалідна. Трэба свая машына. Вось калі вырасцеш, выгадуеш вусы, купіш машыну, тады і жаніся». Сын пагадзіўся.

Ніхто не ведае, дзе Краязнаўчы музей. Пытаюся: «Дзе не рынак, а музей?» Як бараны на новую браму глядзяць. «Азалееш…: У дарожным гатэлі пад Берасцем…» [у дзённіку]. Мне кожным разам сумней і сумней заставацца сам-насам з самім сабой. Настрой развітання бярэ верх.

*18 красавіка, пятніца*

На *Камянец.* На вуліцах гразкіх і разбітых яшчэ Дошкі гонару. З лепшымі людзьмі раёна. Помнік Вову [Леніну]. Усё, як і ў імпэрыі было. Непарушна. Гаспадыня Белай вежы хворая жанчына. Застуджаныя ногі, ныркі ў мурах. Вежа ў аварыйным стане ўнутры. Дах цячэ. Настроена прасавецкім-прарасійскім духам. Пра еднасць. Пытаюся, ці не з расійскіх асаднікаў? Адказвае, што беларуска, але па-беларуску гаварыць наадрэз адмовілася. Пры афіцыйнай уладзе камуністаў сурова забаранялася любую экскурсію весці па-беларуску. Фільм пра такую рабіць, вядома, не варта. Якая мача дала ў галаву Пятроўскаму? […]. Па дарозе вадзіцель распавядаў, як ён працаваў у гандлі. Як крадуць цукар. Лейка й вёдры вады. Як кралі венгерскае віно. Упакоўкі ўскрывалі. Потым для вагі клалі цагліны. Жыццё хітрэйшае, чымся мы ўяўляем. Цікава, што ў гандляроў ёсць такое вызначэнне: разумны ў час сам ідзе з гандлю, шанцаўлівага забірае магіла, а дурны садзіцца ў турму. «Хацелі…: Бялейшае за снег сумленне…» [у дзённіку]. […].

*19 красавіка, субота*

Хадзіў да Фінберга. Трэба паправіць тэкст песні. Званю Васілю. Як заўсягды размова зайшла пра КГБ. Суправаджае нас ад раддома да магілы. А размова зайшла пра Карласа, які ездзіў за мяжу з Процькай […]. І яна ўзначальвае Хельсінскі камітэт. Сапраўды, КГБ як д'ябальская рэлігія. Усямоцная. Усюдыісная. Хадзіў вечарам да Генадзя. Кармілкін прынёс мне здымкі з майго шасцідзесяцігоддзя, што ладзіў БНФ. Генадзь у размове сказаў, што Зянон фактам эміграцыі перакрэсліў сябе як палітычнага лідара. Я Генадзю паказаў, што гэта думка органаў […]. Не пярэчыў. «Наадварот: Усё ў жыцці наадварот…» [у дзённіку]. Давялося крыху, нават перакрыху, перапісаць верш, каб пяяўся: «Пряцягненне Віцебскай зямлі» [у дзённіку].

*20 красавіка, нядзеля*

Званю Сёмуху. Перадаю яму паклон ад ягоных родных мясцінаў. Вядома, хутара Ясенца няма. Спалілі. Затое цікава, што мне запала ў памяць вёска Смаляніца (тут, думаю, смалу гналі й хораша назвалі вёску), а гэта,

выходзіць, тая вёска, дзе жыў мой дарагі сябра Васіль, калі спалілі хутар ягоны. Усё ў жыцці звязана сілай думкі Усявышняга, таму й трымаецца свет наш, падпёрты інтуіцыяй. «Святасць»[1].

*21 красавіка, панядзелак*

Да Карласа. Прыходзіў Вячка [Станкевіч]. Карлас яму гэтулькі расказваў і гэтулькі заданняў надаваў, што ён аж сумеўся. Казаў я кіраўніку беларускай «Свабоды», што беларусы [беларусаў] і ў эфіры, як у жыцці, з усіх бакоў ціснуць і пераглушаюць. [...]. Любая фантастыка — дзіцячыя казкі ў параўнанні з нашай дзяржавай, дзе рэстаўруюць сацыялізм [...]. Былі з Карласам у Васіля. Карлас распавядаў пра сваю паездку. Васіль цікава казаў пра Алеся Адамовіча. А ўвечары быў гэтакі снег — за хвіліну з кожнага рабіў рухомага Дзеда Мароза. Вячка казаў Васілю, што сустрэў Я. Брыль і даў заўвагу, чаму ў перадачах толькі пра пакрыўджаных, а ніколі не гавораць пра ахвяры, такія, як Усевалад Краўчанка[2]. Гэта быў 150-адсоткавы камуніст, смерць ягоная звязаная з жонкай. [...]. Вячка спытаўся ў Васіля, каго не выдаюць і каго выдаюць. Васіль адказаў. [...].

*22 красавіка, аўторак*

Хадзіў у Міністэрства культуры. Заходзіўся ў «Мастацкую [літаратуру]». Перапалох. Даносы. Самі дзяўчаты кажуць: «Мы ўжо не тыя, што былі». [...]. Але палітыка палітыкай, а вершы пісаць трэба, пакуль пішуцца. «На Сёмуху»[3].

*23 красавіка, серада*

Як у Кітаі сезон дажджоў, у мяне пачынаецца сезон галаўнога болю. Прыйшоў сакавіцкі нумар «Полымя». Цыкун Законнікаў увёў ў рэдкалегію Гілевіча й Дударава. Без [Дударава] Сяргей не можа. А Нілу мала яшчэ мільгацення прозвішча. [...].

*24 красавіка, чацвер*

Карлас сабраў Тараса, Анціпенку, Леўшунова, Васіля й мяне й каля дзвюх гадзінаў вучыў, як жыць. Цікава, што казаў такія рэчы, якія самнасам не ўсім кажуць у канферэнц-зале саюза, дзе выключная апаратура падслухоўвання. Чысцюткая, без перашкодаў. На Карласа, бачу, робіцца вялікая стаўка. Толькі кім? Не такі ж ён дурны, каб [...] пра тое, што грошы сораўскія льга перадаваць праз амбасады. Да прыкладу, праз штатаўскую амбасаду. Усё настолькі вясёла-цікава, аж жудасна робіцца.

---

[1] Гл.: Святасць (20.04.97) // Босая зорка. С. 32.
[2] Краўчанка Усевалад Ігнатавіч (1915–1961), беларускі пісьменнік, перакладчык.
[3] Гл.: На Сёмуху (22.04.97) // Босая зорка. С. 30.

*25 красавіка, пятніца*

Званіў Васілю. Яго прасіла на сустрэчу Сурмач[1] з «Бацькаўшчыны». Правільна зрабіў, што не пайшоў. Васіль кажа, што ўжо й не ведаеш, як каго разумець, хто які. […]. Мне Наташа распавядала, як абуралася Сурмач, што балты захацелі аддзяліцца. А праз нейкі час яна ўжо стала патрыёткай. […]. Сябра наш Karlas невядома, якім чынам стасуецца з Працькай. Наогул, нічога людскага не будзе, пакуль не будзе працэсу накшталт Нюрнбергскага над камуністамі […]. І будуць яны, ідэі камуна[…], праступаць, як крывавыя плямы. Паўсюль. І ў вобразе […] зюганавых, ампілавых[2]. Лепей было б сказаць не ў вобразе, а ў абразі'нах. Учора слухаў па «Свабодзе» Зянона. Мудра. Да Зянона наш так званы народ яшчэ не дарос. […]. «Вяртаюся…»[3].

*26 красавіка, субота*

Сёння «Чарнобыльскі шлях». Як заклён які, ледзь не сканаў. Такім болем усяго сціснула, і галаву, і жылы. Ні пра які рух казаць не даводзілася. Потым званіў Васілю. Беларуска-[…] тэле перадало, што ўсё ціха абышлося, бо заўтра Вялікдзень. А на самой справе — [Лукашэнкі] не было ў Менску, не было каму аддаць загад амонаўскім […] ды спецназаўцам. […].

*27 красавіка, нядзеля*

Хрыстос уваскрос! Ад мамы, з мамінай зямлі гучыць мне:

Вялічка прыйшло,
Яечка знясло.
…Валачобнічкі валачыліся,
Хрыстос васкрос, Сын Божы.
Валачыліся, замачыліся,
Хрыстос васкрос, Сын Божы.
…Масці кладачку,
Заві ў хатачку.
Хрыстос васкрос, Сын Божы.

Святло ад мамінага голасу, ад словаў чыстых праз гэтулькі гадоў ідзе ў душу, ліецца, наплывае, ападае. І толькі яно грэе, і толькі яно свеціць сцежку прысталай душы. Прысталай цярпець, трываць вязніцу цела, вязніцу побыту з ягоным брудам, з ягонай хлуснёй. Душа ў целе, як свеч-

[1] Сурмач Ганна Іванаўна (н. 1947), беларускі гісторык. У 1993–1999 гг. старшыня рады Згуртавання беларусаў свету. З 1999 г. у Празе, пазней у ЗША.

[2] Ампілаў Віктар Іванавіч (1945–2018), расійскі грамадскі і палітычны дзеяч. У 1992–2012 гг. старшыня грамадска-палітычнага руху «Трудовая Россия».

[3] Гл.: Вяртаючыся… (25.04.97) // Босая зорка. С. 106.

ка ў заношаным ліхтары, дзе шыбінкі патрэскаліся й пацьмелі. Баліць галава. Пісалася «дурнота»: «Адкрыццё»[1]. І крыху рыторыкі: «Змусь!»[2]

*28 красавіка, панядзелак*

Трохі велікодных прысмакаў занёс Самсону. Гэта мой апошні з вернутых з маладосці сяброў. Люблю ягонае маўчанне й ягоныя развагі. Душой спачываю ў яго дома. Аскетычная інтэлігентнасць і ў думках, і ў побыце. Гэта яму чытаю вершы й дужа даражу ягонай ацэнкай. «Возьме…: Прыгожая, як смерць…» [у дзённіку].

*29 красавіка, аўторак*

У ПЭН-цэнтр. Васіль сустракаўся з француженкай[3]. Пазнаёміў мяне. Падкрэсліў: «Мой сябра, дэмакрат таксама». Я дадаў, што яшчэ й зямляк Васіля. Мяне проста ашаломіла інтэлігентнасць вымаўлення. Нашага, беларускага. Лёгка, хораша гаворыць па-беларуску. Бацька з-пад Стоўбцаў. Ніколі з ім па-беларуску не гаварылі. За шэсць месяцаў вывучыла мову. Даследуе беларускую драматургію. Мала мае Аляхновіча[4]. Васіль папрасіў пабыць ў Вільні. Яна перавезла ў Францыю 100 кілаграмаў беларускай літаратуры. Перакладае. Тэма даследаванняў: маўчанне ўнутры слова ў беларускай драматургіі ад Дуніна-Марцынкевіча[5] да рака крыві нацыі камуністычнага бульдога Крапівы. Васіль па інэрцыі колькі расійскіх словаў ужыў. У нас жа звычка, што замежнікі толькі й разумеюць па-расійску. А тут феномен іншага кшталту. Праводзіў Васіля да метро. Каля хаты Навума [Кісліка] нейкі […] гуляе з унучкай. Здароўкаецца з Васілём і мне нехаць цягне пульхную нядаўна кіруючую руку. Васіль на поўным сур'ёзе пытаецца, якую яшчэ партыю стварыў гэты таптунок. Кажа: сацыял-дэмакратычную. Я спецыяльна пад дурня: філіял Жырыноўскага[6]. Не ўпадабаў. А гэта быў Таразевіч. Дзе тое дзелася […]. Васіль заўважыў: «З іх як паветра з шароў надзіманых выпускаюць, калі з пасады камуністычнай ссаджваюць». Некалі Васілю выгаворваў за Народны фронт. Цяпер дэмакрат.

---

[1] Гл.: Адкрыццё (27.04.97) // Ксты. С. 287.

[2] Гл.: Змусь! (27.04.97) // Аніma. С. 289.

[3] Шыманец Вірджыні (н. 1968), французскі лінгвіст, гісторык, даследчыца беларускага тэатра. Узначальвала Асацыяцыю «Беларускія перспектывы».

[4] Аляхновіч Францішак Каролевіч (1883–1944), беларускі драматург, празаік, паэт, публіцыст. Быў рэпрэсаваны.

[5] Дунін-Марцынкевіч Вінцэсь (Вікенцій Іванавіч; 1808–1884), беларускі паэт, драматург.

[6] Жырыноўскі Уладзімір Вольфавіч (н. 1946), расійскі палітычны дзеяч; юрыст. Доктар філасофскіх навук (1998). З 1990 г. старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі СССР, з 1991 г. ЛДПР.

*30 красавіка, серада*

Хадзіў па пэнсійных справах. Заязджаўся да Ганада. Марчук дабівае выдавецтва. Выдаюць барахло. Загадзя стратнае. Гэта каб зачыніць выдавецтва. Дамінічка кажа Валі: «У царкве было шмат дзяцей». Валя кажа: «Добра». Але Дамінічка ўдакладняе: «Гэта дзеці [Лукашэнкі]. Ты ж так называеш міліцыянтаў».

*1 травеня, чацвер*

Прыгадваю, што ў Парыжы нічога перад ад'ездам не маглі купіць, бо і ў іх ледзь не свята. Прынамсі выхадны. А як у нас цяпер добра. Не трэба на дэманстрацыю йсці, не трэба выкручвацца, каб не йсці. Не глушыць [...] бравурная музыка. На заўтра паабяцаў Вірджыніі прынесці «Полымя» з «Пакахай мяне, салдацік». Шукаў да 2-х начы. Не знайшоў. Затое знайшоў усе «Полымі» з апошнімі Васілёвымі навэламі й прыпавесцямі. Гэта бадай лепш. Калі званіў Васілю, [ён] сказаў: а можа б, я напісаў верш Вірджыніі. Думку маю адгадаў. І напісаў: «Беларускай парыжанцы: Вірджынія — вяргіня, што расла...» [у дзённіку; прысвечаны В. Шыманец].

*2 мая, пятніца*

А дзясятай раніцы ў ПЭН-цэнтры сустрэў Вірджынію, перадаў ёй «Полымі», кніжку-малютку Максіма Багдановіча й свой верш, папярэдне прачытаўшы яго, як Васіль раіў. Ёй, здаецца, спадабаўся. Вечарам удвух з галаўным болем перакладаў Яна Баршчэўскага. Удвух ўсё-ткі неяк весялей.

*3 мая, субота*

З раніцы да амаль падвячорка рэдагаваў з Наташай [Давыдзенка] Ластоўскага[1]. Якая гэта асалода — чытаць несавецкага празаіка, вучонага. Потым званю Васілю. Нешта разгаварыліся пра Ластоўскага, а потым пра Драздовіча. Васіль сказаў, што ўвесь час яму дужа хацелася пабыць у Дзісне. Цікава, што й мне таксама. Відаць, ужо не давядзецца.

Прыехала Ілона й забрала Дамінічку на лецішча. Адыходзячы, Дамініка: «Хоць адпачну». Пытаюся: «Ад каго гэта?» Адказвае: «Ад цябе і ад бабы».

Званіў Васілю. У «Народнай волі» ягоны артыкул. Паехаў у пад'земны пераход на Камароўку. «Свабоду»[2] купіў, а «Народнай волі» няма. Прадавіца кажа, што брала няшмат, баялася, што не разыдуцца. Быў адчынены ЦУМ. Як на экскурсію схадзіў. Пачак капіркі 300 тысячаў. Разглядаю ў вітрыне складанчыкі. 150, 200, 250 тысячаў. Думаю, дарагавата. Зірнуў

[1] Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мінск: «Беларускі кнігазбор», 1997.

[2] «Свабода» — грамадска-палітычная газ. (1990–1997).

лепей, аж астатніх нулёў не заўважыў. Адпаведна паўтара, два з паловай мільёны. Купіў скрэпак. Яшчэ скоч. А ўсё-ткі не з пустымі рукамі выходзіў з крамы. «Галіна Дзягілева: Галіна Дзягілева — гэта счасце сустрэчы…», «Брэх: Вядома падбрэхічам…» [у дзённіку].

*4 мая, нядзеля*

Усё-ткі купіў «Народную волю». Артыкул Васіля проста цудоўны. Сцісла, афарыстычна, канкрэтна, роздумна, абсяжна. Званю Васілю. Віншую. Выходзіць, ніхто не пазваніў. Робяць выгляд, што не чыталі. […]. Пачытаў Васілю «дурноту»:

*Вядзе…*

І, галаву згубіўшы, тулава
Карчуе на мяжы слупы,
Рашуча ў светлае мінулае
Вядзе бязногага сляпы…

Васіль усміхаецца: «У цябе яшчэ цікавей, чым у Брэйгеля[1]. У яго сляпы сляпога вядзе. А ў цябе сляпы бязногага».

*5 мая, панядзелак*

Да Самсона. Казаў — пад час першага паходу на Курапаты (1988). Ён, Ларына [жонка] й Карлас. І маладыя хлопцы так дапяклі Карласа («жыдоўская морда, павесім на ліхтары вас усіх»), што Самсон і Ларына з Карласам вярнуліся з паўдарогі. Гэты наш бытавы [антысемітызм], […], вядома, адпасажвае ад нашае справы яўрэяў.

*6 мая, аўторак*

Сёння Радаўніца. Мамачка, рай табе светлы, царства нябеснае! І сёлета не быў я ў гэты дзень на магіле тваёй. Даруй. Не толькі я таму прычынай. Званіў Васілю. Ірына Міхайлаўна кажа, што пайшоў у гараж. Потым яму кажу: «Ты, як у хлеў каня, даглядаць ходзіш машыну». Успомнілася, як у Новым Ёрку перад нейкай дэманстрацыяй конная паліцыя. Паліцыянт расчэсвае грабенчыкам хвост каню. Васіль казаў, што Зянон сваімі заявамі наробіць клопату Хадыку й Баршчэўскаму. Зянона шкада. Адзін. Шчыры да фанатызму. Адарваны ад рэальнае глебы, гатовы на неабдуманыя крокі.

---

[1] Брэйгель Старэйшы, ці «Мужыцкі», Пітэр (паміж 1525–1530–1569), нідэрландскі мастак. Карціна «Сляпыя» (1568).

Прыехала Ілона з лецішча. Прывезла Дамініку. Мірон сумаваў па ёй — крычаў усе дні. […]. Пераваліў палову драмы Яна Баршчэўскага. «Дурноты» не пісаў. Адна толькі ясачка[1].

* Пытаюся ў Дамінікі: «З’ясі яблык?» — «З’яшу».

*7 мая, серада*

Пазваніў Марыс Чаклайс. Мне далі вышэйшы ордэн незалежнай Латвіі. Гэта самая дарагая ўзнагарода. Бо з роднай мне, бо з незалежнай дзяржавы. Пад вечар у «Гасцёўні Галубка»[2] Анатоль Белы наладзіў выставу магутаў Беларусі. Прыехала дачка Белага Святлана са Штатаў. Ёй уручылі ордэн «Гонар Айчыны» і партрэт, дзе яна намалявана гадоў пасля пяцідзесяці. Перастараўся мастак. Наадварот, жанчыну трэба маляваць і пэндзлем, і словам толькі маладзейшай. Бо душа наогул ва ўсіх маладая. Застаўся на канцэрт кансэрваторыі. У памяць прафесара Цвятаевай. Людзей мала. Ніштаватая ўвогуле самадзейнасць. Повеў часу — арыі з сусветных опэраў, рамансы эўрапейцаў выконваюць на мове арыгінала. Гучала ангельская, нямецкая, італійская мова. І беларуская ў песні Юрыя Семянякі[3].

Назад у трамваі. Шумна-гаваркая моладзь. Адна пра сына Раінчыка[4]. Яшчэ раней: «Што ты хвалішся сваім бацькам. Вырасцеш вышэйшым за мяне, тады й будзем пра нешта гаварыць». Дамінічка кладзецца спаць і плача: не хоча развітвацца з маленствам. «Ноч — пасланая небамісціна…»[5], «Мала чырвані…: Лічаць — мала чырвані ў герані…» [у дзённіку].

*8 мая, чацвер*

Як у анекдоце: дарагія бацькі, вы будзеце смяяцца, але Сара таксама сканала. Так і ў мяне. Здаецца, у гэтым стагоддзі скончу пераклад. Засталося мала. Як мама казала: пачаць і скончыць. Званіў Радзік. Добры верш напісаў. Яшчэ навіна: у […] «Знамени юности» паласа супроць Палзотыча [Якубовіча]. Даслужыўся, відаць. Званю Васілю, усміхаецца: «Папоўніць шэрагі апазіцыянэраў». У нас усе, лічы, апазыцыянэры — гэта выбракаваныя дваром (калгасным). «І я…: Ашчэрыў пашчу алігатар…» [у дзённіку].

---

[1] Гл.: Ясачкі: Вечар здзіві’цца дойлідству выйшаў… (6 —7.05.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 331.

[2] «Літаратурна-мастацкая гасцёўня імя У. Галубка» — філіял Музея тэатральнай і музычнай культуры.

[3] Семяняка Юрый Уладзіміравіч (1925–1990), беларускі кампазітар. Народны артыст БССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1972).

[4] Раінчык Васіль Пятровіч (н. 1950), беларускі кампазітар. Народны артыст РБ (1995). У 1994–2006 гг. выкладчык Беларускага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

[5] Гл.: Ясачкі: Ноч — пасланая Богамісціна (7.05.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 331.

*9 мая, пятніца*

Дзякаваў Богу, што ўбярог Васіля на вайне. Васіль званіў, віншаваў са святам. Нарэшце й я атрымаў перамогу — дакончыў перакладаць «Жыццё сіраты» Яна Баршчэўскага для Кастуся Цвіркі ў ягоны «Беларускі кнігазбор». Вечарам прыйшла тэлеграма з Латвіі, Саюз пісьменнікаў Латвіі віншуе з вышэйшай узнагародай Латышскай Дзяржавы — ордэнам Трох зорак. На англійскай мове, усё, як у Эўропе. Тры зоркі — тры зямлі Латвіі. Помнік Свабоды ў Рызе — Свабода трымае тры зоркі.

*Мой сон*

Мой сон начуе за гарамі,
Куды лісіца несла пеўня.
Там казка добрая з дарамі,
Там тая хітрая харчэўня,

Дзе буду сыт і п’ян адразу,
І нос, як кажуць, у табацы.
Дзе запрашу за стол паразу,
Каб перамозе спадабацца.

І будзе мой сяннік, як соннік,
Хмялець ад траваў закаханых.
І лямант панчанкаўскіх соек
Світанак прывядзе на ганак.

*10 мая, субота*

Працаваў з Наташай над прозай і перакладамі Ластоўскага. Усё дужа цікава. Асабліва мова. Хоць, калі быць шчырым, дык нахапанасці, дылетантства болей, чымся прафесіяналізму. Але ўсё перакрывае шалёная любоў да Беларушчыны, жаданне ўзвысіць Беларусь, Крывію, як ён называў, да зорнае вышыні. Ды яшчэ біяграфія пакутніка за Беларусь. Постаць выключнае сілы й прывабнасці. Яго трэба вяртаць у літаратурны, культурны й палітычны ўжытак. На жаль, усё ўжо гэта ў свіныя галасы. Рэабілітацыі сапраўднай не было. Дый няскорая яна. […]. Цяпер модна стала ганьбаваць калабарантаў. Але гэта з якога боку гледзячы. Бо хто супрацоўнічаў і супрацоўнічае з пракэгэбішчанымі коламі Масквы, ён таксама калабарант, калі глядзець з беларускага незалежна-дзяржаўнага боку. Расія сваіх усіх і рэабілітавала, і кананізавала, а нашых не дазваляе, бо яны супроць маскалёўшчыны былі. «Хай без мяне…»[1]

---

[1] Гл.: Хай без мяне… (10.05.97) // Халодная памяць вады. С. 271.

*11 мая, нядзеля*

Пачаў перакладаць балады Яна Баршчэўскага. Перадрукаваў вершы для «ЛіМа» й «дурноты» на радыё «Свабода». Раніцу пачаў з пісання верша. У Ластоўскага прыводзіцца два радкі нашае песні. Ад іх адштурхнуўся. А далей дзіравы човен мае фантазіі панесла па хвалях словаў. А яшчэ душу мне грэла Дамінічка — сама чытала беларускія народныя казкі. І такое ж у яе выдатнае вымаўленне. І такая ж яна беларуска. Гэта па генах, гэта яшчэ ад Мамы мае. «Балада жвіру»[1]. І яшчэ нешта пісалася. Балада ў традыцыйным жанры, а гэты верш сам традыцыйны. Дык пакольк напісаўся, хай будзе: «Адтуль: Гарадской суседцы дасюль…» [у дзённіку].

*12 мая, панядзелак*

Запісаў «дурноты» на «Свабодзе», колькі словаў сказаў у абарону Васіля. […]. У «ЛіМ» занёс «дурноты» й вершы. Званіў Жак. Сёння хоча пасланць Андрэю Вазнясенскаму тэлеграму, бо Андрэй заўтра ймяніннік. Пытаецца, ці буду я асабіста. Кажу яму, хай ад усіх — ад Васіля, мяне, сябе й яшчэ ад Луцэнкі[2] агульную шле. Сам падумаў без суму. Ніхто з маскоўскіх дэмакратаў і чвэрцьдэмакратаў ніколі й падумаць не маглі, што ў некага з нас могуць быць даты, падзеі, святы. Гэта вялікадзяржаўная зацыкленасць на сваім пупе. Дый яшчэ савецкасць далася ў знакі. У косці ўелася. Хай гадуюцца. Пагалоўе трэба й рагатае, і буйнарагатае, і бязрогае.

*13 мая, аўторак*

Заходзіў у выдавецтва да Ганада, забраць свае вархопкі. Як на магільнік схадзіў. Давідгарадоцкі славянасаборавец […] мэту паставіў — Нобелеўскую прэмію. Бачце, на яе прэтэндуюць ён, Адамчык[3] і Пташнікаў. […]. Хадзіў на тэле ў бухгалтэрыю. Сустрэў Калабка[4]. Цесць з цешчай будуць браць шлюб у касцёле, бо ў іх залатое вяселле. Раней яны таксама бралі шлюб, але цесць спявае ў хоры. Дык яму за заслугі дубаль-шлюб. Даўно гэта было, гасцяваў я ў іх у Бялюнцах, што на Воранаўшчыне. Мацнейшая самагонка, свежына. Нават заяц свежаўпаляваны. Пан Юзаф нахіляецца раніцай нада мной, зняможаным, ды пытаецца: «Можа, галоўку папрвіць?» І правілі мы ўдвух з ім. Даўно было, сцюдзёна было, а на душы дасюль цёпла і ў галаве шуміць. Спытаўся, дзе цяпер Эдмундас Мікелявічус

[1] Гл.: Балада жвіру (11.05.97) // Ксты. С. 254.

[2] Луцэнка Барыс Іванавіч (1937–2020), беларускі рэжысёр, педагог. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1975). Народны артыст РБ (1995). У 1991–2008 гг. мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага.

[3] Адамчык Вячаслаў Уладзіміравіч (1933–2001), беларускі пісьменнік. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СПБ імя І. Мележа (1980), Дзяржаўнай прэміі БССР (1988).

[4] Чарняўскі Мікола (Мікалай Мікалаевіч; н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. З 1989 гг. літ. рэдактар час. «Вясёлка». Лаўрэат прэміі імя Я. Маўра (1995).

(нарадзіўся ён Эдуардам Мікялевічам), кэгэбіст, на дэманстрацыях стаяў пры Снечкусе[1]. На пенсіі, прычым пенсію атрымлівае з Масквы, — КГБ сваіх не забываецца, яшчэ й вартаўніком (відаць, ахоўнікам) недзе працуе.

Забягаўся вечарам Генадзь — нейкія непаладкі з тэлефонам. Пытаюся, як з праверкай фінансавай дзейнасці Ніла? Прадаваў і МАЗы, і тэлевізары, і халадзільнікі, нават праязныя. А дакумэнтаў няма. Сотні тысячаў мінус на рахунку. Няма за што наняць аўдытарскую праверку. Дый Генадзь не будзе — крумкач крумкачу стаіць уваччу. «Местачковы эцюд»[2], «Журба»[3]. Паспрабаваў нешта скроіць з перакладаў у «Иностранной [литературе]» з выдатнага італійскага рэжысёра: «На матыў Таніна Гуэрра»[4].

*14 мая, серада*

На вуліцы ўдзень +25°. Як Святлоў[5] некалі казаў: «Яшчэ 15 градусаў і піць можна». Толькі ён гэта пра ваду на моры. А я пра паветра. Прыехала Ілона з лецішча. Затузаная, галодная, шалёная. І злосць, і шкада. Дачка ж адзіная.

*15 мая, чацвер*

Дамініка прынесла са школы «выдатна» па матэматыцы, чаго ад яе ніхто не чакаў. Радасць амаль дзяржаўнага маштабу, калі казаць: мая хата — мая дзяржава. Хадзіў па сваіх клопатах — мне абганялі ілляніну на ручнікі. Дужа люблю ўсё ілляное пасля ваўнянага. Галаднавата, халаднавата, бязгрошна, небязгрэшна, але ўсё-ткі лепей пражыць рэшткі гадоў без бальшавіцкага, камуна[…] рэжыму […]. Жудасна.

«Дзве»[6].

*16 мая, пятніца*

Займаўся томам Ластоўскага. Васіль неяк жартаваў (толькі й жартаваць засталося) наконт так званай інтэграцыі: хоць хата згарэла, але затое колькі мышэй ляснула. Усе гэтыя халуі, якія разам […] прадаюць Беларусь, таксама ляснуць […]. Сёння казалі з Васілём, што нейкае трагі-

---

[1] Снечкус Антанас Юозавіч (1902]03–1974), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1936–1939 і 1940–1974 гг. 1-шы сакратар ЦК КПЛ. Герой Сацыялістычнай Працы (1973).

[2] Гл.: Местачковы эцюд (13.05.97) // Босая зорка. С. 149.

[3] Гл.: Журба (13.05.97) // Ксты. С. 303.

[4] Гл.: Паводле Таніна Гуэрра (13.05.97) // Босая зорка. С. 154. *Гуэрра* Таніно (1920–2012), італьянскі сцэнарыст, паэт, празаік.

[5] Святлоў Міхаіл Аркадзьевіч (1903–1964), рускі пісьменнік. Лаўрэат Ленінскай прэміі (1967, пасмяротна).

[6] Гл.: Дзве (15.05.97) // Халодная памяць вады. С. 392.

камічнае становішча: ці быць Северо-Западным краем у дэмакратычнай у прынцыпе краіне, ці жыць у як бы незалежнай дзяржаве з калгасна-[...] рэжымам.

*17 мая, субота*

Сойм БНФ. Васіль быў на першай палове. Я выседзеў да канца. Рыхтуецца з'езд БНФ. Розныя выступы, і гарачыя, і халодныя. Галоўнае, каб не адбыўся раскол на з'ездзе. Тады гэбісты [...] будуць святкаваць перамогу. Праслухалі выступ Зянона ў запісу. Вялікую працу робіць ён. На алтар Беларусі незалежнай паклаў сваё жыццё. А саўкі ў яго гразёй кідаюцца. Самае прыемнае — моладзь. Будзе «Малады фронт»[1]. Хлопцы — золата.

*18 мая, нядзеля*

Рэдагавалі лісты і ўспаміны Ластоўскага. 36 гадзін допыту канвеерам. Які адчай у лістах да бацькі Максіма Багдановіча[2]. Цікавы невялікі ўспамін пра Янку Купалу, як быў напісаны «Снег». Перада мной ажыў Міхась Стральцоў, нешта агульнае ў характарах. Замкнёнасць і туга, душэўная далікатнасць. Нават любоў да Бахуса нейкая падобная, падалося мне. Усю спадчыну, асабліва пацярпелых ад камуна[...], трэба выдаць як мага паўней. Цяпер гэта невялікія тыражы. Але абы было зафіксавана злачынства крывавага бальшавіцкага рэжыму. Ужо на трэцяе стагоддзе пераваліла, як змушаюць нас скакаць пад маскоўскую дудку. [...]. «Маладому фронту: Маладафронтаўцы!» [з прысвячэннем: «У дні народзінаў»; у дзённіку].

*19 мая, панядзелак*

З хворым Карласам да Васіля. Справы дрэнь. З усіх бакоў ціснуць. Васіль, выходзіць, прэміі аддаў Лявону [Баршчэўскаму] на БНФ. Разыходзіліся. Тройчы цалуюся з Васілём. Васіль Карласу: «З Рыгорам па-хрысціянску, а з табой па-эўрапейску». Заходзіў да Фінберга. П'янаваценькі Някляеў. Напісаў песню пра Менск. Нармальны песенны тэкст. Наогул, у чыста песенных тэкстах, відаць, немагчыма быць яркім, самабытным. Савецкаму часу Ісакоўскі[3], новаму часу — новыя песеннікі-вісельнікі. [...]. З Бахусам слабыя жарты. [...].

---

[1] Моладзевая фракцыя БНФ (з 1996).

[2] Багдановіч Адам Ягоравіч (1862–1940), беларускі фалькларыст, этнограф і мовазнавец.

[3] Ісакоўскі Міхаіл Васільевіч (1900–1973), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1943, 1949). Герой Сацыялістычнай Працы (1970).

*20 мая, аўторак*

Перакладаў баладу Яна Баршчэўскага. Балады нягоршыя, чымся ў Шылера. Баршчэўскі — наш класік. Шкада, што мала вядомы. Чытаю першы том Уладзіміра Васілевіча[1] «Зямля стаіць пасярод свету…» (Беларускія народныя прыкметы й павер'і.) Уся філасофія, уся педагогіка, уся школа нацыянальнага духу. Такія кнігі трэба выдаваць мільённымі тыражамі. Яны лепяць нацыю, менталітэт ствараюць. Гэта, калі казаць па-бальшавіцку, кароткі курс народнага духу, душы беларускае. Васіль казаў: «Іду каля выдавецтва. Маладзіца вітаецца, кажа, што зямлячка». Гэта былая рэдактарша нашай раённай газеты Зіна Дзямешка. Казала словы падтрымкі. Ідзе Васіль далей. Нейкая дама вітаецца й кажа, што чытала Васіля й пазнала. Васіль адветлівіўся ўсмешкай. А яна раптам: «Толькі апошнім часам падпалі Вы пад уплыў нацыяналістаў. Трэба ірваць з імі». І Васіль не ведае, што рабіць з усмешкай. «Вось, — кажа, — і ўсміхайся, не даслухаўшы да канца незнаёмага чалавека». Гэта была нейкая партай[…]. Заданне ціснуць на неўтаймаванага генія з усіх бакоў.

*21 мая, серада*

У ПЭН. Інтэрв'ю «Беларускай газеце», Марына Гуляева й фотакар Уладзімер Шлапак. Ідзе новая, дасведчаная моладзь у журналістыку. Не проста задавала дзяжурныя пытанні. Чытала й майго «Аратая…». Выдатна гаворыць па-беларуску. Потым нейкі Кавалёў з былога ляснога інстытута. Карацелькі вершы. Хоча выдаць. Бо жонка незадаволена: хай бы яшчэ ў якім інстытуце выкладаў, а не пісаў вершыкі. Ёсць нішто. Ёсць і дужа пошлыя да сальнасці. Чым я магу яму дапамагчы? Усё яшчэ людзі думаюць, што магу.

Самсону Палякову 19-га 60 гадоў было. Ён па традыцыі ў гэты дзень наведаць магілу маці паехаў у Вільню. Пэнсыянэру не трэба афармляць візу. На беларускім баку мытнікі заўважылі: «Стараецеся выкарыстаць сытуацыю, відаць, нейкія справы бізнэсовыя маеце». На літоўскім баку толькі павіншавалі з шасцідзесяцігоддзем і пажадалі здароўя. Толькі ў савецкую газэту пад загалоўкам «Іх побыт, іхнія норавы». «Не любяць…: Не любяць біцца яблыкі ў кашы…» [1-шы вар. у блакноце]; «Базар не любяць парсючкі ў кашы…» [2-гі вар. у дзённіку].

[1] Васілевіч Уладзімір Аляксандравіч (н. 1952), беларускі фалькларыст, этнограф. У 1992–2015 гг. выкладчык, з 2004 г. заг. кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка. Кандыдат філалагічных навук (1979). Гл.: Зямля стаіць пасярод свету… Кн. 1. Мінск, 1996. Уклад. У. Васілевіч.

*22 мая, чацвер*

Перакладаў балады Яна Баршчэўскага. У маладыя гады было меней умецтва, а болей гарачай сілы, цяпер, на змярканні, усё наадварот, не тое што на світанні. Чытаю англа-беларускі слоўнік. Still life — нацюрморт, а даслоўна: ціхае, нерухомае, спакойнае жыццё, як у савецкіх класікаў кшталту Арк. Куляшова. Гаўрусёў[1] пад Still life не падпадаў. Наогул, самая мая слабасць — слоўнікі, мовы. У маладыя гады другая слабасць забіла першую. Да канца не вывучыў ніводнае. Так, каб дасканала. Тут ужо мела сілу акавітая, akva vita. Ды цягнік жыцця ніколі нікога не чакаў. Ні парадку ў хаце, ні спакою ў хаце. І адпаведна ў душы. Патрыярхальнай, беларускай сям'і не атрымалася. Дый не магло атрымацца. Час не той.

*23 мая, пятніца*

На ранішнік да майго жаўраначка, да маёй Дамінічкі. Усе дзеці нейкія ў бальшыні нахабна-мардатыя, а яна, як націнка. Бо тонкая душой, бо ў патэнцыі таленавітая. Генна таленавітая. Спадчынна тонкая душой. Ад гэтага ёй не лягчэй у жыцці будзе. Бацькі — саўкі ў сваёй перавазе. Тупасць, хамства, жаданне паказаць свой пінжак, свой разрэз на зусім не прывабным азадку. Вынік савецкае сэлекцыі. У дзетак добрае беларускае вымаўленне. Бацькі рэдка хто гаворыць па-беларуску. Сумна. Хочацца апынуцца недзе ў Балтыі хоць бы. [...]. Адчуваеш сябе шчупаком, якога выкінулі на пясок. Вада іншым цялёпаецца, іншых спацяшае. А сёння яшчэ [Лукашэнка] і сакратар абкома [Ельцын] пагадненне падпісваюць[2]. На выхадзе з метро на Кастрычніцкай [плошчы] спалілі расійскі сцяг. Пакуль я прабіўся праз натоўп, напалову згарэў. Міліцыянтаў болей, чымся тых успаміншчыкаў, што з Ленінам бервяно падымалі. З нейкае бронемашыны з сярэдзіны праспекта паліцыянцкі аператар здымаў уважліва. Пасля цадзіць, каб судзіць.

*24 мая, субота*

[Малюнкі буслоў.] Гэта мне Дамінічка намалявала. Сядзеў дома. Перакладаў Яна Баршчэўскага, перачытваў Баратынскага[3]. Міхась Стральцоў, вечны спакой яму, любіў Баратынскага. Самых патрэбных людзей Беларусі пан Бог чамусьці забраў заўчасна — Караткевіч, Стральцоў. Усіх і не пералічыш. Ці на тое, каб погань пладзілася й давяла спакойных беларусаў да рашучасці. Ці проста самыя лепшыя і ў пана Бога не лішнія.

---

[1] Гаўрусёў Сцяпан Захаравіч (1931–1988), беларускі паэт, перакладчык, крытык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1987).

[2] Падпісанне пагаднення аб стварэнні Найвышэйшай дзяржаўнай рады Саюзнай дзяржавы і Статута СД.

[3] Баратынскі Яўгеній Абрамавіч (1800–1844), рускі паэт.

*Як заўсёды...*

Няма сумніву —
Ён даўно гатоў,
Указ чарговы,
Як заўсёды, смелы,
Што трэба
Перафарбаваць буслоў,
Бо кожны бусел
Бел-чырвона-белы...

Учора гэтая «дурнота» ў галаву пагрукалася. [...]. Успомнілася. Навумчык званіў Васілю, запрашаў у госці. У Сяргея двухпавярховая віла, у Лукашука трохпавярховая. Супрацоўнікам «Свабоды» можна здымаць такія гмашкі. А ў Васіля й тры журналісты не дужа павернуцца.

*25 мая, нядзеля*

Званіў Васілю. Нехта яму паведаміў, што рыхтуецца пісьмо ветэранаў супроць яго. Па-савецку. Нічога не могуць выдумаць розныя [Замяталіны] ды ўраллатыпавы[1]. Хоць Урал Латыпаў (з такім прозвішчам толькі Славянскі сабор узначальваць) спецыяліст Лубянкі па міжнародным тэрарызме. А «[Знамя] юности» б'е па Палзотычу, падкрэсліваючы, што ён Ізраілевіч [...]. Ідуць ужо масава пісьмы працоўных славянасабораўцаў. Выпускаюць джына антысемітызму. Рэпетыруюць 37-мы. «Адпаведнасць: На дол, на зваблівы палон...» [у дзённіку].

*Бы ў астрозе...*

Недзе ў коміне вецер засвішча.
Зорку золак сустрэне прыхільна.
Хочуць рукі адчуць тапарышча,
Цапавільна, цаўё, касавільна.
Гэта моцныя рукі хацення
Знерухомець не могуць з гадамі.
Ці не гэта няволя карэння
Без святла ў вязях тхла галадае?

У жыцця ў промнях сонечных краты.
Думкі, быццам алоўкі ў пенале.
І цясляр, і касец, і араты
Ува мне, бы ў астрозе, сканалі...

[1] Латыпаў Урал Рамдракавіч (н. 1951), беларускі дзяржаўны дзеяч. Палкоўнік КДБ. Доктар юрыдычных навук (1992). Прафесар (1994). У 1994–1998 гг. памочнік прэзідэнта па знешняй палітыцы.

*26 мая, панядзелак*

Сустрэча з Міколам Арочкам[1]. Мае нешта напісаць па акадэмічных планах як доктар філалогіі. На плошчы Перамогі, каля «Хлеба». З тачачкай. Кніжкі, яблыкі, самаробнае віно. Жыве пад Слонімам. Мае гектар зямлі. Трымае дзве каровы, двое свіней, дзесяць авечак. Кажа, піша вершы, адбываючы радоўку, калі пасвіць авечак. Усё робіць разам з жонкай. Дзеці трагічна загінулі. Гадуе ўнука. У трэці клас ходзіць. Кажа: «Каб рэшту гадоў, якую Бог даў нам, скласці на аднаго з нас. Каб трохі ўнука падняць на ногі». У мяне аж сэрца зайшлося: мая Дамінічка як будзе [...]? Казаў яму Гніламёдаў[2], што Някляеў адкінуў яго арткул пра мяне, а заказаў [... Шупеньку], каб той трошкі памыяў плі'хнуў на мяне. Дзякуй утомлённому солнцу. [...]. Арочка ўспомніў (спачатку я напомніў яму), як некалі з Грынчыкам[3] прыходзілі да мяне на Рэспубліканскую, каб з мамай пагутарыць. Цёпла, шчыра, дзякуй яму, казаў пра маму. Дзівіўся, адкуль у мяне мова, калі я з Полаччыны. Якраз таму й ёсць мова, што з Полацкае зямлі.

«Скажа»[4]. Гэты верш з некалькіх словаў, занатаваных недзе ў 82-м годзе. Перад самым сном трылузілася: «Ля Лукамор'я дуб і банкі...» [у дзённіку].

*27 мая, аўторак*

Па «Свабодзе» заканчэнне апавядання «Народныя мсціўцы» [Быкава]. Геніяльная пародыя на партызанскую героіку, зняты з савецкага п'едысталу выраз «народныя мсціўцы». На што здольныя гэтыя помснікі і ўжо ў пасталінскія часіны. Выпіць, узяць пагнілы кол, заснуць у канаве й паціснуць руку энкэвэдысту, які ў трыццатыя гады перасадзіў як не ўсю вёску, расійскі прыблуда. А ў [...] «[Знамени] юности» артыкул аднапалчанаў Васіля, супроць апостала нацыі нашай бяздарна нацкавалі маразолікаў. З падпісантаў, якія цвердзяць, што з Быкавым-палітыкам яны ў разведку б не пайшлі. А хто яны, ці наогул яны маглі йсці ў разведку? Сын генерала (з Васілёвага году народзінаў) быў ад'ютантам у свай-

---

[1] Арочка Мікола (Мікалай Мікалаевіч; 1930–2013), беларускі паэт, крытык, літаратуразнавец, перакладчык. Доктар філалагічных навук (1981). У 1966–1999 гг. ст. навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ.

[2] Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч (н. 1937), беларускі крытык, літаратуразнавец, празаік. У 1976–1998 гг. нам. дырэктара Інстытута літаратуры імя Я. Купалы НАНБ, з 1977 г. адначасова заг. аддзела. Доктар філалагічных навук (1987). Член-карэспандэнт НАНБ (1994). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя У. Калесніка (1996).

[3] Грынчык Мікола (Мікалай Міхайлавіч; 1923–1999), беларускі крытык і літаратуразнавец. У 1980–1999 гг. заг. кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Доктар філалагічных навук (1970). Прафесар. Заслужаны дзеяч навукі БССР (1977).

[4] Гл.: Вось зараз... (26.05.97) // Аніma. С. 199.

го ж бацькі, журналіст з дывізіёнкі, палітрук, як Прыходзька наш, двое з медсанбата й двое няйнакш як смершаўцы. Казаў Васілю, што бяздарна напісана, што не варта браць да любога мейсца, пачынаючы з галавы. Артыкул напісаны маладымі саўкамі. Абараняюць […] Арлоўскага[1]. Карпарацыйная кэдэбісцкая звязка.

*28 мая,серада*

Запісаў на «Свабодзе» сем малітваў «Ружанец». У выдавецтва «Лазурак» занёс слова пра Уладзімера Караткевіча. Закончыў пераклад балады «Rozpacz» [Я. Баршчэўскага].

*29 мая, чацвер*

З Ганадам у «Нёман». Павіншавалі Алеся Жука[2] з юбілеем. І [Кудраўца] паклікаў Алесь. [Кудравец] пацвердзіў меркаванне маё наконт Генадзя. Ранейшае начальства дало заданне ўвайсці ў кантакт з эміграцыяй, а [цяперашнія] далі адбой. Ім нашая эміграцыя — суцэльная контра. Алесю ўсё-ткі далі часопіс, пакінуўшы [Кудраўца], за заслугі. Немалаважны й той факт, што ён узначальваў выбарчы ўчастак, дзе правалілі Зянона. Можа, і не так, але, як у нас казалі: ніц-ніц, а ў носе крэнціць. Ды цяпер рэдактарства ў часопісах таксама болей сімвалічнае, чымся рэальнае. Тыражы часопісаў маленькія. Чытачоў менее.

*Каб вытрываць…*

Цягне травінку,
Першую ў сваім жыцці
Жарабя, як жэрабя,
І загадвае, ці доўга будуць
Незацугляным пасці,
Ці купяць, як вырасце,
Збрую багатую?
Ці надзенуць хамут,
Ці накінуць сядло,
Колькі бегаць яму
Засталося пры матцы?
Набіраецца сілы

---

[1] Арлоўскі Кірыл Пракопавіч (1895–1968), савецкі гаспадарчы дзеяч. Герой СССР (1943), Герой Сацыялістычнай Працы (1958). У 1942–1943 гг. камандзір спецатрада НКДБ СССР «Сокалы», з 1944 г. старшыня калгаса «Рассвет»; дэпутат ВС БССР і СССР.

[2] Жук Алесь (Аляксандр Аляксандравіч; н. 1947), беларускі празаік, перакладчык. У 1989–1997 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Полымя», у 1997–2003 гг. гал. рэдактар час. «Нёман». Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978), Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992).

Пад капыткамі сцябло,
Каб вытрываць,
Каб трымацца…

Прачытаў верш па тэлефоне Самсону. Зазначыў: «Дужа ўжо разумнае жарабя. Проста вундэрконь».

*30 мая, пятніца*

У ПЭН-цэнтр. Карлас прыехаў з Варшавы яшчэ хворы. Справы не зусім як трэба йдуць. Аліне Астравух аднёс «Ішоў коця па канапе». Будзе нешта пісаць. Дзякуй ёй! Гаварылі з Васілём наконт магчымага міністравання Някляева. Прыгадаў, як Генадзь заўсягды плакаў, што яму цяжка. Прынцып у савецкіх і постсавецкіх кіраўнікоў: біты нябітага вязі! І ў галаву прыйшоў вясёлы верш: «Спагада»[1]. Першага чэрвеня прасіў мяне ў школу Уладзімер Лайкоў[2]. Відаць, не змагу. Пашлю, перадам верш.

*Мядоцкі край*

*Уладзіміру Лайкову*

Божа гасцінны! Павек карай
Гэткімі прымусамі,
Якія чыніць Мядоцкі край,
Робячы ўсіх беларусамі.

Мётча — мяцеліца лёд мяце.
Мётча — борцямі гурбіны.
Мётча — салодкі на кожнай вярсце
Мёд
З губ гарачых прыгублены.

Мётча — тут меціўся Вітаўтаў[3] шлях.
Казкі раслі мядоцкімі.
Квас журавінавы борам пах.
Клёк сілкаваўся клёцкамі.

Не выпускаў у свет лайдакоў,
Уважаны паняй працаю,
Дырэктар школы спадар Лайкоў
З падмётчынай рэпутацыяй.

---

[1] Гл.: Спагада (30.05.97) // Босая зорка. С. 99.

[2] Лайкоў Уладзімір Піліпавіч (н. 1953), беларускі настаўнік, краязнавец. З 1979 г. дырэктар Мётчанскай адукацыйна-выхаваўчай установы «Школа-садок» Барысаўскага раёна Мінскай вобл. Кіраўнік музея «Літаратурны космас Мётчы».

[3] Вітаўт (1350–1430), вялікі князь Вялікага княства Літоўскага (з 1392).

* Пазваніць Марчуку. 1.00 ПЭН-цэнтр («Ішоў коця па канапе» — Аліне [Астравух]. Бурсаву пазваніць, каб прыслаў вершы ў «Нёман» (Г. Бубнаву[1]).

*31 мая, субота*

Крыху глядзеў з Наташай Ластоўскага. Перакладаў санэты Яна Баршчэўскага. У галаву лезе сумнае. Савецкая паэзія (пашчырэў і я ў ёй) выдумлівала, вынаходзіла, выпускала калаўроты ў той час, як увесь свет хадзіў у гатовай крамніне. І цяпер смешна чытаць у «Маладосці» Зуёнка пра Някляева, дзе Вася ў квадраце ўспамінае, што я, рэдагуючы, прапанаваў зняць слупок, быццам бы за падобную на маю рыфму. Проста слупок слабы, а Вася яго прыводзіць. Потым быццам Някляеў пазычаў незнарок у яго вобраз, што ў Бога інфаркт. Як у анекдоце пра крылцы стракавы. Мне б ягоныя клопаты. І дужа хоча яшчэ кіраваць […] Саюзам (савецкіх!) пісьменнікаў. Па дарозе ўбачыў азіята ў капелюшы. І прыйшлі радкі: «І…: І ў ступе ў скокі йдзе таўкач…» [у дзённіку].

*1 чэрвеня, нядзеля*

Дождж. Золь. Вецер. У нас дома казалі, калі дужа халодна, — Агіпет. Відаць, далёкія адгалоскі ўцёкаў яўрэяў з Эгіпту па Бібліі. Званю Васілю. Кажу, што з назіраннняў пітакоў цяпер выпіўка даражэйшая за закусь. Васіль: пасля вайны ў Гародні сябраваў з мастаком (паехаў пасля на Украіну й памёр), яшчэ даваеннае загартоўкі алкашом. Калі ў іх бывала 100 рублёў, ішлі ў адну са шматлікіх забягайлавак. На 95 рублёў — гарэлкі, на 5 рублёў адну салату з агуркоў на двух. Васілю маладому хочацца есці, а старэйшы сябра: «Не чревоугодничай». А размова зайшла пра холад. Раю: выпі кавы ці чаю. Васіль: «Стаў мала піць гарбаты. Раней любіў каву. А цяпер кубачак з раніцы й болей не хочацца». Я распавёў Васілю, як на Далёкім Усходзе ў лютыя маразы п’юць розныя ласьёны. Кавалак чысцюткай, стэрыльнай, можна сказаць, рэйкі. Трымае адзін. Другі лье па ёй ласьён. Уся маса прыстае да рэйкі, а ў пасудзіну ўнізе сцякае чысты спірт.

*2 чэрвеня, панядзелак*

У выдавецтва «Мастацкай [літаратуры]». Давідгарадоцкі шэкспір паклікаў у кабінэт, абяцаў выдаць другі том. Пачаў казаць, што Гілевіч піша слаба. Перапыніў яго, бо мне вядома: Ніл ніколі паэтам не быў. Гарладзёр і грашароб, закаханы ў сябе. Яшчэ цяперашні дырэктар прапанаваў сказаць Васілю, што «Сцяну» могуць выдаць. Адразу ж пазваніў Васілю. Ён сказаў, што не трэба яму такая ласка. Нібыта прыватнае выдавецтва мае

---

[1] Бубнаў Генадзь Фёдаравіч (н. 1948), рускі паэт, перакладчык. У 1984–2002 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Нёман».

намер выдаць. Дай Бог! Пазванілі, што магу паляцець у Штаты. Пайшоў на Маскоўскую вуліцу. Там у кватэры нейкая кантора. Маладыя сучасныя хлопцы й дзяўчаты. Пачаставалі кавай. Запоўнілі караценечкую анкету й тут жа факсам у Штаты. Гэта на колькі дзён у Вашынгтон. Літаратурная канферэнцыя. Пытанні накшталт — будучыня эўрапейскай літаратуры й культуры. Летась была праблема Азіі. Яшчэ ляціць Законнікаў. Гэта Васіль мяне параіў. А прасілі яго. Сяргей пры ім, відаць, як [Кудравец] пры паездзінах у Нямеччыну. Васіль жартаваў: «Як матросаў з карабля па адным не пускаюць, абавязкова ўдвух.» Вечарам Самсону. Цвяткоў уломваў, каб фільм пра Шагала, дзе вершы, лісты і ўсё да 20-га года, уставілі, як [Лукашэнка] будзе адчыняць выставу Марка Шагала. [Лукашэнка] на Шагале хоча ўехаць у Эўропу, у культурны свет. [...].

*3 чэрвеня, аўторак*

Закончыў нарэшце перакладаць Яна Баршчэўскага. Да «Жыцця сіраты» давядзеццца яшчэ раз вярнуцца, асабліва пачатак трэба правіць, бо пакуль увайшоў у рытм, пакуль зразумеў, што радок будуецца на 6-ці і 7-мі складах ці наадварот. Тады ўсё пайшло. Як у нас казалі: пайшла сучка баразной. І перакладаць цяжка. Іншы раз хочацца ўсё кінуць. Але гэта, як конь, што па кругу ходзіць, рэжучы шчапу. Закончыў адно, сумна робіцца. І шыя новага хамута просіць. А з галавой нешта жахлівае. Раніцай устаць не магу. Пасля пакуль расшабунюся, дзень ужо йдзе з паўдня. І толькі калі пачынаю нешта пісаць ці перакладаць, галава як быццам на мейсца становіцца. І ўсё часцей і часцей чую дыханне ў патыліцу. Гэта Яна… Кладзешся спаць, і першая думка, што мала ўжо засталося. А здаецца, і не жыў, а ўсё збіраўся жыць. Мудра задумаў Усявышні жыццё.

*4 чэрвеня, серада*

У ПЭН-цэнтр. Адрас Додзіку ў Віцебск. За подпісам Васіля. Навошта яму яшчэ тэлеграмы даваць, як Додзіку хочацца. Званіў Карлюкевіч, каб у «Звяздзе» даць матэрыял, пагнаць хвалю, што завецца, наконт Нобелеўскай Васілю. Рэдактар [Наркевіч] хоча. Званю Васілю. Наадрэз: «Не тая гэта дзяржава. Толькі горш сабакі будуць брахаць. Пасля кожнага выступу ў друку ветэраны асабліва юшацца. Іду ў двары сваім, а мне ў спіну розныя абразы. Жыць трэба ціха». Вечарам Белы са сваёй «Спадчынай» арганізаваў урачыстасць у саюзе да 110-годдзя з народзінаў Уладзіслава Галубка. Ганараваў ордэнам Галубка актораў, тэатральных дзеячаў. Мне даў ордэн «Гонар Айчыны», што не атрымаў тады ў касцёле, бо не мог ісці. Ордэн прыгожы, асабліва драўляная пушачка, куды ён пакладзены. Перад пачаткам паказвалі карціну вытворчасці «Беларусьфільм» 1982 года [пра Галубка], і ўсё так добра. Жыў, тварыў. У Маскве быў. З Круп-

скай[1] сустракаўся. А што задушылі, што забаранілі на дзесяцігоддзі — ні гуку. Калі выступаў, сказаў трошкі пра гэты бок фільма. Пачытаў «дурноты». Пасля да Навума [Кісліка]. У «Известиях» выдатны артыкул Эд[уарда] Палянскага «Раскол» пра дэсыдэнцкі рух у савецкай імперыі. Як афарызмы: «Не мудруй з немудрацамі. Не бяры ў улады корм з далані. Далонь можа згарнуцца ў кулак… Не бяры ў улады корм з далані. Далонь можа згарнуцца ў хвігу…»

*5 чэрвеня, чацвер*

На кінастудыю — узяць «Эвангелле ад Мамы». Самсон не паедзе. Відаць, паедзе Халіп. Мітусня з адкрыццём выставы Марка Шагала. Нават супрацоўнікаў музею не пусцілі. Бо павінен быць [Лукашэнка]. На яўрэях хочуць ў свет уехаць. Гэта блізка да показкі: на чужым х.ю ў рай ехаць. Цікава ўчора было слухаць народныя песні ў выкананні Мархель[2].

Бадай маё гора ўтапілася,
Можа ж бы я памылася.
А бадай маё гора згарэла,
Можа ж бы я пагрэлася…

Але й выкананне дакладнае, і голас той, што трэба, а няма тога адчування, калі пяюць вясковыя маладзіцы. Тут урываецца элемент тэатральнасці. І зніжае давер душы. Заўтра для Давіда пісаў: «Зорка Давіда»[3].

*6 чэрвеня, пятніца*

Раньком на *Віцебск.* Па дарозе прыпынкі на папас. У балота ўлезлі там, дзе, пэўна, Напалеон[4] завяз. Будзінас распавядаў пра сваю барацьбу з камісіяй па праверцы ягонай дзейнасці. Хоча напісаць кніжку пра гэта. Даў я загаловак яму: «Фас!» Хай толькі празаікам не кажа. У «Дудуткі» ягоныя й міністр КГБ Мацкевіч прыязджаў. І дыпламаты, і паслы, і паслiцы. Цяпер чакае прыезду [Лукашэнкі]. Будзільнік, як клічуць яго сябры, самазаводны, і скруціць завод не гэтак лёгка.

---

[1] Крупская (Ульянава) Надзея Канстанцінаўна (1869–1939), расійскі партыйны і дзяржаўны дзеяч, педагог. Жонка У. І. Леніна. Ганаровы акадэмік АН СССР (1931), доктар педагагічных навук (1936).

[2] Мархель Таццяна Рыгораўна (н. 1939), беларуская актрыса. З 1994 г. у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Заслужаная артыстка БССР (1984). Народная артыстка РБ (2011).

[3] Гл.: Зорка Давіда (5.06.97) // Толькі б яўрэі был!.. С. 233.

[4] Напалеон I (Напалеон Банапарт; 1769–1821), французскі імператар (1804–1814 і 1815).

Прыехалі ў Віцебск. Сустрэў Давід, Шмерлінг і Валя сорасішка [Кірылава; Фонд Сораса]. Да мастака Дундзіна[1] на 10-ты паверх. Мадэрн на ўзроўні пячоры. Цыцкатыя, трох-чатырох цыцкатыя. Сабой задаволены. Гэта галоўнае для чалавека. У кінатэатры «Спартак» сустрэча з паказам «Эвангелля ад Мамы». Прыйшоў Міша Крывёнак, Мікола Плавінскі, Анатоль Канапелька[2], Уладзімір Папковіч. Прайшло ўсё добра. Выступалі. Добра выступіў Халіп. У заключэнне я чытаў «дурноты». Ля помніка Пушкіну. Пад канец славянасаборавец панёс супроць усіх тых, хто кажа пра Аршанскую бітву[3], пра радасць, што слупы знеслі. Не ўтрымаўся й прачытаў «дурноту» пра слупазносчыкаў. Тады выскачыла астарэлая партай[…] і заявіла, што Пушкін пад гордым унукам славянаў меў у першую чаргу беларусаў і не трэба Пушкіна перакладаць. А пад канец сказала, што яна з Вушаччыны. І ў нас дурніц хапае.

Вечар Давіда йшоў па пэўнай савецкай праграме. І тэлехроніка пра Давіда, і цытаты, хто што пра яго сказаў, і вітанні ад калектываў, і мэр віншаваў. Адным словам усё, як хацеў. І добра, бо ён жыве гэтым. І ўся энергія йдзе на нейкія культурныя імпрэзы ў Віцебску. Без яго віцебскую культуру пыл бы пакрыў слоем з добрую саланіну. Папковіч добра сказаў, што заклік да яднання славянаў, празмернае падкрэсліванне славянства нагадвае такое ж падкрэсліванне германскага адзінства ў рэйху. Запоўначчу прыехалі дамоў праз тры дажджы. «Гэта ўсцешыць і вока Прароку…»[4]

*7 чэрвеня, субота*

Васіль заўтра адлятае ў Нямеччыну. Можа, там абследаванне пройдзе. Яму так трэба й адпачыць крыху ад штодзённага цкавання, і, можа, удасца хоць немцам яго падлечыць. Цікава, ваяваў супроць немцаў за савецкі рэжым (які ў нас сёння ў яшчэ карыкатурнай форме), а ў выніку немцы паважаюць, выдаюць, хочуць лечыць, а гэты саўрэжым толькі цкуе, толькі падрывае ягонае здароўе.

Ішоў уздоўж канала, хлопец просіць закурыць, дакладней, запалак. А другі раптам: «Дзядзька Рыгор, ці маеце запалкі?» Адказаў, што не куру. Мне ўслед гэты маладзейшы тлумачыў, хто я. Як сабаку ведаюць некаторыя. А другі з сям’ёй ловіць рыбу. Пытаюся, ці можна злавіць? Кажа, добрых карасёў ловіць, а вечарам нават качку можна злавіць на вячэру.

---

[1] Дундзін Мікалай (н. 1950), беларускі мастак.

[2] Канапелька Анатоль Мікалаевіч (1939–2002), беларускі педагог; паэт, перакладчык. З 1961 г. выкладчык, заг. кафедры Віцебскага ўніверсітэта імя П. Машэрава.

[3] У Аршанскай бітве 1514 г., войскі ВКЛ перамаглі маскоўскае войска.

[4] Гл.: Ясачкі: Гэта ўсцешыць і вока Прароку… (6.06.97, Віцебск) // Збор твораў. Т. 3. С. 331.

Ахоўнікі прыроды прыроджаныя! «Ваўку прысніцца, што няма стральцоў»[1].

Успомнілася, як мастак Малей[2] [...] дорыць сваё нешта Давіду й не дае нікому разгарнуць паперу, у якую ўхутана праца, кажучы: «Гэта я люблю сам рабіць, бо ўсё роўна як спадніцу з дзяўчыны здзіраць». Думкі мастаковы сягаюць на такую вышыню. Што каму. Прачытаў зборнік Людмілы Сіманёнак «У люстэрку». Мне на вуліцы падарыла, калі йшлі да Пушкіна. Папрасіла колькі слоў напісаць у пажаданне газеце «Выбар»[3]. Зборнічак да аркуша, але затое задзірысты падзагаловак: «Выбраныя вершы 1995–1996 гадоў». У гэтым нешта ёсць ад маладога запалу. У зборніку шмат надзённых, палітазаваных вершаў. Усё ў іх ёсць — і запал, і нават дасканаласць. Але ўсё недзе чутае ўсё ж. Моцная паэтка лірыкай. І сама гэтага, відаць, не ведае. Зарад энэргіі абяцае даць нашай паэзіі дужа яскравую асобу. Доказам таму хоць бы верш «Белы танец». Долі ёй ў нялёгкай дарозе, якую яна абрала, ці, можа, дарога абрала яе!

*8 чэрвеня, нядзеля*

Надвор'е галаваломнае. Збіралася на дождж. Пякло. Потым дах нябесны прарваўся. Ды ўсё роўна парна. [...]. Даў адбой палёту ў Вашынгтон. Гэта не за сем вёрстаў кісялю хлібаць. Хапілі ныркі ад такой нэрватузаніны дома. У такім стане нельга ў далёкую дарогу. Ды яшчэ Дамінічкі няма — на лецішчы. [...].

*Доля*

З калаўротам пяяла пралля,
З кроснамі пяяла ткалля,
З сярпом пяяла жняя.
Паліла спякота,
Брала акалле,
Абвівалася роспач,
Як тая змяя.
Бадай мая доля ўтапілася,
А можа ж бы я памылася...
Дый не думала доля тапіцца,
Дазваляла слязамі ўволю памыцца.

Долю бяздольніца заклінала,
Тугу-назольніцу прыхінала:
Бадай мая доля загарэлася,

[1] Гл.: Ясачкі: Ваўку прысніцца, што няма стральцоў (7.06.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 331.
[2] Малей Аляксандр (н. 1951), беларускі мастак.
[3] «Выбар» — грамадска-палітычная газ. (1991–2005, г. Віцебск).

Можа ж бы я сагрэлася.
Ды грэла гаротніцу гора горача,
Ёй з ласкаю пра сябе гаворачы.

А доля не прала, не ткала, не жала,
Доля сябе паважала,
У цяньку ляжала.
Піла з каўшоў пазлачаных.
На пухавіках драмала.
За сваіх парабчанак
Долі клопату мала…

Апошнім часам пачуецца мамін голас: Грыша… Чуецца й Дамінiччын: дзедзя… Хоць наўкола нікога няма. Перад сном я заўсягды асабліва прымхлівы, нечым напалоханы, сумны, што мала жыць застаецца. Перад сном пісаў гэты верш:

*Два галасы*

Мне мамін голас чуваць часцяком.
Раптоўна ціша журбу ўскалыша.
Як быццам голас маўчаў пад замком
І вырваўся, каб паклікаць:
— Грыша…

Знянацку пачуецца голас другі,
Як быццам сум мой знайшоўся недзе.
Здаецца, злучае два берагі
Унуччына, Дамініччына:
— Дзедзя…

І голас змаўчаны
І трапяткі
У розныя клічуць бакі…

*[З накіда 29 чэрвеня 1992 г.]*

*9 чэрвеня, панядзелак*

Хадзіў на кінастудыю. Запісаў два вершы пра Марка Шагала. Рэжысёр Юрась Гарулёў[1] робіць фільм пра мастака. Распавядаў пра мышыны шоргат так званых даследнікаў. Паміж сабой перасварыліся. Кожны рых-

[1] Гарулёў Юрый Мікалаевіч (н. 1944), беларускі рэжысёр-аператар, сцэнарыст дакументальнага кіно. З 1975 г. на кінастудыі «Беларусьфільм», у 1997 г. арганізаваў студыю «Стопкадр».

туе нейкую публікацыю, адкрываюць калаўроты. Са «Звязды» Антонава[1] пазваніла, чаму я не быў на адчыненні выставы Марка Шагала, якую мацуе фірма «Філіп Морыс». Адказаў ёй, што я тут ні пры чым. Я трэба быў, калі гэта было забаронена, калі пагражала нешта ад саўулад і саўладак, а цяпер, калі прэстыжна, іншыя нападхопе. На кінастудыі Халіп па тэлефоне ледзь уламаў Цвяткова запланаваць фільм пра Міхася Стральцова. Яму, бачце, трэба пра руіны мастацтва — камуністку Клімаву[2] ды іншых славянасабораўцаў. Па парадзе Самсона перапісаў верш:

* * *

Мне мамін голас чуваць часцяком.
Знянацку ціша журбу ўскалыша.
Як быццам голас маўчаў пад замком
І вырваўся, каб паклікаць:
— Грыша…

У жорнах часу трывалы млён,
Таму й не спыняецца ў руху.
Хоць голас пакінула мама,
Каб ён
Мяне суцяшаў у скруху.

Над сціхлымі водамі вечных пакут
Уздрыгвае роспачы пліска. Мама далёка.
А голас тут.
Мама далёка й блізка…

Перапісаў, перачытаў і ўпэўніўся, што хай будзе першы варыянт. Нейкая містынка там целяпаецца.

Перад самым сном кот Мірон ляжаў у мяне на стале, і мне ўбачылася:

*Смутнае*

Кот Мірон на пісьмовым стале
Спіць, раскінуўшы лапы калкамі.
Мне ваўка нагадаў у імгле,
Хоць не мае сваяцтва з ваўкамі.
Чорны воўк,
Як і белы крумкач,
Гэта кпіна ці светлая мроя?

---

[1] Антонава Таццяна Аляксандраўна, беларуская журналістка.

[2] Клімава Аляксандра Іванаўна (1921–2005), беларуская актрыса, педагог. Народная артыстка РБ БССР (1963). Народная артыстка СССР (1969). З 1956 г. у Нацыянальным акадэмічным рускім тэатры імя М. Горкага.

Ці з маленства разрумзаўся плач
За вакном?
Ці надвор'е сырое?..

*10 чэрвеня, аўторак*

Сёння пашпартны дзень нараджэння мамы. Трэба будзе праверыць, абапіраючыся на Сёмуху, бо яна нарадзілася на Сёмуху. У думках я ў Вушачы. Ганад абяцаў машыну на чацвер. На дзень нараджэння прыехала праўнучка Куліны Дамінічка. Званочак ейнага голасу звінеў у гонар прабабкі.

*11 чэрвеня, серада*

Да Ганада ў «Мастацкую». Быў і Алесь Карлюкевіч. [...]. Рэшткі дня — зборы ў дарогу. Заўтра, дасць Бог, выедзем у Вушачу. Дамінічка рада, Мірон хвалюецца. [...]. Да поўначы пакавалі featured рознае барахло везці ў Вушачу. За свой век чалавек, здаецца, тое й робіць, што абрастае барахлом, як пень травою. Кожная непатрэбіца пачынае мець уладу над табой, варта толькі трохі паддацца. Як раней любіў некуды ехаць, так цяпер мне гэта ўсё няміла. Загадзя за колькі дзён пачынаю хвалявацца й шукаць любыя абэлкі, абы не ехаць. Можа, гэта падысподнае адчуванне, прадчуванне таго дня, калі павязуць апошні раз.

*12 чэрвеня, чацвер*

*Вушача!* Нарэшце прыйшоў белы мікрааўтобус РС 0695. Загрузілі поўны ванзэлкамі. Пасадзілі Мірона. Трохі слюнькі цяклі ад страху, але даехаў добра. За дзве гадзіны. За рулём Уладзімір Канстанцінавіч Чаган, з ім выкладчык палітэха Уладзімір Уладзіміравіч Каленік, родам з Рудзеншчыны. Калі Каленік быў выкладчыкам у Чагана, той прыйшоў і сказаў, што не можа быць на лекцыях. Чаму, пытаецца выкладчык. Адказ: «Дужалі пад заклад, і я выйграў бутэльку. Дык як жа пайду на лекцыю?» Шчырасць скарыла, і студэнту было дазволена не быць на лекцыі. Каленік: «Калі позна прыходжу дамоў, жонка глядзіць у вочы». Чаган: «А мая на каляндар. Бо дазваляю шукаць мяне праз тры дні на чацвёрты». За жартамі даехалі да Вушачы.

Да Марыі Рыгораўны. Як птушка стала лёгенькая, высахлая. Як птушка перад адлётам у вечны вырай. Пятро п'яны спіць сярод белага дня. У нас увесь гарод зарос травой і дзьмухаўцамі. Вусцішна бачыць усё гэта. Калі, бывала, прыязджаў да мамы, гарод аж смяяўся. Мірон адразу пабег у мокрую траву. А мы выгрузіліся й назад. Па дарозе Каленік шмат распавядаў. І такое. Ішоў ён цёмнымі дварамі дадому. Новыя савецкія выгульвалі сабак. Ваўкарэзу нейкаму далі каманду «Чужы!». Той і пайшоў на дзядзьку. Схапіў за руку мёртвай ухваткай, пракусіў скураны рукаў. А гас-

падары ніякога рэагажу. Неяк адбіўся ад сабакі й дамоў. Жонка кажа, каб заявіў у міліцыю. У іхным доме апорны пункт, некалі Шчолакава[1] прывозілі паказваць як узорны. Гэта ў раёне Каліноўскай вуліцы. Пайшоў. Сядзіць міліцыянт, ахламон ахламонам, і паўгадзіны па тэлефоне балбоча, а Каленік стаіць. Ён ехаў на лецішча, у кірзавых ботах. Міліцыянт нуль увагі. Нарэшце запытаўся: што такое? І адразу: «Ведаеце, што пародзісты сабака каштуе баксаў 600?» Каленік: «А я, выходзіць, нічога не каштую?» Міліцыянт: «Вось пакончым з БНФ, тады за сабак возьмемся».

*13 чэрвеня, пятніца*

Памёр Булат Акуджава[2] ў Парыжы. Пухам яму зямля! Быў сапраўдны пясняр свабоды, сябра Беларусі. Запісаў колькі словаў і прачытаў пераклад верша на «Свабоду». Марына Рассафонава пазваніла наконт інтэрв'ю ў газэту «Свабода». Сустрэліся ў саюзе. ПЭН быў зачынены. У Паўлава ў кабінэце. Сапраўды, прыйшла мне ў галаву думка, што літаратура, як некалі камуна[…] царква, павінна быць аддзелена ад дзяржавы. Распавёў Марыне пра адказ Валкадаева[3] [?], пра «Мартына Ідэна»[4]. Званіў Лукашук. Потым слова пра Булата запісваў Абламейка[5], ён паклікаў Навумчыка. Сяргей пытаўся, ці ведаем пра напад на жонку Зянона ў Польшчы? І ён тое ж пацвердзіў, што я заўсягды казаў: Польшча небяспечная, што сувязі кэгэбэ там карані маюць яшчэ ад царскай Расіі. «Я пачынаю баяцца вечара…»[6]

*14 чэрвеня, субота*

Сойм БНФ перад з'ездам. Баршчэўскі папрасіў сказаць на пачатку слова ці верш. Бо можа не быць Васіля. Яшчэ ў Нямеччыне можа быць. Газэту БНФ не можа выдаваць. Няма грошай. Дый разрастацца структурна й колькасна цяжка ўсё з-за тых жа самых грошай. Усё ўспамінаю паездку. Каленік распавядаў. Дачка з унукам другакласнікам на Кіпры з вясны. Унук звоніць: «Сумую. Бабуля, калі маеш сто даляраў, прылятай

---

[1] Шчолакаў Мікалай Анісімавіч (1910–1984), расійскі дзяржаўны дзеяч. Доктар эканамічных навук (1978). Герой Савецкага Саюза (1980). Міністр унутраных спраў СССР (1966–1984).

[2] Акуджава Булат Шалвавіч (1924–1997), рускі паэт, празаік, бард.

[3] Хутчэй, агаворка; на самой справе прыпомнены негатыўныя выказванні Дз. Валкагонава. *Валкагонаў* Дзмітрый Антонавіч (1928–1995), расійскі гісторык, палітык. Генерал-палкоўнік (1986).

[4] «Марцін Ідэн» (1909), раман Дж. Лондана. *Лондан* Джэк (сапр. Грыффіт Джон; 1876–1916), амерыканскі пісьменнік.

[5] Абламейка Сяргей Паўлавіч (н. 1962), беларускі журналіст, эсэіст; карэспандэнт Радыё «Свабода» (Прага).

[6] Гл.: Ясачкі: Я пачынаю баяцца вечара… (13.06.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 332.

сюды, заадно й дзеда вазьмі». Каленік неяк паказвае ўнуку, яшчэ маленькаму, самалёт. «Давай паляцім», — кажа. Унук: «А як жа я з яго злезу?»

*15 чэрвеня, нядзеля*

Прыхварэў. Сцягаўся на Камароўку. Цікава. Маладзіца прадае сёлетнюю цыбулю з Азербайджана. Пакупніца: «Што як у аптэцы адважваеш?» Прадавіца: «Як у аптэцы. Бо я працую на гаспадара». На азербайджанца працуе. Ужо новыя адносіны на рынку, на сацыялістычна-лукоўскім.

*16 чэрвеня, панядзелак*

Званіў Веташок Тарас[1]. Васіля вылучылі на рускую Букераўскую прэмію. Сказаў колькі словаў на Радыё «Свабода». Зацягнуўся хворы ў сядзібу БНФ. Хоць тры сотні тысячаў занёс на з'езд. Гонар вымагае болей, а кішэня — меней. Марчук распачаў «Залатую сэрыю паэзіі». Пачынаецца з Лёнечкі [Дранько-Майсюка] й Раечкі Баравіковай[2]. Усе палешучкі [...], дзе галоўным [...] зноў жа паляшук. Няхай красуюцца. Сёння гэта ўсё, як у вату. Калі б яшчэ хоць у ваду, дык хоць кругі якія былі б ці хоць бы бурбалкі. Лёнечка па-палеску капіруе Някляйчыка, а той у сваю чаргу Еўтуха. Абое, як другі й трэці экзэмпляр праз капірку пры перадруку...

*17 чэрвеня, аўторак*

Чакаў, што Роўба прыедзе з Вушачы. Няма. Прыязджала Іlонка з лецішча. Наконт Шагалаўскага плэнэру ў Віцебску. Усе бабры дабры. І Валя [Кірылава], і Додзік. Ім жа гэта не так ужо й цяжка ўладзіць. Вазіла Мятліцкую з мінкультуры на лецішча. Той таксама мала было слоў Сурскага[3] й мэтра з сантымэтрамі Заборава. Усе з сябе корчаць нешта. Званіў у Вушачу. [...]. Марыя Рыгораўна дужа слабая. Валя носіць ёй есці. Мая апошняя радня прага′лістая яшчэ болей радзее.

*Тое сена сушу...*

Быў багаты, як Крэз,
Я ў малечыя дні.
Радасць вя′ла,
Як сена ахапка.
Мне здавалася,
Многа навокал радні —
Мама, бацька,

---

[1] Тарас Віталь Валянцінавіч (1956–2011), беларускі журналіст, публіцыст. Супрацоўнік газет «Літаратура і мастацтва», «Культура», расійскай «Общественной газеты», Радыё «Свабода». Сын В. Я. Тараса.

[2] Баравікова Раіса Андрэеўна (н. 1947), беларуская паэтэса, перакладчыца. У 1996–2000 гг. нам. галоўнага рэдактара час. «Алеся». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1988), Дзяржаўнай прэміі РБ (1993).

[3] Сурскі Алег Аркадзьевіч (1928–2012), беларускі дызайнер, мастак, мастацтвазнавец.

Бабуля, прабабка.
Ва ўспамінаў дасюль
Тое сена сушу.
Колецца і сухая калючка.
Я аднею.
І толькі не азмрочыць душу
Кот Мірон ды балючая ўнучка…

Яшчэ й ясачка напісалася: «А геніяльнасць — проста такое…»[1]

*18 чэрвеня, серада*

З пасцелі ўстурыў Алесь Карлюкевіч. Рэдактар «Звязды» [Наркевіч] хоча даць у заўтрашні нумар партрэт Васіля на першай паласе. Хутка напісаў тэкст. Закончыў рыфмаванымі радкамі:

Сусвет трымае вышыня.
Душу не грэе холад блікаў.
Хлуснёй падавіцца брахня,
І застанецца Праўда й Быкаў!

Потым пайшоў у саюз на сустрэчу з Алінай Астравух. Яна задавала пытанні. Піша дысэртацыю. Казаў, што ўсё ў мяне ад мамы. Мама мая была касмічна адукаваная. Як бы касмічная прапаведніца вучыла мяне, далучала да Бога. У кожным беларускім паэце разліты Янка Купала. У каго болей, у каго меней. У каго зусім няма ў сабе вялікага Янкі, той наогул не паэт, а рамеснік, саматужнік. Без іскры. «Падзел: Рыззёўшчыца не спіць, не есць…» [у дзённіку].

*19 чэрвеня, чацвер*

Сёння дзень народзінаў Васіля. Ён у Нямеччыне. Можа, яго трохі падрамантуюць здароўем. «Звязда», дзякуй рэдактару й Карлюкевічу, дала ўсё пра Васіля, што напісаў. Адно паправілі *з лапатак* — на *з усіх сіл*. Так звяздзей. Няхай. Хадзіў у ПЭН. Пісалі адрас Васілю. Наогул, вельмі добра, што ўся прэса маўкліва як бы пратэстуе супроць замоўчвання Васіля. У газэтах партрэты Васіля й словы віншаванняў з днём народзінаў. Год таму гэтакага не было. Зразумелі нават самыя тупагаловыя, што Васіль адзін, хто ўяўляе сабой нашую Беларусь. Годна. Высока духам. «На дзевятнадцатае чэрвеня»[2], «На зямлі маленства»[3].

[1] Гл.: Ясачкі: А геніяльнасць — проста такое… (17.06.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 332.
[2] Гл.: На дзевятнадцатае чэрвеня (19.06.97) // Дажыць да зялёнай травы…: Ліставанне і аўтографы Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна (1960–2003). Львів: «ВолЯ», 2008. С. 46.
[3] Гл.: На зямлі маленства (19.06.97) // Руны Перуновы. С. 240.

*20 чэрвеня, пятніца*

Заўтра з'езд БНФ. Арыштавалі Лявона Баршчэўскага. Каб адседзеў пяць сутак за арганізацыю дэманстрацыі. Судзілі завочна. Па-нэасавецку [...] . Дужа кепска адчуваю сябе, пачуваюся блага. Але трэба пісаць прывітанне з'езду.

«Беларускі Народны фронт!» [У дзённіку.]

*21 чэрвеня, субота*

З'езд БНФ у Палацы тонкасуконнага камбіната, амаль як першы з'езд за мяжой у Літве. Хадыка спрабаваў гайдаць човен, але ўсё прайшло добра. Выбралі Зянона. Галасоў чатыры супроць. Нават супроць Васіля адзін голас. Выступаў Славамір Адамовіч. Яму прыпісалі плаціць выдаткі судовыя, у тым ліку за чатырох перакладчыкаў, якія перакладалі з беларускай на расійскую. Смех праз слёзы. Жывога Шчукіна ўбачыў. Камэдыйны дзядок ад газэты «Товарищ». Пытаюся, чаму гэта мяне назваў масонам, толькі без савецкай даважачкі жыдамасон? Адказвае, што ён інтэрнацыяналіст. Госцем быў Ніл. Пасядзеў трохі з Карпенкам і знік. Бо не ў прэзідыуме. Лявон Баршчэўскі папрасіў мяне адкрыць з'езд, паколькі Васіля не было. Пасля я перадаў думку Васіля, што павінен быць старшынёй Зянон. Баршчэўскага пад націскам прэсы й тэле адпусцілі да 8-мі раніцы заўтрашняга дня пад распіску. Алесь Бяляцкі[1] кажа, каб я напісаў, як разграмілі выдавецтва[2]. Адказаў, што гэта зручней зрабіць Арлову. Выходзіць, Бяляцкі казаў Арлову, а той адмовіўся, бо яму Марчук абяцаў выдаць кніжку. Вось і ўвесь малады рэўзапал.

* [Вынікі выбараў; за і супраць:]

| | | |
|---|---|---|
| Быкаў | 278 | 1 |
| Зянон [Пазьняк] | 282 | 5 |
| Баршчэўскі | 285 | 2 |
| Хадыка | 231 | 56 |
| Я [Барадулін] | 276 | 3 |
| Беленькі[3] | 280 | 7 |

---

[1] Бяляцкі Алесь (Аляксандр Віктаравіч; н. 1962), беларускі філолаг, праваабаронца. У 1989–1998 гг. дырэктар Музея М. Багдановіча, у 1991–1996 гг. дэпутат Мінскага гарвыканкама. Сакратар БНФ (1996–1999), стваральнік праваабарончай арганізацыі «Вясна-96» (з 1996).

[2] Маецца на ўвазе «скарачэнне» (звальненне) супрацоўнікаў выд-ва «Мастацкая літаратура» (загад ад 26.05.1997) У. Арлова, Л. Законнікавай, Я. Лецкі і Н. Давыдзенка; па звестках У. Арлова, пасля камітэцкага ўказання «разабрацца з супрацоўнікамі, якія *выдаюць неактуальную літаратуру (?!)*» (*заўв. Н. Давыдзенка;* сведчу, бо асабіста было праверана: і з негалосным распараджэннем не браць названых на працу ў дзяржаўныя ўстановы; і дадам: ніякі рэдактар нічога *не выдае сам,* без плана, зацверджанага Камітэтам па друку!).

[3] Беленькі Юрый Адамавіч (н. 1960), беларускі фінансіст; палітык.

| | | |
|---|---|---|
| Заблоцкі[1] | — | |
| Гусак | 280 | 7 |
| Вячорка[2] | 283 | 4 |

*22 чэрвеня, нядзеля*

Праваляўся, як пасля хваробы. На сцэне было скразнячыста. Званіў Куксо, прыехаў з Масквы да маці на кароткі час. […]. Хвалюся Кастусю, што Мірон сёлета ганяе суседскіх катоў. Ён смянецца: «І час радасці ў цябе. Вось калі б Мірон паганяў прэзідэнта ці ягонага ката, тады б яшчэ весялей было». Беларусь […] прасмішышча ў свеце. Вечарам званок. Васіль. Вярнуўся з Нямеччыны.

*23 чэрвеня, панядзелак*

У ПЭН-цэнтр. Карлас прачышчаў мазгі Алесю Анціпенку й Леўшунову. Да таго дастараліся, што прапанавалі: няхай фінансавым дырэктарам у фондзе будзе чалавек ад [Лукашэнкі]. Потым да Васіля з букетам і адрасам. Васіль у чорнай кашулі, заўважна пасівелы. Стомлены. Вочы паглыбелі. Яны бачаць тое, чаго нам не ўбачыць, бачаць духам, душой, думкаю. Ашукаў ён, здаецца, нас, што збіраўся класціся на абследаванне. Выступіў у Ляйпцыгу на высокім эўрапейскім форуме. Напісаў ліст Гавелу[3], каб прымалі нашых студэнтаў, якія пацярпелі за супраціўленне ўладзе. Каб прадоўжылася традыцыя перадвайны, калі з былой Заходняй ехалі вучыцца ў Прагу, ехалі гартаваць дух беларускасці. Васіль казаў, што яго заўсягды перакладала мінчаначка, якая вучыцца на 3-м курсе цяпер у Нямеччыне. Аднойчы падышла да яго, калі нікога не было, і сказала: «Я Вас не прадам». А наогул пра палітыку ніколі нічога. Гэтага разу перакладаў мужчына. Нехта Балакіраў. Загаварыў па-беларуску з Васілём. Казаў, што з Менска. Потым Васіль спытаўся ў гэтай дзяўчыны, як ён перакладаў. Адказала, што рэдагаваў, змякчаў. Напрыклад, Васіль кажа, што ў Беларусі пабудавана паліцэйская дзяржава, а ён перакладае — будуецца. Вядома, адкуль кадры. Бытавая дэталь. Адна дужа акуратненькая немачка запрасіла Васіля на лецішча. Усё дужа дагледжана, як на карцінцы. А весніцы адчынены. Тлумачыць, што для ката. Прыехала на машыне па Васіля й кажа, што з пасажырам. На першым сядзенні стаіць клетка з аксамітным верхам. Унізе пасудзіна з пяском. Гэта для

[1] Заблоцкі Уладзімір Мікалаевіч (н. 1939), беларускі навуковец. Кандыдат тэхнічных навук.

[2] Вячорка Вінцук (Валянцін; н. 1961), беларускі палітык, мовазнавец, выкладчык Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа (з 1990).

[3] Гавел Вацлаў (1936–2011), чэшскі драматург, пісьменнік. У 1989–1993 гг. прэзідэнт Чэхаславакіі, у 1993–2003 гг. прэзідэнт Чэхіі.

ката. І раптам кот угледзеў галуба праз шыбіну. Ён гатовы ўсё кінуць і за галубом. Чэхаўская Каштанка[1].

Карлас распавёў яму пра гутарку з сораўскімі дзеячамі. […]. А палове дванаццатай званок. Зянон. Пытаецца, ці быў я на з'ездзе. Падрабязна распавёў яму. Зянона зацікавіла, чаму мы з Васілём падтрымалі «Граmаду»[2]. Растлумачыў, што мы не ўступаем у «Грамаду». Проста падтрымалі ідэю. Хай змагаюцца. А я болей хацеў адцягнуць ад жадання выставіць сваю кандыдатуру на старшыню БНФ, жадання Трусава[3]. Зянон палагаднеў і сказаў: «Трусаў стары апартуніст». Вечарам і ўсю ноч бура. «Блажыць…»[4]

*24 чэрвеня, аўторак*

Ніяк не магу ўвайсці ў здароўе. У рабочы рытм. Як некалі пісаў Сачанка: «Стахван ніяк не мог узбіцца на карову». Зноў званіў Зянон. Цікавіўся падрабязнасцямі майго вываду з Фонду Сораса. Тое-сёе патлумачыў. Цягнік пайшоў. Кэгэбэ свайго дасягнула.

Званіў Клышка[5]. Дзякаваў за ніўхаўскі буквар. 700 экз. усяго, і адзін у яго будзе. Я некалі прывёз. Хваліў слова пра Навума [Кісліка]. «Змены: Радзеюць хлуды» [у дзённіку], «Каго?»[6]

*25 чэрвеня, серада*

Сёння дзень народзінаў Броўкі й Лапушына. Светлая памяць вушацкаму трапятуну. Што б там ні казалі, ён у савецкім га.не застаўся чалавекам з беларускай душою. Радзіка папрасіў, каб перадаў бацьку пажаданні ў Амэрыку. Лапушыну якраз 65. Перачытваю Міхася Стральцова. Як ён увабраў у сябе жыццё шырока й глыбока, да кожнай драбнінкі, да кожнага шолаху, кожнага паху. Якая ў яго зоркая памяць. Усе […], сачанкі, пташнікавы і ў падпаскі не варты яму. Майстар, на якога трэба было маліцца, а з ім як з пасажырам у тралейбусе абыходзіліся.

---

[1] Апавяданне А. Чэхава «Каштанка». *Чэхаў* Антон Паўлавіч (1860–1904), рускі празаік і драматург.

[2] Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя «Грамада» (1991–1996. З 1996 г. БСДГ «Новая грамада»).

[3] Трусаў Алег Анатольевіч (н. 1954), беларускі археолаг і гісторык архітэктуры, грамадскі і палітычны дзеяч. Кандыдат гістарычных навук (1981). У 1996–1998 гг. дэкан факультэта інфармацыйных сістэм Беларускага ўніверсітэта культуры, у 1997–1999 гг. 1-шы нам. старшыні ТБМ.

[4] Гл.: Блажыць… (23.06.97) // Ксты. С. 312.

[5] Клышка Анатоль Канстанцінавіч (н. 1935), беларускі пісьменнік, крытык, перакладчык, педагог. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1994). У 1990–2002 гг. супрацоўнік выд-ва «Юнацтва». Заслужаны работнік культуры РБ (1994).

[6] Гл.: Каго? (24.06.97) // Ксты. С. 341. Пад назвай «Ці…» // Ксты. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв Сымона і Алены, 2006. Выд. 2, дапоўненае. С. 373.

*26 чэрвеня, чацвер*

З раніцы званок Карласа. Васіль хвалюецца, чаму мяне не чуваць. А я званіў яму тры разы й ніяк не мог патрапіць. Бегаў па бабках, якія сядзяць каля крамы. Купляў буракі. У Вушачы няма. І тут у крамах таксама. Днямі бачыў Зуёнка. Бядуе, што кабінет заберуць. Бачце, [...] яроменка хоча пад аб'яднаны творчы саюз. Пытаюся, хіба Саюз пісьменнікаў уступаў у самазванае творчае аб'яднанне пад кіраўніцтвам [Яроменкі]? Не, кажа, толькі як асацыірваны член, бо ў аб'яднанні нешта падкідваюць [...].

Давядзецца ехаць у Дубулты. Напісаў: «Застольнае: Будзі нас, Будзінас!» [У дзённіку.]

*27 чэрвеня, пятніца*

Учора пазванілі з музычнай рэдакцыі. Прэм'ера песні «На паруках настальгіі». У лівень з'явіўся а 10-й роўна. На радыё такая цэнзура, што й камуна[...] не снілася. Спецыяльны чалавек слухае, каб у песні штонебудзь не тое [прайшло]. Вова Карызна з сынам напісалі песню пра тое, як добра жыць. Дык запярэчылі, што гэта заклік да бунту. Бо на справе людзі жывуць кепска. І цынізму не хаваюць. Бальшавікі хоць пра шыльдавасць клапаціліся.

Заехаўся Роўба. Перадаў у сельскамясцовасць, газэтна кажучы, цыбулю й буракі. Як яшчэ зямлю не трэба перадаваць. Прыехаў Забораў да Будзінаса. Заўтра сустрэнемся. Баршчэскі адседзеў. Выпусцілі нарэшце.

*28 чэрвеня, субота*

Аўтобусамі ў «Дудуткі». Сустрэў Будзінас. Павёў да Барыса Заборава. Баяўся, што Барыс стаў зусім халодным і чужым эўрапейцам. Аж не. Гэтым разам ён быццам і не ад'язджаў з Беларусі. Той жа самы, здаецца, што й быў. Паколькі мы амаль адных гадоў, дык цяжка заўважыць, ці на шмат пастарэў. Знаёмлю Барыса з Ганадам Чарказянам: курдскі паэт. Барыс: «А ў мяне ў Курску радня ёсць». На слых курдскі й курскі не адрозніш. Валя Кірылава казала, што на адкрыцці Шагалаўскага плэнэру зачытвалі прывітанне [Лукашэнкі], дзе зазначана, што ён з маленства выхаваны на шагалаўскіх вобразах. [...]. Па Беларусі прайшоў страшэнны ўраган. [...].

Сяргей Грыц[1] рабіў здымкі Барыса. Барыс пад канец вечара напомніў Карлюкевічу, каб яму даслалі здымак у траве. Каля ветрака чытаў вершы, прысвечаныя Барысу й Будзінасу. Вольнасцэнаўцы паказвалі «Рычарда»[2]. [...] Дудараў перапёр нахабна, тапорна, па-саўкоўску. Пераклад рэзаў вуха, што ігру цяжка было мне сачыць. Павел [... Якубоўскі] хадзіў з піпкай, амаль як Сталін. [...].

---

[1] Грыц Сяргей, беларускі фотамайстар.

*29 чэрвеня, нядзеля*

Барыс звоніць Навуму [Кісліку] з «Дудутак»: «Прыеду ў Парыж і пазваню табе». Званіў Васіль. Пра Барыса сказаў, што дужа імпануе яму манера Заборава. Назваў: настальгічны рэалізм. Успамінаў, як у Берліне ў рэстаўраваным вакзале зрабілі выстаўню. Мадэрн хоча забіць гледача празмернымі памерамі палотнаў. Дзе можа быць на палатне велічынёй са сцяну адна клякса з подпісам. Людзей няма. Чарга на даваеннага рэаліста Лібермана[1].

*30 чэрвеня, панядзелак*

Да Алега Сурскага на сустрэчу з Барысам. Навум, ягоны брат Валянцін, Васіль, пазней прыйшоў Тарас і аж захлынаўся ад велічы й шчасця, як яны з Алексіевіч ездзілі па Нямеччыне, потым пра гутаркі з Сорасам, якому, вядома ж, Тарас адкрыў вочы на ісціну. Васіль падняў тост за Барыса як мастака, за ягоныя рукі. Барыс між іншым казаў, што на Захадзе мацней яшчэ, чым у савецкай імпэрыі было, усё падпарадкавана адной модзе, якая прымушае прымаць правілы гульні. Выстаяць цяжка. Але толькі тады цябе заўважаць. Па ўсім свеце выстаўляюцца адны й тыя ж, на іх працуе й прэса, і тэле, і галерэйшчыкі. Нацыянальныя адзін-два на каларыт, для прыклёпу, як кажуць. Па дарозе ў метро пісаў «дурноту»: «Падабенства: Амонаўцы нізапанюх табакі…» [у дзённіку].

*1 ліпеня, аўторак*

У Міністрэства культуры. [Вацлаў] Валадзько ўсміхаецца: «Кампутар усё-ткі разумнейшы за людзей. Піша нашую гаротную краіну правільна — *Бедарусь*». Хоць за трыццаць спёкі, хоць ломіць галаву, пішу сцэнар пра Міхася Стральцова. Яшчэ раз перачытаў пэўныя рэчы. Ад нас пайшоў пісьменнік эўрапейскае велічыні. Апраўдана была ягоная ўсмешка-насмешка.

*2 ліпеня, серада*

У ПЭН-цэнтр. Пакуначак ад Урсулы з Нямеччыны. Шакаладныя цукеркі, канверт. У канверце паштоўка й пяцьдзесят дойчмарак. Сорамна, што як жабраку, прыемна, што клопат. Да Карлюкевіча вычытваць інтэрв'ю. Званю Васілю. Нейкі нездаровы голас. Пытаюся, ці не застудзіўся. Кажа, што не. Гэта яму заўтра трэба йсці ў БелОКс на прыём. Адгаварыў, бо падвядуць якога [замяталіна], і руку за плечы не схаваеш. Параіў лепей ехаць на лецішча. Васіль адразу павесялеў і пачаў казаць пра сабак. Кажу: «Лепей сябраваць з натуральнымі сабакамі, чым з двухногімі ў пагонах». Усміхаецца: «Напішы пра гэта «дурноту»».

[1] Ліберман Макс (1847–1935), нямецкі мастак і графік.

Званю вечарам у Вушачу. […]. Ілона абяцала пазваніць, ні гуку. […]. Адзін я. Толькі маладзюсенькая зорачка Дамінічка свеціць мне ў душу. Грэе душу. Трымае на гэтай халоднай зямлі.

*3 ліпеня, чацвер*

У горадзе шалее […] свята[1]. Сапраўды, як Васіль кажа, угрунтаваліся нацыянал-камуністы. [Лукашэнка] быццам даклад па-беларуску чытаў. Нілу цяпер трэба даваць [Лукашэнку] тэлеграму ўдзякі, як некалі завальваў тэлеграмамі Машэрава, і, можа, [Лукашэнка] зменіць гнеў на міласць. Ды, відаць, спозніцца, бо іншыя ёсць нападхопах. Праўда, кажа Васіль: «У ненармальным грамадстве не можа быць нармальна».

Ілона атрымала нейкія капейкі й цяпер ні гуку. Павінна ж ехаць у Віцебск, і хацела. […]. Мне хоць ваўком завый. Перачытваю Абдзіраловіча[2]. […] Дубавец увесь з Абдзіраловіча. Толькі дубаватасць і пыха свая. За Дубаўцом рэдзенькі цуг самаробных філосафаў. А сядзіць у Дубаўцы фюрэр з нацыянальным арнаментам. […]. Дужа мала ў нас душэўнай беларускай інтэлігенцыі. «Адводзіць…»[3]

*4 ліпеня, пятніца*

Барыс заўтра апошні дзень. Яго закруцілі як у дурным коле. У Парыжы ён прывык уставаць і працаваць, а тут ср.насалоннасць. Званіў Васіль. Ездзіў на лецішча. Там добра: трава, верныя сабакі, усё добра, каб не людзі. Гэтым духаццём зусім выбіты я з каляіны. Сапраўды, як пенсыянэр пачынаю жыць. Так можна зусім дайсці да вясёлага жыцця, да травянога ці парніковага. Лепшыя гады змарнаваў, патраціў на немаведама што, цяпер на схіле шкадуй не шкадуй, іх не вернеш. Замест акрайца — крошкі. «Цішыня»[4].

*5 ліпеня, субота*

З днём народзінаў цябе, іскрыначка мая ў суцэльнай цемры, званочак мой апошні, анёлак бязгрэшны, усмешка нябесная, Дамінічка! Сёння табе восем. Хай Госпад дасць табе шчаслівыя леты! Балючая ты мая й дарагая ўнучка. Мама мая не дачакалася цябе. Дзякуй Богу, дачакаўся я, каб рэшту дзён над табой дрыжэць. Учора паслаў тэлеграму. Сёння пазваніў, ты недзе на вуліцы бегаеш. Па той жа вуліцы, дзе бегаў я, дзе бегала маці

[1] Дзень вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, «перайменаваны» ў Дзень Незалежнасці (Дзень Рэспублікі).

[2] Абдзіраловіч Ігнат (сапр. Канчэўскі Ігнат Уладзіміравіч; 1896–1923), беларускі філосаф, публіцыст, паэт.

[3] Гл.: Адводзіць… (3.07.97) // Босая зорка. С. 35.

[4] Гл.: Цішыня (4.07.97) // Босая зорка. С. 33. Па першаму радку гл.: «І Бог задумаўся…» // Anima. С. 117.

твая пад увагай бабы Куліны. Хай муравеюць сцежкі твае. Хай камяні адыдуцца ўбок з дарог тваіх. Шчасця табе, Дамінічка. Зорачка ў вакне маёй самоты, ззяй! [...].

Заўтра адлятае Забораў. Чужы ён ужо тут. Прырос там. Хай яму шчасціць! Лекі мне прывезці забыўся, сам жа ўзяўся. Хай яму самому не трэба будуць яны. Васіль званіў, казаў, што знайшоў ціхае мейсца на розныя інтэрв'ю — «Яму»[1]. З Кіева тэлевізійнікі. Пачалі запісваць. Аднекуль адзін узнік, потым другі, нарэшце трэці сеў на край «Ямы» й пачаў слухаць. Стукачы паўсюль.

*6 ліпеня, нядзеля*

З гэтым надвор'ем сканчаюся. Сумныя думкі развітання з жыццём прыходзяць. Перапісваю на машынку здаць [Яна] Баршчэўскага. Ён мяне даб'е. Гады ўжо не тыя, каб працаваць. Яшчэ пад настрой дык нешта вяжацца.

*7 ліпеня, панядзелак*

Да Алы [Смурагі-Гаўрон] ў выдавецтва. Перадрукаваць сцэнар пра Міхася. У выдавецтве, як на хаўтурах. Усе прыгнечаныя, запалоханыя чаканнем горшага. З [замяталінскай] канторы цыркуляр: выдаваць толькі грамадска значную літаратуру, самаакупную, скараціць бібліятэчныя заказы. Усё к пазногцю. «Расце...»[2]

*8 ліпеня, аўторак*

На студыю аднёс сцэнар пра Міхася. Перадрук забіраў у Алінай дачкі, яна працуе ў рэдакцыіі Бондар. Бондар прапанавала прынесці вершы. Падзякаваў і сказаў, што пры такой рэдкалегіі [...] не хачу ўдзельнічаць [...].

*9 ліпеня, серада*

Сёння дзень народзінаў Валі. Званіў некалькі разоў. [...]. Якая ўжо ні ёсць, а першая й апошняя ў адной асобе. Хай Бог дасць ёй здароўя. На нас жа зорачка наша Дамінічка. Ад Ілоны ні слова ніадкуль. Відаць, з [Косцем] падаліся ў Піцер прасаджваць грошы, якія ўзялі за кватэру. Потым будуць галадаць. Хадзіў у «Звязду». Даюць інтэрв'ю, але паралельна з інтэрв'ю з [...] Пашковым. Усё-ткі справу з [...] прэсай лепей не мець. Ці так, ці гэтак, а ў га.не будзеш. Раніцай рабіў нейкую зарадку, і мне ўсміхнулася вушацкая папеўка: «— Стары, стары, лезь на печ! Стары расстагнаўся. — Стары, стары, лезь на бабу! Стары рассмяяўся». І адне-

---

[1] «Яма» — памятны абеліск, пастаўлены ў 1947 г. у Мінску на месцы пахаванняў яўрэяў Мінскага гета, расстраляных фашыстамі ў 1941–1943 гг. Недалёка ад дома В. Быкава.

[2] Гл.: Расце... (7.07.97) // Руны Перуновы. С. 406.

куль вымкнула зноў вушацкая: «Я ў Полацку была, жыду рыжаму дала». Пакуль выходзіць з мяне ўсё вушацкае, яшчэ жыву. Яшчэ рассмяюся, як той стары.

*10 ліпеня, чацвер*

Мне, відаць, Ян Баршчэўскі будзе сніцца й там… Перапісваю, на хаду правячы. А канца не відаць. Званіў дамоў. Савецкі ідыятызм у дзеі. Феньку сын збіў на горкі яблык за тое, што яму не аддала сваю пэнсію, а сама атрымала. Яшчэ й прыгразіўся, калі паскардзіцца ў міліцыю, заб'е. Сам працуе ў пажарнай і таксама п'е. Крычаў, што грошы трэба на вопратку ў школу дзецям. А Дамінічка казала Валі: «Званіў адзін дзядзя й адзін дзедзя». У мяне ад гэтых вясёлых яе словаў аж галава перастала на момант балець. «Зрэбны, шарачковы, ілляны…» [1-шы вар.; у дзённіку].

*11 ліпеня, пятніца*

Засядалі ў ФС. Дзялілі тэхніку. Далі ў вобласць. Хельсінскаму камітэту. А так, як крумкачы, наляцелі з просьбамі. Коўтун[1], Якавенка[2]: дайце, хто колькі можа. Як на бабінцы просяць. Званіў Тарас. Ілона на лецішчы. І не пазвоніць. Тарасу тлумачыла, што не можа дазваніцца. Кепска ў беднай з галоўкаю. Радзік раіў мне верш перапісаць. Перапісаў: «Тчэцца: Зрэбны, шарачковы, ілляны…»[3]

*12 ліпеня, субота*

Безвыходна (у сэнсе й без выходных дзён) сядзеў над перапісваннем і праўкай перакладу Яна Баршчэўскага. Сазвоньваўся з домам. Дамінічка застудзілася. У лужыну ўлезла й сама сушылася ў Сімкініхі. Бедненькая!

13 ліпеня, нядзеля

Сойм БНФ. Арганізацыйныя пытанні й заявы. Адчуваецца, што КГБ стараецца раскалоць. Пакуль нічога не выходзіць. Праводзіў Васіля ў метро. Васіль: «Уся па́ра можа пайсці ў свісток. Зянон здалёк не зусім адчувае рэальнасць…» Васіль збіраецца ехаць у Вушачу. Паеду з ім. Васіль: «Трэба ўнука да каранёў звазіць». Унуку 8 гадоў. Быў у Радзіка. Сынок ягоны Ла-

---

[1] Коўтун Валянціна Міхайлаўна (сапр. Новік; 1946–2011), беларуская паэтэса, празаік, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1979). У 1990–2006 гг. ст. рэдактар аддзела прозы час. «Полымя». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1986).

[2] Якавенка Васіль Цімафеевіч (1936–2018), беларускі пісьменнік. З 1990 г. прэзідэнт Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза «Чарнобыль». У 1991–1996 гг. гал. рэдактар міжрэспубліканскага сацыяльна-экалагічнага штотыднёвіка «Набат». Лаўрэат Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Э. Нансена (1994).

[3] Гл.: Тчэцца... (10–11.07.97) // Ксты. С. 179.

рык — адна радасць. Душой памаладзеў. «Доўга…»[1] Гаварылі з Радзікам. Пра Валянціна Тараса — спалоханы рэвалюцыянер.

*14 ліпеня, панядзелак*

Занёс на машынку Баршчэўскага. У саюзе збіралася рада. Прадалі, прапілі Саюз пісьменнікаў самі ж, а цяпер, калі [Ціцянкоў] забірае будынак, схамянуліся. У нас дома казалі: абдумаўся манах, што наср.на ў кармана′х. Салірваць будуць Гілевіч ды Гена. Зуёнак будзе думаць, як яшчэ на тэрмін астацца, ці дадуць абяцанага акадэміка.

*15 ліпеня, аўторак*

На студыю. Пасля з Халіпам да Карласа. Наконт магчымай працы. Было б няблага, хоць бы трохі з галечы галаву высунуў. Да Карлюкевіча, вершы ў «Звязду». Дамінічка ў Вушачах яшчэ хварэе. Дужа застудзілася. Узяўся перачытваць (фактычна нанова) Плутархавы[2] «Застольныя гутаркі». Гэта трэба было глыбока й шырока даваць у праграмах унівэрсытэцкіх, а не марксізм-ленінізм. Тады й саветызацыя мазгоў ішла б не гэтак паспяхова. Ды што казаць, сам я быў саўдзельнікам у злачынстве стварэння так званай савецкай літаратуры з нацыянальным арнаментам.

*16 ліпеня, серада*

Званіў дамоў. Прапаў Мірон, не прыходзіў начаваць. Каб яго там не забілі вушацкія камуністы. А я яму на Камароўцы да прыезду ягонага купіў 2,5 кг «Віскаса». Каб толькі еў. Яму ежы на 250 тысяч, сабе на 100. Настрой кепскі. Усё баліць, што можа. «Нікому»[3].

*17 ліпеня, чацвер*

Амаль не выходзячы з хаты, цэлы дзень прамітусіўся. Меліся ехаць з Карласам да Васіля. Карлас нечым атруціўся. Тамары [жонцы] даў параду, як лечыць. Перш раствор марганцоўкі. Некалі ў Гародні Васіль мяне гэтак ратаваў. Потым тысячы званкоў. Нарэшце Валя павесялелым голасам пазваніла, што знайшоўся наш Мірон. На трэція суткі з адарваным вухам закаціўся ў хату, нешта з’еў, Дамініка дала яму два сподачкі вады. І зноў у паход.

А перад ліцэем, адзіным беларускім, які [Ціцянкоў] забірае, […] мардавароты наладзілі бойню. Забралі колькі бацькоў, білі вучняў. […].

---

[1] Гл.: Доўга… (13.07.97) // Ксты. С. 350.

[2] Плутарх (каля 45 — каля 127), старажытнагрэчаскі пісьменнік і гісторык.

[3] Гл.: Нікому (16.07.97) // Ксты. С. 246.

Аб’явілася Ілона. Рылатка […] не дазволіў ёй выстаўляць свае карціны.

«На схіле»[1].

*18 ліпеня, пятніца*

Сёння, а было гэта ў 1962 годзе, нарадзілася дачушка мая Ілоначка. Чамусці помню добра гэты дзень. Мама, Арына[2] й я пайшлі ў ягады за Дземенец. Светла было на душы. Мама спявала, ласкавае баравое рэха падхоплівала мамін голас. Я слухаў маміны песні й пісаў верш, як лесам ідуць маладзіцы, як туга′ ўдоўя дамоў вяртаецца, уставіўшы ў верш: «Кавалішанька, мая вішанька, не кажы ты кавалю, што я цябе павалю…»[3] Мама з Арынай ласкава пацвельваліся, што ў мяне будзе дачка. Я ж хацеў сына. Бо Валя была ў Гародні ў маці свае. Прыходзім з ягад, тэлеграма: дачка. Цяпер дачушка гэтая зусім ад рук адбілася. Учора пазваніла, што будзе — і не прыйшла. З галавой у беднай, відаць, блага.

З Карласам да Васіля. Карлас распавёў пра справы ПЭНа, пра святкаванне юбілею Алеся Адамовіча. […]. Потым Карлас паехаў, не застаўся перакусіць, бо атруціўся перад гэтым у гасцях, Васіль распавёў, які клопат мае з ордэнам «Дружбы народаў» ад Расіі. Генадзь узварушыў узноў справу. Васіль пасла Расіі ашарашыў: «А што, калі я з гэтым ордэнам стану ў пікет супроць прэзідэнта?» Пасол толькі адны галосныя вымаўляў. Адклалі да восені. А Васілю непераліўкі. І адмовіцца — шум, і прыняць ордэн — шум. [….]. Потым Васіль правёў мяне да метро. Я пакрыўдзіўся, як Ілону пакрыўдзілі ў Віцебску, […] Рылатка. Васіль казаў, як сына[4] з арміі дэмабілізавалі, калі пачало арганізоўвацца так бы мовіць беларускае войска, а сыну заставалася даслужыць два гады, нявестку[5] на тэле цкуюць. Як у светлыя бальшавіцкія дні. Сказаў Васілю, што быў прапаў Мірон, а цяпер знайшоўся. Васіль згадаў, як у бацькі быў кот. З вясной знікаў і толькі з халадамі вяртаўся дамоў сыты, здаровы. Неяк бацька выходзіць, а каля хаты ляжыць здаравенны заяц. А кот глядзіць на здобыч з-пад страхі. Не змог зацягнуць на гарышча. Калі сядзелі за сталом, званіла парыжанка Вірджынія Шыманец. Прыемна было слухаць, як Васіль з ёй гаворыць па-беларуску.

---

[1] Гл.: На схіле (17.07.97) // Босая зорка. С. 37.

[2] Янушкевіч Ірына Цярэнцьеўна, суседка і сяброўка Акуліны Андрэеўны Барадулінай.

[3] Гл.: «Мохам зязюльчыным ідуць маладзіцы…» (18.07.62); «Тэлефон прачнуўся задужа рана…» (]1963]) // Нагбом. Мінск, 1963. С. 99; 54.

[4] Быкаў Сяргей Васільевіч (н. 1952), беларускі вайсковец у адстаўцы (з 1991).

[5] Быкава Тацяна Ільінічна (н. 1856), беларускі рэжысёр тэлевізійных навін.

* * *

Атожылачак мой,
Ілоначка, Ілона!
І ў маразы, і ў ласцы веснавой
Хай будзе Бог з табой —
І свет шуміць зялёна,
І талент свой
На моц усю засвой.

*19 ліпеня, субота*

Цэлы дзень ваяваў з кнігамі. Яны мяне хутка выцясняць з хаты. Не магу парадку даць. Нарэшце з'явілася Ілона. Казала, як яе крыўдзіў у Віцебску [...] з мінкульта Рылатка. Мяне цкаваць марна, ды на крывінцы маёй адыгрываюцца [...]. Пайшла, а я не знаходжу сабе мейсца — худая, як з канцлагера. Што яна есць? Ці зможа яна так вытрываць у гэтым шалёным пекле [...]? Адчуванне канца ўвесь час са мною. А трэба яшчэ жыць, бо Дамінічка такая маленькая, такая міле́нькая. Чалавеку Бог дазваляе грэцца каля вялікага вогнішча жыцця, якое з гадамі ўсё меншае, халаднее, згасае. І толькі як вялікую ласку дае Гасподзь на схіле гарачае цяпельца — унукаў.

*20 ліпеня, нядзеля*

Рыхтаваў Баршчэўскага.

*Паступова*

Дамоў хачу
На парог стаптаны,
На мяккі ложак,
На мулкі ўслон,
У сонны смутак,
У смутны сон,
На луг, дзе боязь
Пасвіць заганы.

Губляю звычкі
І не шукаю,
З чаканнем
Не заключаю дамоў.
І сэнсу халоднага ў
Слове «дамоў»
Не дужа палохацца
Прывыкаю...

*21 ліпеня, панядзелак*

Аддаў Кастусю [Цвірку] Баршчэўскага. Вялізны груз з плячэй скуліў. У «Полымя» занёс пераклады паэзіі пана Яна, п’есу Сабалеўскаму[1] перадасць Кастусь. Вечарам да Васіля. Учора кажу яму, што за кепскія навіны, весткі вестунам галовы адсякалі ў даўніну. Васіль: «У нас галоў не хопіць адсякаць за кепскія весткі ў краіне». Маецца паехаць у Вушачу. Перадаў ім Дамінічкіны гасцінчыкі, а Валі грошы. Васіль казаў, як часцяком падводзілі яго нашыя любыя лідэры. Ад імя ПЭН-цэнтра пісаў пратэст супроць захопу ліцэя [ціцянковым]. Генадзь ад імя ТБМ адмовіўся, а мне раніцой крыўдзіўся, што Зуёнак не схацеў па тэле выступіць у абарону будыніны СП, даручыў Генадзю, а сам паехаў на лецішча. Чакае абяцанага акадэміка. Што ж, чакай, сучка, Іллі, блін дадуць. Частаваў сваёй кавай забеленай. Выйшаў, і нешта мяне змусіла абвернуцца — Васіль з балкона махаў мне аберуч. Адзіная святая душа, якая мне свеціць у цемры. А ў мяне душа не знаходзіць сабе мейсца. Хачу ў Вушачу, дробныя клопаты цягнуць. Дый у Вушачы будзе не па сабе, ведаю. Няма спакою.

*22 ліпеня, аўторак*

Прапайск *(Слаўгарад).* Раніцай забеглася Ілоначка. Зварыла мне нешта з буракамі й крапівой. Снедалі ўдваіх. Разрывае яна мне сэрца — галодная, халодная. [...]. Пасля дзесяці выехалі на Магілёў, з Магілёва на Слаўгарад. Спёка. Усё буяе. На поплаве кіпіць праца. Грэбяць сена, хто на чым можа, вязуць дамоў. Граблі ўжо болей пластмасавыя, не ў лапцях — у басаножках мужчыны, яны замянілі лапці — дзіркаватыя. Мне рэжа вуха мяккае *рэ*. А наогул, уязджаем у свет Міхася Стральцова. Непаўторныя назвы вёсак — Сутокі, Беліца, усё ўхапіць памяццю цяжка. У гасцініцы ў Слаўгарадзе тоўстая цётка звоніць свайму мужыку, ці адсялілі Сычын, ці ацалела хата нейкага Стральцова (яна нічога не чула пра Міхася). Забыўся дома чайную лыжачку, пытаюся, можа, у іх ёсць. Няма. Ёсць відэлец. Сэрвіс — сцервіс. У краме хлеб, селядзец і «Шампанскае». Спітыя раённыя твары. Пацёртыя маладушкі. Жах. Цемра. Спадчына ад камуна[...]. Каля вёскі Ваўкавічы запісаў нешта, што па дарозе круцілася ў галаве: «У даўжніках»[2]. У Прапайску ў гатэлі, калі яго можна назваць гатэлем, напісаў ясачку з дарогі: «Дажджу зялёнаму хочацца ліцца...»[3]

* Ля в. Ваўкавічы грабяць сена, прыехалі з коньмі, з трактарам, на іншамарках і саўмашынах-дабітухах. Граблі і драўляныя, і ўжо пластмаса-

[1] Сабалеўскі Анатоль Вікенцьевіч (1932–2012), беларускі тэатральны крытык, выкладчык. Доктар мастацтвазнаўства (1974). Прафесар (1975). У 1993–2000 г. заг. кафедры Мінскага інстытута культуры, адначасова ў 1992–1998 гг. гал. рэдактар час. «Тэатральная творчасць».

[2] Гл.: У даўжніках (22.07.97) // Ксты. С. 339.

[3] Гл.: Ясачкі: Дажджу зялёнаму хочацца ліцца... (22.07.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 332.

вые. Мяккае рэ дзярэ мне слых, як Мішавы героі з апавяданняў. Сена давалі надзелы за малако, хто колькі здаў. Потым будуць даваць на карову. У выпрастанай рэчцы шына вытыркаецца, як недачышчаны чорны шчупак. Вадзіцель з-пад Іўя добра [сказаў]: «Пагрымлівае...» Колькі гукаў у слове. Ствол бярэзіны, як белая манашка ў зялёнай аблачыне.

*23 ліпеня, серада*

*Сычын,* радыяцыяй насычан. Праз апусцелую вёску, дзе абапал дарогі знакі небяспекі, дзе ўсё з хат выдрана, што толькі можна выдраць, праз зону ў зону — роднае котлішча Міхася Стральцова. Ледзьве знайшлі хату. Сажалку помню, а далей няма ў каго спытацца. Незапёртыя падсвінкі гуляюць па вуліцы, хмары гусей. Людзей няма. Ніхто тут ужо нічога не ўкрадзе. Засталіся свае. Сямей за дваццаць. Хлеб прывозяць раз на тыдзень. Раней кароў збылі, цяпер набылі. На буслянцы трое буслянатак. То сядзяць, то ўстаюць цыбата ды развінуць то адно крыло, то другое, каб пераканацца, што крылы ў іх ёсць сапраўды, каб наважыцца ўсё-ткі аднойчы завеславаць пёрыстымі вёсламі, узняцца над буслянкай. Мінаем сажалку. Едем у канец вёскі. Пакінутая, распранутая хата. Здаецца, не Міхасёва. Пасярод вуліцы, як глянуць, сухое дрэва з пустой высыхлай шпакоўняй. Бягу ў адну хату, там жывуць, нікога няма, толькі марна турзаю клямку. У другую — абнесенае дашчатым высокім плотам падвор'е, толькі сабака ненавязаны віляе хвастом, рад чалавека бачыць, забыўшыся, што ён мусіць аббрахаць кожнага несвайго, нікога. Бачу маладзіцу, заганяе ў хлеў цялушку. Прашу паказаць хату Міхася Стральцова. Тут яе ведаюць усё ж як бацькаву, бо настаўнікам быў бацька Міхасёў. Маладзіца згаджаецца. Ідзе басанож. Між іншым кажа: «А вы ўсё па-беларуску, як Беларусь аддзялілася...» Пярэчу, што я заўсягды так гавару. Заношаны пярэднік паркалёвы, з парванай кішэні вытыркаецца ладнаваты агурок. Кажу: «Агурок выляціць...» Агурок такі валіцца на зямлю. Падымае, кажа: «Суседка дала два агуркі на халаднік, а ў мяне няма — усё пустацвет...» Міхасёва хата. Падвор'я няма. Усё papalilі суседзі, аднавяскоўцы. Чатыры таполі спілаваў адзін дужа спрытны. Маладзіца кажа: «Ёсць тут у нас адзін артыст, зрэзаў таполі на дровы, як бы яму лесу мала, лес кругом». З круглых, як патэльні, пнёў пацягнуліся бледныя атожылкі. Настаўнік, дзядзька Змітрок, зграбае сена каля Міхасёвай хаты. Яму памагае ўнук сыннін. З Кіева прыехаў у помач дзеду. Сын вучоны, працаваў у Чарнобылі, цяпер недзе ў міністэрстве ў Кіеве. Дзядзька Змітрок пазнаў мяне. Як тады з Міхасём прыязджалаі, гасцявалі ў ягонай хаце. Чытаў маю падборку ў «Звяздзе» ўчарашняй. Усміхаючыся кажа, як вуж жыве пад хлевам, пераказвае мой верш. Паказвае мяне ўнуку і кажа, што гэта паэт. Адпаведна грэблівы позірк маладой змены. Змітрок кажа: «Сена,

як нябожчык», (трэба хутчэй пахаваць). Такі паспеў знесці, бо неўзабаве такі лівень уліў, аж у неба спіна мокрай стала. Перад дажджом так смаліла, што душа з цела выскоквала. Каня навязанага на ланцугу заядаюць сляпні, не раўнуючы як Васіля кэгэбісцкія падхвосьнікі. Змітрок прапануе хоць кіслага малака выпіць, бо гарэлкі няма. Я выпіў бы, ды ведаю, што астатнія пабаяцца й паставім Змітрака ў дурное становішча. Кажа, што два месяцы праваляўся па санаторыях, бо рабілі аперацыю; падымае кашулю й паказвае пісяг праз увесь жывот. А дома бяда — жонка нагу паламала. Увесь клопат на ім. Тут, у зоне, пачынаеш задумвацца над сэнсам вады ў капытку, з якога сястрычка Алёнка ў казцы не дазваляла братку Іваньку піць. І наогул жывуць бадай страшней, чым у канцлагеры, ці савецкім, ці нямецкім. Хлеб прывозяць раз на тыдзень. Вось табе й казкі пра чыстыя прадукты.

А дарога аж стогне — машыны вязуць лес. Перад уездам у Сычын поўнасцю пустая вёска. Усё забрана марадзёрамі й мірнымі жыхарамі, калі льга так сказаць. Толькі дагніваюць старыя сцены ды стахлыя стрэхі. Ужо й да цэглы дабраліся. Усё гэта йдзе па ўсёй нашай зямлі. Некаму прадаюць, нехта купляе. Купляе сабе хваробу. Горшага ворага ў чалавека няма, чым ён сам сабе. У вайну, помніцца, хаты стаялі пакінутыя цэлыя. Яшчэ мала прышчапілася савецкая свядомасць, саўковасць.

Абапал дарогі шыльды: «Небяспечная зона», а шчаслівы дзядзька нясе вялізны кош баравікоў. Наогул уся зямля нашая небяспечная зона: паўсюль калгас Леніна, 40 год Кастрычніка, Дзяржынскага, перад Бабруйскам высокая арка, а на ёй: «Ідэі Леніна жывуць і перамагаюць». Чалавека пазбаўлялі жыцця, каб вар'яцкія ідэі жылі. Шафёр Валеры Зелень (добра сказаў пра грымоты: пагрымлівае) з-пад Іўя, кажа: «Вёску толькі салдат з аўтаматам вартуе, яму радыяцыя не страшна». Гэта ён пра стандартны жалезны сваім вырашэннем бетонны помнік над брацкай магілай. Можа, хоць магілу не разрыюць — пабаяцца радыяцыі.

Адна маладзіца распавядае. Тут недалёка ад іхняй хаты сажалка была (цяпер зарасла). Выбралі торф (у нас на Вушаччыне называецца вы'рый), качкі на дзюбах ікры пананосілі. Міхась неяк прыехаў у госці. Кот прынёс на двор вялізнага шчупака. Тады Міхась пайшоў на ўлоў, вёдрамі насілі й яны, і аднавяскоўцы. Хата без падлогі, асот прарос, імшоны мох, страха дзіравая, з драніц, абымшэла, дзе цэлая. Дошкі, абклееныя шпалерамі, валяюцца. Сшытак вучаніцы 8 класа Ніны Стральцовай [сястры] па расійскай мове. Дзядоўнік і крапіва вышэй за ацалелы слуп ад плоту, у слупе пачарнелы цвік, як абломак стралы. Раней была буслянка блізка каля хаты, цяпер няма. На дзіравым залобку чашачкі. Абарваныя дзве драціны ад святла й радыё, звісае паддзёўка падкладкай наверх, на драцінах павучынне, класічна сплеценае, як схема нейкае галактыкі. Вы-

гнілы слуп ад плота з кавалкам жардзіны з цвікамі, як упалы крыж. Два буслы высока над хатай. У траве воддаль ад спілаванай ліпы (пачаў ля пня ні'ціцца дубок) трохбаковая, бясстрэхая шпакоўня. Бусліха прылящела карміць сваіх цыблікаў. Шчаслівая маладзіца нясе некалькі боханаў хлеба — запас на тыдзень. Пустыя вачніцы Міхасёвай хаты, як некралогі нябыту, толькі ў рамках блакітнага колеру. «Чуваць»[1].

* Пустыя вачніцы хаты Міхасёвай. Як рамкі некралогаў, толькі блакітнага колеру — у гэтых рамках нябыт. Наогул, жыве толькі цень чалавечы, а чалавек жыве, каб парухаць цень свой па немаце вячніны.

*24 ліпеня, чацвер*

*Краснаполле.* У гасцініцы ўсё абадрана — радыё, люстэркі. Начавалі амонаўцы й газаўшчыкі. Амонаўцы, як чорная сотня. Гэта трэба быць сапраўды геніем, каб так няўтульна, адрэчна пабудаваць гасцініцу. Гэта ўсё ідэя зоны, ГУЛАГу. Каб чалавек сябе адчуваў як на этапе. Раніцай на Менск. Пасля Чэрыкава адразу яшчэ дубы ў ярах абапал дарогі. Не ўсе звялі. Зусім іншае адчуванне, што ты на зямлі сваёй, абжытай, вечнай. Па дарозе пісаў вершы, каб не звар'яцець ад духаты й аднастайнасці маруднага руху. Такое ўражанне, што на аснове гэтай машыны, на якой мы едзем, была створана душагубка. «Намі стаць…»[2] Перад Рагачовам доўга стаялі, перачакаўшы два дажджы, здымалі лугавіны Сажа.

*Мялее глуха…*

Вайстрэюць плечы ў берагоў нябыту,
Мялее глуха дзён маіх рака.
На дне цямней кунежыцца блакіту.
А напамінам мала астраўка.

Той астравок — хмурынка на вадзе.
Над ім галосіць кнігаўка самоты.
І першыя, й апошнія грымоты
Грымяць над галавою
Ці нідзе.

І колькі йшчэ маёй рацэ цячы,
Нікога запытацца немагчыма.
І толькі доля цёмнымі вачыма
Аб нечым з небам шэпчацца ўначы…

---

[1] Гл.: Чуваць (23.07.97, Сычын) // Ксты. С. 352.
[2] Гл.: Намі стаць… (24.07.97) // Тамсама. С. 299.

Неадчэпна ў галаве стаіць абрадыячаная вёска. Маладзіцы не самотныя — яны з радыяцыяй — пасланкай смерці. Савецкі калгасны прыгон атрымаў сваё завяршэнне. «Мяркую…»[1]

*25 ліпеня, пятніца*

Сёння не стала Уладзіміра Караткевіча. Ужо колькі гадоў без яго сірацее нашае роднае слова. Сёння ж адышла ад нас Наталля Арсеннева, расіянка, якая стала шчырай беларускай, беларускай душой. Светлая ёй памяць. Не прысталі да яе камуністычныя саўгэбісцкія памыі. Чыстая душа паэткі была заўсягды на небе. Заўтра з'езд беларусаў свету. Амэрыканцы не будуць. Хацелі забараніць праводзіць з'езд, а пад вечар [замяталін] дазволіў. Будзе ў будынку музкамедыі. Камедыя рэч вечная.

*26 ліпеня, субота*

Не магу ўзяць моцы. Амаль дзень ляжаў улогам. Пазваніў Генадзь. У яго Іван Драч[2]. Падняўся на 10 паверх. Там Драч, Шокала[3] й Ніл. Паглядзеў на Ніла — некалькі пудоў чалавечыны. Хцівы, звар'яцелы на ўяўнай велічы. Генадзь нешта кажа, а Ніл суседу Шокалу трындзіць, колькі радкоў, колькі кніг перапёр з балгарскай, што перакладаў і ўкраінцаў, што добра б, каб на Украіне выдалі ягоную кнігу артыкулаў. Генадзь кажа, што Рыгор памрэ паэтам, Ніл раптам цверазее: «І я таксама памру паэтам». Жыві, цыбаты, не спяшайся. Каб ты сто гадоў жыў і дзвесце ракам поўзаў […]! Генадзь двойчы кідаў Нілу на вочы, што ён, калі быў у Вярхсавеце, не падтрымаў разам з […] вярцінскім яго як міністра тэлерадыё. Ніл аднекваўся. Стараўся піць як мага болей […], імітуючы, што баліць зуб. Генадзь казаў, што ён раіў Сажычу[4] аддаць усе паўнамоцтвы БНР сюды, ладзіў сустрэчу Шушкевіча з Сажычам (прэзідэнтам БНР); Сажыч быў згадзіўся, але спахапіўся Шукелойць[5], і дурнога кроку не адбылося. […]. І ў такіх сустрэчах, застоллях колькі часу змарнаваў я па маладосці.

---

[1] Гл.: Мяркую… (24.07.97) // Ксты. С. 290.

[2] Драч Іван Фёдаравіч (1936–2018), украінскі паэт, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі (1976), Дзяржаўнай прэміі СССР (1983). Герой Украіны (2006).

[3] Шокала Аляксандр Андрэевіч (н. 1949), украінскі перакладчык.

[4] Сажыч Язэп ( 1917–2007, ЗША), беларускі вайсковец; грамадска-палітычны дзеяч замежжа. У час вайны афіцэр прапагандысцкага батальёна. З 1944 г. у Францыі, Германіі, Швейцарыі, з 1950 г у ЗША. У 1982–1997 гг. старшыня Рады БНР.

[5] Шукелойць Антон Антонавіч (1915–2017), грамадскі дзеяч беларускай дыяспары ЗША. Быў рэпрэсаваны (1941). З 1944 г. у Германіі, з пачатку 60-х гг. у ЗША. Сябра Інстытута літаратуры і мастацтва ў Нью-Ёрку.

*27 ліпеня, нядзеля*

[...]. Да галаўнога болю правіў Мысліцкага[1] з Палесся. Украінцы падаравалі часопіс «Український світ». Колькі паасобнікаў. Якая глыбіня, як дбаюць пра падмурак гмаху ўкраінскага духу. А ў нас плач на ўзроўні Ніла. «Узаемнасць»[2].

*Адчыняю...*

Адчыні таму,
Хто не пагрукаецца ў дзверы.
*Фернанду Песоа[3]*

Вядома, не пагрукаецца снег,
Той, што з ракой
майго маленства збег.
Вядома, не пагрукаецца ветах,
Дасведчаны ў маіх былых сакрэтах.
Вядома, не пагрукаецца тая,
Якую кожны мой радок вітае.

Ды я ўспамінам дзверы адчыню —
У цішыню...

*28 ліпеня, панядзелак*

З хворай галавой мучыўся з вершамі Фелікса Мысліцкага. З дому кепскія навіны — Дамінічку кладуць у бальніцу й Валю з ёй. Абедзьве застудзіліся.

*29 ліпеня, аўторак*

У аптэцы купіў лекаў. Можа, дапамогуць. А то сутарагі зводзяць ногі. Наогул стаў слабы на здароўе. А жыць трэба, хто ж будзе Дамінічку гадаваць, калі не мы з Валяй. Прыехаў, дакладней, прыляцеў Самсон з Ізраіля. У «боінгу» 500 чалавек і ўсе яўрэі. Самсон жартуе, што стаў аптымістам. Дачка нагрузіла яго перадачамі. Выходзіў апошні на мытні. Бачаць: «Палякоў». Значыць, не яўрэй. «Без праверкі йдзіце!»

*30 ліпеня, серада*

Да Карласа. Нарада. Быў Васіль і чароўная Вераніка сорасішка [з ФС]. Потым Васіль пайшоў у Дом побыту. Адрамантаваць электронны будзільнік. Не бяруць. Адсылаюць на край горада. Васіль: «У нас толькі танкі могуць рамантаваць». Вечарам на сустрэчу з правай рукой Сораса. Па да-

---

[1] Мысліцкі Фелікс Эдуардавіч (1950–2008) рускі паэт; харавы дырыжор.
[2] Гл.: Узаемнасць (27.07.97) // Босая зорка. С. 87.
[3] Песоа Фернанду Антоніу (1888–1935), партугальскі паэт.

розе Карлас: «У нармальных краінах дождж ідзе ўночы». І ўспомніў, як бацька там, на радзіме бульбы, заўсягды ў дождж патрабаваў, каб маці рабіла дранікі. Гэта ў сям'і называлася дранікавае надвор'е. Бацька любіў узяць у руку блін, смачна яго есці й пазіраць у вакно, дзе бягуць, наставіўшы каўняры, пры гэтым прыгаворваў: «Як добра дома». І як потым гэтага расчуленага яўрэя правялі гэбісты, кажучы, што ў Савецкім Саюзе шмат працы й лесу. І чырвонадрэўшчык сплаўляў лес пад Краснаярскам. Цікава, параіў Васілю лекі. Праз колькі званю, кажа, што пачытаў пра іх: «А, дарэчы, табе шкодна».

*31 ліпеня, чацвер*

Да Самсона. Сёння зноў хапалі журналістаў, якія за Шарамета[1]. Ірыну Халіп зноў узялі ў пастарунак. [...]. Цудоўны ўсё-ткі час, усе праявіліся. Як у 37-м амаль. Шкада, што не давядзецца ўбачыць, відаць, як схлыне набрыдзь.

*1 жніўня, пятніца*

Абяцалі гарачую ваду. Абяцанне савецкае, саўковае. Вада халодная. У праграмах тэле стаяў фільм «Эвангелле ад Мамы», знялі, паставілі фільм пра Шыдлоўскага, дзе гучыць песня пра Маскву. Закончыў пераклад балады Яна Баршчэўскага «Rusałka zwodnica». Я ўжо, як радыяцыі, набраўся перакладаў сёлета. Ці будзе мне калі спачынак? Але прыемна, бо адказна. Перабіраў лісты, паперы. Знайшоў пачатак верша, дапісаў канцоўку: «Вечны»[2].

*2 жніўня, субота*

Прыязджаў з Гомеля Фэлікс Мысліцкі. Дужа чысты й натуральны чалавек, адсюль і паэт. Васіль збіраўся ехаць у Бычкі па ўнука. Не паехаў. Унуку загілела яшчэ пабыць. У «Полымі» апавяданне Васіля «Народныя мсціўцы». Ад гэтага савецкага паняцця нічога не пакінуў. Звёў з уяўнай вышыні. Званіў. Віншаваў. Васіль: «Тут ёсць унутраная палеміка. Але што калі «Полымя» нават літаратары не чытаюць? Я супроць партыі праз вобразы, праз падтэкст, а яны канкрэтна па мне — "Иуда"». (Гэта ў «Мы и время»[3].) «Вада з балота можа стаць святой»[4].

---

[1] Шарамет Павел Рыгоравіч (1971–2016, Кіеў; забіты), беларускі, пазней расійскі і ўкраінскі (з 2012) журналіст. У 1996 г. гал. рэдактар «Белорусской деловой газеты». З 1997 г. рэпарцёр ОРТ (Масква). Затрыманы беларускімі ўладамі за рэпартаж пра адсутнасць належнага кантролю на літоўска-беларускай мяжы. Лаўрэат прэміі ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча.

[2] Гл.: Вечны (1.08.97) // Ксты. С. 274.

[3] «Мы и время» — грамадска-палітычная і інфармацыйная газ. (з 1990), у 1991–1996 гг. незалежная левая газета.

[4] Гл.: Маці і хлеб (2.08.97) // Босая зорка. С. 29.

*3 жніўня, нядзеля*

Папераменна ляжаў з галавой і збіраўся збірацца ў дарогу. Нейкі сантымэнтальны настрой, як перад развітаннем. Не было раней такога. Не думаў пра канец жыцця. Пачынаю разумець самотнікаў, паслушнікаў. Відаць, на схіле жыцця лепей пачынаеш чуць голас Госпада, які кліча да сябе са справаздачай, калі казаць па-бюракрацку, што зрабіў, што не зрабіў, што натварыў, што стварыў. Час быў на ўсё. Як скарыстаў яго?

*4 жніўня, панядзелак*

*Вушача.* З кіношнікамі ў дарогу. Даехалі з малымі прыгодамі. Замянялі толькі адно кола. Усё дабіта. Студыя, як калгасны двор — хапай і нясі хутчэй далей, каб не злавілі. Прыехаў. Валя з Дамінічкай у бальніцы. Валя прыйшла. Валя паасенніла. Яна мне дарагая, лепшай не будзе. Да Дамінічкі. Абрадавалася. Абвілася каля шыі. Яшчэ болей душа заныла. Пацыблела. Закашлялася — аж страшна. У яе, відаць коклюш. Дурныя бацькі прышчэпкі не зрабілі. Вушача і ў спёку халодная. Толькі ў мамінай хаце можа душа крыху адагрэцца.

З кіношнікамі ў *Пліна,* да Роўбы. Потым па амаль балацявістых дарогах у вёску *Рыбакі.* Быстрая рачулка. Незацяганы краявід, не абцопканы вачыма, не затаптаны чужымі нагамі. Пятроўскі пачынае здымаць. У адной хаце ў акенцы ў залобку дужа смяецца закотнае сонца. У гэты час нейкі дзядзька йдзе ў кадр, садзіцца на кладку, падкасаўшы калашыны, мые ногі, нахінаецца галавой у ваду. Няспешна выцірае ногі й ідзе дамоў. Пятроўскі халярue. Праз колькі хвілін дзядзька, не дужа каб у гадах, кіруецца да нас, у алюмініевым паўміску ранэткі. Частуе ўсіх ласкава, усмешліва, прыветлівы, па-лясному рахманы. Развітваемся, кажу: «Дзякуй!» — «Заневашта». Якая мяккая форма замест *няма за што.* Потым кружляем і за гародамі здымае Сяргей туман, як ён расце. Едзе дзядзька з возам сена, жарабіца, пры ёй жарабятка. Пытаецца ў Сяргея, ці трапіць у кадр. Сяргей адказвае, што трапіць. Тады дзядзька: «А я ж ордэнаў не пачапіў». Гэта ў змроку. Як Якуб Колас у грыбах з дэпутацкім значком.

Падышоў да нас вясковы [...]. Незадаволены, што па тэле шмат рэкламы. Раю глядзець [Лукашэнку] й абклеіць ягонымі партрэтамі сцены. Абараняе [Лукашэнку] з усіх рагоў. Пры ім добра, усё можна купіць. І такога ахламона купляць не трэба, усе бочкі коціць на Шушкевіча й Багданкевіча[1]. Пакрыўджаны пайшоў. Прыйшоў і дзядзька, што вёз сена. Ледзь не забіўся. Паламалася аглабліна, і ён упаў на вілы, добра што не на жывот, а бокам падаў. Кабылу завуць Раіса Максімаўна. Жонка хва-

[1] Багданкевіч Станіслаў Антонавіч (н. 1937), беларускі дзяржаўны і палітыны дзеяч, вучоны-эканаміст. Доктар эканамічных навук (1991). Прафесар (1991). Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Беларусі (1995–2000).

рэе. Працавала сакратаркай у савецкага [...] Калашнікава — начальніка гэбэ пасля вайны, потым у міліцыі. Аднімаюцца ногі. А гэты прыземісты дзядзька пасля вайны ў Заходняй Беларусі «змагаўся з бандамі». Малады сын, пажарнікам быў, павесіўся. Нейкая кара ўсё-ткі яму сплачваецца. У яго гора адно — 18 літраў самагонкі не ўдаліся. Дрожжы дрэнныя. Хлопец малады, ішоў па ваду ў крынічны калодзеж, папрасілі ў кадр не йсці. Тлумачыць, што трэба купляць дрожжы маленькімі лясачкамі, а ў вялікія дадаюць соды, каб не йшлі на самагонку, яны толькі на хлеб добрыя. Дзядзька пазнаў мяне, некалі са Ждановічам[1] у «Маладосці» давалі матэрыял пра Забораўна. Трымае карову, зімовага парсюка. Кабылу Раісу Максімаўну. Кажа: «Калі прысла′бну, зарэжу карову, пачну паліць хату, пачынаючы з трысцена, на дровы. Пакіну толькі лазню, каб на той свет чыстым пайсці». Не сказаў яму, што гэбісцкі бруд, кроў ахвяраў не адмыць. Хай дажывае, як Бог яму адвёў. Вясёла й сумна казаў, як здаў на бойню карову старую. Паставіў паўлітру, каб скуру злупілі. Перавялі на кніжку 360 000 тысячаў. Потым, як адкідвалі нулі, на кніжцы засталося 36 тысячаў. А гарэлка была за 40 тыс. паўлітра.

*5 жніўня, аўторак*

Вёска *Забораўна*. Выган. Чакаюць сваіх каровак. Усяго дзевяць. У вёсцы засталося 30 жывых двароў. Пераш чым забрытаць, даюць кароўцы хто лусту хлеба, хто прыпалок яблыкаў. Самая маладая маладзіца з 38-га года народзінаў. Самая маладая ў вёсцы. Карова завецца Маёўка. Выгану няма. Толькі дзічы′на (зарасло дзікай травой). Калгас усё абсеяў лубінам. Луг было заліло. Маладзейшыя прыязджаюць у бацькоўскія хаты (бацькі памерлі) як на лецішча, робяць гароды, удзень прыязжаюць збіраць, нанач у Вушачу. Людзі й хаты закінутыя, недагледжаныя. Затуканыя. Запалоханыя яшчэ з часін імпэрыі [...]. Бальшавікі фактычна разбурылі ўсё «до основанья», ішлі за літарай «Інтэрнацыяналу». «Кожнаму»[2].

Сяргею загілела каля стажкоў пусціць дзяўчынку ў белым. Анжэла здабыла дзвюх нецеляў. Ад тупасці нахабныя вочы. Пытаюся, чые, як прозвішча — Фамёнак (гэта ўжо з вушацкіх Хамёнкаў облагородили), другая Чобат (на сапог яшчэ не змянілі). Яна адна павінна быць у белай сукенцы. А яна ў нейкай спадніцы моды даўняй, у якой ні на праспект, ні ў стог. Наогул савецкія райцэнтры — гэта малпоўнікі. Тут любяць усё, што блішчыць, што крычыць, што даўно выйшла з моды, пакуль сюды дайшло. Пытаюся ў гэтай, як вушацкія казалі, брыкі мяса: «А ў вас сукеначкі няма?» Адчыняе ляпачку: «А што такое сукенка?» Пытаюся: «Адкуль жа такая руская?» Адказвае: «Затое я ведаю англійскую мову». Ха-

---

[1] Ждановіч Валянцін Ісакавіч (1938–1992), беларускі журналіст і фотамастак.

[2] Гл.: Кожнаму (5.08.97) // Ксты. С. 306.

цеў сказаць, што можа падаваць ваду ў бардэлях Турцыі, але стрымаўся й пажадаў стаць фотамадэллю. Хоць душу сагрэў, калі вярнуўся дамоў. Дзядзька каню ў цемры каля былога склада насупроць пажарнай: «Ці ты пад'еў?..»

*6 жніўня, серада*

Здымалі натуру. Старой полацкай дарогай. Каля вёскі, якая ласкава завецца Астравенец, напісаў:

*Суцішна*

Смяецца яблыкамі сад,
І зверабой убраўся ў сілу.
Узнятаму з дарогі пылу
Не хочацца спадаць назад.

Яшчэ ў сукоў з лістамі злад,
Зялёналеса небасхілу.
Спакойна ветру-варацілу.
І плача яблыкамі сад…

У Збораўне робім туман. Здымаем чароўную Іну Полазаву. Закончыла тэхнікум. Цырульніца-мадэльер. Падыходзіць маладзіца з песняй: «Ішла купалка сялом, сялом…» Успамінае, як у блакаду ляжала пад бярвеннем. А з самалётаў скідвалі скрынкі, ляжала й думала, калі ж будзіць канец свету… Бацька на яліне сядзіць і бачыць, як гарыць іхная хата. Бацька дайшоў да Одэра. Калі ў блакаду ляжаў нечым засыпаны, а немец падышоў ды штыхом пор-пор, яму ў руку. Хай бы хто напісаў пра бацьку, як ён мучыўся, як ваяваў. Малы хлапчук падышоў, нарадзіўся ў Латвіі, цяпер у Наваполацку. У лесе, кажа, жывуць лісы, яшчаркі. У балоце вядуцца качкі. Малы Сяргейка знайшоў лісянятка мёртвае. Мы робім кінатуман, як нядаўна камуністы, а цяпер неакамуністы-[…] штодня туман робяць. Свету не відаць.

*Даверлівасць*

Як па-анёльску лета адышло.
Шчамель стараецца на кветцы позняй.
Крумкач глядзіць, ці выцвіла крыло,
Перабіваючыся песняй поснай.
Дзень парудзеў, прыстаўшы ад хады.
Смуга празрыстая, туга густая.
На сонцы грэе цень свой бок худы.
Даверліва дзядоўнік дацвітае…

*7 жніўня, чацвер*

Перакладаю Ганада. Відаць, пераклады давядуць мяне да таго, што самога будуць перакладаць з боку на бок нямоглага. Прыйшла прыгожая, станістая, рослая дзяўчына. Са слоікам малака й півоняй. З ейным дзедам вучыўся ў школе. Гэта Ануй. Далёкі нашчадак французаў, што аселі ў нас з тае вайны. Бацька ейны з Гарадзеншчыны. Маргарыта Відзевіч. Прынесла паказаць пераклады нямецкай паэзіі. Закончыла курс Віцебскага ўніверсітэта. Ёсць рука, адчувае мову. Дай Бог. «Дома»[1].

І не хачу пісаць пра яе, і не хачу ўспамінаць яе, але, адчуваю, што яна за мной пачынае цікаваць. «Скняга»[2].

*8 жніўня, пятніца*

Званіў Васілю. Ён у сярэдзіне таго тыдня прыедзе па ўнука. Заедзе да мяне. Буду рад. Карлас пераехаў з ПЭНам, бо Дом літаратара забраў [Ціцянкоў]. Вечарам з Дамінічкай і Валяй палілі камін. Дамінічка абкідвала мяне дзядамі. Ёй падабаецца зрабіць нейкую шкоду. Здароўя няма. Галава баліць. Ногі цяжкія. І думкі.

*9 жніўня, субота*

Да Марыі Рыгораўны. Кепска з вачмі. Цяжка гаварыць. Забываецца. Колькі разоў паўтарала: «Я скора памру». Апошняя радня мая, апошняя крыніца вушацкае мовы, мовы маёй мамы, маёй мовы. І ў духавітую раніцу холадам патыхнула на мяне. Мучаецца ў гэтым перакавэрканым бальшавікамі мястэчку, у гэтым ср.ным пасёлку гарадскога тыпу. І жаліцца, і дакарае сябе: «Надаела тут жыць, ужо луччы ў Кавалеўшчыне…» У старым нататніку знайшоў пачатак верша. Трохі падгабляваў: «Сляды»[3]. («Стараюся йсці не туды».) [Варыянт апошняга радка верша.]

*10 жніўня, нядзеля*

Святая нядзелька дома. Так, у Вушачы, пад страхой мамінай хаты я дома. А навечна дамоў, калі прыйдзе мой час, хачу толькі за рэчку, на Бутаўшчыну. Каля мамы. Пад валуном. Як кшчоны паганец. Душа мая ўжо, здаецца, хоча абначавацъ. Дачытаў трагікамэдыю ў двух дзеях Сэмюэла Бекета[4] «Чакаю[чы] Гадо». Класіка тэатра абсурду. Цікавыя пошукі ў поцемках чалавечае свядомасці. Жорсткая да цынізму. Гэта не *скоц*рэалізм Макаёнка ды Дударава. Чытаў кітайца Су Дун-по[5]. Раздражняе расійскі

---

[1] Гл.: Засумавала… (7.08.97) // Ксты. С. 370.

[2] Гл.: Скняга (7.08.97.) // Тамсама. С. 338.

[3] Гл.: Сляды (9.08.97) // Тамсама. С. 249.

[4] Беккет Сэмюэл (1906–1989), ірландскі пісьменнік, драматург. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1969).

[5] Су Дун-по (Су Шы; 1036–1101), кітайскі паэт і палітычны дзеяч.

пераклад пад «эй ты гой еси». Ужо ўкраінскі пераклад Лоркі «ой, на горі на вершечку» і тое болей па-эўрапейску. «Чытаючы Су Дун-по»[1]. А яшчэ па-свойму прачытаў паасобныя вершы Гільвіка[2].

*Паводле Гільвіка*

*

Не птушынае гэта
Было крыло.

Гэта ветрам
Ліст павяло.

Ліст рыжэў і дрыжэў,
Каб не ўпасці на дол.

Толькі ветру
Ў той дзень не было.

Дрэў
Не было навакол.

*

Бывае, што і дрэву
Сцюдзёна стане.

І тады ён — усяго толькі птах,
Які чакае цяпла.

І тады ён — валацуга звычайны
Без радасці, без прыстання.

Без песні прастора б
Занемагла.

*

За вокнамі дрэва
Чакае вечара.

---

[1] Гл.: Чытаючы Су Дун-по (10.08.97) // Ксты. С. 300.
[2] Гільвік (Гійевік) Эжэн (1907–1997), французскі паэт; эканаміст.

Дрэва — зялёная памяць
Каранёў, што ў цемры на дне.

Высокае, шыракаплечае.

Лісты паціху дрыжаць,
Як рукі ў дзіцяці ў сне.

Выйшаў у ноч.
Раз-пораз валяцца яблыкі.
Гук мяккі, круглы.
Здаецца, з неба нехта
Кідае халодную зорку —
Лаві…[1]

*11 жніўня, панядзелак*

Раніцай Дамінічка пытаецца: «Дзе Мірон?» — «Мірон у дрывотні». — «У дрымотні?» — пытаецца любая вярцікруця. Які слых. Як чуе слова. І сапраўды ў дрымотні. Мірон цэлымі днямі дрэмле. А то: «Я голас праразаю». Пытаюся: «Ці ёсць за цябе разумнейшыя?» — «Ёсць. Філосафы». — «?» — «Гэта не я прыдумала. Ёсць такія людзі…»

Хадзіў хлеба. Пачытаў аб’явы. Люблю чытаць іх. Шчырыя да наіву. І ў аб’явах рэальнае жыццё раёна. «Прадаецца карова 4-х цялят». «Прадаецца жарабятка трох месяцаў». Эўрапезацыя захапіла Вушачу па-свойму. На сценцы газэтнага кіёска fuck […]. А ў нас прагрэс, амерыканізацыя па-правінцыйнаму. Званіў Васілю. Яму таксама сёння кепска. Не падабаецца мне ягоны голас. Як ён паедзе па ўнука? «Любім»[2].

*12 жніўня, аўторак*

Цэлы дзень парадкаваў так-гэтак кнігі ды часопісы. Парадкуючы, пераглядаў, трошкі перачытваў. У пясок пайшла ўся савецкая паэзія. Аж у галаву прыходзіць вушацкая папеўка: «Сядзіць баба на мяжы…»[3] Нечым падобным займаліся ўсе мы, тады савецкія паэты. Хоць зірнуў у «Крыніцы», як небажыхар Разанаў узнавіў Скарыну, — жах. Глухі й чуткага глухім зробіць. Званіў Васіль. Заўтра будзе з Бычкоў ехаць (па ўнука), заедзе. Хачу зірнуць хоць на роднае аблічча. У пятніцу маюцца прыехаць Сяргей Рублеўскі й любімы мой Міхаіл Шмэрлінг — самы лепшы з сучасных фотамаг. А восень ужо ўбіраецца ў пер’е. К ночы зябка.

[1] Шчыра прашу даравання ў Паэта і чытачоў за самавольства: не ўтрымалася, запісала «звычайны» тэкст вершам (!), які сам аўтар нават не заўважыў (*заўв. Н. Давыдзенка*).
[2] Гл.: Любім (11.08.97) // Ксты. С. 305.
[3] Гл.: Сядзіць баба над ракой… // Здубавецьця. С. 132.

*13 жніўня, серада*

Заязджаўся Васіль. Добра, што за рулём сын Сяргей. Рослы, прыветнатвары. Рыхтык Васіль. Унук таксама рослы. Задужа чарнявы для Васілёвага прыроддзя. Ці па маці, ці па якой з бабуль. Выгляд у Васіля стомлены. Яшчэ яму трэба перадаць мех гуркоў з Бычкоў у Вушачы нейкім бычкоўцам. Простанародная непасрэднасць горай за ўсё. Гэта Быкаву трэба перадаваць нейкім ахламонам гуркі. Ад абеду Васіль адмовіўся — толькі з-за столу, сказаў. Адразу ж спытаўся, ці ёсць у мяне грошы. Ніхто пра мяне ўжо не клапоціцца, ніхто не спачувае, апроч Васіля. У дарогу даў яму вялікую бутэльку ўшацкае вады з этыкеткай «Вечалле». З Дамінічкай палілі камін. Яна, бедненькая, зноў хворая — тэмпература, горлачка. Кажа: «Калі агонь будзе разгарны, паклічам Валю».

Нарэшце ўцумбусіў сапраўдны восеньскі дождж. Добра глядзець на яго праз зялёны сад пад страхою. Пачытаў колькі апавяданняў Ісабэль Альендэ[1] — пляменніцы славутага чылійца[2], ахвяры хунты. Выдатна проста. А як сказала ў адным інтэрв'ю: «Мая прафесія — літаратура. Адзіны матэрыял, які мне патрэбен, — словы. Словы… словы… словы пяшчотнай й гучнай іспанскай мовы. Імі насычана паветра, я магу ўзяць любое, абсалютна бясплатна: словы кароткія, доўгія, белыя, чорныя. Вясёлыя — *звон, сябра, пацалунак*. Ці грозлівыя — *удава, кроў, турма*. Незлічоная колькасць словаў, можна камбінаваць іх па свайму капрызу, можна здзеквацца з іх ці ставіцца да іх з пашанотаю, можна выкарыстоўваць іх тысячу разоў і не баяцца, што яны зносяцца. Вось яны — варта выставіць руку. Я магу накінуць на іх аркан, схапіць, прыручыць. І галоўнае, я магу напісаць іх…»

«Згараючы…»[3] Перад раніцай разбудзілі жаданыя забытыя галасы. «Нагадванне»[4].

*14 жніўня, чацвер*

Перачытваю «Карнікаў» Адамовіча. Безумоўна, публіцыст ён мацнейшы за белетрыста. Карані фюрэрызму цікавяць у кнізе мяне. […].

Прыязджаў Іван Сцяпанавіч [Роўба]. Казаў, што папер [цяпер] йдзе болей, чым пры старых камуністах. Ужо ў Вушачах робяць эўрарамонт кватэраў у саўбарачных дамах. Прамышляюць мяккімі куткамі, якія закупляюць у Польшчы. Чатыры куткі, завезеныя ў Мурманск, у Архан-

---

[1] Альендэ Ісабэль (н. 1942), чылійская пісьменніца, журналістка.

[2] Альендэ Госсенс Сальвадор (1908–1973), прэзідэнт Чылі, лідар Сацыялістычнай партыі Чылі. Забіты ў час ваенна-фашысцкага перавароту. Лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі (1973).

[3] Гл.: Згараючы… (13.08.97) // Халодная памяць вады. С. 97.

[4] Гл.: Непрыручаныя (13.08.97) // Ксты. С. 348.

гельск, даюць прыбытак у тысячу даляраў. А палякі робяць іх нават з гнілых дроваў, толькі абабіваюць дарагім матэрыялам з Нямеччыны.

*15 жніўня, пятніца*

Прыехалі Сяргей Рублеўскі, Міхаіл Шмэрлінг, прывёз іх былы чырвоны памешчык Пятро Гамзюк на іншамарцы. Паехалі на Ваўчэнскае возера. Зарасло ўсё наўколле. Ледзь дапалі да берага. Яшчэ крыху засталося ад бузяністае прыстані, дзе, бывала, у паўдзён купаліся каровы. А я ўсе дні вучыў геаграфію й гісторыю для паступлення ў універсітэт. Доўга шукалі Верасовачку, лічы, шукалі імя хутара, дзе свет упершыню ўбачыў. І ўзгорак паніжэў, і шнурамі парэзалі пад соткі. Ды колькі п'янкосці ў стажку сена, калі да яго прыхінуцца спіной. Свой, родны. Пахі, здаецца, з маленства. Тут недзе, мама казала, ганяўся за буслом. Тут недзе смачныя былі чарніцы ў малацэ. Усё было салодкае. Цяпер усё агоркла.

З'ездзілі і на Вечалле. Маладзіца даглядае двух коней. Аднаго завуць Мальчык — у бацькі ў партызанах быў Мальчык. Просіць Міхаіла сфатаграфаваць яе з канём. І не была б жанчынай, вохкае, што ўчасанне не тое. Аднаго каня гарачага напаілі халоднай вадой. Кашляе. Кажа, што цяпер могуць на каня хамут надзець дагары нагамі. Такія гаспадары.

*16 жніўня, субота*

Дачытаў «Карнікаў». Пад канец ужо нейкі перабор жахаў. Пры ўсімусім напісана з савецкіх пазіцый, падспудна, без волі аўтара. Залішне вы́падаў падкрэсленых супроць украінцаў. У рэчышчы савецкае маралі. А ўвогуле глыбока інтэлектуальная кніга, белая варона на той час.

Палілі з Дамінічкай камін. Бялевушаў сын Васіль[1] папрасіў «Здубавецьця», падпісаў, занёс. Аж дзіка, каб у Вушачы нехта прасіў кніжку. Болей колькі тысячаў не хапае на пляшку. Пайшоў вады. Прыходжу, а Васіль мне прынёс кацялочак грыбнога супу. Сам ужо я ў грыбы не пайду. Баляць ногі. Па-вушацку звараны суп, як забытыя прысмакі. А наогул, адвык я ўжо, мусіць, ад Вушачы. Чужая яна мне. Тых, хто дарагі сэрцу, няма. Дый хата без мамы халодная. [...].

*17 жніўня, нядзеля*

Паступова выходжу з хваробы застуднай. Дык на яе мейсца новая — Аляксей ганяе як не на сёмы вянец. Нешта з'еў. Яшчэ й грыбны суп дапамог. Па дарозе да маці заходзіўся Пятро Пратасэвіч. Раней нейкі час узнальчальваў Віцебскае тэле, цяпер прафсаюз культуры. [...]. Па-ранейшаму гуляюць у выдуманыя гульні. Віцебская вобласць бадай што самая запаведнікавая па саветызацыі. Адукацыяй кіруе фізкультурнік па

[1] Бялевуш Васіль Апанасавіч (1947–2017), сусед.

адукацыі, былы сакратар вушацкага райкома Гірса[1]. Сапраўды ў жыце культуры гірса. Хоць сябе ён называе Гі′рса. Куды націск ні ганяй, а сутнасць нязменная. [...].

*Як бліскавіца...*

На вятрах азяблая сасна
Чуе, як бунтуецца жывіца.
Жарсць не мае сораму,
Яна
Бессаромная, як бліскавіца.

Жарсць аслепіць, спаліць,
Захлыне
І пакіне п'янага, сляпога
У крутым віры на самым дне
І ўзнясе на ганак пана Бога.

Жарсць не супакоіцца нідзе.
І ў бядзе,
І ў радасці сумуе.
І цвярозы розум абвядзе.
Ашукае і сябе самую...

І ў працяг тэмы, кладучыся спаць, пісаў крыху лягчэйшае:

*Просьба аднажонца*

Ні срэбнай чараю,
Ні залачонаю —
З крыніцы ваду
Піць са жмені смачней.
Карай мяне, Божа,
Адной нарачонай,
Мой лёс не выкульвай
З вясельных саней.

Хай дрэва маё радаводнае
Кронай
Паслухае зоры,
Не йдзе на карчы.
Карай мяне, Божа,
Адной нарачонай.

[1] Гірса Ніканор Міхайлавіч, былы сакратар Ушацкага РК КПБ.

А ненарачоных
Не дужа лічы.

* Палім камін, у старым садзе збіралі сушнячок. Дамініка: «Каміну на вячэру смачнае дадзім. Хай паласаваецца». Каля каміна, які дагарае: «Гэта агонь, а гэта ягоныя дзеткі (кузлачкі агню). Добрай ночы, агонь!»

*18 жніўня, панядзелак*

Троху стаў здаравець, дык трэба ж ехаць. У Менску клопату мех з торбачкай. Вечарам з Дамінічкай абломвалі сукі з яблыняў у камін. Дамініка: «Плаваць можна, трава высокая». Добры вобраз, а ўсё запушчана. Старэем наперагонкі з садам, з дворышчам. Трэба маладзейшыя рукі, а іх няма, як некалі казала мама, шэрага пляча. […] . А сына Бог не даў. Канец майму й так не разгалінiстаму роду. Які я, як савецкі выкармак, не ведаю. Усё знішчана […]. Усе архівы, усе царкоўныя кнігі. Цяжка ўрастаю ў Вушачу, дакладней, у маміну хату, але заўсягды глыбока. Не хочацца пакідаць. Не хочацца ў Менск.

*19 жніўня, аўторак*

Пазваніў Васілю. Павіншаваў яго са святым Іспасам, пажадаў, каб ён яшчэ шмат Іспасаў сустрэў. Васіль наўзаем віншаваў. Запытаўся, ці з'еў я хоць іспаўскі яблычак? З Дамінічкай і Валяй на магільнік. Аж на душы пасвятлела, як Дамінічка палола магілку прабабулі Куліны, клала яблыкі, хлеб, цукеркі. Высявала крупы, каб птушачкі памянулі. А перад нашым прыходам яблынька, што разгалінілася над магілкаю, скінула маме якраз на Іспаса два зялёнашчокія яблычкі. Крамяныя. Перад магільнікам заходзіліся да Марыі Рыгораўны. Валя карміла яе трохі. Слабая. Гаворыць слаба. Забываецца. І гэта тая пяюха, якая магла суткі пяяць песні, адну за адну лепшую. Забірае Бог назад усё, што даў. Тольк й пачуў: «Я памру ў гэту зіму...» Зусім аглух — не для мяне Вушача. Дасякуць апошнія карані. Хадзіў з Пятром у хлеў па бляху — накрыць, залапіць дах. У дварышчы, як у зоне, трава хоча страху перарасці. Усё дажывае. Дажывае радня мая.

Вечарам нясу суды вады. Каля брамкі ў нашым двары вожык. Стары, аж, здалося, пасівелы. Пакуль пабег клікаць Валю й Дамініку, і след прастыў. Усе калючыя шустрыя. Ці жыве яшчэ ў нас пад хлявом вуж? Аднаго, казала Валя, быццам бы Марыя Рыгораўна забіла. У яе адносіны з жывым светам першабытныя амаль. Памятаю, хваліла красу лася, які пераходзіў дарогу. І тут жа: «Каб забіць, во мясюгі' было б». І гэта не крыважэрнасць. Гэта й голад, і першародны інстынкт.

* Дамініка: «Вершавальнік ты».

*20 жніўня, серада*

На вакзал праводзіў Пятро, Дамініка, Валя. Прыйшлі раней. Дабіты аўтобус. Вадзіцель нешта кешкаецца з акумулятарам. Пецькаў знаёмы. Не ведае, ці завядзецца аўтобус. Мала да пэнсіі засталося, трэба даробіць. Да паясніцы голы. Зарослы не горай, чым трусік-пляменнік. Раю так і ехаць, ніякі рэкет не страшны будзе. Па дарозе да Сарочына. Дзве служачкі спаміж сабой: «Прыязджаў Лінг[1] глядзець «Вечалле» — санаторый. У Вушачы мятуць, прыбяраюць усё. Можа, што выкінуць [у продаж]». Другая: «А што могуць выкінуць?» Звычкі савецкіх часін, калі да прыезду кручка з вобласці ці з Менску нешта выкідвалі. Лінг, відаць, едзе забраць «Вечалле» ва ўладанне [Ціцянкова]. У Сарочыне на дарозе аварыя. Легкавік імпартны ўрэзаўся ў вялікую машыну з прычэпам.

Учора нанач пачаў верш, дарогай дапісаў: «Сцеражы…»[2]

*21 жніўня, чацвер*

Да Карласа. Новы офіс ПЭН-цэнтра. Утульна. Стары дом. Зацішна. Прашу ў Карласа папіць. Дастае з халадзільніка вялізную бутэльку, налівае. Раблю глыток — жывая гарэлка. Ледзь выдыхаў. Падступны гад, алкаголь. Варта мне было нармальна выпіць, і пайшло б усё, як некалі. Званіла Валя, што Мірон дужа развальяжнічаў, распанеў. Лежачы піў малако.

Званіў Васілю. Кажа: «Павіншуй Карлюкевіча й «Звязду», інтэрв'ю з Сеўруком. Фота — ён, Сеўрук, з генералам, героем Афгана Громавым[3]. Гэты паліцэйскі літаратурны кажа, што пры [Лукашэнку] росквіт нацыянальнай літаратуры.

*22 жніўня, пятніца*

Сядзеў дома. Змагаўся з парадкам. Барахло й кнігі задумалі мяне выселіць з хаты. А я ўпіраюся. Дужа кепска з Марыяй Рыгораўнай. […].

*23 жніўня, субота*

Яшчэ адзін штурм. Барахло й кнігі не хочуць саступаць. Я зноў хворы. Гэта ўжо не смешна. А сёння 80 гадоў Пімену Панчанку. Пухам яму зямелька! Быў сапраўдным паэтам, сапраўдным чалавекам, да рэліктавасці. Шмат пайшло таленту на даніну д'яблу камуністычнай ідэі. Але й для паэзіі засталося не так і мала. У панядзелак паеду па Дамініку й Мірона. […]. Перабіраў кнігі. Адклаў асобна Уладзіміравы. Караткевіч любіў называць

---

[1] Лінг Сяргей Сцяпанавіч (н. 1937), беларускі дзяржаўны дзеяч. У 1996–2000 гг. прэм'ер-міністр РБ.

[2] Гл.: Сцеражы… (20.08.97) // Ксты. С. 243.

[3] Громаў Барыс Усеваладавіч (н. 1943), расійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч. Генерал-палкоўнік (1989). Герой СССР (1988).

пісьменнічкаў нашых па-расійску: Неуменко, а лагойшчыка Чепухевич, Нил Чепухевич. Бо па-расійску гиль — чепуха. Думаў некалі, што Уладімір выдумаў, аж потым у слоўніку знайшоў. Па-беларуску гіль — снягір.

*24 жніўня, нядзеля*

Наколькі сілы было, змагаўся з кнігамі. Да Самсона. Зварыў халаднік і мяса з бульбай. Хлеб спецыяльна для мяне парэзаў вялікімі кавалкамі, лустамі. Усё гэта смачна, бо дарагім сябрам зроблена, ды еў на здзіўленне Самсона слаба. Кепска мне. Блага мне. Хоць з хворай галавой, але паглядзеў шмат фільмаў Збігнева Рыбчынскага[1]. Натуральскі авангард. Мае «Оскара». Жыве ў Штатах. На мяжы з фантастыкай і нават пераход цераз мяжу фантазіі, не затрыманы памежнікамі рэалізму. Гэта задоўга да кампутарнага кіно. Вось гэта наватарства. Гэта не ў колбе зачатага Разанава[2] псеўданавацыя.

*25 жніўня, панядзелак*

*Вушача!* З Валерам Плашчынскім з ФС на opel-astra. Адразу да Марыі Рыгораўны. Канае. Ледзь пазнала мяне на нейкі момант. Спёка. У хаце змрочна, нямыта, нямецена. На ложку ляжыць у нейкім рыззі. За ўсё жыццё так і не зарабіла сабе права паміраць у чыстай пасцелі. Па-ранейшаму гэта запаведнік камуна[...] ідэй, нашая пакутніца Беларусь. А людзі ейныя абдзёртыя прыгонныя, рабы ў цэнтры Эўропы. Ад'язджалі. Пацалаваліся з Пятром. Разгублены, як маленькі хлапчук, напалоханы падсвядомым адчуваннем гора самоты. Заплакаў, аж вочы памаладзелі ад слёз. Раней не заўважаў я, што вочы ад слёз маладзеюць. З гвалтам прывезлі Мірона. Цяпер буду з жахам чакаць званка з Вушачаў.

*26 жніўня, аўторак*

З Пятроўскім у літаратурны архіў. Выбіралі матэрыялы па Стральцову. Архіў — акуратны магільнік. Тут ціха. Няма ні з'ездаў, ні нарадаў, ні канферэнцыяў. Усе роўна маўчаць класікі і не класікі. І разам з тым гэта — вяртанне ў маладосць, у сяброўскае застолле. Потым у ПЭН-цэнтры сустрэча з Вальдком Калініным і ягоным лёнданскім сябрам.

Дамініка з Валяй ішла па Вушачы. Пытае, што такое жыд. Валя адказвае, што абразлівая назва яўрэяў. Тады Дамініка: «Лана» закрыта, «Баця» адкрыт. Дзядзя Пеця — жыд». «Лана», «Баця» — вушацкія крамы.

---

[1] Рыбчынскі Збігнеў (н. 1949), польскі кінарэжэсёр і кінааператар. Лаўрэат прэміі «Оскар» (1983) і «Эммі» (1990).

[2] Разанаў Эльдар Аляксандравіч (1927–2015), рускі кінарэжысёр, кінадраматург, пісьменнік. Народны артыст РСФСР (1974). Народны артыст СССР (1984). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1977, 1979).

Калі я спытаў яе мне прачытаць, адказала: «Гэта я не пісала, гэта мне ў галаву прыйшло». У галаву ў нас шмат каму прыходзіць, толькі ў адрозненне ад маёй Дамінічкі, дурнога. Барацьба за Дом літаратара йдзе, як вайна пасярод га.на. [...]. Дый будыніна ўзнікла як адчэпка ЦК. Стары будыначак, які адпавядаў сваёй даўнінай і ўтульнасцю элітнай арганізацыі, замінаў ЦК, бо галоўны штаб рэцэдывістаў з адной столкі ператварыўся ў складны гармонік. Саюз пісьменнікаў камуна[...] задуманы быў як вялізны выгульны статак. Вось і пабудавалі насупроць парка вялікага басяка Пешкава стадолу, з асобнымі загонамі для сакратароў. А старшыні — вялікі загон. Вярцінскі напісаў паэму «Талака» з удзячным ракаўлоўным прысвячэннем загадчыку аддзела ЦК па будаўніцтву ці яшчэ па чым. А цяпер сакратары, як шэршні выкураныя з гнязда, ходзяць з рэвалюцыйнымі мордамі.

* Дамініка: «Дождж гручыць па даху, як быццам салдаты йдуць... Гэты лянівы, а гэты трудоусердный... Гэты сабака дружалюбімы».

*27 жніўня, серада*

У ПЭН-цэнтр. Інтэрв'ю «Вячэрняму Мінску». Прыходзіў Вальдко. У «Маладосці» знайшоў колькі фота Міхася. Занёс Пятроўскаму. Фільм сунецца патрошку. Баліць галава, увесь, як арак, якога недаварылі. Але Дамінічка дома, і душа амаль на мейсцы ў мяне. Пасля смерці мамы званкі з Вушачы (а тады болей тэлеграмы) з меншай трывогай успрымаў. А цяпер нехта па міжгародняму пазваніў пасля адзінаццаці начы, адразу пахаладала ўнутры. А раптам што з Марыяй Рыгораўнай. Хоць, дзякуй Богу, пажыла, ці лепей сказаць, памучылася на свеце даволі добра. Бо з 1902 года ўсё-ткі. А чалавеку заўсягды мала. Тым і спадманліва-прывабны гэты свет. Гэта ж радня мая апошняя па бацькавай лініі. Хоць усё адносна. З якога боку глядзець на жыццё. Можа, пакуты на гэтым свеце — гэта своеасаблівая праца на пэнсію на тым свеце. Відаць, Госпад нічога лепшага, як чалавека, не стварыў на праверку свае ласкі й гневу свайго.

*28 жніўня, чацвер*

Зусім саджуся саладом са здароўем. З паўдня як абухом па галаве. Зваліўся. Забыўся ў нейкім малапрабудным сне. Званіў Карласу. З працай нешта ўладзіцца. Так прынамсі пан Карлас абяцае. Учора ён добра сказаў, што прага да волі ў яго ад маці, бо яна ж з племя ча'руа, самага вольналюбага й самага нясхібнага. Вечарам дзякаваў Госпаду й раптам заплакаў. Чым бліжэй да далёкага, тым болей чуллівасці на душы. Гэта душа плача, наракаючы, што пакутавала ў такой зямной абалонцы. Мама некалі вокладку звала аблочкай (гэта ад абалочка).

*29 жніўня, пятніца*

З Самсонам на Камароўку. І Дамінічку ўзяў. Таго-сяго купілі. Усё дарага. Іду каля базарчыка ля нашае крамы. […]міліцыянты ганяюць бабулек. Доўжыцца зона ў адной асобна ўзятай дзяржаўцы. Бабка: «Шаноўная лэдзі! Купіце хрэн». Проста геніяльнае словаспалучэнне. Пад вечар пайшоў у ашчадкасу. Перад ад’ездам падпісаў загадчыцы «Здубавецьця». Зайшоў, дзяўчаткі хіхікаюць. І тут з’яўляецца загадчыца (яшчэ маладога веку), поўная савецкага абурэння. «Як вы маглі такое напісаць? Скажу дачцы, хай вывучыць самы гідкі вершык і прачытае ў школе, паведаміўшы, што гэта напісаў Барадулін. Не чакала ад вас». Кажу: «Гэта ў вас ад савецкасці». Горда: «Я і ў піянерах была, і ў камсамоле актывісткай». Некалі ў краме на Маякоўскага савецкіх простых людзей абурыла, што я браў каньяк. Яны — «чарніла». Наогул, хаджэнне ў так званы народ — самападман. Тут лепей анекдот пра грузіна, якога ў партыю прымалі й запыталі, хто такі Маркс[1], Ленін. Грузін у адказ запытаўся, хто такі Гогаберыдзе, Кікабідзе. І рэзюмаваў: «У вас свая кампанія, а ў мяне свая».

Званіў Васілю. У яго клопат з Адамовічаўскімі чытаннямі. Кажа: «У Глушы могуць аб’явіць, што й магіла, і аўтобус замініраваныя, а пешкі йсці нельга — загад [Лукашэнкі] пра маніфестацыі. Застаецца адно — самім папрасіцца, каб адвезлі ў пастарунак.

*30 жніўня, субота*

Хадзіў па гаспадарчых справах. Купіў Дамінічцы трошачкі ікры. Потым з хворай галавой пісаў пралог да п’есы Гоццы:

*Тройня*

Улада, багацце, каханне…
Спрадвеку, нібы на таргу,
Між імі змаганне, ваганне,
Хто большую мае вагу.

Хто з іх сілу большую мае,
Каму служаць свет і святло,
Хто поспех за локаць трымае,
Каму падначалена зло.

Каго з іх дабро паважае,
Каму панавітасць — радня,
Каму прагавітасць чужая,
Хто шчодрасць вітае да дня.

---

[1] Маркс Карл (1818–1883), нямецкі мысліцель і грамадскі дзеяч, заснавальнік марксізму.

Улада, ад страху сляпая,
Баіцца сама за сябе,
Крадзе, забівае, хапае,
Махлюе, рабуе, грабе.

Улада — падступнасць і здрада,
Спадман, крывадушнасць, хлусня.
Улада сама сабе рада.
Скупая ў яе даланя.

Багацце прывабіць умее.
Жар-птушка сядзіць на куце.
Мяце залатая завея —
Магільны сумёт намяце.

Спакусаў дападная зграя
Любога спаймае няўзнач.
Багацце, як дровы, згарае,
І ў іх дагарае багач.

Каханне — надзеі світанне,
Каханне — прадвесне душы.
Хмурынка густая растане,
Прашэпча жаданне: грашы…

Трон мёртвы,
А ўзложжа кахання
Патухнуць жыццю не дае.
Улада нямоглая вяне,
Каханне не бачыць яе.

Вядзе закаханых спагада
Да радасці, да адкрыцця:
Каханне — вярхоўная ўлада,
Каханне — багацце жыцця.

Улада к пакутам глухая.
За ўсіх багацей жабракі.
І ціхае слова кахаю
Далёкія чуюць вякі.

А яшчэ доўга пісаўся верш: «Зайграў…»[1] Іду каля ваенгандлю. Параўняўся са мной знаёмы яўрэй, але не магу ўспомніць прозвішча. Здымае

[1] Гл.: Зайграў… (30.98.97) // Ксты. С. 351.

шапку, вітаецца. Я таксама здымаю шапку. Ён жонцы: «Гэта паэт (ідуць высокія эпітэты), які перакладае шмат і Марка Шагала пераклаў. Чытаў я расійскія пераклады — не тое. Рыгор таму добра перакладае, што й Марк Шагал, і ён — абодва з Беларусі». Хоць яшчэ ацалелыя яўрэі цэняць. Бо свае толькі за пяткі кусаюць. Гэта ж трэба, Васіль ідзе ў сваім двары, а розныя смершаўцы ды калгасныя цівуны ўслед: «Пісьменнік беларускі, [...] яго маць...»

*31 жніўня, нядзеля*

З Самсонам і Дамінічкай хадзілі на Камароўку. К вечару пабрыгаў дождж. Усё роўна галава туманістая. Накідаў выступленне на Адамовічавых чытаннях у ПЭН-цэнтры. І прозу, і публіцыстыку трэба пісаць у спакоі. І дужа не люблю я пісаць прозай. З вершамі й перакладамі вершаў неяк больш звыкла. Лягчэй, здаецца. А наогул, чым бліжэй да таго, пра што не хочацца казаць, тым большае адчуванне, што так і не напісаў свайго галоўнага, што круцілася ў галаве, тоўхала пад сэрца. Усё збіраўся, падступаўся. Зірк — а часу няма. Ён чакаў, чакаў цябе, падказваў, напамінаў — і пайшоў ад цябе.

*1 верасня, панядзелак*

Дамінічка паехала на трамваі ў другі клас. Учора купілі букет ружаў, за ноч звяў. Усё па-савецку, абы збыць, абы ашукаць. [Малюнак.] Гэта яна мне намалявала, у манеры Ілоны. Вечарам на каленьках перапісваў выступленне пра «Карнікаў», а на стале гаспадаром спаў Мірон.

*2 верасня, аўторак*

У Купалавым музэі канфэрэнцыя да 70-годдзя Алеся Адамовіча. Крыху спазніўся. Уручылі прэміі імя Алеся Адамовіча Барысу Хамайду[1] й Герману Кірылаву[2]. Чараднічэнка[3] нёс бязглуздзіцу наконт нацыяналізму. Кузьмін[4] па-бальшавіцку агрэсіўна казаў, наколькі слоў хапіла падабраць у сваім бедным лексіконе. Тарас пра сябе й крышку пра Алеся. Як заўсягды, выдатна Васіль. З Малдовы сам прыехаў Васіль Васілаке[5]. Здаў

---

[1] Хамайда Барыс Ханонавіч (н. 1948), беларускі журналіст, грамадскі дзеяч, стваральнік і гал. рэдактар газ. «Выбар» (1991–2005). Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (1997).

[2] Кірылаў Герман Іларыёнавіч (н. 1937), беларускі пісьменнік. Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра імя А. Адамовіча (1997).

[3] Дакладней, Чарнічэнка Юрый Дзмітрыевіч (1929–2010), рускі публіцыст, пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч.

[4] Кузьмін Аляксандр Трыфанавіч (1918–2003), беларускі дзяржаўны і партыйны дзеяч. Сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі (1971–1986).

[5] Васілаке Васіл Іванавіч (1926–2008), малдаўскі пісьменнік.

кватэру нейкаму французу на дзве начы за 40 даляраў, на іх і прыехаў. А пэнсія ў яго 20 даляраў. Некаторыя аматары выступленняў, былыя сакратары Саюза пісьменнікаў і міністры, аж маладзеюць, не раўнуючы як нябожчыкі ў крэматорыі, калі ўключаюць ток. На міг ажываюць — і рэзка пеплам робяцца.

*3 верасня, серада*

На Глушу. На магіле Алеся Адамовіча валун, які ахвяраваў Радзім Гарэцкі[1]. Спявае царкоўны хор. Чыста савецкая з’ява — хто ў што апрануты, як на камуністычных маёўках. Уважліва слухаў песні, ці песняспевы. Даруй мне, Божа, але гэта дужа прымітыўныя тэксты, разлічаныя на невыразнае выкананне. Няма паэзіі. А Богу моляцца ледзьве не мовай «Праўды», толькі па-старaславянску. Артадаксальнасць праваслаўя робіцца тормазам. Трэба новыя тэксты — шчырыя, паэтычныя, якія б бралі за душу. І тады б яны й да людзей лепей даходзілі дый Госпаду былі б мілейшымі. Выступіў Васіль, [Чарнічэнка]. Потым застолле ў Глушы. Ладзілі вертыкальшчыкі з Бабруйска й Асіпавіч, вядома, і ПЭН-цэнтр дапамагаў. Відаць, некаторыя вертыкальшчыкі будуць вертыкальна ляжаць потым, іх жа не папярэдзілі, як рэагаваць на крамолу. Перад ад’ездам галоўны, які ўсім кіраваў, махнуў рукой і сказаў некаму з нашых: «Адамовіч і Быкаў — гэта вылучныя людзі, асобы, а прэзідэнты адыходзяць і прыходзяць». Памяць тады жыве, калі ёсць каму дбаць пра гэта. У выпадку з Адамовічам Васіль ёсць. Ён трымае на сваім сэрцы ўвесь цяжар гэтай памяці. А ўвогуле, людская памяць кароткая. Вальдко мне казаў, як у Лёндане хавалі беларуса, адзін сказаў: «Бывай, наш сябра, не ў родную зямлю кладзем цябе, а ў чужую, не ў варожую, але не ў родную».

*4 жніўня, чацвер*

Чорная вестка з Вушачы. Памерла Марыя Рыгораўна. Апошняя мая блізкая радня па бацькавай лініі. Яна была дачкой бацькавай сястры. Гэта пасля мамы была другая крыніца, адкуль чэрпаў я й песні, і словы, і прыбабунькі, і наогул усё наскае, вушацкае, што зрабіла мяне беларусам зацятым, нацыяналістам. Я ганаруся, што я нацыяналіст. Гэта для камуна[…] слова гэтае ненавіснае. У Маскве выйшаў слоўнік, ці, дакладней, даведнік «Масоны». Ад Беларусі мы з Васілём патрапілі туды. А па тэле, калі здымалі фільм з запрапанаванага паказу («Эвангелле ад Мамы»),

[1] Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч (н. 1928), беларускі вучоны-геолаг, грамадскі дзеяч. Доктар геалагічных навук (1969). Член-карэспандэнт НАНБ (1972). Акадэмік АН БССР (1977). Замежны член Расійскай АН (1994). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1969), Дзяржаўнай прэміі БССР (1978). У 1992–1997 гг. віцэ-прэзідэнт НАНБ. У 1993–2001 гг. прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

нехта па-берыеўску[1] адрэзаў: «Враг не пройдёт». Усё гэта дробязі з тым горам, якое абрушылася на мяне. Без Марыі Рыгораўны мне Вушача пахаладнее. Лічы, апошнюю галіну адсекла смерць. Адзін ствол (і ён нядужы ўжо) застаўся ад некупчастага радаводнага дрэва. Зямное гасцяванне непрыкметна кароткае. А чалавек усё збіраецца жыць, і ў гэтым збіранні й праходзіць, пралятае той зямны час, які жыццём завецца, які Госпадам адведзены.

*5 жніўня, пятніца*

*Вушача.* Нідзе не змог знайсці машыну. З Валяй наважыліся ехаць аўтобусам. Апалове дзявятай званок. Васіль: «Чым паедзеш?» Кажу: аўтобусам. «Дык вось, — кажа Васіль, — я ўсю ноч не спаў, думаў. Паедзеш са мной. Толькі туды завязу, назад сам дабярэшся. Я сам бы павёў машыну, але мяне ўхадзілі госці, якія прыехалі на юбілей Алеся. Сяргей будзе за рулём». Я з удзячнасцю згадзіўся на варыянт з Сяргеем. А дванаццатай выехалі. На Бярэзіне невялічкая папаска. У Васіля ўсё акуратна складзена, пакладзена. Пад'язджаем да хаты, Васіль: «Вунь цябе вяз сустракае, здалёку пазнаў гаспадара». Падыходзім: «Ну, твая мураванка». Гэтулькі мне цёплае гэта слова — мураванка. І мурава, і мара, і мур, і вянок. Усё ў гэтым слове. Камяніца — халоднае, цяжкае, непрытульнае слова. У ім болей цвёрдай сілы. На базарчыку з Валяй. Я ў адным канцы, яна ў другім. Нейкая вушацкая маладзіца: «Хочаце, я вас пазнаёмлю з нашым паэтам, мы яго любім, вунь той у кепачцы». Валя: «Я з ім знаёмая 43 гады». Па вуліцы ў цэнтры ср.ным іду. Хлапчук гукае. Просіць даць аўтограф на пачку цыгарэт. Цыгарэты танныя, моцныя, без фальгі й цэлафану. Мне дужа прыемна. А вечарам Пятро дыў такі канцэрт, што я не ўяўляў нават, да чаго можа давесці чалавека гарэлка й яшчэ мацней саветызацыя. [...]. Затое адна бабулька, паглядзеўшы на цёплыя, мяккія пашлапні на нагах у нябожчыцы, спакойна кажа: «І зімой будзе цёпла...» Як бы яна кіруецца ў зямную дарогу.

*6 жніўня, субота*

Турботы, мітусня. То ў краму, то з крамы. Усё трэба. Маладзіцы вушацкія крута завінуліся, усяго нагатавалі. У апошні момант святар, які мусіў адпяваць, знік у невядомым кірунку. З Роўбам да вушацкага святара (абліччам падобны да славутага бяздарнага мастака Глазунова[2]). Магіла

[1] Берыя Лаўрэнцій Паўлавіч (1899–1953), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Міністр унутраных спраў СССР (1938–1945), адначасова нам. старшыні СМ СССР (1941–1953). Расстраляны.

[2] Глазуноў Ілья Сяргеевіч (1930–2017), рускі мастак, графік, педагог. Акадэмік РАХ (2001). Народны мастак СССР (1980).

глыбокая[1]. Чысты пясочак, як з песні: «Жоўты пясочак, захрас насочак…» Калі апускалі дамавіну, адна сцяна магілы абсыпалася. Кажуць, кепская пазнака. Нібыта неўзабаве памрэ нехта з блізкіх. Баравіна, высокі пугурачак. Пайшла пяюха, скакуха, шчыруха. Пайшла мая вушацкая мова. Асірацеў. Пайшоў, калі прыехалі, да мамы. Ціхая восень. Зноў яблынька скінула ёй яблычкаў. Занёс цукерак, яблычкаў з ейнага саду. Памаўчаў, пагаварыў з мамай. Па дарозе везлі на даху легкавіка плуг. Лямех, як ветразь.

Сярод белага дня вятка бугаяватых школьнікаў пачалі трэсці наш сад. Крыкнуў, паўцякалі. Новая змена цімураўцаў. Усё дазволена. Прыватнай уласнасці няма. Прымусовая масавая люмпенізацыя, і гэта маса склала такое паняцце, як савецкі народ. Слова *народ* ад нараджацца, нараджаць, а да паняцця *савецкі народ* болей падыходзіць савецкі *вырод,* бо гэта выраджэнне. Бог з імі, з люмпенамі савецкімі, ці, лепей сказаць, камунякі з імі! Страшней мне, што яна ходзіць усё бліжэй і бліжэй, аж пачынаеш яе прымаць ледзь не як за сваю. Гэта не будзе ўжо ў Вушачы болей роднай, крывіцкай душы. Сумна ўзгадваю, калі памерла мама, не было хоць якога святара, каб адпець душу верніцы, вялікай беларускі. Гэта [Міклашэўская] нешта ўспомніла з таго, што запомніла, калі была пры ксяндзы. Болей, як гэта ні грэшна, выклікала смех ейнае адпяванне з перасыпаннем польскіх словаў вушацкімі. А чыста вушацкіх, да каго душа мая горнецца, бабулек ды маладзіцаў, амаль і не засталося. З сяброўак маміных няма ні старэйшых, ні аднагодніцаў, ні маладзейшых. На мяне ўссеўся сум і конна едзе. Скінуць ужо не змагу.

*7 верасня, нядзеля*

Недзе гадзін каля пяці раніцы разбудзіў дождж. Пагрукаў у дах шыферны — выходзь. Дома й дождж болей ветлівейшы, болей цяплейшы, як стары знаёмы, бо тут ты з ім упершыню сустрэўся. Пабеглі на аўтастанцыю. Паспелі, аж яшчэ чакаць давялося. Ад Вушачы да Сарочына паўнюткі аўтобус. Кандуктарка, ці кантралёрка адначасна голасам савецкай актывісткі сварыцца з бабулькамі. Адной каля васьмідзесяці, чаму ў пэнсійным пасведчанні няма фотакарткі? Тады давай пашпарт. Старая кажа, што не носіць яна з сабой пашпарт. Хіба кандуктарка не бачыць, што яна пэнсіянерка? Значыць, вішчыць — крычыць — хрыпне начальніца ср.ная, што не дасць білет з 50-адсоткавай скідкай. І гэта на адлегласці дзесяці кіламэтраў. Саўкі на службе горай сабак.

У Менск прыехалі. Еду вечарам у трамваі, мне ў спіну малады голас […]: «І беларускія нацыяналісты ездзяць трамваем». Каб завесці мяне. Не стаў адварочвацца. А хацелася запытаць: «А што, і стукачы ездзяць трамваем?» Валя ўключыла тэле, і я зірнуў на кавалачак […] «Рэзанансу».

---

[1] Трафімава М. Р. пахавана на могілках у в. Кавалешчына, адкуль яна родам.

[…] Іван Антановіч распінаўся супроць пана Сораса. Хочуць вырваць тры мільёна долараў. […]. А журналісцкія ганчакі падвываюць, падгаўкваюць, псэўдамэцэнатам называюць Джорджа. Ён, бачце, супроць, хоча разваліць грамадства. Адчулі, значыць, небяспеку. Бо пан Сорас за адкрытае грамадства. […].

* На Сарочын, у аўтобусе: «Што ты мне на вочы выкідываеш?»

*8 верасня, панядзелак*

З раніцы да трэцяй гадзіны засядаў. Карлас увёў мяне ў раду. Чатырохпакаёвую кватэру здымае арганізацыя. Насупроць КГБ, на рагу крама. Шыкоўнасць. Гаспадыня рэстаратарша. Мэбля з Радзівілаўскага замка нават ёсць. А пад імі палзотыч з «Сов. Белоруссии». […].

Спрабаваў пісаць нешта: «Ветразь: Лямеш — трывалы ветразь…» [у дзённіку].

*9 верасня, аўторак*

Еду на Камароўку. Сядае побач Света Расянчук. Вабная й разумная. Яна на радыё «Сталіца», вяшчае на Менск і вобласць. Была з кампаніяй на Вушаччыне. На возеры Звонь. У захапленні ад нашых краёў. Начальніку, нейкаму Ганчаруку, сказала, што на Вушаччыне зробіць перадачу пра ўраджэнцаў гэтага краю, пра паэтаў. Гэты дробны […] пытае, пра каго? Кажа — пра Законнікава й Барадуліна. […] адразу: «Пра Барадуліна не трэба». Пытае: чаму? Адказвае: «За ягоныя інтэрв'ю».

Званю потым Васілю. Васіль усхваляваны. Марк Дэйч[1], цяпер ён, здаецца, у «Московском комсомольце», каб важкае слова Васілёва пачуць. Васіль ведае Дэйча па радыё «Свабода». Адразу сказаў, што пра палітыку не будзе, бо ўсім вядома, які ў нас прэзідэнт і які рэжым. Тады Дэйч кажа: «Пагутарым проста так, не для друку». Ну й Васіль, зразумела, завёўся й сказаў усё, што думае. Дэйч тут жа, слова ў слова, надрукаваў інтэрв'ю, зняўшы з магнітафона запіс. А ў дадатак па НТВ выступіў і заявіў, што Быкаў запалоханы й не хоча гаварыць пра палітыку. Як ні сумна гэта, ды атрымліваецца: як ты яўрэя цукрам ні пасыпай, а ад яго селядцом нясе. Ну, вядома, справа не ў яўрэях, а ў маскоўскіх амбіцыях ў характары.

Васіль узгадаў, як была ў свой час кампанія супроць абстракцыяністаў. Выклікаў яго сакратар абкома Міцкевіч (ветэрынар, здаецца, па адукацыі), пачаў з пытання пра здароўе, пра тое, як працуецца. Незаўважна перайшоў да абстракцыяністаў. Васіль вырашыў прасвятліць сакратара абкама, які толькі й ведаў сельскую гаспадарку ў межах савецкіх. Дамоў пайшоў акрылены, што хоць аднаго прасвятліў. Назаўтра абласны сход, ці як яно называлася, збежышча. Міцкевіч, анафэмуючы Неізвес-

[1] Дэйч Марк Міхайлавіч (1945–2012), расійскі журналіст.

нага[1], Еўтушэнку ды іншых, кажа: «І ў нас ёсць свае абстракцыяністы — Быкаў і Карпюк». Вось і прасвятліў свінара. Васіль: «Я проста ўдзячны Беларускаму тэлебачанню, што не трэба хадзіць ды сядзець ды выступаць з рознай нагоды. Цяпер як адрэзала. Пры Бураўкіну цягалі ледзь не штодзённа. Ніл аж чарнее, што яго не запрасяць у які там прэзыдыум красаваццa. Генадзь неспакойны, бо не завяршылася кар'ера. Дайшоў да міжнародных вышыняў, і раптам ўсё абрынулася. Мы з табой вушацкія, чым меней нас тузаюць, тым лепей. Пры бальшавіках угору йшлі актывісты ад сельсавета й вышэй. Хто не актывіст, той пад увагу не браўся. Мы будзем не актывістамі, а *пасівістамі*». Цікавае слова Васіль сказаў — у ім пасіўнасць і пасівеласць.

Заўтра запіс на радыё — прэм'ера песні «Прыцягненне Віцебскай зямлі» ды яшчэ ў Галіны Шаблінскай[2] з нагоды юбілею перадачы «Крылы». Каб карацей выступіць, напісаў верш: «Крылы»[3].

*10 верасня, серада*

На радыё. Колькі словаў і вершы перад прэм'ерай песні «Прыцягненне Віцебскай зямлі». Музыка Паўла Яроменкі. Традыцыйная савецкая песня, якой магло й не быць. І музыка, і выкананне — усё роўнае. Яшчэ спявачка сама ўмяшалася ў словы. Як казалі ў нас дома: куды ноч, туды й сон. Потым колькі хвілін з чароўнай, апантанай, утрапёнай беларускай Галінай Шаблінскай. Па дарозе дамоў раптам павяло. І напісаў:

*Павяло...*

Торгнула й павяло,
Як на кручку шчупака.
Цьмяных вачэй святло.
Жарсці сухая рука.

І — толькі ўлада яе,
Толькі пакора мая.
Сілы трываць не стае,
Ані ўтрымаць вудаўя.

Сонца недзе ўгары.
Дзе знайсці галаву?

---

[1] Неізвесны Эрнст Іосіфавіч (1925–2016), расійскі і амерыканскі скульптар і графік. З 1976 г. за мяжой. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (1995).

[2] Шаблінская Галіна Васільеўна (н. 1959), беларуская журналістка. У 1992–2002 гг. заг. аддзела літаратурна-мастацкага вяшчання Галоўнай рэдакцыі праграм для дзяцей і юнацтва Беларускага радыё.

[3] Гл.: Крылы (9.09.97) // Халодная памяць вады. С. 410.

Добра ў крутым віры.
Значыць, яшчэ жыву.

З раніцы «ясачку» пісаў: «Нябёсы чуюць тугу калосся»[1]. Маскоўскае тэле перадало, што выбух у Савецкім судзе. І быццам адказнасць узяла Армія вызвалення. Сапраўды гадзін каля шасці раніцы чуў я моцны выбух. Потым ужо [...] пачалі гэта вязаць з выбухам на газаправодзе. Адкуль такая армія? Гэта вядомыя бальшавіцкія штучкі — адкажам чырвоным тэрорам на белы тэрор. [...]. Гэты суд каля нас. Хадзіў глядзець. Апазадзь устаўлены два вакны, шмат шкла. Кавалак сцяны свежай цэглай замураваны. Занадта хутка. Загадзя ўсё было падрыхтавана. Трохі нагадвае, як немцы Лідзіцу[2] палілі. Звечара кінаапаратары ўстанавілі камеры. Раніцай пачалі паліць — і здымаць. Калі немцам заявілі пратэст, яны запярэчылі, што гэта ў межах Рэйха і гэта ўнутраная справа, навядзенне парадку, барацьба з партызанамі.

*11 верасня, чацвер*

Нешта на мяне апошнім часам то пал нападае, то цыганскі чмур. Стаю ля крамы, званю. Падыходзіць цыганісты чалавек і прапануе купіць скуранку, бо ён за яе аддаў на стадыёне 150 даляраў, а яму трэба грошы. Купіў бацьку, ды мусіць прадаць. Кажу, што мне яна сто гадоў не трэба. Пачынае: а колькі дасі, а колькі ў цябе грошы пры сабе. І я як дурань адшпільваю кішэньку сумкі, дастаю ўсе свае соценныя тысячы, адну пакідаю, бо гэта ўсё, што ў мяне застаецца. Гэты тып забірае грошы й пачынае перабіраць паперкі, забірае сотню. Просіць паказаць калітку. У мяне там 5 тысяч і 20. Бярэ й дваццаць. Уручае мне цалафанавы мех з курткай і кажа, каб хаваў. А ён, бач, з Піцера, яго ГАІ затрымала. Калі апамятаўся — куртка з замяняльніка, зусім не скураная. А я без капейкі. [...].

Вечарам пісаў рэцэнзіі на праекты пад гранты. Усе па-англійску. Давялося дастаць з паліцы слоўнік. Гэта мне падабалася. Люблю са слоўнікам перакладаць. Гэта вяртае ў маладыя гады. Слоўнікі змалку люблю. Хоць мала іх тады было ў мяне. Цяпер хапае, ды сілы не стае.

*12 верасня, пятніца*

«Народная воля» нарэшце дала «дурноты». Павіншаваў адзін Васіль. Цяпер ніхто не хоча быць шчырым. Самсон добра сказаў: «За «дурноты» могуць даць, як за разумнае». Прыехаў Карлас.

---

[1] Гл.: Ясачкі: Нябёсы чуюць тугу калосся (10.09.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 332.

[2] Лідзіцэ — шахцёрскі пасёлак у Чэхіі. За замах партызан на нямецкага пратэктара Р. Гейдрыха пасёлак спалілі і зраўнялі з зямлёй. Мужчын старэй за 15 гадой расстралялі, астатніх выслалі ў канцлагер.

*13 верасня, субота*

Сойм БНФ. Выдатныя аналітычныя даклады Вячоркі, Станкевіча, Заблоцкага. Ліст Зянона з Новага Ёрка. Крыху не арыентуецца ён у нашых днях. Патрабуе актыўных дзеянняў. А гэта тут не так проста, як бачыцца яму. Тэорыя ўперадзе, а практыка не заўсягды паспявае за ёй. Дый у практыкі таксама свая галава.

Мірон сваімі сядзеннямі на фортках і разглядамі зорак у небе застудзіў мяне скразнякамі. Чорнае натхненне маё патрабуе шмат увагі, бо адчувае, што люблю яго. Без Мірона, як цар без трона.

Сёння дзевяць дзён, як адышла ад нас Марыя Рыгораўна. Царства нябеснае ёй, пухам зямля родная! Скразнякі ў пакоі. Скразнякі і ў душы маёй, анямеў я без апошняй радні маёй, бо яна пасля мамы была маёй Вушачай. Цяпер Вушача чужая.

*14 верасня, нядзеля*

Хварэў дома. Рабіў такі-сякі парадак. Чытаў Катула[1]. «Час выпаўзання змей»[2], «Віншаванка: Хай маладосць пілнуе Вас!» [У дзённіку.]

*15 верасня, панядзелак*

З Самсонам і Халіпам да Карласа. Потым з Самсонам у будучы офіс каля аэрапорта старога. Дай Бог, каб мы трохі патрымаліся. Бо [...] наладзілі аблавы на ўсё сораўскае. Двойчы Ваня [Антановіч], [...], распінаецца. Вечарамі чытаю «My first Bible in pictures» [«Мая першая Біблія ў малюнках»], вяртаю англійскую мову ў сваю памяць.

*16 верасня, аўторак*

Сёння жудасны дзень. Месяцовае зацьменне, магнітныя буры [...]. Ледзь ўтрымаў галаву, каб на чарапкі чэрап не разваліўся. [...]. «І палова...»[3]

*17 верасня, серада*

Сёння дзень уз'яднання Заходняй і Усходняй. Стала савецкай большая Беларусь. І дагэтуль саветызуецца [...]. На «Свабодзе» гутарыць з Валяй Аксак наконт Максіма Танка. Загадка Танка. Яна й простая, і вузлаватая. Бясспрэчны талент. Але адразу ж пасля ўз'яднання загадка. Усе дзеячы КПЗБ («камеры папярэдняга зняволення Беларусі») сядзяць, а ейны актыўны рупар, які ўзяў такі ваенізаваны псэўданім як Танк ды яшчэ кулямёт «Максім», на волі. Даюць толькі Сталінскія прэміі першай, другой,

---

[1] Катулл Гай Валерый (каля 87 — каля 54 да н. э.), рымскі паэт.
[2] Гл.: Час выпаўзання змей (14.09.97) // Босая зорка. С. 139.
[3] Гл.: І палова... (16.09.97) // Халодная памяць вады. С. 382.

дзясятай ступені. Значыць, за нешта важнае. За паслугі, відаць, асноўнай установе савецкае імпэрыі. Ці пастаўлены на новую пасаду з новымі задачамі. Валя кажа, што ягонымі клопатамі выдалі Геніюш. Так, і ягонымі. Але памятаю, як вечна п'яны ці перадп'янкавы Вялюгін паказваў кнігі й рукапісы, здаецца, нашае святой пакутніцы. Іх Танку далі з пэўнай установы, а ён аддаў на рэдагаванне Вялюгіну — вернаму ганчаку рэжыму. Валя кажа, што за тое, што наведалі Геніюш у Зэльве, маладыя, у тым ліку, Разанаў, былі выключаны з універсітэту. Наколькі памяць мяне не падводзіць, Разанаў быў пераведзены ў Берасце зусім па іншай прычыне[1]. [...].

У Танка была добрая беларуская закваска, беларуская душа, хоць і на службе быў у вядома каго. Дый меў так званую амплітуду смеласці. Памагаў Уладзімеру [Караткевічу] з «Каласамі пад сярпом тваім». Ведаю, як у чарговым Зборы твораў да чарговай даты разгублена не мог размясціць звыш 80 вершаў пра партыю. Усё любілі казаць, што ён сабакам косткі кідае. Гэтак кідаючы, можна й свае косці выкінуць. Дзённікі Танка — чыста савецкая страхоўка на выпадак, калі трапіць у рукі гаспадароў, каб пераканаліся, што болей савецкі, чымся яны. «Лісткі календара» перапісаныя з улікам усіх пастановаў ЦК КПСС. А фактычны матэрыял — золата. Наогул, што думала гэтае пакаленне на самой справе, ніхто не адкажа. Саміх сябе баяліся, бо жылі ў свеце страху й здрады. У нас усё аднаўляецца. Калі ўзяць Куляшова, Танка, Броўку, дык што розніла іх у агульным клопаце ўслаўлення рэжыму? Толькі мерай умецтва, штукарства. Куляшоў аблізваў, абгрызаў, як костку з мясам, кожны радок, кожны гук. Танк рабіў пад вэрлібр, гэта давала ўражанне свежасці й наватарства. Броўка па-вушацку: цалое малое, большае папалам. Калі плылі доўга па Енісею, Танк ні на хвілю не разлучаўся з польскімі часопісамі. Праз польскую мову далучаўся да Эўропы. А паялкі ў сваю чаргу, як цыганы Эўропы, пераймалі французаў. Панчанка некалі казаў, што Танк да апошняга часу шыў сабе гарнітуры ў віленскага краўца, у якога шыў і ў часы Заходняй Беларусі. Неяк у 50-я паехалі яны з Танкам у Вільню. Пімен у нейкай краме спытаўся, ці ёсць папера (тады быў у нас дэфіцыт на ўсё). Крамар адказаў: няма. Тады Танк запытаўся па-польску. Усё знайшлося. Пры любой гульні Танк стараўся захоўваць прыгожую міну. Вядома, не процітанкавую. Памятаю, як казаў: «Прыехаў з Пількаўшчыны, паліў розныя старыя лісты, паштоўкі, запісы». Гэта да ўз'яднання пісалася. Магло

[1] У 1968 г. студэнты філфака БДУ выступілі з патрабаваннем перавода выкладання ўсіх прадметаў на беларускую мову і былі адлічаны. Асабістымі намаганнямі У. Калесніка, заг. кафедры педінстытута, А. Разанаў быў пераведзены ў Брэсцкі педагагічны інстытут, а В. Ярац — у Гомельскі педагагічны інстытут. *Ярац* Віктар Уладзіміравіч (н. 1948), беларускі паэт, перакладчык, літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1976). З 1972 г. выкладчык Гомельскага універсітэта імя Ф. Скарыны.

быць кампраматам. Хто мацнейшы, голад ці страх? Ці яны, як пісаў галавар Маякоўскі[1], як партыя й Ленін, браты-блізнюкі?

*18 верасня, чацвер*

Да Ганада. Выдавецтва — ціхі магільнік. Зрэдку прасунецца […] кшталту Шупенькі ды […] кшталту Марчука. Андраюк, як восеньскі крумкач, чакае падказак Пташнікава ды Савіцкага [Алеся]. Сустрэў Басалыгу. На мейсца [… Шаранговіча] ставяць мастацтвазнаўцу, так бы мовіць, Смольскага[2]. Усе лісты [Лукашэнку] падпісваў. А [… Міхась] Савіцкі, які быццам мастак, адказнасці не хоча […].

«У лесе: А якая сасна стане хатаю той…» [у дзённіку]. Пачытаў Самсону. Раіў не наклікаць *яе.* Табе, казаў, трэба дамавіна з комінам з-за ўрučча. Сам ведаю, што небяспечна казаць, нават узгадваць *яе,* але мне як хто дыктуе, напамінае. Апошнім часам усё часцей. Знайшоў на лістку пачатак верша. Даўні. Перапісаў.

*Анкета*

З каго выходзяць паэты?
Каго матулі шалёна любілі,
Каго з маленства сябры лупілі,
Хто быў увагай неба прыгрэты,
Каго пулята зданькі пужалі,
Каго дзяўчаты не заўважалі.
Хто крыўдай дзяліўся са словам,
Як з кошкай скупым уловам
З тае абмялелай ракі,
Дзе свіснулі ўрэшце ракі.
І ў рызыцы з лёгкай рукі
Крывуліліся радкі —
Няўпэўненыя небаракі.
І страшна было пры гэтым,
Адолеўшы сораму стому,
Назвацца паэтам
Сабе самому.

*19 верасня, пятніца*

Цэлы дзень на студыі. Мантаж фільма пра Міхася. На экране Міхась з фота глядзіць як адтуль, дзе ўсе будзем. Уяўнасць жывога. Гэтак і ўсё

[1] Маякоўскі Уладзімір Уладзіміравіч (1893–1930), рускі паэт.

[2] Смольскі Дзмітрый Браніслававіч (1937–2017), беларускі кампазітар, выкладчык. У 1962–2014 гг. у Беларускай акадэміі музыкі. Прафесар (1986). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1976). Народны артыст БССР (1987). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі 91972), Дзяржаўнай прэміі БССР (1980). Сын Б. Смольскага.

мастацтва — уяўнасць жывога. Жывое заганяецца ў уяўнае. Самсон — геній. Вонкава халодны, а ўнутры вулкан, які сябе стрымлівае.

*20 верасня, субота*

З раніцы званіла Вераніка Чаркасава[1], каб падпісаў паручальніцтва за Паўла Шарамета. Падпісаў. Ды ў нашым калгасным двары ўсё марна. [...]. Званіў Васілю. Сумны, хворы. Толькі выгляду не падае. «Народная воля» дала ягоных «Народных мсціўцаў». Каб хто пазваніў. Асабліва тыя, хто звоняць часта па заданню КГБ. Не маюць указанняў, як рэагаваць.

*Гульня*

Кожнаму восень дае
Пярэсты шанец
Выйграць ці прайграць,
Бо ўзіму,
Калі пагрукаецца ў душу
Лёс-блуканец,
Трэба знайсці цёплы кут яму.

Не хапае вясёлцы ведзер
Вычарпаць
Злечаную ваду да дна.
Перахітрыць ўсіх
Круцёжнік-карцёжнік вецер,
Мех шые
З зялёнага яшчэ радна.

Лістапад гуляе новай калодай,
Карты губляе летуценны гулёк.
Долу хіліцца
Стомлены ціхай лагодай
Небасхіл,
Што, як смутак, на сэрца лёг.

Вечарам правіў крыху даўні верш на песню Эдуарду Зарыцкаму. Дужа прыемны сэрцу майму гэты таленавіты кампазітар.

*21 верасня,нядзеля*

Цэлы дзень у Самсона. Падбіралі вершы да фільма пра Міхася. «Гасне...»[2]

[1] Чаркасава Вераніка Анатольеўна (1959–2004), беларуская журналістка. У 90-я гг. супрацоўніца «Белорусской деловой газеты» і «Белорусской газеты». Забіта невядомым.
[2] Гл.: Гасне... (21.09.97) // Ксты. С. 312.

*22 верасня, панядзелак*

Цэлы дзень на студыі. У мантажнай падбіралі тэксты, кадры. Цяжкая гэта праца, не гэтулькі, можа, цяжкая, як высяджвальная. Трэба зялезныя нэрвы. Самсон усё робіць, а Пятроўскі гуляе ў рэжысёра. «У перамоўклым садзе ў разварушшы…»[1]

*23 верасня, аўторак*

Раненька пазваніў Фінберг. Пытаўся, дзе знайсці кампазітара Давідовіча[2], каб удакладніць песню. Кажу, што песня «Голас вякоў» маецца на радыё. Часта спявалася: «Беларусь — зямля святая. Заваёўнікам на страх У цябе з пляча злятае Бел-чырвона-белы сцяг». Фінберг сумна кажа, што на радыё гэтай песні няма. На кампутары правяраў. Сцёрлі гаʹды. […]. Вечарам пісаў тэкст на песні: «Беларусь — ты мой сон велікодны»[3], «Радзіма кахання»[4].

*24 верасня, серада*

Хворы, з зубком часныку ў роце, на кінастудыю. Запісваў вершы залатога сябра майго Міхася. Як па іншаму гучаць вершы паэта, калі ён адыходзіць з гэтага свету ў вечнасць. У іх (вядома, сапраўдных вершах, а не імітацыйных) з'яўляецца й таямнічасць, і прарочасць. Аддаленае падабенства з вершамі Вечнае Кнігі.

*25 верасня, чацвер*

У выдавецтва «Полымя». Нешта за нешта заплацілі. У Міністэрства культуры — дамовы на песні. […]. Затое насмяшыла Дамінічка. У аднакласніка Уладзіка, унука Ясінскага, хутка дзень нараджэння. Валя мусіць купіць нейкі падарунак. Дамінічка: «Толькі купляй падарунак, каб мне зайздросна не было…» Толькі дзеці кажуць, што думаюць. Калі й маняць, мана малечая. Стануць дарослымі — усё дарослае. І мана.

*26 верасня, пятніца*

Задажджыла. Заветравела. Восень. Крыху хадзіў. Сядзеў дома, перакладаў Ганадаву паэтапрозу. Ёсць нейкі няўлоўны каларыт, які вабіць. Іншы свет зусім.

---

[1] Гл.: У перамоўклым садзе (22.09.97) // Руны Перуновы. С. 255. З прысвячэннем: «Памяці Алеся Адамовіча».

[2] Давідовіч Уладзімір Васільевіч, беларускі кампазітар.

[3] Гл.: Беларусь — ты мой сон велікодны (23.09.97) // Босая зорка. С. 52.

[4] Гл.: Радзіма кахання (23.09.97) // Халодная памяць вады. С. 375.

*27 верасня, субота*

З Дамінічкай і Валяй на Чэрвеньскі рынак. Купілі Дамінічцы шапачку. Пешкі туды й назад да метро. Дамінічка сказала, што яна на лесвіцы метро даедзе да сонца. Светлыя мары ў светлай душы. Званіў Васілю. Расійскае тэле вылівала заказны бруд на апазыцыю, на Зянона. [...]. Жадаю Васілю добрай ночы. Кажу, што буду маліцца за яго. Васіль адказвае: «А я буду маліцца за цябе». Васіль — гэта і ёсць тая Беларусь, пра якую марыла не адно пакаленне. Ды імгненнае жыццё чалавечае. Памяць таксама не дужа вечная.

Званю Радзіку, віншую з Роша шана. Ён не ведае, калі свята. А пазваніць, запытацца не мае ў каго. Яўрэяў, лічы, не засталося. Бальшавікі й памяць укралі ў народа. А Дамінічка зайшла да мяне ў пакой і кажа: «Калі дзедзя куды паедзе ці памрэ, пакой будзе мой і буду хадзіць, калі хачу й браць усё». Для яе дзедавы смерць і камандзіроўка — адно й тое ж. Страты ў яе яшчэ дробязямі вымяраюцца.

*28 верасня, нядзеля*

Дамініка сёння сказала на мяне: лірык-істэрык. Валя пытаецца: «Ты пачула гэта?» Адказала: «Я сама ведаю гэтыя словы». Цэлы дзень крукам сядзеў, перакладаў Ганадаву паэтапрозу. Там, дзе побыт, норавы народа, там цікава. Пакуль галіўся, займаўся філалогіяй. Прыйшоў да высновы, што вушацкае *загілець* (крута захацець) усё ад таго ж гіля (снегіра на рускі лад). Загілела яму — значыць, загарэлася, бо гіль жа гарыць, як жарынка на снезе. Законнікаў прасіў верш да юбілею «Полымя». Спачатку на разгон напісаў:

*Імёны*

Жыжаль — бацька агню
З неба на зямлю ўпершыню
Ішоў паволі,
Імёны дзяцей у прыполе трымаў.
Не драмаў.
І звалілася з прыпола ймя,
І крыламі зашугала.
Цемра, што за Жыжалем
Сачыла гала,
Зашыпела з помстаю:
— Полымя!..
Той, што прапёк сцяжыне далонь,
Сам загойкаў здалёк:
—Я — агонь…
Кудлаты сынок малады

Бацьку вочы слязіў
І ў цемры заблытаць сляды грaзіў,
А затым задумаўся й выдыхнуў:
— Я — дым…

І Жыжаль падаўся на неба зноў,
Пакінуўшы на зямлі сыноў…

І, разагнаўшыся, напісаў і юбілейны верш:

*Роднаму часопісу «Полымя»*
*да 75-годдзя*

А было ўсяго — агню і чаду,
Дыму розных колераў было.
Маладзілі позірк далягляду
Беларускай крэўнасці святло.
Полымя не з іскры, а з цярпення
Цемры
Загараецца з вякоў.
Полымя — гарачы ўздых здзіўлення.
Жар — ён грэе босых дзівакоў.

Полымя спякотлівай хусцінай
Мроі ахіне на халадах.
Млечны Шлях, накрэслены лацінай,
Прышласць расчытае па складах.

Полымяпаклоннікі, ратаі,
Кшчоныя паганцы — крывічы
Пішуць кнігу гарту,
І гартае
Полымя старонкі уначы.

Полымя маліцца небу вучыць,
Небу ў вочы зазірнуць
І зноў
Нішчыць змрок, і долам не здакучыць,
Не смылець — смялець ад перуноў.

Б’ецца полымя ў грудзях спадзеву,
Ліжа рукі мужнасці агонь.
Полымя асвечанага гневу
Ціха рызыцы падставіць скронь.

Марна здрайца грозіцца жудою.
Змрок свой баль балюе да пары.

Полымя відушча-маладое,
Наскае,
Парнаскае, —
Гары!

*29 верасня, панядзелак*

На кінастудыю. Зноў фільм пра Міхася даводзіць да ладу Самсон, а ці-травы рэжысёр Пятроўскі нэрвова смаліў цыгарэту. Гульня ў рэжысёраў, як у нас у крытыкаў. Званілі ў Вушачу. З Пятром справы кепскія. П'е й не закусвае. І на закусь няма, і на пітво таксама. Нічога ў жыцці не засталося ў яго, беднага. Чысты вынік саветызацыі, мусовай люмпенізацыі.

Васілю пазваніў [… Аўруцін], каб у «круглым стале» нейкай газэты «Беларусь» удзельнічаў. А перад гэтым [казаў], што Быкаў як нацыяналіст адмовіўся супрацоўнічаць з часопісам Бондаркаманды «Всемирная литература». Васіль яму добра адказаў: «З правакатарамі не хачу мець справы». Усе, хто поўзае, выпаўзлі на […] вочы [Лукашэнкі]. […]. «Нікому…»[1]

*30 верасня, аўторак*

У «Полымя» аднёс верш і баладу Яна Баршчэўскага. Званілі з СП. Вечар Пімена. Вядзе Генадзь. Як пры камуністах, вечар павінен весці член ЦК. На кінастудыі пісалі з Самсонам і Халіпам канцэпцыю. Для Карласа. Халіп — геній цыркуляраў: розных рэгламентных папераў. Зябкая, няўтульная восень. Зябка й няўтульна на нашай зямлі. Сорамна быць грамадзянінам калгаснай дзяржавы.

* З гвалтам рашаюць задачы. Валя: «Што ты глядзіш на мяне, адвярніся да гэтых лічбаў». Дамініка: «Навошта? Яны мне не трэба». «Што такое шкадаваць?» Валя тлумачыць: «Спагадаць, палашчыць». — «А я думала — шкоду рабіць».

*1 кастрычніка, серада*

Зноў на кінастудыю. Як бы працую там. Бальшыня вартаўнікоў на ўваходзе ўжо не патрабуе пропуска. Далі нейкія капейкі за сцэнар. Купіў Дамінічцы куранятка. Патроху раблю Ганада. Стаў хутка стамляцца. Баліць галава. Па гадах і рана, і час. З якога боку глядзець.

---

[1] Гл.: Тужыць… (29.09.97) // Ксты. С. 299.

*2 кастрычніка, чацвер*

У выдавецтва. Як пэнсыянэру далі нейкія грошы па спісе. Зайшоўся да Ганада. У выдавецтве мярзотна быць. Давыдгарадоцкі […] шмыгае важна. Паэтапесеннік. Раней быў Авяр'ян[1], пасля Генадзь перахапіў пальму першынства (бо ўзначальваў тэлерадыё), Нілок, пакуль у Вярхсавеце сядзеў, на кароткай фінішнай абышоў Някляеў. […]. Раніцай пазваніў Ст. Ст. Шушкевіч, каб я паехаў з ім у Латышскае пасольства атрымаць ордэн. Увесь бацька. Тут жа трэба пратакол. Мне мусяць званіць з амбасады. Ледзь адбіўся. Вядома, дзякуй яму за клопат.

*3 кастрычніка, пятніца*

[Перапраўленая памылковая лічба 4. IX.] Рука па інэрцыі выводзіць іх. А ўжо X — пахілены крыж. Над погарбам лета. Раніцай званілі з Латышскай амбасады. Гэта, выходзіць, я мусіў ехаць дамаўляцца, як мне будуць уручаць ордэн. Па амбасадах рупліва парасторкаваны былыя саўслужбакі вядомай установы з Масквы. Уся калода картаў у руках Лубянкі, усе козыры ў руках ейных. Дасюль гуляе. Давыдгарадоцкаму [… Лявону] хутка сорак. Напісаў віншаванку. Ды перарабіў на «дурноту». Бо залішне будзе шукаць падтэксту. Бо не геніем названы.

*Саракагадовікам*

Сорак! — лічбу гэту
Ведае гарэлка.
А мужчыну, як і спірту,
Лепей сто.
Дык страляйце, барды, ў
Песняцірах цэлка.
Творчы свет не горшы
Ад цырка Шапіто.

Кожны сам ламае свой карак. Адзін раней, другі пазней. […].

*4 кастрычніка, субота*

Хмары па галаве ходзяць. Галава развальваецца. Жыць не хочацца. Нейкі развітальны настрой. З паўдня пайшоў пахадзіць. Дождж. Збіраў каштанчыкі. Мокрыя, але ўсё роўна нейкім цяплом напоўненыя. Цупкія. Дужа люблю іх збіраць. Як некалі грыбы. І вершы пад дождж сумныя. Можа, ужо старэчыя? «Адчуеш…: Адчуеш сам…», «Знойдзе…» [у дзённіку]. «Гола…»[2]

---

[1] Дзеружынскі Авяр'ян Сафонавіч (1919–2002), беларускі паэт.

[2] Гл.: Гола… (4.10.97) // Босая зорка. С. 96.

*5 кастрычніка, нядзеля*

Цэлы дзень пракідзісты дождж. Восень класычная, холадам насычаная. З Самсонам на Камароўку. З-за дажджу людзей небагата. Таму й можна пахадзіць. А з галавы не выходзіць, дзе Ілона, дзе мая аблудная авечачка? Шалею. Гляджу за вакно й са слязьмі ці дажджынкамі на вачах пяю вушацкую, маміну:

Закурыўся а дробненькі дожджык
Ды па чыстым полю,
Закурыўся.
Зажурыўся мой бедны татулька
Па маім бяздоллю,
Зажурыўся.
Не курыся, а дробненькі дожджык,
Ды па чыстым полю,
Не курыся.
Не журыся, мой бедны татулька,
Па маім бяздоллю,
Не журыся…

Апошнім часам толькі вушацкімі, мамінымі песнямі й ратуюся. Сам сабе пяю, сам сабе супакойваю. Так здарылася, што няма ў мяне нікога свайго, каб параіцца, пажаліцца, каб спагаданне пачуць, ласку адчуць. Усе чужыя. Занадта я мамнік. З мамай ўсё адышло, што трымае душу.

*6 кастрычніка, панядзелак*

Эдуард Зарыцкі папрасіў дапісаць яшчэ слупок у песню «Беларусь — ты мой сон велікодны».

Беларусь, я малюся табою,
Я табе лепшай долі прашу.
Беларусь, ты іконай святою
Асвяціла ласкава душу.

Пайшоў забіраць пераклады Ганада. Трапіў на дзень народзінаў да Ідэльчык[1]. І яна цудоўная, і муж разумны, і дзеці таленавітыя. Добра, што хоць у людзей шчасце ў дзецях ёсць. Бывае ж!

*7 кастрычніка, аўторак*

Ідзе быццам пацяпленне. Васілю кепска. І ўчора, і сёння. А ад Ілоны ніякіх вясцінаў. […]. Цікава Васіль казаў. Узяў спіртометр ды замерыў градусы ў недапітках. А тое, што ўсе цяпер каньякі — сурагаты, пераканаўся,

[1] Сляповіч Ірына Якаўлеўна (дзявоч. Ідэльчык; н. 1952), былая супрацоўніца выдавецтваў «Мастацкая літаратура», «Юнацтва» і ПЭН-цэнтра (1990–1993).

калі прыехаў з Малдовы Васілакі з сапраўдным каньяком. Учора Наташа Брылішка казала, як ейнага зяця прадавіца цыгарэт прымала за Шарамета. А потым сказала: «Я ўвесь час думала, што Вы Шарамет. А цяпер бачу — не. Бо Шарамет — сядзіць».

*8 кастрычніка, серада*

Сёння з галавой страшней за ўсе разы. На вечар Пімена не пайшоў. Лепей пра яго напішу нармальны ўспамін. Яго люблю, помню. Пры жыцці, калі мог, чым мог, спрыяў. А з хворай галавой у гайні нешта гаўкаць — марны занятак. Званіў Крывёнак. У Віцебску за выходныя дні 7 самагубстваў. Адна школьніца між іх. З бацькамі пасварылася. Віцебшчына вымірае. Смерць пераважае народзіны. У Вушацкім раёне за паўгода на 300 чалавек смерць перавысіла народзіны. Званю Васілю: нацыя вымірае. Васіль: «Нараджаецца новая…» «Што спакушае маладога?..» [У дзённіку].

*Вітанне восені*

Восень — возень,
Возіць, возіць, возіць
На валах нябесных і зямных
Сонцавы снапы
І поўніць восець
Духам,
Як маленнем келлю мніх[1].
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*9 кастрычніка, чацвер*

Сёння, як ніколі, хапіла галаву й бакавіны. Жыццё нямілае. А жыць трэба. З'явіўся […] зяць […]. Дзякуй Богу, Ілона жывая. У яе, бачце, выстава. Усё брахня. Недзе займаюцца д'ябал ведае чым. Няма ў мяне сына, а дачка — гэта, як ні сумна казаць, атожылак, што дзічэе. Род наш звёўся на самоў хвост. Хацелася сям'і, хацелася працягу роду. Бог не даў. Значыць, так трэба. Дзякаваць Богу й за апошнюю зорачку жыцця майго — за Дамінічку. Хоць імя яе цешыць душу маю. Няма ў ім маскалёўшчыны.

Званіў Васілю. Генадзь крыўдзіўся, што Ніл на вечарыне Пімена цэлы вэрхал учыніў, бо не далі слова. Сам узяў. Адчувала душа мая, што будзе там […]. Барацьбіт за мову. Ён барацьбіт за чэрава сваё перш за ўсё. А мова — гэта як абэлка. Ужо быў на пасадзе другога ці ідэалагічнага сакратара ЦК у Вяхсавеце, а тут [Лукашэнка] мяшалкай па ср.цы. І ў апазыцыі апынуўся фармальна. Бальшыня апазыцыянераў нашых — парсюкі, якіх ад карыта адпіхнулі болей лычасцейшыя. Дык багна іх пацалуй, і тых, і гэных!

[1] Першая, апушчаная, страфа верша; другую гл.: Восень (8.10.97) // Ксты. С. 306.

Пад вечар выходзіў на вуліцу. Дождж. Парнасць. Збіраў жалуды, во, паспрадвечнаму думаючы, па-паўночнаму, жалудамі называю каштанчыкі. Дамінічка — боль мой, радасць мая шчымлівая. Божанька, дай долю ёй! Такая яна бездапаможная. [...].

*Між...*

Жыць для чаго ці для каго?
Ці жыць, каб проста жыць,
Спакою кволага свайго
Цяпельца варушыць?

І дагасаць, і ціха цьмець,
Як тыя вугалі,
Каб дрэву існасці шумець
І доўжыцца ў галлі.

І так, не ведаючы меж
Між смерцю і жыццём,
Жывеш,
А быццам не жывеш,
Да старасці дзіцём...

*10 кастрычніка, пятніца*

Павіншаваў па тэлефоне Дранька. Сорак — узрост для паэта небяспечны. Ці ёсць, ці няма. Нашая моладзь шчаслівая сваёй упэўненасцю ў абсалютнай геніяльнасці. Чым бы дзіця ні цешылася. Хадзіў да Карласа. Апартамэты такія, што першая думка — [ціцянковы] адбяруць. Добра, што Карлас аптыміст. І арганізатар — геній. З нуля пачаў і да таго давёў наш ПЭН. Дай Бог яму здароўя й тым анёлам, якія над ім апякуюцца. Выйшаў Вацлаў Ластоўскі. Цудоўны том. Стараннямі Кастуся Цвіркі й [...] ўедлівага Язэпа Янушкевіча[1]. Парсючкі, яны розныя. Адны рыюць лычам толькі тое, што за вуглом. А іншыя, якіх трымае пыха, рыюць карысныя архівы. І даюць вялікі плён Бацькаўшчыне. Дзякуй Язэпу!

*11 кастрычніка, субота*

Сойм БНФ. Лявон [Баршчэўскі] папрасіў адстаўкі, бо ў управе інтрыгі, падкінутыя вядома якой установай. Адстаўку пакуль не прынялі. А гаварылі з 11-ці да 17-ці! Вірус саветызму страшны. Гаварыць-гаварыць-

[1] Янушкевіч Язэп Язэпавіч (н. 1959), беларускі літаратуразнавец, архіограф, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1987). У 1985–1997 гг. супрацоўнік Інстытута літаратуры НАНБ. Брат Ф. Янушкевіча.

гаварыць, каб урэшце забыцца, пра што. Добра, што моладзь расце. На іх адзін сподзеў. Васіль гладка хворы. Хрыпіць у тэлефон.

*12 кастрычніка, нядзеля*

*Вушача!* Аўтобусам да Сарочына. Сустрэў нас Роўба. Прыехалі ў восень з пракідзістымі дажджамі. На сумны выпадак прыехалі — сарачыны па Марыі Рыгораўне. Няма болей у мяне ў Вушачы роднай душы, няма мовы, якая лечыла мяне й давала трываласць. Ачужэла Вушача. Усё чужое, усе чужыя. Саўкі старыя й новыя саўкі. Адзін, як дубец. Пецька п'е. Не пайшоў да яго сёння. І ён бедны. У яго няма для каго жыць дый няма на што жыць, не ведае, нашто жыць. Гарэлка — верная сяброўка самотных. Толькі дужа ўладная й раўнівая. Неякіх супэрніц не церпіць. Сядзелі з Валяю за сталом, Валя рабіла падлікі, як і на колькі рабіць сумны стол, смутную бяседу. Зірнуў у люстэрка, што стаяла на стале, — стары сівы дзед. А яшчэ пырхаю. Харахоруся. Відаць, жыццё прымушае. На прызбе пасядзець на прыслонку мне не давядзецца.

*13 кастрычніка, панядзелак*

З раніцы па базары ды па склепах. Усё трэба купіць. Грошы растаюць, як лёд на агні. З Зінай і ейным мужам[1] ды Пятром з'ездзілі на Кавалеўскі могільнік. Пастаялі ля грудка Марыі Рыгораўны. Прыгубілі, хто мог, гарэліцы. Налілі ў шклянку ёй ды паставілі на грудок разам з хлебам, з соллю ды кветкамі. Болей не пачую ашчаджоную вушацкую песню, слова жывое, вушацкае. Нямею. Так і давядзецца дажываць век у палоне чужых людзей. Да сваіх, да родных вярнуцца з палону шлях адзін, калі жыццё адпусціць на волю з паднебнага свету. Ці ўсё жыццё — толькі светлыя зданькі? «Як і сам...»[2]

*14 кастрычніка, аўторак*

Званіў Васілю. Віншаваў са святам Пакровам. Васілю трохі лепей. Голас здаравейшы. У кантору, каб выпісаць Пятру дроваў. На пошту — заплаціць за тэлефон. Абіраў патроху яблыкі. Хоць трохі ў неба паўзіраўся, а то ў зямлю ды ў зямлю нуруся. Вечарам сарачыны па Марыі Рыгораўне. Рэштка дарагіх маіх суседзяў. Усе ўжо старыя. А ўсё роўна, калі бачу іх, маладыя гады мае вяртаюцца. А ўсё ніяк не змагу звыкнуцца, што няма Марыі Рыгораўны. Вушача некуды знікае, уцякае, прападае. Гэта ж яна мне дала імя ў гонар дзеда Грышкі — заядлага кавалеўскага рыбака.

[1] Кватаранты П. Трафімава.
[2] Гл.: Як і сам... (13.10.97, Ушачы) // Аніma. С. 155.

Кавалеўшчына, дзе большыня вёскі Міцкевічы, радзіма бацькі. Дзед Грышка прымак. «Anno Domini»[1].

За сталом Люда Гладышышка [Гладышава] ўспамінала, як Латышыха [Латышонак] заходзіла ў хату з ручной сарокай на плячы. Як мама мая шыла падкоўдранік Марыі Быкавай — ейнай маці. Наогул, цікава ўспрыманне той, зніклай ужо, Вушачы маладзейшымі вачыма. А Тацяна Хведараўна, якая вучыла нас некалі, аж папрасіла ў мяне прабачэння за тое, што меў ад мамы лупцоўку за няправільную інфармацыю. Апёнкі не прыйшлі на ўрок, бо засталіся глядзець, як ладзяць мост, а я прыйшоў. А яна сказала маме, што й я прагуляў…

*Памяці Марушкі*

Ты пайшла туды,
Адкуль на людской памяці
Не вяртаюцца.
І ўпершыню не спяшаюся да цябе,
Каб пачуць твае песні,
Вечныя, як бег аблокаў.
Не спяшаюся, ды аднойчы
Мушу падацца ўслед
І там ужо слухаць песні
Буду бясконца.

*15 кастрычніка, серада*

[…] Прыехаў Ганад. Пад дожджык заехалі хутка. Пятрок заставаўся толькі пахмялелы, але не п’яны. Разгублены, страчаны, самотны. Дзе той Пятрок, які паказваў свой таўкач раніцай, не мог яго ўкласці ў штаны, падторкваў пад дзягу, як партызан ці пастановачны чырвонаармеец. Мне, школьніку, крыўдзіўся, што Насця Васілішка — жонка ягоная, не падпускае да сябе з гэтакім уруччам нападоймішча. Шмат можна пытацца, дзе той Пятрок… Жыццё прайшло. І ўсе йдзем ужо не на кірмаш, а, як кажуць цяпер, з сэйлу.

«Лепш…: Самазакаханае люстэрка…» [у дзённіку]. Толькі, як уну′рышся ў працу, забываешся, што нехта шэпча табе на вуха: мала засталося, мала засталося, што дзень, дык меней. Ці гэта ўжо старасць чапляецца за жыццё?

*16 кастрычніка, чацвер*

Прахварэў дома. Прасядзеў на тэлефоне. З Карласам кепскія справы з нагой. Хоць бы паправіўся. На ім шмат чаго трымаецца. Гэта фігура важная на шахматным полі грамадскага жыцця. Званіў Васілю. Слабы ён

[1] Гл.: Anno Domini (14.10.97, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 75.

здароўем. Толькі крывіцкі дух ягоны сапраўды волатаўскі — ён і трымае яго. Ён галоўны атлант, на кім, на чыіх плячах трымаецца неба Беларушчыны. Памалу перакладаю Ганадавы апавяданні. Гэта цікавы занятак. Шкада, што дужа я стомлены. Проста хранічна стомлены. Як заяц, і ў сне бягу — аж лапы торгаюцца. Ці, можа, лепей было б сказаць — канцы торгаюцца. Пакуль торгаюцца… Заўтра грамадскі прагляд «Шчаслівых жабракоў»[1]. Схаджу, відаць… «Чым далей…»[2]

*17 кастрычніка, пятніца*

У «Мастацкую [літаратуру]». Нешта заплацілі за пераклады ў дзвюх хрэстаматыях. Грамадскі прагляд «Шчаслівых жабракоў» у ТЮГу. Шайко паставіў па законах п’ес Карла Гоццы. Гэта на плошчах ставілася ідовішча. Праўда, не ўлічыў, што тут сцэна. І ў яе свае капрызы. Усё б было добра, калі б у ТЮГу былі нармальныя акторы, здольныя на імправізацыю. А ў большыні сваёй гэта саўкавісты, якім даўно трэба сысці са сцэны Тэатра юнага гледача. Як саўкі яны нават думаць не ўмеюць, пра тое, што думаць на сцэне хоць бы яны мусяць па-беларуску, і размовы няма. Як разявяць рот, дык дземянцее[ўская …] трасянка. Сальнасць, грубасць, педэрастычна-падкрэсленыя рухі й жэсты. Тэкст равуць. Уцэненыя актрысы ўскідваюць мясістыя лыткі. Добра й чыста працавала маладая двойца Наталля Гарбаценка[3] й Андрэй Кізіно[4] (чамусьці ў прозвішчы *о* на канцы) ды Алег Сідорчык[5]. А рэшта — самадзейнасць глухой правінцыі. Бальшавікі знішчылі нацыянальны тэатр і нарабілі шмат уяўных тэатрыкаў. Перакладаць ці рабіць што для такіх так званых саўковых тэатраў — марнаванне часу.

*Сям’я*

Маці — яблынька,
Бацька — вецер,
Дзеткі — яблыкі
Так і жывуць
У зялёнай гасподзе саду,
Пілнуючыся згоды й ладу.
Маці дзетак трымае,
Ад радасці спалоханая,
Аж нямая.

---

[1] Спектакль ТЮГа па п’есе К. Гоццы ў перакладзе Р. Барадуліна.
[2] Гл.: Чым далей… (16.10.97) // Ксты. С. 161.
[3] Гарбаценка Наталля Валер’еўна (н. 1971), беларуска актрыса. З 1997 г. артыстка ТЮГа.
[4] Кізіно Андрэй (1971–2014), беларускі актор. Працаваў у Беларускім хоспісе бальнічным акторам, з 2002 г. у ТЮГу.
[5] Сідорчык Алег Яўгенавіч, беларускі актор. У 1985–1994 гг. акцёр ТЮГа.

Бацька любіць
Парой пад настрой
Пагайдаць галіну,
Каб надаць
Трываласці чэпкай сыну.
А маці папросіць
Раніцу-паненку —
Хай туману на сукенку
Датчэ
Дачцэ…

*18 кастрычніка, субота*

Да Наташы [Давыдзенка] на дзень нараджэння. І добра, і сумна. Кожны дзень нараджэння — рэпетыцыя расстання. Хай не імянінніка, дык госцяў. «Нясканчоны»[1].

У жоўценькіх «Свободных новостях» Дранько заказаў рэкламу са скандалам. Выканаўца зрабіў кепска. Усе шышкі на Сыса. Лёню Сыс замінае, як кепскаму танцору. А ўвесь пафас артыкульчыка супроць беларускасці атрымаўся. Бавяць час маладыя самгеніі. Лепей бы самагонку гналі ці пілі, як Сыс.

*19 кастрычніка, нядзеля*

На стадыён з Дамінічкай. Купілі ёй палітончык і трусячую шапачку. У мяне слабасць да трусіных шапачак. Мне некалі мама шыла маленькаму. І сівенькі памятаю… Званіў Васілю. Лубянкаўцы мясцовыя й тыя ўсёткі знайшлі самы просты метад, як апаганіць БНФ. Ужо ўкінута галавешка згвалтавання жонкі хлопца, які сядзіць. Старыя прыёмчыкі, простыя, як лом. Нават не адмычка. Сустрэў Івана Вашкевіча — кажа, што здымаюць з дырэктара Купалаўскага тэатра за беларускасць. Былога цэкоўца. Проста яму ўжо 60, дый паставіць хочуць маладога, нацыянальна сведамага. А ў недаацэненых героях хочацца хадзіць усім, ад […] Шаранговіча да маіх суседзяў.

*20 кастрычніка, панядзелак*

Штодзень дык горай і горай. Амаль мёртвы павёў сябе на рэпетыцыю аркестра Фінберга. Маладыя салістачкі, маладыя салісты. Проста люба глядзець і слухаць. Гэта пасля дому прыстарэлых — ТЮГа асабліва ў вочы кідаецца. І адпаведна ў душу западае. Армяначка Стэла[2] проста народжана для эстрады. Крыху акцэнту й чыста каўказскіх порухаў прыдаюць ёй непаўторнасць. Фінберг стараецца рабіць усе песні на мове беларускай, а

[1] Гл.: Нескончоны (18.10.97) // Ксты. С. 362.
[2] Стэла, у 1996–2002 гг. спявачка Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі.

розныя […] ханкі ды раінчыкі цвеляцца з яго. Ім хочацца по-рюсски. Хоць да маскоўскіх халяўшчыкаў не дацягнуцца ім ніколі. Туга па імпэрыі, у сэнсе, па доўгім рублі. Час выпаўзання змей. Ад’язджае Шайко. Пазваніў яму, падзякаваў, сказаў пра цудоўную ягоную працу як рэдкага рэжысёра. Хоць ён шыў шыкоўны фрак з пераніцаванай мешкавіты, кідаў пэрлы перад свіннямі. Гэта п’еса не для ТЮГа ў ягоным цяперашнім стане. Ды бадай і ў ранейшым тое ж самае было б.

У Карласа кепска з нагою. Хоць бы ўратаваў нагу. Няма нармальных нават урачоў, пра выдатных ужо й казаць не даводзіцца, — яўрэі з’ехалі.

«Хацця б…»[1], «Напарніца»[2].

*21 кастрычніка, аўторак*

Іду да Фінберга па білеты. Па дарозе Іван Кудраўцаў[3], былы ўлюбёнец Бахуса: «Ты ідзеш на вечар [Чаргінца]?» […]. Ён сумна: «А я павінен ісці…» […]. У «Змене» паказ фільмаў «Край перакуленых нябёс», «Эвангелле ад Мамы», фільм пра Шагала. Мусіла быць шмат настаўніцтва. Было мала. Баяцца. Прыгнечаныя. У дадатак […] радыё наўмысна 17 гадзін — аб’явіла 19. Як камуністы працуюць. […]. Спецыяльна цвяліў вершамі й анекдотамі. Потым на юбілей да Брылішкі [Семашкевіч]. Гаішнік спыняе вучонага й пытаецца: «Ты Чаргінца чытаў?» Адказ: не. Гаішнік: «Дык ты нічога не чытаеш, га?»

*22 кастрычніка, серада*

Дурны характар. Спачатку згаджуся на нейкі ўдзел у нечым, а потым, чым гэты дзень бліжэй, тым мне блажэй. Ужо нікуды не хочацца йсці, тым болей выступаць на публіку. Гэта манаполія маладых нарцысаў і старых пнёў кшталту ніла ды грахоўскага якога. Білетаў мне прадалі мала, а ахвотнікаў трошкі ёсць. Давялося вазіць сябрам білеты. Быў на студыі і ў выдавецтве. […] Чаргінца выпусцілі ў нібыта сэрыі «Белорусский бестселлер». І гэта накладам у паўтары тысячы. А гэтая ж з дазволу сказаць кніжка ляжыць яшчэ ў кнігарнях, толькі без серыі. Хай цешацца […].

*23 кастрычніка, чацвер*

Зайшоўся ў нашу цырульню. Стары яўрэй пачаў працаваць. Узрадаваўся, што хоць майстар. Стрыжэ й кажа: «Зробім так, што тут быццам было шмат валасоў, але мы іх састрыглі».

---

[1] Гл.: Хаця б… (20.10.97) // Босая зорка. С. 54.

[2] Гл.: Напарніца (20.10.97) // Ксты. С. 359.

[3] Кудраўцаў Іван Фёдаравіч (1922–2004), беларускі празаік; літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1954 ). З 1988 г. навук. супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАНБ.

Вечар у філармоніі. Быў здзіўлены, але зала была паўнюткая па самую галёрку, якая таксама запоўнілася. Дзякуй Фінбергу. Добра выступіў Някляеў. Дзякуй яму! Сам чытаў я колькі вершаў і праспяваў маміну «Перапёлку». Прымалі добра. Як бы рэпетыцыя вясёлых хаўтураў. Гэта ўжо апошняя такая людная аўдыторыя мне пры гэтым […] рэжыме.

*24 кастрычніка, пятніца*

Пачалося з белых мух, а скончылася сапраўдным снегам. Ездзілі з Валяй купляць печку італьянскую. На выпадак халадоў. Баліць галава. Развальваецца. Такое адчуванне, што ўсё зробленае Мірону пад хвост. На кожным кроку толькі й чуваць дзямянцееўка. Вуха не чуе роднай мовы, душа не чуе беларускае душы. Чужы сярод чужых ці сярод ачужэлых. Учора каля дванаццаці начы ў хату ўваліўся Сыс. Не п'яны, але з нейкім настырным бліскам у вачах. Захацеў папіць са мной гарбаты. Ледзь угаварыў пайсці. І шкада яго, і не магу сядзець. «Назад да фараонаў!» [У дзённіку.]

*25 кастрычніка, субота*

Вяршыня галаўнога болю. Колькі разоў амаль развітваўся з жыццём. Сёння дзень нараджэння Карласа. Званіў. Яму лепей. Процьку былі арыштавалі й адпусцілі пад падпіску аб нявыездзе. Ці няўклюдна працуюць […], ці лепяць пакутніцу, каб болей даверу было. Сёння пад вечар гэткі снег, які рэдка й зімой бывае. Незвычайна, таму й уражліва. За хвіліну робішся бялюткім. Перачытваю «Спеў пра Гаявату». Колькі тут першароднай, першаўспрынятай чысціні. А дэталі кранаюць сваім падабенствам. Ну хоць бы:

І Бімагут, вінаграднік,
Што зялёнаю гірляндай,
Водар ліючы салодкі,
Уецца па суках альховых.

А мне адразу ўспамінаецца Ваўчэнскае возера, высокая сцяжына й абапал маліннік, крапіва й зялёныя кутасы хмелю. Кранае тое, што ўздымае са дна памяці знаёмае.

*26 кастрычніка, нядзеля*

Працадзіў увесь «Спеў пра Гаявату». Што тычыцца дэталяў, побыту, вобразаў — усё па-ранішняму свежа. Асабліва ўражвае бой Гаяваты з Маісам. А вось канец савецкі, толькі наадварот. Белыя прынеслі шчасце. Не варта было у такой рэчы палітыку прывязваць. Цікава, ці так гэта ў арыгінале. Пра Хрыста:

Рассказал, как в дни былые
Он сошёл на землю к людям,
Как он жил в посте, в молитве,
Как учил он, как евреи,
Богом проклятое племя,
На кресте его распяли.

І гэта ў «Спеве…», які за дружбу й павагу ўсіх плямёнаў. Аддалена перагук ёсць са «Словам пра паход Ігаравы»[1].

*27 кастрычніка, панядзелак*

Адрэзак ці адмерак часу. Самсон мяне чакае на Камароўцы. Пытаюся, ці даўно чакае. Адказвае: «Паўцыгарэты сасмаліў…» Учора ў […] Доме ахвіцэраў была вечарына […] Лук’янава[2], ён жа як паэт Осенеў. Амаль Ясенін[3]. […]. Пачалі глушыць «Свабоду». Усё, як раней.

*28 кастрычніка, аўторак*

Наведаўся Іван [Бурсаў] з Рытай. Жывецца яму цяжка. […]. Лукша, якога Іван напісаў па-расійску, вітаецца здалёк. Цяпер яму Іван не трэба. У снежні Івану 70. Гады ўцякаюць ад нас неўзнаку. Падарыў яму цёплыя фінскія боты (сам цяпер ён ужо не купіць добрае што), дык жартуе: «Ну, у іх і за гарызонт можна». Кажу: «На гэтую мэту дам тапачкі». Потым з сынняга дома званіў: «Мае ногі смяяліся ў трамваі». Дамінічка намалявала Івану нешта й падпісала па-беларуску. Сама. Тонкая душа ў яе. Барані яе, Божа!

*29 кастрычніка, серада*

Дамінічка: «Вецер нёс мяне на далані». Падпісвае малюнак і піша *ліноўка,* а не *лінейка.* Па-беларуску якраз і трэба ліноўка, бо лінаваць, разліноўваць. Пракрывіцкія карані ў маёй зорачкі ясненькай варушацца. Туга йдзе праца. Баліць галава. А здавацца не трэба. Дамінічка маленькая.

*30 кастрычніка, чацвер*

У ПЭН-цэнтры балгары. Паптонеў[4] і паэтка з ім. Суправаджаў Анатоль Ільіч [Вярцінскі. …]. Потым сядзелі доўга ўтрох — Васіль, Карлас і я. Карлас прыйшоў да высновы, калі пра хваробы гутарка зайшла, што хваро-

---

[1] «Слова пра паход Ігаравы» — помнік старажытнарускай культуры XII ст.

[2] Лук’янаў Анатолій Іванавіч (1930–2019), расійскі палітычны і грамадскі дзеяч. Доктар юрыдычных навук (1979). Прафесар МДУ (2004). Заслужаны юрыст РФ (2012). Паэтычны псеўданім А. Осенеў.

[3] Ясенін Сяргей Аляксандравіч (1895–1925), рускі паэт.

[4] Паптонеў Стэфан Дзімаў (1928–2004), балгарскі пісьменнік, перакладчык.

ба — боская кара й яе не пазбавішся. Васіль: «Да свайго здароўя трэба ставіцца, як злы прэзідэнт. Баліць зуб — ну й балі, баліць нага — ну й балі!» Некалі пад час службы на Далёкім Усходзе Васілю ўпершыню за 30 год забалеў зуб на палявых вучэннях. Няма як рады даць — баліць. Тады папрасіў у вадзіцеля абцугі — і сам выдраў зуб. А потым і пайшло.

Васіль: «Генерал Сульянаў[1] часта бываў у мяне, бо сам пісаў». Неяк Алесь Адамовіч кажа: «І ў мяне ёсць свой генерал». Аднойчы, калі Васіль наведаў Алеся, зайшоў генерал, таксама лётчык. Потым, калі наладзілася так званая перабудова, Алесеў генерал прыйшоў раіцца да Васіля, у якую партыю яму ўступаць. Васіль сказаў, што хай сам выбірае. І неўзабаве аб'яўлена, што Баранкевіч[2] стварыў сваю партыю. Самую ашалелую. Васіль: «Гэта пісьменнікі бываюць розныя, а генералы ўсе аднолькавыя». Балгарам Васіль распавёў, як яны з Вылчэвым не маглі трапіць у фірмавы рэстаран «Пліска» і пасмакаваць гэтага напою, а ў той час у беларускіх сельпоўскіх скляпах штабялямі ляжала «Пліска», а пра сухія балгарскія віны й казаць не даводзілася, бо ўсе лічылі, што гэта проста кісляціна.

Заўтра да Роўбы.

*31 кастрычніка, пятніца*

*Вушача!* Роўбаў зяць на іншамарцы завёз нас у сталіцу майго першага плачу — у Вушачу. Пятро ў бальніцы. Хата замкнёна. Увесь сад у жоўтых лістах. На яблынях яшчэ яблыкі. У гародзе чужыя куры. Зіна прынесла ключ. І на раённы банкет. Роўбу — 60. Уся [...] партсавецкая знаць і шматок нармальных людзей. Тосты, песні, усё, як недзе ў 56-м годзе. Савецкая ўлада на мейсцы. Нікуды й намэру не мела сыходзіць. Каларытныя лычы, якія прапілі не адзін раён. Вертыкальшчык, былы дырэктар саўгаса, на перапынках колькі разоў пытаўся, як здароўе Васіля Уладзімеравіча, перадаваў яму прывітанне. А калі мне далі слова й я спярша перадаў прывітанне й пажаданне здароўя й плёну Роўбу ад Васіля, наўмысна падкрэсліўшы, што ад апостала нашае нацыі, застольнікі, як казалі ў Вушачы, прышчамілі блохі свае, апусціўшы вочы й вушы. На ўсялякі выпадак.

У перапынку ў калідоры да мяне падышоў спадар Кляшторны[3]. Гэта ў другой банкетнае залі адзначала 30-годдзе вушацкая тэлевышка. Трэцяя ў Эўропе, як любілі хваліцца камуністы. Гэта для наводкі савецкіх ракет на Эўропу. У гэтае ж сыстэме й Віленская тэлевышка, якую штурмавалі камуна[...] разам з пятай калонаю. Памятаю, калі яе ўзвялі ў ба-

---

[1] Сульянаў Анатоль Канстанцінавіч (н. 1927), рускі пісьменнік. Генерал-маёр авіяцыі, ваенны лётчык 1 класа. Заслужаны работнік культуры БССР (1985).

[2] Баранкевіч Антон Ігнатавіч (1932–2000), савецкі военачальнік і беларускі грамадскі дзеяч. Генерал-маёр (1978). Заслужаны ваенны лётчык (1977).

[3] Кляшторны Міхаіл Ягоравіч, супрацоўнік Ушацкага абласнога вузла радыёвяшчання і тэлебачання; самадзейны мастак, разьбяр па дрэве.

лоце каля Глыбачкі, тэлевізары ў Вушачы йшлі горай, чым дзе. А казалі, што для тэлеперадач. Гэтая вышка мне запомнілася, калі ў свой час на сустрэчы ў школе мне прачыталі:

Ой, Рыгор ты, наш Рыгор,
Ты узняўся вышэй гор.
І з ушацкай тэлевышкі
Нам твае чытаюць кніжкі.

Запомнілася лепей з ўсе хвацкія панігірыкі ды эпіграмы. Дык вось спадар Кляшторны сказаў, што ён на ветравым шкле матацыкла фарбай напісаў: «Васіль Быкаў». І гэта цвеліць вушацкіх паліцыянтаў. А ён яшчэ лепей зрабіў — з алюмінію выклаў літары на шкле. Чытаў апошнюю Васілёвую «Сцюжу», выразаў з «Народнае волі» «Сцяну» з партрэтам Васіля. Шкадаваў, што мала выдаюць Васіля.

Лёг я позна, а трэцяй гадзіне начы, пакуль паліў камін, каб хоць крыху злечіць хату. Раненька пад вакном затрашчэў матацыкл. Выйшла Валя, і гэты Кляшторны перадаў мне дзве пляшкі полацкага «Барскага» піва, каб я галаву папpавіў. Калі я званіў потым Васілю й казаў пра гэта, Васіль сказаў: «Сапраўдная вушацкая душа».

На перапынках паміж застоллем, багатым на закусь, гутарку са мной хацеў завязаць адказны за сельскую гаспадарку малады яшчэ чалавек родам з Глыбоччыны. Пачаў з таго, што перашкаджаюць жыць капіталісты. І гэта Маркс ашукаў і спакусіў Вову Ульянава. Вядома ж, бо яўрэй. Калі завёў гавэнду пра [Лукашэнку], яму адрэзаў: «Пра [Лукашэнку] чуць не хачу, бо яшчэ можа прысніцца». Адразу мову ў яго адняло. Нават савецкую рюсскую трасянку. Былы начальнік міліцыі Іваноў, […], пачаў мне нешта вязгаць пра бел-чырвона-белы, пабачыўшы ў мяне значок. Пра паліцаяў, пра бацьку. Сказаў яму, што мысліць […] мазгамі, а яны ў яго кволенькія. Гэта запаведнік, ці заказнік чырвона-[…] чумы — так званыя райцэнтры. Уся муць бальшавіцкай прапаганды тут на дно асела. Адна маладзенькая дзяўчынка з вышкі запрасіла мяне патанчыць на памяць, як яна сказала. Потым я запрасіў яе на вальс, адпіралася, што не ўмее, бо маладыя такія скокі не танчаць. Але так-гэтак паскакала. Гэта як мадэрністы, якія не ўмеюць дакладна маляваць натуру, а адразу ламаюць усё. Так некалі Тармола[1], не могучы два радкі напісаць дакладным памерам, пачаў ламаць радок, і кульганне выглядала маяковіста.

*1 лістапада, субота*

Па гаспадарцы. Па крамах. Нешта трэба купіць, наведаць Пятра. На дошцы аб'яваў ля крамы: «Прадаецца каза двухгадовая пагуляная. Гута»,

---

[1] Тармола Раман Якаўлевіч (1936–2011), беларускі паэт, кінасцэнарыст.

«Прадаю маладога каня», «Прадаецца каза дойная, козачкі пакрытыя», «Прадаецца падцёлак пакрыты 28 мая», «У магазіне «Ветэран» прадаецца камбікорм». Люблю гэтыя аб'явы. І жарт, і сум, і жыццё. Наведалі Пятра. Каля трох тыдняў ляжыць. Не п'е, дык стаў свежы і прыгожы. Шкада яго. Адзін як пень. Ні ён каму трэба, ні яму хто. Хай бы патрымаўся трошкі. Без яго ўжо зусім апусцее й ахаладзее Вушача. Апошняя радня мая па бацькавай лініі. Па мамінай таксама. Ілона трэці месяц як у Пецярбургу. Што робіць? Як жыве?

*2 лістапада, нядзеля*

Дзяды. Схадзіў да мамы. Пагаварыў з ёй. Павініўся, падзякаваў за ўсё. А ўсё гэта тады, калі яна не чуе, калі няма яе. А мне здаецца, чуе. Ёсць яна са мной кожнае імгненне. Пакуль ёсць я тут. А там сустрэнемся.

Абіраў яблыкі. Яшчэ шмат на яблынях. Толькі на першых гадзінах усё чужаватае. А потым як быццам і не адлучаўся. Бо гэта ўсё маё, прыроднае. Тут душа мая й думкі мае тут пасуцца.

«Высока…»[1].

*3 лістапада, панядзелак*

Розны клопат. Беганіна. Хочацца цішыні. А ў цішыні, відаць, засумаваў бы па беганіне ці мітусні. З гэтага ўсяго й складаецца жыццё. У свеце няма большае загадкі, чымся жыццё. Кожны ўсё збіраецца жыць, а гэтыя зборы жыць і ёсць жыццё. За збіраннем гэтым і жыць няма калі. «Элегія»[2].

*4 лістапада, аўторак*

У ПЭН-цэнтр. Да Карласа па параду. Быў Васіль. У яго з гэтым ордэнам Дружбы народаў суцэльны галаўны боль. Вырашылі, каб яму ўручалі ў ПЭН-цэнтры. І адмовіцца нельга, і прымаць ад Расіі не зусім ёмка. […]. Выклікаў Марчук. Прапанаваў пяцітомнік замяніць на чатырох. Хай на любым азадку скулка сядзе. Абяцаў запусціць у друк другі том. Перада мной быў лагойскі […]. Прасіў, каб яму пяць тамоў пакінулі, бо, маўляў, у мяне першы том таўсцейшы. […]. Марчук казаў, калі Слюнькоў[3] стаў гаспадаром у ЦК, на стале ў прыёмнай ляжаў вялікі стос кніг лагойшчыка, перавязаны вяроўкай і падпісаны Слюнькову. […].

---

[1] Гл.: Высока… (2.11.07, Ушачы) // Ксты. С. 242.

[2] Гл.: Элегія (3.11.97) // Ксты. С. 292.

[3] Слюнькоў Мікалай Мікітавіч (н. 1929), беларускі партыйны дзеяч. У 1987–1990 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1971).

Самсон казаў, калі толькі [Лукашэнка] стаў […] прэзідэнтам, кіношнік Пташук[1] і […] Дудараў панеслі яму сцэнар пра князя Вітаўта. [Лукашэнка] адбіўся, маўляў, не хоча сваркі з літоўцамі. Тады драматург зрабіў з сцэнара п'есу для ТЮГа й купалаўцаў. З каго шкуру лупіць, ці з асла, ці з казла, абы лупіць. Галодны актор у драматургі вылузаўся. Пташук перад прыходам на студыю [Лукашэнкі] крычаў, што гэтак жыць нельга. А калі [Лукашэнка] прыйшоў, пачаў: «Да нас раней наведваўся Машэраў. Добра было б, каб Вы, А. Г., ([Лукашэнка] г. зн.) праглядалі яшчэ не завершаныя стужкі й давалі парады. Нам іх дужа не хапае». […].

*5 лістапада, серада*

На выставу Юрася Кур'яновіча[2]. У Музеі Максіма Багдановіча. Сем працаў. У іх нешта сваё. У кнізе наведнікаў напісаў экспромт:

Мастак — разумнае дзіця,
Ён ходзіць і на галаве.
Сусвет жыцця і пачуцця
У творах Юрася жыве.

Калі вяртаўся з выставы, сустрэў Уладзіміра Стальмашонка. Ён мне паказаў дом, дзе нарадзіўся вялікі Максім. Першы паверх не згарэў, бо каменны. Бальшавікі толькі дзіка атынкавалі й зрабілі пункт прыёму шклатары. Ужо […], вядома ж, прарасійскія бізнэсмэны хацелі знесці. У Стальмашонка цікавы праект аднаўлення святой беларускай душы хаты. А ні музей, ні той жа Бяляцкі нідзе ні слова пра тое, што хата фактычна амаль жывая. Дзіўныя нашыя патрыёты. Стальмашонак узначальваў Цэнтр эстэтычнага выхавання. Двухпавярховік каля цырка ачысцілі […] ад гэтага цэнтра, загнаўшы яго некуды на Трактарны. […]. Падвалы гэтакія, што можна гарматы закочваць. У нас ўмацоўваецца беларуская Румынія. […]. «Быў яблык…»[3]

*6 лістапада, чацвер*

У сядзібе БНФ вечарына на 60 гадоў Яўгену Куліку. Людзей было. І цыбаты лагойшчык прыцёгся. Хоць ён жа з Краўчанкам быў і рукамі, і рагамі супроць БНФ, пісаў даносы ў ЦК на Адамовіча. Яўгену дарылі нешта такое й духоўнае, і матэрыяльнае. Васіль рэдкія гравюры старое Вільні (сказаў, што Яўген са свайго 10-га паверха ўсю Беларусь бачыць, а

[1] Пташук Міхаіл Мікалаевіч (1943–2002), беларускі кінарэжысёр. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1982). Народны артыст БССР (1980). З 1974 г. на кінастудыі «Беларусьфільм». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

[2] Кур'яновіч Юрый Уладзіміравіч (н. 1968), беларускі пісьменнік, гісторык, мастак. У 1995–1999 гг. пазаштатны карэспандэнт газ. «Чырвоная змена».

[3] Гл.: Быў яблык… (5.11.97) // Босая зорка. С. 90.

вось Вільню цяжэй) і паклаў у альбом пакецік, ці, дакладней, канвэрцік з грашыма. Я Яўгену чаравікі падарыў (загарнуў у торбачку). Лагойшчык сваю кніжку[…] выдавецтва «Навука й тэхніка». Ды яшчэ прагугнявіў нешта.

*Просяцца ў чаляднікі…*

*Яўгену Куліку*

Мастак,
Ён мусіць зразумець сябе,
І сам сябе абраць шляхі пакуты.
Ён да Радзімы любасцю прыкуты
І лютасцю,
Святы ў сваёй журбе.

Мастак,
Ён мусіць суцішаць віры
І суцяшаць глухія навальніцы,
Напіцца з неразбуджанай крыніцы
І з капытка ласінага ў бары.

Мастак,
Ён мусіць жыць ахвярна так,
Каб неба прыняло яго ахвяру,
Ён мусіць
Змусіць быць цярплівай кару
І гаркаце вярнуць забыты смак.

Да мастака хінуцца дзівакі
І шэршань зайздрасці
Зацята джаліць.
І просяцца ў чаляднікі вякі.
P. S.
Не сам Кулік
Свае палотны хваліць…

*5 лістапада*

*7 лістапада, пятніца*

Прыехалі Мікола з Верай[4] і сынам Алесем з Дуброўна. Прывезлі бульбы й капусты. Дзякуй ім. Я тое-сёе з вопраткі падарыў у адказ. Сустракаўся з журналісткай Вольгай Улевіч[5]. Інтэрв'ю для «Комсомолки». Пытанні

[4] Смолікава Вера Фёдараўна, дваюрадная сястра В. Барадулінай.
[5] Улевіч Вольга (н. 1978), беларуская журналістка.

наіўныя да глупства. У прыватнасці, ці адчуваю я сябе беларусам. Я адразу зразумеў, адкуль вецер. Некалі [...] сачанка й [...] вялюгін разнеслі па імпэрыі, што мяне як яўрэйскае дзіця мама знайшла ў лесе пад час блакады. Яўрэяў пабілі ў 42-м, а блакада ў 1944-м. [...] галоўнае пусціць чутку. Хацелася хоць як прынізіць мяне ў іх разуменні. [...].

*8 лістапада, субота*

Васіль чытае й захапляецца Ластоўскім. Кажа: «Па-беларуску, хараша, аж занадта. Праблемы нацыянальныя як сёння напісаны, пастаўлены задачы. Нічога не зрушылася з мейсца. З той розніцай, што беларускі народ знік. Раней былі вялікія сем'і, беларускія традыцыі, жывая мова ў вёсках, у мястэчках. Цяпер трошкі інтэлігенцыі нарасло. Але замала». Васіль кажа праўду. Ды што з тае інтэлігенцыі, якая прадаецца за нейкую імгненную, лятучую тэлеславу. Распранаюцца з жонкамі да сподняга на тэлеэкранах, як Севяранін[1] які з Давыдгарадка.

З Самсонам хадзілі на базарчык каля нас. Раптоўная адлега. Як новая вясна ў перадзім'е. Перакладаю Ганада.

*9 лістапада, надзеля*

Галава баліць да вар'яцтва. Хаджу на Камароўку. Ледзь не купіў выдатную цяслярскую сякеру. Не да кампутараў цягне, а да прыроднага. Мама некалі казала, што любіў украсці ў бацькі сякеру, калі быў яшчэ зусім маленькі, і радасна крычаць: «Тапаёчак, тапаёчак!» Не атрымалася з мяне цеслі. Прыходзяць на памяць Бурсавы радкі: «А у меня светлая голова, но вот беда — отяжелели руки». Дый галава цяжкая. Ніяк не святлее ў ёй. [...]. ... тры месяцы, як ад Ілоны ні слова, ні паўслова. Адзін як пень.

*10 лістапада, панядзелак*

Хаджу у «Мастацкую». Але на перадрук Ганадава апавяданне. Званіла Аліна Астравух. Зацьвердзілі яе кандыдацкую. Выганяюць яе бедную з інтэрната. Пазваніў Гніламёдаву, каб дапамог. Напомніў Гніламёдаву сваю даўнюю эпіграму: «Навошта дэбаты, Навошта падлікі. Гілевіч цыбаты, А Быкаў — вялікі!» Аж самому спадабалася.

*11 лістапада, аўторак*

Зноў у «Мастацкую». Забраў перадрук. Занёс апавяданні Ганадавы ў «Полымя». Сяргей [Законнікаў] абяцаў даць. Вечарам званілі з рускай «Свабоды». У прамы эфір колькі хвілінаў камэнтару да Хартыі-97. На стале разлёгся Мірон. Такія пацягушачкі на парастушачкі робіць, так яму цё-

[1] Севяранін Ігар (сапр. Лотараў Ігар Васільевіч; 1887–1941), рускі паэт.

пла пад лямпаю. І ад яе патыхае спакоем, хатняй утульнасцю, домам, маленствам. І маркаціннем. І мне дужа прыемна. Такая родная душа. Адно што не гаворыць.

*12 лістапада, серада*

У ПЭН-цэнтры для нашага тэле пра Латвію. Ёсць яшчэ моладзь нацыянальна свядомая. Лубянка трошкі празявала. Званіў Васілю. Ён прачытаў у «Нёмане» пераклад «На таку майго веку». Раіў працягнуць. Пра тых, хто адышоў, хто выйшаў з літаратуры яшчэ пры сваім жыцці. «Калі будзеш пісаць, — казаў, — напішы, што Быкаў, калі жыў у Гародні, пасылаў у «Полымя» «Адну ноч». Ніякага выніку. Тады напісаў Танку. Ад таго адказ, што друкаваць нельга, заганны твор у ідэйных адносінах. Прытуплена класавая пільнасць, пацыфізм і да т. п. Наогул, у «Полымі», дзе прозу душыў […] Пташнікаў, Васіля не маглі прыняць.

*13 лістапада, чацвер*

Сучасная журналістыка ці жоўтая, ці жоўта-чырвоная. Нармальнай, беларускай амаль няма. «Комсомолка» дала інтэрв’ю са мной пад загалоўкам: «Наш президент Лука Мудищев садится в чёрный членовоз». Напачатку вялікі ўрывак з гэтай шумнай паэмы па-расійску. Пад фота подпіс: «Паэт, якому прыпісваюць скандальную паэму». Замест майго — фота Быкава. Як бы палітычны данос. На воўка мне такая паслуга? Журналістка шматзначна напісала, што на пытанне пра аўтарства я глыбакадумна маўчаў. Гэткая, бачце, перастарэлая какетка. Я казаў, што паэмы не пісаў. Слаба, прымітыўна. Я, калі б пісаў, пісаў не так. Дый [Лукашэнка] тая асоба, пра якую я не пішу. […]. У Расійскім пасольстве Васілю ўручылі ордэн Расіі «Дружбы народаў». Не быў. Добра, што прыехаў Карлас.

*14 лістапада, пятніца*

Занёс ў «Звязду» маленькую рэпліку наконт інтэрв’ю. Чужыя лаўры ніколі мяне не прынаджвалі. «Свободные новости» далі інфармацыю наконт уручэння прэміі Васілю, дакладней, ордэна. Сказалі, што й я там быў. Меўся. Васілёва фота дужа сумнае. Гэта знайшлі кадр, калі Васіль стаяў у галавах труны Міхала Дубянецкага. Нейкая сымболіка ў гэтым ёсць. Гаварылі з Васілём наконт знікання й дэвальвацыі слова. Васіль: «Пісьмы не пішуць цяпер, даносы згубілі сваю актуальнасць». Вечарам прынёс свае вершы Янка Лайкоў. Цікавы, тонкі, хваравіты. З ім сястра й ейны кавалер рускі […]. Вось так і расцягваюць, разводняюць наш генафонд. Кот Мірон ва ўсіх сядзеў на шыі. Папрасілі паказаць Дамінічку. Пайшоў па яе. А яна: «Мне трэба надзець туфлі, не пайду ж я ў тапачках». Паненка расце.

Сусед Грышка[1] казаў, што [...] Лукша насіўся з інтэрв'ю ў «Комсомолке», пацягнуў, відаць, як сабака костку, у прэзідэнцкую [...]. Хай нясе. І самога некалі панясуць.

* Дамініка: «Мірон, ён як і мы, людзі, толькі на чатырох лапах...»

*15 лістапада, субота*

Дамінічка: «Дайце мне тонкія пальчаткі, буду рабіць аперацыю жывёлам». Пытаем: каму? Яна: блысе.

Званіў Васілю. Адпачывае ад шуму. Па тэле [...] казалі пра ўручэнне ордэна. Васіль: «Усё прыдумаў Антановіч. Тэле не было. Бо цікава б глядзелася, як пасол прышпільвае ордэн пад бэнээфаўскім значком».

Валя дазванілася да дзяўчыны ў Пецярбурзе, якая ведае Ілону. [Косця] быццам уладкаваўся на працу. Ілона збіралася пазваніць. Бедная прапашчая душа. Заміталася, заблыталася. Бо ад прыроды тонкая й чулая. [...].

*Пачынае часцей...*

Думацца пачынае часцей
Пра той,
У якім мушу атайбавацца, свет,
Дзе спачне ўжо зямная праца.
Вярнуся я з гэтага, як з гасцей.

Ці там чакаюць мяне свае,
Якіх застаць мне не давялося,
Ці там наліваецца жалем калоссе
І птушка памяці гнёзды ўе?

Ці там гэты кут,
Дзе няма пакут,
Дзе не прыручана воля цярпеннем?

Да зоркі лёсу пазычаным ценем
Прывязаны,
Я пасуся тут...

Пачытаў Самсону, а ён: «У вершах памірай, а так жыві, дурны».

[1] Згурскі Рыгор Антонавіч, супрацоўнік выд-ва «Юнацтва».

Уначы пазваніла глыбачанка[1]. Праз колькі гадоў голас паглушэў, і тым самым яшчэ болей паінтымнеў. Быццам хто крануў заснулы звон… «Калышы…»[2]

*16 лістапада, нядзеля*

Званіў Васілю. Казаў, што чытае «Аратая…» майго… «Твая проза танчыць і спявае. Хоць я люблю тваю паэзію, але проза мне твая падабаецца бадай што болей…» Званілі Васілю й віншавалі з ордэнам Шарэцкі, Багданкевіч, Карпенка. Айзенштадціха званіла: у жоўценькіх «Свободных новостях» цікавяцца некаторыя, чаму й за што. А ордэну тры гады. Васіль: «Тэлебачанне стала, як гільяціна. Каді даюць крымінальнікаў, дык ці са спіны, ці мікшыруюць, у прэсе й тэле замяняюць прозвішча, даюць толькі ініцыялы, а калі палітычных, дык да суда, да следства паказваюць, як уздзяюць наручнікі. Каб іншым быў напамінак». Я сказаў Васілю, што камуністы любілі прыручаных інтэлігентаў, як крымінальнікі, дзе ў зонах яны любілі слухаць роʹманы, мёдавусныя рамансы. Дарэчы, усе званні артыстам, да прыкладу, з оперы, давалі, калі спявак ці спявачка спадабаліся на святочным канцэрце ў Дзень міліцыі. Васіль напомніў раманы кшталту «Сэрца на далоні» [Шамякіна]. А Макаёнак ўсё жыццё пражыў як бы лагерным блазнам.

*Ягамосць*

Як і злосць,
Загарыцца мілосць
І пачне ахінацца гадамі.
Злосць — пляткарка,
Мілосць — ягамосць
Не сама пра сябе нагадае.

Возьме ў лёкаі смутак такі,
Ад якога не знойдзеш ратунку.
Сум напросіцца ў парабкі,
Каб давесці адчай да гатунку.

Падахвоціцца дапамагчы ягамосці
Пляткарка старая —
Лёгка ў вогнішча кіне карчы.
Хто ў ім,
Ты ці мілосць дагарае?..

---

[1] Бабіцкая Рынальда Пятроўна, настаўніца беларускай мовы, якой прысвечаны вершы 70-х гг.
[2] Гл.: Калышы… (15.11.97) // Босая зорка. С. 92.

*17 лістапада, панядзелак*

Званіла з газэты «Свабода» наконт ордэна Васілю. Сказаў, што міліцыянцскім чынам у нацыянальным тэатры юбілеі, а генію нацыі 70-годдзе БНФ ладзіла ў скверыку Янкі Купалы пад дажджом. Гэты ордэн быў да 70-годдзя прыпададзены. А тут яшчэ Васіля абвінавачваюць у антырасійскасці. Ордэн, дарэчы, у піку нашым [...].

Хадзіў у «Бярозку». Ягоўдзік робіць вялікую справу. Прыгожа глядзець, як рухаюць справу беларускасці маладыя, шчырыя, таленавітыя беларусы. Занёс падборку ў «ЛіМ». Застаў Някляева. Добра й элегантна глядзіцца на рэдактарскім двухкрэсле. Званіў Васілю. Ён дачытаў «Аратая...». Асабліва падабалася пра Караткевіча: «Лепш і шчырэй пра Валодзю ніхто не напісаў». Мне прыемна было пачуць такую высокую ўхвалу ад Васіля. Казаў, што прачытаў пачатак «На таку майго веку». Успомніў свой Віцебск. Асабліва не спадабаўся трамвай — нешта дрыгкае, што гатова разваліцца. Народу шмат. Васіль паклаў некуды локаць і пачуў: «Уберите руки!» Праз паўстагоддзе помніцца ўсё першае, асабліва крыўднае.

Званіла Вольга Улевіч. Гэта рэдакцыя так пагуляла. Быццам бы ў пятніцу у «Комсомолке» будзе поўнае інтэрв'ю без самаправак-паправак. Пабачым. Гэта ўжо й не сумна, і не вясёла. У Латвіі адбіраюць будынак Саюза пісьменнікаў. Знайшоўся гаспадар. Васіль: «Яшчэ па сацыялізму плакаць давядзецца. Раней сакратар даваў любы будынак, любую харміну навечна. Некалі латышы любілі распавядаць, як з аднае азіяцкае рэспублікі прыйшоў ліст у Саюз пісьменнікаў Латвіі, а на канверце: вуліца «Красного барана». Гэта замест Крыш'яна Ба'рана[1]. У Савецкім Саюзе й баран мусіў быць чырвоным. Перад самым сном дапісаў верш[2]. Гэта Сяргею Навумчыку.

*18 лістапада, аўторак*

Выйшла «Свабода». На першай паласе: «Крэмль шануе Васіля Быкава». Гэта пра ўручэнне ордэна Дружбы. Дужа добрае фота. Васіль нейкі цёпла-восеньскі, задуменны, самапаглыблены. Званю, віншую, што ўвесь клопат з рук. Васілю яўна ўсё гэта надакучыла. Віншую з першым сняжком. У адказ і ён віншуе мяне. Прыгадваю «Новую зямлю». Васіль: «Некалі классе ў шостым, калі закончылася школа, з хрестаматыі выразаў «Новую зямлю», абклаў і чытаў ды перачытваў. Бо ў астатнім у хрэстаматыі былі пісьмы вялікаму Сталіну ды іншая савецкая паэзія. Колас пасля, відаць, лічыў, што лепшыя ягоныя оды Сталіну, а «Новая зямля»

[1] Баран Крыш'ян (Баранс Крыш'яніс; 1835–1923), латышскі фальклaрыст, пісьменнік, грамадскі дзеяч.

[2] Гл. запіс ад 7 снежня 1996 г.

для нацыі засталася надзённым хлебам. Пакуль яшчэ была нацыя, быў народ. «Яўгеній Анегін» [Пушкіна] — рэч элітарная, для вузкага кола, а «Новая зямля» для ўсяго народа, пакуль ён быў…» Васіль зноў казаў добрыя словы пра «Аратая…»: «Тут уся беларуская літаратура, без палітыкі, з чалавечых пазіцый». Хадзіў у «Звязду» да Карлюкевіча. Аднёс фота Наташы. Абяцаюць даць ейнае інтэрв'ю[1]. Руская пацярпела за беларускі нацыяналізм.

Вечарам званіў Васілю. Казаў, што па [тэле]бачанні выступаў Генадзь. Гадзіну тоўк мак пра ідэал. Ні слова пра нацыянальную ідэю. Ніхто з моладзі, перад якой распінаўся, ні слова па-беларуску. І вядучы таксама. Усё по-рюсски альбо на дземянцееўцы. Камсамольска-партыйныя штампы па-расійску адшліфаваны лепей дый думаць не трэба, толькі папугайнічай. Генадзь як функцыянер думае гэтымі ж штампамі, вядома ж, па-расійску. А пакуль перакладае, выглядае няўклюдна. З раніцы прыйшоў ў галаву верш:

*Падалося…*

Бацька — ў сцяне небасхілу цвік,
На які можна вешаць
Думак аблокі.
Маці — раніца,
Дзе радасны крык
Даганяе свой плач далёкі…

Чытаў Самсону. Яму не падабаўся цвік, перарабіў: «Бацька — вечар…»[2] Усё-такі пакіну першы варыянт. Хоць цвік, але адразу так напісалася. Само як бы… Родная мова, яна павінна гучаць і жыць на вуснах чыстых і шчырых. Гэта ж трэба, што мяне аж у дрыжыкі кідае, калі чую […] тэлерадыё. Ад кожнага слова дыхае гнілой хлуснёй, брыдотай. Аж узгадваецца ўсходні верш:

Я не вашай веры чалавек,
Мову вашую забудуся навек,
Нават калі лебедзем зраблюся,
Піць ваду не буду з вашых рук.

Да чаго можа дайсці, што не хочацца чуць мову маці, мову, за якую змагаюся ўсё жыццё… Не чуць з калгаснага беларускага радыё, з прадаж-

---

[1] Давыдзенка Н. «Часам не стае позірку птаха з-за аблачын» // Чырвоная змена. 13.01.1998. Пад назвай «Нацыянальнае для мяне — душа чалавека…» // Карлюкевіч А. І векавечны толькі край… Мінск: «Полымя», 2000. С. 300.
[2] Гл.: Бацькі й дзеці (18.11.97) // Ксты. С. 311. Надрукаваны 2-гі варыянт.

нага тэле, дзе на экране то белы пацук Зімоўскі[1], то партай[...] Хрушчова. Лычы й морды, капыты й кіпцюры.

*19 лістпада, серада*

У Венгрыі купіў аўчынкавую шапку. На вуліцы, дакладней, пад мастом у Будапешце. Уся амаль па швах паляцела. Панёс у майстэрню «Футра». Ніхто не бярэ з дзяўчат. Кіруюць да дзеда. Дзед маіх гадоў, можа, нават маладзейшы. І ён не бярэцца, кіруе ў прыймовую, дзе заказы прымаюць. Туды-сюды ходзячы, пачаў лаяць Савецкі Саюз, які ўсё працягваецца. Тады гэты дзядзька кажа: «Нясі сваю шапку. Дзе сацыялізм, там голад. Гэны [Лукашэнка] аднавіў Савецкі Саюз. А Малафееў паехаў на Кубу дыктатуры вучыцца. Дый святары праваслаўныя прадаліся, падтрымліваюць [Лукашэнку]. А ведаеце, чаму ў пісьменнікаў дом адабралі? Яны размаўлялі, а трэба было гаварыць, *разгавараваць* (падкрэслена груба вымаўляе)». Кажу: «Вы мне спадабаліся». Ён: «І Вы, бо думаеце, як я». Кажу: «Бо Вы — беларус». Ён: «Не, паляк». Я: «Касцельны». Смяецца. Просты кушнер мысліць шырэй, чым [...] Зуёнак, які бегае віншаваць [...] Лукшу.

*20 лістапада, чацвер*

Пайшоў па шапку. Кажуць, няма нікога з майстроў. Страйк. Потым некаму з сяброў званю, ён раіць: «Можа б, ты на Трактарны завод схадзіў». Я зайшоў у тупік. Мне не хочацца ісці дамоў, не хочацца прачынацца дома. [...]. З'ехаць у Вушачу не магу — няма за што жыць там. Трэба круціцца тут [...]. А дачка колькі месяцаў у Пецярбургу багемнічае пажабрацку [...].

*21 лістапада, пятніца*

З раніцы ў Беларускі нацыянальны ліцэй. Гэта ў раёне Трактарнага завода. Былая 111-я школа. Чацвёрты клас. Усе дужа добра гавораць пабеларуску. Задаюць пытанні. На дошцы прыклеены малюнкі, маленькая дзяўчынка просіць адгадаць, на тэму якіх маіх вершаў намаляваныя. Адгадаў толькі адзін. Настаўніцы — сапраўдныя фанаткі. Шкада, што такіх не густа ў нас. Але дзякуй Богу ёсць! Па дарозе доўга стаялі, бо праспектам ехаў [Лукашэнка], дык перакрылі рух. Хлопец, які вёз мяне, шчыры беларус. Казаў, як ён ехаў з Магілёва, а насустрач [Лукашэнка] у Магілёў. На мяжы дзвюх абласцей дзяўчаты ў нацыянальных савецкіх строях з хлебам-соллю. У машыне. [Лукашэнка] з аховай нават не спыніўся. Як апуджаныя вароны, кожнага куста баяцца. Яшчэ казаў, як вадзіў дзяцей у Музей вайны. Ляжыць старая нямецкая нарукаўная павязка й навюткая

[1] Зімоўскі Аляксандр Леанідавіч (н. 1961), беларускі і пазней расійскі журналіст, тэлевядучы ідэалагічнай праграмы «Рэзананс» (да 2000).

бел-чырвона-белая з Пагоняю як паліцэйская нарукаўка. Фальсіфікуюць, замбіруюць. Потым паехаў у падатковую інспекцыю. Усё шукаюць чужыя грошы. Нібыта яны пра Сораса клапоцяцца. […]. Вечарам пазваніла Ілона, едзе ў Менск. Можа, паспее аформіць дакументы ў Саюз мастакоў. Гэта б ёй прыдалося.

*22 лістапада, субота*

Званіў Васілю. Не падабаецца мне ягонае здароўе. Кажа: «У Віцебск не паеду, не хачу рабіць вам клопату». Кажу яму: «Іду ў Беларускі ліцэй выступаць». Кажа: «Ідзі. Там добра, усе па-беларуску гавораць. Душэўная атмасфера. Гэта ж не дзе-небудзь у бібліятэцы. Прыйдзеш, а табе даверліва дзеляцца: «Начальства дало вымову, што Вас запрасіла». У ліцэі свята душы. Якая ўдзячная, якая *беларуская* аўдыторыя! І на пытанні адказваў, і песні пяяў, і калыханку Мірону, і вершы чытаў, і «дурноты». Устала чарнявая дзяўчынка: «Я ўнучка Алеся Антонавіча Карабаня. Дзед перад смерцю чытаў «Аратая, які пасвіць аблокі»». Гэта ж першы дырэктар нашай школы, першы беларус, які ўдыхнуў мне любоў да нашага слова. А жонка ягоная Еўфрасіння Міхайлаўна — першая любімая мая настаўніца. Мне й цяпер чуецца ейная дабрыня, ласка рэдкая. Мама некалі казала, што пад час вайны Карабань пераксціў яе [жонку] ў царкве, бо была яна Фрыда Мэераўна. І не ведалі вушацкія людзі. Дачка чарнявенькая і ўнучка таксама. Але як перадалася беларускасць. Карабань за беларускасць гэтую быў сасланы ў Мосар, дзе й памёр.

Учора званіў Тарас, што пазваніў сынок Каваленкі з «Всемирной литературы» пад рэдакцыяй Бондаркаманды. Генадзь папрасіў, каб ягоныя вершы пераклаў Тарас. Тарас адмовіўся, сказаў, што не мае часу. А Генадзь усё па-савецку ўсёедлівы. Ці ў «ЛіМе», ці ў […] «Советской Белоруссии».

Падарыў ліцэю колькі кніг і манаграфію пра Багушэвіча доктара Станкевіча[1], выдання 1930 года ў Вільні, лацініцай друкаваную. Лявон Баршчэўскі, якога люблю да шалёнасці, якім захапляюся, які сёння — чалавек будучай вольнай Беларусі, быў дужа ўсцешаны. І я гэтаму рады. Фігура Лявона Баршчэўскага вылучная па вышыні інтэлекту й працавітасці. Геній. Па дарозе, ён у сядзібу, я — дамоў. Цікавая гутарка пра нашых народафронтаўцаў. С. проста амбітна-абмежаваны, адсюль ягоная нэрвовасць да дробных звадаў. Прыйшоў дамоў. Анёлка вышыванага паставіў побач з адным з партрэтаў мамы. А кубачак гліняны са сподачкам ды яшчэ на дне Радашковічы па-беларуску. Так расчуліўся, што бухнуў сабе

[1] Станкевіч А. Францішак Багушэвіч: Пра жыццё і творчасць. У 30-я ўгодкі смерці (1900–1930). Вільня, 1930. *Станкевіч* Адам Вікенцьевіч (1892–1949), беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст, літаратуразнавец, выдавец, каталіцкі святар. Кандыдат кананічнага права (1918). Быў рэпрэсаваны.

конскую дозу кавы ў гэты нацыянальны кубачак. Праз усю ноч кідаўся [...].

*23 лістапада, нядзеля*

Прыехала Ілона са сваім [Косцем]. Знэрваваная, стузаная. Накіраваў да Марачкіна. Можа, што з саюзам атрымаецца. Званіў Васілю. Хворы. Кажа: «Зайздрошчу, што едзеш. Трэба занатоўваць, фіксаваць факты ўсіх дэмакратычных высілкаў, бо пасля ўсё з'іначаць».

Хадзіў на Камароўку. Прынёс дамоў рыс і фасолю. Збіраюся ў дарогу. Раней лёгка й хутка. Цяпер цяжка й няўклюдна збіраюся.

*24 лістапада, панядзелак*

*На Віцебск.* Выступленні ў вучэльнях, на нейкай фірме, якая толькі тое й робіць, што развальваецца.Вячэра ў Навумчыка[1]. Насцярожанасць, указанні не прымаць нас, не сустракацца. Страх апераджае розум, развагу. Па нашым часе можна ўявіць, што рабілася ў трыццаць сёмым.

*25 лістапада, аўторак*

У ўніверсітэце. Додзік павёў. Прыйшлі Арлоў, Сёмуха, Баршчэўскі. На сцэну запёрлі мяне. Далі хлеб-соль. Русецкі[2], былы цыкун, рэктарам стаў. Рабіў даклад. Мне далі слова апошнім. Я назваў сваіх сяброў, сказаў, што трэба даць слова Баршчэўскаму, Ракіцкаму[3]. Додзік пачаў чытаць вядомыя вершы свае. Я прачытаў лірыку й самыя з'едлівыя «дурноты». Русецкі на развітанне: «Што ты нарабіў. Я толькі ад прэзідэнта, а ты яго крытыкуеш, мяне падводзіш». Я кажу: «Я ж не называў прозвішча». Рэктар некуды зліняў, як казалі некалі маладыя. Асадак на душы цяжкі. Як у га.не выкупалі. Віцебск па-ранейшаму — логвішча чырвона-карычнівікаў і славянасабораўцаў. Камуністы сумелі выбіць мазгі й самых старажытных местаў. Што тады пра маладыя казаць ды пра невялікія мястэчкі. А з Менска навіна сумная — закрылі [газ.] «Свабоду».

*26 лістапада, серада*

Выступы ў школе алімпійскага рэзэрву. У школе. У нейкай фірме, што ледзьве ліпіць. У Коласаўскім [тэатры] літмантаж па Васілю Быкаву

---

[1] Навумчык Іосіф Адамавіч (н. 1938), бацька С. Навумчыка.

[2] Русецкі Аркадзь Уладзіміравіч (н. 1942), беларускі гісторык, культуролаг. Доктар гістарычных навук (1990). Прафесар (1996). Акадэмік Нацыянальнай Акадэміі адукацыі РБ (1998). У 1995–1997 гг. нам. старшыні Віцебскага гарвыканкама, у 1997–2000 гг. рэктар Віцебскага універсітэта імя П. Машэрава.

[3] Ракіцкі Вячаслаў Антонавіч (н. 1953), беларускі пісьменнік, мастацтвазнавец, тэатральны і кінакрытык, журналіст.

«Пакахай мяне, салдацік». Сядзіць Шмакаў[1] і шмакае з расійскім акцэнтам пры савецкіх бляшках. Гэта як бы ад аўтара. Амаль не чуваць. Затое колькі разоў паўторанае *мудак* чуваць праз узмацняльнік. Ігра з халодным носам. Як прымусоўку адбываюць. Калі б не надзіва чысты Міхась Краснабаеў[2] ды Тацяна Ліхачова[3], поўны правал. А яны цягнуць спектакль, калі яго можна так назваць. Свецяцца несапсутаю чысцінёю. Потым да хадэкаў[4], якіх узначальвае Лявонаў брат Вадзім [Баршчэўскі]. Прыехаў Разанаў. Выступ і там. Да Вадзіма. Застолле. [...]. У апошнім нумары Свабоды» артыкул N. пра рэпрэсаваных пісьменнікаў. Цікавая ўстанова дзяржбяспека. Спачатку стукачам плоціць за звесткі, потым устарэлымі, адпрацаванымі, рассакрэчанымі звесткамі плоціць тым жа стукачам. Дае матэрыялы, яны іх друкуюць і маюць такі-сякі прыварак, а галоўнае — імя смелага змагара з рэжымам тым, як бы старым, а на справе ўсё тым жа. [...].

*27 лістапада, чацвер*

Віцебская гімназія. Амаль беларуская. Аўдыторыя прагная да беларускага слова. Прыемна было быць. Бібліятэка. Шмат людзей. Супроць сядзелі й камунякі, і нават двайнік [Замяталіна]. Але сарваць нічога не ўдалося. Додзіка з намі не было. [...]. Абед у абкомаўскай бакавушцы. І на Менск. Па дарозе Навумчык шмат цікавага распавядаў. [...]. А мне ўсё смешна, як распавядаў Сяргей. Ніл прынёс у «Полымя» вядро сваёй вершаванай [...]. І кожны, з дазволу сказаць, верш пачаў спяваць на матыў суровых рамансаў. Прыгаворваючы: «Усе вершы спяваюцца». Аж Законнікаў мусіць замкнуць дзверы кабінэта. Калі потым казаў Васілю, дык ён: «Навошта друкаваць, хай адразу ж сам і спявае».

[...] Запомнілася, як да мяне ў бібліятэцы падышлі дзве дзеўчынёшкі й запыталіся, як стаўлюся да БПСМ[5]? Ну, адказаў. І яны кажуць: «І мы супроць, і мы не ўступаем, нас не зломяць». А БПСМ расшыфроўваюць: беларуская партыя сексуальнай меншыны. Даўно блізка не сутыкаўся з Разанавым. Дужа ўважліва слухаў яго. Крычыць, бо не мае ўпэўненасці. У так званых вэрсэтах, амаль у кожным, кволенькая дэталь, намёк на вобраз, лічы, вядомая думка. Калі гэта ўсё традыцыйным вершам, як у ўсіх амаль будзе. А так гарнір вонкава наватарскай формы кампенсуе

[1] Шмакаў Фёдар Іванавіч (1917–2009), беларускі акцёр, рэжысёр. Народны артыст БССР (1959). Народны артыст СССР (1975). З 1941 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Коласа (Віцебск). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).

[2] Краснабаеў Міхаіл, актор Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа.

[3] Ліхачова Таццяна Уладзіміраўна (н. 1952), беларуская актрыса. З 1972 г. у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Коласа. Заслужаная артыстка РБ (2001).

[4] Сябры Хрысціянска-дэмакратычнай партыі (1995–1999).

[5] БПСМ — Беларускі патрыятычны саюз моладзі (1997–2002).

хібы. Гэта як у яўрэйскім анэкдоце. Заказаў вячэру ў харчэўні. Прынеслі. Плача. Пытаецца гаспадар: чаму? Той: «Ці варта было з-за гэтакага маленечкага кавалачка мяса забіваць вялізнага вала?» Не адмаўляю, талент у Алеся прыродны. Праўда, моўная беларуская стыхія не родная яму. Адсюль і холад, сінтэтычнасць. Паэзія такая патрэбная. І добра, што ёсць. Праўда, фанфары варта было б не дужа эксплуатаваць.

Прыехаў дамоў. Ілону не прынялі ў Саюз мастакоў. І з-за мяне, і сама трохі вінаватая. Усё нахапку [...].

*28 лістапада, пятніца*

Сходзіў на Камароўку. Наведаў N. [...]. Усё яшчэ ўсплываюць успаміны Навумчыка (вядома, бацькі Сяргеевага) пра калегаў. Да райкамаўскага самаўпэўнеўца рэвізоры. У раённы шалман. Выклікае афіцыянтку, кладзе на стол тры рублі, кажа: «Накармі і напаі нас». А іх трое. Афіцыянтка: як? Ён: «А вось так, дзетка, накінь плашчык, каб не застудзілася, ды з крамы прынясі пляшку. А на закусь нам ты за дзень накрала». [...]. «Дарослы клопат: Медыцына — спагадлівай смерці сястра...» [у дзённіку].

*29 лістапада, субота*

Адыходжу патроху, выдыхаю дарогу. Дужа цяжка стала пусціцца ў дарогу. Спачатку нічога. Пад канец пачынае ўсё здакучаць, клянеш сябе, клянешся, што болей не паедзеш нікуды. Самы апошні дзень з астатніх моцаў. Канец. Ты радасны. Ахвотна згаджаешся яшчэ прыехаць, паехаць. Прыязджаеш дамоў, быццам прывыкаеш да дому свайго ж. Дзень-другі, і ты ўжо, што камень той, што валун, абрастаеш мохам звычных клопатаў, даўніх звычак. І зноў цябе цяжка ўстурыць сябе самога. Званіў Васілю. Здароўе ягонае, адчуваю, кепскае. Але трымаецца й выгляду па тэлефоне нават не падае. Дамінічка шчаслівая, што бацькі з ёй трошкі гуляюць. Ніякія баба-дзед не заменяць [...] бацькоў.

«Парада»[1]. Мітушуся, кідаюся, а часу меней і меней. А можа, і зусім няма ўжо. Усё ад Усявышняга. А трэба яшчэ зрабіць «Мой слоўнік». Матэрыялу па вушы. А колькі ўспамінаў пра сяброў маіх, пра падарожжы ды паездзіны. А яшчэ некалькі перакладаў, якія штурхаюць не толькі пад локаць, а ў сэрца. Дый нешта накшталт эпасу. Мроіць, як кажуць, льга. «Мова»[2].

* Дамініка: «Намачыла Мірона для *блі́скаты*ʹ поўсці».

---

[1] Гл.: Парада (29.11.97) // Босая зорка. С. 137.

[2] Гл.: Мова (29.11.97) // Тамсама. С. 127.

*30 лістапада, нядзеля*

Званіў Васілю. Да яго французы з Вірджыніяй Шыманец. Перазваню вечарам. Хай і самыя лепшыя й эўрапейскія, ды яго дабіваюць інтэрв'юеры. Пазваніў Дранько. Сказаў, што ў інтэрв'ю газэце «Семь дней»[1] назваў мяне каралём паэтаў. Дзякуй на добрым слове. Але дзіўнае іншае, як гэтая з дазволу сказаць газэтка дала маё ймя ў дадатным значэнні. Яна ў асноўным практыкуецца на выліванні памыяў на Васіля, на мяне, на шмат каго. Недаглядзелі.

*1 снежня, панядзелак*

У «Звязду» да Карлюкевіча. Да ягонай кнігі трэба напісаць невялікі ўступ. Потым у ПЭН. Васіль прынёс мне смуродлівую «Мы и время». Не могуць супакоіцца. У прыстрычцы «О «Луке» и его авторах», відаць, [...] Скобелеў дапісаўся: «... белорусскоязычный поэт Гриша Бородулин, со свойственной этой породе людей наследственной скромностью и храбростью...» Гэта намёк, што я яўрэй. А ўжо лепей неграм быць, чым [...] рюсским славянасабораўцам. Сустрэў Алеся Бяляцкага. Наконт дома Багдановіча. Падмурак там, дзе й паказваў Стальмашонак, але сцены не тыя. [...]. У «Славянском набате»[2] — органе Камароўскага рынка й славяна[...] зноў палошчуць мяне, зноў яўрэйская тэма. Там шукаюць рэдактара. Дзве кандыдатуры — генералы Баранкевіч і Сульянаў. Маюцца будаваць шасціпавярховік пад рэдакцыю на базары. Зноў жа лічба шэсць, сіяніцкі знак. Давядзецца ці паверх здымаць, ці паверх дабудоўваць. [...]. «Шалом!»[3] Гэта мяне падштурхнулі чарнасоценныя газэткі. Вядома, не. Ерусалім як храм у душы назаўсягды.

У Дануты[4] хутка юбілей. Ад імя нашага ПЭНа напісаў адрас і яшчэ *P. S.*: «Дануся! Я пяром клянуся...» [у дзённіку].

*2 снежня, аўторак*

А яшчэ пісаў Эдуарду Зарыцкаму тэксты для магчымых песняў. Дужа падабаецца мне Эдуард. Калі б у нас гэтакіх інтэлігентаў ды болей было. А тут дужа шмат лучанкоў ды ханкоў. «Як навальніца маладая: Свет малады, як маладзік...» [у дзённіку].

---

[1] «7 дней» — інфармацыйна-палітычная газ. (з 1990).

[2] «Славянский набат» — беларуская рэспубліканская газета (1997–1999).

[3] Гл.: «Шалом, Ерусалім...» (1.12.97) // Халодная памяць вады. С. 79.

[4] Бічэль Данута Іванаўна (н. 1938), беларуская паэтэса, празаік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1984).

*Ластаўка журбы*
*(Залатая брама)*

*N.*

З табою кожны дзень,
Як залатая брама
У нечаканый край,
У незабыты рай.
Калі сумуеш ты,
Сумую я таксама.
Малю няўмольны лёс:
Наш рай не адбірай.

Вяршыні забыцця,
Пакорнасці даліны
За брамай залатой,
А на зямлі цяпер
Ёсць толькі ты адна
І я ў цябе адзіны.
І засланяе нас
Крылом сваім давер.

Пакуль мы ёсць з табой,
Ёсць брама залатая
У яснавокі край,
У незаняты рай.
І ластаўка журбы
Над намі пралятае.
Шапчу святлу жыцця:
Гары, не дагарай.

Хадзіў у ПЭН. Занёс прывітанне Данусі. […] Пятра Краўчанку — пакуль паслом у Японію. Дужа доўга гуляў у апазыцыянера. Бутэвіч[1] — пасол у Румыніі. Таксама костка з таго ж стала. У Менск збіраюцца прыехаць ствараць Новы Саюз пісьменнікаў, аб'яднаны з Расіяй. На чале з […] распуцінным.

*3 снежня, серада*

Бегаў па гораду, шукаў лекі Васілю. Знайшоў. Толькі б дапамаглі. Божанька, дапамажы! […].

---

[1] Бутэвіч Анатоль Іванавіч (псеўд. Максім Валошка; н. 1948), беларускі дзяржаўны дзеяч, пісьменнік, перакладчык, публіцыст, крытык. У 1996–1998 гг. Генеральны консул РБ у Гданьску (ПР).

*4 снежня, чацвер*

У ПЭН. Васілю лекі. Сёння сакратароў СП і ўсіх [...] выклікаў [Замяталін]. Інструктаж. Прыязджае група маскоўскіх пісьменнікаў, дзе будзе Ганічаў[1], Распуцін, два Кузняцовых (няўжо й Юрый?[2]), Кастроў[3]. Міністрам і вертыкальшчыкам дадзена ўказанне прымаць па вышэйшым класе. Гэта інтэгратары. Будуць новы саюз славяна-патрыятычны рабіць. Не ўспамінўся салавей імпэрыі Сураўцаў[4]. Можа, не ўзялі, бо яўрэй. Цяпер жа — гэй, гэй, славяне. Ехаў дамоў тралейбусам па драўлянай забудове вуліцы Максіма Багдановіча. Аж трымціць усё ўнутры, як бачу стрэхі ў некранутым белым снезе. Кожны там, дзе нарадзіўся й вырас, дарага яму ўсё сваё. Настальгія — паняцце шматзначнае, рознамаштабнае, вечнае. «Запросіны»[5].

*5 снежня, пятніца*

Да Карласа з Самсонам і Халіпам. Сёння 50 Разанаву. Пазваніў:

Алесь!
Будзь натуральны весь —
Ад хвалявання да старання.
З’есь
Нашых ворагаў балесь.
Мы ўсё ж сустрэнем
Наша ранне.

Вечарам міжнародная канфэрэнцыя. У гатэлі «Юбілейным». [...]. Адчыніў канфэрэнцыю Васіль. Коратка. Годна. Па сутнасці. А за ім парт[...] з ведамства Антановіча. Доўга, нудна, як у савецкія часіны. Усё пра шматвектарнасць. Далася яна ім, [...] гэта вектарнасць. Пасля вячэры праводзіў Васіля дадому. Казалі, што мы з ім як закладнікі ў нашага сябра, маштабы дзейнасці санкцыяванай якога ўзраслі. Да дзвярэй Васіля. Сы-

---

[1] Ганічаў Валерый Мікалаевіч (1933–2018), рускі пісьменнік, публіцыст, грамадскі дзеяч. Доктар гістарычных навук (1978). З 1994 г. старшыня СП Рассіі. Нам. кіраўніка Рускага народнага сабора.

[2] Кузняцоў Фелікс Феадосьевіч (1931–2016), рускі крытык, літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук. Член-карэспандэнт АН СССР (1987). Член-карэспандэнт Расійскай АН (1991). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1978), Дзяржаўнай прэміі СССР (1984). *Кузняцоў* Юрый Палікарпавіч (1941–2003), рускі паэт, перакладчык, літаратурны крытык, педагог. Прафесар Літаратурнага інстытута імя М. Горкага. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1990).

[3] Кастроў Уладзімір Андрэевіч (н. 1935), рускі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РСФСР імя М. Горкага (1987), прэміі прэміі імя А. Твардоўскага (1998), Літаратурнай Бунінскай прэміі (2010, 2014), Міжнароднай Лермантаўскай прэміі (2012) і інш.

[4] Сураўцаў Юрый Іванавіч (1931–2001), рускі крытык, літаратуразнавец.

[5] Гл.: Суцеш (4.12.97) // Халодная памяць вады. С. 394.

ходжу з ганка, Васіль глядзіць, як сыходжу (самая шчырая душа ў гэтым свеце для мяне) дый раіць: «Трымайся за парэнчы й за жыццё!» Калі апраналіся, Васіль дастаў з каліткі колькі грошай і дае швейцару. Той не бярэ. Васіль мне: «Відаць, мала. Даўно ўжо быў у рэстаранах». А хутчэй за ўсё швейцар пазнаў Васіля.

*6 снежня, субота*

Праводзіў сваіх — Дамінічку й Валю на Оршу. Электрычкай. Паехалі ў Дуброўна на ўбоіны. Хай Дамінічцы будуць уражанні. На пероне малады хлопец прадпрымальнік. У міністраў 3,5 мільёны аклад. Хабар бяруць амаль адкрыта. Калі адпускаюць якія тавары ці абсталяванне, адразу й кажуць: 10 адсоткаў ад кошту ім. Гэта […] чэсныя.

*7 снежня, нядзеля*

Галаўны боль — да вар'яцтва. Часам баюся, што адыду ў несвядомасць ціха-ціха. Мірон у вялікім пакоі, я ў спальні. Не хапае крыку, а галоўнае — анёльскага галаска дарагой Дамінічкі. На колькі хвілін выйшаў на вуліцу, купіў хлеб ды малако — і назад. Баюся ўпасці. Як бы на галаве жалезны абруч. Ды вершы ўсё ж пісаў, каб выжыць. Перад хваробай усё — мітусня, не вартая ўвагі. Нейкая адасобленасць, прыцішанасць, як перад развітаннем. Усё часцей і часцей. «Пачуўшы…»[1], ясачка[2].

*8 снежня, панядзелак*

Прыехаў з Разані Марк Мухарынскі, прыхільнік Ясеніна. Сустракаўся ў Купалаўскім музеі з ім. Вучыўся ён з Эрнстам Сафонавым[3], — пад канец жыцця зацяты русапят. У Менску госціць група эмісараў з Масквы — хочуць аб'яднаны Саюз пісьменнікаў стварыць «во имя процветания нашей Родины». Чыёй? З беларускага боку Шамякін, Навуменка, […] Пташнікаў, Райка Баравікова […], Лукша, Някляеў, Марчук і, вядома, акадэмік […] Васіль Зуёнак. Кампанія не велька. […]. Цяпер за матузок пацягнулі — і лялькі затузаліся. […].

*9 снежня, аўторак*

Панамароў [Валерый] зрабіў кепскі фільм па Васілю, але затое хоць нешта добрае здзеіў — завёў Васіля ў лепшую зубную клініку. Хоць не

---

[1] Гл.: Пачуўшы… (7.12.97) // Аніma. С. 184.

[2] Гл.: Ясачка: Настрой, як кот па дрэве, ўгору лезе (7.12.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 332.

[3] Сафонаў Эрнст Іванавіч (1938–1994), рускі празаік, перакладчык, публіцыст. У 1970 г. адказны сакратар Разанскага аддзялення СП. Адмовіўся ад галасавання за выключэнне з СП А. Салжаніцына.

так пакутаваць будзе мой вялікі сябра й зямляк. Цэлы дзень, як у тумане, ад болю. Галава. «Кахаць…»[1] Усё намацваю тэкст песні Зарыцкаму.

*10 снежня, серада*

Павіншаваў Радзіка з днём нараджэння. Званіў сваім. Прыедуць у суботу. Званіў Косцю. Прыехаў з лецішча. Ілона там. Што яна сабе думае з афармленнем кнігі Ганаду? Дасюль цягне.

*Радоўка*

Радоўку адбываю — дні пасу
Астатнія,
Бо спадзеў мець павінны,
Што выпушчу на Юр’еву расу
Іх
І сустрэну з імі Асяніны.

Мой статак збродлівы,
Бо дзень любы,
Як ні пілнуй,
У шкоду забрыдае.
Паслухаць плач архангельскай трубы
Не паспяшае воля маладая.

А можа, проста статак сталых дзён
Знайшоў нарэшце выпасы ўспамінаў,
І збег,
І ў трэскі пашчапаў загон,
А пастуха з самім сабой пакінуў…

*11 снежня, чацвер*

Праз сілу, бо галава шчапаецца ад болю, пісаў колькі словаў у «ЛіМ» пра Бурсава. Згадалася, як ЦК заказвала вялікую партыю кожнай новай дзіцячай кнігі Івана. Каб дзеткі святлелі. А гэтыя дзеткі ў так званым «андатравым балоцэ» (раён вуліцы Пуліхава) успорвалі жываты кошкам ды сабакам і зашывалі ў іх бляшанкі з-пад кансэрваў з закрытага размеркавальніка, зашывалі калючым дротам. […]. Цяпер яны ў камэрцыйных структурах […]. Нават пад дэмакратаў стараюцца. Сустрэў пана Алеся. Пробашч Акалатовіч з Нясвіжа ўсё-ткі звольнены. Свёнтак[2] (яму 84 гады) здаўся. Акалатовіча выклікалі ў пракуратуру й прапанавалі

[1] Гл.: Кахаць… (9.12.97) // Халодная памяць вады. С. 379.
[2] Свёнтак Казімір (1914–2011), рымска-каталіцкі царкоўны дзеяч Беларусі. У 1991–2006 гг. узначальваў Мінска-Магілёўскую архідыяцэзію, у 1991–2011 гг. апостальскі адміністратар Пінскай дыяцэзіі.

асудзіць артыкул у «Свабодзе». Той сказаў, што мае прэтэнзіі, бо не ўсё далі. І выклаў пяць пунктаў і запатрабаваў унесці ў пратакол. Мусілі. Ён падпісаў. Мае намэр ехаць на вучобу ў Рым. Выдатна гаворыць па-беларуску. Малады. А [ціцянкоў] хоча, каб фарны касцёл у Нясвіжы адышоў у ягонае ведамства. Каб там ладзіць канцэрты […]. Бедны род Радзівілаў[1]. Да гэткае ганьбы давялі камуністы. […]. «Пытанне да сябе»[2].

*12 снежня, пятніца*

У «ЛіМ» пра Бурсава занёс. Слова й казачку дужа сучасную Іванаву. У «Бярозцы» Міхасю Скоблу фота. У Мастацкім салоне выстава Рыгора Сітніцы з адведзінаў Грэцыі. Сітніца адчараваў камень. Бо камяні некалі былі людзьмі. Нешта далёкае ці, можа, прадалёкае лучыць нейкім дзіўным чынам нашае Палессе, адкуль Рыгор, і Грэцыю. Ці сваёй даўнасцю, ці сваёй таямнічасцю. Лявон [Дранько-Майсюк] чытаў свае думкі з кнігі, потым вершы. Малады, малады, а час хутка прабяжыць. Што застанецца?

*13 снежня, субота*

Адваляўся з галавой. Пад вечар сілай вывеў сябе на вуліцу. Трэба было сустрэць Дамінічку з Валяй. Відаць, упершыню абрадаваўся, калі пазваніў Косця. Дзякуй яму, дапамог сустрэць і несці цяжар. Я ўжо пачынаю мітусіцца, хвалявацца з любой прычыны. Яе цынічнасць старасць. Нахабна жмурыцца й наступае, падступаецца, абступае так, што не адступіш. Ужо хвалюе бадай толькі думка сустрэчы, а сама сустрэча як будзённасць успрымаецца. Душа, як абабіты яблык. Але трывае. Ці надоўга? «З аднаго дрэва: Калыска, куфар, човен, дамавіна…» [у дзённіку].

*14 снежня, нядзеля*

Першы дзень снежня па-старому. І адразу адчуваецца. Захаладала. Званіў Сёмуха, нагадаў мне пароль Каліноўскага, хлопцаў, якія сядзяць, як школьнік Вадзім Лабковіч, толькі за тое, што на плоце напісаў «Жыве Беларусь». (Дарэчы, у Віцебску Лявон Баршчэўскі добра адказаў на запіску адносна гэтага лёзунга: «А што, трэба сказаць «Памры, Беларусь»?») І тады напісаў я верш. А цікава, што ў […] «Народнай волі» гэты лёзунг ёсць. І асабліва выяўна вялікалі'тарыцца на Камароўцы на шчыце. Славянскі душок, панславізм камічна пачынаецца ў нас са Славянскага базару, праславянскую, дакладней, вульгарна-славянскую газэту выдае Камароўскі рынак. Дырэктар рынку […] сядзіць у габінэце пад абразамі.

---

[1] Радзівілы, княжацкі род Вялікага княства Літоўскага (з XIV ст.), затым Рэчы Паспалітай, у XVIII — XX стст. Расіі і Прусіі. Уладальнікі Нясвіжа.

[2] Гл.: Пытанне да сябе (11.12.97) // Ксты. С. 286.

[…]. «Дурнота» такая атрымалася: «КДБ: Тры літары…», «Забаўляюць…: Ступае хлусня…» [у дзённіку]. Заказ Сёмухаў выканаў:

*Маладыя*

Вадзіму Лабковічу,
Аляксею Шыдлоўскаму,
Вадзіму Кабанчуку[1]

— Люблю Беларусь!
— То ўзаёмна! —
Пароль Каліноўскага —
Споведзь і ўздых.
Калі Беларусі турэмна,
Стараецца вораг дарэмна
Прымусіць
Пакорнымі быць маладых.

Жыве Беларусь! —
Сонцавіта
Лунацьмуць
Купалавым словам ў вяках.
Жыві, маладая эліта,
Табою свабода абжыта,
Ускрэснуць
Далоні твае на цвіках!

*15 снежня, панядзелак*

Учора да паўночы перакладаў Найдэна Вылчэва. Навука на далейшае. Так мне абрыдла савецкая балгарская паэзія й яшчэ болей ейны талкуй Ніл. Амаль усё завёз у Вушачу. І нават вялікі слоўнік. А тут Сяргей [Законнікаў] папрасіў для «Полымя» перакласці. Ніл адмовіўся […]. Нейкія словы не мог знайсці па маленькім слоўнічку. Вырашыў пазваніць Антаковічу. Стары тэлефон, там дзеці ад першае жонкі (так па тэлефоне адказалі), далі аднак новы. Званю. Знаўца балгарскае мовы святкуе сваё 65-годдзе. Крычыць жонцы, каб паглядзела ў слоўнік. Пакуль глядзела, мне самому стала зразумела слова. Нашыя перакладчыкі дужа ведаюць мовы. Хоць для перакладу савецкіх замежнікаў і мову ведаць не трэба, усё й так ясна. Завёз у «Полымя» пяць вершаў Найдэна. Напісаў на тэму. Болей я ўжо ніколі, відаць, не вазьмуся за балгарскія пераклады. Хай бу-

[1] Вадзім Лабковіч (н. 1981), Вадзім Кабанчук (н. 1974), Аляксей Шыдлоўскі, сябры «Маладога фронту», арыштаваныя за графіці палітычнага зместу ў Стоўбцах. *Шыдлоўскі* Аляксей Міхайлавіч (н. 1978),беларускі журналіст, сябра БНФ (1995–2002), нам. старшыні «Маладога фронту» (1997–1999).

дуць здаровыя братушкі. Маладым дарогу. Сёння дачытаў рукапіс Алеся Карлюкевіча. Цікава. Ён добры рупнік. Замест прадмовы напісаў верш. Так прасцей. «Радзімазнаўства»[1].

*16 снежня, аўторак*

Занёс у «Звязду» Алесю [Карлюкевічу] верш і рукапіс. Цікава прачытаць было. Алесь умее пісаць і капае даволі глыбока. Расійскія [...], што прыязджалі да нашых, пэрлы выдавалі. [...] Карпаў[2]: «У Беларусі нават нябожчыкам жывецца лепей, чымся нашым...» Праскурын[3] дагаварыўся, што Быкаў — вораг, а Астаф'еў — адшчапенец. [...]. Яўна, хто ім плоіць рэшткі мазгоў. Калінковіч[4], падпалкоўнік КГБ, некалі ў Ашхабадзе казаў Алесю: «У Менску мяне лічаць гэбістам, а ў КГБ — дэсыдэнтам беларускім». І адзін у КГБ абараніў ступень нейкую па нацыяналізму на прыкладзе «Гасцёўні Галубка»...

Васіль прачытаў раман Маркеса ў перакладзе на расійскую Карласа. Падабаецца пераклад. Але ў творы столькі дэталізацыі, гэтулькі словаў у прастаце несказаных. Ёсць, кажа, пакута салодкая. Сёння дзень пачаў з вечара. Напісаў верш, бо Сёмуха даў эпіграф: «Яны»[5]. Раніцай званіў Васілю. Пытаўся, ці раблю я вушацкі слоўнік. Кажу, што самі ўсплываюць у памяці штодня новыя й новыя [словы]. Ад мамы. Нешта сказаў пра мярлог. Васіль: «І маці, бывала, казала мярлог — калі пасцель непрыбраная». Яшчэ разгаварыліся. Раіў апісаць, калі буду рабіць успаміны пра нашых пісьменнікаў, як хто галасаваў. Сачанка падымаў руку невысока, азіраўся, калі падымалі мала рукі, тады падымаў другую на такую ж вышыню й пасля хвіліннае паўзы гладзіў аберуч свае валасы. Чыгрынаў, седзячы ў прэзідыуме, падымаў руку да падбародка, каб відаць было ў зале й не відаць у прэзідыуме таму ж Шамякіну. Васіль яшчэ сказаў, што слухаў па радыё трансляцыю майго вечара. Слова нельга расчуць. Ці віною трансляцыя? Адказаў, што гэтакая манэра выканання, каб слухач не словы слухаў, а гул і гром. Васіль супакоіў, каб я не перажываў, што песенніка з мяне не выйдзе, бо тэкст у песнях мусіць быць трошкі й нават болей дурнаваты. Я падумаў, што песня тэкстам нагадвае дзяўчыну, у большыне сваёй прыгажавітыя на розум не гэтак багатыя й наадварот.

---

[1] Гл.: Карлюкевіч А. І векавечны толькі край... Мінск, 2000.

[2] Карпаў Уладзімір Васільевіч (1922–2010), рускі празаік. Герой Савецкага Саюза (1944). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Узбекістана (1970), Дзяржаўнай прэміі СССР (1986).

[3] Праскурын Пётр Лукіч (1928–2001), рускі пісьменнік. Герой Сацыялістычнай Працы (1988). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1974, 1979).

[4] Калінковіч Мікалай Мікалаевіч (Калянковіч; 1951–1990, загінуў у Грузіі пры выкананні службовых абавязкаў), беларускі вайсковец; журналіст, пісьменнік. Кандыдат гістарычных навук.

[5] Гл.: Псалмы Давідавы: На ўсё стае бязбожных... (16.12.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 210.

У «Звяздзе» намесніца рэдактара Людміла Рыжанкова, калі Алесь перадаў ёй «Здубавецьця», прыйшла падзякаваць і кажа: «Я дужа люблю ўсё такое. Я мёду вам прывязу, у мяне бацька пчаляр…»

*17 снежня, серада*

Прыйшлося зноў у «Звязду» йсці, занесці слоўца пра Бурсава. У калідоры ўнізе ў будынку аб’ява, што сустракаюцца былыя дэсыдэнты, а цяпер вядомыя дзеячы культуры, з украінскага боку шмат прозвішчаў. Адно вядомае — Наталка Білацаркоўка[1], а з беларускага Ігар Бабкоў[2], Валерка Булгакаў[3] ды Г. Булгакава ведаю слаба […]. Міхайлаў ездзіў па свеце як беларускі дэсыдэнт. Адно што двух словаў на чужой, беларускай, мове не мог сказаць. Толькі гэта й бянтэжыла крыху нашую наіўную эміграцыю. А ці наіўную? Па дарозе ў трамваі халодным пісаў: «Не кожны»[4], «Засталося…»[5]. Дома пісаў верш: «Ёсць…: І ўцяміш, вышаўшы з імжы…» [у дзённіку].

Прыйшла Ілона з Косцем. Не ведаю, што з ейнай беднай галоўкай. Паўгода, як усё афармляе казкі Ганадавы ў геніяльным перakaзе Івана Бурсава. Гаварыць з ёй — трэба жалезнага бобу пад’есці, як у нас казалі, і тады рады не дасі. Эдуарду Зарыцкаму пісаў тэкст на песню: «Паспяшай, кумок!: І мядок саладок…» [у дзённіку].

*18 снежня, чацвер*

Да Карласа ў ПЭН. На стадыён, каб купіць унучцы Дамінічцы нейкае тамагоча, ці як там. Запамінаў паўдня і ўсё роўна не запомніў. Да Эдуарда Зарыцкага. Аддаў тэксты. І вершы — як тэма, якую можна дагабляваць, камячыць, як гліну. Ілона ашукала нас і паехала з Косцем у Піцер. Афармленне не зрабіла. Беднае дзіця, у яе з галоўкаю кепска. Толькі шкада. Таленавітая, але за ёй трэба багатая нянька. Косця, відаць, як нянька, толькі ў Косці, як у латыша (казалі ў падначку ў нас) толькі той ды душа. А я бедны бацька. Бедны, як і належыць быць паэту.

* Даменіка: «Ведаеш, што падобнага ў цябе і ў Васі′левічу?» — «Што?» — «Што вы абодва дзедзі».

[1] Памылкова; Білацэрківец Наталка Генадзіеўна (н. 1954), украінская паэтэса.
[2] Бабкоў Ігар Міхайлавіч (н. 1964), беларускі паэт, празаік.
[3] Булгакаў Валер (н. 1974), беларускі філосаф. Кандыдат філасофскіх навук (2005). У 1995–1998 гг. аспірант БДУ. Лаўрэат прэміі Е. Гедройца (2010).
[4] Гл.: Не кожны (17.12.97) // Ксты. С. 291.
[5] Гл.: « Падасца…» (17.12.97) // Халодная памяць вады. С. 388.

*19 снежня, пятніца*

Званілі Бурсаву. Віншавалі. Яму сёння 70. Хадзіў у выдавецтва. Прыехаў Фэлікс Мысліцкі. Вычытвае карэктуру ды зноў пытае, ці Каперна′ум, ці Капернау′м. Забегла Таня Бардзіян. Як родная душа. […].

Званю Васілю. Настрой у яго лепшы: «Сяджу перад вакном, у якое свеціць сонца. І гэта ўжо шчасце». Папрасіў мяне купіць «Славянскі набат». […]. Базарны набат узяўся за яўрэяў. […]. Яўрэям Пазьняк кепскі, БНФ дрэнна, а вы, камуна[…], за савецкую ўладу. А яна быццам бы дала разагнацца. Як сабаку ў торбе. Не хапіла мала цвікоў, каб дабудаваць баракі ў Біранбіджане.

Гаварылі з Васілём доўга пра канфэсіі. Пагадзіліся на тым, што душа і ў яго, і ў мяне хінецца да ўніяцтва. На нашае Радзіме бальшына праваслаўных цэркваў на аснове, на перабудове ўніяцкіх храмаў. Уніяцтва, як і беларусаў, усе ціснуць, усе нішчаць. Пакутная рэлігія ўвогуле мусіць быць, ды уніяцтва асабліва. І камуна[…] найбольш жорстка абыходзіліся з уніятамі. Думаю схадзіць у Чырвоны касцёл. Там Завальнюк[1] дужа сымпатычны ксёндз. […].

*20 снежня, субота*

У Міністэрства культуры. Занёс паперы на Мальера[2]. […].

*21 снежня, нядзеля*

Званіў Сёмуха. Прапанавалі выступіць па кісялёвым тэлебачанні. Адмовіўся: «Вы ж Быкаву не даяце выступіць». Тады хлопчык (яго Сёмуха не вініць) кажа: «А ў нас выступалі Гілевіч, Законнікаў, Арлоў». Сёмуха на гэта: «Яны нягрэблівыя, а я грэблівы». Званю Васілю [ён]: «Любуюся на сонейка — дар Божы. Як прывітанне з нябёсаў…» Баліць страшэнна галава, каб не звар’яцець, пішу. Але й так звар’яцець яшчэ лягчэй. Хадзіў на Камароўку. Люду болей, чымся людзей. Яно гэтак заўсягды. Зноў званіў Васілю. Паколькі [Лукашэнка] сказаў, што выданне кніг мусіць быць дзяржаўным, «Нашай ніве», якая мелася выдаць «Сцяну», адмовілі ў ліцэнзіі. Абклалі Васіля, як Беларусь атамнымі станцыямі, забаронамі й загадамі. Сёмуха раіў напісаць «Сямісвечнік» з эпіграфам з псальмаў Давідавых. «У вуснаў ёсць дамова з языком», «Не ўзвышэнне сябе самога …»[3]. Днямі званіў Алесь Лукашук з Прагі й, прыносячы выбачэнне за на-

---

[1] Завальнюк Уладзіслаў Мацьвеевіч (н. 1949), беларускі рыма-каталіцкі святар, душпастыр; гісторык, перакладчык, публіцыст, выдавец; культурна-грамадскі дзеяч. Доктар тэалогіі. Пробашч касцёла свсв. Сымона і Алены (з 1989).

[2] Мальер (сапр. Жан Батыст Паклен; 1622–1673), французскі драматург, акцёр, тэатральны дзеяч.

[3] Гл.: Псалмы Давідавы: У вуснаў ёсць дамова з языком; Не ўзвышэнне сябе самога…» (21.12.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 211; 212.

хабнасць, заказаў верш. Я выканаў заказ. Заўтра будзе званіць. Папрашу ў яго ўзнагароду — ён выдаў кнігу, як тут у нас шчыравалі чэкісты.

*Развітанне й прывітанне*

Бывай жа, Годзе Дзевяноста сёмы,
Ты быў для Беларусі скупаваты.
Пакуль з надзеяй браліся за ўсё мы,
Хацелі каты нас загнаць за краты.

Калхознага разліву казнакрады
Наш сцяг, і герб, і мову зневажалі.
Яны былі перад суседам рады
Гуляць у блазнаў, як на карнавале.

На рынках панславянскае ідэі
Ляжалі на прылаўках з агуркамі.
І дзьмулі бальшавіцкія завеі —
З сямнаццатага зыркімі штыхамі.

Не змогся 37-мы ў Курапатах,
Зянонавай рыдлёўкай адкапаны.
Віск захлынуўся ваўчанят іклатых.
Фронт Маладых ступаў, загартаваны.

Народным Фронтам край свой баранілі,
Змагаліся з прыблудамі, з крукамі.
Ён не паддасца, дух наш, тыраніі,
Крывіцкі дух, асвечны вякамі.

Цябе вітаем, Дзевяноста восьмы,
Дазволь хоць ты дапасці да спакусы —
Гукнуць мацней,
Каб свет пачуў нас: — Вось мы!
Мы незалежныя!
Мы — беларусы!

Зноў сцяг над намі Бел-Чырвона-Белы,
І цемру капытамі б'е Пагоня.
Ярылавы гусцей рунеюць стрэлы.
І беларусяцца за гоняй гоні!

*22 снежня, панядзелак*

Дачакаўся званка Лукашука. Запісаў два вершы: навагодні й «Маладым» (пра нашых патрыётаў-закрытнікаў). У «Звязду» Алесю занёс верш

«Буслы» Андрэеў. Там хочуць даваць матэрыял пра Жака. Яшчэ летась казалі мне, што незваротна хворы. Хаця б яшчэ пажыў. Пры ўсім тым […] чалавек светлы. Такі шляхцюк акуратны, эфектны. Алесь казаў, што Андрэй Вазнясенскі хоча ў ліпені зрабіць фэстываль паэзіі. Хаця б гэта не выглядала, як наезд вялікабратоў. Але, з другога боку, можна правесці пад знакам двух вякоў вялікаму польскамоўнаму беларусу Адаму [Міцкевічу].

Заходзіўся на кінастудыю. Лядоўня. На Каляды збіраюць начальства, каб мазгі прамыць. Усё яшчэ вованенінскімі паняццямі пра кіно даць. Кажуць, быў тут мільянер Беразоўскі[1], потым па тэле хваліў [Лукашэнку]. Хай бы хоць Шарамета на Каляды выпусцілі. Званіў Васілю. Ірына Міхайлаўна павіншавала мяне з тым, што сёння ўжо на адну хвіліну падрос дзень. […]. Сяджу чытаю Давідавы псальмы. Суцэльная паэзія. У вэрсэтах гэтулькі вобразнасці пры маланкавасці думак. Гэта ў Давіда рэкі пляскаюць у ладкі. А Алесь [Разанаў] галетныя вэрсэты выдае за адкрыццё. Думцы ніколі вобразы не замінали. А думачцы ледзь улоўнай тым болей.

* Разанаў чытае версэты (кажа, што ягоны жанр), хоць версэтамі напісана Біблія. У ягоных версэтах адна дэталь, адзін даволі зацяганы вобраз, якога б не хапіла на звычайны верш, а ў версэтах як бы наватарства. Ялавічыны мала, гарніру шмат.

*23 снежня, аўторак*

Хадзіў на фірму. Паўгадзіны пабыў. З новага года, калі ўсё не рухне, трэба будзе нам па чарзе хадзіць. Сёння Ханука. Пісаў паводле псальмаў Давідавых: «Руйнуе нявечнае час…», «Дні на зямлі твае…»[2].

*24 снежня, серада*

[Малюнкі.] Гэта мне Дамінічка намалявала напярэдадні каляднае начы. Маіх уніяцкіх калядаў. Нікуды не выходзіў. Чытаў-перачытваў псальмы ў геніяльным перакладзе Сёмухі. Што значыць родная мова. Здаецца, сам Бог з табою гаворыць. Калі некаторыя нашыя самагеніі вяшчаюць, што ім Бог дыктуе вершы, смешна робіцца. Бог не можа дытаваць на калькавана-сінтэтычнай мове. «Вязні, як вузялкі…», «Ты са мною…», «Праўда ўперадзе…», «Зерне плачу рунее…», «Усынаві наноў…»[3].

---

[1] Беразоўскі Барыс Абрамавіч (1946–2013, Вялікабрытанія), расійскі вучоны-матэматык, фізік; прадпрымальнік і палітычны дзеяч. Доктар тэхнічных навук (1983). Член-карэспандэнт РАН (1991). Прафесар. У 1996–1997 гг. нам. Савета бяспекі РФ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1978).

[2] Гл. Псалмы Давідавы: Руйнуе нявечнае час…; Дні на зямлі твае…» // Збор твораў. Т. 3. С. 212; 213.

[3] Гл.: Псалмы Давідавы: Вязні, як вузялкі…; Ты са мною; Праўда ўперадзе…; Зерне плачу рунее…; Усынаві наноў… (24.12.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 214–216.

*25 снежня, чацвер*

Хацеў схадзіць да Васіля, завесці яму цёплыя шкарпэткі й чорную кашулю. Не змог. Падаю. Такі нездаровы. Дайшоў да базарчыка ў канцы трамваяў. Бабуля, якая прадае семкі, з другой, якая прадае моркву, счапіліся. Да аплявухаў дайшлі. Натоўп не змяніўся з часін Хрыста. Інстынкт мацней за культуру (апрацоўка). Ля крамы спітая да абуха дама з нейкім не зусім спітым. За імі такі ж ідзе. Так званая дама: «У мяне Вася ёсць, не хадзі за мной, ты ж чытаў мае пісьмы…» Пісаць яшчэ не развучылася. Некалі Васіль сказаў: «Адзіны рэальны прадукт часу — гэта пыл, многія на разумеюць гэтага».

*26 снежня, пятніца*

Калі толькі з поўначы пайшло, пісаў верш:

* * *

Нахілі, Госпадзі, вуха Тваё,
і пачуй мяне…
*Псальмы Давідавы 85:1*

За смутак,
Што, як туман растае,
За радасць,
Якое мне не стае,
За вечар,
Што змрок ахінае душу,
За ноч,
У якой Тваёй рады прашу,
За раніцу,
Дзе мне ад сонца святлей,
За дзень,
Што з мяне выціскае алей,
За кожную зморшчыну на ілбе,
Кланяючыся з пашанаю,
Дзякую, Усявышні, Табе.

Цэлы дзень паміраў. Пад вечар вываламся ў аптэку. Псыхалагічна ўжо лягчэй, як лекі маеш. Пачытаў верш Радзіку. Радзік сказаў, што мала канкрэтнага. Пакуль чытаў, сам дайшоў, што амаль як у Гілевіча атрымалася. І тады перапісаў: «Дзякуй, Усявышні, Табе…»[1]

[1] Гл.: Псалмы Давідавы: Дзякуй, Усявышні, Табе… (26.12.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 217.

*27 снежня, субота*

Сёння Івану Бурсаву званіў ад Ганада. Званіў Васілю й пачытаў нешта з перапеваў псальмаў Давідавых. Васіль: «А ты на пэнсыі не ў даміно гуляеш, а перакладаеш псальмы Давідавы». А мяне вядзе, як шчупака на кручку. Лёгка йдуць псальмы: «Зімой завірухі ідуць у попрадкі…», «Не на тушчай…», «Зацякаюць ногі ў вады…», «Горы ўгарбелі, мір несучы…»[1].

* Дамініка: «У школе сяброўка ўмее варажыць, яна й наваражыла, што ў мяне будзе муж, як Антон, і трое дзяцей. Два хлопчыкі, адзін неслух, а другі нармальны, і дачушка. Муж, як Антон, гэта кепска… Гэта памада цябе бляднее…»

*28 снежня, нядзеля*

Званю Сёмуху. Слухаю ягоныя заўвагі й парады. І пішу. Калі дасць Бог, зраблю трыпціх, куды ўвойдуць «Ружанец», з адведзінаў Ерусаліма й вершы ў імя Хрыста, а таксама «Псальмы Давідавы». Агульны загаловак трыпціху «Ксты». «На даланях у рэкаў…», «Прыхадні разяваюць галодны рот…», «Слаўлю Цябе…»[2].

*29 снежня, панядзелак*

Быў у выдавецтве. Потым мне пазванілі, быццам бы другі том збору пойдзе да набору. Дай Бог чутае бачыць! Атрымаў у выдавецтве грошы за Івана Бурсава, у выдвецтве «Беларусь». Слёзы. Наўрад хопіць на білет туды й назад. «Бачыць далей маладое вока…»[3] Гэты перапеў, перагуканне пісаў і ў метро, і на вуліцы, чакаючы тралейбуса: «Прыгаршчамі маладзіка й веташка…»[4]

*30 снежня, аўторак*

Камейша[5] казаў, што ксёндз у Рубяжэвіцкім касцёле чытаў мае вершы. Трэба будзе перадаць зборнік. У славянасабораўскім храме не прачытаюць. «Ноч з галавы…», «Шаноўцы марных ідалаў…», «Бачу вочы Твае…», «Са мной паміраціме…»[6]

---

[1] Гл.: Псалмы Давідавы: Зімой завірухі ідуць у попрадкі…; Не на тушчай…; Зацякаюць ногі ў вады…; Горы ўгарбелі, мір несучы… (27.12.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 218–219.

[2] Гл.: Псалмы Давідавы: На даланях у рэкаў…; Прыхадні разяваюць галодны рот…; Слаўлю Цябе… (28.12.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 220–221.

[3] Гл.: Псалмы Давідавы: Бачыць далей маладое вока… (26–29.12.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 222.

[4] Гл.: Псалмы Давідавы: Прыгаршчамі маладзіка й веташка… (29.12.97) // Тамсама. С. 222.

[5] Камейша Казімір Вікенцьевіч (н. 1943), беларускі паэт, перакладчык. У 1988–2002 гг. заг. аддзела, нам. галоўнага рэдактара час. «Маладосць». Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1989).

[6] Гл.: Псалмы Давідавы: Ноч з галавы…; Шаноўцы марных ідалаў…; Бачу вочы Твае…; Са мной паміраціме… (30.12.97) // Збор твораў. Т. 3. С. 223–225.

* * *

Пакуль сонца жыве.
*Псальмы Давідавы 71:17*

Сонцу нельга старэць —
Род чалавечы яшчэ малечы.
Сонцу нельга згарэць,
Як дровам у печы,
І нельга гарэць ледзь-ледзь,
Каб, ахінуўшы аблокамі плечы,
Зямлі не залець.
І на ўцеху чалавечай дзятве,
На зеляносць вясёлай траве,
На шурпатасць сярдзітай жарстве
Сонца доўга жыве на нябесным двярэ.
І не памрэ.

*31 снежня, серада*

Схадзіў на Камароўку пешака, бо ў трамваяў аварыя нейкая, як заўсягды ў нас. [...]. Званіў Вяч. Ракіцкі. [...] Дудараў, Някляйчык ды Крушынская[1] хваліліся, што ім [Лукашэнка] паабяцаў трымаць сувэрэнітэт і паважаць мову. Гэтакія беларускія Пышкі. Калі Ракіцкі спытаўся, а чаму не было на прыёме ў [Лукашэнкі] Быкава ды іншых, Крушынская горда адрэзала: «А іх не паклікалі». Званіў Дубашынскі[2] й жадаў: «Каб у цябе ў кішэні было сто даляраў на кожны дзень». Выйшаў «ЛіМ». Далі вершы, ды неўзнаку выкінулі «Назад да фараонаў» і пра каʼта й ахвяру. «Звязда» не дала пралога да «Шчаслівых жабракоў» (і падзагаловак не дапамог). Скрозь цэнзура. [...].

*Панавітасць*

*Вячаславу Ракіцкаму*

Панавітасць — гэта панаванне
Думкі над забітасцю глухой.
Паназвітасць сцежак і вяртанне
Ластаўкі да смутку пад страхой.

Апантанасць і апанаванне
Клопатам аб даўніх каранях,

[1] Крушынская Людміла Аляксееўна (н. 1947), беларуская журналістка.
[2] Дубашынскі Павел Піліпавіч (1931–2000), беларускі артыст. У 1967–2000 гг. акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Народны артыст БССР (1989).

У краіну мроі паязджанне
З пекнаю паненкай у санях.

Панавітасць — лютасць да знішчэння,
Літасць да раскаянай віны.
І вачэй дасведчаных свячэнне.

І на дне душы звіняць званы…

*Ілоне*

Ты вернешся да мяне,
Калі ўжо мяне не стане,
Ты вернешся павініцца
Абражанаю маркотай.
Расчуліцца крыўда,
І сцежку знойдзе блуканне.
І замежніца настальгія
Назавецца самотай.

* Дамініка: «Люблю шум, не злы, у выглядзе света, радавання».

**Барадулін, Р.**

**Б24** Дзённікі і запісы. Выпуск 8. 1996–1997 / Рыгор Барадулін ; укл., прадм., Н. Давыдзенка. — Смаленск : Інбелкульт, 2020. — 332 с. [4] с. : іл. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі : кн. 3).

ISBN 978-5-00076-056-7.

Восьмы том (выпуск) дзённнікаў народнага паэта Рыгора Барадуліна ахоплівае 1996–1997 гады ягонага жыцця — асабістага, грамадскага і творчага. Паездкі за мяжу і па Беларусі, удзел у здымках дакументальных фільмаў, пераклады п’ес, вершаў паэтаў розных краін, заглыбленне ў новыя тэмы — творчая праца безупынку, якая і трымае паэта на зямлі.

**УДК 821.161.3.09+929 Барадулін**
**ББК 83.3(4Беи)**

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Рыгор Іванавіч Барадулін

# Дзённікі і запісы

*Выпуск 8. 1996–1997*

Адказны за выпуск *А. Пашкевіч*
Рэдактар *Н. Давыдзенка*
Тэхнічны рэдактар *Я. Мальдзіс*
Набор *Н. Давыдзенка*
Камп’ютарная вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктары *Н. Давыдзенка, Н. Семашкевіч*

Падпісана ў друк 06.10.2020. Фармат 70×100 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Гарнітура Cambria. Ул.-выд. арк. 17,84.
Ум. друк. арк. 26,9 + 0,42 укл. Наклад 60 асобнікаў. Зак. 217.

ТАА «Інбелкульт».
АДРН 1136733002120.
Пас. Малкамбіната, д. 21, 216790, г. Рудня Смаленскай вобласці,
Расійская Федэрацыя

Паліграфічнае выкананне
ВУП «Воля»
Вул. Каперніка, 118-2, Львоў, Украіна




Саюз беларускіх пісьменнікаў — найстарэйшая творчая арганізацыя Беларусі. Ён быў заснаваны ў 1934 годзе. Гэта прафесійная грамадская арганізацыя, якая актыўна ўдзельнічае ў сацыяльным і культурным жыцці краіны дзеля прасоўвання і развіцця беларускай літаратуры.

Мэтамі ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» з'яўляюцца: абарона аўтарскіх правоў і прадстаўленне інтарэсаў сваіх сяброў, адстойванне свабоды слова і захаванне беларускай літаратурнай спадчыны.

СБП заснаваў і выдае кніжныя серыі: «Кнігарня пісьменніка», «Пункт адліку», «Каляровы ровар».

Сайт арганізацыі: www.lit-bel.org




Міжнароднае грамадскае аб'яднанне «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"» дзейнічае з 1990 года і супрацоўнічае з беларускімі арганізацыямі ў больш чым 20 краінах свету.

Сярод асноўных задач арганізацыі: кансалідацыя беларусаў, якія пражываюць у краіне і за мяжой, на глебе павагі да беларускай культуры і гісторыі, паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў.

У 2004 годзе Згуртаванне заснавала спецыяльную кніжную серыю, прысвечаную беларускай дыяспары, — «Бібліятэка Бацькаўшчыны», у якой ужо выдадзена 29 кніг і 3 кнігі ў падсерыі «Людзі Беларусі».

Сайт арганізацыі: www.zbsb.org

З 2008 года МГА «ЗБС "Бацькаўшчына"» каардынуе грамадскую культурніцкую кампанію «Будзьма беларусамі!».

Сайт: www.budzma.by